# Змест

# Уступ

Цягам апошняй чвэрці 17 стагоддзя ў змаганні паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай за кантроль над Украінай і, па сутнасці, за панаванне ва Усходняй Еўропе, адбыліся дзве вызначальныя падзеі. Першай была страта польска-літоўскай дзяржавай левабярэжнай Украіны і Кіева, другой – абранне на трон Рэчы Паспалітай караля саксонскага паходжання. У гэты час маскоўская аўтакратыя стала ўзмацнялася, а польска-літоўская рэспубліка занепадала. Спаборніцтва дзьвюх краінаў, аднак, праходзіла ў атмасферы афіцыйнай адлігі і нават хаўрусавання супраць агульнага ворага – Атаманскай Порты. У аніводнай з іх не адчувалі значных зменаў у краіне-суперніцы. У адрозненне ад сучасных гісторыкаў, якія могуць прасачыць трансфармацыю Масковіі ў Расійскую імперыю ў перыяд праўлення Аляксея Міхайлавіча і яго дзяцей Фёдара, Соф'і і Пятра І, палітыкі таго часу, як у Маскве, гэтак і ў Варшаве ды Вільні, хаця і разумелі значнасць Украіны, не ўсведамлялі, наколькі фундаментальнай выявілася тагачасная змена ў балансе сіл ва Усходняй Еўропе.

У 1686-1697 гадах ў Расіі ўжо нічога не нагадвала пра Час Смуты, але й не прадракала будучыя бітвы на Вісле. Расія выпрабоўвала свае сілы ў кампаніі супраць Крыма, упершыню прымяраючы мантыю "вызваліцеля" праваслаўных братоў, што будзе пасля актыўна выкарыстоўвацца на Балканах. Акрамя таго, аўтакратыя паступова пераймала новыя прыёмы вядзення дыпламатыі і, дзякуючы заснаванню ў Варшаве сваёй першай сталай замежнай амбасады, атрымлівала першы грунтоўны досвед стасункаў з манархічна-парламенцкай дзяржавай.

Гісторыку дадзены перыяд адсутнасці вострай палітычнай барацьбы, які насамрэч выявіўся заціўшам перад бурай, дае ўнікальную магчымасць для параўнання двух канкурэнтаў з дыяметральна супрацьлеглымі палітычнымі сістэмамі і культурамі. У сваёй кнізе мы не спрабуем адбудаваць усе тагачасныя дыпламатычныя стасункі паміж Крамлём і Віланавым. Нашая мэта - правесці падрабязны параўнальны аналіз дзьвюх спаборных дыпламатычных службаў. Для гэтага мы ўпершыню ў гістарычнай літаратуры апішам і параўнаем дзейнасць кароннай амбасады ў Маскве і расійскай - у Варшаве. Іншымі словамі, дадзеная праца ў большай ступені прысвечаная аналізу дыпламатычных стасункаў паміж дзьвюма дзяржавамі і функцыянаванню іх дыпламатычных службаў, чым апісанню фармальнага працэса дыпламатычных зносінаў.

Неабходна заўважыць, што перавагі, намеры, метады дзейнасці, узаемнае ўспрыняцце краінаў і характар задзейнічаных асобаў можна зразумець толькі ў кантэксце канкрэтных гістарычных абставінаў. Менавіта з гэтай прычыны ў кнігу ўключаныя главы, якія асвятляюць шэраг найзначнейшыя падзеяў у тагачасных польска-расійскіх стасунках. Асаблівая ўвага нададзеная змаганню дзьвюх дзяржаваў за кантроль над Украінай (главы 5 і 6), за выхад да Чорнага мора (глава 7), і абранню новага караля Рэчы Паспалітай пасля смерці Яна III Сабескага (глава 8). Апошні раздзел стаецца асабліва значным, бо ў ім, насуперак агульнапрынятаму меркаванню, даводзіцца адсутнасць уплыву расійскага боку на абранне манарха Рэчы Паспалітай, што ішло ў разрэз са звычайнай палітыкай Крамля. На наш погляд, пасіўнасць Масквы падчас выбараў

1696-1697 гадоў сведчыць пра вялікую залежнасць расійскай дыпламатыі ад волі і нават прымхаў цара, а таксама пра няздольнасць расійцаў заўважыць станоўчыя для іх зрухі ў балансе сілаў паміж дзьвюма дзяржавамі.

Палітыкі Рэчы Паспалітай не адчувалі нарастання пагрозы з усходу. Расійцы ж, нягледзячы на сваю выключную непрыязнь да Кароны, як гэта ні парадаксальна, шмат у чым ёй падражалі. Усё гэта падаецца вельмі дзіўным сённяшнім гісторыкам, якія ведаюць вынік Палтаўскай бітвы 1709 году ці пра заняпад магутнасці Швецыі пасля заключэння Ніштацкага міра з Расіяй у 1721 годзе. Аднак тагачасныя дзяржаўныя дзеячы ажно да самой Палтавы не адчувалі фундаментальных зменаў у рэгіянальным балансе сілаў. Яны працягвалі ацэньваць рэчаіснасць сыходзячы з рэаліяў сямнаццатага стагоддзя, якія сведчылі пра здольнасць як Расіі, гэтак і Рэчы Паспалітай пераадольваць глыбокія ўнутраныя крызісы.

Люблінская Унія 1569 года сталася пачаткам новага этапа гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Яна звязала Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае агульным парламентам і паспрыяла згуртаванню польскай, літоўскай і русінскай (украінскай і беларускай) нацыянальных элітаў на падставе міфа пра іх агульнае сармацкае паходжанне і ідэла палітычнай роўнасці. Ранейшае змаганне за спадчыну Кіеўскай Русі ператварылася ў барацьбу за палітычнае і культурнае дамінаванне ва ўсім регіёне. Працяглы канфлікт Вялікага Княства (і пазней польска-літоўскай дзяржавы) з Расіяй, які распачаўся яшчэ ў 1368 годзе, калі войскі вялікага князя Альгерда стаялі пад Масквой, ператварыўся ў цывілізацыйнае супрацьстаянне. Ён ставаўся значна глыбейшым за “звычайнае” палітычнае суперніцтва, якое існавала паміж Англіяй ды Францыяй ці Францыяй ды Аўстрыяй і хутчэй нагадваў антаганізм паміж Атаманскай Портай і Хрысціянскай Еўропай. Але ў другой палове сямнаццатага стагоддзя туркі распачалі новы наступ (у 1672 годзе яны захапілі Камянец-Падольскі, праз шэсць год пагражалі Кіеву, а ў 1683 годзе ўзялі ў аблогу Вену), і агульная пагроза з боку ісламскага свет адтэрмінаванавала канфлікт паміж несумяшчальнымі палітычнымі традыцымі, адная з якіх грунтавалася на спадчыне рэспубліканскага Рыма і эпосе Адраджэння, а другая - на дасягненнях Залатой Арды і імперскай Візантыі.

Для Расіі вайна з Портай была працягам даўняга спаборніцтва за найурадлівейшыя глебы ў Еўропе – прычарнаморскія стэпы, якія на працягу амаль усяго 18 стагоддзя заставаліся ва ўладанні татар-качэўнікаў, падпарадкаваных крымскаму хану і яго сюзерэну атаманскаму султану. Пасля заключэння ў 1654 годзе хаўруса з Багданам Хмяльніцкім, Масква яшчэ глыбей уцягнулася ў канфлікт, бо крамлёўскія палітыкі намагаліся захаваць левабярэжную Украіну, якая ставалася галоўнай мэтай атаманскай агрэсіі. Рэч Паспалітая, якая мела багаты досвед змагання з туркамі на Дунаі ў 15 стагоддзі і падчас пазнейшых вайсковых канфліктаў за Малдову, Падолле і Украіну, таксама ахвотна прыняла на сябе ролю “бастыёна хрысцыянскай цывілізацыі” у барацьбе супраць ісламскай экспансіі.

Бясспрэчна, што каронныя палітыкі адчувалі азіяцкую небяспеку не з боку стэпавых качэўнікаў, але Маскоўскай дзяржавы, што паўстала на руінах Залатой Арды. На ўсход і паўднёвы ўсход ад Рэчы Паспалітай панавалі князі, улада якіх не абмежоўвалася аніякімі прадстаўнічымі органамі, царквой, законам ці правам. На гэтых тэрыторыях жылі не грамадзяне, а падданыя ці, іншымі словамі, рабы. Для жыхароў Кароны і Заходняй Еўропы Масква, з яе аўтакратычнай палітычнай сыстэмай, мангольскім мінулым, вялікай доляй мусульманскага насельніцтва і адрознымі ад

еўрапейскіх палітычнымі інтарэсамі, ставалася часткай усходняга света. З іншага боку, Расію з Еўропай звязвалі хрысціянства, славянска-візантыйская культурная традыцыя, няспынныя намаганні атрымаць выхад да Балтыйскага мора ды заявіць свае правы на спадчыну дынастыі Рурыкавічаў. Палітычная практыка Масквы была тыповай для краіны Усходу, але ў сферы палітычнай тэорыі яна з часам усё больш падпадала пад уплыў Захада - праз Візантыю, лацінізаваны Кіеў і рэформы паводле мадэлі пратэстанцкіх дзяржаў Еўропы. Цягам сямнаццатага стагоддзя (у прыватнасці, другой яго паловы) украінцы і беларусы, якія атрымалі адукацыю ў дусе эпохаў Адраджэння і Барока ў Кіеве, Кракаве ці Вільні, пашыралі ў Маскве еўрапейскае мысленне і еўрапейскія густы.

Прыходам да ўлады Пятра I ў 1689 годзе змянілася закладзеная яшчэ Васілём III мадэль камунікацыі Расіі з Захадам праз Рэч Паспалітую. Першапачаткова гэта мела характар ксенафобнай праваслаўнай рэакцыі, якую сімвалізаваў заўзяты прыхільнік Пятра патрыярх Іаакім. Пазней, паводле волі Пятра, дзверы для сармацкай культуры Польска-літоўскай рэспублікі будуць для Расіі раз і назаўсёды зачыненыя. Ад пятроўскага часу “вакном” для замежнага гандлю Расіі стане Балтыка, а еўрапейская думка будзе прадстаўленая ў Пецярбурзе не Арыстоцелем і Ліпсіем, а Томасам Гобсам.

У другой палове сямнаццатага стагоддзя, нягледзячы на зрастанне інтарэса маскоўскай эліты да еўрапейскай адукацыі, у палітычнай і сацыяльнай сферах расійская дзяржава працягвала моцна адрознівалася ад Захада. Тагачасныя еўрпейскія палітычныя тэарэтыкі вызначалі расійскі дзяржаўны лад як тыранію. У сваю чаргу, Рэч Паспалітая, якая не падыходзіла пад азначэнне тыраніі і яшчэ захоўвала значную палітычную, эканамічную і культурную вагу, разглядалася ў Еўропе як памежная тэрыторыя, характар дзяржаўнага ладу якой істотна адрозніваўся ад заходнееўрапейскага праз спецыфічнае развіццё палітычнай культуры. У адрозненне ад Францыі і Аўстрыйскай імперыі, грамадскі і парламенцкі кантроль за дзейнасцю манарха ў Рэчы Паспалітай хутчэй узмацняўся, чым паслабляўся. Паралельна йшоў працэс умацавання мясцовай улады, якая часам нават аспрэчвала не толькі каралеўскія акты, але й рашэнні парламента. Іншымі словамі, палітычная сістэма Рэчы Паспалітай грунтавалася не на трывалым канстытуцыйным парламентарызме, а на палкай адданасці яе грамадзян канстытуцыі і шырокіх паўнамоцтвах павятовых сеймаў. Апошнія, пры падтрымцы ўзброеных атрадаў мясцовай самаабароны, ставаліся здольнымі кіраваць пэўнай тэрыторыяй не толькі ў адпаведнасці з воляй караля і яго міністраў, але і насуперак ёй.[1]

Для Расіі Рэч Паспалітая была часткай Еўропы і заставалася ёй цягам сямнаццата стагоддзя, нават нягледзячы на тое, што рэспубліканская мадэль Польска-літоўскай дзяржавы не ўпісвалася ў палітычныя нормы тагачаснай Еўропы. Гэтую акалічнасць у Расіі зразумеюць толькі ў другой палове васямнаццатага стагоддзя, калі ў Пецярбургу, як і ў Парыжы, Берліне і Вене, усвядомяць страшэнную адсталасць краіны, палітыкі якой кіраваліся ідэаламі Цынцыната і Брута, а не Аўгуста ці Юстыніана. Але напрыканцы сямнаццатага стагоддзя, паводле традыцыі, закладзенай за часам Івана Жахлівага, Рэч Паспалітая яшчэ заставалася для расійцаў краінай палітычнага прытулаку, логавішчам “клятага” лацінізма і ўвасабленнем незразумелай дзяржаўнай мадэлі, якая збольшага

[1] Так нарадзілася аптымістычнае гасла, што Рэч Паспалітая “не мусіць дзякаваць уладзе” і нагэтулькі ж даўняя заўвага, што дзяржава вырачаная праз слабасць яе ўлады. Адсюль шэраг прапаноў узмацніць цэнтральную ўладу праз наданне большых паўнамоцтваў парламенту, высунутыя Лукашам Апалінскім, Анджэям Максіміліянам Фрэдро і, ужо ў васямнаццатым стагоддзі, Станіславам Карвіцкім і Станіславам Канарскім.

атаясамлялася маскоўцамі з вялікалітоўскай алігархіяй. Акрамя таго, Карона была сур'ёзным супернікам маскоўскай дзяржавы ў барацьбе за спадчыну Кіеўскай Русі. На думку Івана Жахлівага і ягоных наступнікаў, перамогу над Рэччу Паспалітай можна было здабыць праз разбурэнне польска-літоўскага хаўруса. Таму Іван Жахлівы, следам за сваім бацькам Васілём III, прыкладаў больш намаганняў, каб здабыць тытул Вялікага Князя Літоўскага, чым польскі трон. Першым царом, які абвесціў сябе вялікім князем літоўскім, быў Аляксей Міхайлавіч. Гэта здарылася пасля непрацяглай акупацыі Вільні ў 1650х гадах і дазволіла Пятру I ажно да пачатку васямнаццатага стагоддзя заключаць дамовы з Вялікім Княствам Літоўскім у абыход Каралеўства Польскага. Аднак Рэч Паспалітая, у большай ступені ўгрунтаваная на адзінстве палітычнай культуры яе складнікаў, чым на агульных палітычных інстытутах, выявілася надзвычай трывалым дзяржаўным утварэннем. Таму каб атрымаць землі Літвы і Русі расійскія ўладары мусілі змяніць тактыку і ўступіць у барацьбу за выбарны трон Рэчы Паспалітай, што ў шаснаццатым і сямнаццатым стагоддзях ставалася агульнапрынятай практыкай. Выбарцы Польшчы і Вялікага Княства сур'ёзна разглядалі кандыдатуры прадстаўнікоў дынастыяў Рурыкавічаў ці Раманавых на трон Рэчы Паспалітай. Яны былі ўпэненыя не толькі ў тым, што здолеюць абараніць свае вольнасці ад магчымых пасягальніцтваў караля-маскоўца, але й разлічвалі "еўрапеізаваць" новага манарха ды аб'яднаць расійцаў з палякамі і вялікалітоўцамі на грунце сваіх палітычных традыцыяў і агульнага парламента - як гэта ў іх атрымалася з паганцам Ягайлам за тры стагоддзі да таго.[2]

Шэраг каралёў, напрыклад, Жыгімонт Аўгуст, Жыгімонт III і Уладзіслаў IV, выношвалі планы заняць маскоўскі трон і стварыць вялікую славянскую дзяржаву, здольную супрацьстаяць адначасова туркам і шведам. Гэтая ідэя карысталася пэўным поспехам у Масковіі - асабліва сярод баярскай эліты, якая ў 1610 годзе паклікала кароннага прынца Уладзіслава на трон у абмен на абяцанне надаць баярам дадатковыя прывілегі. У выніку, каронныя войскі ўвайшлі ў Крэмль і амаль уся краіна прысягнула новаму цару. Але Жыгімонт III, бацька Уладзіслава, парушыў дамову з баярамі. Ён прагнуў абсалютнай улады і не збіраўся даваць Маскве нават абмежаваную канстытуцыю. Больш за тое, радыкальнае праваслаўнае духавенства прыняло ў штыкі фанатычнае каталіцтва Жыгімонта. Аднак маскоўскае грамадства, пазбаўленае царскай дынастыі, здолела самазарганізавацца ў перыяд сацыяльных і палітычных перарухаў. Расійскі "Час Смуты" выклікаў спантанны народны рух у абарону радзімы ад замежных захопнікаў, а таксама наладзіў людзей супраць рэвалюцыйных пераменаў, якія прасоўвалі казацкія войскі. Аграмадную ролю ў гэтым працэсе адыгравала збройнае рушанне і Земскі Сабор, зародкавы расійскі парламент, скліканы для абрання новага манарха.

Новаабраны цар Міхаіл Раманаў падзяляў уладу у краіне з Земскім Саборам, што спрыяла легітымізацыі і ўмацаванню пазіцыяў новай дынастыі. Але ўжо яго Аляксей, бацька Пятра I, аднавіў абсалютысцкі характар царскай улады. Спачатку Сабор, а потым і царква, згубілі свой палітычны ўплыў. Тым часам цар мадэрнізаваў войска і дзяржаўны апарат, правёў кадыфікацыю законаў і ўвёў пратэкцыяністкія захады ў эканаміцы, каб падтрымаць расійскія мануфактуры. Для ўцеляснення сваіх планаў Аляксей Міхайлавіч запрасіў спецыялістаў з усёй Еўропы, але ў сферах рэфармавання бюракратычнага апарату, распаўсюду адукацыі і палітычнай веды асобнае месца адводзілася беларусам і ўкраінцам - выпускнікам польска-літоўскіх іезуіцкіх навучальных устаноў

[2] Глыбейшы разгляд розных планаў і варыянтаў саюза паміж Масквой, Вільняй і Варшавай змешчаны ў Флоря Б.Н. "Русско-польские отношения и балтийский вопрос в конце XVI - начале XVII в.", Масква, 1973; а таксама Флоря Б.Н. "Русско-польские отношения и политическое развитие Восточной Европы во второй половине XVI - начале XVII в." (Масква, 1978).

ці праваслаўнай Кіеўскай Акадэміі. Менавіта гэта спрычынілася да роста зацікаўленасці ў польскай і заходнееўрапейскай культурах у другой палове сямнаццатага стагоддзя і паспрыла распаўсюду ў Расіі польскай і лацінскай моваў.[3]

Ані Расія, ані Рэч Паспалітая яшчэ не былі здольныя ўмешвацца ва ўнутраную палітыку адна адной. Так, Аляксей Міхайлавіч, які фактычна захапіў Вялікае Княства ў 1654-1660-х гадах, быў вымушаны (прынамсі, на паперы) лічыцца са шляхецкімі вольнасцямі, пра што яскрава сведчаць прывілегіі, нададзеныя ім сваім новым вялікалітоўскім падданым. Аднак для маскоўцаў правы шляхты супрацьстаяць уладзе і ўдзельнічаць у кіраванні краінай ставаліся чужародным, а для крамлёўскага аўтакратата яны ставаліся нічым іншым, як непадпарадкаваннем і абразай царскай годнасці. Нядзіва, што нават тая вялікалітоўская шляхта, якая першапачаткова падтрымала цара, урэшце рэшт паўстала супраць царскай дыктауры. Так, расійскія дыпламаты ніколі не ўспрымалі свае кантакты з каралеўскай апазіцыяй як цалкам легальныя праз тое, што яны выклікалі незадавальненне манарха Рэчы Паспалітай. З іншага боку, каронныя палітыкі не выступілі ў абарону Земскага сабора і не прыкладалі сур'ёзных намаганняў выкарыстаць прыцягальнасць польскай культуры для Крамля. Аніводны з бакоў не бачыў у грамадстве суперніка патэнцыйных саюзнікаў, за выключэннем таго, цар абвесціў сябе абаронцам праваслаўя ў Рэчы Паспалітай, а кароль, у сваю чаргу, адстойваў правы каталіцкай дыяспары ў Маскве і нешматлікага каталіцкага насельніцтва ў ваколіцах Смаленска.

Варта заўважыць, што заступніцтва Крамля за праваслаўнае насельніцтва Рэчы Паспалітай было выкліканае не толькі рэлігійнымі чыннікамі. Праваслаўныя іерархі Польшчы і Вялікага Княства не хацелі трапляць пад уплыў маскоўскага патрыярха, які ў 1684 здолеў падпарадкаваць сабе Кіеўскую мітраполію, і звярнулі погляд у бок Рыма, што надала новы сэнс заключанай у 1596 годзе Брэсцкай Уніі. У выніку, шматлікія прадстаўнікі праваслаўнага духавенства, у прыватнасці, манахі і прыхадскія святары, а таксама тыя вернікі, якія не прынялі Унію, пачалі шукаць падтрымку ў Крамлі, а некаторыя нават перасяляліся на ўсход. Гэтыя людзі ставаліся значна адукаванейшымі за маскоўцаў, больш ведалі пра каталіцтва і Захад, але нічым не пастпаліся ім у адданасці праваслаўю. Яны зрабілі значны ўнёсак у абнаўленне маскоўскай царквы і мадэрнізацыю Расіі як такой. Нягледзячы на гэта, заўзятыя маскоўскія кансэрватары варожа ставіліся да эмігрантаў з Вялікага Княства і украінцаў, падазравалі іх у сувязях з Рымам і пры першай нагодзе абвінавачвалі ў ерасі. Становішча замежнікаў значна пагоршыцца пасля палацавага пераварота 1689 года, у выніку якога маскоўскі трон заняў Пётр I. Палымяны прыхільнік новага цара не менш актыўны

[3] A. Brückner, *Dzieje kultury polskiej*, том 2 (Warsaw, 1958); A. Jabłonowski, *Akademia Kijowsko-Mohylańska. Zarys historyczny na tle rozwoju ogólnego cywilizacji zachodniej na Rusi* (Lviv, 1938); A. Martel, *La langue polonaise dans les pays ruthenes: Ukraine et Russie Blanche 1569-1667* (Lille, 1938); А. Вишневский, *Киевская академия в первой половине XVIII столетия* (Киев, 1903); С. И. Маслов, *Библиотека Стефана Яворского* (Киев, 1914); Н. Петров, "*Киевская академия во второй половине XVII века*", *Труды Киевской Духовной Академии* 9 (Киев, 1895); R. Łużny, *Pisarze kręgu Akademii Kijowsko-Mohylańskiej a literatura polska* (Cracow, 1966); А.И. Рогов, *Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения* (Москва, 1966); L. R. Lewitter, "Poland, the Ukraine and Russia in the Seventeenth Century," *Slavonic and East European Review* 27 (1948); 157-71; К.В. Харлампович, *Малороссийское влияние на великорусскую церковную жизнь* (Казань, 1914); *The Kiev Mohyla Academy. Commemorating the 350th Anniversary of its Founding* (1632), пад рэд. Omeljan Pritsak i Ihor Sevcenko (Cambridge, MA, 1984) [=*Harvard Ukrainian Studies* 8, нум. 1/2 (1984)]. Гэта далёка не поўны спіс кніг, прысвечаных апісанню і аналізу культурнага ўплыву Рэчы Паспалітай у цэлым, і Украіны ў прыватнасці, на маскоўскую дзяржаву ў сямнаццатым стагаддзі. Тым не менш, застаецца невысветленай дакладная колькасць выхадцаў з Украіны, якія ўдзельнічалі ў рэфармаванні маскоўскага войска і сістэмы дзяржаўнага кіравання. У 1914 годзе Харламповіч давёў, што ў першай палове васямнаццатага стагоддзя 75 адсоткаў усіх расійскіх епіскапаў былі выпускнікамі Кіева-Магілянскай Акадэміі.

вораг любых рэформаў патрыярх Іаакім, знішчыў вынікі асветніцкай дзейнасці Сімяона Полацкага і іншых выбітных “лацінскіх” рэфарматараў.

Будучыня Усходняй Еўропы вырашалася ў змаганні за Украіну. Адначасова супернікі што да валодання ўкраінскімі землямі і хаўруснікі ў барацьбе супраць ісламскага экспансіі, Масква і Варшава добра разумелі вырашальную ролю казакоў у барацьбе за Украіну. Можна сцвярджаць, што казацкая палітыка цара выявілася непараўнальна больш дзейснай за каралеўскую (гл. главы 5 і 6). Паразу Рэчы Паспалітай у значнай ступені абумовіла засяроджанасць каронных палітыкаў на вырашэнні кароткатэрміновых унутрыдзяржаўных праблемаў. Знешняя палітыка Рэчы Паспалітай у кожны асобны момант залежала ад баланса сіл паміж парламентам ды грамадскай думкай з аднаго боку і каралём, якога падтрымліваў дзяржаўны апарат і шэраг міністраў, з іншага. Теарэтычна грамадзяне Кароны прагнулі аднавіць межы краіны часоў яе росквіту, умацавання войска і перамогі над знешнімі ворагамі. Аднак на справе моцнае войска і пераможныя войны прыводзілі да ўмацавання каралеўскай улады, што прымушала шляхту і грамадзян прытрымліваццa (але адкрыта не вызнаваць гэта) пацыфісцкіх поглядаў. У выніку, пацыфізм Рэчы Паспалітай прывёў яе да самаізаляцыі і паралізаваў любыя знешнепалітычныя інцыятывы, якія маглі ўзмацніць пра-польскія настроі ва Украіне.

З пазіцыі сённяшняга дня лёгка зразумець, што змаганне за Украіну ставалася барацьбой за палітычны і культурны вектар развіцця Усходняй Еўропы. Аднак у той час польска-літоўская шляхта і магнаты бачыла сітуацыю па-іншаму. Казакі ставаліся іх супернікамі ў справе каланізацыі памежных тэрыторыяў і пагражалі грамадскаму спакою і стабільнасці. Больш за тое, ад канца шаснаццатага стагоддзя казацкая эліта ўвесь час патрабавала ад Рэчы Паспалітай платы за свае паслугі і апелявала да караля ў барацьбе супраць арыстакратыі і чынавенства. Паўстанне Багдана Хмяльніцкага ў 1648 годзе мела непрыхаваны анты-панскі характар. Відавочна, што ў выпадку поспеха паўстання казацкая эліта, якая б заняла месца выгнаных магнатаў і шляхты, была гатовая прыяднаць Украіну да Рэчы Паспалітай на ўмовах роўнасці.

Трэба аддаць належнае шляхце Рэчы Паспалітай за тое, што яна пагадзілася на буйную трансфармацыю дзяржаўнага лада, якую прадугледжвала Гадяцкая унія 1658 года. Ад свайго імя і ад імя сваіх наступнікаў гэтае пагадненне ўхвалілі кароль, парламент і вышэйшае кіраўніцтва каталіцкай царквы. На вялікі жаль, казацкія галовы, якія выступалі за Гадяцкую унію, прайгралі ўнутрыпалітычную барацьбу ва Украіне, і на іх месца прыйшлі пра-маскоўскія палітыкі. Калі ж перамогі кароннага войска над Масквой далі апошні шанец аднавіць Гадяцкую унію, у Варшаве ім не скарысталіся і вырашылі павярнуцца да старой палітыцы дамінавання што Украіны, вырачанай на паразу.[4]

Наступныя пакаленні антымаскоўскай казацкай эліты натхняліся ідэямі Гадяцкай уніі, але яны ўжо ставаліся летуценнікамі ў палітычнай пустэлі. Каронныя палітыкі часоў Яна Сабескага ведалі, як завабіць казацкую эліту лозунгамі свабоды, заклікаючы яе “скінуць з шыі вольнага народа ярмо тыранічнага рабства”,[5] але не падмацоўвалі свае пафасныя словы рэальнымі палітычнымі захадамі. Яны не жадалі павяртацца да Гадяцкай уніі, бо яна пагражала не толькі іх

---

[4] Zbigniew Wójcik, *Dzikiepola w ogniu* (Warsaw, 1957); A. Kamiński, "The Polish-Lithuanian Commonweath and its Citizens," у *Poland and Ukraine, Past and Present*, пад рэд. P. Potichnyi (Edmonton and Toronto, 1980) ст. 32-57; Frank Sysyn, *Between Poland and the Ukraine: The Dilemma of Adam Kysil*, 1600-1653 (Cambridge, Mass., 1985).

[5] Ліст Іосіфа Шумлянскага Івану Мазэпу, студзень 1690 года, у Николай Г. Устрялов, История царствования Петра Великого, том 2 (Санкт-Петербург, 1854), ст. 478.

інтарэсам ва Украіне, але і несла ў сябе магчымасць таемнай змовы паміж каралём і казакамі. Замест таго, каб падтрымаць кампрамісныя гадяцкія прапановы, каронная шляхта і магнаты дамагаліся поўнай ліквідацыі казацкага войска і вольнасцяў, што ў выніку спрычынілася да паўстання Багдана Хмяльніцкага. Для параўнання, у Крамлі занялі нагэтулькі радыкальную пазіцыю што да левабярэжнай Украіны толькі за часам Кацярыны II. Найлепшыя аналітычныя доследы тагачаснай сітуацыі ва Украіне і найкарыснейшыя парады экспертаў так і не сталі прадметам шырокага грамадскага абмеркавання ў Рэчы Паспалітай. Казацкае пытанне сур’ёзна абмяркоўвалася толькі ў вузкіх сенацкіх колах, у каралеўскім атачэнні і на правінцыйных сеймах у самой Украіне. Казацкіх галоваў прываблівала палітычная сістэма і культура “Рэчы Паспалітай Двух Народаў”, але адштурхоўвалі шавінізм яе палітычнай эліты і надзвычай нестабільная замежная палітыка, якая заставалася нязменнай толькі да наступнага пасяджэння парламента і павятовых соймаў. Масква, у сваю чаргу, адпужвала казакоў сваёй прагай да татальнага кантролю і аўтарытарным высакамер’ем, але прыцягвала паслядоўнасцю і гатоўнасцю пакінуць казацкім старшынам іх прывілегіі і сялян, чаго па-рэспубліканску наладжаная шляхта Рэчы Паспалітай ім гарантаваць не магла.

На другую палову сямнаццатага стагоддзя прыпадаюць апошнія гады росквіту Рэчы Паспалітай.[6] Цягам гэтага часу яна перажыла ўварванні войскаў Украіны (1648-1653), Масковіі (1654-1667), Швецыі (1655-1660), Брандэнбурга (1656-1658) і Трансільваніі (1656-1658). Тым не менш, Тышкавіцкая канфедэрацыя – вялікі рух павятовай шляхты Рэчы Паспалітай – выявілася здольнай абараніць дзяржаву ад замежнай агрэсіі і планаванага падзелу. Паводле выніка мірных перамоў, усе межы дзяржавы, акрамя усходніх, засталіся некранутымі. Аднак змены на ўсходзе ставаліся значнымі. Андрусаўскае перамір’е 1667 года замацавала мяжу паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай па Дняпры, і левабярэжная Украіна разам з Кіевам адышлі маскоўскай дзяржаве. Пагадненне было заключанае ва ўмовах знешняга ціску. Галоўная пагроза для Украіны сыходзіла ад магчымага хаўруса татараў з часткай казакоў, на чале якіх стаяў Пятро Дарашэнка. Паўднёва-усходняй Еўропе пагражала Турцыя, якую значна ўмацавалі рэформы сям’і Кёпрюлю. Так, у 1667 годзе туркі нанеслі адчувальную паразу Венецыі і захапілі Крыт, а ў 1672 годзе акупавалі Камянец-Падольскі, Падолле і частку правабярэжнай Украіны. Праз некалькі год войскі Вялікага Візіра Кара Мустафы спаліла Чыгірын, а ў 1678 годзе пагражала Кіеву. Напрыканцы 1683 года турэцкае войска, як у часы Сулеймана Пышнага, дайшло да Вены, дзе, аднак, было разбітае і вымушанае адступіць. Ключавую ролю ў той вялікай перамозе хрысціянскага свету адыграла польская кавалерыя Яна III Сабескага.

Перамога пад Венай мела значныя розглас як ва Усходняй, гэтак і Заходняй Еўропе. Галовы еўрапейскіх дзяржаў усвядомілі, што прыйшоў час адцясніць туркаў за Басфорскую пратоку. Так, у 1684 годзе Аўстрыя, Рэч Паспалітая і Венецыя стварылі гэтак званы Святы Альянс, які меў на мэце вызваліць хрысціянскія народы з-пад турэцкага іга. Але ўжо пасля першых перамогаў паміж хаўруснікамі пачаліся спрэчкі за вызваленыя тэрыторыі. Асабліва вострым выявілася суперніцтва Аўстрыіі і Рэчы Паспалітай за землі былога каралеўства Святога Іштвана. Імператар Леапольд I сцвярджаў, што яму належаць усе землі каралеўства, у той час як Сабескі

[6] Найлепшыя доследы стасункаў Рэчы Паспалітай і Расіі ў перыяд ад 1660 да 1679 года, напісаныя на падставе грунтоўнай архіўнай працы: Zbigniew Wójcik, *Traktat andruszowski 1667 roku i jego geneza* (Warsaw, 1959); той самы аўтар, *Między traktatem andruszowskim a wojną turecką. Stosunki polsko-rosyjskie 1667-1672* (Wrocław, 1968), і *Rzeczpospolita wobec Turcji i Rosji 1674-1679* (Wroclaw, 1976). Гл. таксама, Л.С. Абецедарский, Белоруссия и Россия XVI-XVII в. (Минск, 1978); А.Н. Мальцев, Россия и Белоруссия в середине XVII века (Москва, 1974).

патрабаваў для Рэчы Паспалітай Малдавію і Валахію і не жадаў вызнаваць аўстрыйскія прэтэнзіі на Трансільванію. Манархі Аўстрыі і Кароны ўжо бачылі хуткае выгнанне Турцыі з Еўропы і пачалі марыць пра павяртанне земляў у вусці Дняпра і Дуная. Ім заставался яшчэ вырашыць лёс Баўгарыі і Грэцыі, а таксама Крымскага ханства, якое працягвала панаваць у чарнаморскіх стэпах.[7]

Венская бітва 1683 года нагэтулькі ўразіла маскоўскіх палітыкаў, што прымусіла іх сумнявацца ў мэтазгоднасці мірнай дамовы паміж Масквой і Бахчысараем, заключанай у 1681 годзе. Бліскучая атака гусараў Рэчы Паспалітай на намёты Кара Мустафы пад Каленбергам нагадала маскоўцам пра паразы, нанесеныя ім каронным войскам у 1610 годзе каля Клушына і ў 1660 годзе пад Канатопам, Чуднавым і Палонкай. Больш за тое, казакі правабярэжнай Украіны, пасля кароткага перыяда падпарадкавання малдаўскаму гаспадару ў 1681 годзе, павярнуліся пад уладу манарха Рэчы Паспалітай і разам з войскам Сабескага набліжаліся да Ясаў. Маскоўцы мусілі адчуваць, што на іх вачах, але без іх ўдзела адбываюцца вялікія змены ў рэгіянальным балансе сіл. І гэта было б насамрэч так, каб не моцны супраціў туркаў і татараў. Тым не менш, хрысціянская рэканкіста ўпэўнена, але вельмі павольна, пасоўвалася на поўдзень уздоўж Дунайскай даліны.

У дадзеных абставінах Вена і Ватыкан пачалі актыўна ўцягваць Маскву ў Святы Альянс. Прывабамі для Крамля ставалася чарнаморскія стэпы і Крым. Тым ня менш, дасведчаны расійскі дыпламат Васілі Васільевіч Галіцын, які ў той час вызначаў расійскую знешную палітыку, выставіў дадатковую ўмову парушэння Расіяй мірнай дамовы з татарамі. Ён паведаміў аўстрыйскаму, папскаму і кароннаму амбасадарам, што Расія не абвесціць вайну татарскаму хану, пакуль не заключыць сталы мір з Рэччу Паспалітай, які мусіў замяніць часовыя ўмовы Андрусаўскага перамір'я. Паводле дамоўленасцяў, дасягнутых у Андрусаве, Рэч Паспалітая губляла Смаленск, Чарнігаў і ўсю левабярэжную Украіну, а таксама на два гады перадавала Кіеў пад уладу цара. Відавочна, што кароль не быў зацікаўлены ў тым, каб замацоўваць вынікі перамір'я. Аднак Масква адмаўлялася супрацоўнічаць з Альянсам, пакуль не будзе выкананая яе галоўная ўмова, і Сабескі, прагнучы анэксаваць Малдову ці аддаць яе пад уладу свайму сыну, урэшце рэшт пагадзіўся заключыць мір з Расіяй. Ён дамогся ўхвалення свайго намеру дэпутатамі парламента, якія наіўна меркавалі, што Масква, у абмен на мір і ўзаемную дапамогу ў барацьбе супраць ісламскай навалы, саступіць Рэчы Паспалітай некаторыя свае тэрытарыяльныя збыткі. У выніку, на вялікую радасць Крамля, у 1686 годзе амбасадары Рэчы Паспалітай Марцыян Агінскі і Кшыштаф Гжымультоўскі заключылі з Масковой дамову Вечнага міра на вельмі спрыяльных для цара ўмовах. Праз год Сабескі з цяжкім сэрцам яе падпісаў, але парламент ухваліў Вечны мір толькі ў 1710 годзе.[8]

У 1687 годзе князь Галіцын зладзіў вялікую вайсковую экспедыцыю ў Крым, падчас якой маскоўскія і казацкія войскі дайшлі да Перакопа. Недахоп правізіі, пажары і бясконцыя набегі татарскай кавалерыі прымусілі аб'яднаная войска адступіць, але Галіцын на гэтым не спыніўся. Паводле яго загада, у 1688 годзе на паўшляху паміж Кіевам і Крымам была пабудаваная

---

[7] Kazimierz Piwarski, *Między Francją aAustrją. Z dziejów polityki Jana III Sobieskiego 1687-1690* (Cracow, 1933), ст. 76-79.
[8] Тэкст дамовы Вечнага міра быў сярод законаў, ухваленых парламентам у 1710 годзе. Гл. Volumina Legum. Prawa, konstytucje y przywileie Królestwa Polskiego, Wielkiego Księstwa Litewskiego y wszystkich prowincyi należących, том 6, пад рэд. J. Ohryzko (St. Petersburg, 1859), ст. 73-82.

вялікая крэпасць, дзе ўтрымліваўся значны маскоўскі гарнізон. Князь пачаў планаваць новую вайсковую кампанію.

Тым часам міжнародная сітуацыя хутка змянялася. У 1688 годзе пачалася вайна паміж Аўгсбургскай Лігай і Францыяй Людовіка XIV. Для Аўстрыі гэта азначала вайну на два франты, а туркі на той момант не толькі спынілі наступ імператарскага войска, але й здолелі ў 1688 годзе адваяваць Белград. Праз два гады турэцкае войска заняло Трансільванію. Французскія дыпламаты прыкладалі значныя высілкі, каб пераканаць Рэч Паспалітую выйсці са Святога Альянса і спакушалі Сабескага магчымасцю заключыць сепаратны мір з Турцыяй на вельмі спрыяльных для яго ўмовах. Англія і Галандыя, у сваю чаргу, былі зацікаўленыя ў тым, каб Аўстрыя сканцэнтравала свае войскі на заходнім фронце, і таму дамагаліся заключэння міра паміж туркамі і Святым Альянсам. Адкрыццё заходняга фронта і пагроза сепаратнага міра паміж Рэччу Паспалітай і Атаманскай Портай ці Святым Альянсам і Портай прымусілі маскоўскіх дыпламатаў распачаць з Крымам уласныя таемныя перамовы.

Акрамя таго, маскоўцы ўсталявалі шчыльныя стасункі з Венай, скіраваныя як супраць Турцыі, гэтак і Рэчы Паспалітай. Аўстрыйцы былі зацікаўленыя ў сумесным з Расіяй ціску на Рэч Паспалітую па двум прычынам: па-першае, каб прымусіць караля працягваць вайну супраць Турцыі і, па-другае, каб прашкодзіць яго збліжэнню з Францыяй. Нягледзячы на адзінства поглядаў імператара і цара што да Рэчы Паспалітай, на Балканах іх інтарэсы цалкам разыходзіліся. У гэты час праваслаўнае насельніцтва Атаманскай Порты адчувала слабасць турэцкай улады і, праз пагрозу акаталічвання, што сыходзіла ад Аўстрыі, звярталася па дапамогу да маскоўскага цара. Кантактаў з Масквой шукала не толькі праваслаўнае духавенства Сербіі, Баўгарыі і Грэцыі, не толькі гаспадары Валахіі і Малдавіі, але й венгерскія пратэстанты на чале Імрэ Тэкеем, ворагам Габсбургаў і хаўруснікам Порты.[9] Усё гэта надавала Маскве вялікія магчымасці, аднак расійскія дыпламаты мусілі дзейнічаць надзвычай асцярожна, каб Расія ў выніку не апынулася сам насам з ісламскай агрэсіяй і не згубіць вельмі спрыяльную для сябе дамову з Рэччу Паспалітай. У гэтых абставінах, галоўнай мэтай маскоўскай дыпламатыі шмат год заставалася менавіта ўхваленне каронным парламентам Вечнага міра.

Сучасным гісторыкам зразумела, што галоўнымі стратэгічнымі мэтамі замежнай палітыцы Масквы ставаліся падпарадкаванне Украіны, мадэрнізацыя войска, здабыццё вахада да Чорнага і Балтыйскага мораў і прысутнасць (прынамсі, дыпламатычная) на Балканах. Уцелясненню гэтых планаў, якія цалкам не залежалі ад волі жыхароў маскоўскай дзяржавы, замінаалі недахоп грошай, неспрыяльная міжнародная сітуацыі або зменамі на троне. Апошнія, у прыватнасці, маглі выклікаць значныя палітычныя перарухі. Так, пазбаўленне рэгенцтва царэўны Соф'і Аляксееўны яе родным братам Пятром Аляксеевічам ледзь не выклікала ў 1689 годзе сур'ёзны дыпламатычны канфлікт Расіі з Аўстрыяй і Рэччу Паспалітай. Акрамя таго, асабістая непрыязнасць Пятра I да польска-літоўскай дзяржавы спрычынілася да абыякавасці Крамля да ўнутранай палітыцы Кароны, што ставіла пад пагрозу расійскія інтарэсы падчас

[9] Візіт у Маскву манаха Ісаі, які прадстаўляў у Маскве балканскіх праваслаўных, Центральный государственный архив Древних Актов (Москва, далей ЦГАДА), фонд 52, Стасункі з Грэцыяй, № 11, ст. 2-48; Візіт у Маскву малдаўскага дасланніка Івана Бялевіча, ЦГАДА, фонд 68, Стасункі з Малдавіяй, № 4, ст. 19-29. Найлепшы доследрасійска-малдаўскіх стасункаў: Л.Е. Семёнова, Русско-валашские отношения в конце XVII-начале XVIII в. (Москва, 1969).

абрання новага караля. Ані маскоўскае грамадства, ані бліжэйшыя паплечнікі Пятра, ані дасведчаныя дыпламаты не маглі прымусіць цара змяніць сваё стаўленне да Рэчы Паспалітай.

У адрозненне ад Расіі, кожная значная замежнапалітычная ініцыятыва караля, як, напрыклад, далучэнне да Рэчы Паспалітай падунайскіх зямель ці спроба Сабескага ў 1676 годзе распачаць вайну з Брандэнбургам, альбо трымалася ў сакрэце ад парламента, альбо ставалася прадметам дэталёвага грамадскага абмеркавання. Ведаючы схільнасць каралеўскага двара да сакрэтнасці, шляхта руплíва сачыла за тым, каб кароль не ўцягнуў дзяржаву ў непажаданыя міжнародныя канфлікты. Прымусіць парламент ухваліць падвышэнне падаткаў можна было толькі ў выпадку вядзення абарончай вайны. Але нават тады парламент схіляўся да вырашэння канфліктаў шляхам перамоў. Шляхту ніколі не прываблівала перспектыва далучэння да Кароны новых зямель. Дэпутаты парламента і павятовыя палітыкі ставіліся да планаў і намераў караля з большай падазронасцю, чым да палітыкі Крамля. Менавіта таму Сабескі засярэдзіўся на зваяванні Малдовы, а не павяртанні Камянца. Кароль разумеў, што пасля таго, як Камянец вернецца ў склад Кароны, прымусіць парламент працягваць вайсковыя дзеянні стане проста немагчыма. Напрыканцы васямнаццатага стагоддзя вольныя грамадзяне польска-літоўскай рэспублікі ўпарта не жадалі бачыць знешнія пагрозы сваёй палітычнай сістэме і суверэнітэту дзяржавы. Сваім галоўным ворагам яны лічылі таго, хто сядзіць на троне ў Варшаве, і патрабавалі, каб парламент яшчэ больш абмежаваў яго паўнамоцтвы. Аб’ектыўна, эканамічны і чалавечы патэнцыял Рэчы Паспалітай у сямнаццатым стагоддзі ставаўся аграмадным. Аднак шанцы мабілізаваць яго былі мізэрнымі - толькі замежная акупацыя значнай частцы Кароны магла зварушыць польска-літоўскае грамадства.

У гэтых умовах адбывалася змена балансу сіл ва Усходняй Еўропе: Рэч Паспалітая паволі губляла сваю магутнасць, але, тым не менш, пэўны час яшчэ заставалася галоўным стратэгічным супернікам Масквы.

Дзякуючы прыяднанню Украіны, мяккай мадэрнізацыі Аляксея Міхайлавіча і жорсткім рэформам Пятра І, моц Расіі паступова зрастала. Аднак яе панаванне ва Усходняй Еўропе стала відавочным толькі пасля Палтаўскай бітвы 1709 года. З таго часу ў Рэчы Паспалітай стала адчувалі небяспеку з боку бронзавага вершніка. Дынастычны хаўрус Рэчы Паспалітай з Саксоніяй, заключаны ў 1697 годзе, дазволіў на пэўны час адцягнуць канчатковы развал дзяржавы, але разам з тым і перашкодзіў спробам рэфармаваць краіну ды перагледзець яе абарончую дактрыну.

Калі надыйшоў час падзелаў Рэчы Паспалітай, дысбаланс сіл паміж Каронай і яе абсалютысцкім суседам на ўсходзе ставаўся нагэтульки значным, што шляхта, якая на чале з Касцюшкам у 1794 годзе паўстала ў сваю абарону, выявілася бездапаможным сведкам знішчэння канстытуцыі, парламенцкага ладу і незалежнасці дзяржавы. Рэспубліканскія ўстановы і дэмакратычная палітычная культура, якія квітнелі на шырокіх прасторах ад Варты і Віслы да Дзвіны і Дняпра, саступілі месца маскоўскай аўтакратыі. Першы акт гэтай драмы, які разгартаўся паміж Масквой і Варшавай на Дняпры, стаецца галоўным аб’ектам нашага доследу.

# Глава 1. Усходнееўрапейскія супернікі

"Палякі вераць, што здолеюць захаваць свой дзяржаўны лад толькі таму, што Бог будзе на баку непераможнага аплота Еўропы, які супрацьстаіць навале ворагаў ўсяго хрысціянскага свету – туркаў і татараў."

Бернард Конар
*Гісторыя Польшчы* (1697)

"Больш за тое, я ўпеўнены, што цяпер надыйшоў час для нашага народу пачынаць вучыцца. Таму што менавіта зараз літасцівы і міласэрны Бог надаў славянскаму царству ў Расіі нагэтульки шмат славы, уплыву й магутнасці, колькі наш народ раней ніколі не меў. Гісторыя іншых народаў даводзіць, што калі яны дасягалі вяршыняў магутнасці і славы, там пачыналі квітнець адукацыя і навука."

Юрай Крыжаніч
(падчас сібірскай ссылкі, 1663-1666)

Нягледзячы на тое, што ў другой палове сямнаццатага стагоддзя Расія і Рэч Паспалітая станавіліся хаўруснікамі ў вайне супраць Атаманскай Порты, стасункі паміж імі заставаліся напружанымі. Паводле ўмоў Андрусаўскага перамір'я, уся Украіна па левы бок Дняпра адыходзіла маскоўскай дзяржаве. Кіеў таксама часова заставаўся пад уладай цар, які, аднак, абавязаўся павярнуць яго Рэчы Паспалітай праз два гады. Аднак калі Варшава па прашэсці дамоўленага тэрміна запатрабавала ад Масквы павярнуць горад, расійцы адмовіліся, абгрунтоўваючы гэта тым, што толькі іх войска здольнае абараніць горад ад туркаў.[1]

Заключэнне ў 1686 годзе Вечнага міра заклала новы этап у стасунках паміж дзьвюма дзяржавамі. Рэч Паспалітая і Расія скарысталіся слабасцю Атаманскай Порты, каб распачаць актыўныя вайсковыя дзеянні – расійцы атакавалі Крым, а войска Каралеўства Польскага і Вялікага Княства адваявала ў туркаў значную частку Малдавіі.

Вечны мір, як і Андрусаўскае перамір'е, уцягнуў Маскву ў вайну з Турцыяй і Крымскім ханствам, але не вырашыў праблемы ў стасунках паміж Варшавай і Масквой. Маскоўскі цар, які не давяраў свайму варшаўскаму хаўрусніку, адхіліў прапанову аб'яднаць войскі дзьвюх дзяржаваў для сумеснага наступа на Крым. Недастатковая каардынацыя іх дзеянняў паспрыяла павелічэнню колькасці татарскіх набегаў і выклікала ўзаемныя абвінавачанні ў недастатковай адданасці хаўрусу. Сярод іншых чыннікаў, якія падрывалі ўзаемны давер Расіі і Рэчы Паспалітай, былі іх спаборніцтва за Украіну, актыўныя захады расійскага кіраўніцтва ў абарону праваслаўных Рэчы Паспалітай (якія стваралі больш за трацціну яе насельніцтва) і сакрэтныя перамовы Масквы і Варшавы з Крымам. Акрамя таго, сталай крыніцай канфліктаў заставалася несумяшчальнасць палітычных сістэм дзьвюх краінаў.

У Рэчы Паспалітай Расію ўспрымалі амаль як Персію ці Атаманскую імперыю, то бок дзяржаву з таталітарным, а не дэмакратычным дзяржаўным ладам. Больш за тое, праз свой тыпова

[1] Zbigniew Wójcik, Między traktatem andruszowskim a wojną turecką. Stosunki polsko-rosyjskie 1667-1672 (Warsaw, 1968).

заходні светапогляд польска-літоўскія палітыкі нават не спрабавалі зразумець Расію. Іх расійскія калегі, наадварот, у значна большай ступені цікавіліся ўнутранымі справамі Рэчы Паспалітай.[2] Апошняя вельмі доўгі час заставалася для Расіі ўвасабленнем Захаду, і ў Крамлі разглядалі яе ў якасці свайго магутнейшага суперніка. У той час, як стасункі Рэчы Паспалітай з еўрапейскімі краінамі амаль не ўплывалі на яе сувязі з Расіяй, маскоўскія кантакты з Еўропай часцяком ставаліся скіраванымі менавіта супраць Кароны. Тым не менш, польска-літоўская шляхта больш насцярожана ставілася не да захадаў Раманавых, а да інтрыг французскага ці аўстрыйскага двароў, якія, на думку шляхцічаў, прагнулі знішчыць іх "залатыя вольнасці". Да пачатку васямнаццатага стагоддзя расійскае ўплыў на ўнутраную палітыку Рэчы Паспалітай, у параўнанні з французскім, аўстрыйскім, папскім ці прускім, заставаўся мізэрным. Як мы ўжо адзначалі, толькі агульная пагроза з боку Атаманскай імперыі прымусіла Рэч Паспалітую пагадзіцца на хаўрус з Расіяй.

Каб лепш зразумець стылі і сутнасць дыпламатыі Рэчы Паспалітай і Расіі, неабходна спачатку прааналізаваць дзяржаўны лад кожнай з іх. У межах нашага даследу неабходна адзначыць іх палітычныя мэты і абмежаванні, што накладалі на абедзьве дзяржавы іх законы, інстытуты, традыцы і гістарычны досвед.

## Рэч Паспалітая

Напрыканцы сямнаццатага стагоддзя Рэч Паспалітая ставалася вялікай шматнацыянальнай дзяржавай з тэрыторыяй у 460 тысяч квадратных кіламетраў і васьмімільённым насельніцтвам, складзенага з палякаў, украінцаў, беларусаў,[3] літоўцаў, немцаў, габрэяў, армянаў і татараў. Прадстаўнікі кожнай нацыянальнасці карысталіся сваёй мовай.[4] Афіцыйнай мовай парламенцкіх слуханняў і дзяржаўнага справаводства была польская. Аднак пры гэтым у судовай сістэме, акрамя польскай і лаціны, выкарыстоўваліся нямецкая, украінска-беларуская і армянская мовы. У Рэчы Паспалітай панавала рэлігійная цярпімасць. Веравызнанняў было амаль гэтульки ж шмат, як і моваў: каталіцтва, кальвінізм, лютэранства, праваслаўе, уніяцтва, іудаізм, іслам. Аднак, нягледзячы на значны ўплыў Рэфармацыі, каталіцтва заставалася паноўнай рэлігіяй: паводле канстытуцыі[5], кароль Рэчы Паспалітай мусіў быць каталіком, а каталіцкім біскупам гарантаваліся пасады ў Сенаце. Тым не менш, ўся шляхта, якая складала каля дзесяці адсоткаў насельніцтва дзяржавы, незалежна ад веравызнання карысталася роўнымі правамі на ўдзел у палітычным жыцці краіны.

---

[2] Замежнікі часцяком адзаначалі пагарду палякаў да народаў, якія мелі дэспатычныя рэжымы: гл. Bernard Connor, *The History of Poland in Several Letters to Persons of Quality, Giving an Account of the Ancient and Present State of the Kingdom. Historical, Political, Physical and Ecclesiastical,* том 1 (London, 1697), ст. vi; ці, W. G. Leibniz, *Wzorzec dowodów politycznych* (Wrocław, 1969), ст. 67, 113-14. Пра меркаванні грамадзянаў Кароны ў сямнаццатым стагоддзі што да месца ў Еўропе іх дзяржавы, гл. J. Tazbir, *Rzeczpospolita i świat. Studia z dziejów kultury XVII wieku* (Wrocław, 1971), ст. 44-62; той самы аўтар, "Stosunek do obcych w dobie baroku," у *Swojskość i cudziemszczyzna w dziejach kultury polskiej* (Warsaw, 1973) ст. 80-112.

[3] Мы выкарыстоўваем сучасныя этнонімы "украінскі" і "беларускі," а таксама "Украіна" замест гістарэчных тэрмінаў "рутэнцы" і "Рутэнія", якімі карысталіся для называння групы ўсходніх славянаў, што ставаліся продкамі сучасных украінцаў і беларусаў. Тым не менш, мы выкарыстоўваем і тэрмін "казакі", калі маем на ўвазе асобную сацыяльную групу ўкраінскага насельніцтва.

[4] B. Baranowski і St. Herbst, "Wielonarodowościowa Rzeczpospolita szlachecka," у *Historia Polski*, пад рэд. H. Łowmiański, том 1, ч. 2 (Warsaw, 1957) ст. 416-17.

[5] Усе законы, ухваленыя парламентам, называліся "канстытуцыямі". Такім чынам, "канстытуцыі" прымаліся па шырокаму колу пытанняў – ад падаткаабкладання і войнаў да надання фінансавых прывілеяў пэўным магнатам і вызначэння абавязкаў тых, хто валодаў сялянамі.

Выбарчае права ствалася прывілегіяй шляхты і не распаўсюджвалася на іншыя слаі насельніцтва: сялян (збольшага прыгонных) і жыхароў гародоў, якія знаходзіліся як на каралеўскіх, гэтак і прыватных землях.

## Парламент

Рэч Паспалітая ўтварылася ў сярэдзіне шаснаццатага стагоддзя, калі ва ўмовах пагрозы з боку Масквы Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае заключылі Люблінскую Унію.[6] Так на месцы дынастычнай ўніі дзьвюх дзяржаў паўстаў адзіны палітычны суб'ект з агульнымі манархам і парламентам (Сеймам). Ад 1504 да 1573 года шляхта была аб'яднаная ў рух "За Павагу да Законаў", галоўнай мэтай якога ставалася абранне караля ўсімі прадстаўнікамі прывілегіяваных класаў. Чальцы руха адмаўлялі каралю ў праве прадаваць ці дараваць зямлю, якая яму належала, і патрабавалі правесці ў Вялікім Княстве палітычныя рэформы, якія б абмежавалі ўладу караля й яго міністраў на карысць вялікалітоўскай шляхты. Да 1573 году іх патрабаванні былі задаволеныя. Шляхта не толькі кантралявала справы сваіх паветаў, але й атрымала права ўплываць на дзяржаўную палітыку. У гэты ж год Генрых Валуа (пазней французскі кароль Генрых III) стаў першым манархам Рэчы Паспалітай, абраным ўсёй шляхтай. Аднак Генрыха не каранавалі да таго часу, пакуль ён не падпісаў дамову з грамадзянамі Кароны, якая складалася з дзьвюх частак. Першая частка - сталы раздзел, які атрымаў назву генрыхавых артыкулаў. У ім прапісваліся базавыя прынцыпы ўрадавання, гарантаваліся рэлігійная свабода, грамадзянскія правы і прывілегіі шляхты, надзеленай выбарчым правам. Другая частка, вядомая як "добраахвотнае пагадненне" (*Pacta conventa*), складалася адмыслова для кожнага наваабранага караля. Калі кароль не прытрымліваўся ўмоў пагаднення, ён губляў падтрымку і адданасць шляхты.

Правам прымаць палітычныя рашэнні ў дзяржаве надзяляліся тры "галіны" дзяржаўнай улады, прадстаўленыя манархам, верхняй палатай Парламента (Сенатам) і ніжняй палатай – Пасольскай ізбой. Прадстаўнікі абедзьвюх палат выбіраліся толькі са стану шляхты.[7] Заканадаўчая ўлада ў дзяржаве належала парламенту. Штодвагады Кароль мусіў склікаць парламент на шасцітыднёвае паседжанне. Падчас паседжанняў парламента Пасольская ізба мела вырашальны голас ва ўсіх пытаннях і ў фармуляванні новых законаў і ўказаў. Кароль меў права заканадаўчай ініцыятывы і старшынавання падчас паседжанняў Сената, які збольшага выконваў дарадчую функцыю. Сенатары, як і дэпутаты Пасольскай ізбы, уваходзілі ў склад парламенцкіх камісіяў, якія ствараліся, каб праводзіць парламенцкія праверкі і аналізаваць ўнутраную і знешнюю палітыку дзяржавы. Камісіі працягвалі сваю дзейнасць нават пасля закрыцця парламенцкай сесіі.[8] Пасольская ізба складалася прыблізна са 150 чальцоў, абраных шляхецкімі сходамі гмінаў, паветаў, і ваяводстваў. Краіна была падзеленая на 84 выбарчыя акругі. Колькасць парламентскіх прадстаўнікоў ад акругі не залежала ад яе памера –

---

[6] J. Maciszewski, "Społeczeństwo," у *Polska XVII wieku. Państwo, społeczeństwo, kultura*, пад рэд. J. Tazbir (Warsaw, 1969), ст. 120-50; J. Tazbir, "Problemy wyznaniowe," у Polska XVII wieku, ст. 189-219; J. Gierowski, *Historia Polski* 1453-1763 (Cracow, 1979), ст. 38-53,92-116,205-220; N. Davies, *God's Playground: A History of Poland*, том 1 (New York, 1982), ст. 201-255; Frank E. Sysyn, *Between Poland and the Ukraine: The Dilemma of Adam Kysil, 1600-1653* (Cambridge, MA, 1985), ст. 5-36.

[7] H. Olszewski, "Ustrój polityczny Rzeczypospolitej," у *Polska XVII wieku*, ст. 52-83.

[8] Найлепшая, на наш погляд, праца, прысвечаная парламенту (Сейму): H. Olszewski, *Sejm Rzeczypospolitej epoki oligarchii magnackiej* (Poznań, 1966). Гл. таксама S. Kutrzeba, *Sejm walny dawnej Rzeczypospolitej szlacheckiej* (Warsaw, 1923); W. Czapliński, "Z problematyki sejmu polskiego w pierwszej połowie XVII w.," *Kwartalnik Historyczny* 11, нум. 1 (1970): 31-45; W. Czapliński і A. Filipczak-Kocur, "Udział senatorów w pracach sejmowych za Zygmunta III i Władysława IV," *Przegląd Historyczny* 59, нум. 4 (1978): 665-75.

большасць акругаў прадстаўлялі ў Варшаве два дэлегаты. Паводле закона, дэпутаты Пасольскай ізбы абіраліся з ліку кандыдатаў, якія валодалі зямлёй у дадзенай акрузе. Нягледзячы на тое, што гэтая ўмова часам не выконвалася, рэдкія дэпутаты валодалі менш чым адной вёскай. Пасля свайго абрання дэпутаты атрымлівалі ад павятовай рады інструкцыі, якія складаліся з адказаў акругі на прапановы манарха, і другі спіс з інструкцыямі датычна мясцовых пытанняў. Дэпутаты ставаліся адпавядальнымі перад выбарцамі за свае дзеянні ў парламенце. Да 1652 года прыняцце любых законаў, указаў ці статутаў патрабавала іх адзінагалоснага ўхвалення. Адзінагалосся пра прыняцці рашэнняў патрабаваў прынцып ліберум вета, калі любы дэпутат Пасольскай ізбы мог парушыць ці змарнаваць працу ўсяго паседжання. Здольнасць паралізаваць парламент, разам з падвышэннем цягам усяго сямнаццатага стагоддзя ўплыву павятовых радаў, спрыяла ўзмацненню пазіцый мясцовай шляхты.[9]

Усе 150 чальцоў Сената прызначаліся каралём. Месцы ў верхняй палаце аўтаматычна атрымлівалі міністры (два канцлеры, два падканцлеры, два скарбнікі і чатыры маршалкі), біскупы, ваяводы і кашталяны. Звычайна, але не абавязкова, гэтыя пасады займаліся пажыццёва і прыносілі тым, хто іх займаў значную палітычную вагу і матар'яльны дабрабыт. Усе пытанні, звязаныя з прызначэннем у Сенат вырашаў кароль. Цягам сваёй кар'еры новапрызначаныя сенатары часцяком станавіліся заможнымі людзьмі і забяспечвалі сваім дзецям высокія дзяржаўныя пасады. [10]

Сенатары прымалі ўдзел у заканатворчым працэсе. Яны намагаліся ўплываць на меркаванні дэпутатаў сваімі прамовамі датычна розных аспектаў дзяржаўнай палітыцы. Аднак больш значным стаецца тое, што яны ўваходзілі ў склад пяці ключавых парламенцкіх камісіяў, такіх, як камісіі па кантролі за дзяржаўнымі фінансамі і распрацоўцы статутаў. Калі здаралася, што сесія парламента скончалась, але заставаліся нявырашанымі неадкладныя праблемы, развязаць якія было неабходнае да новага пасяджэння парламента, кароль раіўся з сенатарамі. На гэтых сустрэчаў, вядомых як "сенацкія кансіліюмы" (*Senatus consilia),* звычайна прысутнічалі міністры і тыя сенатары, якіх Пасольская ізба дэлегавала да караля. Падчас сенацкіх кансіліюмаў абмяркоўваліся і прымаліся значныя рашэнні па вайсковых і знешнепалітычных пытаннях. Шляхта выступала супраць нагэтулькі шырокіх паўнамоцтваў сенацкіх кансіліюмаў і часцяком крытыкавала іх падчас паседжанняў павятовых сеймаў і парламента.[11]

Варта адзначыць, што польска-літоўская шляхта чакала ад "старэйшых братоў"-сенатараў паводзінаў у дусе рымскіх "айцоў патрыцыяў". Шляхцічы меркавалі, што сенатары мусяць раўнацца на Катона, Сцыпіона ды Фабіуса Максімуса і абараняць законы Рэспублікі. Калі, на іх погляд, сенатары гэтага не рабілі, шляхта звінавачвала іх ў хцівасці, эгаізме і злоўжыванні

[9] Kutrzeba, *Sejm walny;* W. Czapliński, *O Polsce siedemnastowiecznej* (Warsaw, 1966); M. Pryshlak, "The Well-Ordered State in the Political Philosophy of the Polish Aristocracy" (Ph.D. diss., Columbia University, 1984), гл. 1; K. Matwijowski, *Pierwsze sejmy z czasów Jana III Sobieskiego* (Wrocław, 1976).

[10] Kutrzeba, *Sejm walny*; W. Czapliński, *O Polsce siedemnastowiecznej*; J. Bardach і інш., пад рэд., *Historia panstwa i prawapolskiego*, том 1 (Warsaw, 1978) ст. 106, 118, 231-32. Налепшыя манаграфіі, прысвечаныя "новым людзям": A. Kersten, *Stefan Czarniecki, 1599-1665* (Warsaw, 1963) і Sysyn, *Between Poland and the Ukraine*.

[11] Спіс сенатараў у 1569 годзе падзены ў "Porządek Rady Koronney, Polskiey y Litewskiey, iako iuż iedney Rzpltey, postanowiony przez króla I. M y Radę Koronną, w Lublinie na Seymie Walnym spólnym, roku P. 1569," *Volumina Legum*, том 2, пад рэд. Józafat Ohryzko (St. Petersburg, 1859), ст. 93. Olszewski, *Sejm Rzeczypospolitej*, ст. 217-56; W. Czapliński, "Senat za Władysława IV" у *Studia historyczne ku czci Stanisława Kutrzeby*, том 1 (Cracow, 1938), ст. 81-104. Для абмеркавання зацікаўленасці каароннай арыстакратыі ў падвышэнні ролі Сената, гл. Pryshlak "Well-Ordered State," ст. 74-75,79-80, 174-200, 214-19. Пра заможнасць і палітычныя погляды сенатараў і вышэйшых урадоўцаў гл. Stefan Ciara, *Senatorowie i dygnitarze koronni w drugiej połowie XVII wieku* (Wrocław, 1990).

ўладай.[12] Апроч Пасольскай ізбы, правам заканадаўчай ініцыятывы валодаў і кароль, які падчас парламентскай сесіі ачольваў пасяджэнні Сената. Аднак кароль не меў права вета, і наколькі б моцным не ставалася яго непрыняцце пэўных законаў, манарх не меў магчымасці прымусіць дэпутатаў адхіліць іх. Тым не менш, уплыў караля на хаду парламенцкіх дэбатаў і канчатковы варыянт прынятых статутаў значна пераўзыходзіў афіцыйныя адведзеныя яму паўнамоцтвы. Звычайна ў парламенце галава дзяржавы мог разлічваць на падтрымку адной ці некалькіх дэпутацкіх груп. Спікер Пасольскай ізбы, якога абіралі перад кожнай сесіяй, часцяком ставаўся палкім прыхільнікам караля.[13]

## Кароль і выканаўчая ўлада

Калі парламент меў шырокія паўнамоцтвы ў сферы заканадаўства, выканаўчая ўлада заўсёды належала выключна каралям. Кароль быў вярхоўным галоўнакамандуючым войска Рэчы Паспалітай, кіраўніком дыпламатычнай службы, *rex solus* вольных гарадоў і галавой дзяржаўнага апарата ўсіх узроўняў. У апошняй якасці кароль меў права прызначаць сваіх людзей не толькі на вышэйшыя судовыя, дзяржаўныя, вайсковыя і царкоўныя пасады, але і у Сенат. Акрамя таго, ён мог здаваць у арэнду каралеўскія землі, якія складалі каля чвэрці тэрыторыі дзяржавы. Ад волі манарха ў значнай ступені залежалі кар’ера шляхціча і яго дабрабыт. Права прызначаць чыноўнікаў і ўзнагароджваць іх за службу надавала каралю дадатковы важаль уплыву на шматлікую групу ўрадоўцаў, чыноўнікаў, афіцэраў і духавенства. Але галоўным казырам караля ставалася яго права запаўняць вакантныя месцы ў Сенаце, куды ён скіроўваў сваіх прыхільнікаў, аддаючы перавагу палітыкам сціплага, але шляхецкага паходжання. Гэтыя “новыя людзі” (*homines novi)*, якія складалі каля трацiны ад агульнай колькасці сенатараў, у значна большай ступені залежалі ад прыхільнасці манарха, чым прадстаўнікі арыстакратычных радоў, якія займалі сенацкія пасады на працягу шэрагу пакаленняў.[14]

Сенатары фактычна кантралявалі апарат цэнтральнай і мясцовай улады. Нягледзячы на іх залежнасць ад караля што да кар’ернага роста і прывілегіяў, паўнамоцтвы пазбавіць сенатара яго пасады належалі выключна парламенту. З улікам того, што парламент прымаў падобныя рашэнні вельмі неахвотна, кароль не мог размаўляць з сенатарамі мовай ультыматумаў, а быў вымушаны пераконваць іх падтрымаць яго прапановы. Дакуль планы караля супадалі з гледзішчам міністраў, сенары выступалі на яго баку. У выпадку, калі міністры не пагаджаліся з манархам, апошні ставаўся бездапаможным. Так, падчас каралявання Сабескага, вялікалітоўскі гетман Кшыштаф Пац

[12] " Сенат – гэта ворган арыстакратаў, якія займаюць палажэнне паміж каралём і шараговай шляхтай, створаны для захавання законнасці і нагляда за дзейнасцю караля. Больш за тое, сенатары мусяць у сваіх рашэннях прытрымліваца інтарэсаў грамадзянаў і захоўваць Прывілегіі Народа," Bernard Connor, *The History of Poland*, том 2 (London, 1697), ст. 34. Найяскравейшым чынам давёў незадавальненне сенатарамі з боку шляхты Ян Пасек, які пісаў "Падобна да таго, што я хутка выкрыю ойчымаў сярод бацькаў нашага народа, чые махінацыі паслабілі дзяржаву, высмакталі яе багацце і прывялі да ўтаптання яе годнасці ў бруд, але самаахвярнасць і адвага нашага войска здолелі вывесці краіну з ганебнага лабірынта і аднавіць нашую славу. Не трэба ісці далёка – хопіць толькі паглядзець, колькі шкоды ўрабіла нам вайна са Швецыяй, колькі ліха яна прынесла краіне! І хто ўцягнуў нас у гэтую вайну? Сенат." J. Pasek, *Memoirs of the Polish Baroque: The Writings of Jan Chryzostom Pasek*, пад рэд. Catherine Leach (Berkeley, 1976) ст. 105-21, 212.

[13] Olszewski, *Sejm Rzeczypospolitej*, ст. 234-36. Каб забяспечыць бесстароннасць спікера і шараговых дэпутатаў, у 1678 годзе парламент ухваліў тэкст адмысловаў клятвы, гл.: "Iurament Urodzonego Marszałka Poselskiego y Urodzonych Deputatów do Konstytucyí," у *Volumina Legum*, том 5, ст. 267. Гл. таксама: "O dawaniu konstytucyi do druku. Konstytucye Sejmu Walnego roku P. 1690," у *Volumina Legum*, том 5, ст. 271-72.

[14] Pryshlak, "Well-Ordered State," ст. 49-51, 66-71. Гл. таксама Olszewski, *Sejm Rzeczypospolitej*, ст. 127-67; W. Czapliński, *Władysław IV i jego czasy* (Warsaw, 1972); J. Gierowski, *Między saskim absolutyzmem a złotą wolnością* (Wrocław, 1953); T. Zielińska, *Magnateria polska epoki saskiej* (Wrocław, 1977); A. Sucheni-Grabowska, “Badania nad elitą władzy w latach 1551-1562, in *Społeczeństwo staropolskie*, пад рэд. A Wyczański (Wrocław, 1976) ст. 57-118.

не толькі адмовіўся выканаць каралеўскі загад распачаць вайсковыя дзеянні супраць Брандэнбурга, але й павёў вялікалітоўскае войска супраць Швецыі, з якой Сабескі заключыў хаўрус! Кароль, у сваю чаргу, не наважыўся выклікаць Паца на Парламенцкі суд, бо ён прыняў рашэнне распачаць вайну без згоды прадстаўнічага воргана.[15]

Нягледзячы на рэдкасць падобных выпадкаў і той факт, што міністры як правіла падтрымлівалі свайго караля, у сямнаццатым стагоддзі ўсе польска-літоўскім манархі мусілі трываць апазыцыю ў міністэрскім асяродку. Спачатку Сабескі варагаваў з магутным кланам Пацаў, а пазней - з родам Сапегаў, прадстаўнікі якога займалі пасады гетмана і скарбніка Вялікага Княства. Усе намаганні Сабескага скарыць Сапегаў скончыліся беспаспяхова. Тым не менш, напрыканцы 1680-х гадоў кароль здолеў сфармаваць адносна знітаваны кабінет міністраў, які складаўся з яго сваякоў і сяброў. Дзякуючы падтрымцы Станіслава Ябланоўскага, Сабескі цалкам кантраляваў войска. Прз набліжаных да сябе ўрадоўцаў з Вялікага Княства - вялікалітоўскага польнага гетмана Багуслава Слушка і Караля ды Станіслава Радзівілаў – кароль змагаўся супраць магутных Сапегаў. Нягледзячы на шырокія магчымасці і сувязі караля, дзяржаўная палітыка фармавалася толькі пасля шматлікіх дыпламатычных манёўраў і кампрамісаў з міністрамі, сенатарамі і прадстаўнікамі каралеўскага двара.[16]

Сабескі трывала кантраляваў войска і дыпламатычную службу, але праверкі, якія ладзілі Сенат і Пасольская ізба, абмяжоўвалі свабоду яго дзеянняў у сферы знешняй палітыцы. На мясцовым узроўні выкананне статутаў і каралеўскіх указаў залежала ад павятовай шляхты, якая збірала падаткі і склікала паспалітае рушанне ў час вайсковай небяспекі. Каб забяспечыць ухваленне мясцовай шляхтай сваіх эканамічных прапаноў, кароль задзейнічаў адданых яму сенатараў, прыдворных, вайсковых афіцэраў і, перш за ўсё, біскупаў, ваяводаў і кашталянаў. З аднаго боку, сенатары мусілі адстойваць пры двары інтарэсы сваіх паветаў, але з іншага, праз свой удзел у абмеркаванні дзяржаўных праблемаў, на іх ускладалася адказнасць вытлумачаць і прасоўваць на мясцовым узроўні агульнадзяржаўныя інтарэсы. Гэткая дваістая роля сенатараў немінуча рабіла іх аб'ектам наскокаў або караля, або мясцовай шляхты.

Пры жаданні кароль мог ачоліць збяднелую шляхту ў яе змаганні супраць сенатараў і ўплывовых землеўладальнікаў. Але аніводны з манархаў не пайшоў гэтым шляхам – усе яны аддавалі перавагу ўмацаванню сваёй улады пра падтрымцы сенатараў. Папярэднікам Сабескага нічога не замінала пайсці па следзе Вільгельма Аранскага або Івана Жахлівага. Міхал Карыбут Вішнявецкі быў абраны ў перыяд непрыхаванай грамадскай варожасці да сената,[17] аднак нават у гэтых абставінах ён не наважыўся прыняць бок шляхты ў змаганні супраць магутных сенатараў. Сабескі, як больш сталы і дасведчаны палітык, не мог раўнацца ў папулярнасці з Вішнявецкім. Грамадская падтрымка Сабескага дасягнула свайго піка толькі падчас яго канфлікта з магутнай сенатарскай групоўкай, калі кароль пагражаў склікаць "парламент на конях" – вялікі шляхецкі збройны чын, пакліканы разабрацца з унутранымі ворагамі.[18]

---

[15] Kazimierz Piwarski, "Polityka bałtycka Jana III w latach 1675-1690," у *Księga pamiątkowa ku czci Profesora Dra Wacława Sobieskiego*, том 1, пад рэд. Oskar Halecki (Cracow, 1932); K. Matwijowski, *Pierwsze sejmy*, ст. 33-38.
[16] Zbigniew Wójcik, *Jan Sobieski 1629-1696* (Warsaw, 1983), ст. 337-420.
[17] Pasek, *Memoirs of the Polish Baroque,* ст. 211-16, 226-32
[18] *Diariusz Kołowania i Konfederacji pod Gołębiem i Lublinem w 1672 r. wraz z Aktem Konfederacji*, пад рэд. Adam Przyboś i Kazimierz Przyboś (Wrocław, 1972); K. Piwarski, *Między Francją aAustrją. Z dziejów polityki Jana III Sobieskiego 1687-1690* (Cracow, 1933), ст. 46; Wójcik, *Jan Sobieski*, ст. 220-316.

Па-за межамі дзяржаўнага апарату, кароль захоўваў значны ўплыў й як *rex solus* вольных гарадоў і сялян, што жылі на каралеўскіх землях. Нягледзячы на тое, што шляхта не ўважала караля сімвалам Рэчы Паспалітай, для простага люду ён заставаўся ўвасабленнем вышэйшай улады ў дзяржаве.[19] Такім чынам, паўнамоцтвы манарха ў сферы выканаўчай улады значна пераўзыходзілі яго ўплыў на законатворчую дзейнасць. Дыпламатычная служба і войска, асабліва ў вайсковы час, падпарадкоўваліся непасрэдна каралю. Тым не менш, ён быў вымушаны шукаць паразумення як з сенатарамі, гэтак і з павятовай шляхтай, але чым далей яго інтарэсы разыходзіліся з інтарэсамі шляхты, тым у большай ступені ён мусіў пакладацца на Сенат. Так, Сабескі карыстаўся сваім правам прызначаць павятовых старастаў, у абавязкі якіх уваходзіў нагляд за выкананнем законаў і падтрыманнем парадка. Кароль надаваў гэтыя пасады набліжаным да сябе сенатарам, якія ўжо ў новым статусе прасоўвалі каралеўскія інтарэсы на мясцовым узроўні.

### Судовая улада

У шаснаццатым стагоддзі манарх страціў сваё прывілегіяванае становішча ў судовай сістэме. У 1578 годзе ў Польшчы і ў 1583 годзе ў Вялікім Княстве, паводле патрабаванняў шляхты, былі створаныя судовыя трыбуналы. Караля пазбавілі права галававаць у судах на падставе таго, што гэта спрыяе зрастанню колькасці нявырашаных спраў. Суддзі трыбуналаў абіраліся павятовай шляхтай, што выклікала жорсткую канкурэнцыі паміж прадстаўнікамі найбольш уплывовых шляхецкімі сем'яў. Але, з іншага боку, праз тое, што шляхта ў значнай ступені кантралявала склад судоў, яна падпарадкоўвалася рашэнням трыбуналаў.[20]

Апеляцыйнай інстанцыяй ставаўся Парламенцкі Суд, які ачольваў манарх. У яго склад уваходзілі сенатары і дэпутаты Пасольскай ізбы. Парламенцкі Суд разглядаў справы па абразе годнасці караля, дзяржаўнай здрадзе, раскраданні дзяржаўнай маёмасці вышэйшымі чыноўнікамі, таксама злачынствы, якія караліся смерцю. Дзякуючы сваёй ролі ў Парламенцкім судзе і праву мілаваць ды выдаваць ахоўныя граматы, кароль усё ж захоўваць пэўны ўплыў у рэфармаванай судовай сістэме.[21] Тым не менш, новая сістэма змяніла самы падыход да правасуддзя, якое страціла свой сакральны характар і пачало разглядацца ў рамках праўнай навукі.

### *Forma Mixta*: палітычная мадэль Рэчы паспалітай

Ладная частка сенатараў (назавём іх канстытуцыяналістамі) выступала за вяршынства закона, моцны цэнтральны ўрад і наданне дадатковых паўнамоцтваў Сенату. Аднак для большасці шляхты (далей называнай рэспубліканцамі) ідэя ўзмацнення цэнтральнай улады ставалася непрымальнай. Шляхцічы меркавала, што аніводны інстытут цэнтральай улады, нават Пасольская ізба, не здольны належным чынам адстойваць іх інтарэсы. Шляхта цвёрда прытрымлівалася прынцыпаў павятовага самакіравання і выбарнасці каралёў, а таксама права чыніць супраціў цэнтральнай уладзе праз аб'яднанне ў канфедэрацыі ды рокашы. Разам усё гэта забяспечвала шляхецкаму стану вядучую ролю ў кіраванні дзяржавай.[22]

---

[19] Stanisław Kutrzeba, Historia państwa i prawa (Cracow, 1948), ст. 74.

[20] Juliusz Bardach, пад рэд., *Historia państwa i prawa Polski*, том 2 (Warsaw, 1966), ст. 153-54. "Rex regnat solus. Cur non regit omnia solus qui regit et regitur, rectius ille regitur senatus ..." Jan Antoni Chrapowicki, *Diariusz*, пад рэд. T. Wasilewski, том 1 (Poznań, 1978), ст. 217. Сенатар Храпоўскі не мог не адзначыць вялікую ролю Сената. Гл. таксама: Pryshlak, "Well-Ordered State," гл. 1.

[21] Bardach, *Hisotria państwa*, ст. 154; Olszewski, *Sejm Rzeczypospolitej*, ст. 299-300; Pryshlak, "Well-Ordered State," гл. 1.

[22] Вызначэнне палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай ад шаснаццатага да васямнаццатага стагоддзя як разнавіднасці "змяшанай сістэмы" (forma mixta), калі ў сталым канфлікце паміж сабой знаходзяцца манарх, арыстакратыя і

Калі аплотам канстытуцыяналізма лічыўся Сенат, дык гнёздамі рэспубліканскіх ідэяў ставаліся павятовыя рады (сеймікі). Пазіцыі рэспубліканцаў ускладняліся тым, што на чальцоў сеймікаў стала ціснулі прадстаўнікі караля, мясцовыя сенатары і буйныя землеўладальнікі. Так, амаль у кожным павеце кароль меў партыю сваіх прыхільнікаў, галоўным чынам з прадстаўнікоў сямей, якія займалі дзяржаўныя пасады цягам шэрагу пакаленняў. Сеймікі мусілі лічыцца з меркаваннем мясцовых біскупаў, ваяводаў і кашталянаў, якія часам выступалі на баку караля, а часам супрацьстаялі яму. Акрамя таго, калі ў павеце меліся латыфундыі слынных магнацкіх кланаў, апошнія таксама мелі сваё прадстаўніцтва ў сейміках.

Пра вялікі ўплыў караля і сенатараў на павятовыя сеймікі сведчаць інструкцыі, складаныя мясцовымі радамі сваім парламенцкім прадстаўнікам. Гэтыя інструкцыі часцяком утрымлівалі загад дэпутатам падтрымліваць караля. Пра ўдзел багатай і ўплывовай шляхты ў палітычным жыцці паветаў можна меркаваць і на падставе асоб, дэлегаваных у Пасольскую ізбу. Ніжняя палата як найменш на траціну складалася з прадстаўнікоў арыстакратычных радоў і высокапастаўленых нуварышаў. Тым не менш, павятовыя сеймікі ставаліся адзіным мясцовым палітычным інстытутам, дзе гарантаваліся правы ўсёй шляхты, якая валодала зямлёй. Хаця шляхцічы й вымушаныя былі часцяком саступаць моцы і багаццю, але рабіла гэта толькі датуль, дакуль нічога не пагражала іх асабістым інтарэсам.[23]

Кароль і сенатары маглі ціснуць на павятовыя сеймікі, але не наважваліся змяняць палітычную сістэму, каб адабраць у мясцовай шляхты яе паўнамоцтвы на карысць цэнтральнай улады. На працягу ўсяго існавання Рэчы Паспалітай павятовая шляхта ўспрымала каралеўскі двор як таемных змоўшчыкаў, у якім кароль, звычайна пад уплывам сваёй “ліхой” жонкі-замежніцы, разам з купкай сенатараў інтрыгаваў супраць рэспублікі. Разам з тым, Пасольская ізба не падавалася мясцовай шляхце дастаткова адданай справе абароны вольнасцей: па-першае, яна збіралася на шэсць тыдняў толькі штодвагады, і па-другае, дэпутаты збольшага разглядалі агульнадзяржаўныя пытанні, замест таго, каб адстойваць мясцовыя інтарэсы. Шмат хто з

дэмакратыя, належыць нам. Агульнапрынятым поглядам стаецца, што з канца 16 стагоддзя на месцы шляхецкай дэмакратыі паўстае магнацкая алігархія, якая квітнее (асабліва ад другой паловы 17 стагоддзя) у атмасферы агульнай анархіі. Паводле гэтага гледзішча, усе тагачасныя палітычныя актары мусяць быць або прыхільнікамі моцнай дзяржавы, т.б. падтрымліваць караля, ці эгаістычнымі алігархамі, якія ставаралі свае “дзяржавы ў дзяржаве” пад выглядам абаронцаў шляхецкай роўнасці вольнасцяў. Натуральна, дэталі агульнай карціны розняцца ў залежнасці ад канкрэтнага аўтара, але нават кароткі спіс назваў главаў і падглаваў станецца дастатковым пацверджаннем нашых словаў, напр.: *Historia Polski*, пад рэд. H. Łowmiański, том 1, гл. 2; W. Konopczyński, *Dzieje Polski nowożytnej* (Warsaw, 1936); M. Bobrzyński, *Dzieje Polski* (Warsaw, 1968); J. Gierowski, *Historia Polski 1505-1764* (Warsaw, 1988); Olszewski, *Sejm Rzeczypospolitej*. Тым не менш, некаторыя гісторыкі не пагаджаюцца з “алігархічнай” ц(і) “анархічнай” тэорыямі. Чаплінскі ў шэрагу публікацый падкрэслівае моц і эфектыўнасць дзеянняў караля і цэнтральнай улады. (прынамсі, да сярэдзіны сямнаццатага стагоддзя). Керстэн таксама адзначае, што магнаты часцяком выступалі за моцную цэнтральную ўладу. З іншага боку, Героўскі следуе традыцыі Карзона і падкрэслівае нейтралітэт большасці шляхты. W. Czapliński, "Z problematyki," ст. 31-45; A. Kersten, "Problem władzy w Rzeczypospolitej czasu Wazów," у *O naprawę Rzeczypospolitej*, пад рэд. J. Gierowski (Warsaw, 1965), ст. 22-36; Gierowski, *Historia Polski*. У гэтым месцы я выкарыстоўваю працы сваіх калегаў як крыінцы гістарычных фактаў, а не іх інтэрпрэтацыі.

[23] "Нішто не даводзіць Роўнасць каронnай Арыстакратыі лепш, чым існаванне Верхняй і Ніжняй Палатаў Парламента, дзе вольнанароджаныя падзяляюцца на Вялікіх і Меншых, ці, іншымі словамі, Багацейшых і Бяднейшых. Аднак усе яны маюць аднолькавае права ўхваляць ці ганіць Канстытуцыі, прычым Меншая Шляхта, дзякуючы сваёй колькаснай большасці і, часам, моцы сваіх шабляў, трымае Вялікую ў Паважлівым Страху," Connor, *History of Poland,* том *2,* ст. 103-104. Шляхта супрціўлялася намерам арыстакратыі пасадзіць на трон Рэчы Паспалітай французскага кандыдата ў 1668, 1673, 1697 гадах, бо шляхцічы баяліся, што французскі кароль пажадае ўсталяваць у Кароне абсалютызм, каб зрабіць яе хаўруснікам Францыі ў яе барацьбе супраць Аўстрыі. A. Kamiński, "The *Szlachta* of the Polish-Lithuanian Commonwealth and Their Government," у *The Nobility in Russia and Eastern Europe,* пад рэд. Ivo Banac і Paul Bushkovitch (New Haven, 1983), ст. 17-45.

прадстаўнікоў, якіх павятовыя сеймікі дасылалі ў парламент, разглядаліся самой павятовай шляхтай як патэнцыйныя саюзнікі караля. З пункту гледжання сеймікаў, нават рэспубліканская цэнтралізаваная ўлада, толькі праз свой цэнтралізм, ставалася абсалютна непрымальнай.

Такім чынам, стаецца зразумелым, чаму ў сямнаццатым і першай палове васямнаццатага стагоддзя павятовых рэспубліканцаў не турбаваў лёс парламента. Большасць тагачасных еўрапейскіх краін пакутавалі на атрафію нацыянальных прадстаўнічых устаноў, што звычайна вытлумачаецца развіццём абсалютызму ў Францыі і Іспаніі. У Рэчы Паспалітай шляхта дазволіла, каб ад 1736 да 1764 года парламент фактычна не дзейнічаў. Але разам з тым, шляхцічы былі гатовыя паўстаць у абарону законных правоў парламента, нават калі б гэта азначала грамадзянскую вайну. Для рэспубліканцаў, нягледзячы на абмежаваныя паўнамоцтвы Пасольскай ізбы, апошняя заставалася адзіным нацыянальным палітычным інстытутам, які адстойваў інтарэсы паветаў і супрацьстаяў узурпацыі ўлады каралём і Сенатам.

Аднак нельга сцвярджаць, што супрацьстаянне канстытуцыяналістаў і рэспубліканцаў накладала значны адбітак на штодзённае палітычнае жыццё дзяржавы. Хутчэй наадварот, у палітычнай культуры Рэчы Пасплітай кампраміс пераважаў над канфрантацыяй. Кансэнсус, які звычайна дасягаўся толькі пасля пэўнай дэманстрацыі бакамі сваёй сілы, тым не менш, дамінаваў у прыняцці рашэнняў у паветах, абедзьвюх палатах парламента і канфедэрацыях. Кампраміс вымагаў адмысловых навыкаў пасярэдніцтва. У кожным пакаленні каронных палітыкаў былі некалькіх дасведчаных сенатараў і дэпутатаў, здольныя прывесці групоўкі, пазіцыі якіх на першы погляд падаваліся непрыміральнымі, да пагаднення.[24] Большасць польска-літоўскіх палітычных дзеячоў усіх узроўняў выпрацавала добрыя навыкі пасярэдніцтва, жыццёва неабходныя ва ўмовах сістэмы, заснаванай на балансе сіл паміж канкуруючымі палітычнымі групоўкамі.

Змяшаная форма кіравання, у якой манарх (кароль), арыстакратыя (Сенат) і шляхта (Пасольская Ізба) намагаліся кантраляваць адно аднае, грунтавалася на ідэале грамадства, пазбаўленага найгоршых рысаў кожнага з дзяржаўных ладаў – манархічнай тыраніі, арыстакратычнай алігархіі і дэмакратычнай анархіі. “Услед за Арыстоцелем, яны верылі, што найлепшай формай дзяржаўнага кіравання з’яўляецца сумесь манархіі, арыстакратыі і дэмакратыі,” - пісаў пра грамадзян Рэчы Паспалітай Бернард Конар у сваёй “Гісторыі Польшчы” (1698). “Яны лічаць, што іх найбольшы здабытак – гэта іх вольнасці. Маскоўская і турэцкая няволя пераконваюць шляхцічаў, што яны абралі слушную дзяржаўную мадэль.”[25]

### Сацыяльнае і палітычнае жыццё

Як ужо было згадана, шляхта складала прыблізна дзесяць адсоткаў ад агульнага насельніцтва Рэчы Паспалітай. Усе шляхцічы ставаліся роўнымі перад законам, прымалі ўдзел у палітычным жыцці краіны на павятовым і агульнанацыянальным узроўнях і карысталася пэўнымі неад’емнымі канстытуцыйнымі правамі. Гэтую размаітую групу, да якой належалі людзі самых розных эканамічных інтарэсаў і сацыяльнага паходжання, яднаў іх прававы статус і агульная прыналежнасць да стану, адказнага за лёс дзяржавы. Паводле крытэра заможнасці шляхта падзялялася на наступныя падгрупы: уладальнікі дваццаці вёсак і больш – “вельмі заможная”, да

---

[24] Адам Кізіл, пра якога Франк Сысын напісаў кнігу, а таксама вармінскі біскуп Анджэй Залускі, кракаўскі біскуп Станіслаў Малахоўскі, вядомы дэпутат Анджэй Максіміл’ян Фрэдро і Станіслаў Шчука – усе яны ставаліся слыннымі перамоўшчыкамі і пасярэднікамі.

[25] Connor, *History of Poland*, том 1, ст. v-vi. Гл. таксам цытаваныя вышэй мемуары Пасекі і Храпавіцкага.

дваццаці вёсак – “заможная”, ад шасці да дзесяці вёсак – “забяспечаная”, ад адной да пяці вёсак – “сярэдняя”, і нарэшце, тыя, хто меў менш за адну вёску лічыліся “беднымі”. Да апошняй катэгорыі адносілася малазямельная і беззямельная шляхта. Паколькі ў Рэчы Паспалітай не існавала закона пра спадкаемнасць па першароднасці, дабрабыт кожнай асобнай сям’і мог значна змяняцца нават цягам жыцця аднаго пакалення.[26]

Малазямельная і беззямельная шляхта жыла амаль як звычайныя сяляне, але іх юрыдычны статус быў зусім іншы – яны валодалі ўсімі грамадзянскімі правамі і захоўвалі магчымасць перасоўвацца па сацыяльнай лесвіцы. Іншымі словамі, гэтая падгрупа шляхты хоць і жыла ў галечы, але не была на яе вырачаная. Так, дачкі малазямельных і беззямельных шляхцічаў маглі падвысіць сямейны дабрабыт праз удалы шлюб. Некаторыя прадстаўнікі гэтай падгрупы наймаліся служыць заможнейшай шляхце, напрыклад, у якасці аканомаў іх маёнткаў. Іншыя йшлі служыць ў войска або, калі ім шчасціла атрымаць адукацыю пры царкве ці пры дапамозе прыватнай стыпендыі, уладкоўваліся на працу ў цэрквы, дзяржаўны апарат ці юрыдычныя канторы.[27]

Матар’яльнае становішча ўладальнікаў ад адной да дзесяці вёсак ставалася стабільнейшым, аднак і яны час ад часу цярпелі фінансавыя нягоды. Распадзел маёмасці сярод нашчадкаў мог сур’ёзна пагоршыць іх дабрабыт. Збольшага, шляхта гэтай падгрупы давала дзецям адукацыю, якая адкрывала багатыя кар’ерныя перспектывы і давала ім шанец на лепшую будучыню.

Тыя шляхцічы, якія валодалі дзесяццю і больш вёскамі, натуральна, ставаліся забяспечанымі людзьмі. Яны істотна ўплывалі на палітычнае жыццё сваіх паветаў і мелі ў правінцыі сваіх прыхільнікаў. Забяспечаныя шляхцічы часцяком дасылала сваіх дзяцей навучацца за мяжу. Акрамя таго, у адрозненне ад бяднейшай шляхты, гэтая праслойка не мусіла займацца справамі сваіх маёнткаў, што дазваляла ёй цікавіцца падзеямі, якія адбываюцца за межамі іх паветаў.

Значна большыя прывілегі і перспектывы што да атрымання высокіх дзяржаўных пасад і далейшага ўзбагачэння адкрываліся найбольш заможнай шляхты, асобнай падгрупы, вядомай у гістарычнай літаратуры як “магнаты”.

У польскай гістарыяграфія сямнаццатае стагоддзе лічыцца перыядам панавання ў Рэчы Паспалітай магнатаў, які называецца алігархічным.[28] Сапраўды, у той час беспрэцэдэнтная колькасць месцаў і пасадаў у парламенце, судах, царкве і войску належала менавіта магнатам. Тым не менш, не існуе дакладных сведчанняў, што яны падзялялі пэўную групавую свядомасць ці ўважалі сябе за дзяржаўную эліту. Магнаты ніколі не рабілі спробаў манапалізаваць уладу ці,

---

[26] J. Maciszewski, *Szlachta polska i jej państwo* (Warsaw, 1969), ст. 20-21, 31-36, 54-56, 77; W. Urban, "Skład społeczny i ideologia sejmiku krakowskiego w latach 1572-1606," *Przegląd Historyczny* 44 (1953): 309-333; W. Śladkowski, "Skład społeczny, wyznaniowy i ideologia sejmiku lubelskiego w latach 1572-1648," *Annales Universitatis Mariae Curie-Skłodowska* (Lublin) 12 (1957): 129-52. W. Dworzaczek, "Wielkopolska reprezentacja sejmowa w latach 1572-1655," *Roczniki Historyczne* 23 (1957): 281-309; A. Wyczański, *Uwarstwienie społeczne w Polsce XVI wieku* (Wrocław, 1977) ст. 9-69. H. Wisner, "Przedsejmowy sejmik nowogrodzki w latach 1607-1648," *Przegląd Historyczny* 59, нум. 4 (1978): 677-93. Імануіл Растварoўскі нядаўна давёў значнасць кантралявання шляхтай, што мае зямлю, сваіх выбарчых акругаў. Акрамя таго, ён адзначыў, што зямельная шляхта ставалася толькі часткай усёй шляхты і складал не больш за 1,25 адсотак агульнага насельніцтва краіны. E. Rostworowski, "Ilu było w Rzeczypospolitej obywateli szlachty?" *Kwartalnik Historyczny* 94, нум. 3 (1988): 3-39.

[27] Maciszewski, *Szlachta polska*, ст. 139-55; K. Koźmian, *Pamiętniki*, том 1 (Wrocław, 1972), ст. 136-43.

[28] Z. Kaczmarczyk "Oligarchia magnacka w Polsce jako forma państwa," у *Pamiętnik z VIII Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich w Krakowie 14-17 września 1958 r. Referaty* (Warsaw, 1958), ст. 223-31. Гл. таксама зноску 7.

што яшчэ больш значна, інстытуцыяналізаваць свой уплыў. Яны не ставаліся групоўкай, якая вывілася здольнай эфектыўна супрацьстаяць менш заможнай шляхце і захапіць кантроль над парламентам. На справе, магнаты не кантралявалі нават Сенат і былі ў меншасці ў Пасольскай ізбе.

Такім чынам, мы мусім выключыць гэтую аморфную групу з ліку тых, хто прэтэндаваў на ўладу ў краіне і звярнуць увагу на значна меншую па колькасці, але выбітнейшую і свядомейшую групу – арыстакратаў. На жаль, у польскай гістарыяграфіі амаль не праводзіцца адрозненне паміж сапраўднымі арыстакратамі і магнатамі,[29] што ускладняе разуменне сутнасці “алігархічнай” улады ў Рэчы Паспалітай. З прычыны таго, што ў заканадаўстве краіны не былі прапісаныя адрозненні паміж рознымі падгрупамі шляхты, гісторыкам застаецца складаць уласныя ўмоўныя спісы арыстакратаў.

Дакладнасць гэткага спіса залежыць ад таго, наколькі ён адпавядае поглядам сучаснікаў гістарычных падзей, якія добра адчувалі ступень улывовасці першых сем’яў дзяржавы. На сённяшні дзень найбольш дакладным пералікам польска-літоўскай арыстакратыі стаецца спіс, складзены выбітным гісторыкам Уладзімірам Дворжачкам.[30] “Магнатамі” ён лічыць сем’і, якія заставаліся заможнымі і ўтрымлівалі месцы ў Сенаце на працягу некалькіх пакаленняў, парадніліся з іншымі ўплывовымі сем’ямі, мелі ўплыў на прыняцце рашэнняў, значных для ўсёй дзяржавы, ці, прынамсі, для аднога асобнага ваяводства, і, зрэшты, адносіліся тагачаснікамі да найбольш слынных радоў дзяржавы. Іншымі словамі, акрамя валодання багаццем і ўладаў, чалавек мусіў быць арыстакратам па нараджэння. На падставе вышэйзгаданых крытэраў, Дворжачак вылучае 79 арыстакратычных сем’яў, якія жылі ў прамежку паміж пятнаццатым і пачаткам дзевятнаццатага стагоддзя. Толькі дзесяць-дваццаць радоў з гэтага спісу не гублялі свой палітычны ўплыў больш, чым на дваццаціпяцігадовы тэрмін, і ў большасці выпадкаў займалі міністэрскія пасады ды мелі сваіх прадстаўнікоў у Сенаце.

На думку шляхты, арыстакрат дасягаў вяршыні сваёй кар’еры, калі атрымліваў прызначэнне ў Сенат. Нягледзячы на тое, што ад 50 да 60 адсоткаў сенатараў не належала да арыстакратычных радоў, Сенат успрымаўся як аплот арыстакратыі. Для гэтага існавалі істотныя падставы, але падобнае меркаванне ўсё ж стаецца аднабаковым. Польска-літоўская арыстакратыя не ставалася закрытай спадчыннай групай, якая засярэдзіла ў сваіх руках выключныя правы. У Сенат Рэчы Паспалітай, у адрозненне ад брытанскай Палаты лордаў і венецыянскай Рады, мог патрапіць які-колечы прадстаўнік шляхты, гатовы, на думку караля, выконваць функцыі сенатара. Арыстакраты не кантралявалі Сенат, аднак і не абмяжоўваліся ім. Кароль зрэдку прызначаў у Сенат арыстакратаў без досведу працы ў ніжняй палаце ці службы ў войску. Шматлікія маладыя прадстаўнікі слынных радоў пачыналі свае кар’еры ў якасці дэпутатаў Пасольскай Ізбы і, у выніку. заставалі там пажыццёва. З улікам прысутнасці арыстакратаў у абедзьвюх палатах парламента і іх прагі да ўзмацнення цэнтральнай улады, падаецца спрэчным, што яны мелі на мэце разваліць парламент. Наадварот, цягам стагоддзяў яны намагаліся ўмацаваць прадстаўнічы ворган. Арыстакраты, што ўдзельнічалі ў палітычным жыцці краіны, і асабліва тыя, хто быў адукаваны ў папулярнай на той час традыцыі

[29] Czapliński i J. Długosz, *Życie codzienne magnaterii polskiei w XVII w.* (Warsaw, 1976), ст. 176-86, 198-212.
[30] W. Dworzaczek, *Genealogia* (Warsaw, 1959), ст. 4-7 і 11-12, і табліцы 93-183.

неастаіцызму, аддавалі перавагу рэспубліцы на чале з канстытуцыйным манархам, шырокімі паўнамоцтвамі парламента і абмежаваннем вольнасцей павятовай шляхты.

Відавочна, што, у параўнанні са шляхтай, арыстакратам было прасцей патрапіць у Пасолькую ізбу, Сенат або заняць высокія прыдворныя, вайсковыя ці царкоўныя пасады. Аднак вядома таксама, што прадстаўнікі арыстакратычных сем'яў часам саступалі менш заможнай шляхце ў барацьбе за высокія прызначэнні. Гэта адбывалася таму, што, нягледзячы на значнасць сувязяў і багацця, галоўным чыннікам поспяховасці дзяржаўнай кар'еры, нават для арыстакрата, ставаліся асабістыя здольнасці і адукацыя.[31]

Што да ўплыву на ўзроўні паветаў, дык палітычнае жыццё там кантралявалі розныя падгрупы шляхты. Галоўным чыннікам тут ставалася структура землеўладання. Напрыклад, калі зямля ў павеце была падзеленая паміж шэрагам уладальнікаў ад адной да дзесяці вёсак, гэтая група й мела там найбольшы палітычны ўплыў. У іншых паветах, дзе шляхта выяўлялася бяднейшай, але шматлікай (у Мазовіі, напрыклад, дробная шляхта складала 20 адсоткаў насельніцтва), у палітычным жыцці дамінавалі дробныя землеўладальнікі.

### Тэрытырыяльныя адрозненні

Значная частка паветаў на каралеўскіх землях кантралявалася шляхцічамі, якія не належалі ані да "магнатаў", ані да арыстакратыі. У Вялікім Княстве і Украіне сітуацыя была іншай. Паводле ўказаў апошняга караля з роду Ягайлавічаў Жыгімонта II ад 1564 і 1566 гадоў і рашэння кароннага парламента, у Вялікім Княстве ўводзілася польская мадэль адміністратыўнага падзела тэрыторыі. Ствараліся новыя паветы, дзе ўлада належала мясцовай шляхты. Касаваліся ўсе праўныя адрозненні паміж арыстакратыяй і шляхтай, хаця былыя чальцы вялікакняжацкай Таемнай Рады захоўвалі свой палітычны ўплыў. Пасады канцлера, скарбніка і гетмана дзесяцігоддзямі кантраляваліся прадстаўнікамі аднаго з некалькіх магнацкіх кланаў. Дэ-факта алігархія Вялікага Княства Літоўскага час ад часу саступала месца аднаасобнаму панаванню Радзівілаў, Хадкевічаў, Пацаў ці Сапегаў. У гэтыя перыяды,[32] дзяржаўны лад Вялікага Княства больш нагадваў палітычныя сістэмы італьянскіх арыстакратычных дамоў Вісконці, Сфорца і Медычы, чым алігархію Венецыянскай рэспублікі. Неабмежаваная ўлада магнацкіх кланаў дазваляла ім законнымі і незаконнымі сродкамі вызначаць палітыку Вялікага Княства. Каб перарваць дамінаванне аднаго з кланаў звычайна патрабавалася аб'яднанне высілкаў манарха і іншага роду, які падтрымлівала шматлікая прыгнечаная шляхта.

Акрамя таго, каралі Рэчы Паспалітай марна спрабавалі абмежаваць уплыў паноўнага вялікалітоўскага клана шляхам прызначэння прадстаўнікоў кланаў-канкурэнтаў на вышэйшыя дзяржаўныя пасады. Пачынаючы з другой паловы сямнаццатага стагоддзя, улада ў Вялікім Княстве спачатку перайшла ад Радзівілаў да Пацаў, а потым да Сапегаў. Пасля заключэння Люблінскай Уніі вялікалітоўскай шляхце спатрэбілася каля 130 год, каб адолець алігархаў і пераняць палітычную сістэму Каралеўства Польскага. Калі, нарэшце, напрыканцы сямнаццатага стагоддзя, шляхта перамагла ў змаганні з алігархічнымі кланамі, сацыяльны склад шляхты ў Вялікім Княстве выявіўся нагэтулькі ж разнастайным, як і ў Польшчы за часам руху "За павагу да Законаў". Палітычная праграма шляхты ўяўляла складанае спалучэнне цэнтралізму з

---

[31] Пра актыўнасць арыстакратычных радоў у Сенаце і Пасольскай Ізбе гл. Kamiński, ''Szlachta of the Commonwealth,'' ст. 42, зноска 25.

[32] K. Piwarski, "Opozycja litewska pod koniec XVII wieku," у *Pamiętnik z V Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich w Warszawie 1930*, том 1 (Lviv, 1932), ст. 159-77; Wójcik, *Jan Sobieski*, ст. 415-17, 493-507.

гарантаваннем правоў мясцовай шляхты. Пасля таго, як у выніку крывавай грамадзянскай вайны 1696-1700 гадоў палі Сапегі, "цэнтралісты" дамагліся надання вялікалітоўцам ўсіх правоў і прывілегіяў польскай шляхты і нават большага, чым у Каралеўстве Польскім, кантроля над дзяржаўнымі міністрамі. Разам з тым, павятовая шляхта здолела пашырыць паўнамоцтвы сваіх сеймікаў і атрымала права вырашаць пытанні, якія дагэтуль знаходзіліся ў выключнай кампетэнцыі Вільні.[33]

На тэрыторыі Украіны – Кіеўскім, Брацлаўскім і Валынскім ваяводствах, анэксаваных Польшчай у 1569 годзе – шляхта складала менш за адзін адсотак насельніцтва. Усе паветы там кантраляваліся некалькімі арыстакратычнымі сем'ямі. Таму калі ў Кракаўскім ці Сандамірскім ваяводствах галоўную палітычную сілу складалі ўладальнікі ад адной да дзесяці вёсак, дык у Кіеве нават тыя, хто меў пяцьдзесят вёсак не адчувалі сябе ў бяспецы, калі яны не мелі знаёмых сярод уплывовай арыстакратыі, не кажучы ўжо пра нейкія іх палітычныя амбіцыі. Да ліку буйных украінскіх арыстакратычных радоў можна аднесці Вішнявецкіх, Астрожскіх, Канецпольскіх, Патоцкіх і Любамірскіх, якія валодалі тысячамі сялян ды тузінамі гарадоў і мелі свае прыватныя двары і войскі. Прадстаўляць свае тэрыторыі ў парламенце яны звычайна дазвалялі толькі сваякам ці людзям, набліжаным да іх сямей. Такім чынам, да 1648 года ва Ўкраіне дэ-факта існавала алігархічная сістэма. Пазней, пасля паўстання Багдана Хмяльніцкага, выкліканага сацыяльна-палітычнымі чыннікамі, панаванне арыстакратыі ва Ўкраіне ў першую чаргу аспрэчвала вайсковае казацтва, а не павятовая шляхта. У святле сацыяльна-палітычнага ціску з боку казакаў і сялян, украінская шляхта (прынамсі, у правабярэжнай Украіне) атрымала нагэтулькі добры ўрок класавай салідарнасці, што вымушаная была адкінуць ўсе ўнутраныя супярэчнасці.[34]

### Лабісты сямнаццатага стагоддзя

Найбольш прыкметнай і голаснай групай, асабліва ў Пасольскай ізбе, ставаліся *egzultanci* - шляхта, пазбаўленая сваёй маёмасці і выгнаная з тэрыторыяў, якія ў 1667 годзе адышлі да Расіі. Іх патрабаванні кампенсацыі за панесеныя страты знаходзілі падтрымку ў шматлікіх арыстакратаў і сенатараў (Вішнявецкіх, Развілаў, Сапегаў і Пацаў), якія таксама страцілі на ўсходзе свае латыфундыі. Не праходзіла аніводнага паседжання парламента, каб *egzultanci* не нагадалі пра сваю праблему. Яны часцяком выкарыстоўвалі тактыку зацягвання часу падчас дэбатаў, што магло прывесці да роспуска парламента. Паміж парламенцкімі сесіямі яны звярталіся з петыцыямі да сенатараў, караля і сваіх "братоў" у павятовых сейміках. Падчас міра, калі шляхта забывала пра існаванне ворагаў, *egzultanci* сваім існаваннем увесь час нагадвалі пра паразу Рэчы Паспалітай. Аднак нельга лічыць парламенцкіх прадстаўнікоў выгнанай шляхты рэваншыскай фракцыяй. Яны жадалі павярнуцца дамоў, але, пры ўмове задавальнення іх

[33] J. Ochmański, *Historia Litwy* (Wrocław, 1967), ст. 106, 111-12, 131; J. Woliński, "Koekwacja praw na Litwie 1697," у *O naprawę Rzeczypospolitej XVI-XVII w.,* (Warsaw, 1965) ст. 189-92.
[34] A. Kamiński, "The Cossack Experiment in Szlachta Democracy in the Polish-Lithuanian Commonwealth: The Hadiach (Hadziacz) Union," у *Harvard Ukrainian Studies* 1, нум. 2 (1977): 178-97. Пра ўкраінскую шляхту гл. В. Липинський *Україна на переломі*, *1657-1659* (Відень, 1920); F. Sysyn, "The Problem of Nobilities in the Ukrainian Past: The Polish Period, 1569-1684," у Ivan L. Rudnytsky, пад рэд., *Rethinking Ukrainian History* (Edmonton, 1981), ст. 29-102; T. Chynczewska-Hennel, *Świadomość narodowa szlachty ukraińskiej i kozaczyzny od schyłku XVI do połowy XVII w.* (Warsaw, 1985), ст. 56-146.

патрабаванняў што да грашовай кампенсацыі за панесеныя страты, былі гатовыя падтрымаць мірнае пагадненне паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй.[35]

Выгнанцаў падтрымлівала й шляхта тых паветаў Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага і Мінскага ваяводствах, якія сталі межаваць з Расіяй у выніку Андрусаўскага перамір'я. Яны выступалі за замацаванне мяжы паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй і стварэнне адмысловага інстытута пamежных суддзяў для мірнага вырашэннея спрэчак са сваімі расійскімі суседзямі. Памежная шляхта добра ведала расійскія рэаліі, таму менавіта яе прадстаўнікі ставаліся найлепшымі знаўцамі расійскай палітыцы ў Рэчы Паспалітай.[36]

Лабісцкія магчымасці трох цэркваў, аднак, значна пераўзыходзілі уплыў выгнанай шляхты. Наступствы мелі не толькі дзеянні царкоўных іерархаў, але, часам, і іх красамоўнае бяздзеянне. Найлепшым прыкладам апошняга стаецца амаль поўнае прыпыненне місіянерскай дзейнасці на ўсходзе і абыякавасць да лёсу сваёй расійскай паствы з боку каталіцкай царквы Рэчы Паспалітай. У сямнаццатым стагоддзі галовы каталіцкай царквы яшчэ змагаліся за страчаныя праз рэфармацыю душы і таму засяроджвалі сваю актыўнасць не на праваслаўным насельніцтве, а на пратэстантах. Пры гэтым, аднак, каталікі паслядоўна выступалі ў падтрымку ўніяцкай царквы, створанай у 1596 годзе паводле ініцыятывы вышэйшага праваслаўнага духавенства. Праваслаўныя іерархі Рэчы Паспалітай заключылі царкоўную ўнію з Рымам, але захавалі ўсходнюю абраднасць набажэнства. Падзел праваслаўя прывёў да зацятага супрацьстаяння, якое прымусіла праваслаўных вернікаў звярнуцца па абарону ад уніятаў і каталікоў спачатку да праваслаўнага казацтва, а потым і да Крамля. Цар ухапіўся за гэтую магчымасць абараніць сваіх адзінаверцаў і нават прыхавана пагражаў каралю вайной у адказ на ўціск праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай. Акрамя таго, Крэмль выкарыстоўваў праваслаўныя манастыры і суполкі ў гарадах і мятэчках Рэчы Паспалітай для дасягнення сваіх палітычных мэтаў.[37]

У сямнаццатым стагоддзі праваслаўнае духавенства Кароны сутыкнулася з няпростай дылемай – як сумясціць адданасць Рэчы Паспалітай і неабходнасць адстойваць інтарэсы праваслаўя. Паколькі гэтыя інтарэсы, асабліва пасля заключэння Вечнага міра, былі павязаныя з царом-абаронцам, большасць праваслаўных святароў вырашыла перайсці ва ўніяцтва. Праваслаўныя вернікі вельмі неахвотна следавалі за духавенствам, але напачатаку васямнаццатага стагоддзя колішнія праваслаўныя землі Рэчы Паспалітай ўжо былі збольшага уніяцкімі.[38]

Праваслаўныя ставіліся да ўніятаў з лютай нянавісцю, чаму існуе мноства сведчанняў: забойства Іасафата Кунцэвіча падчас паўстання ў Віцебску, разня ўніяцкага насельніцтва казакамі Хмяльніцкага, настойлівае патрабаванне казакаў скасаваць уніяцкую царкву, што было

---

[35] Ян Антоні Храпавіцкі, аўтар вышэйзгаданых мемуараў, сам бым бежанцам з Віцебскага ваяводства, які спачатку падтрымліваў ідэю замірэння з Расіяй, але пасля змяніў сваё гледзішча: *Diariusz*, ст. 33-34, 58-60. Гл. таксама Wójcik, *Między traktatem andruszowskim*, ст. 26-27, 50-53, 90-91.

[36] Сярод іх былі Ежы Дамінік Доўмант, амбасадар у Маскве; Самойла Ражніцкі, сакратар расійскай канцэлярыі; і прыдворныя, якіх кароль выкарыстоўваў у стасунках з Расіяй: Іван Акраса, Хрыштафор Сырут і Ян Малішэўскі.

[37] L. Bieńkowski, "Organizacja kościoła wschodniego w Polsce," у *Kościoł w Polsce*, пад рэд. J. Kłoczowski, том 2 (Cracow, 1969), ст. 781-1049; O. Halecki, *From Florence to Brest, 1439-1596* (Rome, 1958); Sysyn, *Between Poland and the Ukraine*, ст. 89-104.

[38] Bieńkowski, "Organizacja kościoła," ст. 857-59; Ф.И. Титов, под ред., Памятники православия и русской народности в западной России, том 1 (Kiev, 1905), ст. 20-29. Гл. Таксама спавешчанне пра паслабленне ўплыва праваслаўя ў Рэчы Паспалітай, падрыхтаваны чыноўнікамі Пасольскага прыказа, Центральный государственный архив Древних Актов (Москва, далей ЦГАДА), фонд 79 (Стасункі з Польшчай), № 255.

абавязковай ўмовай замірэння з Рэччу Паспалітай, і асабісты ўдзел Пятра I у забойстве ўніяцкіх манахаў у Полацку ў 1705 годзе. Нядзіва, што ў такой сітуацыі ўніяты былі зацікаўленыя ў актыўнай анты-расійскай палітыцы Рэчы Паспалітай і сцвярджалі пра небяспеку з боку праваслаўнага цара. Аднак сярод уніятаў было мала прадстаўнікоў шляхты, бо былая праваслаўная шляхта пераважна прымала ўніяцтва, а кальвінізм і каталіцтва. Такім чынам, уніяцкая царква ставалася плябейскай і магла ўплываць на рашэнні парламента толькі праз пасярэдніцтва каталіцкіх біскупаў і папскіх нунцыяў.[39] Паводле іроніі лёсу, уніяцтва, пераход у якое казакі лічылі здрадай русінскаму народу, адыграла цэнтральную ролю ва ўкраінскім нацыянальным руху ў дзевятнаццатым стагоддзі. Яно стала адным з галоўных адрозненняў украінцаў як ад праваслаўных расійцаў, гэтак і ад палякаў, якія спаведвалі каталіцтва.

Калі каталіцкая царква як такая не мела адмысловай палітычнай стратэгіі што да Расіі, дык польскія біскупы, у адпаведнасці з інтарэсамі Ватыкана, падтрымлівалі замірэнне паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй у імя “святой вайны” супраць Атаманскай імперыі. Акрамя абароны ўніяцтва, яны ўстрымліваліся ад дзеянняў, якія маглі выклікаць незадавальненне цара. Толькі іезуіты спрабавалі выкарыстаць умовы Вечнага міра на карысць каталіцкай царквы, шукаючы доступ да сваёй паствы ў Расіі. Яны хацелі дасягнуць у Маскве шэраг мэтаў: забяспечыць каталіцкае набажэнства для каталікоў на службе ў цара, распачаць у Расіі місіянерскую працу і, галоўнае, знайсці шлях у Кітай. Іезуіты былі сярод найбольш актыўных прыхільнікаў польска-расійскага супрацоўніцтва і рабілі ўсё магчымае, каб стварыць спрыяльны палітычны клімат для захавання Вечнага міра. Яны сталі першымі прадстаўнікамі заходнееўрапейскай рэлігіі, якія здолелі заснаваць місію ў расійскай сталіцы. Тым не менш, у хуткім часе іх чакала горкае расчараванне. Насуперак шэрагу артыкулаў і умоваў пагаднення, іезуітам, па-першае, не дазволілі трапіць у Кітай праз тэрыторыю Расіі, і, па-другае, у 1689 годзе, праз тры гады пасля заснавання іезуіцкай місіі ў Маскве, ім загадалі пакінуь Расію. Іезуіты, колішнія абаронцы маскоўскіх інтарэсаў у Рыме, Вене, і Варшаве, ператварыліся ў найбольш жорсткіх крытыкаў расійскага “барбарства”. Значную ролю ў падртымцы іезуіцтва ў Расіі адыгравала Рэч Паспалітая, таму ў Расіі віну за іезуіцкую экспансію на ўсход ўсклалі на Сабескага.[40]

Магчыма, што расійцаў непакоілі поспехі іезуітаў у Кітаі. “Іезуіты мяркуюць, што ў хуткім часе ўсе кітайцы будуць каталікамі,” - паведамляў расійскі пасол у Кітаі Нікалае Мілеску Спатарул (1675-1679), “але мы верым ў тое, што, з Божым блаславеннем і паводле волі цара, кітайцы ... прымуць праваслаўе.”[41] Польскія біскупы, у адрозненне ад Ватыкана, з вялікім недаверам ставіліся да крамлёўскіх цверджанняў што да зацікаўленасці Расіі ў рэлігійнай уніі з Рымам і слушна ўважалі іх за палітычныя манеўры, скіраваныя на атрыманне папскай падтрымкі.

---

[39] Найбольш уплывовы дослед стаўлення расійскіх палітыкаў да царкоўнай уніі: A. Deruga *Piotr Wielki i unici a unia kościelne* (Vilnius, 1936), ст. 1-160. Іншыя грунтоўныя доследы: A. Theiner, *Monuments historiques relatifs aux regnes d'Alexis Michaelovitch, Fedor III et Pierre le Grand, czars de Russie: Extraits des archives du Vatican et de Naples* (Rome, 1859), ст. 412; і Bieńkowski, "Organizacja kościoła," ст. 867, 875-78, 895-96, 963.

[40] Вялікалітоўскі канцлер Агінскі прасіў Галіцына дазволіць іезуітам праехаць праз Расію ў Персію: ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1688 годзе, № 3. Найлепшай манаграфіяй пра іезуітай у Маскве стаецца Joseph Sebes, *The Jesuits and the Sino-Russian Treaty of Nerchinsk* (1689) (Rome, 1961), ст. 95-100, 139. Магчыма, што расійцам не падабаліся поспехі іезуітаў у Кітаі. Нікалае Мілеску Спатарул (вядомы ў Расіі як Мікалай Гаўрылавіч Мілеску), галоўны перакладчык Пасольскага прыказа і расійскі амбасадар у Кітаі (1675-1679), выказваўся што да поспехаў місіянерскай дзейнасці іезуітаў у Кітаі; гл. *Russia, Mongolia, China*, пад рэд. John Paddeley (London, 1919). Гл. таксама згадку пра гэта ў кнізе Вінсента Чена *Sino-Russian Relations in the Seventeenth Century* (The Hague, 1966), ст. 113; пра расійскую місіянерскую дзейнасць у Кітаі гл. тамсама, ст. 112-20.

[41] Chen, *Sino-Russian Relations*, ст. 113.

Каталіцкае духавенства Рэчы Паспалітай не выношвала аніякіх амбітных планаў датычна праваслаўнага ўсходу і, рэалістычна ацэньваючы свае сілы, засяроджвала ўвагу на Рэчы Паспалітай. Каталіцкая царква не займалася ў Расіі паўнавартаснай місіянерскай дзейнасцю і не прымала якіх-колечы значных захадаў ад імя расійскіх каталікоў. З іншага боку, біскупы працягвала выступаць у абарону ўніятаў і выказвалі абурэнне расійскім ўмяшальніцтвам ва ўнутрыцаркоўныя справы Рэчы Паспалітай.

Пэўны ўплыў на стасункі паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй меў традыцыйны падзел каронных сенатараў, ўплывовых прыдворных і вышэйшага чынавенства на прыхільнікаў пра-французскага ці пра-аўстрыйскага замежнапалітычнага курса. Пачынаючы з шаснаццатага стагоддзя, палітыкі французскага лагера выступалі за мір з туркамі і распальвалі варожасць супраць Аўстрыі і яе хаўруснікаў, а з сярэдзіны сямнаццатага стагоддзя выступалі за радыкальную цэнтралізацыю ўлады ў дзяржаве. Цягам стагоддзя групоўкі ўплывовых сенатараў некалькі разоў спрабавалі пасадзіць на польска-літоўскі трон француза. Да таго ж, сам Ян Сабескі, перад тым, як стаць каралём, быў палкім прыхільнікам пра-французскай фракцыі, а яго жонка французскага паходжання Марыя Казіміра заахвочвала мужа дзейнічаць у інтарэсах Людовіка XIV. Цесць і швагер Сабескага служылі ў Варшаве ў якасці дыпламатычных дасланнікаў французскага караля.[42]

У 1672 годзе пра-французскую пазыцыю Сабескага паслабіла турэцкая акупацыя Падолля і Камянец-Падольскага. Не здолеўшы забяспечыць мірнае суіснаванне паміж сваімі ўсходнімі хаўруснікамі, Францыя не магла прадухіліць поўную пераарыентацыю знешнепалітычнага курса Рэчы Паспалітай, у выніку чаго ў 1683 годзе паўстаў польска-вялікалітоўска-аўстрыйскі хаўрус. Аднак паразуменне паміж Сабескім і аўстрыйскім імператарам Леапольдам I трывала нядоўга, бо абедзьве дзяржавы прэтэндавалі на Малдавію, Валахію і Трансільванію.[43]

Аўстрыйскія вайсковыя поспехі, нежаданне Габсбургаў задаволіць тэрытарыяльныя прэтэнзіі Рэчы Паспалітай і агульная стомленасць ад вайны далі Францыі магчымасць выправіць стасункі паміж Стамбулам і Варшавай. Прыхільнікі пра-французскай знешнепалітычнай арыентацыі згадвалі пра значныя страты, якія панесла краіна праз удзел у Святым Альянсе - у прыватнасці, пра страту ўсёй левабярэжнай Украіны і Смаленска. Аўстрыйская партыя, якая ў 1691 годзе атрымала дадатковы казыр у выглядзе шлюба старэйшага сына Сабескага з сястрой жонкі імператара Леапольда, абараняла Вечны мір і заклікала працягваць вайны з туркамі.[44]

Аніводная групоўка не мела акрэсленай доўгатэрміновай палітыцы што да Расіі. Больш за тое, у апошнія гады сямнаццатага стагоддзя стасункамі з Крамлём не цікавіліся нават у павятовых сойміках. Гэта тлумачыць, чаму кароль і яго найбліжэйшыя дарадцы мелі поўную свабоду дзеянняў у стасунках з царом. Аднак іх захады, як будзе даведзена ў шостай і сёмай главах, выявіліся блага прадуманымі і нязграбна ўцеляснёнымі і ў выніку спрычыніліся да замацавання расійскіх пазіцыяў ва Украіне.

---

[42] Tadeusz Korzon, *Dola i niedola Jana Sobieskiego, 1629-1674*, том 3 (Cracow, 1898), ст. 216-80, 429-508; Wójcik, Jan Sobieski, ст. 104-24, 155-94, 281-82, 288, 362-63, 406-407, 411-13. Войцік высоўвае шэраг аргументаў, якія абвяргаюць высновы Карзона. Розніцу ў інтэрпрэтацыях можна аднесці да працяглага канфлікта паміж "рэспубліканцамі" (варшаўская школа) і "манархістамі" (кракаўская школа) польскай гістарыяграфіі. У сваёй ацэнцы дзейнасці Сабескага і кіраўніцтва Рэчы Паспалітай у сямнаццатым стагоддзі я больш схіляюся да пазіцыі Карзона, чым Войціка.

[43] Kazimierz Piwarski, *Między Francją a Austrją*, ст. 1-9, 113-28, 151-54; Wójcik, *Jan Sobieski*, ст. 315-18.

[44] Wójcik, *Jan Sobieski*, ст. 320-54.

## Расія

Нягледзячы на тое, што па мерках сямнаццатага стагоддзя, Рэч Паспалітая лічылася вельмі вялікай краінай, яна значна саступала маскоўскай дзяржаве, чыя плошча, разам з маланаселеным Сібірам, складала пяць мільёнаў дзевяцьсот тысяч квадратных кіламетраў. У склад яе пятнаццацімільённага шматнацыянальнага насельніцтва дзяржавы ўваходзілі расійцы, украінцы (вядомыя спачатку як чаркасы, а пазней маларасійцы), татары, данскія казакі, калмыкі і шматлікія цюркскія плямёны. Большасць жыхароў Масковіі ставаліся праваслаўнымі і жылі ў еўрапейскай частцы краіны, але значная частка насельніцтва, пераважна ўздоўж ніжняга цячэння Волгі, спаведвала Іслам. Акрамя гэтага, вакол Масквы і Архангельска існавалі маленькія анклавы каталікоў, лютэран і кальвіністаў - галоўным чынам, замежнікаў на службе ў цара. Габрэям стала сяліцца ў Масковіі не дазвалялася ажно да падзелаў Рэчы Паспалітай. Насельніцтва краіны падзялялася на *людзей служылых* (1,5%), якіх гісторыкі часам параўноўваюць з еўрапейскай арыстакратыяй, і *людзей цяглых* – “падаткапавінных” сялян і гараджан. Прадстаўнікі адносна невялікай групы *людзей служылых* істотна адрозніваліся адзін ад аднаго ў сваім сацыяльным і палітычным статусе ў залежнасці ад таго, дзе яны служылі, у Маскве ці ў правінцыі.[45]

### Аўтакрат

Велізарную краіну яднала аднаасобная ўлада цара. Паўнамоцтвы маскоўскага цара пераўзыходзілі не толькі магчымасці выбарнага польска-літоўскага караля, але й спадчынных манархаў Еўропы, якія сцвярджалі, што права кіраваць дадзенае ім Богам. З улікам таго, што цар ставаўся і свецкім, і духоўным галавой дзяржавы, нават найдрабнейшая крытыка ў яго бок лічылася здрадай ці блюзнерствам. Акрамя таго, лічылася, што толькі цар мог вызначаць праўду і здзяйсняць правасуддзе і што аніводны падданы не меў права адмовіцца выконваць царскую волю, бо гэта супярэчыла або закону, або традыцыям. Традыцыі і закон накладалі пэўныя абмежаванні й на саміх цароў, але некаторыя манархі, у прыватнасці, Іван IV Жахлівы і Пётр I, іх абыходзілі.

На працягу сямнаццатага стагоддзя ўлада маскоўскага манарха паступова зрастала і ў выніку пранікла ва ўсе сферы жыцця – традыцыі, законы і нават рэлігію. Майкл Чарняўскі, які даследаваў паступовую трансфармацыю ўспрыняцця галавы маскоўскай дзяржавы ад “святога” сярэднявечнага князя да цара-бацюхны, адзначае, што пасля Часу Смуты (1604-1613) цар пачынае асацыявацца з дзяржавай, а яго кіраванне набывае абсалютысцкі і сакральны характар.[46] Канфлікт паміж патрыярхам Ніканам і Аляксеям Міхайлавічам датычна права цара ўмешвацца ў справы царквы сведчыць, наколькі магутнай стала царская ўлада ў сямнаццатым стагоддзі. У змаганні супраць цара, Нікан не здолеў дамагчыся падтрымкі скліканага ў Маскве царкоўнага Сінода. На Сінодзе прысутнічалі два іншыя праваслаўныя патрыярхі, якія славілі цара ў духоўных і мірскіх справах, але прапанавалі, каб цар і Нікан заставаліся ў межах сваёй

---

[45] *Очерки истории СССР. Период феодализма*, под ред. Н.М. Дружинина (Москва, 1955), ст. 321-28. Пра *служылых людзей* гл. С.Б. Веселовский, *Исследования по истории класса служилых землевладельцев* (Москва, 1969); Richard Hellie, *Enserfment and Military Change in Muscovy* (Chicago and London, 1971), ст. 48-74.

[46] Michael Cherniavsky, "The Old Believers and the New Religion," у *The Structure of Russian History*, пад рэд. M. Chemiavsky (New York, 1970), ст. 144-57. Marc Raeff, *Understanding Imperial Russia* (New York, 1984) ст. 4-6.

кампетэнцыі. Нягледзячы на гэта, Аляксей Міхайлавіч працягваў умешвацца ў царкоўныя справы, а Пётр І сімвалічна скасаваў нават самую пасаду патрыярха.[47]

Нават калі цар быў няздольны выконваць свае абавязкі з прычыны непаўнагоддзя ці, наадварот, пахілага веку, найбліжэйшыя дарадцы вялі дзяржаўныя справы ад імя цара. Пасля Часу Смуты неабходнасць аўтакратычнай улады ў Расіі нават не аспрэчвалася, таму выслаўленне імя і пасады цара набыло памеры, нямыслімыя для заходняга свету. Усе еўрапейскія дыпламаты мусілі выказваць пашану сваім уладарам, але ані ў воднай краіне не існавала нагэтулькі жорсткага кодекса паводзінаў, якога мусілі прытрымлівацца царскія падданыя. У размовах з замежнымі паслам ім было забаронена згадваць пра неўраджаі, вялікія павадкі, эпідэміі, бо гэта магло пашкодзіць царскай рэпутацыі. Акрамя таго, забаранялася вызнаваць вайсковыя паразы і невыкананне царом дыпламатычных пагадненняў. У выніку, расійскія дыпламаты рэгулярна траплялі ў бясконцае кола хлусні, што шкодзіла выкананню даручаных ім місіяў.[48] Сакральную ролю цара падтрымлівалі й патрыярхі ўсходняй праваслаўнай царквы. Падобна кітайскім імператарам, цар быў цэнтрам закрытага для знешняга міра праваслаўнага сусвета.[49]

Тым не менш, недатыкальны статус маскоўскіх манархаў не ратаваў іх ад палацавых інтрыг ці сацыяльных і палітычных перарухаў. Нягледзячы ні на што, цароў ганілі, а іх міністраў і фаварытаў забівалі. Замахі рабіліся нават на жыццё саміх манархаў. Тым не менш, для простых маскоўцаў цар заўсёды заставаўся аб'ектам пакланення, гарантам справядлівасці і ўладаром іх лёсаў і жыццяў. Паўстанні сямнаццатага і васямнаццатага стагоддзяў не былі скіраваныя супраць ідэі аўтакратыі. Бунтары або высоўвалі на трон свайго кандыдата, або йшлі на Маскву, каб вызваліць цара-бацюхну з-пад уплыва зламысных дарадцаў. Культ цара нават выклікаў абурэнне пэўнай часткі кансерватыўнай праваслаўнай апазыцыі, незадаволенай аляксееўска-ніканаўскай абраднай рэформай. Перад апазіцыяй непазбежна паўстала праблема выступлення супраць цара, што ставалася нямыслімым для сапраўднага праваслаўнага хрысціяніна. У выніку, стараабрадцы былі вымушаныя абвесціць цара антыхрыстам, а яго загады - д'ябальскімі.[50] Радыкалізм гэтага выйсця стаецца асабліва відавочным у параўнанні з тым, як у сярэдневеччы падыходзіла да падобных праблемаў каталіцкая царква: у Еўропе было дастаткова проста паддаць манарха анафеме і вызнаваць яго тыранам. З прычыны таго, што цару ў расійскай дзяржаве і грамадстве было наканавана выконваць ролю бога, у стараабрадцаў не заставалася іншага выбару, як абвесціць яго д'яблам.

### Адміністрацыя і дзяржаўны апарат

Аніводны цар у сямнаццатым і васямнаццатым стагоддзях не мог карыстацца сваімі неабмежаванымі заканадаўчымі, выканаўчымі і судовымі паўнамоцтвамі не абапіраючыся на шэраг традыцыйных і новастворанных дзяржаўных інстытутаў. Каб зразумець тагачасныя ўладныя працэсы ў Расіі, неабходна прааналізаваць склад і абавязкі такіх установаў, як

---

[47] James Cracraft, *The Church Reforms of Peter the Great* (Stanford, 1971) ст. 63-210. Cherniavsky, "Old Believers," ст. 140-88. Н.Ф. Каптерев, *Патриарх Никон и Царль Алексей Михайлович*, тома 1-2 (Сергиев Посад, 1909-1912).
[48] Гл. главу 3. Цікавыя заўвагі пра сімвалы ў Расіі і маніпуляванне імі: Edward Keenan, "Muscovite Political Folkways," *Russian Review* 45 (1986): 128-45.
[49] Пра пазіцыю, якую заняў кітайскі імператар, гл. Mark Mancal, *Russia and China: Their Diplomatic Relations to 1728* (Cambridge, Mass., 1971).
[50] Cherniavsky, "Old Believers," ст. 149-59. Гл. таксама Robert Crummey, *The Old Believers and the World of the Anti-Christ: The Vyg Community and the Russian State, 1694-1855* (Madison, 1970).

Баярская Дума (царская рада), *Земскі сабор* (прадстаўнічы сход) і *Прыказы* (міністэрствы), а таксама іх дачыненні з манархам і насельніцтвам.

Найстарэйшы з палітычных інстытутаў, Баярская Дума, паходзіў з ранняга Сярэднявечча. Дума нагадвала еўрапейскую каралеўскую раду і складалася з найуплывовейшых царскіх дарадцаў і галоваў войска. У сямнаццатым стагоддзі ў кампетэнцыю Баярскай Думы ўваходзіла кансультаванне цара па пытаннях знешняй палітыцы, і вырашэнне шырокага спектра пытанняў па прадстаўленні цара. Думу ўхваляла інструкцыі для расійскіх дыпламатаў за мяжой і разглядала іх спавешчанні. Яе чальцам звычайна даручалася вядзенне перамоваў з замежнымі дзяржавамі. Прызначэнне ў Думу было пажыццёвым, але ў парушэнне гэтага правіла цар пазбаўляў няўгодных яму думцаў іх пасадаў. Сярод 150 чальцоў думы былі баяры, акольнічыя, думныя дваране і думныя дзякі.

Чын баярына надаваўся толькі найвыбітнейшым царскім падданым, але ў сямнаццатым стагоддзі рэзкае павелічэнне іх колькасці знівелявала баярскі статус. Так, напачатку стагоддзя ў Расіі налічвалася толькі 12 баяраў, а напрыканцы – ажно 75. Тым не менш, баярскія тытулы мелі ўсе набліжаныя да цара міністры, генералы і мясцовыя палітыкі. Наступнымі па ўплывовасці пасля баяраў ставаліся акольнічыя. Да баяраў і акольнічых належалі прадстаўнікі старажытных арыстакратычных радоў, якія мелі кроўную роднасць з дынастыямі Рурыкавічаў, Гедымінавічаў і Раманавых, прадстаўнікі выбітных радоў, якія паходзілі ад набліжаных дарадцаў сярэднявечных маскоўскіх князёў, і некаторыя сваякі цара па шлюбе. Чын думных дваранаў можна было атрымаць за вайсковыя заслугі, адданую службу ў дзяржаўным апараце ці пры царскім двары. Ніжэйшы думны ранг быў прадстаўлены дзякамі (звычайна чатырма) – прафесійнымі чыноўнікамі нешляхецкага паходжання на чале з галавой Пасольскага прыказа. Пасада апошняга адпавядала ў Рэчы Паспалітай пасадзе падканцлера.[51]

Сістэма чыноў у баярскай Думе, дзяржаўным апараце як такім, войску і судах звалася месніцтвам. Яно грунтавалася на кроўных сувязях, заслугах продкаў перад царом і асабістых дасягненнях чалавека. Гэтая сістэма шмат ў чым нагадвала рангавыя іерархіі большасці краін заходняй Еўропы, але адрознівалася ад польскага, венецыянскага і іспанскага аналагаў тым, што ў Расіі прыярытэт надаваўся паходжанню, а роля асабістых заслуг зводзілася да мінімума. На справе гэта мела сур'ёзныя наступствы. Так, прадстаўнік нешляхецкай сям'і, які атрымаў чын баярына і прызначэнне на высокую дзяржаўную ці вайсковую пасаду, нягледзячы на свой новы статус, не меў перавагі над нашчадкамі старажытных арыстакратычных радоў у Думе, падчас прыдворных цэрэмоніяў і г.д.. Выключэнне не рабілася нават для царскага цесця. Больш за тое, прадстаўнікі старой арыстакратыі адмаўляліся служыць "новым людзям". Паводле правілаў месніцтва, падпарадкаванне "навічку" кідала цень на сям'ю спадкаемнага арыстакрата і прыніжала яе годнасць. Каб пазбегнуць ганебных для сябе прызначэнняў, арыстакраты йшлі на падман - імітавалі хваробы, наносілі сабе раны, ці проста адмаўляліся выконваць загады начальства. Непаслушэнства каралася прылюднай вымовай, цялесным пакараннем або нават ссылкай у Сібір, але ўсё гэта лічылася больш годным, чым падпарадкаванне загадам чалавека, ніжэйшага па паходжанні. Канфлікты, якія спараджала сістэма месніцтва, істотна ўскладнялі

[51] Robert Crummey, *Aristocrats and Servitors: The Boyar Elite in Russia, 1613-1689* (Princeton, 1983), ст. 12-33. В.О. Ключевский, Боярская дума древней Руси (Москва, 1909).

вядзенне войнаў, мірных перамоў і кантроль за дзейнасцю мясцовай улады. У Думе месніцтва спараджала суцэльны вэрхал: яно не толькі перашкаджала кіраваць дзяржавай і войскам, але й спрыяла падзелу Думы на варагуючыя фракцыі. За Іванам Жахлівым на час буйных вайсковых аперацыяў месніцтва прыпынялася, а ў 1682 цар Фёдар наогул скасаваў гэты інстытут.[52]

Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што сістэма месніцтва, у прыватнасці, праз падтрыманне варажнечы паміж баярамі, спрыяла развіццю аўтакратыі і стрымлівала мадэрнізацыю краіны.[53] Варта адзначыць, што скасаванне сістэмы адбылося ў перыяд царавання Фёдара Аляксеевіча, вельмі слабога цара, пры актыўным удзеле яго дарадцаў. Варыянтаў вырашэння праблемы месніцтва было шмат. Чальцы Думы падтрымалі план, які прадугледжваў ператварэнне Думы ў сенат, з іерахіяў у адпаведнасці з міністэрскімі пасадамі. У выніку скасавання месніцтва паўстала сістэма чыноў, заснаваная на прызначэнні на пасаду, за якой замацоўваліся пэўныя прывілегіі. Планавалася, што новая сістэма паспрыяе большай знітаванасці Сената. Праз пэўны час Пётр I пашырыў і фармалізаваў новую ўстанову – большы доступ у Сенат атрымалі прафесійныя чыноўнікі і правінцыйнае дваранства. Такім чынам, ён спыніць працэс гуртавання і зрастання ўпэўненасці ў сваіх сілах у вышэйшых слаях арыстакратыі.

Той факт, што ўплыў Баярскай думы абмяжоўваўся ўнутраным супрацьстаяннем у ёй і што яна выконвала выключна дарадчыя функцыі, а не ставалася заканатворчым органам, не памяншае ані ролі баярства ў расійскім грамадстве, ані патэнцыйную пагрозу, якую баяры неслі ўладзе цара. Баярства заставалася найбольш уплывовым, найлепш арганізаваным і адукаваным класам у краіне. Акрамя таго, яны былі адзінай групай, якая ўсвядомлівала сваю патэнцыйную палітычную моц. Менавіта баяры вырашалі лёс краіны ў перыяды безцаравання. У Час Смуты яны спрабавалі не толькі забяспечыць свае інтарэсы, але й дамагчыся такога распадзела ўлады, каб кіраваць дзяржавай разам з царом.[54]

Жаданнем цара абмежаваць уплыў баяраў можна, прынамсі часткова, вытлумачыць паўстанне іншай дзяржаўнай установы - Земскага сабора. У супрацьвагу баярам цар выкарыстоўваў іншых служылых людзей - галоўным чынам, правінцыйную шляхту, якая баялася, што чальцы Баярскай Думы адбяруць іх землі.[55] Земскі сабор, сход прадстаўнікоў самых розных сацыяльных груп, склікаўся царом на нерэгулярнай аснове з сярэдзіны шаснаццатага да сярэдзіны сямнаццатага стагоддзя, каб абмеркаваць пытанні падаткаабкладання, вайны, міра і, у 1613 годзе, для абрання новага цара. Як дзяржаўны інстытут, Земскі сабор меў дваісты характар – яго чальцы як абіраліся, гэтак і прызначаліся. У лепшым выпадку, Земскі сабор ставаўся зародкавым парламентам. Але яму бракавала шэрагу істотных элементаў сапраўднага парламента: па-першае, цар не быў абавязаны рэгулярна склікаць Сабор, а па-другое, абмеркаваныя і прынятыя Саборам рашэнні малі кансультатыўны характар.

[52] С.О. Шмидт, “Местничество и абсолютизм (постановка вопроса),” у *Абсолютизм в Росии (XVII-XVIII в.)*, под ред. Н.М. Дружинина (Москва, 1964), ст. 168-205.
[53] Гэтае пытанне добра асветленае ў М.Я. Волков, "Об отмене местничества в России," у *История СССР* 22 (1977), нум. 2: 53-67. Гл. таксама таго ж аўтара, "О становлении абсолютизма в России," *История СССР* 15 (1970), нум. 1: 90-104.
[54] Б.Н. Флория, Русско-польские отношения и политическое развитие восточной Европы во второй половине XVI – начале XVII в. (Москва, 1978), ст. 274-85.
[55] Пра барацьбу *служылых людзей* з маскоўскімі "моцнымі людзьмі", гл. Richard Hellie, *Enserfment and Military Change in Muscovy* (Chicago and London, 1971), гл. 48-74.

Пасля Часу Смуты Земскі сабор прымаў рашэнні па “відавочных” праблемах унутранай і знешняй палітыцы. Падвышэнне ролі Сабора абумовілі дзве беспрэцэдэнтныя для Расіі на той момант гістарычныя акалічнасці. Па-першае, новая дынастыя Раманавых сутыкнулася з крызісам легітымнасці Па-другое, напачатку сямнаццатага стагоддзя з уладнага вакуума на палітычнай арэне з’явілася новая кааліцыя гарадоў, казакаў і правінцыйнай шляхты. Склікаючы Сабор, цар планаваў атрымаць народную параду ў сітуацыях, калі трэба было рабіць цяжкі выбар. Акрамя таго, удзел у працы Сабора надаваў найбольш актыўным сацыяльным групам магчымасць выказаць галаве дзяржавы свае скаргі, у большасці выпадкаў скіраваныя супраць чальцоў Думы, і дабіцца ад апошніх грашовай кампенсацыі. Сабор меў вырашальны ўплыў на будучую структуру ўлады ў Расіі і шэраг значных заканадаўчых актаў, ухваленых на падставе яго рашэнняў. Так, у 1649 годзе, паводле вынікаў працы Сабору, скліканага пасля буйных народных паўстанняў, быў прыняты першы агульны звод законаў маскоўскай дзяржавы – *Саборнае Улажэнне.*

Памеры і склад Сабора істотна вагаліся. Прымаючы пад увагу яго прадстаўнічы характар (там былі прадстаўленыя амаль усе сацыяльныя групы насельніцтва - гараджане і сяляне, жыхары сталіцы і правінцыі, духавенства), цары мусілі ўхваліць прынамсі некаторыя з ягоных рашэнняў. Аднак робячы саступкі іншым групам насельніцтва, манархі звычайна павялічвалі сваю ўладу за кошт паўнамоцтваў вышэйшага маскоўскага баярства. Калі пагроза з боку баярства мінала, знікала й патрэба ў Саборы. Тым не менш, нягледзячы на ўсе вышэйадзначаныя абмежаванні, Сабор ставаўся значным дарадчым органам агульнанацыянальнага маштаба і найбольш прадстаўнічай установай Расіі ў шаснаццатым і сямнаццатым стагоддзях. Аднак па прычыне недастатковай развітасці мясцовага самакіравання ён не здолеў стаць той сілай, якая б узяла на сябе адказнасць за правядзенне сацыяльных і палітычных рэформаў у дзяржаве. Сабору не хапала падтрымкі мясцовых выбарцаў, што б дазволілі яму прымаць рашэнні незалежна ад волі цара.[56]

У паўсядзённым функцыянаванні расійскай уладнай сістэмы значную ролю адыгравалі заснаваныя ў шаснаццатым і сямнаццатым стагоддзях шматлікія аддзелы ці міністэрствы, якія называліся *прыказамі*. Яны адлюстроўвалі тэндэнцыю да цэнтралізацыі і мадэрнізацыі сістэмы дзяржаўнага кіравання. У прыказах працавалі ўплывовыя служылыя людзі нешляхецкага паходжання – *дзякі* і *паддзячыя*. Прыказы кіравалі пэўнай тэрыторыяй, напрыклад, Казанню, Сібірам ці Маларасіяй, або выконвалі ролю дзяржаўных міністэрстваў, якія адказвалі за замежныя ды царкоўныя справы, падтрыманне парадка, дзяржаўны скарб, войска ці прызначэнні на дзяржаўныя пасады. Існавалі й адмысловыя прыказы, як, напрыклад, *Аптэкарскі прыказ*, у функцыі якога ўваходзіла забеспячэнне лекамі цара і ягонага двара ды *Пушкарскі* або *Канюшанны прыказ*. Усяго налічвалася семдзесят прыказаў, укамплектаваных кампетэнтнымі бюракратамі. Кожаы прыказ ачольваў чалец Баярскай Думы. Калі цар прымаў рашэнне, ажыццяўляць яго даручалі аднаму ці некалькім прыказам.[57]

Напрыклад, калі цар загадаў даслаць у Рэч Паспалітую амбасадара, Пасольскі прыказ мусіў падрыхтаваць інструкцыі і прызначыць персанал дыпламатычнай місіі. Стралецкі прыказ

[56] Л.В. Черепнин, "Земские соборы и утверждение абсолютизма в России," у *Абсолютизм в России*, ст. 92-133; John Keep, "The Decline of the Zemsky Sobor," *Slavonic and East European Review* 36 (1957): ст. 100-122; той самы аўтар, "The Muscovite Elite and the Approach to Pluralism," *Slavonic and East European Review* 48 (1970): 201-32.
[57] Н.В. Устюгов, "Эволюция приказного строю русского государства в XVII в.," у *Абсолютизм в России*, ст. 134—67.

забяспечваў дыпламатаў аховай. Манастырскі прыказ выпраўляў у Варшаву праваслаўнага святара, а Казанскі ці Сібірскі прыказы забяспечвалі дыпламатаў каштоўнай футрай для разлікаў замест грошай.[58]

Значную долю працоўнага часа ўрадоўцаў у сямнаццатым стагоддзі займала міжпрыказнае ліставанне, пра што сведчаць велізарныя архівы прыказаў. Акрамя таго, іх дзейнасць запавольвала й канкурэнцыя паміж галовамі прыказаў. Каб пазбегнуць міжпрыказавага суперніцтва і засярэдзіць рэальную ўладу ў руках кампетэнтных і адданых чыноўнікаў, галовамі ключавых прыказаў прызначаліся набліжаныя да цара дарадцы ці чальцы царскай сям'і. Так, напрыклад, з 1682 па 1689 год галавой Пасольскага прыказа быў Васілі Галіцын. Акрамя таго, Галіцын ачольваў тры вельмі значныя вайсковыя прыказы – Іназемны, Рэйтарскі ды Пушкарскі - і Маларасійскі прыказ, які вёў украінскія справы. Пасля дзяржаўнага пераварота 1689 года на чале найбольш уплывовых прыказаў сталі Ціхан Стрэшнёў, Барыс Галіцын і Фёдар Пушкін.[59]

Варта адзначыць, што канцэнтрацыя ўлады ў руках давераных асобаў цара не толькі спрыяла цэнтралізацыі ўлады ў краіне, але і садзейнічала таму, што паўсядзённая працай прыказаў займаліся прафесійныя ўрадоўцы. Кожны царскі дарадца ачольваў некалькі прыказаў і таму не мог (ці не хацеў) займацца руціннай працай кожнага з іх. Калі дасвядчаны дзяк пагаджаўся на другую ці трэцюю па ранзе пасаду ў прыказе, яго ўменні і добрае веданне персанала дазвалялі яму забяспечыць сабе адную з ключавых ролей у функцыянаванні ўстановы. Паводле настаўлення цара, галовы прыказаў мусілі па ўсіх значных пытаннях шукаць парады гэтых прафісіянальных нешляхецкіх чыноўнікаў. Менавіта дзякуючы намаганням апошніх грувасткая па форме расійская сістэма дзяржаўнага кіравання ставалася дзейнаснай.

Адзіны погляд на прозвішчы прафесійных урадоўцаў сведчыць, што прафесійная расійская бюракратыя ставалася спадчыннай, то бок пасады перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Той, хто паспяхова рухаўся ўгору па кар'ернай лесвіцы і здабываў пасаду дзяка, забяспечваў сабе высокае палажэнне ў грамадстве і фінансавы дабрабыт. Большасць дзякаў і паддзячых, агулам яны станавілі прыблізна тысячу чалавек, жылі ў Маскве і ўтваралі адзіны з вышэйшых слаёў дзяржаўных чыноўнікаў. Пры гэтым, аднак, варта заўважыць, што праз сваё сацыяльнае паходжанне яны атаясамлялі сябе хутчэй не з прыдворнай знаццю, а з самім урадам.[60]

Галовы ключавых прыказаў (якіх было ад пяці да пятнаццаці) ставаліся царскімі "найбліжэйшымі дарадцамі" і падчас войнаў камандавалі расійскім войскам. З іх дапамогай цар кантраляваў дзяржаўны апарат, войска, ахову і дыпламатычную службу. Кіраванне рэгіёнамі ажыццяўлялася праз іншую групу ўплывовых урадоўцаў – ваяводаў, якіх прызначалі на трохгадовы тэрмін. Ваяводы валодалі вельмі шырокімі паўнамоцтвамі на рэгіянальным узроўні – у іх руках канцэнтравалася вышэйшая судовая, адміністратыўная і вайсковая ўлада. Ваяводаў вялікіх рэгіёнаў (Кіева, Ноўгарада, Архангельска, Смаленска) абіралі з ліку найбольш надзейных чальцоў Думы.[61]

[58] Дакументы датычна місіі Вазніцына ў Рэч Паспалітую ў 1688 годзе, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1688 годзе, № 4.
[59] Crummey, *Aristocrats and Servitors*, ст. 33, 54-58, 43, 199.
[60] Тамсама, ст. 164-68, 174. Найбольш поўны спіс дзякаў і паддзячых змешчаны ў С.В. Веселовский, *Дьяки и подьячие XV-XVII вв.* (Москва, 1975).
[61] Аналіз прызначэнняў на гэтыя пасады і людзі, якія, стваралі найбольш уплывовыя клікі, даводзяць дадзеную тэзу.

У склад вышэйшага кіраўніцтва дзяржавы ўваходзіла 20-30 чалавек. Яшчэ прыблізна каля 200 кіраўнікоў прыказаў і ваяводаў стваралі другае ўладнае кола. У абедзьвюх групах колькасна пераважалі сваякі цара і арыстакраты. Эфектыўнасць іх працы ў пэўнай ступені залежала ад прафесійнага досведу і ўзроўню іх адукацыі. Варта адзначыць, што прадстаўнікі расійскіх уладных колаў рэдка навучаліся за мяжой, і ім бракавала фармальнай адукацыі. Звычайна іх навучалі прыватныя настаўнікі. Выкладаннем замежных моў, галоўным чынам лацінскай і польскай, займаліся шматлікія выхадцы з украінскіх, польскіх і беларускіх зямель. Менавіта дзякуючы апошнім маладыя прадстаўнікі расійскай эліты перанялі заходнія погляды і манеры задоўга да рэформаў Пятра I. Іх адукацыя ставалася прыктычна арыентаванай, прычым адным з яе неад'емных складнікаў было азнаямленне з атрыманай ведай чальцоў сваіх сем'яў. Светапогляд маладых людзей, якія атрымалі еўрапейскую адукацыю, значна адрозніваўся ад светаўспрыняцца правінцыйных чыноўнікаў. Нягледзячы на тое, што Міласлаўскія, Галіцыны, Мацвеевы, Празароўскія і прадстаўнікі іншых уплывовых радоў яшчэ не размаўлялі па-французску і не прызвычаіліся праводзіць вакацыі ў Парыжы, Бадэне й Ніцы, дзякуючы сваёй лацінска-польскай адукацыі, яны былі нагэтулькі ж адарваныя ад рэшты расійскага грамадства, як і іх французскамоўныя нашчадкі.

Заможнасць дзяржаўнай эліты, якая часцяком валодала шыкоўнымі палацамі ў Маскве і правінцыі, забяспечвалі прыбытак ад зямельных уладанняў і шчодрыя царскія ўзнагароды за службу. Тым не менш, яе фінансавыя магчымасці яшчэ значна саступалі магчымасцям Радзівілаў, Патоцкіх, Канцапольскіх ці Вішнявецкіх. Напрыканцы сямнаццатага стагоддзя найбольш заможны расіец валодаў некалькімі тысячамі сялянскіх гаспадарстваў, што, безумоўна, уражвае, але гэта не йшло ані ў якае параўнанне з латыфундыямі польска-літоўскіх магнатаў.[62]

## Рэформы і мадэрнізацыя

Адданае служэнне чынавенства цару Аляксею Міхайлавічу падарвала ўплыў Баярскай Думы і абумовіла паступовую страту пазіцыяў Земскага сабора. Заняпад абедзьвюх установаў дазволіў цару даручыць ўрадоўцам ажыццявіць маштабныя дзяржаўныя рэформы. Шмат у чым тагачасная сітуацыя ў Расіі нагадвала становішча ў вялікіх еўрапейскіх краінах, але прорва паміж кіраўніцтвам дзяржавы і рэштай расійскага грамадства ставалася нагэтулькі вялікай, што манарх і дзяржаўны апарат мелі ў краіне нічым не абмежаваную ўладу. Усё гэта дазваляла ім не лічыцца з патрабаваннямі якіх-колечы сацыяльных груп, але, разам з тым, яны згубілі магчымасць скарыстацца народнай падтрымкай для далейшай мадэрнізацыі краіны.[63]

У існых умовах неабходныя рэформы праводзіліся з як мага большым захаваннем старых форм і звычаяў, каб пазбегнуць непажаданых грамадскіх канфліктаў. Менавіта гэткай стратэгіі прытрымліваўся Аляксей Міхайлавіч. Ён здабыў для Расіі Украіну і далучыў да яе азіяцкія стэпы і Сібір. Ён напаўніцу скарыстаўся еўрапейскім досведам і тэхналогіямі - заходніх афіцэраў у тагачасным расійскім войску і заходніх спецыялістаў у шахтах і на фабрыках была нагэтулькі ж шмат, як і за часам Пятра I. Аляксей Міхайлавіч пазычыў на Захадзе не толькі тэхналогіі - ён адкрыў краіну заходнім ідэям і палітычнай філасофіі. Як і

---

[62] H. Wisner, *Najjaśniejsza Rzeczpospolita. Szkice z dziejów Polski szlacheckiej XVI-XVII wieku* (Warsaw, 1978), ст. 237-38; Crummey, *Aristocrats and Servitors*, ст. 115, табліца 2; Czapliński and Długosz, *Życie codzienne*, ст. 71-82.

[63] Гэта даведзена ў манаграфіі Марка Раэфа, *The Well-Ordered Police State* (New Haven, 1983), ст. 251-57; Keep, "Muscovite Elite," ст. 201-232; H. J. Torke, "Oligarchie in der Autokratie: Der Machtverfall der Bojarenduma im 17. Jahrhundert," in *Forschungen zur osteuropäischen Geschichte* 24 (1978): 179-201.

Людовік XIV, расійскі манарх захапляўся Агапітам,[64] чые погляды ён лічыў больш спрыяльнымі для свайго аўтакратычнага праўлення, чым больш сучасныя працы Жана Бадэна і Юста Ліпсія. Пры гэтым, прымаючы пад увагу расійскі гонар, Аляксей Міхайлавіч не капіяваў заходнія звычаі. Ён заахвочваў эміграцыю ў Маскву адукаваных украінцаў, і ў выніку заваявання Кіева атрымаў сацыяльную групу, якая магла дапамагчы яму мадэрнізаваць краіну.

Эканамічная палітыка Аляксея Міхайлавіча, якая мела ў сабе шэраг рысаў меркантылізму, была скіраваная на аднаўленне працы шахт і мануфактураў, павелічэнне дабычы сыравіны, спрыянне ўнутранаму і знешняму гандлю. Усе гэтыя ініцыятывы прасочваюцца ў Новатарговым уставе, які абараняў правы расійскіх купцоў і прадпрымальнікаў.[65] Яго вайсковыя рэформы, цэнтралізацыя дзяржаўнага апарата, спробы правесці ва ўладу людзей нешляхецкага паходжання не могуць не ўражваць. Ён здолеў прыняць новы звод законаў, які замацоўваў абсалютысцкі характар палітычнай сістэмы Расіі і акрэсліваў новыя правы царскіх чыноўнікаў. Яго апошняе дасягненне не пераўзыйшоў аніводны расійскі цар да Кацярыны II.

Ва ўцелясненні сваіх рэформаў, якія паставілі пад пагрозу традыцыйную ролю баярскай і царкоўнай эліты, Аляксей Міхайлавіч абапіраўся на чынавенства, палацавую ахову (стральцоў), прыдворную знаць і палкі свайго “новага войска”.[66]

Па меры таго, як Расія набірала моц і выйшла на шлях мадэрнізацыі, цары ўсё вастрэй адчувалі патрэбу ў адукаваных і дасведчаных чыноўніках. Каб папоўніць шэрагі спадчынных урадоўцаў і колькасна нестабільную групу замежных дарадцаў, цары прымушалі арыстакратаў і прыдворных набываць навыкі дзяржаўнага кіравання і тэхнічную веду. Праз спехам складзеныя ўказы цары намагаліся перадаць сваё аптымістычнае бачанне “новай Расіі” маладым чыноўнікам. Але іх высілкі выявіліся беспаспяховымі – як і ўсе ўтопіі тыранаў, яны сутыкнуліся з грамадскім непрыняццем царскіх наваўводаў. Прыгожая рыторыка Крамля яшчэ не рабіла Расію прававой дзяржавай, дзе ўрадавыя рашэнні ажыццяўляліся пры падтрымцы грамадства. Цары намагаліся выправіць сітуацыю апрабаваным шляхам глыбейшых адміністратыўных рэформаў, аднак жыццё даводзіла, што нават найлепшая бюракратыя не здольная паспяхова кіраваць краінай без, прынамсі, частковага іх ухвалення грамадствам.

Гэткае супрацоўніцтва існавала ва ўсіх іншых еўрапейскіх краінах і нават у старажытнай Русі ў выглядзе сістэмы органаў самакіравання. Бурбоны, Габсбургі і іншыя манархі і прынцы здолелі абмежваць уплыў альтэрнатыўных цэнтраў улады, але ніколі не знішчалі іх цалкам.

---

[64] Ihor Ševčenko, "A Neglected Byzantine Source of Muscovite Political Ideology," у *Structure,* ст. 80-107; B. Uroff, "Grigorii Karpovich Kotoshikhin, On Russia in the Reign of Alexis Mikhailovich: An Annotated Translation," (Ph.D. diss., Columbia University, 1970); К.В, Базылевич, *Денежная реформа Алексея Михайловича и восстание в Москве в 1662 г.* (Москва, 1936); А.И. Соболевский, *Образованность Московской Руси XV-XVII веков,* (Санкт-Петербург, 1892); Ф.И. Калиничев, *Правовые вопросы военной организации русского государства второй половины XVII века* (Москва, 1954), ст. 45-47, 88-92, 100.

[65] G. Vernadsky, *The Tsardom of Moscow 1547-1682*, гл. 2 (New Haven and London, 1969), ст. 724 [=у яго *A History of Russia*, том 5, гл. 2]; Raeff, *Understanding Imperial Russia*, ст. 6, 29-30; Е.И. Заозёрская, "К истории Тульсой оружейной слободы," у *Вопросы военной истории Росии* (Москва, 1969) ст. 137-56; С.К. Богоявленский, Вооружение русских войск в XVI-XVII в.," *Исторические записки* (Москва) 4 (1938): 258-83; К.В. Базылевич, "Новотарговый устав 1667 г.," у *Известия Академии наук СССР, Отделение общественных наук* 7 (Москва, 1932): 589-622.

[66] Raeff, *Understanding Imperial Russia*, ст. 57-105. Гл. таксама Hellie, *Enserfment*, ст. 181-234.

Поспех паліцэйскіх дзяржаў сямнаццатага і васямнаццатага стагоддзяў грунтаваўся на адзінадушшы дзяржаўнага апарату і прадстаўнічых устаноў. Аднак расійскія манархі, праз сваю няўхільную прагу абсалютнай улады, падпарадкавалі кантраляванаму ім дзяржаўнаму апарату прадстаўнічыя органы (такія, як Земскі сабор) і пазбавілі незалежнасці праваслаўную царкву. Але дасягнуўшы сваёй мэты, яны выявіліся ўсяго толькі галовамі дзяржаўнага апарата, а не ўсяго грамадства.

Каб атрымаць падтрымку простага насельніцтва, цары былі вымушаны трываць абмежаванае самакіраванне і ладзіць сустрэчы з прадстаўнікамі грамадства. Так, Пётр І намагаўся ўцелясніць вырачаны на правал праект гарадскога самакіравання. Яшчэ адным падобным прыкладам стаецца заканадаўчая камісія Кацярыны II. Вынікі гэтых захадаў ставаліся кароткатэрміновымі. Расійскія цары ўхвалялі толькі тыя сацыяльныя ініцыятывы, якія яны самі закладалі і кантралявалі, што спрыяла развіццю не ініцыятыўнасці, а руплівасці і пакорнага падпарадкавання ўладзе. На думку кіраўніцтва дзяржавы, прасцей і менш небяспечна было пазычыць на Захадзе інстытуцыянальныя мадэлі, архітэктурныя стылі, вучэбныя планы, экспертаў і тэхналогіі, чым пагадзіцца на супрацоўніцтва з расійскім грамадствам ці, прынамсі, мясцовай знаццю і гараджанамі.[67]

## Сацыяльная і палітычная эліта

Галоўнымі адрозненнямі паміж служылымі людзьмі ставаліся месца іх службы і наяўнасць шляхецкага паходжання, якія стваралі паміж імі непераадольную сацыяльна-палітычную прорву.[68] Маскоўскія служылыя знаходзіліся ў значна лепшых умовах, чым іх правінцыйныя калегі. Маскоўцы валодалі спадчыннай манаполіяй на вышэйшыя пазіцыі ва ўрадзе, пры двары, у войску і дыпламатычным корпусе. Правінцыйныя служылыя складаліся пераважна з вайсковапавінных землеўладальнікаў. Менавіта гэтую групу служылых людзей звычайна называюць “расійскай знаццю”. Правінцыялам было амаль немагчыма пераадолець бар’еры, якія аддзялялі іх ад маскоўскай знаці.

У адрозненне ад польска-літоўскай шляхты, расійскія спадчынныя служылыя не толькі не намагаліся дасягнуць нават падабенства агульнакласавай роўнасці, не кажучы ўжо пра братэрскасць, а наадварот, пільна “соблюдалі рангавага табелю”. Рангавая сістэма, з аднаго боку, гарантавала служылым людзям іх пасады, але, з іншага, стварала паміж імі амаль непераадольныя юрыдычныя і сацыяльныя бар’еры.

Нягледзячы на тое, што расійскія служылыя людзі пачыналі свае кар’еры з пасадаў, ніжэйшых за тыя, што займалі іх бацькі, менавіта бацькоўскі статус вызначаў стартавую службовую пазіцыю і магчымасці кар’ернага рост маладога чыноўніка. Дзеці найвыбітнейшых баяраў звычайна пачыналі кар’еру ў якасці асабістых слугаў (*спальнікаў*) цара і прадстаўнікоў царскай сям’і. Дзеці шараговых чальцоў Думы і прыдворных пачыналі службу *жыльцамі* ці *страпчымі*. У адрозненне ад дзяцей жыльцоў і страпчых, якія заставаліся на сваіх месцах усё жыццё, дзеці чальцоў Думы даволі хутка атрымлівалі ранг *стольнікаў*. Стольнікі, колькасць якіх складала прыкладна тысячу чалавек, прэтэндавалі на месцы ў Думе і выконвалі важныя функцыі ў дзяржаўным апараце, войску і пры двары.

[67] Raeff, *Well-Ordered Police State*, ст. 181-257.
[68] Розніца паміж слугамі ў Маскве і ў правінцыі абмяркоўваецца ў: R. Hellie, *Enserfment*, ст. 24-25, 48-74.

Цар і ўплывовыя міністры шукалі падтрымку гэтай групы для ажыццяўлення сваіх планаў і задумаў.[69]

Урадоўцы другога эшалону, стольнікі наглядалі за шматлікімі мясцовымі чыноўнікамі. Гэтую функцыю ім надаў ім Пётр І пасля свайго навучання на Захадзе. Падтрымка стольнікаў ставалася неабходнай падчас уцеляснення любых рэформаў. Да складу стольнікаў уваходзілі некаторыя прадстаўнікі арыстакратыі, збольшага дзеці прыдворных, і найбольш здольныя служылыя ніжэйшых рангаў. Такім чынам, імі былі некаторыя выбітныя дзякі, што пазней атрымалі спадчыннае дваранства. Вялікая разнастайнасць паходжання, узросту, і кар'ерных амбіцый стольнікаў не дазволіла ім развіць пачуццё групавой салідарнасці і паглыбіла іх залежнасць ад цара і ўплывовых міністраў.[70]

Між іншым, стольнікі ставаліся, напэўна, першай групай, якая адчула небяспеку занадта вялікага выкарыстання царамі (у прыватнасці, Аляксеем Міхайлавічам і Пятром І) замежных экспертаў. За часам Пятра І яны першыя былі вымушаныя атрымліваць тэхнічную адукацыю для забеспячэння кар'ернага роста. Прыдворныя не адчувалі падобнай небяспецы таму, што, па-першае, мадэрнізацыя патрабавала вялікай колькасці чыноўнікаў, і па-другае, яны былі першачарговымі кандыдатамі на ўсе вакантныя месцы. Сталая патрэба ў кваліфікаваным персанале і зрастанне колькасці пасад у войску і бюракратычным апараце паслабляў канкурэнцыю паміж урадоўцамі шляхецкага і нешляхецкага паходжання ды замежнікамі. Хуткія кар'еры замежнікаў выклікалі раздражненне правінцыйнага дваранства, але істотна не перашкаджалі кар'ерам прыдворных, гатовых адукоўвацца і набываць новыя навыкі. Паміж урадоўцамі, прыдворнымі і выбітнымі замежнымі экспертамі існавала своеасаблівае адчуванне братэрства.

Набліжанасць да цара і кіроўнай эліты надавала маскоўскім служылым людзям значную перавагу над тымі, хто служыў у правінцыі. Гэтая прывілегіяванасць асабліва востра адчувалася што да ўладання зямлёй і прыгоннымі сялянамі. З прычыны адсутнасці мясцовага самакіравання, правінцыйнае дваранства не мела ўстановаў, якія б прадстаўлялі і абаранялі іх інтарэсы. У мірны час расійскія адміністратыўныя адзінкі кіраваліся маскоўскімі бюракратамі, а ў вайсковы – маскоўскімі ваеначальнікамі. Пазбаўленыя кантроля над мясцовымі справамі, правінцыйныя дваране маглі толькі дасылаць прашэнні чальцам цэнтральнага ўраду, інтарэсы якіх не супадалі з патрэбамі правінцыялаў. Адзіны сродак іх непасрэднага кантакту з царом, Земскі сабор, быў скасаваны напрыканцы сямнаццатага стагоддзя. Іх прашэнні пра зямельныя надзелы задавальняліся не таму, што правінцыйная шляхта мела нейкую калектыўную палітычную вагу, а праз тое, што яна складала касцяк расійскага войска. Такім чынам, мясцовая знаць магла магла дамагчыся задавальнення сваіх патрабаванняў толькі падчас вайны. Тым не

[69] Вельмі цікавы спіс чыноўнічых рангаў дапятроўскай Расіі склалі маскоўскія іезуіты: Georgius David, S.J., *Status Modernus Magnae Russiae Seu Moscoviae* (1690), пад рэд. A. V. Florovsky (The Hague, 1965), ст. 79-81; Hellie, *Enserfrnent*, ст. 24-25; Г.К. Котошихин, *О Росии в царствование Алексея Михайловича* (Санкт-Петербург, 1906), ст. 27-38.

[70] М.М. Богословский, *Пётр І. Материалы для библиографии*, том 1 (Ленинград, 1940), ст. 365-67. Гл. зноску 68. Усе дзякі, якія накіроўваліся ў Варшаву ў якасці рэзідэнтаў, мелі чын стольнікаў і аўтаматычны станавіліся дваранамі; гл. таксама главу 3.

менш, яе здабыткі былі няпэўнымі і нетрывалымі –адсутнасць нагляда за іх маёнткамі падчас войнаў часцяком абярталася для банкруцтвам .[71]

Пазіцыі правінцыйнага дваранства падрывалі і ўнутраныя супярэчнасці, выкліканыя дзьвюма асаблівасцямі расійскай рангавай сістэмы. Першая асаблівасць мела гісторыка-геаграфічны характар. Так, служылыя людзі Ноўгарада аўтаматычна атрымлівалі вышэйшы статус за сваіх калег з Табольска. Другая асаблівасць ставалася эканамічнай: нават у межах адной правінцыі перавага ў табелі аб рангах надавалася прадстаўнікам больш заможных шляхецкіх сем'яў.[72] У сацыяльным і эканамічным вымярэнні правінцыйнае расійскае дваранства ставалася амаль роўным польска-літоўскай павятовай шляхце. Ключавое адрозненне палягала ў тым, што без самакіравання і прадстаўнічай установы расійцы не мела непасрэднага ўплыва на прынятце рашэнняў. Яны заставалася цалкам залежнымі ад маскоўскіх урадоўцаў да пятроўскіх рэформаў, якія далі магчымасць дваранам, што служаць у гвардзейскіх палках, займаць сталічныя пасады,.

## Сілы за тронам.

### Прыдворныя групоўкі

У той час, калі польска-літоўская дзяржава цярпела ад неэфектыўнасці цэнтральнай улады, абмежаванай правамі сваіх грамадзян, расійская аўтакратыя, якая кіравала неабсяжнымі тэрыторыямі і вялікім насельніцтвам, не пакідала месца для развіцця грамадскай супольнасці. У Рэчы Паспалітай да дзяржавы ставіліся як да слугі шматлікіх звадлівых гаспадароў, а для расійцаў іх дзяржава была цэглай у руках адзінага творцы - цара.

У святле гэтага апісання варта вызначыць расійскія аналагі польска-літоўскіх партыяў, якія высоўвалі палітычныя праграмы і валодалі пэўным сталым электаратам. У расійскіх умовах, каб зразумець зрухі балансу сіл і змены палітычнага клімату, мэтазгодна засярэдзіцца на вельмі нешматлікай групе вышэйшых царскіх дарадцаў, іх кланах і прыдворных групоўках. Уплывовыя прыдворныя часцяком асацыяваліся з асобнымі палітычнымі і культурнымі праграмамі: царэўна Соф'я прыхільна ставілася да лацiністаў, а Нарышкіны падтрымлівалі праваслаўных традыцыяналістаў на чале з патрыярхам. Тым не менш, падчас унутраных крызісаў, калі паўставала праблема самазахавання самога рода, гэтыя нязначныя адрозненні адыходзілі на другі план. Калі згуртаванне было больш няздольнае забяспечваць кантроль над большасцю ключавых прыказаў, у вышэйшых эшалонах улады хутка дасягалі згоды.

Падобная сітуацыя склалася пасля другога царскага шлюба, які справакаваў супрацьстаянне паміж сем'ямі першай і другай жонкі – Міласлаўскімі і Нарышкінымі. Дзякуючы свайму моцнаму характару, Аляксей Міхайлавіч паспяхова стрымліваў спаборніцтва сваякоў. Аднак яго сын Фёдар Аляксеевіч не быў моцным лідарам, што спачатку прывяло да абвастрэння канфлікта, а потым, пасля смерці Фёдара Аляксеевіча, да двух дзяржаўных пераваротаў запар: у 1682 годзе Міласлаўскія ўзвялі на трон царэўну Соф'ю, а ў 1689 годзе Нарышкіны яе зрынулі. Неабходна памятаць, што у перыяд рэгенцтва Соф'і Нарышкіны і іхныя паслядоўнікі здолелі захаваць некалькі прыказаў, што сведчыць пра тое, што царэўна ніколі цалкам не кантралявала ўрад. Пасля паспяховага пераварота 1689 году большасць ключавых прыказаў ачолілі Нарышкіны, а крыху

[71] Hellie, *Enserfrnent*, ст. 21—41. Torke, *Oligarchie in der Autokratie*, ст. 179-201.

[72] А.А. Новосельский, "Феодальное землевладение. Боярство, дворянство и церковь," у *Очерки истории СССР. Период феодализма*, под ред. А.А. Новосельского и Н.В. Устюгова (Москва, 1955), ст. 140, 152-59; Hellie, *Enserfrnent*, ст. 21-25.

пазней кантроль над урадам адышоў да сяброў Пятра I. Гэткім чынам, змены ў кіраўніцтве прыказаў дакладна адлюстроўвалі змены кіроўных кланаў і груповак.[73]

Як ужо было адзначана, і Баярская Дума, і вышэйшае чынавенства былі расколатыя праз спаборніцтва паміж рознымі баярскімі кланамі і групамі царскіх дарадцаў. Цікава, што дадзены раскол не грунтаваўся на адрозным бачанні расійскіх замежнапалітычных прыярытэтаў. На працягу ўсёй другой паловы сямнаццатага стагоддзя цэнтральнае супрацьстаянне ў расійскай палітыцы адбывалася паміж сем'ямі дзьвюх жонак Аляксея Міхайлавіча. Замежная палітыка царэўны Соф'і і Васілія Галіцына (1682-1689 гады), у параўнанні з пасіўнай і абачлівай палітыкай Нарышкіных (1689-1694 гады), характарызавалася большай актыўнасцю і смеласцю, але абодва бакі падзялялі адныя ідэалагічныя погляды і аднолькава ставіліся да суседніх дзяржаваў. Асцярожнасць замежнай палітыцы Нарышкіных была хутчэй абумоўлена няпэўнасцю іх унутрыпалітычнага становішча. У партыях і Міласлаўскіх, і Нарышкіных былі заходнікі і кансэрватары, прыхільнікі актыўных міжнародных захадаў і ізаляцыяністы. Тым не менш, акрамя Афанасія Лаўрэнцевіча Ордзін-Нашчокіна, аніводны палітык не рызыкаваў уласнай кар'ерай для адстойвання пэўнага паслядоўнага замежнапалітычнага курса. Ордзін-Нашчокін, як і пазней Пётр I, аддаваў прыярытэт Балтыйскаму рэгіёну, і таму прагнуў сфармаваць шырокую антышведскую каліцыю. Не было сумневу, што галоўная пагроза для Расіі сыходзіла ад Швецыі, Рэчы Паспалітай, Турцыі і татараў. Тым не менш, у спрэчках што да таго, хто з іх можа стацца лепшым хаўруснікам, Ордзін-Нашчокін, Галіцын і Пётр I аддавалі перавагу альянсу з Рэччу Паспалітай супраць Швецыі і Турцыі, а гэткія дзяржаўныя дзеячы і дыпламаты як Артамон Мацвееў і Пракофі Вазніцын выступалі за вайну з Рэччу Паспалітай. Такім чынам, сутнасць прыдворных партый не вызначалася рознасцю іх поглядаў што да замежнапалітычнага курса краіны. Тым не менш, сваім базавым стаўленнем да Еўропы і мадэрнізацыі, партыі ў значнай ступені ўплывалі на расійскую дыпламатыю.[74]

### Царква

Уплыў праваслаўнай царквы на замежную палітыку краіны, які адлюстроўваў раскол паміж "традыцыяналістамі" і "лацінистамі", ставаўся неадназначным. У выніку сваёй варожасці да заходніцтва, традыцыяналісты, духавенства і пэўная частка свецкага насельніцтва перайшлі на пазіцыі ізаляцыянізма. Іх ксенафобія выяўлялася ў патрабаваннях забараніць уезд у Расію ўсім няправаслаўным замежнікам і абмежаваць "дрэнны ўплыў" заходніх грамадзян шляхам пасялення іх у гета, дзе яны мусілі жыць асобна ад расійцаў. Усе лаціністы былі праваслаўнымі, нягледзячы на тое, што многія з іх нарадзіліся і атрымалі адукацыю за мяжой, у Кіева-Магілянскай акадэміі, Кракаўскім, Падуанскім ці Рымскім універсітэтах. Яны распаўсюджвалі ў Расіі заходнюю веду і палітычную філасофію эпохі Рэнесанса. Тыя, хто навучаўся ў польска-літоўскіх іезуіцкіх калегіюмах, без сумнева чыталі не толькі Арыстоцеля, але і знакамітага тэарэтыка сучаснай дзяржавы Юста Ліпсія. Падчас навучання іх заахвочвалі абмяркоўваць задачы ўрада і юрыдычныя правы і абавязкі грамадзян. Лаціністы вельмі актыўна дзейнічалі ў межах праваслаўнай царквы і мелі праз яе выхад

[73] Н.В. Устюгов, "Центральное управление," у Очерки истории, ст. 383-84; Crummey, *Armocrats and Servitors*, ст. 92-98.
[74] Е. Туртов, *История о князе Иакове Фёдоровиче Долгорукове* (Москва, 1807), ст. 11-33; А. Малиновский, *Биографические сведения об управляющих в России иностранными делами министрах* (Москва, 1812); Ленинская библиотека, фонд 256, № 266, ст. 2-44; Н.П. Павлов-Сильванский "Пращур Графа Льва Толстого, Граф Пётр Андреевич Толстой," *Исторический вестник* (Санкт-Петербург), травень, 1905, ст. 842-70; Богословский, *Пётр I*, ст. 14-21, 37-48, 88-94; Л. Щёпотев, *Ближний боярин Артамон Сергеевич Матвеев как крупный политический деятель XVII века* (Санкт-Петербург, 1906), ст. 35-37; C. B. O'Brien, "Russo-Polish Relations in the Second Half of the Seventeenth Century," у *American Contributions to the Seventh International Congress of Slavists*, пад рэд. A. Cienciala, том 3 (The Hague, 1973), ст. 64-68.

на шырокія масы насельніцтва. Хаця выпуснікоў Кіеўскай акадэміі можна было знайсці ў Маскве яшчэ ў першай палове сямнаццатага стагоддзя, адыграваць ключавую роль у расійскім інтэлектуальным асяродку яны пачалі толькі пасля заваявання Аляксеем Міхайлавічам Кіева. Адукаваныя ўкраінскія манахі лёгка ўладкоўваліся ў друкарнях, царкоўных і дзяржаўных установах і ў якасці прыватных настаўнікаў. За кароткі прамежак часу многія з іх сталі настаяцелямі манастыроў, а потым епіскапамі і мітрапалітамі. Назва “лаціністы” замацавалася за імі па ініцытыве традыцыяналістаў, якія звінавачвалі выхадцаў з Вялікага Княства Літоўскага ў тым, што апошнія знаходзіліся пад небяспечным уплывам Рыма. Лаціністы выкарыстоўвалі свае веды для развіцця праваслаўя ў Расіі і Рэчы Паспалітай, дзе яны супернічалі за душы праваслаўных вернікаў з каталіцкай і уніяцкай цэрквамі. Для заходніх праваслаўных хрысціян і маскоўскіх уладаў было аднолькава важна ўмацаваць адзіную незалежную праваслаўную краіну пасродкам мадэрнізацыі і вестэрнізацыі. Уплыў лаціністаў стала зрастаў падчас царавання Аляксея Міхайлавіча, Фёдара Аляксеевіча (1678-1682 гады), і Соф’і (1682 год).[75] Шматлікія лаціністы былі звязаныя з Рэччу Паспалітай месцам нараджэння, адукацыяй і культурай. Іх палітычна-філасофскія погляды таксама фармаваліся ў польска-літоўскай дзяржаве. З аднаго боку, яны былі адданымі расійскаму праваслаўю, а з іншага – натуральна прадстаўлялі свае погляды і ідэі ў польска-лацінскай форме, што, урэшце рэшт, прывяло да значнага роста ў Расіі польскага культурнага ўплыву. Ніколі дагэтуль і ніколі пасля польскі ўплыў не быў нагэтулькі ўсеахопным. Бадай, найбольш незвычайным стаўся распаўсюд польскай мовы і літаратуры. Сам цар загадаў знакамітаму лаціністу Сімяону Полацкаму, аўтару шматлікіх рэлігійных і палітычных эсэ і вершаў, вучыць сваіх дзяцей польскай і лацінскай мовам. Старэйшы сын цара вольна валодаў польскай. Прыкладу цара следавала прыдворная арыстакратыя, разам з Галіцынымі, Мацвеевымі, Шарамецьевымі і прадстаўнікамі бюракратычнага апарата Васілём Міхайлавічам Цяпкіным і Аляксеям Васільевічам Нікіціным. Бібліятэкі цара і яго прыдворных папаўняліся шматлікімі польскімі і літоўскімі кнігамі, а палацы аздабляліся партрэтамі манархаў Рэчы Паспалітай. Расійскія арыстакратычныя сем’і ведалі генеалогію сваіх польскіх калегаў, а чальцы Думы пачалі выяўляць інтарэс да дзейнасці польска-літоўскага Сенату. Першыя тэатральныя пастановы адбыліся ў Маскве дзякуючы высілкам лацініста Сцяпана Чыжэўскага, выпусніка іезуіцкага калегіюма, які пазычыў рэпертуар польска-літоўскіх тэатраў. Знайшла шлях у Маскву і прававая тэорыя Рэчы Паспалітай. Жыхары левабярэжнай Украіны пераклалі юрыдычны даведнік Барталамея Гроцкага што да гарадскога самакіравання і выкарыстоўвалі яго для напісання прашэнняў пра наданне ім права самакіравання. Калі б царэўна Соф’я пратрымалася на троне даўжэй, расійская сталіца атрымала б свой першы універсітэт, змадэляваны па прыкладзе Кіеўскай акадэміі. Гэткі сцэнар стаў бы лагічным завяршэннем распачатага Аляксеем Міхайлавічам працэса мадэрнізацыі і вестэрнізацыі краіны, заснаваных на польскай і лацінскай культурах.[76]

---

[75] С. Любимов, “Борьба между представителями великорусского и малороссийского направления в Великороссии в конце XVII и начале XVIII вв.," у *Журнал Министерства народного просвещения* (далей - ЖМНП), 180 (жнівень, 1875): 117-52; Г. Миркович, “О школах и просвещении в патриаршем периоде,” у ЖМНП 198 (ліпень, 1878); Флоровский, *Пути русского богословия* (Париж, 1937), ст. 67-81; Vernadsky, *History*, ст. 711-40; C. Bickford O'Brien, *Russia under Two Tsars, 1682-1689*: *The Regency of Sophia Alekseevna* (Berkeley, 1952); С.П. Луппов, *Книга в России в XVII века* (Ленинград, 1970), ст. 15-31, 53, 126-30, 196-98.

[76] А.И. Соболевский, Переводная литература Московской Руси XIV-XVII веков (Санкт-Петербург, 1903), ст. 52-123, 144-45, 157-58, 160, 162, 172-74, 177-78. Сабалеўскі адзначыў, што падчас царавання Пятра ў Расіі сталі значна менш перакладаць з польскай. А.И. Рогов, *Русско-польские культурные связи в эпоху возрождения* (Москва, 1966); R.

У асобе патрыярха Іаакіма лаціністы сутыкнуліся з вельмі моцным супернікам. Патрыярх лічыўся ворагам усіх замежнікаў, нават праваслаўных. Калі лаціністы выступілі з ідэяй заснаваць у Маскве універсітэт накшталт Кіеўскай акадэміі, патрыярх чарговы раз выказаўся сваё жаданне бачыць Расію вольнай ад усіх замежнікаў і іх грахоўнай дзейнасці. Падтрымка лацiністаў з боку дасведчанага Галіцына і царэўны Соф'і прымусіла патрыярха аб'яднацца з Наталляй Кірылаўнай Нарышкінай, маці Пятра I.[77]

Для Іаакіма барацьба за ўладу паміж Міласлаўскімі і Нарышкінымі ставалася барацьбой за будучыню Расіі і расійскай праваслаўнай царквы. Праз дапамогу патрыярха Нарышкіны перамаглі і часткова пагадзіліся з ягоным патрабаваннем прыняць захады што да ціску на замежнікаў і лацiністаў. Галава лацiністаў манах Сільвестр Мядзведзеў, якога Галіцын і Соф'я планавалі зрабіць наступным патрыярхам, быў пакараны смерцю. Акрамя таго, у гэты час зажыва спалілі асабліва палкіх пратэстанцкіх прапаведнікаў і выгналі з Масквы іезуітаў. Расійцам забаранілі прыслужваць у дамах замежнікаў. Жорсткай крытыцы паддалося вайсковае супрацоўніцтва з Рэччу Паспалітай. Каб абмежаваць кантакты з духоўна небяспечнымі украінцамі, вялікалітоўцамі і палякамі, быў скасаваны план сумеснай атакі на Крым. Захады Іаакіма сапсавалі расійскія стасункі з Аўстрыяй і Рэччу Паспалітай і раз'юшылі заходнікаў у стане Пятра I. Пры гэтым варта адзначыць, што шматлікія радыкальныя заклікі патрыярха выключыць з царскай службы ўсіх замежнікаў толькі радражнялі Пятра I і абумовілі яго знявагу да царквы.[78]

Ксенафобія Іаакіма вызнаецца гісторыкамі паталагічнай, але яму варта аддаць належнае – ён слушна адчуваў небяспеку для сваёй установы. Паводле словаў Георгія Фралоўскага, праваслаўная царква прайграла сваю духоўнасць стараабрадцам. Да гэтага можна дадаць, што лацiністы прадэманстравалі неадукаванасць расійскай праваслаўнай царквы. [79] Замежнікі сваімі "падступнымі парадамі" аддалялі цара і баяраў ад царквы, у той час, калі яна была падзеленая і слабая. Бескампрамісная вайна патрыярха супраць "Захада", які ўвасаблялі лацiністы і замежнікі, давяла Пятру I няздольнасць царквы дапамагчы ў справе мадэрнізацыі. Праз некалькі год пасля смерці Іаакіма часовым намеснікам царквы цар зрабіў лацініста Сцяпана Яворскага і падначаліў яе дзяржаўнаму апарату.[80] Дзейнасць Іаакіма падчас супрацьстаяння Міласлаўскіх і Нарышкіных цягам дзесяцігоддзяў сімвалізавала апошнюю спробу расійскай царквы ўплываць на ўнутраную і знешнюю палітыку краіны. Правал гэтай спробы фактычна паскорыў працэс падпарадкавання царквы цару.

### Украінцы

Калі ўплыў праваслаўнай царквы на расійскую дзяржаву стаецца агульнавядомым, дык пра значную ролю ўкраінцаў у развіцці расійскага грамадства амаль не згадваюць. Гэткія выбітныя царкоўныя дзеячы як Сцяпан Яворскі, Тэафан Пракаповіч, Сімяон Полацкі і Япіфані Славінецкі

---

Łużny, *Pisarze kręgu Akademii Kijowsko-Mohylańskiej a literatura polska* (Cracow, 1966), ст. 5-17, 126; L. R. Lewitter, "Poland, the Ukraine and Russia in the 17th Century," *Slavonic and East European Review* 27 (1948): 157-71.

[77] Сильвестр Медведев, "Вручение Благоверной и Христолюбивой великой Государыне премудрой Царевне милосердной Софии Алексеевне привилегии на Академию в лето от создания мира 7193 г . . . ," у *Древнняя российская вивлиофика, содержащая в себе собрание древностей российских . . .* , под ред. Николая Ивановича Новикова, ч. 6 (Москва, 1788), ст. 395-4-17; A. de la Neuville, *Relation curieuse et nouvelle de Moscovie* (The Hague, 1699), ст. 109; П. Смирнов, *Иоаким, патриарх московский* (Москва, 1881) ст. 124-26, 224-35, 238.

[78] П. Смирнов, *Иоаким, патриарх московский*, ст. 108-145, 236-38; Cracraft, *Church Reforms*, ст. 97-126.

[79] Флоровский, *Пути русского богословия*, ст. 63-67.

[80] Cracraft, *Church Reform*, ст. 160-65.

зрабілі значны ўнёсак ў расійскую культуру і рэлігію. Часцяком яны ў большай ступені ўплывалі на расійскую палітыку, чым любыя іншыя прадстаўнікі казацкай дзяржавы.[81] Украінскія асветнікі ставаліся часткай маскоўскай украінскай суполкі, якая падтрымлівала шчыльныя сувязі з кіеўскім духавенствам і казацкімі палітыкамі. Дзякуючы сваёй адукацыі, гэтыя людзі ўладкоўваліся экспертамі ў войска, дзяржаўны апарат і на дыпламатычную службу. Некаторыя з іх ставаліся сваякамі гетмана і старшынаў (украінскай вайсковай арыстакратыі), якіх утрымлівалі ў Маскве ў якасці закладнікаў. Іншыя былі палітычнымі выгнанцамі, якія прайгралі барацьбу за ўладу ва Украіне і цяпер служылі расійскаму цару. Так, найвыбітнейшы ўкраінскі палітык пасля Хмяльніцкага, былы гетман Пятро Дарашэнка быў прызначаны вяцкім ваяводам.[82] Большасць гэтых украінцаў эмігравала ў Расію ў пошуку лепшай долі. Настаўнікі, духавенства, друкары і чыноўнікі разам складалі ў Маскве ўплывовую ўкраінскую супольнасць, якую падмацоўвалі перыядычныя візіты гетмана і яго прадстаўнікоў. Акрамя высокакваліфікаванай працы ў царкве, дзяржаўным апараце і войску, галоўная каштоўнасць украінцаў для расійскай дзяржавы заключалася ў тым, што яны спалучалі ў сябе праваслаўе і заходніцтва. Без украінцаў працэс мадэрнізацыі праходзіў бы значна марудней, нягледзячы на пятроўскія падарожжы на Захад і ўнёсак немцаў, шатландцаў і галандцаў. Аніводны іншы народ за ўсю гісторыю Расіі не зрабіў больш для ўмацавання і развіцця расійскай дзяржавы, чым украінцы ў сямнаццатым і васямнаццатым стагоддзях.

Некаторыя прычыны гэтага парадоксу падрабязна асвятляюцца ў пятай главе. Пакуль варта адзначыць, што большасць украінскіх дзяржаўных дзеячоў, палітыкаў і інтэлектуалаў рэзка негатыўна ставілася да руйнавання дзяржавы Хмяльніцкім і яе падзелу паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй у 1667 годзе. Упэўненыя ў тым, што аб'яднаць Украіну можна толькі шляхам вайны, яны часцяком выкарыстоўвалі свой уплыў для паглыблення супярэчнасцяў паміж расійскай і польска-літоўскай дзяржавамі. Маскоўцы, у сваю чаргу, хаця і ставіліся да украінцаў падазрона і пільна за імі сачылі, заўсёды з цікавасцю прыслухоўваліся да іх меркаванняў наконт сітуацыі ў Рэчы Паспалітай, Крыме, Турцыі, Малдавіі, Валахіі і Трансільваніі. Кожны украінскі гетман пільна адсочваў падзеі ў вышэйзгаданых краінах, і яго інфармацыя выкарыстоўвалася маскоўскім Пасольскім прыказам. Расія выяўляла вялікую цікавасць да палітычнага курса ўкраінскага гетмана. Іван Мазэпа, казацкі гетман ад 1687 да 1709 года, асцярожна ставіўся як да Масквы, гэтак і Варшавы. Хаця ён адчуваў сябе ў Рэчы Паспалітай як дома, гетман не намераваўся мяняць залежнасць ад Расіі на залежнасць ад Рэчы Паспалітай. Не падтрымліваючы прарасійскую арыентацыю некаторых казацкіх галоваў, Мазэпа меркаваў, што адліга ў стасунках паміж Варшавай і Масквой стварыла спрыяльныя ўмовы для павяртання тэрыторыяў у ніжнім цячэнні Дняпра і Малдавіі. Менавіта намаганні украінскага гетмана падтрымлівалі хісткую адлігу паміж дзьвюма дзяржавамі ў перыяд кіравання Нарышкіных. Мазэпа выступаў супраць сепаратнага міра з Турцыяй і адстойваў неабходнасць працягваць вайсковыя дзеянні на паўднёвым фронце.[83]

---

[81] Lewitter, *Poland and Ukraine*, ст. 157-65; A. Jabłonowski, *Akademia Kijowsko-Mohylańska* (Cracow, 1899-1900), ст. 165-73; С.И. Голубев, *Киевская академия в конце XVI и начале XVIII в.* (Киев, 1901); К.В. Харлампович, *Малороссийское влияние на великорусскую церковную жизнь* (Казань, 1914), ст. 250-488; Ф. Б. Корчмарик, *Духові впливи Києва на Московщину в добу Гетьманської України* (Нью-Йорк, 1964), ст. 63-100; Raeff, *Understanding Imperial Russia*, ст. 18-24. Гл. таксама зноску 3.
[82] С.М. Сольвьёв, История России с древнейших времён, том 8 (Москва, 1962), ст. 206-230.
[83] Ліст Мазэпы царам, студзень 1694 года, ЦГАДА, фонд 123, Стасункі з Крымам, 1692-1694, № 1, ст. 264-88.

Погляды і меркаванні ўкраінцаў перадаваліся праз афіцыйныя каналы і зберагаліся ў архівах Маларасійскага прыказа. Складаней прасачыць распаўсюд ідэй маскоўскай украінскай дыяспары падчас грамадскіх сходаў або палітычных і царкоўных дыскусій. Акрамя таго, украінцы кантактавалі з дзьвюма сотнямі прадстаўнікоў вышэйшага дзяржаўнага кіраўніцтва. Гэткім чынам, расійцы мелі выдатных дарадцаў па украінскіх справах. У сваёй палітыцы Крэмль кіраваўся выключна ўласнымі інтарэсамі, але, прынамсі часткова, улічваліся й пажаданні ўкраінскага "лобі". Хаця украінцы часта не згаджаліся з расійскім заходнепалітычным курсам і адчувалі небяспеку з боку маскоўскіх дзякаў, яны разумелі, што расійскае кіраўніцтва прыслухоўваецца да іх, і верылі ў свой палітычны ўплыў. Яны ўсведамлялі, што з'яўляюцца слабейшымі партнэрамі, да просьбаў якіх, тым не менш, маскоўцы ставіліся з павагай. Нягледзячы на тое, што ўкраінцы захоўвалі пэўны недавер да Масквы, у расійскай сталіцы іх становішча было лепшым, чым у Варшаве, дзе іх інтарэсы прадстаўлялі дасланцы гетмана і сыны старшынаў, якія былі прыдворнымі каралеўскімі пажамі. У Рэчы Паспалітай украінцаў у лепшым выпадку лічылі хцівымі наёмнікамі, а ў горшым – царскай пятай калонай. Гэты чыннік абумовіў адсутнасць ў польска-літоўскай дзяржаве сталага украінскага лобі. Уплыў украінцаў пры каралеўскім двары, у парламенце і павятовых сойміках ставаўся мізэрным.[84]

### Замежнікі

Замежнікі ставаліся апошняй лабісцкай групай. У сямнаццатым стагоддзі іх "меншасць" ужо добра абаснавалася ў Маскве. Тыя, хто не жадаў прымаць праваслаўе, мусілі жыць асобна ад расійцаў у прадмесці пад назвай "нямецкі квартал", які знешне нагадваў тыповы заходні горад.[85] Большасць маскоўскіх замежнікаў была вайсковымі наёмнікамі, значная іх частка займалася гандлем і была задзейнічаная ў прамысловасці, а некаторыя працавалі ў дзяржаўных установах. Яны прытрымліваліся сваіх звычаяў, нярэдкасцю былі й унутрыдыяспарныя шлюбы. З часам у Маскве склаліся тры спаборныя рэлігійныя супольнасці замежнікаў – каталікі, лютэране і кальвіністы, для якіх вырашальнае значэнне мела не нацыянальнасць, а рэлігійная прыналежнасць. Нядзельныя і святочныя службы спрыялі шчыльнаму гуртаванню людзей і развіццю моцнай групавой свядомасці ў кожнай з супольнасцяў. Так, напрыклад, нягледзячы на канфлікты ці, нават, войны паміж сваімі краінамі, польскія, аўстрыйскія, італьянскія, шатландскія, нямецкія, мараўскія і французскія каталікі складалі ў Маскве шчыльную групу. Расійскія ўлады больш цярпліва ставіліся да "ерэтыкоў" кальвіністаў і лютэранаў, якім дазвалялася будаваць свае цэрквы, у той час як "небяспечныя" каталікі мусілі ладзіць свае службы таемна.[86]

Унутраныя рэлігійныя адрозненні істотна паслаблялі пазіцыі замежнай дыяспары ў яе стасунках з расійскім урадам. Акрамя таго, каб пазбегнуць стварэння юрыдычных прэцэдэнтаў і не дапусціць фармавання груп, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі, расійскія ўлады настойвалі на асобным разглядзе кожнай юрыдычнай справы ў выпадку з замежнікамі. З іншага боку,

[84] Пра ўкраінцаў у Маскве гл. зноску 81. Не існуе доследаў што да ўкраінскага "лобі" у Варшаве, але на падставе архіўных матар'ялаў і мемуараў можна сцвярджаць, што, нягледзячы на асабістыя кантакты, у прыватнасці з каралём, украінцы не ўплывалі на замежную палітыку Рэчы Паспалітай.

[85] И. Гамель, Англичане в России в XVI и XVII столетиях, том 2 (Санкт-Петербург, 1869); Харлампович, *Малороссийское влияние*, ст. 367-456; А.А. Лаппо-Данелевский, "Иноземцы в России в царствование Михаила Фёдоровича," у ЖМНП 241 (верасень, 1885): 66-106.

[86] David, *Status Modernus*, ст. 62-63; Е. Шмурло, "Русские католики конца XVIII в.," у *Записки Русского научного института в Белграде* 3 (1932): 1-32; А. Брикнер, *Патрик Гордон и его дневник* (Санкт-Петербург, 1878), ст. 124-137.

Крэмль намагаўся пакінуць замежных спецыялістаў у Расіі, часцяком нават насуперак іх волі. Так, напрыклад, не зважаючы на асабістае хадайніцтва караля Англіі Джэймса ІІ, цар адмовіўся адпускаць са сваёй службы знакамітага генерала Патрыка Гордана.[87] Замежнікам зрэдчас дазвалялі кароткатэрміновыя выезды за мяжу, але Крэмль забяспечваў "добрыя паводзіны" і вяртанне візіцёраў умовай пакінуць у Расіі іх сем'і. Шматлікія карабельныя майстры і афіцэры маглі павярнуцца на радзіму толькі пасля выканання сваёй задачы, што дазваляла еўрапейцам даведацца пра сапраўдныя ўмовы працы на царскай службе. Наогул, лічылася, што ў Расіі шчодра плацяць, а агенцтвы па найме абяцалі магчымасці хуткага кар'ернага роста і вольны ад'езд на радзіму пасля заканчэння кантракту. Але неадпаведнасць чаканняў рэчаіснасці і цяжкасць прыстасавання да аўтакратычнага стыля кіравання баяраў і прыказных дзякаў спараджала пэўную напружанасць паміж замежнікамі і расійцамі.

Прадстаўнікі эліты выдатна адчувалі сябе ў кампаніі замежных "гасцей", але добра разумелі й ксенафобію народных масаў. Апрацаваныя рэлігійнай прапагандай, простыя людзі не давяралі грамадзянам заходніх дзяржаў. Напрыклад, на карцінах апошняга суду ім паказвалі д'яблаў, апранутых у заходняе адзенне. Для расійцаў, якія баяліся невядомага, але "лукавага" і разбэшчанага Захада, прысутнасць замежнікаў стварала вялікую дылему. З аднаго боку, яны хацелі пераняць заходнюю веду і навуковыя дасягненні, а з іншага – не маглі пераадолець прыроджанае пачуццё маральнага вяршынтсва над "ерэтычным" Захадам. Няпэўнасць успрыняцця гэтай сітуацыі ўзмацняла народнае адчуванне небяспекі, якая сыходзіла ад усяго замежнага. Менавіта ў гэтай атмасферы заходнія эксперты сачылі за ўнутрыкрамлёўскай барацьбой за ўладу. Яны, натуральна, падтрымлівалі тых палітыкаў, якія аддавалі перавагу мадэрнізацыі і вестэрнізацыі, і адчувалі сябе ў большай бяспецы падчас рэгенцтва Соф'і, чым паўстанняў стральцоў у 1682 і 1689 гадах ці напачатку кіравання Нарышкіных, калі вялікім уплывам карыстаўся патрыярх Іаакім. Узвышэнне Пятра І пасля 1695 года нямецкі квартал сустрэў з радасцю. Малады цар часта наведваў замежнікаў і ставіўся да іх без забабонаў. Вельмі хутка, без агляду на традыцыі, ён увёў шэраг замежнікаў у кола сваіх блізкіх дарадцаў і праз новую рангавую сістэму адкрыў ім доступ да царскага двара і ўлады. Калі раней расійцы разглядалі замежнікаў як высокааплочваных службоўцаў, але не канкурэнтаў у барацьбе за дзяржаўныя пасады, дык цяпер сітуацыя ў корані змяніліся. Наплыў замежных спецыялістаў ў вышэйшыя эшэлоны ўлады абвастрыў ксенафобскія настроі ў грамадстве. Цяпер "старыя расійскія традыцыі" адстойвалі не толькі царкоўныя традыцыяналісты, але і прадстаўнікі прыдворнай знаці і дзяржаўнага апарату. Усё большая колькасць прыхільнікаў "старых устояў" лічыла мадэль і хуткасць пятроўскіх рэформаў непрымальнымі. З таго часу абарона традыцый супраць разбэшчанасці Захаду з дамешкам нацыяналістычных настрояў сталі неад'емнай часткай палітычнага і культурнага жыцця Расіі. Тады ж крытыка ўлады набыла больш маральны, чым прагматычны характар – феномен, які, напэўна, найлепшым чынам адлюстраваны ў гэтак званай "змове" адзінага сына цара Аляксея Пятровіча.[88]

[87] Лісты Гордана міністру замежных спраў графу Мідлтаўну, 17 верасня і 3 снежня 1689 года, 7 і 25 студзеня 1687 года, Брытанскі музей, № 41, 842, ст. 148, 150, 152, 154. Patrick Gordon, *Tagesbuch des Generals Patrick Gordon während seiner Kriegsdienste unter den Schweden und Polen 1655-1661, und seines Aufenthaltes in Russland 1661-1699*, том 1 (St. Petersburg, 1851), ст. 328-42.

[88] Грунтоўная праца пра замежнікаў на царскай службе яшчэ чакае свайго аўтара. Інфармацыя пра рэлігійныя і сямейныя сувязі можна знайсці ў дзённіках (напрыклад, горданавым) ці сабраць на падставе ўражанняў замежных наведвальнікаў Расіі. Лісты Доўманта і запісы яго перамоваў з чыноўнікамі Пасольскага прыказа стаюцца

Нягледзячы на тое, што ў абедзьвюх дзяржавах лабісцкія групы карысталіся пэўным уплывам, яны не былі здольныя фармаваць знешнюю палітыку Расіі і Рэчы Паспалітай у дачыненні адна адной. Цэрквы абедзьвюх краінаў займаліся пераважна ўнутранымі справамі і даручалі абарону сваіх інтарэсаў уладам. Ані польска-літоўскія, ані расійскія землеўладальнікі з памежных тэрыторыў не мелі голаса падчас прыняцця знешнепалітычыных рашэнняў.  Што да пытанняў у стасунках з Рэччу Паспалітай, у Крамлі прыслухоўваліся толькі да гледзішча ўкраінскага лобі, дзякуючы яго значнай ролі ў мадэрнізацыі Расіі і доступу да крамлёўскай эліты. Аднак і яно не магло прадухіліць падзел Украіны паводле ўмоваў Андрусаўскага перамір'я, замацаваных у Вечным міры. У пытаннях знешняй палітыцы цар прыслухоўваўся да асобных набліжаных да яго замежнікаў, але ўнутраныя рэлігійныя супярэчнасці і адсутнасць адзінства не дазвалялі замежнікам у Маскве арганізавана ўплываць на знешнюю палітыку цара. Цікава, што, нягледзячы на актыўны гандаль паміж дзьвюма краінамі, ані ў Рэчы Паспалітай, ані ў Расіі амаль не выяўлялі сябе гандлёвыя лобі. Гандаль пераважна складаўся з польска-літоўскага экспарту вытворчасці мануфактураў і расійскага экспарту прадуктаў сельскай і лясной гаспадаркі. Пэўную яснасць у разуменне міждзяржаўнага гандлю ўносіць той факт, што каштоўная футра, імпартаванай у Рэч Паспалітую, колькасна супадала з экспартам яе з Архангельска. Камерцыйныя асацыяцыі існавалі ў абедзьвюх краінах, і, з улікам насамрэч уражваючага маштабу міждзяржаўнага гандлю, можна было чакаць, што яны прымуць актыўны ўдзел у наладжванні стасункаў паміж Варшавай і Масквой і будуць падтрымліваць тыя палітычныя захады, якія спрыялі далейшаму развіццю гандля.

Паводле дамовы Вечнага міра 1686 года, усе гандляры, за выключэннем польска-літоўскіх габрэяў, маглі вольна падарожнічаць і гандляваць па абодва бакі дзяржаўнай мяжы. Смаленскія гандляры, згодна з польска-літоўскімі гандлёвымі правіламі і тарыфамі, валодалі выключнай прывілегіяй выкарыстоўваць для гандля з Рыгай рачны шлях па Дзвіне. Рыга мела гэткае ж ключавое значэнне для паўночнай Літвы і заходняй Расіі, як Гданьск для Польшчы. Акрамя таго, жыхарам абедзьвюх краін дазвалялася займацца транзітным гандлем, што адкрывала для вялікалітоўцаў і палякаў пярсідскі, а для расійцаў – заходнееўрапейскі рынак.[89] На жаль, гандлёвыя стасункі паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй даследаваныя вельмі слаба, і пра ўплыў на іх пагаднення 1686 году амаль нічога не напісана. Тым не менш, дыпламатычныя дакументы сведчаць, што купцы абедзьвюх краінаў хутка адрэагавалі на новыя магчымасці, якія адкрывала дамова Вечнага міра. Тым не менш, іх дзейнасць была запаволеная недастатковай абаронай іх інтарэсаў з боку Рэчы Паспалітай і карупцыяй, бюракратызмам і самаўпраўствам расійскіх мытнікаў. Улады абедзьвюх краін разумелі багаты патэнцыял гандля і намагаліся пазбыцца залішніх бюракратычных бар'ераў на яго шляху. Характар пададзеных купцамі скаргаў і ўрадавыя рашэнні сведчаць пра тое, што гандляры не мелі свайго палітычнага лобі, а дзейнічалі як адасобленыя юрыдычныя адзінкі, зацікаўленыя ў заключэнні асобных гандлёвых пагадненняў. [90] Да пачатку праўлення караля Аўгуста II (1697-1732) варшаўскія і крамлёўскія палітыкі лічылі эканамічныя стасункі паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай значным, але не вызначальным чыннікам ў фармаванні знешнепалітычнага курса.[91]

---

каштоўнымі крыніцамі інфармацыі што да каталіцкай дыяспары ў Маскве. Гл. таксама Ф.И. Калиничев, *Правовые вопросы*, ст. 117.

[89] *Volumina Legum*, том 6, ст. 79.

[90] Сабескі загадаў кароннаму амбасадару ў Маскве патрабаваць добрага абыходжання з купцамі, якія едуць у Расію з Рэчы Паспалітай. ЦГАДА, фонд 79, № 240.

[91] Неабходна заўважыць, што Сабескага хацеў атрымаць выхад да чарнаморскіх партоў, каб кантраляваць гандлёвыя шляхі з Балтыйскага ў Чорнае мора. Сакрэтный Архіў Ватыкана, польская нунцыатура, № 107, ст. 187-88. Пра планы

## Змена ўзаемнага ўспрыняцця.

З канца пятнаццатага стагоддзя маскоўская дзяржава ўзмацняла ціск на Вялікае Княства Літоўскае. Няздольнасць Вільні супрацьстаяць маскоўцам сам-на-сам прывяла ў 1569 годзе да заключэння паміж Вялікім Княствам і Польшчай Люблінскай Уніі. З гэтага моманту палякі дапамагалі ліцвінам супрацьстаяць экспансіі Масквы і блакаваць ёй выхад да Балтыйскага мора.[92] Адначасова палякі супернічалі са шведамі за панаванне на Балтыцы і з туркамі за валоданне Малдавіяй. Так, большасць польскай шляхты і значная частка сенатараў выказваліся супраць умяшальніцтва Жыгімонта III Вазы ў маскоўскія справы ў Час Смуты (1604-1613 гады). Нават вялікі каронны гетман Станіслаў Жалкеўскі, які ўвеў войскі Рэчы Паспалітай у Маскву пасля бліскучай перамогі пад Клушына ў 1610 годзе, быў зацятым крытыкам польска-літоўскай інтэрвенцыі. Жалкеўскі бачыў выдатную магчымасць, каб зладзіць вайсковую кампанію на ўсход, але не жадаў даваць маскоўцам повада для вайны. Ён планаваў распачаць перамовы з групай уплывовых баяраў, зацікаўленых ва ўзвядзенні на маскоўскі трон сына Жыгімонта, прынца Уладзіслава. Аднак Жыгімонт, на бяду Рэчы Паспалітай, планаваў сам заняць царскі трон і, праз нягнуткасць сваёй палітыцы, страціў шанец закласці новую дынастыю маскоўскіх цароў і пашырыць на Расію польска-літоўскі канстытуцыяналізм. Бескампраміснасць Жыгімонта абумовіла паўстанне дынастыі Раманавых, якія заўсёды памяталі, што яны занялі трон ва ўмовах, калі над Крамлём навісла польская цень, а іх сваякі таміліся ў польска-літоўскім палоне.[93]

У Крамлі ніколі не забываліся пра Клушына і заняцце каронным войскам Масквы. Вайна, распачатая царом супраць Рэчы Паспалітай ў 1634 годзе, скончылася перамогай апошняй, нават нягледзячы на расійка-шведскі хаўрус. Толькі катастрафічныя для Кароны наступствы казацкіх паўстанняў 1648, 1649 і 1652 гадоў далі Маскве шанец аднавіць свае пазіцыі на заходнім фронце. Аляксей Міхайлавіч рэфармаваў маскоўскае войска і распачаў у 1654 годзе новую вайну з Варшавай. Расійскі цар акупаваў амаль ўсю тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага разам са сталіцай Вільняй. Польскія войскі не маглі прыйсці на дапамогу Княству, бо на землях Каралеўства Польскага, як і на поўначы Вялікага Княства, стаялі шведскія войскі. Казакі, шведы і маскоўцы, з дапамогай прусаў і, пазней, трансільванцаў, кантралявалі амаль ўсю тэрыторыю Рэчы Паспалітай і планавалі яе падзел. Сітуацыю выратавалі неверагодныя высілкі павятовай шляхты, якая здолела дамагчыся рашучых перамог над шведамі і трансільванцамі. Прусія перайшла на бок Рэчы Паспалітай у абмен на тэрытарыяльныя саступкі. Казакоў удалося часова стрымаць абяцаннямі шырокай аўтаноміі на падставе Гадяцкай уніі 1659 года. Такім чынам, шляхта атрымала магчымасць засярэдзіцца на ўсходнім фронце і, урэшце рэшт, адкінуць маскоўскае войска за межы Вялікага Княства. Гэтая вайна з

Аўгуста што да балтыйска-чарнаморскага гандля гл. J. Kalisch, "Sachsisch-polnische ne zur Grundung einer See- und Handelskompanie am Ausgang des 17. Jh.," у *Um die Polnische Krone: Sachsen und Polen während des Nordischen Krieges, 1700-1721,* пад рэд. J. Gierowski і J. Kalisch (Berlin, 1962), ст. 46; J. Staszewski, *O miejsce w Europie. Stosunki Polski I Saksonii z Francją na przełomie XVII I XVIII wieku* (Warsaw, 1973), ст. 128-32.

[92] O. Halecki, *Dzieje unji jagiellońskiej* (Cracow, 1920); W. Sobieski, *Żółkiewski na Kremlu* (Cracow, 1920), ст. 12-21, 94; S. Żółkiewski, *Początek i progres wojny moskiewskiej* (Warsaw, 1966), ст. 146-55, 159-64, 167-92; J. Bardach, "Krewo I Lublin. Z problematyki unii polsko-litewskiej," у *Kwartalnik Historyczny* 76 (1969): 583-616; Ochmański, *Historia Litwy*, ст. 102-114; Флория, *Русско-польские отношения*, ст. 11-70; S. Gruszecki, "Idea unii polsko-rosyjskiej na przełomie XVI i XVII wieku, у *Odrodzenie i Reformacja w Polsce* 15 (1970): 89-98.

[93] Флория, *Русско-польские отношения*, ст. 239-84; J. Maciszewski, *Polska a Moskwa, 1603-1618. Opinie I stanowiska szlachty polskiej* (Warsaw, 1968); Gruszecki, "Idea unii polsko-rosyjskiej," ст. 89-98.

Масквой цягнулася доўгіх трынаццаць год і каштавала Рэчы Паспалітай Смаленску і левабярэжнай Украіны разам з Кіевам.[94]

Дзівоснае выратаванне польска-літоўскай дзяржавы пасля нападаў нагэтулькі вялікай колькасці ворагаў дало шляхце веру ў яе здольнасць абараніцца ад любога ворага. Вера ў тое, што вольны народ стаецца непераможным, падмацоўвалася прыкладамі з антычнай гісторыі і тагачаснымі падзеямі ў Галандыі, якія натхнялі шмат каго і ў Рэчы Паспалітай.[95]

Страту левабярэжнай Украіны ў Рэчы Паспалітай расцэньвалі не як перамогу Масквы, а як поспех казакаў у справе абароны сваёй дзяржавы. Зрастанне магутнасці Расіі ў Рэчы Паспалітай усвядомілі толькі напрыканцы стагоддзя, калі ў 1696 годзе Пётр І захапіў Азоў. Але нават тады замежныя эксперты, якія былі сведкамі аблогі горада, адзначалі непрафесійнасць расійскіх войскаў і вытлумачалі перамогу цара значнай колькаснай перавагай маскоўскага войска. Адчуванне бяспекі цалкам мінула пасля вялікай перамогі Пятра І над Карлам XII. Адгэтуль галоўным знешнепалітычным прыярытэтам Рэчы Паспалітай стала Унія з Саксоніяй (1697-1763).[96]

Расійскае ўспрыняцце Рэчы Паспалітай значна змянілася. Да таго моманту, як Польшча і Вялікае Княтсва ў 1569 годзе заключылі ўнію, Масковія паспяхова збірала землі старажытнай Кіеўскай Русі. Упэўнены ў сваёй непераможнасці, Іван Жахлівы нават напаў на балтыйскія парты Лівоніі, ў той час васала польскай кароны. Перамогі маскоўскага цара паскорылі падпісанне Люблінскай Уніі, якая, у сваю чаргу, змяніла баланс сіл у Еўропе і стварыла магутную еўрапейскую дзяржаву, здольную стрымаць маскоўскую экспансію. Неўзабаве Масква страціла Усць-Нарву, свой адзіны порт на Балтыцы. Пад пагрозай апынуліся Смаленск і Ноўгарад. У выніку, вайна скончылася спрыяльным для Рэчы Паспалітай Дэўлінскім пагадненнем 1582 года. Новая дзяржава сцвердзіла сваю сілу не толькі на полі бою, але і падчас працяглых перыядаў безкаралеўя і першых вольных выбараў манарха ў 1573-74 і 1575-76 гадах. Моц аб'яднанай польска-літоўскай дзяржавы падавалася нагэтулькі значнай, што пасля смерці караля Стэфана Баторыя ў 1586 годзе Баярская Дума раіла цару Фёдару Іванавічу ўступіць у барацьбу за польска-літоўскі трон. Маскоўскія амбасадары зазаблівалі каронную шляхту расповядамі пра будучыя сумесныя перамогі над Швецыяй і Атаманскай Портай.[97]

Палякі і вялікалітоўцы ўхвалілі гэтыя планы, але пажадалі, каб цар далучыў Масковію да Рэчы Паспалітай у якасці трэцяга суб'екта Кароны. Цар, натуральна, адкінуў прапанаваны каронным

[94] W. Kochowski, *Lata potopu 1656-1657,* пер. і рэд. L. Kukulski (Warsaw, 1966); Albrycht Stanisław Radziwiłł, *Pamiętnik o dziejach w Polsce,* том 3, пер. і рэд. A. Przybos і R. Zelewski (Warsaw, 1980); Chrapowicki, *Diariusz,* тамы 1-2; *Pisma polityczne z czasów panowania Jana Kazimierza Wazy 1648-60. Publicystyka, eksorbitancje, projekty, memorialy,* пад рэд. S. Ochmann-Staniszewska, том 1. (Wrocław, 1989); Karol Szajnocha, *Dwa lata dziejów naszych, 1646-1648* (Lviv, 1865); L. Kubala, *Wojna Brandenburska i Najazd Rakoczego w Roku 1656 i 1657* (Lviv and Moscow, не датавана [1910я]); той самы аўтар, *Wojna Moskiewska w Roku 1654-1655* (Warsaw, 1910); той самы аўтар, *Wojna Szwedzka w Roku 1655 i 1656* (Warsaw, 1913); той самы аўтар, *Wojny Duńskie i Pokój Oliwski 1657-1660* (Lviv, 1922); Wójcik *Traktat andruszowski 1667 roku i jego geneza* (Warsaw, 1959); Мальцев, *Россия и Белоруссия в середине XVII века* (Москва, 1974); Абецедарский, *Белоруссия и Россия*, XVI-XVII вв. (Минск, 1978); M. Horn, *Powinności wojenne Żydów w Rzeczypospolitej w XVI i XVII wieku* (Warsaw, 1978).
[95] J. Tazbir, *Rzeczpospolita i świat*, ст. 11-22, 28-29, 108-113. Wisner, *Najjaśniejsza Rzeczpospolita*, ст. 230-35.
[96] J. Gierowski, W cieniu Ligi północnej (Cracow, 1978); J. Feldman, Polska a sprawa wschodnia, 1709-1714 (Cracow, 1926); L.R. Lewitter, "Russia, Poland and the Baltic, 1697-1721," у The Historical Journal 11 (1968): 3-34.
[97] И.И. Лаппо, Великое княжество литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (Санкт-Петербург, 1904); B. Floria, "Magnateria litewska a Rosja w czasie drugiego bezkrólewia," у Odrodzenie I Reformacja 22 (1977); той самы аўтар, Польско-российские отношения, ст. 93-119.

палітыкамі варыянт, але перспектыва атрымаць шляхецкія прывілегіі, напэўна, шмат каму ў Маскве падалася надзвычай прыцягальнай.

Народныя паўстанні ўскалыхнулі расійскае грамадства і падштурхнулі Земскі сабор да актыўных захадаў. Невядома, ці паўплывалі еўрапейскія прадстаўнічыя ўстановы і, у прыватнасці, каронны парламент, на стварэнне Сабора, але існуюць сведчанні таго, што ўнутраныя справы Кароны даволі часта ставаліся прадметам абмеркавання Сабора. Акрамя таго, дакументы сведчаць пра сталую падтрымку Земскім саборам царскай палітыкі што да Рэчы Паспалітай. Так, у 1617 годзе маскоўскія парламентары прынялі бок цара Міхаіла Фёдаравіча ў барацьбе супраць Уладзіслава, у 1634 годзе яны заклікалі распачаць вайну супраць Рэчы Паспалітай, а падчас апошняга вялікага Сабора ў 1653 годзе ўхвалілі вайну за Украіну.[98] Тагачасная польска-літоўская палітыка цароў у значнай ступені вызначалася пазіцыяй Сабора. Паводле іроніі лёсу, да заняпада прадстаўнічага воргану спрычынілася ягоная ж агрэсіўная вайсковая палітыка.

Крывавыя войны першай паловы сямнаццатага стагоддзя і памяць пра Час Смуты выклікалі страх перад Рэччу Паспалітай ва ўсёй Расіі. Аднак 1654 годзе пасля захопу Вільні, сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, цар Аляксей Міхайлавіч і тысячы яго жаўнераў пераадолелі свой "польскі комплекс". Нягледзячы на тое, што планы цара падпарадкаваць сабе Вялікае Княства і ўсю Украіну не ажыццявіліся, цар здолеў заняць і ўтрымаць Смаленск і Кіеў. Ад таго часу галоўным прыярытэтам польска-літоўскай палітыцы расійскіх уладаў стала замацаванне новай межы. Менавіта таму заключэнне ў 1686 годзе Вечнага міра з Рэччу Паспалітай ў Расіі ўспрынялі як сваю аграмадную дыпламатычную перамогу. Жыццяздольнасць Люблінскай Уніі стрымала далейшую расійскую экспансію яшчэ стагоддзе.

Пакаленне расійцаў, прадстаўнікі якога захаплялі Вільню і Брэст, яшчэ паважала моц Кароны, але ўжо страціла свой страх перад ёй - страх, уласцівы папярэдняму пакаленню Часу Смуты. Аднак ў апошняй чвэрці стагоддзя тэндэнцыя знову змянілася: перамога пад Венай у 1683 годзе прадэманстравала вайсковую моц Рэчы Паспалітай, у той час, як польская культура яшчэ захоўвала ў Расіі сваю прыцягальнасць.

Адчуванне знешняй небяспекі ў расійскіх уладных колах падмацоўвалася спавешчаннямі дыламатаў з Варшавы, якія сцвярджалі пра спакой і ўпэўненасць палякаў што да расійскай палітыцы. Расійцы выкрылі намеры Рэчы Паспалітай павярнуць Украіну. Акрамя таго, некаторыя вышэйшыя чыноўнікі Кароны не хавалі сваіх рэваншысцкіх настрояў. Так, усім вядомыя былі планы вялікалітоўскага канцлера Марцыяна Агінскага скарыстацца суперніцтвам паміж Міласлаўскімі і Нарышкінымі, каб дамагчыся ад Масквы тэрытарыяльных саступак. Нягледзячы на тое, што расійскія амбасадары ведалі пра нізкую баяздольнасць каронннага войска і адзначалі адмоўнае стаўленне да вайны буйных землеўладальнікаў, расійскіх палітыкаў хвалявалі ваяўнічыя настроі шляхты.[99] Толькі праз некалькі год пасля абмена сталымі дыпламатычнымі місіямі расійцы зразумелі, што ўпэўненасць Рэчы Паспалітай грунтавалася не на моцы яе войска, а на перакананасці ў вяршынстве сваёй палітычнай сістэмы. Зразумеўшы гэта, расійскія палітыкі навучыліся выкарыстоўваць палітычныя інстытуты Кароны ў сваіх інтарэсах. Першым падобную

[98] Robert Crummey, The Formation of Muscovy 1304-1613 (London, 1987), ст. 225-32; Черепнин, Земские соборы, ст. 106-119, 121, 130-31.
[99] Пра стаўленне расійскага рэзідэнта да кароннай шляхты гл. главу 3.

тактыку апрабаваў Пётр Аляксеевіч (пасля Палтаўскай бітвы 1709 года), а Кацярына II яе удасканаліла.

## Глава 2. Дыпламатыя прафесіяналаў і дыпламатыя пачаткоўцаў.

Паралельна са зрастаннем турэцкай пагрозы, у Расіі падвышалася цікавасць да падзеяў у свеце. Заключэнне саюза з Польшчай, скіраванага супраць Турцыі, яднала Расію са Святым Альянсам, а амбасада ў Варшаве ставалася значнай крыніцай знешнепалітычнай інфармацыі. Першыя спробы наладзіць дыпламатычныя стасункі з Рэччу Паспалітай у 1674-1676 гадах выявіліся беспаспяховымі.[1] Пасля заключэння Вечнага міра Расіі спатрэбілася інфармацыя пра новага саюзніка, і цар запатрабаваў аднавіць дыпламатычныя стасункі з Каронай.

Звычайна польскі кароль выступаў за пашырэнне дыпламатычных кантактаў, а шляхта, якая падазорна ставілася да любога замежнапалітычнага супрацоўніцтва (за выключэннем выпадкаў, калі гэтыя стасункі падвышалі прыбыткі іх памесцяў), блакавала любыя дыпламатычныя захады. Кароль разлічваў выкарыстаць свой уплыў у дыпламатычным асяродку, каб вызначаць замежную палітыку, а шляхта рэфлексіўна намагалася абмежаваць зрастанне яго ўлады. Аднак у выпадку з аднаўленнем сталай маскоўскай дыпламатычнай місіі Сабескі прыняў бок шляхты, бо ён ведаў, што ідзе на рызыку – амбасадар Рэчы Паспалітай у Маскве фактычна ставаўся закладнікам цара.

Вымушаны пагадзіцца з павяртаннем маскоўскіх дыпламатаў у Варшаву, Сабескі запатрабаваў ад цара абмяняцца вайсковымі аташэ, што проціпрэчыла інтарэсам скрытнага цара.[2] Да таго ж, каб амбасадар Рэчы Паспалітай не трапіў у поўную ізаляцыю, кароль прапанаваў цару заснаваць паштовую службу, што паскорыла б камунікацыю паміж Масквой і Варшавай.[3] У выніку кампраміса Сабескі атрымаў згоду цара на сваю прапанову, што дазваляла яму абвінаваціць расійскі бок у парушэнні дамовы, калі, напрыклад, каралеўская карэспандэнцыя на даходзіла ў расійскую сталіцу цягам двух месяцаў. Акрамя таго, паміж дзяржавамі было закладзенае вайсковае супрацоўніцтва, аднак незацікаўленасць у ім расійскага кіраўніцтва звяла вайсковыя кантакты на нівец. Паводле дамовы, бакі аднаўлялі свае сталыя дыпламатычныя прадстаўніцтвы. Польская амбасада ў Маскве будзе дзейнічаць цягам 1964 і ад 1967 да 1968 года, а расійскае прадстаўніцтва ў Варшаве праіснуе да Першага падзела Рэчы Паспалітай, які адбыўся ў 1772 годзе.

---

[1] Расійцы афіцыйна прапанавалі Рэчы Паспалітай абмяняцца сталымі дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі пасля падпісання Андрусаўскага перамір'я ў 1667 годзе; Zbigniew Wójcik, *Między traktatem andruszowskim a wojną turecką. Stosunki polsko-rosyjskie 1667-1672* (Warsaw, 1968), ст. 186-87. На непрацяглы час бакі абмяняліся амбасадарамі. Дыпламатычныя прадстаўніцтвы былі адноўленыя пасля заключэння мірнай дамовы 1686 года. Ліст Марцыяна Агінскага Станіславу Шчуку, 21 красавіка 1687 года, Цэнтральны Архіў Гістарычных Актаў (Archiwum Główne Akt Dawnych, Варшава, далей AGAD), Архіў Патоцкіх (Archiwum Publiczne Potockich), № 52, ст. 61-62. Найлепшае апісанне расійскай дыпламатычнай службы ў сямнаццатым стагоддзі пададзенае ў М.И. Белов "Нидерландский резидент в Москве. Барон Иоганн Келлер и его письма" (канд. дис. , Ленинград, 1947 г.), ст. 13-55. Гл. таксама Я. Гурлянд, *Иван Ревон, комисариус и резидент* (Ярославль, 1903). Спісы замежных дыпламатаў у Маскве і расійскіх дыпламатаў за мяжой можна знайсці ў *Repertorium der diplomatischen Vertreter aller Lander seit dem Westfalischen Frieden,* пад рэд. Ludwig Bittner і Lothar Gross, том 1 (Berlin, 1936).

[2] Сенатары ўхвалілі намер караля толькі пасля таго, як азнаёміліся з умовамі аднаўлення сталых дыпламатычных стасункаў з Расіяй.

[3] W. Czapliński, "Dyplomacja polska w latach 1605-1648," у *Polska służba dyplomatyczna XVI-XVIII w.,* пад рэд. Z. Wojcik (Warsaw, 1966), ст. 250-56; Zbigniew Wójcik, "Organizacja dyplomacji w drugiej połowie XVII w.," тамсама, ст. 360-61. Гл. таксама K. Matwijowski, *Pierwsze sejmy z czasów Jana III Sobieskiego* (Wrocław, 1976), ст. 60-68, 80-83, 145-49, 175-85, 192-93, 235-38.

## Рэч Паспалітая

У адрозненне ад Расіі, у апошняй чвэрці сямнаццатага стагоддзя Рэч Паспалітая ўжо доўгі час падтрымлівала дыпламатычныя стасункі з еўрапейскімі краінамі. Яшчэ да сярэдзіны шаснаццатага стагоддзя кароль абмяняўся рэзідэнтамі (дыпламатамі, ніжэйшымі рангам за амбасадараў) са шматлікімі еўрапейскімі дзяржавамі. Яшчэ большая колькасць краін, сярод якіх і Масковія, скіроўвала ў Варшаву сваіх спецыяльных дасланнікаў.

За замежныя стасункі ў Рэчы Паспалітай адказвала адносна невялікая група таленавітых чыноўнікаў, звычайна сенатараў, якія мелі шырокія паўнамоцтвы. Гэтыя людзі, а таксама тыя, хто працаваў пад іх кіраўніцтва, не былі кар'ернымі дыпламатамі ў строгім сэнсе. Той, хто годам раней займаў пасаду амбасадара, мог у наступным годзе вызначаць замежную палітыку дзяржавы ці перайсці на працу ў сферы, не звязанай з замежнай палітыкай. Нягледзячы на існаванне жорсткай дыпламатычнай іерархіі, дзе кожны меў дакладна акрэсленыя функцыі, самое міністэрства не мела жорсткай структураваным. Акрамя таго, у ім вельмі мала ўвагі надавалася спецыялізацыі.

### Канцэлярыі

Тэарэтычна за замежныя стасункі ў Рэчы Паспалітай адказвала пяць асоб: вялікія канцлеры і падканцлеры Каралеўства Польскага і Вялікага Княства, а таксама вялікі каронны гетман. Кароль накіроўваў і каардынаваў іх дзейнасць. На падставе яго загадаў вялікія канцлеры, падканцлеры і вялікі гетман прадстаўлялі дыпламатычныя праблемы парламенту і сенацкаму кансіліюму, якія ў значнай ступені ўплывалі на фармаванне замежнай палітыцы. Так, парламент прызначаў усіх асноўных дыпламатаў на падпісанне Андрусаўскага перамір'я і Вечнага міра. Складзеныя канцлерамі дыпламатычныя інструкцыі дэталёва разглядаліся Сенатам і адмысловай парламенцкай камісіяй па замежных стасунках. У выпадку працяглых перамоў амбасадары звярталіся да караля па дадатковыя інструкцыі. Тады манарх звычайна дзейнічаў на падставе парадаў міністраў і сенатараў, якія запісваліся і прадстаўляліся на абмеркаванне парламента падчас яго наступнай сесіі. Амбасадараў абіралі з шэрагаў сенатараў-арыстакратаў з выбітнымі адміністратыўнымі і дыпламатычнымі здольнасцямі. Амбасадараў заўсёды атачала група экспертаў, дасведчаных у мове, культуры і гісторыі краіны, з якой вяліся перамовы.[4]

Паміж сесіямі парламенту кароль цалкам кантраляваў сферу замежных стасункаў. Нягледзячы на тое, што ён звычайна прымаў рашэнні на падставе парад сенатараў, манарх ладзіў і сваю сакрэтную дыпламатыю. Каралю і парламенту было жыццёва неабходна падтрымліваць добрыя стасункі з вялікімі канцлерамі – адзінымі асобамі ў дзяржаве, якія мелі права адказваць на запыты манархаў і дыпламатаў іншых краін. Парламент разглядаў вялікіх канцлерах як абаронцаў законнасці, а кароль патрабаваў, каб яны ўцелясnялі яго часцяком неправамоцныя ініцыятывы. Праз тое, што некаторыя канцлеры і падканцлеры мелі адносна сціплае паходжанне і былі

[4] A. Wyczański, "Polska slużba dyplomatyczna w latach 1506-1530"; R. Żelewski, "Organizacja koronnej służby dyplomatycznej za Zygmunta Augusta"; S. Grzybowski, "Organizacja polskiej służby dyplomatycznej w latach 1573-1605"; W. Czapliński, "Dyplomacja polska"; Zbigniew Wójcik, "Organizacja dyplomacji"; усе змешчаныя ў *Polska służba dyplomatyczna.* Гл. таксама *Historia dyplomacji polskiej,* ed. Marian Biskup, vol. 1 (Warsaw, 1980), ст. 509-518,573-81,741-77; і *Historia dyplomacji polskiej,* ed. Z. Wójcik, vol. 2 (Warsaw, 1982) ст. 142-45, 270-73.

абавязаныя сваёй пасадай добрай адукацыі, працавітасці і каралеўскай пратэкцыі, яны часам ставаліся найбольш адданымі прыхільнікамі манарха.[5]

Часам вялікія канцлеры падтрымлівалі прэтэндэнтаў, якія прайгравалі барацьбу за карону, у выніку чаго гублялі давер новаабраных каралёў і сваю пасаду. Аднак звычайна як найменш адзін з двух вялікіх канцлераў станаўся даверанай асобай манарха і прыкладаў пячатку да значных каралеўскіх указаў. Часам кароль прызначаў канцлерамі і падканцлерамі прадстаўнікоў ўплывовых арыстакратычных радоў, а не прафесійных чыноўнікаў. Так, Ян Сабескі зрабіў Дамініка Радзівіла, брата памёрлага мужа сваёй сястры Міхала Казіміра Радзівіла, канцлерам, а свайго пляменніка Караля Радзівіла падканцлерам Вялікага Княства. Гэтымі прызначэннямі Сабескі хацеў стварыць у Княстве адданую яму групоўку, якая б была дастаткова заможнай і ўплывовай палітычна, каб супрацьстаяць клану Сапегаў.[6]

Тэарэтычна стасункі з Масквой ставаліся прэрагатывай вялікалітоўскага канцлера, але расійскія дыпламаты нярэдка звярталіся й да польскіх канцлераў і падканцлераў. Тым не менш, да ўсёй афіцыйнай карэспандэнцыі, што дасылалася Маскву, прыкладалася пячатка Вялікага Княства. Так, у 1693 годзе, калі паўстала патрэба скіраваць цару тэрміновае дасланне, але пры каралеўскім двары не было канцлера ці падканцлера ВКЛ, Сабескі не знайшоў іншага выйсця, як падрабіць пячатку Княства. Каралеўскае рашэнне выклікала скандал, які ўзмацніў недавер расійцаў да палітыкаў Рэчы Паспалітай.[7] Канцлер і падканцлер заўсёды трымалі пячаткі пры сабе і мелі права прыкладаць іх да ўказаў, лістоў прызначэння ці дасланняў замежным манархам толькі на падставе загадаў караля. Калі вялікі канцлер пакідаў каралеўскі двор, яго абавязкі выконваў адпаведны падканцлер.

Наступнымі пасля канцлераў у дзяржаўнай іерархіі Рэчы Паспалітай йшлі вялікі каронны і вялікалітоўскі сакратары, якія прызначаліся са стану духавенства. Сакратары ставаліся прыярытэтнымі кандыдатамі, калі вызвалялася пасада аднаго з вялікіх канцлераў. Гэтая акалічнасць умацоўвала іх уплыў і адначасова забяспечвала ўстойлівасць і пераемнасць улады. Вялікія сакратары складалі пратаколы пасяджэнняў сенацкіх кансіліюмаў і кантралявалі дзейнасць канцэлярыі. Да ўсяго, яны ўдзельнічалі ў прыватных нарадах караля з сенатарамі і рыхтавалі

---

[5] Восем з трыццаці двух каронных канцлераў і падканцлераў паходзілі з арыстакратычных сямей. Сабескі "успадкаеміў" шмат вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў ад свайго папярэдніка Міхала Карыбута Вішнявецкага, але цягам сваёй доўгай кадэнцыі паволі паставіў адданых сабе людзей на ўсе ключавыя дзяржаўныя пасады.

[6] Дамінік Мікалай Радзівіл, вялікалітоўскі падканцлер у 1681-1690 гадах, (яго папярэднік Міхал Казімір Радзівіл займаў гэтую пасаду ад 1668 да 1680 года), і канцлер ад 1690 ад 1697 года. Караль Радзівіл, спярша падканцлер (1690-1697, прызначаны ў надзвычай маладым ўзросце 21 году) і пазней вялікалітоўскі канцлер. Гл. Dworzaczek, *Geneologia* (Warsaw, 1959), Табліца 164. Пра нацягнутыя стасункі Сабескага з Сапегамі гл. Kazimierz Piwarski, *Między Francją a Austrją. Z dziejów polityki Jana III Sobieskiego w latach 1687-1690* (Cracow, 1933), ст. 14-15, 53, 97, 101.

[7] Расійскаму дыпламату Барысу Міхайлавічу Міхайлаву падалася падазронай новая каралеўская пячатка, прыкладзеная да лістоў Сабескага расійскім царам. Ад сакратара расійскай місіі, некага Самойлы Ражыцкага, стала вядома, што тая пячатка была копіяй сапраўднай пячаткі Вялікага Княства, зробленая майстрам-габрэям паводле загада караля, каб Сабескі меў магчымасць ліставацца з царом у адсутнасці вялікалітоўскага канцлера. Ліст Міхайлава царам, 23 снежня, 1693 года. Центральный государственный архив Древних Актов (Москва, далей ЦГАДА), фонд 79, № 243, ст. 946-48. Расійскі дыпламат выказаў сваё нежаданне прымаць каралеўскія лісты з новай пячаткай. Колькі часу Сабескі карыстаўся падробнай пячаткай Вялікага Княства, застаецца невядомым. Дакладна вядома, аднак, што кароль часцяком знаходзіўся ў сваёй рэзідэнцыі без сенатараў ці нават канцлераў.

матар’ялы для місіяў апошніх за мяжу. Як найменш адзін з вялікіх сакратароў мусіў быць заўсёды прысутным пры каралеўскім двары.[8]

Ніжэй за сакратароў стаялі каронны і вялікалітоўскі рэферэндары.[9] Яны мелі непасрэдныя кантакты з каралём і, у адсутнасць вялікіх сакратароў, адказвалі за складанне пратаколаў пасяджэнняў сенацкіх кансіліюмаў. У якасці супрацоўнікаў канцэлярыі, рэферэндары, разам з падпарадкаванымі ім пісцамі, вялі справы Каралеўскага трыбунала.

Наступнымі пасля рэферэндараў у іерархіі канцэлярыі былі рэгенты. Яны адказвалі за дзейнасць пісцоў, што складалі дакументы паводле загадаў вышэйшых чыноўнікаў. Найніжэйшымі чыноўнікамі канцэлярыі ставаліся пісцы і малодшыя сакратары. Пад наглядам натарыюсаў яны ўкладалі копіі найбольш значных дакументаў польскай і вялікалітоўскай канцэлярыяў у асобныя кнігі, польскую (у Варшаве) і вялікалітоўскую (у Вільні).[10]

Малодшыя сакратары падзяляліся на актуарыяў і тытуларыяў. Актуарыі складалі афіцыйныя дэкрэты, лісты, інструкцыі ды іншыя дакумнеты, якія ім надыктоўвалі вышэйшыя дыпламаты. Тытуларыі ставаліся прыдворнымі, якія займаліся не толькі штодзённай працай канцэлярыі. Ім часам даручалі сур’ёзнейшыя заданні, напрыклад дыпламатычныя місіі за мяжу ці абслугоўванне замежных дыпламатаў у Польшчы. Адзін з малодшых сакратароў займаў пасаду сакратара расійскай экспедыцыі і адказваў за пераклад усіх дакументаў з Масквы. Увядзенне асобнай пасады спатрэбілася, бо маскоўская і варшаўская канцэлярыі выкарыстоўвалі ў ліставанні паміж сабой адпаведна расійскую і польскую мовы. Пры гэтым дыпламатычная карэспандэнцыя з краінамі Заходняй Еўропы вялася на лаціне, зразумелай ўсім малодшым сакратарам канцэлярыі.[11]

Фармальных бар’ераў для кар’ернага роста ў канцэлярыі не існавала. Прасоўванне па службовай лесвіцы залежала ад здольнасцей чыноўніка, яго адукацыі і, у немалой ступені, прыхільнасці манарха. Веданне права ставалася значнай перавагай. З улікам таго, што шэраг вышэйшых пасадаў заканадаўча замацоўвалася за духавенствам, прыналежнасць да каталіцкай іерахіі дапамагала зрабіць кар’еру ў канцэлярыі.

Структура і функцыянаванне канцэлярыі сведчылі, што ўсе значныя дыпламатычныя рашэнні прымаліся каралём і яго атачэннем. Выключнае права яе галоваў прыкладаць пячаткі да ўсіх значных дзяржаўных дакументаў, вядзенне архіва, а таксама роля канцэлярыі ў складанні ўказаў і заканадаўчых актаў – усё гэта мацавала цэнтральную ўладу і пазіцыі караля. Больш за тое, доступ да вышэйшых урадоўцаў і самога караля набліжаў персанал канцэляры да галоўнай крыніцы дзяржаўнай улады і даваў ім веду пра стан рэчаў у Рэчы Паспалітай. Як прадстаўнікі дзяржаўных інтарэсаў, супрацоўнікі канцэлярыі непазбежна ператвараліся ў прыхільнікаў цэнтралізацыі ўлады і

[8] *Volumina Legum. Prawa, konstytucje y przywileie Królestwa Polskiego, Wielkiego Księstwa Litewskiego y wszystkich prowincyi należących*, ed. J. Ohryzko, vol. 1 (St. Petersburg, 1859), ст. 136; M. Kromer, *Polska czyli o położeniu ludności, obyczajach, urzedaeh i sprawach publicznych Królestwa Polskiego,* vol. 2, ed. R. Merchwinski (Olsztyn, 1977), ст. 126; Żelewski, "Organizacja koronnej," ст. 83-84

[9] Георгіус Шульц, які ў васямнаццатым стагоддзі даследваў каронную канцэлярыю Рэчы Паспалітай, заўважыў, што "referendarii non sunt tasenti." *Commentarius de cancellariis Regni Poloniae* (Gdańsk [Dantisci], 1712), ст. 62-63.

[10] Schultz, *Commentarius;* Kromer, Polska, ст. 127-28. Гл. таксама Reinhold Heidenstein, *Cancellarius sive de dignitate et officio cancellarii Regni Poloniae* (Braniewo, 1610).

[11] Żelewski, "Organizacja dyplomacji," ст. 85-90.

прымалі бок караля. Аднак паводле паходжання і сувязяў, яны збольшага ставаліся палітычна актыўнымі землеўладальнікамі, то бок прадстаўнікамі шляхты.Чыноўнікі канцэлярыі падзялялі погляды і інтарэсы свайго класа, але праводзілі пры гэтым каралеўскую палітыку.

Падчас пасяджэнняў павятовых сеймаў супрацоўнікі канцэлярыі і іх сваякі падтрымлівалі каралеўскія ініцыятывы. Нават калі воля манарха йшла ў разрэз з інтарэсамі арыстакратыі і сенатараў, чыноўнікі канцэлярыі стала бралі бок караля і не баяліся выказвацца супраць найбольш уплывовых магнатаў і лідэраў апазіцыі. Часам яны нават наўмысна інтэрпрэтавалі законы Рэчы Паспалітай на карысць караля. Тым не менш, чыноўнікі канцэлярыі лічылі сябе ў першую чаргу грамадзянамі Кароны і толькі пасля - падданымі караля. У 1688 годзе, калі супрацоўнікі канцэлярыі вынялі ліставанне і паперы памерлага канцлера Яна Велапольскага, яны рабілі гэта не як каралеўскія служкі, але як грамадзяне, вымушаныя парушыць законы Рэчы Паспалітай, каб выратаваць краіну ад інтрыг арыстакратыі.[12]

Апроч кароннай і вялікалітоўскай канцэлярыяў, існавала й канцэлярыя вялікага кароннага гетмана. У яе функцыі ўваходзіла падтрымання стасункаў з Турцыяй, Малдавіяй, Валахіяй і Крымскім ханствам, а таксама вядзення перамоў з казакамі. Парламент кантраляваў дыпламатычныя ініцыятывы гетмана і часцяком выпраўляў сваіх прадстаўнікоў на перамовы з Турцыяй і яе васаламі. Так, амбасадары ў Стамбуле і Бахчысараі не толькі атрымлівалі інструкцыі з каралеўскай канцэлярыі, але й дадатковую інфармацыю ад гетмана, які падтрымліваў дыпламатычнае ліставанне з турэцкімі пашамі. Пасля заключэння Вечнага міра (у прыватнасці, падчас крымскай экспедыцыі) вялікі каронны гетман Ян Станіслаў Ябланоўскі кантактаваў з расійскім вайсковым кіраўніцтвам і казацкім гетманам Іванам Мазэпам, з якім ён нават абмяняўся вайсковымі аташэ.[13]

Як дзяржаўны чыноўнік, вялікі каронны гетман падпарадкоўваўся каралю і парламенту. Тым не менш, ён меў нагэтулькі шырокія паўнамоцтвы, што сам па сабе ўплываў на замежную палітыку Рэчы Паспалітай. Гетман Ябланоўскі ўвесь час узгаджаў свае дзеянні з Сабескім, інфармаваў яго пра апошнія падзеі ў свеце, праводзіў каралеўскую палітыку што да Турцыі і Крыма і выконваў даручэнні стасоўна кантактаў з казакамі. Час ад часу кароль і вялікі каронны гетман разыходзіліся ў поглядах, але выпадкі нязгоды ставаліся дробнымі і не ўплывалі на агульны вектар палітыцы Рэчы Паспалітай, скіраванай на ўзмацненні ўплыву ў дунайскіх княствах пры захаванні магчымасці сепаратнага замірэння з Турцыяй.

---

[12] Дослед палітычнай актыўнасці такіх людзей, як Стэфан Гадлеўскі, Ян Гарзэнскі, Станіслаў Карвіцкі, Казімір Лігеза, Ян Апалінскі і Станіслаў Шчука сведчыць пра тое, што яны гралі аграмадную ролю ў эфектыўным функцыянаванні выканаўчай улады і адстойванні каралеўскіх інтарэсаў у парламенце. Пра іх дзеянні можна меркаваць на падставе іх ліставання. Гл. Piwarski, *Między Francją a Austrją*, pp. 34-38 43-44, 53, 85, 105. Гл. таксама AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163a, том 24, ст. 92-93, 108, 117 120-21, 180, 185, 352, 465, 694-96, 706, 709-712; № 163a, том 25, ст. 368-69, 414; Бібліятэка-Музей імя Чартарыскіх (Biblioteka Muzeum im. Ks. Czartoryskich, Кракаў, далей біб. Чарт.), № 181 ст. 632. Станіслаў Шчука ладзіў кампанію па прасоўванні людзей караля падчас парламенцкіх выбараў 1692 года. Яго агенты дакладалі: “Мы набылі падтрымку часткі мясцовых радаў, а іншых прыцягнулі на свой бок пасля доўгай працы з імі.” AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163a, том 22, ст. 571. Тамсама, ст. 569, 806. Больш пра “партыю”, якая падтрымлівала караля гл. у Piwarski, *Między Francją a Austrją*, ст. 34-38, 43-44, 53, 85, 105.

[13] Wójcik, "Organizacja dyplomacji," ст. 270; гл. таксама крытычны агляд Войціка наступнага артыкула: W. Zakrzycki *Dyplomacja hetmanów w dawnej Polsce* (Warsaw and Poznań, 1976) у *Kwartalnik Historyczny* 83 (1976): 929-33.

Глава 2. Дыпламатыя прафесіяналаў і дыпламатыя пачаткоўцаў

## Каралеўская дыпламатыя

Праз свой уплыў у кароннай, вялікалітоўскай і гетманскай канцэлярыях, Сабескі фактычна вызначаў замежную палітыку дзяржавы. Больш за тое, манарх выкарыстоўваў сваіх прыдворных, каб ладзіць таемную дыпламатыю. Ролю Сабескага ў стасунках Рэчы Паспалітай з Расіяй можна вызначыць, прааналізаваўшы дзейнасць дыпламатычных ведамстваў двух краін. Найлепшай крыніцай інфармацыі тут стаюцца спавешчанні ў Пасольскі прыказ расійскага дыплашата Барыса Міхайлавіча Міхайлава, які быў рэзідэнтам у Варшаве ад 1691 да 1696 года.

Пры неабходнасці абысці канцэлярыю ў стасунках з замежнымі дыпламатамі, кароль звяртаўся да сенатараў ці сваіх бліжэйшых дарадцаў, такіх, як сябар караля, сенатар і рутэнскі ваявода Марэк Матчынскі. Уплыў Матчынскага на тагачасную замежную палітыку Рэчы Паспалітай цяжка пераацаніць. Пасля смерці вялікалітоўскага канцлера Марцыяна Агінскага ён фактычна манапалізаваў кантакты з расійскімі дыпламатамі. Так, Матчынскі дваццаць тры разы сустракаўся з Міхайлавымі падчас пяцігадовага перабывання апошняга ў Варшаве – нашмат больш, чым любы іншы сенатар.[14] Усе расійскія рэзідэнты лічылі яго надзвычай уплывовым урадоўцам. Больш за тое, Матчынскі быў экспертам па казацкім пытанні, валодаў расійскай мовай і часцяком перакладаў заявы расійскіх дыпламатаў іншым сенатарам. Ролю Яна Сабескага ў вызначэнні ўсходняй палітыцы Кароны апісаў Пракофі Багданавіч Вазніцын, першы расійскі дыпламат у Рэчы Паспалітай пасля дванаццацігадовага перапынка ў дыпламатычных стасунках. Вазніцын адзначыў, што кароль вырашае ўсе пытанні “у прыватных пакоях”[15] разам са сваімі найбліжэйшых дарадцаў Матчынскага і Яблаunion ўскага (Марцыян Агінскі ў той час лекаваўся за мяжой). Дамініка Радзівіла расійскі дыпламат характарызаваў як нясмелага юнака, які не меў дакладна акрэсленых поглядаў (“никово дела в нём нету”).[16]

Вазніцын, як і яго наступнікі Волкаў і Міхайлаў, неаднаразова дакладаў, што сенатары не хочуць з ім сустракацца, бо баяцца каралеўскага гнева. Міхайлаў пісаў, паводле патрабавання Матчынскага, канцлер Дэнхоф скасаваў запланаваную з ім сустрэчу, спаслаўшыся на хваробу. Паводле расійскіх дыпламатаў, толькі Матчынскі, Яблаunion ўскі, рэферэндар Станіслаў Шчука і вялікі каронны стольнік Францішак Галецкі прысутнічалі падчас таемных нарадаў з каралём, дзе яны разам вырашалі пытанні ўсходняй палітыцы.[17] З лістоў расійскіх дыпламатаў вынікае, што Сабескі нябачна

---

[14] Ад 1692 да 1696 года Міхайлаў 23 разы сустрэўся з Матчынскім (17 з іх па ініцыятыве расійскага дыпламата), 11 разоў з вялікалітоўскім канцлерам Дамінікам Радзівілам, аднойчы з вялікалітоўскім падканцлерам Каралем Радзівілам, 7 разоў з кароным канцлерам Дэндорфам і 5 разоў з каронным гетманам Ябланоўскім. ЦГАДА, фонд 79, № 242 і 243.

[15] Ліст Вазніцына Галіцыну, 30 красавіка 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 49.

[16] Тамсама. Вазніцын, Волкаў і Міхайлаў дакладалі, што Матчынскі ставаўся адным з найбліжэйшых дарадцаў караля і задаваў тон усіх сустрэчаў расійскіх дыпламатаў з сенатарамі. Гл. ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 14, 43-44, 53-60; № 235, ст. 49, 86-90, 130; № 238, ст. 83; № 242, ст. 105-107; № 243, ст. 509-522, 587-90, 597-605.

[17] У сваім спавешчанні Галіцыну ад 21 траўня 1689 года, Вазніцын пісаў, што сенатары ставіліся да яго прыязна, але баяліся, “чтобы какой беды не было”. ЦГАДА, фонд 79, № 235 (1689), ст. 77. Волкаў скардзіўся, што сенатары адмаўляліся сустракацца з ім без дазволу на тое караля. Гл. ліст Галіцыну, 21 чэрвеня 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 229-31. У ліпені 1693 года Міхайлаў пісаў, што канцлер Дэндорф прызначыў яму аўдыенцыю, але паслухаўся парады Матчынскага і Шчукі і, спаслаўшыся на хваробу, скасаваў сустрэчу. ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 836. Сабескі, Матчынскі, Ябланоўскі, Шчука і Галецкі падтрымлівалі ў той час таемныя кантакты з казакамі. ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 231

прысутнічаў падчас іх сустрэчаў з сенатарамі. Так, яны сцвярджалі, што кароль сядзеў за шырмай у суседнім пакоі і час ад часу дасылаў Шчуку з інструкцыямі Матчынскаму ды іншым сенатарам.[18]

Найадданейшым чалавекам караля ў канцэлярыі быў Станіслаў Шчука. Энергічны ды таленавіты службоўца і дасведчаны праўнік, Шчука пачаў кар'еру ў якасці адваката пры Каралеўскім трыбунале. Паводле рэкамендацыі свайго дзядзькі, плябана касцёла ў Парадысе і зацятага прыхільніка караля, ён патрапіў у каралеўскую канцэлярыю і зрабіў там паспяховую кар'еру. Дзякуючы адданасці каралю і незвычайнай сцямлівасці ў справах, Шчука хутка стаў нагэтулькі ж заможным чалавекам, як і большасць сенатараў. Акрамя таго, прыхільнасць караля дазволіла яму ажаніцца з прадстаўніцай рода Патоцкіх, аднаго з найбольш уплывовых малапольскіх кланаў. Нягледзячы на тое, што Шчука ніколі не ўваходзіў у найбліжэйшае атачанне караля, Сабескі пакладаўся на яго ў пытаннях унутранай палітыцы. Шчука надзвычай паспяхова ладзіў перамовы з лідарамі апазіцыі, карыстаўся шырокай падтрымкай каралеўскіх прыхільнікаў у правінцыі і меў сур'ёзныя важалі ўплыву ў павятовых сеймах і парламенце. Сабескі нагэтулькі высока цаніў яго талент перамоўшчыка, што часам нават даручаў Шчуку падтрымліваць кантакты з расійскімі дыпламатамі ў Польшчы.[19]

Становішча Іосіфа Шумлянскага, які ў значнай ступені вызначаў каралеўскую палітыку што да Украіны, ставалася іншым. Шумлянскі займаў пасаду праваслаўнага епіскапа Львова, але меў непрыхаваныя амбіцыя на кіеўскае мітрапаліцтва, нягледзячы на тое, што карыстаўся шэрагам прывілегіяў мітрапаліта. Епіскап марыў адбудаваць старажытную галіцкую епархію і стаць духоўным лідарам праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай. Натуральна, Шумлянскі супрацьстаяў маскоўскай праваслаўнай іерархіі і таемна падтрымліваў каталіцкую царкву ў Польшчы, чым заслугаваў падтрымку караля і прыхільнасць каталікоў. Аднак на справе львоўскі епіскап ставаўся палітычным хамелеонам, які часам блытаўся ў сваіх лічынах і намагаўся дагадзіць адначасова каралю і цару. Шумлянскі падтрымліваў намаганні Сабескага павярнуць Украіну, але адначасова абвяшчаў сваю адданасць цару і праводзіў малебны за яго здароў'е ў сваіх манастырах. Нягледзячы на прагненне Шумлянскага залагодзіць цара, у Маскве ніколі не давяралі львоўскаму епіскапу, хаця й лічылі яго патэнцыйна карысным саюзнікам.[20]

Кароль даручыў Шумлянскаму падтрымліваць кантакты з украінскай праваслаўнай іерархіяй. Расійскія дыпламаты небеспадстаўна падазравалі, што польскую вайсковую выведку ачольваў гетман Ябланоўскі, а збіраннем інфармацыі па царкоўнай лініі займаліся Шумлянскі, Клімент Дамарацкі (аўрушскі архімандрыт ад 1694 года), падначаленыя апошняму манахі, а таксама манахі Крэхіўскага манастыра, у прыватнасці Фёдар Руцкі ды Іван Заруда Храптовіч. Пра палітычную

---

[18] Спавешчанне Міхайлава царам, 28 лютага 1694 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 1018-33.
[19] Найноўшы доследролі Станіслава Шчукі: Zbigniew Wójcik, *Jan Sobieski 1629-1696* (Warsaw, 1983), ст. 295, 388, 407-408, 424, 426-27, 429, 440-41, 449-51, 456, 482-85.
[20] Спавешчанне Міхайлава царам, 16 чэрвеня 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 177-81. Палітычная актыўнасць Шумлянскага дэталёва разглядаецца ў главе 6. Найгрунтоўнешая праца, прысвечаная Шумлянскаму: M. Andrusiak, *Józef Szumlański, pierwszy biskup unicki lwowski (1667-1708)* (L'viv, 1934). Гл. таксама Dionizy Zubrzycki, *Kronika miasta Lwowa* (L'viv, 1844), ст. 436, 443, 447.

дзейнасць Шумлянскага ва Ўкраіне, якую Сабескі скіроўваў асабіста, ведалі толькі найбліжэйшыя каралеўскія дарадцы.[21]

Апроч Ежы Дамініка Доўманта, польскага амбасадара ў Маскве ў 1688-1694 гадах, за ўцелясненне ўсходняй палітыцы Рэчы Паспалітай адказвалі Самойла Ражыцкі, Іван Акраса, Хрыстафор Сырут, Ян Мыслішэўскі, Стэфан Глакоўскі і Адам Сарноўскі. Ражыцкі быў сакратаром расійскай экспедыцыі. У яго абавязкі ўваходзілі пераклад царскіх дасланняў, складанне каралеўскіх адказаў на іх і падтрыманне кантактаў з расійскімі дыпламатамі ў Польшчы. Час ад часу ён перакладаў для сенатараў, якія прысутнічалі падчас сустрэчаў расійскіх і каронных дыпламатаў. Праваслаўная вера шляхціча Ражыцкага зрабіла яго галоўнай мішэняй царскіх агентаў, якія неаднаразова, але беспаспяхова, спрабавалі падкупіць каралеўскага дарадца. Сярод іншых дыпламатаў найбольш паслядоўна каралеўскія інтарэсы адстойваў Іван Акраса, навагрудскі лоўчы праваслаўнага веравызнання. Ён адказваў за стасункі з расійскімі дыпламатамі, азнаямляў іх з рашэнні караля і наглядаў за тым, каб Матчынскі даваў адказы на іх дыпламатычныя запытанні. Акраса амаль штотыднёва сустракаўся з расійцамі і рэгулярна бываў у Маскве, дзе незаменнымі выяўляліся яго веданне расійскай мовы і дасведчанасць у перамовах з дзякамі і баярамі, з некаторымі з якіх Акраса нават сябраваў. У 1691 годзе, падчас аднаго са сваіх візітаў у Расію, Акраса паспрабаваў таемна сустрэцца з увязненай царэўнай Соф'яй, але быў затрыманы ў Навадзевічым манастыры. Паводле Сабескага, каб стаць выбітным амбасадарам у Расіі, Івану Акрасе бракавала толькі належнай адукацыі. Акраса стаўся нагэтулькі адданым каралю, што расійскія дыпламаты нават не спрабавалі прапаноўваць яму хабар.[22]

Праваслаўны шляхціч Хрыстафор Сырут і Ян Мыслішэўскі (паводле Вазніцына, чалавек, надзвычай адданы каралю) выступалі ў ролі прыставаў, ці сакратароў, і выконвалі функцыі кур'ераў у сталіцы вялікіх дзяржаў. Стэфан Глакоўскі, капітан каралеўскай гвардыі, тры гады (ад 1687 да 1689 года) быў вайсковым аташэ ў Расіі. Яго спавешанні ставаліся галоўнай крыніцай інфармацыі пра моц і баявы дух расійскага войску. Адам Сарноўскі, якога Вазніцын называў "каралеўскім паштмейстрам", займаўся карэспандэнцыяй Доўманта: спачатку расшыфроўваў лісты з расійскай сталіцы, а пасля зашыфроўваў і дасылаў каралеўскія адказы ў Маскву.[23]

---

[21] Падчас стралецкага паўстання ў 1682 годзе Шумлянскі, паводле загада Сабескага, даў манахам Івану Заруднаму і Фёдару Хрэптовічу заданне прапагандаваць стварыць сярод казацтва і духавенства стварэнне пра-кароннага руху. ЦГАДА, фонд 79 (стасункі з Польшчай, 1682), № 9. Сабескі і раней (1672, 1674-1675) камунікаваў з Дарашэнкам праз Шумлянскага. Гл. Jan Perdenia, *Stanowisko Rzeczypospolittej szlacheckiej wobec sprawy Ujrainy na przełomie XVII-XVIII w.* (Wrocław, 1963), ст. 21, 28; Wójcik, *Jan Sobieski*, ст. 206, 244, 304-305. Пра пазнейшыя кантакты паміж Сабескім і Шумлянскім гл. спавешчанні Міхайлава ад 7 і 21 лютага і 18 красавіка 1694 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 997-98, 1013, 1069. Гл. таксама ліст гетмана Яблаўскага Шчуку, 27 ліпеня 1692 года, AGA, Архіў Патоцкіх, № 163, том 22, ст. 481.

[22] Кароткую біяграфію Доўманта можна знайсці ў: Kazimierz Piwarski, "Jerzy Dominik Dowmont," у Polski słownik biograficzny, том 5 (Cracow, 1939) ст. 353-54. Па інфармацыю пра яго рэзідэнцтва ў Маскве гл. ЦГАДА, фонд 79, рук 240, ст. 2-1212 і фонд 79 (стасункі з Польшчай, 1687), № 10. Гл. таксама AGAD, Архіў Патоцкіх, № 45, том 2 і рук 162; AGAD, Каронны архіў (Archiwum koronne), расійскае аддзяленне, № 4, нум. 108-118; біб. Чарт., № 1376. Заўвагі датычна Акрасы і Ражніцкага грунтуюцца ў першую чаргу на спавешчаннях расійскіх дыпламатаў.

[23] Інфармацыю пра Сарноўскага, Мыслішэўскага і Сырута грунтуецца на заўвагах расійскіх дыпламатаў і згадках пра іх у польскіх крыніцах. Найбольш значныя з іх – ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 16-20, 77-79; № 235, ст. 40, 46, 160; № 238, ст. 53, 118; № 243, ст. 93; біб. Чарт., № 422, ст. 118-19, 155-56; AGAD, Архіў Патоцкіх, № 48, ст. 27-28.

Акрамя афіцыйнага дыпламатычнага штата, Сабескі мог разлічваць на шэраг інфарматараў ва Ўкраіне, Крыме і Буджаку. Сярод іх былі: Васіль Іскрыцкі, зяць казацкага палкоўніка ў Міргарадзе і чалавек з вялікімі сувязямі ў казацкім кіраўніцтве; капітан Дубраўскі, суправодца Захарыя Буйноўскага, выбітнога агента караля, які адказваў за Крым і Буджак і наведваў Ўкраіну, каб "выклікаць паўстанне"[24]; Захары Віслоцкі; купец Кірыяк Ісаевіч; прыдворны Ланер; і нехта Банадоўскі, які мешкаў у Крыме ад 1674 года.[25]

У 1692 годзе шляхціч Самуіл Дарэўскі, які працаваў у Расіі на шэраг баяраў, павярнуўся ў Польшчу і быў прыняты ў канцэлярыю Дамініка Радзівіла. Дарэўскі выявіўся незаменнай крыніцай інфармацыя пра канкуруючыя групоўкі маскоўскіх баяр. Расійскія дыпламаты былі нагэтулькі заклапочаныя яго надзвычай высокай дасведчанасцю ў маскоўскіх падзеях, што прынялі ў штыкі прапанову зрабіць Дарэўскага наступнікам Доўманта.[26] У якасці альтэрнатывы Дарэўскаму на пасаду амбасадара ў Маскве кароль разглядаў кандыдатуру аднаго з адданых яму прыдворных - навагрудскага харужага Самуіла Швяйкоўскага. Апошні меў шмат сваякоў у Маскве і, паводле дыпламатаў Кароны ў расійскай сталіцы, добра разбіраўся ў маскоўскай палітыцы і быў здольны выканаць любую дыпламатычную задачу. Апроч Дарэўскага і Швяйкоўскага, Сабескі карыстаўся паслугамі Іосіфа Ладынскага, якога часцяком дасылаў у Маскву ў якасці кур'ера, нават нягледзячы не тое, што ў канцэлярыі не лічылі Ладынскага даверанай асобай караля. Ладынскі меў уплывовых сваякоў і сяброў у расійскіх царкоўных колах: ігумення Навадзевічага манастыра была яго цёткай, а смаленскі мітрапаліт Сімяон – асабістым сябрам. Падчас сустрэчаў з расійскімі дыпламатамі Ладынскі намагаўся стварыць уражанне сваёй значнасці, крытыкуючы рашэнні караля, прынятыя насуперак яго парадам. Ладынскі ўвесь час намагаўся ўплываць на каралеўскую палітыку што да Расіі і прагнуў большых паўнамоцтваў, чым надаваў яму кароль.[27]

Яшчэ адной крыніцай інфармацыі караля пра падзеі ў Расіі былі іезуіты, якія заснавалі сваю місію ў Маскве ў 1687 годзе. Некаторыя з іх даяжджалі ажно да Астрахані, а два чальцы ордэна здзейснілі падарожжа у Персію і назварот. Большасць расійскіх іезуітаў, сярод іх Георгіюс Давід, Конрад Тэрпілоўскі, Ігнаці Запольскі і Жан Шмідт, належала да польскай ці аўстрыйскай місіяў, але былі ў Маскве й французы, такія як Антуан дэ Бовалье і Філіп Аўрыл. Апошні напісаў кнігу пра Расію і

---

[24] ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 112, 190, 269, 338; № 235, ст. 285, 354; № 242, ст. 158, 231; № 243, ст. 1235-36. AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163а, том 20, ст. 323; том 24, ст. 294-95; № 48, ст. 32-35. Гл. таксама Kazimierz Sarnecki, *Pamiętniki z czasów Jana Sobieskiego. Diariusz I relacje z lat 1691-1696* (Wrocław, 1958), ст. 128; Perdenia, *Stanowisko Rzeczypospolitej*, ст. 2-22, 109-110; Wójcik, *Jan Sobieski*, ст. 305-306.

[25] Француз на службе ў Сабескага па прозвішчу Ланэр таксама мешкаў у Крыме (1690-1696). Ён і Віслоцкі адказвалі за выкрыццё таемных кантактаў паміж татарамі і Масквой. Віслоцкі шмат ведаў і пра Украіну, бо яго брат быў на службе ў гетмана Мазэпы. ЦГАДА, фонд 79, ст. 175-76, 231; № 243, ст. 231, 566, 1135, 1258.

[26] Гл. спавешчанні Вазніцына ад 28 чэрвеня і 5 ліпеня 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 97, 103, 211; спавешчанні Нікіціна за ліпень і жнівень 1699 года, № 252, ст. 490-91, 509-514. Калі Дарэўскі захацеў павярнуцца ў Маскву ў якасці амбасадара, яго анты-расійскія погляды ўстрывожылі расійскага рэзідэнта Нікіціна. ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 490-91, 509-514. (Аўгуст II даслаў яго ў Маскву ў 1703 годзе).

[27] У ліпені 1692 года Міхайлаў склаў спіс дыпламатаў, якія маглі замяніць Доўманта. Сярод іх былі Акраса, Кандэлгірс, Глебоцкі і Швейкоўскі. Расійскі рэзідэнт быў упэўнены, што кароль абярэ Швейкоўскага праз яго выдатнае веданне Расіі і кантакты ў Маскве. ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 223. У размовах з расійскімі дыпламатамі Ёзэф Ладынскі некалькі разоў намагаўся дыскрэдытаваць Доўманта і выставіць сябе галоўным абаронцам міра і супрацы паміж Крамлём і Варшавай. Лісты Вазніцына В.В. Галіцыну, 6 красавіка і 18 кастрычніка 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 40, 170. Гл. таксама ліст Ладынскага Сабескаму Сабескаму, 22 лютага 1689, AGAD, Радзівілаўскі Архіў (Archiwum Radziwiłłowskie) II, № 25, ст. 153-54. Гл. таксама Sarnecki, *Pamiętniki*, ст. 115, 129, 131.

прысвяціў яе Ябланоўскаму. Іезуіты вандравалі з пашпартамі, выданымі Сабескім, і падчас знаходжання ў Маскве шукалі пратэкцыі Доўманта. Калі яны вярталіся ў Рэч Паспалітую, іезуіты распавядалі каралю пра падзеі ў Расіі.[28]

Галовы польскай іезуіцкай місіі падтрымлівалі кантакты з каталікамі, што жылі на былых землях Кароны, якія адышлі Маскве. Не выключана, што смаленская шляхта інфармавала караля пра сітуацыю на Смаленшчыне і апошнія палітычныя падзеі ў Маскве праз іезуітаў.[29]

Польскія пamежныя суддзі, якіх абірала шляхта памежных тэрыторыяў, дакладалі каралю пра ўсё, што адбывалася на левым беразе Дняпра. Інстытут памежных суддзяў быў заснаваны ў адпаведнасці з Андрусаўскім перамір'ем 1667 года. Паводле дамовы, абодва бакі прызначалі сваіх прадстаўнікоў для сумеснага разгляду спраў, якія закраналі інтарэсы грамадзян абедзьвюх дзяржаў. Памежныя суддзі мусілі хутка прымаць канчатковыя рашэнні (на якія не распаўсюджвалася права апеляцыі) у выпадках разбойных нападкаў ці рабаванняў. Памежныя суддзі мусілі хутка вырашаць канфлікты, патэнцыйна здольныя распаліць варажнечу паміж Рэччу Паспалітай і маскоўскай дзяржавай. Паўнамоцтвы памежных суддзяў скончыліся ў 1676 годзе, але парламент працягнуў іх у 1690 годзе.[30]

Кароль атрымліваў дадатковыя звесткі пра падзеі на ўсходзе ад купцоў. Аналагічная практыка была прынятая ў Турцыі і Расіі. Так, гандляроў, якія перасякалі мяжу маскоўскай дзяржавы, чакалі працяглыя допыты. Запісы размоваў з імі, што захоўваюцца ў архівах міністэрства замежных спраў, стаюцца каштоўнымі крыніцамі гістарычнай інфармацыі, бо адлюстроўваюць тагачасныя норавы. Відавочна, што чыноўнікі каронная і літоўскай канцэлярыяў не дапытвалі купцоў на маскоўскі манер. Тым не менш, гандляры, якія сплочвалі мыту, мусілі падаваць памежнікам дакументы і часам дэталёва распавядаць пра сваё падарожжа. Некаторыя гандляры збіралі інфармацыю за грошы і нават пагаджаліся выконваць небяспечныя дыпламатычныя місіі. Згадкі пра атрыманую ад купцоў інфармацыю і дадзеныя ім заданні датычна Украіны, Буджаку і Крыма можна знайсці ў каралеўскім ліставанні ў Ябланоўскім.[31]

Ябланоўскі, Матчынскі і Сабескі мелі яшчэ адное кола інфарматараў – палякаў, якія павярталіся з Расіі. У гэтую шматлікую групу платных агентаў ўваходзілі: гандляры і рамеснікі, якія шукалі ў Расіі працу; прадстаўнікі збяднелай шляхты, што служылі ў баярскіх дружынах; злотнікі і музыкі, з цягам

---

[28] Пра выгнанне іезуітаў з Масквы гл. Сакрэтны Архіў Ватыкана, польская нунцыатура, № 109, ст. 140. У Вене іезуіты крытычна адгукаліся пра Маскву. Гл. звесткі ад архімандрыта Ісая з Вены, ЦГАДА, фонд 52 (стасункі з Грэцыяй), № 11, ст. 260. Найлепшым чынам выгнанне іезуітаў з Масквы асветлена ў Joseph Sebes, *The Jesuits and the Sino-Russian Treaty of Nerchinsk* (1689) (Rome, 1961), ст. 95-101. Георгіус Давід, адзін з выгнаных з Масквы іезуітаў, напісаў цікавыя ўспаміны пра інцыдэнт, пазней надрукаваныя ў A.V. Florovsky, *Status Modernus Magnae Russiae seu Moscoviae* (The Hague, 1965).

[29] Гл. рэестр дзейнасці Міхайлава, ліпень 1692. ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 215. Больш пра навіны са Смаленска і Масквы (1693) у Sarnecki, *Pamiętniki*, ст. 55-58, 360. Гл. таксама S. Zaleski, *Jezuici w Polsce*, том 4, (Lviv, 1905), ст. 1062, 1557.

[30] Парламент прызначыў суддзямі Яна Галімскага (аршанскага харунжага), Тэадора Лукомскага (мясцовага суддзю з Віцебска) і Яна Зэмбоцкага (мсціслаўскага лоўчага). Volumina Legum, том 5, ст. 402-403; гл. таксама ст. 216, 368.

[31] Напрыклад, львоўскі купец Ян Ракелаў (армянін, які гандляваў з Масквой і быў агентам Сабескага) паспрабаваў сустрэцца з крымскім эмісарам Мехметам Ага, прысутнасць якога ў Маскве расійскія дыпламаты адмаўлялі. Ракелаў і чалавек Доўманта Казімір Марцінкевіч былі арыштаваныя пасля наведвання Мехмета Ага ў расійскай сталіцы ў чэрвені 1691 года. ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 202, 156-59, 274. Пра таемны візіт Мехмета Ага ў Маскву гл. ЦГАДА, фонд 123 (стасункі з Крымам, 1691), № 3. Гл. таксама Сабескі Доўманту, 18 чэрвеня 1688, біб. Чарт., № 422, ст. 315.

часу запрыгоненыя расійскімі дваранамі, але здолеўшыя ўцякчы і павярнуцца ў Рэч Паспалітую; і ваеннапалонныя, гвалтоўна ўтрыманыя царом у Сібіры ў парушэнне Андрусаўскага перамір'я.[32]

Цікаўнасць Сабескага да падзеяў на ўсходзе не абмяжоўвалася Расіяй – кароль меў інфарматараў нават у Кітаі. Каралеўскі двор у Віланаве быў ледзь не адзіным у Еўропе, дзе не толькі збіралі прадметы кітайскага мастацтва, але й цікавіліся кітайскімі падзеямі. Іезуіт Адам Каханскі, каралеўскі кнігар і высокаадукаваны чалавек, які перапісваўся з нямецкім філосафам Лейбніцам, лічыўся экспертам у справах Кітая. Яго веда збольшага грунтавалася на інфармацыі, атрыманай ад іезуіцкіх місіянераў. Сабескі збіраў мапы, складзеныя падарожнікамі ў Кітай, а багатая інфармацыя, якой ён валодаў пра Расію і Сібір, была, хутчэй за ўсё, сабраная Філіпам Аўрылам і Юраям Крыжанічам. Праз сваю добрую інфармаванасць кароль ведаў пра памежныя сутычкі на рацэ Амур, і, калі расійскія дыпламаты паспрабавалі выкарыстаць добрыя стасункі паміж Раманавымі і Габсбургамі для дыпламатычнага ціску на Карону, Ябланоўскі нагадаў ім пра вайсковыя дзеянні на усходніх межах Расіі.[33]

Ігнараванне парламентам расійскіх спраў (пасля падпісання Вечнага міра адзіным захадам парламента датычна Расіі было ўкладанне інструкцыяў памежным суддзям у 1690 і 1697 гадах) надавала Сабескаму свабоду дзеянняў што да ўсходняй палітыцы. Сенатары, аднак, значна больш цікавіліся стасункамі з Крамлём і абмяркоўвалі іх падчас сваіх сустрэч з каралём. Найбольш значныя з іх адбываліся ў 1687 годзе, калі Сабескі быў вымушаны падпісаць Вечны мір. Кароль асабіста прыняў захады, каб падчас ключавога абмеркавання мірнай дамовы прыняла ўдзел як мага больш сенатараў. Сабескі разумеў, што мірныя ўмовы, на якія ён быў вымушаны пагадзіцца, не задаволяць сенатараў і рабіў усё магчымае, каб пазбегнуць абвінавачанняў у здачы земляў Рэчы Паспалітай з боку сенацкай апазіцыі.[34]

У 1686 годзе Сабескі падаў на разгляд парламента пытанне абмена дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі з Расіяй. Праблема амбасадаў, непасрэдна звязаная з Вечным Мірам, заставалася актуальнай да самой смерці Сабескага ў 1696 годзе. Шмат хто з сенатараў лічыў, што

---

[32] Adam Kamieńiski, "Dyaryusz więzienia moskiewskiego, miast i miejsc" у *Księga zbiorowa ofiarowana księdzu Franciszkowi* (Poznań, 1874) ст. 378-88; Б. П. Полевой, "Адам Каменский-Длужик в восточной Сибири и источники его этнографических сообщений," у *Historia kontaktów polsko-rosyjskich w dziedzinie etnografii* (Wrocław, 1976), ст. 139-49; Wójcik, *Traktat andruszowski,* ст. 256; Б. Таннер, "Описание путешествия польского посольства в Москву в 1678 году," пер. і рэд. И. Ивакин, *Чтения в Императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете* 158, нум. 3 (1891): 96-97, 111. Гл. таксама David, *Status Modernus,* ст. 9, 58-59, 89, і інш. Гл. ліст Доўманта царам (1688), ЦГАДА, фонд 79 (стасункі з Польшчай, 1688), № 7, ст. 11; ліст Доўманта Сабескаму, 22 ліпеня 1688, AGAD, Радзівілаўскі Архіў V, № 73, нум. 3252. Улетку 1693 года група нямецкіх музыкаў, якія датуль гралі ў прыватнай капэле Барыса Пятровіча Шарамецева ў Маскве, прыбыла ў Варшаву. Музыкі адразу пачалі распаўсюджваць непрыемныя гісторыі пра Расію. Ліст Міхайлава царам, жнівень, 1693. ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 345.

[33] Philippe Avril, *Voyage en divers États d'Europe etd'Asiepour decouvrir un nouveau chemin à la Chine* (Paris, 1693); W. M. Drzewieniecki, "The Knowledge of China in XVII-century Poland as Reflected in the Correspondence between Leibnitz and Kochowski," *Polish Review* 12, нум. 3 (1967): 53-66; L. Cyrzyk, *Polscy badacze Chin. Szkice z dziejów polskiej orientalistyki* (Warsaw, 1969) ст. 58; A. H. Rowbutham, "The Jesuits at the Court of Peking," *Chinese Social and Political Sciences Review* (Beijing) 5, нум. 4 (1919): 308-310. Гл. запіс размовы Яблаwоўскага з Волкавым, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 360-63.
У 1692 годзе каронныя агенты паінфармавалі Матчыскага пра актывізацыю гандля лашадзьмі паміж волжскімі калмыкамі і крымскімі татарамі. На падставе гэтых звестак каронны сенатар аспрэчыў намеры Расіі распачаць актыўныя вайсковыя дзеянні супраць Крыма. ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 185-88.

[34] Wójcik, *Jan Sobieski*, ст. 383. Гл. гэтую працу для іншых крыніцаў і дадатковай літаратуры.

аднаўленне дыпламатычных місіяў не будзе выгодным для краіны, але Сабескі пераканаў іх абяцаннем настаяць на адначасовым абмене вайсковымі аташэ. Падчас перамоў з Масквой кароль напалягаў на ўсталяванні вайсковых місіяў, спасылаючыся на незадавальненне Сената. Сабескі сцвярджаў, што лёс дамовы залежыць ад таго, ці будзе выкананае патрабаванне сенатараў што да абмена вайсковымі аташэ. Пазней, калі ён зразумеў, што Расія не збіралася ладзіць актыўныя вайсковыя аперацыі супраць крымскага хана, Сабескі адклікаў амбасадара Рэчы Паспалітай з Масквы.

Кароль склікаў сенацкі кансіліюм, калі хацеў пазбегнуць адказнасці за рашэнні, якія патрабавалі згоды парламента, але руцінную дыпламатычную працу выконвалі яго сакратары. Кароль мог перавышаць свае паўнамоцтвы і прымаць значныя знешнепалітычныя рашэнні без узгадненння іх з парламентам ці сенацкім кансіліюмам дзякуючы таму, што ён фактычна манапалізаваў крыніцы знешепалітычнай інфармацыі і меў у сваім распараджэнні штат адданых чыноўнікаў і сакратароў. Менавіта праз гэта ўсходняя палітыка Рэчы Паспалітай (напрыклад, рашэнне распаліць паўстанне ва Украіне) таемна рабілася ў каралеўскім палацы.

Расійскія дыпламаты добра ведалі пра існы стан рэчаў і намагаліся следаваць за каралём па ўсёй краіне, каб атрымліваць аператыўную інфармацыю пра яго дзеянні. Сабескі звычайна праводзіў ад пяці да шасці месяцаў на год у сваіх родавых маёнтках Явараў, Жоўква і Памараны. Каралеўскія маёнткі, куды ўслед за каралём прыяжджалі расійскія, аўстрыйскія, папскія, венецыянскія і іншыя дыпламаты, ператвараліся на пэўны час у цэнтры дыпламатычнай актыўнасці. Амаль кожны год каралеўскую рэзідэнцыю наведвалі прадстаўнікі Крыма. У гэтыя перыяды ў каралеўскім атачэнні значна менела сенатараў. Здаралася нават, што кароль не бачыў аніводнага з канцлераў цягам тыдняў. Адзіным сенатарам, які ўвесь час заставаўся з каралём, быў Марэк Матчынскі.[35]

Блізіня межы дазваляла каралю шчыльна знаёміцца з вайсковымі справамі і падтрымліваць кантакты з вышэйшым вайсковым кіраўніцтвам. Падчас свайго перабывання ў маёнтках кароль рэгулярна сустракаўся з Ябланоўскім і вялікалітоўскім палявым гетманам Слушкам. Кароль асабіста кіраваў разгалінаванай сістэмай выведкі Ябланоўскага і, карыстаючыся геаграфічнай блізінёй Крыма, падтрымліваў актыўныя кантакты з ханам. Да таго ж, каб ацаніць шансы на заключэнне сепаратнага міра з Атаманскай Портай, Сабескі прымаў малдаўскіх і валашскіх эмісараў. Пра рашэнні, прынятыя падчас свайго знаходжання ў рутэнскай рэзідэнцы, кароль паведамляў шэрагу давераных сенатараў, пасля чаго прыдворныя й асобы, абраныя для выканання каралеўскіх місіяў, скіроўваліся ва Украіну, Крым, да данскіх казакоў або калмыкаў.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што Сабескі перакрочваў каралеўскія канстытуцыйныя паўнамоцтвы ў сферы знешняй палітыцы не радзей за сваіх папярэднікаў, але рабіў гэта менш эфектыўна. Каралеўская захады спараджалі канфлікты паміж выканаўчай і заканадаўчай галінамі ўлады. Змаганне з парламентам пагражала каралю выключна ў выпадках, калі супраць яго

[35] Мае высновы, зробленыя на падставе аналіза запісаў сустрэчаў паміж сенатарамі і чальцамі сенацкага кансіліюма і спавешчанняў расійскіх рэзідэнтаў у Рэчы Паспалітай. Гл. AGAD, Архіў Патоцкіх, № 48; і ЦГАДА, фонд 79, № 234, 235, 238, 242, 243, 251, 252. Ліст Вазніцына В.В. Галіцыну, 26 чэрвеня і 19 ліпеня 1688 года, ЦГАДА, фонд 79; № 235, ст. 112-14, 130; лісты Волкава царам, 28 лістапада і 9 снежня 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 276, 291; ліст Міхайлава цару, 26 траўня 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 140, 153; Wójcik, *Jan Sobieski*, ст. 397-99.

фармавалася шырокая кааліцыя, што збольшага здаралася толькі калі кароль распачынаў войны. Пакуль шляхта адчувала, што кароль прагнуў міра ці, у скрайнім выпадку, быў вымушаны весці абарончую вайну, ён меў карт-бланш у пытаннях замежнай палітыцы. З улікам таго, што пытанні міжнароднай палітыцы цікавіла шляхту значна менш, чым сенатараў, кароль, які карыстаўся паслугамі вялікай колькасці дыпламатаў і пазаштатных агентаў, не сустракаў сур'ёзнай апазіцыі сваёй усходняй палітыцы з боку парламента.

## Расія

### Пасольскі прыказ

Адзінае, што адрознівала супрацоўнікаў Пасольскага прыказа (аднаго са старэйшых інстытутаў улыды ў Расіі) ад іншых прадстаўнікоў царскай бюракратыі – гэта лепшае валоданне замежнымі мовамі і грунтоўнейшая веда пра іншыя краіны. Цягам сваёй кар'еры шараговы дзяк мог займацца як хатнімі, гэтак і замежнымі справамі, а часам нават паспяваў папрацаваць у іншых міністэрствах, ці прыказах.

Усе стасункі з замежжам знаходзіліся ў выключнай кампетэнцыі Пасольскага прыказа. Выключэнне ставаўся гетман запарожскіх казакоў, які меў сваю канцэлярыю і самастойна падтрымліваў кантакты с суседзямі. Аднак гэтая вольнасць выявілася часовай, бо паводле Пераяслаўскай дамовы 1654 года гетман абавязаўся ўзгаджаць сваю замежную палітыку з маскоўскім Пасольскім прыказам.[36]

Пасольскі прыказ быў заснаваны Іванам Жахлівым. Цікава, што першым галавой прыказа быў не баярын, а адукаваны дзяк Іван Міхайлавіч Віскаваты. Дзякі займалі вышэйшыя пасады ў Пасольскім прыказе да канца шаснаццатага стагоддзя. Дзяк, які ачольваў прыказ, удзельнічаў у пасяджэннях Баярскай Думы, і захоўваў вялікую дзяржаўную пячатку, што давала замежнікам падставу называць яго "канцлерам". Аднак абавязкі галавы Пасольскага прыказа адрозніваліся ад функцыяў галавы цэнтральнай царскай канцэлярыі, дзяржаўнага воргана, заснаванага Пятром І. У другой палове сямнаццатага стагоддзя кантроль за дзейнасцю прыказа, а разам з ім і вялікая пячатка, перайшоў да царскіх фаварытаў ці галоў пануючай прыдворнай групоўкі. Змены адбыліся падчас царавання Фёдара Іванавіча, калі Пасольскі прыказ ачоліў Барыс Гадуноў. За часам Васілія Шуйскага ды Ілжэдзмітрыяў галовамі прыказа зноў сталі дзякі, верагодна, каб падмацаваць слабую царскую ўладу. Аляксей Міхайлавіч даручыў вялікую пячатку і Пасольскі прыказ свайму настаўніку і найбліжэйшаму дарадцу баярыну Барысу Іванавічу Марозаву, якога змяніў выбітны палітык Афанасі Ордзін-Нашчокін.

У 1654 годзе, калі Аляксей Міхайлавіч атрымаў значны ўплыў на функцыянаванне прыказаў, цар заснаваў дадатковае міністэрства - Прыказ таемных спраў, які займаў прывілеяванае становішча ў

[36] Найлепшы гістарычны доследа Пасольскага прыказа – С.А. Белокуров, *О Посольском приказе* (Москва, 1906). Для добрага апісання ролі маскоўскіх дзякаў гл. Borivoj Plavsic, "Seventeenth-Century Chanceries and Their Staffs in Russian Officialdom," у Bureaucratization of Russian Society from the Seventeenth Century to the Twentieth Century, рэд. W. McKenzie Pintner і D.Rowney (Chapel Hill, NC, 1980), ст. 19-45. Выдатная інфармацыя пра дзейнасць расійскіх дыпламатаў у сямнаццатым стагоддзі змешчаная ў М. Белов, "Нидерландский резидент в Москве. Барон Иоганн Келлер и его письма" (канд. дис., Ленинград, 1947), арыгінал у Ленінскай бібліятэцы, Масква.

сістэме дзяржаўнага кіравання. Гэты прыказ, аднак, не выконваў функцый цэнтральнай канцэлярыі, а ставаўся надзорным ворганам. Прыказ таемных спраў выявіўся папярэднікам сумнавядомага Прэабражэнскага прыказа Пятра І. Пасля таго, як Аляксей Міхайлавіч дамогся поўнага падпарадкавання сабе ўсіх прыказаў, Прыказ таемных спраў быў скасаваны. Адначасова вядзенне замежных спраў было даручанае галаве набліжанага да цара баярскага клана. Так замежную палітыку Расіі сталі вырашаць цесць Аляксея Міхайлавіча Ілля Данілавіч Міласлаўскі і, праз некаторы час, другі апякун цара Артамон Сяргеевіч Мацвееў.[37]

Падчас царавання Фёдара Аляксеевіча ўплыў галавы Пасольскага прыказа падвысіўся. Гэтую пасаду заняў прадстаўнік старога арыстакратычнага рода Васілі Васільевіч Галіцын. Галіцын ачоліў прыказ дзякуючы сувязям яго сям'і з Міласлаўскімі, але праз свой прафесіяналізм і добрую адукацыяю здолеў заслугаваць пашану баяраў. Галіцын падтрымаў Соф'ю, але, у адрозненне ад дзяка Фёдара Ляонцьевіча Шаклавітага ці таленавітага скарбніка Пятра Андрэевіча Талстога, не падпарадкоўваўся ёй слепа.[38]

Магутнасць Галіцына ў 1682-1689 гадах можна параўнаць з уплывам Барыса Гадунова падчас царавання Фёдара Іванавіча. Аднак палітычныя амбіцыі Гадунова і Галіцына кардынальна адрозніваліся, бо Галіцын не меў намеру заняць царскі трон ані сам, ані пасадзіць на яго свайго сына. Ён падыходзіў да праблемаў унутранай і замежнай палітыцы значна шырэй, чым Міласлаўскія або Нарышкіных, якія прагнулі толькі аднога – здабыць уладу ў Расіі. Тым не менш, яго далёкасяжныя планы сапсавала Соф'я, якая лічыла Галіцына ўсяго толькі здольным выканаўцам яе волі і абмяжоўвала свабоду дзеянняў дыпламата. Дамогшыся падчас царавання Фёдара Іванавіча сваёй галоўнай мэты – скасавання месніцтва, Галіцын мог дасягнуць яшчэ большага за часам хваравітага і слабога цара Івана, калі з'явілася рэальная магчымасць распачаць новыя рэформы і павялічыць уплыў Баярскай Думы.

У сямнаццатым стагоддзі як найменш тры першыя галовы Пасольскага прыказа (Ордзін-Нашчокін, Мацвееў і Галіцын) самастойна вызначалі замежную палітыку. Аднак толькі Ордзін-Нашчокін праводзіў акрэсленую кадравую палітыку. Чыноўнікі, якіх ён набраў у прыказ, працавалі там да канца стагоддзя.[39] Ані Мацвееў, ані Галіцын не спрабавалі рэфармаваць Пасольскі прыказ. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што яны не былі асабіста знаёмыя з апаратам чыноўнікаў прыказа, бо перадаручалі ўсе рашэнні, акрамя найважнейшых, сваім непасрэдным падначаленым. У

[37] Белокуров, О Посольском приказе, ст. 25-37; А. Малиновский, Биографические сведения об управляющих в России иностранными делами министрах (Москва, 1812), Ленинская библиотека, фонд 256, № 266, ст. 2-45.
[38] П. Щербальский, Правление царевны Софии (Москва, 1856); Н.П. Павлов-Сильванский "Пращур Графа Льва Толстого, Граф Пётр Андреевич Толстой," *Исторический вестник* (Санкт-Петербург), травень, 1905, ст. 842-44. Гл. лісты шведскага дыпламата ў Маскве Хрыстафора фон Кохэна свайму ўраду, верасень 1687 і люты 1688, "Москва в 1687-1688 гг." пер. і рэд. К.А. Висковатов *Русская старина* (Санкт-Петербург) 23 (1878): 122, 124. Гл. таксама біяграфію сям'і Талстога ў Ленінскай бібліятэцы ў Маскве (арыгінал), фонд 64, № 76, нум. 5. Найлепшы дослед расійскіх элітаў – Robert O. Crummey, *Aristocrats and Servitors* (Princton, 1983), ст. 40, 54, 56, 58, 82-106, 161-62.
[39] З кароткага апісання кар'ераў расійскіх дыпламатаў, пададзенага Белакуравым, вынікае, што Ордзін-Нашчокін прывёў у Пасольскі прыказ Украінцава, Бабыніна, Посахава, Вазніцына, Волкава і Міхайлава. Р. Крамі мяркуе, што масавы набор новых людзй у прыказ тлумачыцца канфліктам паміж Ордзіным-Нашчокіным і старымі супрацоўнікамі дыпламатычнага корпуса. Crummey, *Aristocrats and Servitors*, ст. 100-101.

адрозненне ад Мацвеева і Галіцына, Ордзін-Нашчокін прыехаў у сталіцу з правінцыі і прывёз з сабой шэраг маладых дзякаў, кар’ернаму росту якіх ён у значнай ступені спрыяў.

Да кампетэнцыі Пасольскага прыказа належалі справы вайсковых адзінак з памежных рэгіёнаў, напрыклад Сумскога, Харкаўскага, Ізюмскага і Ахтырскага палкоў. Прыказ адказваў за ўсе аспекты перабывання замежнікаў у Расійскай імперыі, паштовую службу і збіранне ды пераклад замежнай прэсы. У другой палове сямнаццатага стагоддзя прыказ налічваў каля ста супрацоўнікаў. Яго дзейнасць была добра адладжанай, і маладыя дзякі мелі магчымасць азнаёміцца з усімі аспектамі яго функцыянавання.[40]

Пасля адстаўкі Галіцына ў 1689 годзе Прыказ ачоліў Емяльян Ігнаццевіч Украінцаў, якому дапамагалі чатыры намеснікі-дзякі. Кожны з намеснікаў адказваў за сваю сферу дзейнасці. Напрыклад, польскімі справамі і ліставаннем з расійскім амбасадарам у Рэчы Паспалітай звычайна займаўся дзяк, які мусіў у будучым стаць яго наступнікам. Усе лісты варшаўскаму амбасадару і карэспандэнцыю датычна спраў амбасады падпісваў адказны намеснік Украінцава. Фінансавымі пытаннямі займаўся яго іншы намеснік. Застаецца незразумелым, як галава прыказа каардынаваў дзеянні сваіх намеснікаў, бо няма дакументальных сведчанняў таго, што вышэйшыя кіраўнікі прыказа збіраліся на ўнутраныя нарады. Але сыходзячы з таго, што лісты па канкрэтных пытаннях заўсёды падпісваў адзін з намеснікаў Украінцава, паміж імі існаваў падзел абавязкаў. Асабліва значныя лісты Украінцаў падпісваў асабіста. Няўдалы пераварот 1689 года не выклікаў аніякіх зменаў у Пасольскім прыказе ці распадзеле абавязкаў у ім.

Наяўная інфармацыя пра дзякаў, нягледзячы на яе разрозненыя характар, дазваляе зрабіць шэраг высноў датычна іх паходжання і адукацыі. Большасць дзякаў прыходзіла ў прыказ маладымі навучэнцамі, але сярод новых супрацоўнікаў былі й дасведчаныя чыноўнікі, пераведзеныя з іншых прыказаў. Кандыдаты ў пасольскія дзякі, збольшага сыны дзяржаўных чыноўнікаў, праходзілі трохгадовы курс навучання лаціне, царкоўнаславянскай і грэчаскай мовам у школе пры Пячатным Двары. Невядома, ці веданне сучасных моваў давала перавагу пры прыёме на працу ў Пасольскі прыказ. Галоўнымі крытэрамі, апроч агульнага развіцця, былі выразны почырк і працавітасць.

Звычайна ў прыказе знаходзіўся шэраг навучэнцаў, якія не атрымлівалі дзяржаўнага ўтрымання. Кар’еры гэтых маладых людзей залежалі ад сувязяў іх сем’яў і рэкамендацыяў начальства. Пасля выпрабавальнага тэрміна прывілеяваныя навучэнцы атрымлівалі пасаду малодшых паддзячых. Кадрывыя пытанні ў прыказе вырашаў адзін са старэйшых паддзячых. На той час гэтую пасаду займаў Максім Аляксееў, галава Першага аддзела Пасольскага прыказа. Ад яго залежалі кар’еры малодшых паддзячых. Так, падвышэнне малодшага да сярэдняга паддзячага азначала, што

[40] Белокуров, *О Посольском приказе*, ст. 36-58. Чыноўнікі прыказа адказвалі за спагнанне падаткаў і мыты ў гэтай частцы краіны, якія йшлі на пакрыццё выдаткаў дыпламатаў. Пасольскаму прыказу падпарадкоўваліся шэраг значных прыказаў: Маларасійскі прыказ, Смаленскі прыказ і прыказ польска-літоўскіх палонных. Кожны з іх меў свой персанал, але кіравалі імі пасольскія дзякі.

чыноўнік атрымліваў права загадваць сталом. Наступным крокам было атрыманне пасады старэйшага паддзячага, што дазваляла ачоліць адзін з аддзелаў прыказа.[41]

Сярэднія паддзячыя часцяком бралі ўдзел у дробных дыпламатычных місіях ці атрымлівалі прызначэнні ў расійскія прадстаўніцтвы за мяжой. Калі яны заслугоўвалі падвышэння, сярэднія паддзячыя станавіліся старэйшымі і ачольвалі адзін з аддзелаў прыказа або прызначаліся сакратарамі расійскіх дыпламатычных місіяў за мяжой. Часам старэйшым паддзячым давяралі даволі значныя замежныя місіі, якія, аднак, не афішаваліся. Напрыклад, старэйшаму паддзячаму Аляксею Васільеву было даручана весці далікатныя перамовы ў Вене ў 1689 годзе, якія ўплывалі на расійска-турэцкія кансультацыі і ўтварэнне расійска-аўстрыйскага хаўруса. Іншы старэйшы паддзячы Васілі Айтаміраў у 1692 годзе выправіўся ў Крым, каб правесці з ханам папярэднія мірныя перамовы.[42]

Удзел у замежнай місіі быў адным з патрабаванняў для кар’ернага роста, а вельмі паспяховае правядзенне дыпламатычных перамоваў давала магчымасць атрымаць пасаду дзяка. У такіх умовах надзвычай шмат залежала ад таго, хто вызначаў склад замежных дыпламатычных місіяў. Афіцыйна гэта рабіў цар паводле парадаў Баярскай Думы, але галовы Пасольскага прыказа мелі значны ўплыў на працэс адбору кандыдатаў. Хутчэй за ўсё, такія выбітныя асобы, як Ордзін-Нашчокін або Галіцын мелі магчымасць скіроўваць у замежныя місіі патрэбных ім людзей. Аднак ці мог гэта рабіць Украінцаў, застаецца невядомым. Калі цар вырашыў даслаць дыпламатаў у Крым у 1692 годзе, прыказ падрыхтаваў доўгі спіс кандыдатаў, з якога Дума абрала Айтамірава. Стаўленне да яго кандыдатуры Украінцава таксама застаецца невядомым. Місія ў Крым была надзвычай адказнай і складанай. Яна магла прынесці дыпламату як славу, гэтак і турэмны тэрмін, таму Айтаміраў пагадзіўся на яе са змяшанымі пачуццямі. Сёння мы можам толькі гадаць, наколькі Айтаміраў хацеў атрымаць гэтае заданне, але той факт, што ён узяў з сабой аднаго з родзічаў падказвае, што дыпламат разлічваў на поспех сваёй місіі.[43]

Ачольваць дыпламатычную місію ў Рэчы Паспалітай маглі толькі пасольскія дзякі, якім аўтаматычна надаваўся прыдворны чын стольніка. Напачатку дзевяностых гадоў дзякамі пасольскага прыказа былі Васілі Бабынін, Пракофі Багданавіч Вазніцын, Іван Міхайлавіч Волкаў, Барыс Міхайлавіч Міхайлаў і Аляксей Васільевіч Нікіцін. Усе яны, акрамя эксперта па фінансавых пытаннях Бабыніна, па чарзе ачольвалі амбасаду ў Варшаве. Украінцаў, на той момант ужо прыдворны стольнік і думны дзяк, заставаўся ў Маскве.

Кар’еры Вазніцына і Украінцава адлюстроўвалі непрадказальнасць службы ў Пасольскім прыказе. У 1667 годзе Вазніцын займаў пасаду старэйшага дзяка і загадваў трэцім аддзелам прыказа. Ён

---

[41] Белокуров, *О Посольском приказе*, ст. 50, 52, 132, 163-64. Н.А. Бакланова, “Обстановка московских приказов в XVII в.,” у Труды Государственного исторического музея 3 (Москва, 1926): 53-100; Plavsic, “Seventeenth-Century Chanceries,” ст. 27-31.

[42] Памятники дипломатических сношений с Римской империей, том 5, 1661-1674 (Санкт-Петербург, 1858), ст. 370-79; Пракофі Вазніцын, прыхільнік актыўнай анты-турэцкай палітыцы, атрымаў пасаду дзяка праз сваю паспяховую місію ў Стамбул у 1681 годзе. И.Е. Забелин, “Посольские путешествия в Турцию в XVII столетии,” в Русская старина 20 (1877): 14-22.

[43] “Отправление в Крым Василия Айтемирева”, ЦГАДА, фонд 123 (стасункі з Крымам, 1692-1695), № 1, ст. 261.

распачаў дзяржаўную службу ў Палацавым прыказе, адкуль у 1677 годзе перавёўся ў Пасольскі прыказ. Вазніцын удзельнічаў у шматлікіх замежных місіях і ў 1681 годзе атрымаў пасаду дзяка. Кар'ера Вазніцына, як і ўсіх іншых дыпламатаў, залежала не толькі ад яго дыпламатачных здольнасцяў, але й сувязяў ва ўплывовых уладных колах. Ён падтрымліваў шчыльныя кантакты з Нарышкінымі і самім Пятром І. Неўзабаве пасля каранавання Пятра Вазніцын атрымаў чын думнага дзяка. Гэты надаваўся абраным дзякам і дазваляў чыноўніку прысутнічаць на пасяджаннях Думы.[44]

Украінцаў, як і Вазніцын, пачаў сваю кар'еру за часам Ордзіна-Нашчокіна. Сваёй першай місіяй у Рэч Паспалітую і наступнымі дыпламатычнымі заданнямі ў Швецыю, Данію і Нідэрланды Вазніцын заслугаваў рэпутацыю здольнага дыпламата, за што ў 1674 годзе стаў дзякам. У 1681 годзк, пасля двух паспяховых місій у Рэч Паспалітую, спачатку разам з Іванам Іванавічам Чадаевым, а пасля з Іванам Афанасьевічам Пранчышчавым, Украінцаў атрымаў чын думнага дзяка. Але ў яго не складаліся стасункі з Галіцыным. Украінцава лічылі чалавекам Пятра, нават нягледзячы на тое, што дыпламат ніколі не ўваходзіў у бліжэйшае атачэнне будучага цара і падтрымліваў шчыльным стасункі з Нарышкінымі. Калі краінай кіравалі маці Пятра І Наталля Кірылаўна Нарышкіна, яе брат Леў і патрыярх Іаакім, Украінцаў сур'ёзна ўплываў не толькі на манеру вядзення расійскай замежнай палітыцы, але й яе сутнасць. Аднак пасля каранавання Пятра ён не здолеў утрымаць свае пазіцыі і, нягледзячы на заступніцтва свайго родзіча і блізкага сябра цара Андрэя Андрэевіча Вініюса, некалькі разоў быў мішэняй гнева маладога. У выніку, Украінцаў быў пазбаўлены кантроля за замежнай палітыкай дзяржавы і пераведзены на другасную пасаду.[45]

Пераварот 1689 года не закрануў кар'ераў іншых дыпламатаў. Радыкальныя кадравыя змены ў апараце Пасольскага прыказа адбыліся ў выніку пазнейшых рэформаў Пятра. Але ў 1690я гады прыказам яшчэ загадвалі дасведчаныя людзі, якіх прывёў туды Ордзін-Нашчокін. Ані Мацвееў, ані Галіцын не перацягнулі ў прыказ адданых сабе людзей, у выніку чаго апала Галіцына не выклікала ў ім кадравых перарухаў.[46]

Чыноўнікі мелі магчымасць перавесціся з аднаго прыказа ў іншы, таму некаторыя дыпламаты Пасольскага прыказа распачыналі кар'еры па-за межамі дыпламатычнай сферы. Тым не менш, маладыя супрацоўнікі прыказа, якія прымаліся на службу малодшымі паддзячымі, амаль заўсёды траплялі ва ўмовы, калі яны мусілі спецыялізавацца, хаця актыўныя стасункі паміж аддзеламі і

---

[44] Белокуров, *О Посольском приказе*, ст. 125-26. О. Махатка, "Взаимоотношения России, Австрии и Польши в связи с антитурецкой войной в 1683-1699 гг." (канд. дис., Ленинград, 1958; Ленинская библиотека в Москве), ст. 220, 225-30; М.М. Богословский, *Пётр I. Материалы для библиографии*, том 3 (Ленинград, 1946), ст. 342-45, 453; том 4 (Ленинград, 1948) ст. 62-70; том 5 (Ленинград, 1948) ст. 247-50, 291-92. Калі Пётр I захацеў увесці ў Расіі Магдэбургскае права, ён загадаў Вазніцыну сабраць у Вене ўсю патрэбную для гэтага інфармацыю; Богословский, *Пётр I*, том 3, ст. 248-49.

[45] Белокуров, *О Посольском приказе*, ст. 47, 50-51, 113-14, 123, 127. У сваім дзённіку аўстрыйскі амбасадар у Расіі адзначыў, што Украінцаў згубіў уладу праз варагаванне з адным з найбліжэйшых паплечнікаў Пятра I Барысам Аляксеевічам Галіцыным. Ioahan G. Korb, *Diarium itineris in Moscoviam* (Vienna, 1701), ст. 25-26, 98; гл. таксама ст. 59, 70Ю 148, 261, 265. Andrzej Kamiński, "Zagadka rosyjskiej bezczynności w trakcie bezkrólewia po śmierci Sobieskiego," у *Śląski Kwartalnik Historyczny Sobótka* 37, нум. 3/4 (1982): 391.

[46] В.С. Иконников, "Ближний боярин Афанасий Лаврентьевич Ордин Нащокин, один из предшественников петровской реформы," у *Русская старина* 40 (1883): 17, 273-308. Трываласць пасадаў дзякаў і паддзячых адлюстроўваюць іх кар'еры, каротка пададзеныя Белакуравым. Гл. таксама Plavsic, "Seventeenth-Century Chanceries," ст. 32-33, 44; C. Bickford O'Brien, "The Views of A.L. Ordin-Nashchokin," *Jahrbücher für Geschichte Osteuropas* 17 (1969): 369-79.

сталамі прыказа не дазвалялі занадта вузкай спецыялізацыі. Сувязь з замежжам і выбітнымі тагачаснымі палітыкамі пашырала эрудыцыю расійскіх дыпламатаў. Чыноўнікі Пасольскага прыказа былі адзінымі ў сваёй краіне, хто валодаў інфармацыяй як пра падзеі ў краіне, гэтак і ў свеце. Шмат хто з іх вандраваў за мяжу і ведаў замежныя мовы. Служба ў прыказе не толькі рабіла іх уплывовымі людзьмі, але й прыносіла дзяржаўныя чыны і, разам з гэтым, пэўны сацыяльны статус. Так, некаторыя дзякі станавіліся камергерамі, што рабіла іх наследнымі дваранамі. Нягледзячы на добрыя магчымасці кар'ернага роста, большая частка пасольскіх чыноўнікаў не атрымлівала высокіх чыноў і пасад, і іх наступнікі паходзілі з той самай праслойкі дзяржаўных чыноўнікаў.

У Пасольскім прыказе існавала значная няроўнасць у заработнай плаце. Навучэнцы не атрымлівалі дзяржаўнага ўтрымання. Большасць дробных чыноўнікаў атрымлівала тры рублі на год. Галовы аддзелаў мусілі абыходзіцца нязначнай аплатай: ад трыццаці пяці да шасцідзесяці пяці рублёў. У гэтыя сумы, аднак, не ўваходзілі кошты мукі і іншых прадуктаў харчавання, выдаваных чыноўнікам прыказам, з улікам якіх іх заробкі павялічваліся прыблізна ўдвая.[47]

Непасрэдны кантроль за працай персанала прыказа ажыццяўлялі паддзячыя. Акрамя таго, у сямнаццатым стагоддзі пасольскія паддзячыя ачольвалі пяць адмысловых аддзелаў прыказа. Некаторыя аддзелы Пасольскага прыказа, у дадатак да сваіх непасрэдных абавязкаў, займаліся ўнутрырасійскімі праблемамі, звязаныя з замежнай палітыкай і шэраг пытанняў, якія датычыліся царскай сям'ёй.

## Месца Рэчы Паспалітай у замежнай палітыцы Расіі

Кожная справа, разгляданая ў прыказе, занатоўвалася двойчы. Чыноўнікі мусілі рабіць копіі ўсіх лістоў, скаргаў, петыцыяў, дэпешаў ці дэталёвых спавешчанняў з-за мяжы, прычым у асобныя кнігі ўліку неабходна было ўносіць разгорнутае рэзюмэ кожнага дакумента. Найбольш значныя з іх, напрыклад, данясенні дыпламатаў, занатоўваліся цалкам. Усе матар'ялы (інструкцыі, нататкі, дэпешы, спавешчанні пра дыпламатычныя сустрэчы і г.д.) датычна перамоў з прадстаўнікамі іншых краінаў, дзейнасці амбасадаў ці сакрэтных місій групаваліся паводле кожнай асобнай падзеі. Аб'яднанне храналагічнага і тэматычнага метадаў структуравання інфармацыі дазваляла супрацоўнікам прыказа праз пэўны час эфектыўна карыстацца архіўнымі дакументамі.

Дыпламатычны персанал выкарыстоўваў архіўную інфармацыю для ўкладання збораў па пэўных праблемах. Напрыклад, пісаліся кнігі, прысвечаныя пераследу праваслаўнага насельніцтва ў Рэчы Паспалітай ці храналогіі каронных і расійскіх вайсковых аперацый ад 1686 да 1694 года. У выпадках патрэбы, прыказ складаў спісы замежных ваеннапалонных у Расіі.[48] Колькасць кнігаў, складзеных рознымі аддзеламі Пасольскага прыказа, адбівала значнасць, якую надавалі расійскія дыпламаты пэўнай тэме. Іншым паказнікам значнасці праблемы быў аб'ём кнігі – адныя з іх утрымлівалі да 3000 старонак, іншыя – усяго 200. Апошні крытэр стаецца найэфектыўнешым

[47] Белокуров, *О Посольском приказе*, ст. 131-36. Чыноўнікі былі добра забяспечанымі людзьмі, бо галоўную частку іх даходаў складаў хабар. Plavsic, "Seventeenth-Century Chanceries," 37-38.

[48] ЦГАДА, фонд 79, № 216 (варожыя дзеянні Польшчы супраць Расіі, 1678-1683), № 109 і 110 (спісы польскіх і літоўскіх ваеннапалонных складзеныя ў 1687 годзе); № 255 (пераслед праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай); стасункі з Польшчай, 1694, № 7 (спіс расійскіх вайсковых аперацыяў, 1684-1694).

сродкам іх параўнання, але адсутнасць каталогаў значна ўскладняе правядзенне паўнавартаснага падліка. У табліцы 1 прыведзеная колькасць кнігаў, укладзеных прыказам да 1699 года. Табліца адлюстроўвае прыярытэты расійскай замежнай палітыцы ў сямнаццатым стагоддзі.

Табліца 1. Кнігі пра замежным дзяржавы, укладзеныя асноўнымі аддзеламі Пасольскага прыказа ў сямнаццатым стагоддзі.[49]

| Краіна | Колькасць кнігаў | Фонд |
|---|---|---|
| Рэч Паспалітая | 256 | 79 |
| Швецыя | 129 | 96 |
| Крымскае ханства | 90 | 123 |
| Украіна (ад 1654 года Маларасійскі прыказ) | 80 | 124 |
| Аўстрыя | 49 | 32 |
| Турцыя | 28 | 89 |
| Данія | 24 | 53 |
| Англія | 20 | 35 |
| Францыя | 15 | 93 |
| Грэцыя (і праваслаўе па-за межамі Расіі) | 12 | 52 |
| Нідэрланды | 12 | 50 |
| Прусія | 7 | 74 |
| Малдавія і Валахія | 4 | 68 |

У табліцы 2 пададзеная аналагічная інфармацыя на перыяд ад 1686 да 1699 года. Абедзьве табліцы ўлучаюць толькі кнігі, ўкладзеныя асноўнымі аддзеламі прыказа.

Табліца 2. Кнігі пра замежныя дзяржавы, укладзеныя асноўнымі аддзеламі Пасольскага прыказа ў 1686-1699 гадах.[50]

| Краіна | Колькасць кнігаў | Фонд |
|---|---|---|
| Рэч Паспалітая | 32 | 79 |
| Украіна (ад 1654 года Маларасійскі прыказ) | 24 | 124 |
| Аўстрыя | 18 | 32 |
| Швецыя | 8 | 96 |
| Крымскае ханства | 5 | 123 |
| Грэцыя (і праваслаўе | 5 | 52 |

[49] Вылічана на падставе рукапіснага каталога, падрыхтаванага Дзмітрыям Мікалаевічам Бантыш-Каменскім у 1783-1804 гадах (ЦГАДА). Сапраўдная колькасць "польскіх кнігаў" за сямнаццатае стагоддзе складае 234, бо 22 прысвечаныя стасункам Расіі і Рэчы Паспалітай у шаснаццатым стагоддзі. У нас не было доступа да каталога Бантыш-Каменскага што ўкраінскіх і турэцкіх белых кнігаў; іх колькасць можа адрозніваца ад пададзенай у табліцы.

[50] На падставе каталога Бантыш-Каменскага.

| | | |
|---|---|---|
| па-за межамі Расіі) | | |
| Францыя | 4 | 93 |
| Нідэрланды | 2 | 50 |
| Прусія | 2 | 74 |
| Турцыя | 2 | 89 |
| Англія | 1 | 35 |
| Данія | 1 | 53 |
| Малдавія і Валахія | 1 | 68 |

Табліца 1 сведчыць пра тое, што галоўным прыярытэтам замежнай палітыцы Расіі ў сямнаццатым стагоддзі ставалася Рэч Паспалітая. Зразумелая значная ўвага, нададзеная Швецыі і Крымскаму ханству. Дзіўным падаецца непрапарцыянальна вялікі аб’ём літаратуры, прысвечанай Рэчы Паспалітай. Яшчэ больш нечаканай стаецца мізэрная колькасць кнігаў, прысвечаных Балканам (за выключэннем Турцыі) і праблематыцы праваслаўя за мяжой, бо яны былі сабраныя ў адную групу “Грэчаскія справы”.

Калі параўноўваць табліцы, стаецца відавочным, што напрыканцы сямнаццатага стагоддзя расійскія дыпламаты пачалі актыўна збіраць інфармацыю пра Аўстрыю, менш увагі стала надавацца Крыму і Швецыі, а стаўленне да заходнееўрапейскіх дзяржаў засталося нязменнай. Варта адзначыць добра зразумелую падвышаную цікавасць да ўкраінскіх спраў.

З улікам надзвычай вялікай колькасці кнігаў, прысвечаных Рэчы Паспалітай, можна зрабіць выснову, што большасць кар’ерных дыпламатаў была больш дасведчанай у справах Кароны, чым якой-кольвек іншай дзяржавы. Адсюль натуральна, што ў Пасольскім прыказе лічылі, што падзеі ў Рэчы Паспалітай непасрэдна закраналі расійскія інтарэсы. У выніку, падчас Паўднёвай вайны, калі Пётр I загадаў дыпламатам пераарыентавацца на заходнееўрапейскія краіны, шмат хто з чыноўнікаў прыказа не здолеў радыкальна змяніць свае погляды, і цар быў вымушаны абнавіць пасольскія кадры.[51]

Але нават найталенавіцейшыя расійскія дыпламаты вельмі рэдка станавіліся экспертамі па справах земежных краінаў, з улікам чаго Пасольскі прыказ наймаў шмат замежнікаў. У расійскім дыпламатычным ведамстве назіралася парадаксальная з’ява: найбольш адказныя пасады – перакладчыкаў (пісьмовых) і талмачоў (вусных) – займалі амаль выключна замежнікі, і гэта нягледзячы на выразную ксенафобію, якой у той час была прасякнута расійская ўлада і грамадства. Перакладчыкі і талмачы працавалі над сакрэтнымі дасланнямі замежных дыпламатаў цару і рыхтавалі для першай асобы расійскай дзяржавы вытрымкі найзначнейшай інфармацыі з замежнай прэсы. Такім чынам, замежнікі мелі доступ да сакрэтнай інфармацыі. Гэта асабліва датычылася перакладчыкаў, якія займалі вышэйшае службовае становішча і перакладалі не толькі дыпламатычныя камунікe, але й складалі афіцыйныя палітычныя дакументы.

[51] Некаторыя з гэтых дыпламатаў навучаліся ў Заходняй Еўропе ці вандравалі там разам з царом Пятром I. Найбольш вядомымі сярод іх былі Грыгоры Фёдаравіч Далгарукі, Васілі Лукіч Далгарукі, Андрэй Мацвееў, Пётр Андрэевіч Талстой і Пётр Паўлавіч Шафіраў.

Пра недарэчнасць гэтага стану рэчаў найлепш сведчыць прыклад двух перакладчыкаў, Нікалае Мілеску Спатарула ды Сімяона Лаўрэцкага. Бясспрэчна таленавітыя як перакладчыкі, абодва мелі сумнеўнае паходжанне. Спатарул, якога ў роднай яму Валахіі лічылі здраднікам, стаў галоўным перакладчыкам Пасольскага прыказа. У Маскве нагэтулькі высока цанілі яго моўныя і дыпламатычныя здольнасці, што ў 1675 Спатарул атрымаў пасаду амбасадара расійскай дзяржавы ў Кітаі. Праз яго выдатную абазнанасць ў палітыцы дунайскіх княстваў і праблемах праваслаўнага насельніцтва Турцыі, Алексей Міхайлавіч пакладаўся на яго інфармаванасць і досвед у гэтых пытаннях. Мілеску Спатарул стаў абаронцам інтарэсаў праваслаўных жыхароў Атаманскай імперыі і фактычна выступаў у ролі іх неафіцыйнага прадстаўніка ў Маскве.[52] Сімяон Лаўрэцкі, былы каталіцкі святар, трапіў у Маскву з Рэчы Паспалітай і перайшоў у праваслаўе, што ў той час заўсёды выклікала вялікі розглас. Верагодна, расійскія ўлады зразумелі перахрост Лаўрэцкага як адзнаку яго варажосці да Кароны і адданасці маскоўскай дзяржаве, бо яму даручылі ключавую пасаду прыстава, ці апекавальніка і ахоўніка польскіх дыпламатаў у расійскай сталіцы. Пасада прыстава надавала Лаўрэцкаму цудоўную магчымасць стаць двайным агентам (як шэраг перакладчыкаў і талмачоў). Тым не менш, дакументальных сведчанняў таго, што Лаўрэцкі таемна працаваў на Карону няма. Наадварот, наяўная інфармацыя дазваляе сцвярджаць, што дыпламат шчыра выконваў свае абавязкі. Дзякуючы перавагам, якія надавала Лаўрэцкаму яго паходжанне, ён раіў цару, як найлепш ладзіць з каронnымі дыпламатамі, а таксама з тымі, каго яны прадстаўлялі.[53]

Іншыя перакладчыкі і талмачы прыказа (у 1689 годзе іх агульная колькасць складала 39 чалавек) таксама былі замежнікамі: украінцамі, палякамі, галандцамі, малдаванамі, немцамі, шведамі, англічанамі і татарамі. Акрамя расійскай, некаторыя з іх валодалі двума ці трыма замежнымі мовамі. Дадзеныя па колькасці перакладчыкаў і талмачоў у прыказе падмацоўваюць выследкі першых двух табліцаў, што сведчаць пра прыярытэты расійскай знешняй палітыцы. Найбольшая колькасць спецыялістаў у прыказе валодалі татарскай, нямецкай, польскай і лацінай.

Расійскія дыпламаты шырока выкарыстоўвалі лаціну, бо яна ставалася афіцыйнай мовай дыпламатычнай карэспандэнцыі з шэрагам краінаў, у тым ліку Кітаем. Патрэба ў вялікай колькасці перакладчыкаў з польскай і нямецкай моваў абгрунтоўвалася геапалітычнымі чыннікамі, а англійская, шведская і галандская ўжываліся выключна ў гандлёвых мэтах. Наяўнасць васьмі перакладчыкаў з татарскай і двух з турэцкай (разам з дадзенымі пра колькасць кнігаў, складзеных у прыказе) сведчыць пра тое, што стасункі з Крымам і сцяпнымі плямёнамі ставаліся галоўным прыярытэтам тагачаснай маскоўскай палітыцы. Яшчэ адным сведчаннем сувязі паміж колькасцю кнігаў, укладзеных супрацоўнікамі Пасольскага прыказа, і наяўных перакладчыкаў, стаецца адсутнасць знаўцаў паўднёваславянскіх моваў. Існаванне ўсяго толькі трох знаўцаў грэчаскай адпавядае абмежаванасці бібліятэцы па праблемах Грэцыі.

[52] David, *Status Modernus*, ст. 20; Ю. Арсеньев, *Новые данные о службе Николая Шафирова в России (1671-1708)* (Москва, 1900), ст. 23-30, 53-54; Белокуров, *О Посольском приказе*, ст. 131; Ю. Чебан, “О взаимоотношениях Молдавии с Московским государством в XV-XVIII веках,” *Вопросы истории* 2 (1945): 65; Д. Урсул, *Философские и общественно-политические взгляды Н.Г. Милеску Спафария* (Кишинёв, 1955), ст. 23-41, 60-61; П.П. Панаитеску, “Культурные связи Румынских государств с Россией в эпоху реформ Петра I. Новые данные,” *Романославика* 2 (Бухарест, 1958): 236.

[53] Белокуров, *О Посольском приказе*, ст. 131; ЦГАДА, фонд 79 (стасункі з Польшчай, 1698), № 12 і 243 (прыбыццё ў Расію новага польскага рэзідэнта, Бокій). Найлепшым прыкладам паспяховага двайнога агента быў Ляонці Гросс, прыстаў і інфарматар галандскага дыпламата Ёхана фон Келера: Белов, “Нидерландский резидент,” ст. 123-25.

Табліца 3. Колькасць перакладчыкаў і талмачоў Пасольскага прыказа паводле замежных моваў[54]

| **Мова** | **Колькасць перакладчыкаў** |
| --- | --- |
| Татарская | 8 |
| Лаціна | 7 |
| Нямецкая | 5 |
| Польская | 4 |
| Грэчаская | 3 |
| Турэцкая | 2 |
| Беларуская\украінская | 1 |
| Англійская | 1 |
| Французская | 1 |
| Венгерская | 1 |
| Калмыцкая | 1 |
| Румынская | 1 |
| Шведская | 1 |

Цягам сямнаццатага стагоддзя у прыказе не рабілі спробаў падрыхтаваць расійцаў на замену перакладчыкам і талмачам замежнага паходжання. Так, перакладчыкі і, у меншай ступені, талмачы (некаторыя з іх атрымлівалі статус перакладчыкаў пасля здачы адмысловага экзамена) складалі асобную групу дыпламатычнага персанала. Яны былі набліжаныя да вышэйшага кіраўніцтва краіны, але займалі свае пасады дзякуючы набытай за мяжой ведзе пра іншыя дзяржавы. У дачыненні да перакладчыкаў да часоў Пятра I дзейнічала адное абмежаванне – яны не маглі прэтэндаваць на чын дзяка, незалежна ад сваіх дыпламатычных здольнасцяў і дасягненняў. Для параўнання: падчас царавання Пятра перакладчык Шафіраў зрабіў выбітную кар’еру і здабыў найвышэйшы дзяржаўны чын. Але нават у 1680-1690я гады перакладчыкі суправаджалі дзякаў і іншых афіцыйных асобаў на мірныя канферэнцыі. Менавіта перакладчыкі вытлумачалі і прывівалі расійскім прадстаўнікам незразумелыя ім стандарты заходняй дыпламатыі. Уплывовасць некаторых перакладчыкаў падвышалася праз тое, што яны адначасова ставаліся знанымі пісьменнікамі і даследчыкамі. Мілеску Спатарул, напрыклад, быў вядомым не толькі праз сваё амбасадарства ў Кітаі, але й дэталёвае апісанне і складанне мапы сібірскага шляху ў Пекін. Лаўрэцкаму належала аўтарства шэрагу працаў па мінералогіі, тэалогіі і паэтыцы. Нарэшце, Сцяпан Чыжынскі адзначыўся не толькі на дыпламатычнай ніве, але й атрымаў вядомасць як перакладчык шматлікіх кніг і галава першага маскоўскага тэатра.[55]

Аналіз дзейнасці Пасольскага прыказа напрыканцы 80-х гадоў сямнаццатага стагоддзя, параўнанне колькасці і аб’ёма кнігаў, складзеных асноўнымі аддзеламі прыказа, і наяўнасці ў прыказе перакладчыкаў розных замежных моў сведчыць пра галоўныя кірункі палітычнай,

[54] Складзена на падставе Белокуров, *О Посольском приказе*, ст. 131-32.
[55] А.И. Соболевский, *Переводная литература Московской Руси XIV-XVII веков* (Санкт-Петербург, 1902), ст. 110-18; Луппов, *Книга в России в XVII веке*, ст. 15-31, 126-30.

культурнай і эканамічнай экспансіі расійскай дзяржавы ў сямнаццатым стагоддзі. Найбольш распаўсюджанымі замежнымі мовамі ў той час былі нямецкая, польская і лаціна. Адначасова знайшло пацверджанне меркаванне пра трывалы інтарэс маскоўскай дзяржавы да азіяцкага кантыненту. Відавочны перакос у бок кантактаў з прадстаўнікамі народаў усхода ў параўнанні з заходнееўрапейскімі дзяржавамі адбівае скіраванасць інтэлектуальнай і палітычнай элітаў дапятроўскай Расіі.

## Збіранне інфармацыі

Праз далучэнне Украіны і ўдзел у вайне Святога Альянса супраць Турцыі Расія выйшла на еўрапейскую палітычную арэну. У Пасольскім прыказе вырашылі, што войны, дамовы і хаўрусы ў Еўропе закранаюць расійскія інтарэсы, асабліва ў выпадку змены баланса сіл паміж Рэччу Паспалітай, Швецыяй, Аўстрыяй і Турцыяй. У такіх умовах прыказ, натуральна, намагаўся здабыць як мага больш інфармацыі пра еўрапейскія справы, каб хутка рэагаваць на змены палітычнай сітуацыі.

Галоўнай крыніцай інфармацыі Пасольскага прыказа ставаліся спавешчанні расійскіх дыпламатаў, складзеныя падчас замежных місіяў, навіны замежнай прэсы і дэпешы пазаштатных агентаў. Аднак усяго гэтага было недастаткова, і ў Маскве вырашылі абмяняцца дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі з дзяржавамі, найбольш значнымі з гледзішча расійскіх замежнапалітычных інтарэсаў. Першая сталая расійская амбасада была створаная ў Варшаве ў 1674 годзе. У сямнаццатым стагоддзі расійскія дыпламатычныя місіі з’явіліся ў Гаазе, Лондане, Берліне, Стамбуле, Капенгагене і Стакгольме.[56]

Напрыканцы сямнаццатага стагоддзя варшаўская амбасада была адзіным дыпламатычным прадстаўніцтвам Расіі, дзе стала знаходзіліся прафесійныя дыпламаты. На яе чале стаяў дзяк, якому перад адпраўленнем яго ў Варшаву цар надаваў чын стольніка. За выключэннем вялікіх амбасадараў, усе расійскія дыпламаты, агенты і эмісары ў Вене, Валахіі, Малдавіі і Італіі атрымлівалі інструкцыі падтрымліваць кантакты з расійскім амбасадарам у Варшаве, які у пэўнай ступені кантраляваў іх дзеянні. Так, у дыпламатычнай сферы Рэч Паспалітая ставалася расійскім “акном у Еўропу”. Варшава была сапраўдным цэнтрам замежнай дыпламатычнай актыўнасці Расійскай дзяржавы. Варшаўскае прадстаўніцтва падтрымлівала рэгулярныя кантакты з расійскімі дыпламатамі ў Аўстрыі, Брандэнбургу, Ватыкане, Венецыі і Крыме. Штотыднёвыя сустрэчы з дыпламатычнымі прадстаўнікамі гэтых дзяржаваў у Варшаве давалі расійскім дыпламатам, якіх асабліва цікавілі вайсковыя і прыдворныя навіны, усю неабходную ім інфармацыю. Спавешчанні расійскіх дыпламатаў у Рэчы Паспалітай утрымлівалі звесткі не толькі пра Карону, але й апошнія еўрапейскія падзеі, навіны польскай і замежнай прэсы, копіі апрылюдненых маніфестаў, апісанні

[56] А. Попов, *Русское посольство в Польше 1673-1677 гг.* (Санкт-Петербург, 1854), ст. 21-258. Белов, “Нидерландский резидент,” ст. 1-9, 38, 113.

бітваў, календары і кнігі. Цягам 1680-х і 1690-х гадоў варшаўская амбасада заставалася для Масквы незаменнай крыніцай знешнепалітычнай інфармацыі.[57]

Акрамя таго, цар атрымліваў карысную інфармацыю ад смаленскага ваяводы, які адпавядаў за найбольш адказную частку мяжы паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай і загадваў мясцовым сецівам маскоўскіх інфарматараў. Ваявода штомесяц дасылаў спавешчанні ў Пасольскі прыказ. З аднаўленнем сталага дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Варшаве значнасць інфармацыі ваяводы знізілася. Тым не менш, яго дэталёвыя апісанні сітуацыі ў памежным рэгіёне і стану праваслаўя на беларускіх тэрыторыях Вялікага Княства не гублялі сваёй актуальнасці.

Расійская амбасада ў Варшаве не паменшыла значнасць дасланняў у Маскву ўкраінскага гетмана. Гетман кіраваў шырокім сецівам агентаў і інфарматараў у Маскве, Малдавіі, Валахіі, Крыме і правабярэжнай Украіне. У прыватнасці, гетман Іван Мазэпа (1687-1709) заўсёды валодаў патрэбнай Маскве інфармацыяй, бо меў блізкіх родзічаў і сяброў у заходняй Украіне і абмяняўся вайсковымі аташэ з гетманам Янам Станіславам Ябла免оўскім. Мазэпа, народжаны ў сям'і польскіх шляхціч аў, добра адукаваны і дасведчаны ў справах каралеўскага двара (ён некаторы час быў сакратаром і прыдворным Яна Казіміра), ведаў і разумеў польскую палітыку лепш, чым любы іншы царскі службоўца.[58]

Чыноўнікі Пасольскага прыказа стала збіралі інфармацыю ад тых, хто перасякаў межы Расіі. Шмат з таго, што распавядалі падарожнікі, асабліва расійскія манахі з Атаманскай імперыі і купцы, якія павярталіся з Заходняй Еўропы, магло быць цікавым палітыкам у Маскве. Аднак карысныя сведчанні патаналі сярод масы непатрэбных матар'ялаў, якія, тым не менш, стаюцца вельмі цікавымі для сучасных сацыёлагаў і антраполагаў.

Аграмадная колькасць інфармацыі амаль механічна рэгістравалася і захоўвалася паводле тэматычныага прынцыпу чыноўнікамі ўсіх аддзелаў Пасольскага прыказа. Адная крыніца, напрыклад, штотыднёвае спавешчанне з Варшавы, утрымлівала разрозненыя факты, звесткі, пераклады парламенцкіх паседжанняў і прэсы, а таксама інфармацыю, атрыманую ад расійскіх шпіёнаў. Чыноўнікі прыказа не складалі палітычных сводкаў ці кароткіх аглядаў атрыманых

[57] Асобы расійскіх дыпламатаў будуць абмеркаваныя ў главе 4. Іх досвед бяспрэчна паўплываў на змены ў расійскай дыпламатычнай практыцы. Найбольш значнай з іх сталася большая самастойнасць царскіх рэзідэнтаў у кантактах з каронным і чыноўнікамі і замежнымі дыпламатамі. Белов, "Нидерландский резидент," ст. 94-95, 103-106. Больш пра асаблівы статус расійскіх дыпламатаў у Рэчы Паспалітай у параўнанні з расійскімі дыпламатамі ў іншых краінах, агентамі і шпіёнамі, гл. ліст цароў Вазніцыну, 9 кастрычніка 1688, ЦГАДА, фонд 52 (стасункі з Грэцыяй), № 11, ст. 83-84; ліст Вазніцына Галіцыну, 8 лістапада 1688 года, 3 студзеня ды 7 лютага 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 192, 243, 280; ліст Волкава Галіцыну, 17 траўня 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 20-21. Гл. таксама шэраг спавешчанняў (1692) датычна праблемаў аднаго з агентаў Мазэпы, арыштавана ў Рэчы Паспалітай і выратаванага Міхайлавым; ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 143, 145-46, 191, 201, 210, 214, 223; № 243, ст. 469, 522, 549, 555. Гл. таксама ліст Нікіціна Пятру І, 26 кастрычніка 1696 года і 8 кастрычніка 1699 года, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 117, 438-39.

[58] М.И. Костомаров, *Мазепа и мазепинцы*, у *Собрание сочинений*, том 16 (Санкт-Петербург, 1905); О. Оглоблин, *Гетьман Іван Мазепа та його доба* (Нью-Йорк, 1960); T. Mackiv, *Prince Mazepa, Hetman of Ukraine in Contemporary English Publications, 1687-1709* (Chicago, 1969); W. Majewski, "Jan (Ivan) Mazepa," у *Polski słownik biograficzny*, том 20, ст. 294-99. Уплыў Мазэпы на расійскую знешнюю палітыку асабліва выявіўся ў 1694 годзе, калі, паводле яго парады, Крэмль вырашыў працягваць вайну з Турцыяй і выправіць стасункі з Рэччу Паспалітай. Гл. палітычную заяву Мазэпы што да стасункаў з Каронай і вайной з Атаманскай Портай, ЦГАДА, фонд 79, № 250, ст. 2-24, 29-33 і фонд 123, стасункі з Крымам 1692-1694, № 1, ст. 264-88.

дакументаў. Сведчанняў пра тое, што аддзелы абменьваліся назапашанымі дадзенымі не існуе. Падаецца вельмі верагодным, што Дума, цар і нават галовы аддзелаў збольшага пакладаліся на спавешчанні амбасадараў, у той час, як дзяк, адказны за справы Рэчы Паспалітай, і яго падначаленыя мусілі працягваць збіраць інфармацыю і вырашаць дробныя пытанні. Нават спавешчанні амбасадараў мелі сэнс толькі калі цар жадаў іх заслухаць. Напрыклад, Галіцын быў добра дасведчаным у палітыцы Кароны, але Пётр не цікавіўся багатай інфармацыяй па Рэчы Паспалітай, назапашанай Пасольскім прыказам. Такім чынам, мноства папераў, што захоўваліся ў прыказе, выўляліся проста непатрэбным.

Сабескі, са свайго боку, працягваў збіраць як мага больш звестак пра намеры суседзяў. Параўноўваючы шматлюдны і высокапрафесійны Пасольскі прыказ з купкай замежнапалітычных экспертаў Сабескага, цяжка зразумець, як дарадцы караля нагэтулькі хутка распазнавалі сакрэтныя планы замежных канкурэнтаў, усталёўвалі і падтрымлівалі кантакты з сецівам інфарматараў і падавалі манарху Рэчы Паспалітай сціслую і дакладную замежнапалітычную інфармацыю.

У Расіі самыя адказныя дыпламатычныя місіі звычайна даверал людзям, якія не былі афіцыйнымі супрацоўнікамі Пасольскага прыказа. Вялікія пасольствы ў Рэч Паспалітую і Швецыю заўсёды ачольвалі дэпутаты Баярскай Думы, што было прывілегіяй чальцоў найвыбітнейшых баярскіх радоў. Не нашмат меншымі былі патрабаванні да галоваў дыпламатычных місіяў у Персію і іншыя краіны. Калі высокапастаўленыя палітыкі ачольвалі дыпламатычныя місіі, супрацоўнікі Пасольскага прыказа мусілі забяспечыць іх нататкамі, якія акрэслівалі пазіцыю расійскай дзяржавы, дыпламатычнымі інструкцыямі, прамовамі і адказамі на тысячы магчымых пытанняў. Да ўсяго, прадстаўнікі прыказа ўваходзілі ў склад найбуйнейшых замежных місій у якасці сакратароў.

Пра дыпламатычную падрыхтоўку баяраў, якія ачольвалі падобныя місіі, вядома мала. У другой палове сямнаццатага стагоддзя большасць з іх былі адукаванымі людзьмі. Перамовы, якія вялі баяры, сведчылі пра выдатнае веданне імі замежнапалітычнай праблематыцы і валоданне дыпламатычнымі прыёмамі.  Некаторыя з іх атрымалі добрую адукацыя па кнігах, праз заняткі з прыватнымі настаўнікамі і кантакты з замежнікамі. Баяры мелі вялікі ўплыў на фармаванне замежнай палітыцы Расіі. Замежныя дыпламаты, якія наведвалі Маскву, адзначалі іх дасведчанасць у міжнародных справах. Каронныя дыпламаты часам ахвотней сустракаліся з баярамі, чым з Украінцавым, калі апошні быў галавой Пасольскага прыказа. Наколькі можна прадкінуць, падобнае стаўленне не грунтавалася на асабістай няпрыхільнасці да Украінцава – хутчэй, прычынай было жаданне давесці пазіцыю караля непасрэдна да шырокага кола баяраў і не баяцца магчымага скажэння фактаў супрацоўнікамі Пасольскага прыказа.[59]

---

[59] Пра ролю баяраў у расійскай дзяржаве гл. Crummey, *Aristocrats and Servitors*, ст. 30-33, 38-44, 58-61, 135-36, 156-63. Для апісання прывілегіяў дыпламатаў, гл. Григорий Карпович Катошихин, О России в царствование Алексея Михайловича (Санкт-Петербург, 1840), ст. 32-33, 37-69. Жаданне Аляксея Міхайлавіча даць еўрапейскую адукацыю сваім дзецям спарадзіла моду на замежную адукацыю для дзяцей сярод маскоўскай эліты. Прафесар Крамі слушна заўважыў з гэтай нагоды, што "галандскі карабін ці нямецкая кальчуга не робяць чалавека еўрапейцам, як дамасскі меч яшчэ не азначае, што яго валадальнік - араб" (ст. 159). Можна меркаваць, што найманне баярскім дзецям настаўнікаў з Беларусі, Польшчы ці Украіны і папулярнасць лацінскіх ды польскіх кніг сведчыць пра культурныя змены ў Маскве ў сямнаццатым стагоддзі. Існуе вялікая колькасць успамінаў еўрапейскіх дыпламатаў, купцоў і вандроўнікаў, якія сцвярджаюць пра неадукаванасць і барбарства маскоўцаў. З іншага боку, мы пададзім уражанні двух асвечаных асобаў, якіх прыемна

Ролю Баярскай Думы ў фармуляванні расійскай замежнай палітыцы можна параўнаць з адпаведным уплывам сенатараў у Рэчы Паспалітай. Дума, як і Сенат, была дарадчым органам пры манарху. Чальцы кожнага з іх бралі ўдзел у распрацоўцы замежнай палітыцы сваёй дзяржавы. Як баяры, гэтак і сенатары ставаліся дасведчанымі ў гэтай сферы і часцяком сустракаліся з дыпламатамі іншых дзяржаў. У Расіі і ў Рэчы Паспалітай ім давяралі найбольш ганаровыя і адказныя дыпламатычныя місіі. Адрознівала іх тое, што сенатары былі вольныя актыўна супрацьстаяць каралеўскай палітыцы, у той час, як баяры маглі ў лепшым выпадку дазволіць сабе маўкліва не пагадзіцца з царом. Калі чальцам Думы даручалі дыпламатычныя заданні, яны шчыльна супрацоўнічалі з апаратам Пасольскага прыказа. Сенатары, нягледзячы на кантакты з прадстаўнікамі кароннай і вялікалітоўскай канцэлярыяў, у значна большай ступені залежалі ад сваіх асабістых сакратароў і дарадцаў. Ані ў Рэчы Паспалітай, ані ў Расіі прафесійныя дыпламаты не здолелі цалкам замяніць арыстакратыю і вышэйшае чынавенства, якія працягвалі граць значную ролю ў замежных стасунках абедзьвюх дзяржаў. Да традыцыйна ўплывовых дыпламатаў-палітыкаў у гэты перыяд дадаліся бюракраты, якія праводзілі палітыку сваіх манархаў.

***

Чытача можа здзівіць відавочная розніца ў акцэнтах, зробленых пры аналізе дыпламатычных службаў Рэчы Паспалітай і Расіі. Чаму ў выпадку з Расіяй аўтар нагэтулькі шмат ўвагі надае функцыянаванню бюракратычных механізмаў, абавязкам дзякаў і іх падлеглых, архівам і кнігам, укладзеным супрацоўнікамі прыказа, ды ўменняў і паходжанню перакладчыкаў і талмачоў? І чаму ў частцы, прысвечанай Рэчы Паспалітай, гэтыя аспекты амаль не асветленыя, а замест іх апісаная дзейнасць адносна малой групы чыноўнікаў?

Дослед польскай канцэлярыі, яе персанала і архіваў дае толькі частковае ўяўленне пра вядзенне замежных спраў Рэчы Паспалітай. Не менш карысную інфармацыю можна атрымаць з аналіза стасункаў паміж каралём, прадстаўнікамі Сената, Пасольскай ізбы і мясцовых сеймікаў. У некаторых выпадках, калі парламент і мясцовая шляхта адчувалі сябе дастаткова дасведчанымі што да пэўных аспектаў замежнай палітыцы, яны прымалі адпаведныя рашэнні пасля абмеркання праблемаў з прадстаўнікамі выканаўчай улады. У іншых выпадках, калі кароль і яго дарадцы намагаліся прыхаваць свае планы, працэс прыняцця замежнапалітычных рашэнняў праходзіў у атмасферы падвышанай сакрэтнасці. Пры ацэнцы замежнай палітыцы Рэчы Паспалітай трэба перш за ўсё зважаць на асобаў, што прымалі ключавыя рашэнні, і пазіцыі, якія займалі кароль, яго дарадцы й шараговыя прадстаўнікі мясцовай шляхты. Менавіта ўзаемадзеянне паміж вышэйзгаданымі асобамі і інстытутамі, якія яны прадстаўлялі, й вызначала характар і вектар замежнай палітыцы Рэчы Паспалітай.

---

ўразілі кантакты з жыхарамі Масквы: “ваяводы гэтай [расійскай] дзяржавы – людзі ўсебакова адукаваныя. Яны разбіраюцца ў праве, філасофіі і здольныя падтрымліваць глыбокія размовы,” Paul of Aleppo, *The Travels of Macarius, Patriarch of Antioch*, том 1 (London, 1834), ст. 234; “ён [баярын Галавін] быў адукаваным чалавекам, таленавітым і дасведчаным перамоўшчыкам і, нягледзячы на тое, што ён ведаў лаціну, заўсёды размаўляў праз перакладчыка, які вучыў яго гэтай мове,” “Father Pereira’s diary,” ed. and trans. by J. Sebes, S.J., у *The Jesuits and the Sino-Russian Treaty of Nerchinsk (1689)* (Rome, 1961), ст. 233.

У Расіі, наадварот, замежная палітыка заўсёды ставался надзвычай засакрэчанай. Толькі цар валодаў паўнамоцтвамі прымаць замежнапалітычныя рашэнні. Без загадаў манарха ці яго дарадцаў вельмі складаная і дысцыплінаваная машына Пасольскага прыказа або працягвала працаваць па інэрцыі, або часам проста спынялася. Так здарылася ў 1689 годзе пасля няўдалага пераварота Соф'і і Галіцына: чатыры месяцы расійскія дыпламаты ў Рэчы Паспалітай не наважваліся каментаваць гэтую падзею, пакуль, нарэшце, не атрымалі з Масквы яе афіцыйную версію.[60]

Пасля адстаўкі Галіцына значная частка працы прыказа – складанне соцень кніг, пераклады шматлікіх еўрапейскіх газет, дэталёвыя спавешчанні агентаў з памежных гарадоў і ўся маса дакументаванай інфармацыі, атрыманай ад замежнікаў – выявілася непатрэбнай, бо нічога з гэтага не выкарыстоўвалася, каб распрацаваць трывалую і дзейсную палітыку ў дачыненні да Рэчы Паспалітай.

Тым не менш, напрыканцы сямнаццатага стагоддзя галоўным кампанентам расійскай дыпламатыі ставаўся яе бюракратычны апарат, бо цар па-ранейшаму амаль не ўдзельнічаў асабіста ў фармаванні замежнай палітыцы. Ад 1682 да 1689 года Расіяй кіравала царэўна Соф'я, стрыечная сястра Пятра І. Яна фактычна перадаручыла справы Пасольскага прыказа Галіцыну, які дзейнічаў ад імя цароў Івана і Пятра. Пасля няўдалага пераварота 1689 года пераможны клан Нарышкіных (браты і пляменнікі маці Пятра) не прызначыў новага галаву прыказа. Кіраваць Пасольскім прыказам стаў Украінцаў, які вёў асцярожную замежную палітыку, што дазволіла Нарышкіным умацаваць свае пазіцыі ўнутры Расіі.

Пры агульным параўнанні амбасадарстваў Расіі і Рэчы Паспалітай можа скласціся ўражанне, што расійцы былі больш дасведчанымі дыпламатамі і лепшымі перамоўшчыкамі. Падчас перамоваў расійскія прадстаўнікі насамрэч лепш падмацоўвалі свае аргументы бясконцымі спасылкамі на гістарычныя прэцэдэнты. Аднак наўрад ці можна сцвярджаць, што дзякуючы гэтаму расійскія рэзідэнты дамагаліся вялікіх дыпламатычных поспехаў. Відавочна, што эфектыўнасць расійскай дыпламатычнай службы падрывалі тыя ж якасці, якія рабілі яе нагэтулькі добра арганізаванай: вузкая спецыялізацыя, жорсткае датрыманне пратакола і традыцый. Усё гэта прыгнечвала асабістую ініцыятыву і нестандартнасць у падыходах да замежнапалітычных праблем. Наяўнасць у дыпламата вышэйадзначаных якасцяў, наадварот, ставіла пад сумнеў паспяховасць яго кар'еры: персанал расійскай дыпламатычнай службы наймаўся з прадстаўнікоў ніжэйшых класаў (не дваранаў), таму прасоўванне па службовай лесвіцы – адзіная іх магчымасць падвысіць свой сацыяльны статус – залежала ад здольнасці падабацца начальству, а часам і самому цару. Эфектыўнасць кароннай дыпламатыі, у сваю чаргу, падрывалася слабой арганізацыяй замежнапалітычнага ведамства і адсутнасцю спецыялізацыі дыпламатаў. Але галоўнай праблемай ставаўся разлад паміж парламентам, сенатарамі і каралём у пытаннях замежнай палітыцы.

[60] Сабескаму даклалі пра маскоўскі пераравbooked 1689 года ў кастрычніку таго ж году. Калі ён прачытаў спавешчанне Доўманта, "королевское величество печален был многое время так что мало не заплакал." Але калі Сабескі папрасіў Волкава даць дадатковыя тлумачэнні, расійскі рэзідэнт усяго толькі сцвярдзіў, што калі змены адбыліся паводле волі абодвух цароў, не было падставаў для хвалявання. Данясенні Волкава, лістапад і снежань, 1689, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 265-66, 337-38.

Глава 2. Дыпламатыя прафесіяналаў і дыпламатыя пачаткоўцаў

У стасунках Рэчы Паспалітай і Расіі здараліся доўгія перыяды ўземнага непаразумення. Нягледзячы на глыбокае веданне ўсіх дакументаў датычна польскіх спраў і рэгулярныя наведванні Кароны, прадстаўнікі расійскай дыпламатычнай службы не разумелі базавых прынцыпаў палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай. Парламенцкія дэбаты, актыўнасць павятовых сеймаў, тайныя палітычныя дамовы, існаванне непрыхаванай апазіцыі каралю, і, галоўнае, вольнай прэсы, - усё гэта падавалася расійскім дыпламатам падазроным. Яны засярэджваліся на пазіцыі караля, якога ўважалі за польскага цара, з той толькі розніцай, што каралеўскую ўладу абмяжоўвалі парламент і грамадзяне Рэчы Паспалітай. Праз сваё аднабаковае ўспрыняцце рэаліяў Кароны, маскоўскія дыпламаты не надавалі належнай ўвагі шматлікім значным фактам. Зневажальная характарыстыка польскіх калегаў ("ліхія", "падступныя хлусы") і польскага дзяржаўнага ладу ("анархія") выяўляюць іх няздольнасць аналізаваць падзеі ў краіне, чый дзяржаўны лад ставаўся ім незразумелым і падаваўся маралёва заганным.[61] Толькі за часам Кацярыны II расійскія дыпламаты ўсвядомяць унутранай палітыцы Кароны і навучацца выкарыстоўваць апантаных абаронцаў рэспублікі, каб паслабіць польска-літоўскую дзяржаву.

Каронным чыноўнікам, у сваю чаргу, было цяжка зразумець расійскую сістэму, хаця яны й добра разбіраліся ў палітычнай тэорыі і ведалі розніцу паміж дзяржаўнымі ладамі. Пра дваістасць іх пазіцыі кажа той факт, што, нягледзячы на ўспряняцце Расіі як класічнай тыраніі, каронныя дыпламаты ў Маскве намагаліся ўплываць на грамадскую думку, сустракацца са шматлікімі чыноўнікамі і адкрыта выказвлі свае погляды. Яны не абмяжоўваліся кантактамі з прадстаўнікамі Пасольскага прыказа і не верылі, што прыказ ва ўсім падпарадкоўваўся расійскаму цару. Польскія дыпламаты ставіліся да Думы як да расійскага аналага Сената і спрабавалі ўсталяваць кантакты з шырокім колам маскоўскіх чыноўнікаў. Усё гэта сведчыць пра тое, што палякі не разумелі ролі цара ў расійскай палітычнай сістэме. Грамадзяне краіны, кароль якой не меў боскага статуса, яны не разумелі, што для яго падданых цар ставаўся богападобным стварэннем, уладаранне якога мела не толькі практычныя, але й далёкасяжныя *маралёвыя* наступствы. Менавіта таму каронныя дыпламаты часам не маглі адрозніць праўду ад ілжы ў словах сваіх расійскіх калегаў. Здаралася, што Доўмант, не здольны зразумець расійцаў, даваў веры нагэтулькі відавочнай хлусні, што ў яе не верылі нават самі расійцы, вымушаныя яе казаць. Такім чынам, стасункі Расіі і Рэчы Паспалітай напрыканцы сямнаццатага стагоддзя характарызавала схільнасць дыпламатаў абедзьвюх краін ацэньваць паводзіны адно аднаго на падставе рэаліяў сваёй краіны. Гэтая акалічнасць заставалася нязменнай, нават нягледзячы на рэгулярныя заявы пра абодвух бакоў пра ўсведамленне адрозненняў паміж дзяржавай свабодных грамадзян і краінай царскіх служкаў.

[61] Усе расійскія рэзідэнты ў сямнаццатым стагоддзі ставіліся да дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай са здзіўленнем і недаверам. Попов, *Русское посольство*, ст. 251-258. Гл. таксама главу 3. Цікава адзначыць, што расійцы прыпісвалі свабоду, з якой шляхцічы выказвалі свае палітычныя погляды і іх паводзіны, напрыклад, падчас выбараў караля, дзеянню алкаголя. Рэзідэнты былі ўпэўненыя, што толькі нецвярозыя людзі маглі паводзіцца і выказваць свае думкі нагэтулькі вольна, як грамадзяне Рэчы Паспалітай. Талстой параўноўваў рэспубліканскія настроі і паводзіны шляхты з інстынктамі п'янога скоту, а Пётр I лічыў Рэч Паспалітую краінай п'яніцаў. Peter A. Tolstoi, *Travel Diary,* ed. M. J. Okenfuss (DeKalb, IL, 1987), ст. 37-38. Ліст цара Пятра А. Вініюсу, *Письма и бумаги Петра Великого,* том. 1 (Санкт-Пецярбург, 1887) ст. 149. Гл. таксама Korb, *Diarium*, ст. 76-77.

# Глава 3. Расійская Амбасада ў Рэчы Паспалітай

"Прашу вызваліць мяне ад гэтага клятага амбасадарства ці я не вытрымаю псіхалагічна ды фінансава і крануся розуму."

Барыс Міхайлавіч Міхайлаў

Расійскія палітыкі выяўлялі значна большы інтарэс да справаў Кароны, чым у Рэчы Паспалітай цікавіліся маскоўскай палітыкай. У Крамлі меркавалі, што страта Смаленска і Кіева выкліча ў Варшаве жаданне адпомсціць Маскве. Цар баяўся, што Рэч Паспалітая можа заключыць сепаратны мір з Турцыяй або нават прапануе султану вайсковы хаўрус супраць Расіі. Маскоўскім дыпламатам у Варшаве была даручана дакладаць нават пра найдрабнейшыя патэнцыйныя адзнакі змены каралеўскай палітыцы, каб паспець прыняць адпаведныя захады.[1]

У Рэчы Паспалітай толькі зацятыя ворагі Турцыі і прыхільнікі пра-маскоўскай палітыцы падтрымалі абмен амбасадамі з Расійскай дзяржавай. Было відавочна, што павяртанне маскоўскага дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Варшаву дазволіць расійцам засвоіць заходнееўрапейскі дыпламатычны пратакол. Расійцы ўсведамлялі, што ў Варшаве ад іх чакалі датрымання гэткіх жа стандартаў і дыпламатычных цэрэмоніяў, што і ад іх аўстрыйскіх, французскіх ці шведскіх калегаў. Сабескі заахвочваў расійскіх дыпламатаў займаць больш незалежную пазіцыю і запрашаў іх на нефармальныя кансультацыі. Цар, аднак, не хацеў змяняць звыклыя дыпламатычныя працэдуры і прытрымліваўся рытуала дарагіх афіцыйных візітаў, якія, да ўсяго, займалі шмат часу. Такім чынам, асабістыя кантакты расійскіх дыпламатаў з Сабескім абмежоўваліся перадаваннем каралю царскіх лістоў. У сувязі з гэтым маскоўскіх дыпламатаў у Рэчы Паспалітай разглядалі ўсяго толькі як ганаровых кур'ераў. Васілі Цяпкін і, пазней, Пракофі Вазніцын (1684-1689) выдатна разумелі, што абмежаванні, навязаныя ім з Масквы, ізалявалі расійскіх дыпламататычных прадстаўнікоў ад каралеўскага двара, і намагаліся змяніць існую сітуацыю. Абодва прагнулі паўнамоцтваў, якія мелі іх заходнееўрапейскія калегі і ўсведамлялі, што яны мусяць быць здольнымі самастойна прымаць, прынамсі, дробныя рашэнні. Яны заклікалі цара надаць ім больш свабоды, каб прымаць актыўнейшы удзел ва ўнутранай палітыцы Рэчы Паспалітай. Цягам існавання расійскай амбасады ў Варшаве, яе супрацоўнікі назапасілі шэраг прапаноў па змене састарэлых дыпламатычных інструкцыяў, ухваленыя, аднак, толькі за часам Пятра І. Неабходна заўважыць, што шмат хто з будучых пятровых амбасадараў вывучаў мудрагельствы дыпламатычнага пратаколу ў польскім стале Пасольскага прыказа.[2]

[1] Інструкцыі Пракофію Багданавічу Вазніцыну, Центральный государственный архив Древних Актов (Москва; далей - ЦГАДА), фонд 79, № 233; інструкцыі Івану Міхайлавічу Волкаву, ЦГАДА, фонд 79, № 236; інструкцыі Барысу Міхайлавічу Міхайлаву, ЦГАДА, фонд 79, № 241; інструкцыі Аляксею Нікіціну, ЦГАДА, фонд 79, стасункі з Польшчай у 1696 годзе, № 4. Кароткія біяграфіі дыпламатаў гл. у: С. А. Белокуров, *О Посольском приказе* (Москва, 1906), ст. 53, 125-28.

[2] Ян Мыслішэўскі паінфармаваў Вазніцына, што кароль хоча бачыць яго як мага часцей і запрасіў расійскага рэзідэнта, як і ўсіх яго еўрапейскіх калегаў, наведваць каралеўскі двор нефармальна. Рэестр дзейнасці Вазніцына, ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 77-79. У святле гэтага запрашэння скаргі Вазніцына Галіцыну на тое, што да яго ставіцца горш, чым да еўрапейскіх дыпламатаў, і ён не можа дамагчыся аўдыенцыі ў караля, стаюцца або двудушнымі, або жаданнем Вазніцына змяніць

## Расійскія рэзідэнты, персанал амбасады і іх жыллёвыя ўмовы

Ад 1687 да 1700 года ў Варшаве змяніліся чатыры расійскія рэзідэнты (амбасадары другога рангу): Пракофі Багданавіч Вазніцын (люты 1688 – травень 1689 года), Іван Міхайлавіч Волкаў (травень 1689 – лета 1691 года), Барыс Міхайлавіч Міхайлаў (верасень 1691 – вясна 1696 года) і Аляксей Васільевіч Нікіцін (травень 1696 – 1700 год). Тры з чатырох мелі багаты дыпламатычны досвед: Вазніцын браў удзел у місіях у Аўстрыю, Турцыю, Венецыю і чатыры разы быў у Рэчы Паспалітай (1671, 1673, 1674 і 1675 гады); Волкаў, які наведаў Варшаву напярэдадні свайго прызначэння, вандраваў у Венецыю і Аўстрыю; Міхайлаў ладзіў перамовы ў Андрусава ў 1677 годзе. Усе расійскія рэзідэнты вольна размаўлялі, але толькі Нікіцін валодаў мовай нагэтулькі добра, каб пісаць па-польску. Да ўсяго, Нікіцін, Міхайлаў і Вазніцын ведаліа лаціну і разумелі французскую.[3]

На шляху з Масквы ў Варшаву расійскія рэзідэнты спыняліся ў Смаленску, дзе яны папярэджвалі польскія ўлады ў Кадыні пра сваё прыбыццё і запытвалі іх на сродкі перасоўвання. Калі польскі бок не быў здольны забяспечыць перасоўванне расійскіх дыпламатаў у найкарацейшы тэрмін, некаторыя рэзідэнты працягвалі шлях "за свой кошт" у Магілёў, Мінск ці Вільню. На шляху яны нярэдка наведвалі праваслаўныя манастыры, каб даставіць туды лісты з Крамля, у якіх цар абяцаў праваслаўным вернікам сваю абарону. Падчас гэтых вандраванняў амбасадары збіралі інфармацыю пра апошнія палітычныя падзеі на польска-літоўскіх землях у размовах з сустрэчнымі манахамі, гандлярамі, жаўнерамі, мясцовымі чыноўнікамі ці сенатарамі. Праз тое, што, у адрозненне ад іх калегаў у Расіі, маскоўскія дыпламаты не былі абмежаваныя ў камунікацыі з кім-колечы, яны звычайна прыбывалі ў Варшаву дасведчанымі ў тагачаснай палітычнай сітуацыі Рэчы Паспалітай.[4]

У Варшаве рэзідэнты звычайна мешкалі ў доме, нанятым у гарадскога галавы, недалёка ад рэзідэнцыі караля ці дворнага маршалка.[5] Бытавыя ўмовы задавальнялі Вазніцына і Нікіціна, але выклікалі нараканні Волкава і Міхайлава. Апошнія сцвярджалі, што польскі рэзідэнт у Расіі Дамінік

---

афіцыйныя паводзіны расійскіх дыпламатаў за мяжой. Ліст Вазніцына В.В. Галіцыну, сакавік 1688, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 105. Каронныя сенатары пацікавіліся абсягам яго паўнамоцтваў – ці мог Вазніцын дзейнічаць без дэтальных інструкцыяў з Масквы.Каронным палітыкам былі патрэбныя хуткія адказы ад замежных дыпламатаў што да вайсковых дзеянняў і мірных місіяў. У адказ на гэта Вазніцын толькі паўтарыў, што яго даслалі збіраць інфармацыю для цара, а не весці перамовы. Размова Вазніцына з кароннымі сенатарамі, 29 лютага 1688, ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 39-44. Выключна нефармальны характар мінулых расійскіх місіяў трапна апісаны Бяловым, які, акрамя таго, заўважыў, што заснаванне рэзідэнцыі ў Рэчы Паспалітай спрыяла выпрацоўцы ў дыпламатаў большай самастойнасці. М.И. Белов, "Нидерландский резидент в Москве. Барон Иоганн Келлер и его письма," (канд. дис., Ленинград, 1947), ст. 44, 94-106. Гл. таксама: А.Н. Попов, *Русское посольство в Польше 1673-1677 гг.* (Санкт-Петербург, 1854), ст. 243-44.

[3] Веданне рэзідэнтам замежнай мовы ацэньвалася на падставе яго здольнасці ўдзельнічаць у размове і выкласці яе змест у форме спавешчання. ЦГАДА, фонд 79, № 234, 235, 238, 242, 243, 252.

[4] У Вазніцына не паўставала праблемаў, бо яго сустэў на мяжы і суправаджаў на шляху Казімір Маскевіч, дасланы літоўскім скарбнікам Бенедыктам Сапегам, ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 10. Падчас перамяшчэння па Рэчы Паспалітай, расійскіх рэзідэнтаў звычайна суправаджалі Казімір Маскевіч (Вазніцына), Ян Лявінскі (Волкава), Ян Урублеўскі, Казімір Макрыцкі, Ёзэф Залескі (Міхайлава) і Ян Закрэўскі (Нікіціна). Відавочна, што асобаў у суправаджэнне расійскіх дыпламатаў не прызначалі адвольна, а адбіралі з ліку прыдворных "экспертаў па Расіі". Дасланне Волкава Галіцыну ў двух лістах з Мінска і Варшавы ў сакавіку і красавіку 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 2-4. Міхайлаў не атрымаў харчоў па прыездзе ў Рэч Паспалітую 21 жніўня 1691 года, але ў суправаджэнне яму быў дадазены Ян Урублеўскі; ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 3-8. Рэестр дзейнасці Нікіціна, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 15.

[5] Рэестр дзейнасці Вазніцына, ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 9-26; рэестр дзейнсці Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 3-36.

Глава 3. Расійская Амбасада ў Рэчы Паспалітай

Доўмант меў у маскоўскім амбасадарскім палацы значна больш камфортныя пакоі, чым тое, што Варшава прапаноўвала расійскім рэзідэнтам.[6]

Персанал расійскай дыпламатычнай місіі ў Рэчы Паспалітай быў шматлюднейшым, чым амбасады іншых дзяржаў – адбітак традыцыі часоў, калі дыпламатам было прынята мець вялікую світу. У атачэнне расійскага рэзідэнта ўваходзіла ад пятнаццаці да трыццаці чалавек, у тым ліку купцы, якія звычайна суправаджалі дыпламатаў на шляху з Масквы. Разам з рэзідэнтам у Варшаву прыбывалі два паддзячыя, адзін з якіх ад'яжджаў у Маскву са спавешчаннем адразу пасля першага візіта амбасадара да караля, а іншы заставаўся пры дыпламатычнай місіі ў якасці архіварыюса. Акрамя паддзячых, персанал амбасады складаўся з перакладчыкаў, талмачоў і прыслугі.[7] Нягледзячы на неаднаразовыя просьбы Пасольскага прыказа, патрыярх Іаахім адмаўляўся накіраваць у варшаўскую амбасаду праваслаўнага святара.[8]

Дзве трацiны выдаткаў расійскага дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Варшаве пакрываліся за кошт польскага скарба, а астатняя трацiна ішла з вялікакняжацкага скарба. Сплаты рабіліся ў наяўных грошах, але часам дыпламаты атрымлівалі цэтлікі, якія пагашаліся ў скарбе. Усімі фінансавымі справамі амбасады займаўся Францішак Вінклер, сакратар кароннага скарба.[9]

Нататкі Волкава сведчаць пра тое, што абодва скарбы спраўна выконвалі свае фінансавыя абавязкі. У параўнанні з праблемамі, з якімі сутыкаўся ў Маскве Доўмант, грашовае ўтрыманне расійскіх дыпламатаў у Варшаве было больш чым задавальняючым. Рэзідэнты збольшага скардзіліся на недахоп сродкаў, каб выпраўляцца за каралём у яго заходнеўкраінскую рэзідэнцыю. Прадстаўнікі скарба адмаўляліся пакрываць гэтыя выдаткі расійскіх амбасадараў, спасылаючыся на забарону польскім дыпламатам пакідаць Маскву. Працяглыя вандраванні сваіх дыпламатаў за межы Варшавы аплочваў Крэмль, дасылаючы для гэтага вялікія сумы грошай праз адмысловых кур'ераў.[10]

---

[6] У Варшаве Вазніцын мешкаў у доме капітана Баркеля на вуліцы Лесно; Волкаў меў рэзідэнцыю на той самай вуліцы. Міхайлаў спыніўся ў доме Сапегі на Старой плошчы, а Нікіцін здымаў дом у варшаўскім прадмесці Прага. Усе справы па ўтрыманні дамоў ускладаліся на адказных каронных чыноўнікаў, якія выконвалі абавязкі, аналагічныя абавязкам расійскіх приставаў. Ад 1687 да 1700 года за дабрабыт маскоўскіх дыпламатаў адказвалі Ян Мышлісэўскі, Іван Акраса і Казімір Скірут. ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 172, № 238, ст. 4 і № 242, ст. 96-100.

[7] Сярод каля дваццаці супрацоўнікаў расійскай амабасады ў Варшаве былі паддзячыя і перакладчык Сцяпан Чыжэўскі. ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 3-4, 28. Міхайлаў суправаджалі: (1) два паддзячыя, Афанасі Васільеў (пазеней стаў інфарматарам Доўманта) і Анісім Шчукін; (2) два прыдворныя, стольнік прынц Якаў Чагадаеў і капітан кавалерыі Пётр Ёган Элгаўзін. Колькасць слугаў на пададзеная, але амбасаду ахоўвалі шэсць салдатаў і мушкецёраў. Рэгістр дзеянняў Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 2-5, 87.

[8] У штаце расійскай амбасады ў Варшаве ніколі не было праваслаўнага святара. Напрыканцы свайго рэзідэнцтва Міхайлаў нанаў праваслаўнага святара з Любліна і пасяліў яго ў сваім доме. Праваслаўная арыстакратыя атрымала магчымасць наведваць нядзельныя службы падчас парламенціх паседжанняў. Спавешчанні Міхайлава, 28 студзеня 1695, ЦГАДА, фонд 79, (Стасункі з Польшчай), № 243, ст. 1143. Магчыма, што смаленскага епіскапа Сімяона папрасілі даслаць у варшаўскую рэзідэнцыю святара, але ён гэтага не зрабіў. ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 4.

[9] Рэзідэнты атрымлівалі 12,000 злотых у год. Ліст канцлера Агінскага Сабескаму, 4 чэрвеня 1687, Archiwum Główne Akt Dawnych (Warsaw; далей - AGAD), Архіў Патоцкіх (Archiwum Publiczne Potockich), № 12, ст. 417. Гл. таксама рээстр дзейнасці Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 69 і № 243, ст. 653.

[10] 20 лютага 1693 года Нікіфар Іваноў прыбыў у Варшаву з лістамі ад цара і грашыма для Міхайлава; ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 584-85. Міхайлаў атрмаў дадатковыя сродкі 24 ліпеня 1695 года ад Стэфана Часоўнікава, выпраўленага з Масквы менавіта з гэтай мэтай; спавечшанні Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 1218.

Рэзідэнты атрымлівалі з Масквы дадатковыя наяўныя грошы для набыцця падарункаў і подкупа чыноўнікаў Кароны. У адрозненне ад утрымання, выдаванага дыпламатам польскім скрабам, грошы з Масквы прыходзілі нагэтульскі нерэгулярна, што рэзідэнты былі часцяком вымушаныя пазычаць ці прадаваць дарункавыя саблі.[11] Калі расійскія рэзідэнты заставаліся без грошай, яны былі няздольныя выконваць свае абавязкі. Так, у 1693 годзе Міхайлаў не прысутнічаў на пасяджэнні парламента ў Гародні праз тое, што не атрымаў пакрыцця выдаткаў на паездку туды.[12]

Недахоп сродкаў не толькі не дазваляў рэзідэнтам выконваць свае абавязкі, але й падрываў эфектыўнаць працы ўсёй дыпламатычнай місіі. Калі рэзідэнты мешкалі ў Рэчы Паспалітай больш за два гады, здаралася, што супрацоўнікі амбасады мусілі пераяжджаць у Маскву ці Смаленск з-за нястачы грошай.[13] Стральцы і прыслуга, якім не плацілі ўтрымання, часцяком самавольна вярталіся ў Расію ці збягалі, каб знайсці працу ў Рэчы Паспалітай.

Нельга выключаць, што сталыя фінансавыя праблемы расійскага дыпламатычнага прадстаўніцтва вынікалі з прагнення рэзідэнтаў узбагаціцца на замежнай службе. Аднак польскія крыніцы не пацвярджаюць гэтую версію. Паводле іх, расійскія рэзідэнты не пакідалі ўражанне заможных людзей – яны апраналіся проста і мелі невыдатных коняў і экіпажы.[14]

Ва ўмовах абмежаванага фінансавання, расійскія рэзідэнты хутка ўцямілі, што стравы, якія дасылаў ім кароль на галоўныя рэлігійныя і каралеўскія святы, можна выкарыстоўваць для папаўнення малых запасаў ежы ў амбасадзе. Усё, што дыпламаты атрымлівалі ад караля ўлічвалася, і поўны спіс каралеўскіх дарункаў накіроўваўся ў Маскву. Спісы складаліся з мэтай параўнання, дакладней, каб дасведчыць, што Масква і Варшава выдаткоўвалі аднолькавыя сумы на жэсты гасціннасці. Дыпламатычныя “вячэры” уражвалі. Так, 15 красавіка 1693 года, у якасці віншавання з нагоды Вялікадня, Міхайлаў атрымаў ад караля вялікі сунічны куліч са спецыямі, пятнаццацівёдравую бочку мёда, шаснаццаць вёдраў піва, два жбаны венгерскага і яшчэ два сталовага віна, два жбаны “чырвонай” гарэлкі, два жбаны настойкі, палову быка, свінню, чатыры аўцы, шэсць гусакоў, дзесяць каплуноў, сто яек і пяцьдзесят боханаў хлеба.[15]

Адным з пунктам амбасадарскіх выдаткаў (не ўлічыным у бюджэце прыказа, але пакутлівым для рэзідэнтаў) было захаванне і перасоўванне архіва рэзідэнцыі. Архіў складаўся з копіяў спавешчанняў, дасыланых у Маскву, запісу значных падзеяў падчас рэзідэнцтва кожнага амбасадара, улік зыходнай і прыходнай карэспандэнцыі ды копіяў таемна набытых дакументаў.

---

[11] Паперад выездам з Масквы ўсе амбасадары атрымлівалі сабалёў і іншую каштоўную футру ў якасці падарункаў для высокіў чыноўнікаў ці ўзнагародаў за службу ды інфармацыю. Калі запасы футры ў Пасольскім прыказе сканчаліся, дыпламаты запытвалі новую партыю, якая, аднак, заўсёды прыходзіла са значным спазненнем праз складаную працэдуру размеркавання каштоўнай футры. ЦГАДА, фонд 79, стасункі з Польшчай у 1688 годзе, № 4; стасункі з Польшчай у 1689 годзе, № 7, стасункі з Польшчай у 1691 годзе, № 4; стасункі з Польшчай у 1696 годзе, № 3. Часам мяхі былі благой якасці. У адным з падобных выпадкаў варшаўскі паштмейстар Казімір Бальштэйн павярнуў дзве сабаліныя скуркі, прапанаваныя яму Міхайлавым, праз іх благі стан, спавешчанні Міхайлава, 26 сакавіка 1693 года, ЦГАДА, фонд 79, (Польшча) № 243, ст. 611.

[12] Спавешчанні Міхайлава, люты 1693 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 580.

[13] Спавешчанне Міхайлава, 23 снежня 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 551, 555.

[14] Дзённік Казіміра Сарнецкага (16 лютага 1696) у K. Sarnecki, Pamiętniki z czasów Jana Sobieskiego. Diariusz I relacje z lat 1691-1696 (Wrocław, 1958), ст. 322.

[15] Спавешчанні Міхайлава, травень 1693 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 653.

Праз тое, што ладная частка матар'ялаў архіва ўтрымлівала сакрэтную інфармацыю, а некаторыя нават ставаліся доказамі захадаў расійскай дыпламатыі, скіраваных супраць Рэчы Паспалітай, рэзідэнты пільна ахоўвалі гэтыя дакументы ад спробаў скрасці ці знішчыць іх. Забеспячэнне бяспекі сакрэтных папераў было галоўным абавязкам паддзячага пра расійскай амбасадзе. Толькі ён і рэзідэнт мелі доступ да сакрэтнага кода, якім шыфравалася ўся карэспандэнцыя з Масквой.[16]

## Спавешчанні рэзідэнтаў

Уяўленне расійскіх рэзідэнтаў пра Рэч Паспалітую, адлюстраванае ў іх данясеннях у Маскву, было падобнае да ўражанняў шматлікіх расійскіх дыпламатаў, якія наведвалі Карону да іх. Спавешчанні, якія расійскія дыпламаты дасылалі ў Крэмль, былі збольшага дакладныя, аднак канфідэнцыйная інфармацыя пра каралеўскія планы часцяком выўлялася бескарыснай, бо парламент рэгулярна адхіляў іх ці ўносіў туды значныя карэктывы. Такім чынам, у Маскве ведалі пра каралеўскія намеры і рыхтавалі на іх свае адказы, але часцяком выяўляліся непадрыхтаванымі да сцэнарыяў развіцця падзеяў, навязаных каралю парламентам. Рэзідэнты мелі нагэтулькі цьмянае ўяўленне пра заканадаўчы орган Рэчы Паспалітай, што ў сваіх данясеннях нават не наважваліся каментаваць прынятыя ім акты.[17] Расійскія дыпламаты ведалі, што грамадская думка і пазіцыі мясцовых сеймаў гралі значную ролю ў польска-літоўскай дзяржаве, але былі няздольныя ацаніць і прадказаць іх уплыў на палітыку караля.

У мясцовых сеймах, парламенце і прэсе адкрыта спрачаліся не толькі пра замежную палітыку, але й вайсковую стратэгія і тактыку Рэчы Паспалітай. Актуальныя палітычныя праблемы абмяркоўваліся ва ўлётках, друкаваных закліках ды зваротах. Нязвыклыя да адкрытасці дыскусіі і няздольныя адсочваць супрацьлеглыя погляды па вайсковай тэматыцы, расійскія рэзідэнты або ігнаравалі шматлікія гледзішчы, або не надавалі ім значнай увагі і засяроджваліся на пазіцыі караля і яго бліжэйшых дарадцаў. Маскоўскія рэзідэнты знаходзіліся ў незайздросным становішчы, бо кожная ўплывовая групоўка ў Рэчы Паспалітай па-свойму ацэньвала вынікі вайсковых аперацыяў. Так, прыхільнікі караля абвяшчалі малдаўскія кампаніі 1686 і 1690 года паспяховымі, а яго праціўнікі называлі іх ганебнымі паразамі. Напярэдадні малдаўскіх кампаніяў блізкія да караля сенатары сцвярджалі расійскім дыпламатам, што Рэч Паспалітая вайскова добра падрыхтаваная да іх. Апаненты Сабескага, са свайго боку, запэўнівалі рэзідэнтаў, што прыгатаванні нічога не значаць і малдаўскіх паходаў не будзе. У выніку, процірэчывая інфармацыя, падамацаваная недаверам расійцаў, што ў Рэчы Паспалітай дазваляецца нязгода з каралём, пераканала іх у няшчырасці сенатараў, урадоўцаў і вышэйшых вайсковых чыноў.[18] Са шматлікіх данясенняў у Маскву вынікае, што расійскія рэзідэнты ўсведамлялі існаванне парламенцкай апазіцыі каралю. Аднак, нягледзячы на гэта, яны падазравалі, што палякі ладзяць для іх спектакль, якім кіруе кароль, каб увесці Крэмль у зман.

---

[16] Рэестр дзейнасці Міхайлава, студзень 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 109

[17] У лепшым выпадку расійскія рэзідэнты дасылалі ў Маскву пратаколы паседжанняў парламента, не толькі без якога-кольвек іх аналіза, але часцяком і без пераклада. ЦГАДА, фонд 79, стасункі з Польшчай у 1688 годзе, № 9; фонд 79, стасункі з Польшчай у 1690 годзе, № 4 і 5; фонд 79, стасункі з Польшчай у 1699 годзе, № 7.

[18] Вазніцын таксама выказваў свой недавер: "хотя Поляки говорят что у нас на Руси будто мало правды я совершенно признаю что здесь у них ей и знаку нету," ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 243. У 1667 годзе Цяпкін пісаў пра гэта ж: "Тут вельмі цяжка зразумець праўду, бо гэтыя хітрыя лісы вельмі прыгожа ілгуць." А. Попов, *Русское посольство*, ст. 251.

Глава 3. Расійская Амбасада ў Рэчы Паспалітай

Функцыянаванне польскай палітычнай сістэмы часцяком бянтэжыла першага расійскага рэзідэнта ў Рэчы Паспалітай Васілія Міхайлавіча Цяпкіна (1673-1677). Ён пісаў: “У параўнанні з Расіяй, тут няма парадку. У нас цар - як сонца. Мы падпарадкоўваемся толькі яму, баімся толькі яго і не служым нікому, акрамя нашага цара... Тут - кожны сам сабе гаспадар, які нікога не баіцца – ані абранага караля, ані нават Творцы”.[19] Цяпкін адчуваў, што рознасць паміж Каронай і Маскоўскай дзяржавай палягала ў адрозным стаўленні да рэлігіі жыхароў двух дзяржаў. Так, расійцы шанавалі Твоцу і, адпаведна, цара - яго намесніка на зямлі. У сваю чаргу, грамадзяне Рэчы Паспалітай не лічылі сябе “рабамі божымі” і таму аспрэчвалі ўладу караля, Божага абранцы. У цверджанні Цяпкіна прысутнічае прыхаваная ацэнка нораваў Кароны і яе жыхароў: ён лічыў Рэч Паспалітую бязбожным краем, а яе грамадзян – блюзнерамі. Тым не менш, яго погляд нельга лічыць забабонным меркаваннем занадта набожнага царскага служкі. Яно хутчэй проста адлюстроўвае старадаўняе цверджанне, што абсалютысцкія рэжымы лепшыя за рэспубліканскія, бо толькі яны стаюцца сапраўды легітымнымі. Дакладней, толькі аўтарытарная форма дзяржаўнага кіравання грунтуецца на традыцыйным рэлігійным уяўленні пра адзінаўладнага Бога, які ачольвае нябёсную іерархію.

Цяпкін не разумеў, што яго польскія сучаснікі прытрымліваліся поглядаў Арыстоцеля, Палібія ды Ліпсія, якія даводзілі перавагі змяшанай формы дзяржаўнага кіравання. Цяпкін не ўсведамляў таксама, што “легітымнасць” улады для палякаў і вялікалітоўцаў грунтавалася на іншым бачанні Рая. У Рэчы Паспалітай шаснаццатага і сямнаццатага стагоддзяў ў імшах, рэлігійных спевах, вершах ці на малюнках Бога выяўлялі ў якасці добрага пана, які кіраваў у абсалютовай згодзе з нябесным “сенатам” (апосталамі ды святымі) для як мага большага дабрабыту сваіх падданых. Калі паводзіны зямных грэшнікаў раз’юшвалі Яго, святыя залагоджвалі праведны гнеў і адварталі ад смяротных пакаранне. Як кожны грамадзянін Кароны верыў у свайго нябеснага абаронцу, шляхта лічыла Дзеву Марыю абаронцай сваіх вольнасцяў. Дзеву Марыю афіцыйна абвесцілі каралевай Польскай Кароны, а простыя людзі ўважалі яе за сваю нябесную заступніцу.[20]

Ва ўяўленні палякаў Бог быў Вышэйшай Сілай, якая не карысталася напаўніцу сваёй уладай. Хаця каралёў агалошвалі абранцам Бога на зямлі, шляхта Рэчы Паспалітай ніколі не лічыла караля роўным Творцу. Праз гэта манархам было цяжка акрэсліць сваю ролю ў дзяржаве, як, напрыклад, Кароль-сонца ці цар-бацюхна. Каралеўскія падданыя не толькі не ўяўлялі сябе драбінкамі ў параўнанні з ім, але й нагэтулькі шанавалі свае вольнасці, што самая магчымасць сляпога падпарадкавання каралю падавалася ім непрымальнай.

[19] А. Попов, *Русское посольство*, ст. 251. Пра кар'еру Цяпкіна гл., акрамя Папова, Белов, *О Посольском приказе*, ст. 38-44, 98-99; Z. Wójcik, *Rzeczpospolita wobec Turcji I Rosji 1674-1679* (Wrocław, 1976), ст. 32, 34-35, 83-85, 120, 143-49; R. O. Crummey, *Aristocrats and Servitors: The Boyar Elite in Russia, 1613-1689* (Princeton, 1983), ст. 42, 203.

[20] Пра культуру каронннай шляхты гл. S.Cynarski, “Sarmatyzm – ideologia I styl życia,” у *Polska XVII wieku. Państwo, społeczeństwo, kultura* (Warsaw, 1969), ст. 220-43; J. Tazbir, *Rzeczpospolita i świat. Studia z dziejów kultury XVII wieku* (Wrocław, 1971), ст. 110-15; той жа аўтар, “Stosunek do obcych w dobie Baroku” у Swojskość cudzoziemszczyzna w dziejach kultury polskiej (Warsaw,1973), ст. 80-112; H. Wisner, Najjaśniejsza Rzeczpospolita. Szkice z dziejów Polski szlacheckiej XVI-XVII wieku (Warsaw, 1978), ст. 145-62; A. Zajączkowski, Główne elementy kultury szlacheckiej w Polsce. Ideologia a struktury społeczne (Wrocław, 1961).

Для такіх людзей, як Цяпкін, усё гэта казала толькі пра адное – Рэчы Паспалітай бракавала парадку і добрай сістэмы дзяржаўнага кіравання, у выніку чаго краіна была вырачаная на анархію. Паводле іх уяўлення, шляхта Рэчы Паспалітай ставалася разбэшчанай і эгаістычнай. Яны не разумелі, што для абаронцаў рэспублікі *вольнасці* былі найбольшым божым дарункам свайму Абранаму Народу.[21]

Праца рэзідэнта ўскладнялася няверным успрыняццем і неразуменнім мясцовых рэаліяў. Іх галоўным заданнем было пільнаваць, ці прытрымліваецца кароль умоваў Вечнага міра: у прыватнасці, ці мае ён намер заключыць сепаратны мір з Турцыяй ці, “барані Божа”, падбухторвае казакоў на Доне ці ў Сечы або паволжскіх калмыкаў на паўстанне. Дыпламаты мусілі тэрмінова паведамляць пра любую актыўнасць у Рэчы Паспалітай, якая пагражае расійскім інтарэсам.[22] Палітычная сістэма Кароны давала нават добра інфармаваным замежнікам безліч падставаў рабіць сур’ёзныя памылкі. Калі расійскія рэзідэнты сустракаліся з непрыхавана варожым стаўленнем да Расіі, яны бычылі ў гэтым праявы дзяржаўнай палітыцы. Каб рабіць насамрэч абгрунтаваныя высновы, маскоўскім дыпламатам бракавала веды не толькі планаў караля, але й апазіцыі. Больш за тое, яны слаба разумелі ролю грамадскай думкі і сакрэтных стасункаў паміж групоўкамі найуплывовейшай арыстакратыі.

Усе чатыры расійскія рэзідэнты рэгулярна (прынамсі, штодватыдні) дасылалі ў Маскву свае спавешчанні, якіх там з нецярпеннем чакалі. Калі ў Пасольскім прыказе ўчасна не атрымлівалі спавешчанне з Варшавы, ад рэзідэнта патрабавалі тлумачэнняў. У адрозненне ад дасланняў Доўманта ў Варшаву, доўгія і дэталёвыя спавешчанні расійскіх амбасадараў захоўваліся цалкам. Архіў спавешчанняў і дзённікаў аднаго толькі Міхайлава складаў дзве тысячы старонак і ўтрымліваў безліч інфармацыі пра палітыку Сабескага.[23] У спавешчаннях Міхайлава найбольш уражвае яго незвычайная здольнасць знаходзіць інфарматараў пры двары Сабескага і выпытваць у іх каралеўскія сакрэты. З іншага боку, дасланні Міхайлава і іншых расійскіх рэзідэнтаў не закраналі шэраг надзвычай значных тэмаў.

Адной з іх быў канстытуцыйны лад Рэчы Паспалітай. Роля парламента і мясцовых радаў, прывілегіі шляхты, уплыў сенатараў, слабасці і моцныя бакі каралеўскай пазіцыі, незалежнасць судовай сістэмы, прынцып вяршынства закона і рэгулярныя звароты да ідэалаў грамадскай супольнасці – усе гэтыя аспекты палітычнай сістэмы Кароны не згадваліся ў спавешчаннях царскіх дыпламатаў, ці агулам называліся “анархіяй”, “эгаізмам” і “уседазволенасцю”. Рэзідэнты не спрабавалі аналізаваць гэтыя з’явы, хаця некаторыя з іх добра разумелі, што гэткая сістэма мусіць нейкім чынам функцыянаваць. Урэшце, здолела ж “анархічная” Рэч Паспалітая ў мінулым неяк дамагчыся неверагодных вайсковых і палітычных поспехаў. Яна стрымала націск войскаў Швецыі, Брандэнбурга, Масковіі, Украіны і Трансільваніі. Больш за тое, славутая перамога Сабескага пад

[21] Bernard Connor, The History of Poland in Several Letters to Persons of Quality, Giving an Account of the Present State of that Kingdom, Historical, Political, Physical and Ecclesiastical, vol. 2 (1968), ст. 7. Шанаванне вольнасцяў ставалася неад’емнай часткай сармацкай культуры кароннай шляхты. S. Cynarski, “Sarmatyzm,” ст. 227-43.
[22] Гл. зноску 1.
[23] Інструкцыі Міхайлаву, ЦГАДА, фонд 79, стасункі з Польшчай у 1691 годзе, № 4; стасункі з Польшчай у 1692 годзе, № 3 і 4; стасункі з Польшчай у 1693 годзе, № 2 і 3; стасункі з Польшчай у 1694 годзе, № 2; стасункі з Польшчай у 1695 годзе, № 2 і 3; спавешчанні Міхайлава, № 243; дзённік Міхайлава, № 242.

## Глава 3. Расійская Амбасада ў Рэчы Паспалітай

Венай у 1683 годзе адбылася ўсяго за пяць год да прызначэння Вазніцына рэзідэнтам у Варшаве. Яшчэ больш дзіўна бачыць надзвычай павярховае апісанне сітуацыі у Рэчы Паспалітай у дзённіку Пятра Андрэевіча Талстога, чалавека, які ўклаў яскравае, дакладнае і аб'ектыўнае апісанне Турцыі пачатка васямнаццатага стагоддзя. Аднак падчас свайго вандравання праз Рэч Паспалітую Талстой абмежаваўся нататкамі пра стан шляхоў, колькасць цагляных будынкаў у гарадах, найбольш выбітныя цэрквы і касцёлы ды колькасць габрэйскага насельніцтва.[24]

Падаецца, што рэальнае прыкладанне ў польска-літоўскай дзяржаве шляхецкіх вольнасцяў, якія маглі падавацца расійскім дыпламатам хваробай, пагрозай ці спакусай, не давала рэзідэнтам пісаць пра іх. Больш за тое, апісанні палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай непазбежна вялі б да раскрыцця прынцыпа функцыянавання рэспубліканскіх інстытутаў, што рэзідэнт мусіў рабіць вельмі асцярожна, каб не быць абвінавачаным у сімпатыях да іх. Вельмі зрэдку выпадковыя заўвагі ў спавешчаннях выдавалі разуменне расійскімі рэзідэнтамі базавых палітычных рэаліяў Кароны. Напрыклад, Міхайлаў аднойчы згадвае ў спавешчанні, што ўцелясненне планаў Сабескага было адкладзенае, бо мясцовыя сеймы яшчэ не скончылі іх абмеркаванне. Волкаў непрыязна параўнаў каронны і венецыянскі Сенаты. Вазніцын заўважыў, што магнаты ў Рэчы Паспалітай выкарыстоўвалі збяднелую шляхту для дасягнення сваёй мэты, і пры гэтым намагалася захаваць выгляд роўнасці.

Замест таго, каб падаваць у спавешчаннях свае асабістыя ўражанні, рэзідэнты ўкладалі дэталёвыя апісанні каралеўскага двара. Дыпламаты скрупулёзна апісвалі палацы, сады і трыўмфальныя аркі, а таксама п'есы, якія ладзілі іезуіцкія тэатры.[25] Шмат пісалася пра пераслед праваслаўнага насельніцтва польскімі і вялікалітоўскімі каталікамі, але інфармацыя пра ўціск збольшага сыходзіла ад праваслаўных вернікаў і святароў. Рэзідэнты не спрабавалі апісаць сапраўдны стан праваслаўя ў Кароне,[26] ці вытлумачыць раптоўную хвалю перахроста ва ўніяцтва пасля таго, як кіеўская мітраполія перайшла пад кантроль маскоўскага патрыярхата ў 1684 годзе. Яны не згадвалі ані прычынаў шчыльных культурных кантактаў паміж праваслаўным Львовам і Малдавіяй, ані апісвалі сістэму адукацыю ў праваслаўных школах. Адсюль нядзіўна, што рэзідэнты ў сваіх спавешчаннях не закраналі пытанні рэлігіі як такой. Яны вельмі зрэдку згадвалі пра ўніяцкую царкву (збольшага для зневажальнага апісання царкоўнай іерархіі), інфармацыя пра лютэранства ці каталіцтва цалкам адсутнічала ў іх спавешчаннях. Падсвядома адлюстроўваючы атмасферу Кароны, расійскія рэзідэнты зрэдку пазначалі канфесію людзей, з якімі вялі справы. Яны не складалі спісы прыдворных, чыноўнікаў ці дэпутатаў праваслаўнай веры. Аднак яны рэгулярна згадвалі (нібыта кажучы тое, чаго ад іх чакалі), што часам атрымлівалі дапамогу ад людзей "рускай веры", ніколі не прыводзячы канкрэтных прыкладаў. У спавешчаннях дыпламаты згадвалі толькі

[24] Дзённік Пятра Андрэевіча Талстога, бібліятэка Казанскага Універсітэта, № 4514, ст. 7-33. Англійскі пераклад гл. у J. Okenfuss, *The Travel of Peter Tolstoi* (DeKalb, IL, 1987), ст. 13-43.

[25] Апісанне дэталяў каралеўскага адзення займала ў спавешчаннях расійскіх рэзідэнтаў больш месца, чым звесткі пра дэбаты ў мясцовых шляхецкіх радах ці парламенце. Вазніцын апісываў трыўмфальныя аркі і тэатральныя пастаноўкі, а таксама ацэньваў канцэрт, дадзены Віленскім аркестрам у гонар Сабескага. Рэестр дзейнасці Вазніцына, ЦГАДА, фонд 79, № 234.

[26] Дакумент, які апісвае жыццё праваслаўных хрысціян у Рэчы Паспалітай, фактычна стаецца спісам скаргаў, ЦГАДА, фонд 79, № 255, ст. 2-30.

праваслаўных шляхцічаў, адданасць каралю якіх не выклікала ніякіх сумневаў – такіх, напрыклад, як Акраса ці Буйноўскі.[27]

Рэзідэнты не згадвалі й гандлёвыя пытанні, нават калі закраналіся расійскія інтарэсы. Відавочна, што ад амбасадараў не патрабавалі гандлёвай інфармацыі, а самім амбасадарам яна была нецікавая. Яны нават не спрабавалі параўноўваць эканамічны патэнцыял Гданьска і Архангельска ці падаваць кошты і аб'ёмы гандлю збожжам, каштоўнай футрай ды скацінай. Двойчы ў спавешчаннях згадваюцца канфлікты паміж шляхтай і гараджанамі, без тлумачэння праўнага статуса гарадоў ці іх насельнікаў.

## Праблемы камунікацыі

Нягледзячы на тое, што да рэзідэнтаў былі прыстаўленыя сувязныя чыноўнікі (польскі аналаг расійскіх прыставаў), адказныя за стасункі дыпламатаў з каралеўскім дваром і канцэлярыяй, любы прадстаўнік апазіцыі мог вольна звяртацца непасрэдна да расійскага амбасадара.[28] Тым не менш, гэткія кантакты часцяком не прыносілі ніякага плёну.[29] Калі б рэзідэнты мелі дазвол выпраўдоўваць дзеянні цара асаблівымі ўмовамі ці надзвычайнымі абставінамі, што іх выклікалі, палякі было б лягчэй зразумець іх паводзіны. Аднак рэзідэнты ўпарта не жадалі адыходзіць ад маскоўскіх інструкцыяў і настойліва цвердзілі "перад Богам і людствам", што цар заўсёды пратрымліваўся дамоваў. Гэта сур'ёзна падрывала аўтарытэт расійскіх дыпламатаў - асабліва ў выпадках, калі яны абараянялі сваю першапачатковую пазіцыю, якая з цягам часу стала відавочна негрунтоўнай. Каб выявіць добрую волю і давесці выкананне ўмоваў Вечнага міра, у Крамлі называлі дзеянні свайго войска супраць татараў у 1690-1694 годзе гераічным змаганнем. Аднак у хуткім часе інфармацыя з незалежных крыніцаў – татарскіх ваеннапалонных, казакоў, купцоў і замежнікаў, што прыязжалі з Масквы - падставіла пад сумнеў версію расійцаў. Яны сцвярджалі, што замест эпічных баталіяў на памежных тэрыторыях панавала зацішша, якое час ад часу парушалася дробнымі сутычкамі. На падставе расповядаў сведкаў, расійцаў абвінавацілі ў свядомай хлусні. У адказ дыпламаты толькі паўтарылі афіцыйную версію, якой ім загадалі прытрымлівацца ў Маскве, што выклікала гнеў і шматлікія кпіны польскіх палітыкаў.[30]

Пакуль расійскіх дыпламаты ў Варшаве атрымлівалі дэталёвыя інструкцыя і інфармацыю з Масквы, яны спраўна выконвалі свае абавякі. Калі іх сувязь з прыказам па нейкіх прычынах перарывалася, што здаралася даволі часта, рэзідэнты рабілі памылку за памылкай. Здаралася, што разгубленыя

[27] Праваслаўны шляхціч Юры Папара разам з Васілём Красынскім і Падольскім здрадзілі Кароне і працавалі на расійскага рэзідэнта. Гл. зноскі 43 і 51.

[28] Падчас каралявання Сабескага два вялікалітоўскія гетманы – Казімір Пац (1663-1682) і яго наступнік Казімір Ян Сапега (1682-1708) – ачольвалі апазіцыю каралю і падтрымлівалі кантакты з расійцамі. Гетман Сапега і яго брат Бенедыкт, вялікалітоўскі скарбнік, 24 красавіка 1688 года абвесцілі, што яны падзялялі варожасць Пацаў да караля і шукалі царскай падтрымкі. ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 62.

[29] Вазніцын задаў Сапегу шмат пытанняў і паабяцаў паінфармаваць Крэмль, але паводзіўся ён стрымана. ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 62. Магчыма, што расійскае стрыманасць што да кантактаў з Сапегамі тлумачылася не толькі недаверам прадстаўнікам гэтага рода, але й нежаданнем раздражняць Сабескага. У той час Сапегі ўсталявалі шчыльныя сувязі з Венай. K. Piwarski, Między Francją I Austrją. Z dziejów polityki Jana III Sobieskiego w latach 1687-1690 (Cracow, 1933), ст. 14-15, 41-42, 96-97.

[30] Шмат хто з сенатараў патрабаваў зачыніць расійскую амбасаду ў Варшаве, калі яны зразумелі, што яе дыпламаты дзейнічалі толькі паводле загадаў з Масквы, і ім было забаронена выяўляць якую-колечы ініцыятыву. Рэестр дзейнасці Вазніцына, ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 38-42.

рэзідэнты мясяцамі чакалі навінаў з дому. Іх агульную незадаволенасць трапна выславіў Цяпкін: “Які сэнс у гэтым амбасадарстве, калі я мушу ўвесь час маўчаць? Я не магу адказаць ані на воднае іх пытанне, бо не ведаю праўды і не магу ілгаць”.[31] Волкаў знаходзіўся ў аналігчнай сітуацыі пасля перавароту 1689 года. Калі Сабескаму даклалі пра маскоўскія падзеі, ён адразу паклікаў да сябе расійскага рэзідэнта. Волкаў, які на той момант чатыры месяцы не меў звестак са сваёй сталіцы, не здолеў адказаць ані на воднае пытанне караля. Збянтэжаны, дыпламат быў вымушаны пытаць у Сабескага, ці маскоўскі пераварот адбыўся “са згоды цароў Пятра і Івана”.[32] Калі Волкаву пацверзілі, што Пётр і Іван застаюцца царамі, ён запэўніў прысутных, што падставаў для хвалявання няма, бо змена ўлады адбываецца “паводле волі цароў”.[33]

Тлумачэнні Волкава не далі Сабескаму ніякай інфармацыі датычна намераў тых, хто здзейсніў пераварот і выявіўся дастаткова ўплывовым, каб не толькі перамагчы Соф’ю і Галіцына, але й выгнаць з Масквы іезуітаў.

## Збіранне інфармацыі

Ва ўмовах, калі ўсталяваць трывалыя персанальныя кантакты з прадстаўнікамі палітычнай эліты Рэчы Паспалітай ставалася цяжка, расійскія рэзідэнты не мелі праблем са збіранем інфармацыі, бо ім было дазволена наймаць грамадзян Кароны ў якасці сакратароў, кур’ераў ці слугаў – нешта нечуванае для маскоўскіх парадкаў. Акрамя інфармацыі, атыманай ад іх, падчас каралеўскіх аўдыенцыяў, сустрэчаў з сенатарамі і каралеўскімі прадастаўнікамі, рэзідэнты мелі яшчэ прынамсі восем крыніцаў інфармацыі.

### Размовы з дзяржаўнымі службоўцамі

Чыноўнікі Кароны часцяком шчыра выказвалі свае меркаванні ў размове з расійскімі дыпламатамі, не зважаючы на тое, што расійцы дзейнічалі ў інтарэсах сваёй дзяржавы. Некаторыя палякі і ліцвіны нават рабілі высновы па пытаннях, у якіх слаба разбіраліся, на падставе “фактаў”, падазеных ім расійскімі дыпламатамі. Аднойчы благое рашэнне, прынятае на падставе інфармацыі, атыманай з расійскіх крыніцаў, ледзь не каштавала Доўманту пасады амбасадара ў Маскве. Расійцы распасюджвалі плёткі, што Доўмант сабатуе дамовы паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай. Шляхцічы, якія ўхвалялі ўдзел Кароны ў Святым Альянсе і выступалі за шчыльнейшыя стасункі з Расіяй, імгненна адрэагавалі на правакацыйныя плёткі, зганіўшы караля і яго прадстаўніка ў Маскве. Яны абвесцілі, што, як абаронцы інтарэсаў Кароны, не будуць трываць гэткіх хібных захадаў. Нават прыхільнікі Сабескага, якія абаранялі яго планы і намеры, паабяцалі, што польскі амбасадар у Маскве спыніць сваю анты-расійскую дзейнасць і добрыя стасункі паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай будуць захаваныя.[34] У выніку, большая частка каронных чыноўнікаў

[31] А. Попов, *Русское посольство*, ст. 257.

[32] 26 кастрычніка 1689 года Іван Акраса ад імя Сабескага запытаўся ў Волкава што маскоўскіх падзеяў; ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 266.

[33] Тамсама.

[34] Сабескі паінфармаваў Доўманта пра спробы дыскрэдытаваць кароннага амбасадара ў двух лістах, напісаных у красавіку і траўні 1688 года; Бібліятэка-музей князёў Чартарыскіх (Biblioteka Muzeum im. Ks. Czartoryskich, Cracow; далей – біб. Чарт.), № 422, ст. 340, 370-73. Гл. таксама: спавешчанні Вазніцына, красавік, травень і чэрвень 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 62, 72, 76-77; размовы Вазніцына з гетманам Ябланоўскім, верасень і снежань 1688 года, ЦГАДА,

зразумела, што іх падманулі: інфармацыя, атрыманая ад расійцаў была недакладнай, а абвінавачанні Доўманта – ілжывымі. Але скандал ужо паспеў пашкодзіць рэпутацыі і інтарэсам Рэчы Паспалітай. Праз залішняе жаданне давесці сваю адданасць міру і добрасуседзтву, шэраг сенатараў выдалі расійцам зашмат інфармацыі дытычна каротка- і доўгатэрміновых прыярытэтаў замежнай палітыцы Кароны. Праз гэта некаторыя з іх нават згубілі павагу расійскіх дыпламатаў. Так, вялікалітоўскі падканцлер Дамінік Радзівіл выказаў "глыбокае заклапочанне" паводзінамі Доўманта і быў пазней ахарактарызаваны Вазніцыным як "ані да чаго не здольны баязлівец".[35]

### Запісы парламенцкіх паседжанняў, улёткі і палемічная літаратура

Нягледзячы на сваю даступнасць, інфармацыя з гэтых крыніцаў выяўлялася зацяжкай для расійскіх рэзідэнтаў. Часцяком копіі запісаў парламенцкіх паседжанняў проста дасылаліся ў Маскву і захоўваліся для магчымага іх выкарыстання ў будучым.

### Вялікалітоўская апазіцыя

Падчас другой паловы сямнаццатага стагоддзя прадстаўнікі вялікалітоўскай апазіцыі палітыцы караля звычайна падтрымлівалі шчыльныя стасункі з Крамлём. Паводле Вазніцына, у Вялікім Княстве найбольш паслядоўна адстойваў маскоўскія інтарэсы вялікі канцлер Марцыян Агінскі.[36] Вазніцын больш стрымана ацэньваў клан Сапегаў – лідараў апазіцыі. Напрыклад, характарызуючы вялікалітоўскага гетмана Казіміра Яна Сапегу, Вазніцын сцвярджаў, што той нашмат менш прыязна ставіўся да Расіі, чым яго папярэднік Міхал Пац. Пра вялікалітоўскага скарбніка Бенедыкта Сапегу, расійскі дыпламат пісаў, што той наогул не заслугоўвае даверу.[37] Вазніцын лічыў клан Сапегаў занадта слабым, каб адкрыта супрацьстаяць каралю, і падазраваў, што тыя былі гатовыя ў любы момант пайсці на кампраміс з Сабескім. Менваіта таму Вазніцын не давяраў Сапегам і спакойна ставіўся да іх абяцанняў працягваць палітыку Міхала Паца, "які не пагаджаўся з каралём і знаходзіў значную падтрымку з боку цара, чаго й яны [Сапегі] жадалі, застаючыся царскімі сябрамі".[38]

Сапегі бясспрэчна выкарыстоўвалі свае кантакты з Масквой у змаганні з каралём. Праз свайго прадстаўніка пры каралеўскім двары Казіміра Калушэўскага яны падзяляліся з расійскім рэзідэнтам інфармацыяй, якая падрывала яго давер да Сабескага і стварала канфліктныя сітуацыі паміж Масквой і Варшавай.[39] Але галоўнай мэтай Сапегаў было не дазволіць каралю заключыць сепаратны мір з Турцыяй. Тым не менш, нягледзячы на шматлікія сведчанні таемных кантактаў Сапегаў з расійцамі, няма падставаў сцвярджаць, што прадстаўнікі вялікалітоўскага рода выдавалі рэзідэнтам змест таемнага ліставання караля з ханам ці інструкцыяў польскім дыпламаты за мяжой. Няма падставаў сцвярджаць таксама, што расійцы атрымлівалі ад Сапегаў сакрэтную

---

фонд 79, № 235, ст. 163, 197. Бенедыкт Сапега распавёў Вазніцыну пра слабую падрыхтаванасць вялікалітоўскага войска, травень 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 368.

[35] Спавешчанні Вазніцына, красавік 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 49.

[36] "К стороне Царского Величества доброжелательный был один канцлер литовский и то заболел и поехал до Теплиц"; спавешчанні Вазніцына, красавік 1688 года, фонд 79, № 235, ст. 49.

[37] Спавешчанні Вазніцына, красавік, травень і чэрвень 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 49-52, 62, 79.

[38] Спавешчанні Вазніцына, травень 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 62. Гл. таксама зноскі 28 і 29

[39] Спавешчанні Волкава, ліпень 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 107. Спавешчанні Міхайлава, лістапад 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 509. Рэестр дзейнасці Міхайлава, чэрвень і жнівень 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 416, 779-80.

інфармацыю любога кшталта – учынак, які нават найліберальнейшы парламент вызнае за дзяржаўную здраду.

## Замежныя дыпламаты ў Рэчы Паспалітай

Усе чатыры расійскія рэзідэнты падтрымлівалі блізкі стасункі з аўстрыйскім амбасадарам у Варшаве Гансам Хрыстофам Зяроўскім і яго калегам Георгам фон Шэмунскім. Яны апісвалі ўсе размовы з аўстрыйскімі дыпламатамі ў асобных штомесячных, а часам і штотыднёвых лістах. Паводле лістоў рэзідэнтаў, аўстрыйцы пераказвалі ім чуткі пра перамовы Сабескага з туркамі, распавядалі пра яго кантакты з французкімі дыпламатамі і інфармацыю пра любыя планы апазіцыі, якія маглі патрабаваць расійскага спрыяння ці дапамогі.

Расійскія і аўстрыйскія дыпламаты заўсёды падтрымлівалі блізкія стасункі, нават нягледзячы на выгнанне іезуітаў ці наступу на татараў з боку маскоўскай дзяржвы і падпісанне аўстрыйцамі сепаратнага міра з туркамі без кансультацыяў з царом. Дыпламатычныя прадстаўнікі венскага двара нават прапанавалі расійскім калегам скласці сакрэтную дамову, якая прадугледжвала вайсковыя захады, калі Сабескі выйдзе з антытурэцкай кааліцыі.[40]

Апроч аўстрыйцаў, расійскія амбасадары падтрымлівалі сувязі з папскім нунцыям Апісіо Палавічыні і сталым прадстаўніком венецыянскай рэспубліцы Джыралама Альберці. Нягледзячы на тое, што расійцы прытрымліваліся з абодвума паважлівыя стасункі і атрымлівалі ад іх інфармацыю датычна заходнееўрапейскай палітыцы Рэчы Паспалітай, яны ніколі не набывалі адценне скіраванасці супраць Кароны.[41]

Французскія, прускія, шведскія і дацкія дыпламаты амаль не цікавілі расійскіх амбасадараў, якія значна ахвотней сустракаліся з прадстаўнікамі гаспадароў Малдавіі і Мунтэніі. Апошнія маглі шмат распавесці расійцам пра дзеянні кароннага войска ў Малдавіі і пра кантакты Сабескага з татарамі ды туркамі.[42]

---

[40]. Практычна ўсе спавешчанні расійскіх дыпламатаў з Рэчы Паспалітай змяшчалі інфармацыю, атрыманую ад аўстрыйцаў. У Вене прыкладалі асабліва актыўныя высілкі для супрацы з Расіяй датычна Рэчы Паспалітай падчас безкаралеўя па смерці Сабескага (гл. главу 8). Як найменш адзіны аўстрыйскі рэзідэнт у Кароне, фон Шэмунскі, мусіў развейваць страхі яго расійскіх калегаў што да кантактаў Сабескага з татарамі. Рэестр дзейнасці Міхайлава, 20 ліпеня 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 235.

[41] Расійскія рэзідэнты, за выключэннем Вазніцына, не згадвалі пра змены папскіх нунцыяў у Варшаве і нават не падавалі ў сваіх спавешчаннях іх імёнаў. Што да французскіх амбасадараў у Варшаве, дык расійцы называлі іх ліхімі. Французскія інтарэсы ў Рэчы Паспалітай прадстаўлялі: маркіз Франсуа дэ Бэцюн (1684-1692), Дю Тайль (1689-1690), Жан Балюз (1692), Рабэр Эснэваль (1692-1693) і Мельхіор дэ Паліньяк (1696-1697).

[42] Кантакты паміж Міхайлавым і малдаўскім прадстаўніком Дыаманці Слюзары, які заставаўся пры двары Сабескага 15 год; рэестр дзейнасці Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 174, 408. Спавешчанні Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 785. Кантакты таго ж дыпламата з валашскім дыпламатам Іурытам Татэску, ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 1004, 1009-1010. Нягледзячы на тое, што шведскі рэзідэнт ван дэр Флэд, які знаходзіўся ў Рэчы Паспалітай з 1667 года, прапанаваў расійцам шчыльнае супрацоўніцтва, у Маскве вырашылі не падтрымліваць з ім кантактаў, спавешчанні Міхайлава, 4 чэрвеня 1693 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 755-57.

Глава 3. Расійская Амбасада ў Рэчы Паспалітай

## Праваслаўная дыяспара ва Львове

Праваслаўная меншасць у Рэчы Паспалітай была для расійскіх дыпламатаў нагэтулькі ж карыснай, як нямецкая слабада для польскіх амбасадараў у Москве. Цэнтрам рутэнскай культуры і веды таго часу быў Львоў. Там знаходзілася ўплывовае стаўрапігічнае братэрства і друкарня, якая забяспечвала праваслаўнай літаратурай усю Украіну і Малдавію. Расійскія рэзідэнты штогод праводзілі ва Львове ад пяці да шасці. Там яны былі ў родным культурным асяродку і сяброўскім атачэнні, мелі магчымасць падтрымліваць сувязь з праваслаўнымі дыпламатамі (у прыватнасці, прадстаўнікамі Малдавіі і Валахіі), праваслаўнымі святарамі з падуладных Турцыі зямель ды гандлярамі і шляхтай.

Са свайго боку, стаўрапігічнае братэрства варожа ставілася да пашырэння ўніяцтва і таемных сімпатыяў да яго львоўскага епіскапа Шумлянскага. Яны лічылі цара сваім абаронцам і віталі яго прадстаўнікоў. Урэшце, расійскія рэзідэнты даводзіла да караля скаргі праваслаўных на ўціск з боку каталіцкай большасці і перадавалі цару іх просьбы ціснуць на Варшаву для абароны праваслаўя ў Рэчы Паспалітай.[43]

Большасць прадстаўнікоў праваслаўнай грамады не мела з рэзідэнтамі блізкіх асабістых стасункаў і заставалася адданай інтарэсам Рэчы Паспалітай. Хаця праваслаўныя й чакалі ад цара абароны сваіх інтарэсаў у Варшаве, ніхто з іх ніколі не выступаў за пераданне Украіны маскоўскай дзяржаве і ўсталявання там царскага пратэктарата. Тым не менш, некаторыя праваслаўныя, праз свае сімпатыі да расійскіх дыпламатаў, мімаволі выдавалі ім значную інфармацыю. Адным з іх быў цесць Захарыя Буйноўскага, галавы дэлегацыі падчас таемных перамоў з крымскімі татарамі. Спачатку рэзідэнты спрабавалі атрымаць інфармацыю ў размовах з самім Буйніцкім. Калі іх спадзевы выявілася беспаспаспяховым, дыпламаты вырашылі адсочваць яго перамяшчэнні, прадкідаючы, што адсутнасць Буйноўскага ў Львове азначала аднаўленне перамоваў караля з ханам. Расійскія амбасадары выкарысталі для гэтага цесця Буйноўскага, які мімаволі снабжаў іх інфармацыяй пра вандраванні свайго зяця ў Крым і Андрыянопаль і іх мэты – перамовы з Малдавіяй ці Бахчысараем.[44] Аднак як дыпламаты не намагаліся, яны не здолелі ані даведацца пра дыпламатычныя заданні, якія паствіў кароль Буйноўскаму, ані завалодаць яго спавешчаннямі пасля выканання місіі.

---

[43] Паводле мірнай дамовы 1686 года, праваслаўнаму насельніцтву Рэчы Паспалітай і каталікам, што жылі ў Расіі, гарантавалася свабода веравызнання. З безлічы скаргаў расійскага амбасадара ў Варшаве ў Пасольскім прыказе склалі важкі опус, дзе змяшчаліся ўсе парушэнні каралём гэтай дамовы. ЦГАДА, фонд 79, № 255. Найбольш заўзята Шумлянскага абвінавацiў праваслаўны шляхціч Юры Папара 25 чэрвеня 1692 года. Грэк па паходжанні, ён зрабіў паспяховую кар’еру ў Рэчы Паспалітай і стаў шляхцічам. Папара, які раней працаваў на Сяргея Артамонавіча Мацвеева ў якасці сакрэтнага агента Кароны, вырашыў папярэдзіць Маскву пра намеры Шумлянскага. Ён сцвярджаў, што епіскап таемнай перайшоў ва ўніяцтва. Акрамя таго, Папара перадаў расійцам спіс цэркваў і манастыроў, пераведзеных з праваслаўя ва ўніяцтва. Рэестр дзейнасці Міхайлава, чэрвень 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 177-81. Неназваны львоўскі праваслаўны манах параіў Міхайлаву патрабаваць ратыфікацыі дамовы 1686 года ў якасці адзінага сродка гарантаваць прадугледжаныя ў ёй правы праваслаўнага насельніцтва. Спавешчанні Міхайлава, лістапад 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 53.

[44] Рэестр дзейнасці Міхайлава, ліпень 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 197, 231. Спавешчанні Міхайлава, красавік 1694 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 1052.

Глава 3. Расійская Амбасада ў Рэчы Паспалітай

## Казакі

Пасля далучэння левабярэжнай Украіны да маскоўскай дзяржавы казацкія гетманы мусілі дакладаць цару пра падзеі ў Малдавіі, Валахіі, Трансільваніі, Крыме і Рэчы Паспалітай, што, безумоўна, надавала ім магчымасць уплываць на замежную палітыку Масквы. Так, гетман Самайловіч выкарыстоўваў свае дасланні, каб распаліць ў Маскве анты-польскія настроі, а яго наступнік Мазепа выступаў за аб'яднанне высілкаў з Рэччу Паспаліатай супраць Крыма і Турцыі.

Дарадцы гетманаў былі надзвычай абазнаныя ва ўсходнееўрапейскай палітыцы. Крэмль рэгулярна спалучаў іх веду з досведам расійскіх амбасадараў для выканання дыпламатычных місіяў у Малдавіі, Валахіі і Трансільваніі. Паказальна, што падобныя змяшаныя ўкраінска-расійскія групы ніколі не дасылаліся ў Рэч Паспалітую. Крэмль відавочна не давяраў прадстаўнікам гетмана ў справах, якія датычыліся Кароны. Зрэдчас расійскія рэзідэнты і казацкія галовы, якія прыязджалі ў Варшаву з афіцыйнымі візітамі, усё ж абменьваліся інфармацыяй, і тады расійцы звычайна атрымлівалі шмат карыснай інфармацыі.[45]

## Таемныя агенты

Крамлёўскія дыпламаты вербавалі таемных агентаў з шэрагаў мясцовага праваслоўнага і каталіцкага насельніцтва. Большасць з іх заставалася невыкрытай, а тыя, каго выкрывалі, ніколі не неслі пакарання. Напрыканцы сямнаццатага стагоддзя найвыбітнейшым царскім агентам у Рэчы Паспалітай стаўся завербаваны Вазніцыным праваслаўны шляхціч Іван Тарнаўскі. Афіцыйна Тарнаўскі выконваў функцыі перакладчыка і пісца пры расійскай амбасадзе, але яго сапраўдныя абавязкі былі значна шырэйшымі. Акрамя збірання афіцыйных дакументаў (каралеўскіх загадаў мясцовым радам, заканадаўчых актаў, пісьмовых зваротаў і г.д.), Тарнаўскі шукаў інфармацыю пра сенатскія паседжанні і меркаванні міністраў. Больш за тое, ён меў шэраг знаёмых сярод каралеўскіх прыдворных, якіх ён прадставіў расійскім дыпламатам. Тарнаўскі нават рэкрутаваў новых агентаў. Як прадстаўнік шляхты, ён браў удзел у паседжаннях мясцовай рады і актыўна абмяркоўваў палітычныя пытанні з урадоўцамі і прыдворнымі. Такім чынам, Тарнаўскі збіраў каштоўную інфармацыю і дапамагаў расійскім дыпламатам сачыць за зменамі грамадскай думкі ў Рэчы Паспалітай.[46]

Кароль ведаў пра здраду Тарнаўскага. Раззлаваны Іван Акраса называў яго "сволачам", а каралеўскія драгуны час ад часу пагражалі яму збіццём. Але Тарнаўскага не палохала ані пагрозы, ані каралеўская няласка. Ён ужо зрабіў канчатковый выбар і бачыў сваё будучае толькі ў Расіі. Па заканчэнні яго тэрміна службы ў расійскай амбасадзе, Тарнаўскі выправіўся ў Маскву. З рэкамендацыямі свайго мінулага працадаўцы і лістом ад дзядзькі, які быў настаяцелем аднаго з праваслаўных манастыроў, Тарнаўскі атрымаў у расійскай сталіцы вялікую пашану. Яму паднеслі

---

[45] Пра замежныя сувязі Мазэпы гл. О. Оглоблин, *Гетьман Іван Мазепа та його доба* (Нью-Йорк, 1960), ст. 41-64, 163-220. Для добрай сціслай біяграфіі Мазэпы і спіса апошніх публікацыяў гл. Wiesław Majeswski, "Jan (Ivan) Mazepa" у Polski słownik biograficzny, vol. 20 (Cracow, 1939-1946), ст. 294-99. Ян Вайнароўскі, суддзя кіеўскага ваяводства і стрыечны брат Мазэпы, наведаў Міхайлава 2 лютага 1692 года. Вайнароўскі прыехаў з чатырма сваімі сынамі, якія служылі ў каронным войску. Брат Захарыя Віслоцкага, аднаго з лепшых каронных агентаў і эксперта па ўсходняй палітыцы, працаваў на Мазэпу. Рэестр дзейнасці Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 130-31, 231.

[46]. Афіцыйныя паперы датычна візіта Івана Тарнаўскага ў Маскву ў 1695 годзе, ЦГАДА, фонд 52, стасункі з Грэцыяй у 1695 годзе, № 1.

сабаліныя скуры ў якасці дарункаў за адданую службу і прызначылі перакладчыкам у Пасольскі прыказ.[47]

У пісьмовых крыніцах імёны таемных агентаў амаль не згадваліся. Рэзідэнты часцяком пісалі “я набыў ліст зашыфраваны ліст Доўманта ў аднаго з сакратароў Шчукі”,[48] ці “адзні з сакратароў прадаў мне ліст ад хана”.[49] Цяжка знайсці імёны нават сталых інфарматараў, акрамя выпадкаў, калі інфармацыя ставалася нагэтулькі значнай, што яе крыніца мусіла быць названая. Адным з гэткіх выключэнняў была справа прыдворнага праваслаўнага шляхціча Падзільскага, які першым паінфармаваў Волкава пра сакрэтныя планы Сабескага ў дачыненні да Украіны. Падзільскі не толькі перадаў расійцам імёны каралеўскіх агентаў ва Украіне і Крыме, але й назваў дакладныя даты іх адʼезду з Варшавы. Больш за тое, Падзільскі прысутнічаў падчас сакрэтных нарадаў паміж каралём, Матчынскім, Шумлянскім, ЯблаНоўскім і каралевай. Адсюль можна зрабіць выснову, што ён быў адной з асобаў, набліжаных да Сабескага.[50] Кароль не здагадваўся пра здраду Падзільскага, які снабжаў расійцаў каштоўнай інфармацыяй цягам рэзідэнцтваў Волкава і Міхайлава.

Сярод іншых царскіх агентаў былі прыдворны Васіль Красынскі, адказны за сувязі з расійскімі рэзідэнтамі, і лейтэнант гусарскага палка гетмана Яблаоўскага Александровіч. Апошні не толькі інфармаваў рэзідэнтаў пра дзейнасць Яблаоўскага, але й перадаў ім урыўкі з дзённіка гетмана датычна малдаўскай экспедыцыі.[51] Трэба заўважыць, што далёка не ўсе расійцы ў Рэчы Паспалітай збіралі інфармацыю для прыказа. Напрыклад, мастак Афанасі Трусмейскі, які аздабляў фрэскамі праваслаўную царкву ў Вільні, у 1688 годзе павярнуўся ў Расію, ані воднага раза не сустрэўшыся з Вазніцыным. Міхаіл Сямёнаў, іншы расійскі мастак пры двары Сабескага, даваў рэзідэнтам толькі тую інфармацыю, якую можна было атрымаць з іншых крыніцаў.[52]

### Падслухоўванне

Наступны спосаб збірання інфармацыі расійскімі дыпламатамі быў незвычайным, але даволі эфектыўным - яны ўдавалі, што не ведалі замежных моў. Расійцы часцяком ужывалі гэтую хітасць падчас афіцыйных сустрэчаў з польскімі сенатарамі. Падчас іх сенатары выкарыстоўвалі між сабой лаціну, італьянскую ці французскую мовы. Схаваны за шырмай Сабескі таксама падзяляўся сваімі меркаваннямі праз Шчуку на лаціне ці па-італьянску.

Некаторыя расійскія дыпламаты ведалі некалькі моваў і выдатна разумелі, што казалі сенатары, але рабілі выгляд адваротнага. Толькі Волкаў, які не валодаў нават лацінай, звычайна скардзіўся

[47] Тамсама. Гл. таксама ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 110
[48] Спавешчанні Міхайлава, травень 1693 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 710, 723.
[49] Рэестр дзейнасці Міхайлава, ліпень 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 193.
[50] Спавешчанні Волкава, снежань 1689 і студзень 1690 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 337-38, 355-56.
[51] Васіль Крысынскі, як і Падольскі, быў праваслаўным прыдворным Сабескага. Як і Падольскага, яго вельмі зрэдку называлі па прозвішчы. Расійскія рэзідэнты звычайна пазначалі яго інфармацыю як пададзеную “прыхільнымі да нас праваслаўнымі прыдворнымі.” Пасля “справы Саламона” (гл. главу 6), Падольскі больш не згадваецца, а апошняя спасылка на Крысынскага датуецца 1695 годам. Рэестр дзейнасці Міхайлава, чэрвень 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 143, 148. Спавешчанні Міхайлава, сакавік-чэрвень 1693 года, травень 1965 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 622-23, 653, 789, 1190-91. Рэестр дзейнасці Міхайлава, чэрвень 1696 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 30.
[52] Дзённік Вазніцына, травень 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 171. Спавешчанні Нікіціна, чэрвень 1696 года, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 24, 30.

на невыхаваных каронных дыпламатаў, якія ў яго прысутнасці размаўлялі на іншых мовах. Яго скаргі, аднак, не памяншалі царскага расчаравання ад няведання зместу размоваў сенатараў паміж сабой.[53] Міхайлаў, у сваю чаргу, добра ведаў мовы і падчас сустрэчаў звычайна пільна ўслухоўваўся ў тое, што казалі адзін аднаму яго суразмоўцы. У сваіх данясеннях ён падаваў усё, што казалі яму сенатары па-польску і іх каментары і заўвагі ўбок на лаціне ці па-італьянку. Праз пэўны час сенатары адчулі, што Міхайлаў разумее лаціну і перайшлі на італьянскую. Гэта ўскладніла яго задачу, аднак не зрабіла яе немагчымай. Трэба заўважыць, што аднойчы Міхайлаў нават падаў змест размовы сенатараў на французскай мове.[54]

Падначаленыя Міхайлава таксама валодалі майстэрствам падслухоўвання. Найбольшых поспехаў у гэтым дасягнуў прадстаўнік выбітнага крымскага роду князь Якаў Фёдаравіч Чагадаеў, які суправаджаў Міхайлава ў Рэч Паспалітую ў чыне камергера. Ён падслухаў урыўкі размовы паміж ханскім дасланцам Дэрвішам Казы і Ябланоўскім, дзе яны абмяркоўвалі перавагі супольнай вайсковай акцыі супраць Масквы.[55] Пазней, паводле загада Міхайлава, Чагадаеў увайшоў у давер да Дэрвіша Казы і пераканаў таго ў нядзольнасці Кароны распачаць паспяховую кампанію на ўсходзе. Дзякуючы намаганням Чагадаева Міхайлаў даведаўся пра таемныя сувязі Сабескага з Крымам нашмат больш, чым які-колечы з яго папярэднікаў.

Міхайлаў меў інфарматара пры нямецкамоўным двары жонкі кронпрынца Якуба Сабескага Елізаветы Нойбургскай. Капітан царскай кавалерыі Петэр Ёган Элангузін атымаў ад расійскага дыпламата даручэнне падтрымліваць кантакты са сваімі суайчыннікамі ў Варшаве. Акрамя таго, Міхайлаву быў патрэбны чалавек пры двары прынца Якуба, каб здабыць спавешчанні аўстрыйскага амбасадара Курца, які ў 1691 годзе павярнуўся з Расіі.[56]

## Уплыў расійскіх дыпламатаў на палітыку Крамля

Уплыў расійскіх рэзідэнтаў у Варшаве на фармаванне расійскай замежнай палітыцы як такой і на стасункі паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай у прыватнасці застаецца незразумелым, бо мы не валодаем інфармацыяй пра тое, як у Крамлі ацэньвалі іх спавешчанні. Пракофі Багданавіч Вазніцын, які належаў да шчыльнага кола фаварытаў Пятра І,[57] добра разумеў сітуацыю ў Рэчы Паспалітай, нягледзячы на кароткі тэрмін свайго амбасадарства. Ён пісаў кароткія і дакладныя спавешчанні, Вазніцын не баяўся выказваць сваё меркаванне і нават прапаноўваў магчымыя дыпаламатычныя захады. Ён выдатна ўсведамляў значнасць праваслаўнага насельніцтва Кароны і

---

[53] Спавешчанні Волкава, кастрычнік 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 239-50.
[54] Спавешчанні Міхайлава, травень 1693, сакавік 1694, травень 1695 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243 ст. 733, 742-43, 1030, 1184.
[55] Спавешчанні Міхайлава, кастрычнік 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 453-54. Дэрвіш Казы з павагай ставіўся да Чагадаева, чые стрыечныя браты займалі высокія дзяржаўныя пасады ў Крыме, спавешчанні Міхайлава, кастрычнік 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 493-96. Доўмант быў агаломшаны, калі пачуў просьбу Украінцава патлумачыць таемныя перамовы паміж Ябланоўскім і Дэрвішам Казы; ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 148, 154-56.
[56] Рэестр дзейнасці Міхайлава, лістапад 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 47.
[57] М.М. Богославский, *Пётр I. Материалы для библиографии*, том 3 (Ленинград, 1946), ст. 342-45, 383-453. Англійскія амбасадары ў Вене і Стамбуле адзначылі цяжкае становішча расійцаў у Карлавіцэ на тле моцных пазіцыяў аўстрыйцаў і туркаў. Спавешчанні лорда Томаса Пэйджэта і сэра Роберта Сатана, 9 траўня 1698 года, 26 студзеня 1699 года, Дзяржаўны Архіў Вялікабрытаніі, Дыпламатычныя дакументы (Public Record Office, London, State papers; далей - PRO, SP), фонд 97 (Турцыя), № 21, ст. 16, 37, 45, 55. Спавешчанні Роберта Сатана з Вены, 15 лютага 1698 года, 30 студзеня 1699 года, PRO, SP, фонд 80 (Германія), № 17, ст. 423, 455.

меркаваў, што іх трэба выкарыстоўваць, каб уплываць на палітыку Рэчы Паспалітай. У якасці аднаго з захадаў у гэтым кірунку ён выказваўся за шчыльныя стасункі Масквы са стаўрапігічнымі братэрствамі.[58]

Вазніцын сцвярджаў, што значнасць праваслаўя для Расіі не абмяжоўваецца Рэччу Паспалітай. Так, напрыклад, ён меркаваў, што Расіі будзе лягчэй замацавацца на Балканах, калі яна здабудзе падтрымку праваслаўнага насельніцтва Атаманскай імперыі. Як і прадстаўнікі праваслаўнай царкоўнай іерархіі Грэцыі, Сербіі, Валахіі і Малдавіі, Вазніцын баяўся вызвалення Балканаў войскамі каталіцкай дзяржавы. Адгалоскі яго аргументаў чуліся падчас дэбатаў на Карлавіцкім кангрэсе 1699 года, дзе была заключаная мірная дамова Святога Альянса з Турцыяй. Вазніцын ухваляў пашырэнне праваслаўя ў Рэчы Паспалітай і даводзіў неабходнасць утрымаць львоўскага епіскапа Шумлянскга, які варагаваў з кіеўскім мітрапалітам Ясынскім, ад прыняцця рэлігійнай Уніі.[59]

Апроч абароны інтарэсаў праваслаўных вернікаў за мяжой, Вазніцын выступаў за падтрыманне шчыльных кантактаў з ліцвінскай апазіцыяй. Больш за тое, як было згадана вышэй, менавіта ён прыняў на працу Івана Тарнаўскага. Вазніцын усталяваў каналы камунікацыі паміж расійскімі дыпламатамі ў Рэчы Паспаліатай і расійскімі дыпламатамі і таемнымі агентамі цара ў Цэнтральнай Еўропе.[60] Нарэшце, ён стварыў падмурак для працы будучых расійскіх рэзідэнтаў у Варшаве і забяспечыў ім гэткія ж умовы і дыпламатычныя прывілеі, якіх дамогся для сябе. Найбольш важкім з іх было права суправаджаць караля падчас яго штогадовых вандраванняў у яго рэзідэнцыю на паўднёвым-усходзе краіны.

Наступнікам Вазніцына быў Іван Міхайлавіч Волкаў, магчыма найменш паспяховы расійскі дыпламат у Рэчы Паспалітай за апошнія дзесяцігоддзі сямнаццатага стагоддзя. Волкаў валодаў рэдкім талентам адштурхоўваць людзей. Ён быў асабістым ворагам Доўманта, Акрасу не падабалася весці з ім перамовы, Тарнаўскі лічыў Волкава няшчырым наймальнікам, а Шчука – проста дурнем. Волкаў адпавядаў стэрэатыпу зверaватага барбара-маскоўца і паводзіў сябе ў Рэчы Паспалітай, як у Маскве. Ён размаўляў з сенатрамі і чыноўнікамі гэтак, нібыта яны разумелі і падзялялі погляды маскоўскіх бюракратаў. Волкаў увесь час распавядаў байкі пра няісныя вялікія вайсковыя перамогі цара.[61] Хаця ён быў упэўнены, што выдатна служыць сваёй дзяржаве, палякі і ліцвіны ўважалі расійскага дыпламата за нядатнага і нахабнага ілжэца.

Спавешчанні Волкава значна саступалі па якасці данясенням яго папярэдніка. Баючыся выказваць сваё меркаванне, ён ніколі не даваў парадаў ані па водным пытанні. Волкаў не наважваўся нават каментаваць свае размовы – ён проста даслоўна перадаваў іх змест. Каб пазбегнуць адказнасці за

---

[58] Спавешчанні Вазніцына, 6 жніўня 1688, 6 верасня 1688, 7 снежня 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 130, 137, 203.
[59] Спавешчанні Вазніцына, 5 жніўня 1688, 16 верасня 1688, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 130, 137.
[60] Большая значнасць расійскіх амбасадараў у Варшаве ў параўнанні з маскоўскімі дыпламатамі ў іншых цэнтральнаеўрапейскіх краінах відавочная з інструкцыяў цара Вазніцыну. Ліст цара Вазніцыну, 19 кастрычніка 1688 года, ЦГАДА, фонд 52, (Грэцыя), № 11, ст. 83-84. Гл. таксама спавешчанні Вазніцына, 18 і 25 лістапада 1688 года, 1 і 13 студзеня і 17 лютага 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 182, 189, 206, 243, 280. Пра вербаванне Івана Тарнаўскага гл. рэестр дзейнасці Вазніцына, 29 сакавіка 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 113.
[61] Волкаў выкарыстаў гэты прыём падчас перамоваў з сенатарамі ў кастрычніку 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 229-50.

свае спавешчанні, амбасадар заўсёды падкрэсліваў, што яго інфарамацыю грунтуецца на плётках, якія немагчыма праверыць. Паводле словаў Волкава, каралеўскія прыдворныя, апазіцыя, шляхта, гараджане, габрэі, драгуны, праваслаўныя манахі, казакі – адным словам, усе, ад каго ён атрымлівае якія-колечы звесткі былі ілжэцамі.[62] Трэба заўважыць, аднак, што іншыя расійскія амбасадары не падзялялі паранаідальную падазронасць Волкава, які абсалютова не разумеў традыцыі і лад жыцця Кароны і адчуваў сябе ў Варшаве чужынцам. Яго пачуццё адзіноты, страх і варожасць да Рэчы Паспалітай нагэтулькі моцна ўплывалі на змест і тон яго спавешчанняў, што Карона паўставала ў іх ворагам, заўсёды гатовым здрадзіць і ўдарыць у спіну расійскім войскам. У тых, хто чытаў толькі дасланні Волкава, мусіла скласца ўражанне, што Сабескі і шляхта, калі наогул не ўсе грамадзяне Рэчы Паспалітай, прыкладалі ўсе магчымыя высілкі, каб як мага больш зашкодзіць цару і Расіі.

Самое па сабе скажанае да абсурду выяўленне Волкавым Рэчы Паспалітай нецікавае – увагі заслугоўвае рэакцыя на іх Пасольскага прыказа. Ані ў прыказе, ані ў баярскай думе не прымалі пад увагу спавешчанні Волкава пры прыняцці палітычных рашэнняў. Калі б у Маскве прыслухаліся да меркавання Волкава, Расія спыніла б вайну з Турцыяй і распачала прыгатаванні да паходу ў Рэч Паспалітую. Данясенні амбасадара выклікалі ў Крамлі пэўную незапакоенасць, але не спрычыніліся да прыняцця жорсткіх захадаў ці кардынальнага перагляду заходняй палітыцы. Нягледзячы на злавесныя прадказанні Волкава, у Крамлі працягвалі ўзважліва ўспрымаць замежнапалітычную сітуацыю.

Заганнасць спавешчанняў Волкава не выклікае сумневаў. Дастаткова будзе даследаваць запісы паседжанняў сенацкіх кансіліюмаў і падлічыць колькасць згадкаў пра Расію і іх кантэкст, каб зразумець, наколькі расійскі амбасадар перакручваў факты. Аналагічную выснову можна зрабіць на падставе аналіза тагачаснай прэсы і выданняў, прысвечаных Расіі. Нарэшце, ёсць магчымасць вывучыць захаваныя запісы паседжанняў мясцовых радаў. Яны сведчаць, наколькі часта жыхары Кароны абмяркоўвалі і галасавалі па пытаннях, звязаных з Расіяй. Інфармацыя з вышэйазначаных крыніцаў даводзіць няслушнасць пазіцыі Волкава. Расійскі рэзідэнт мусіў супастаўляць звесткі, атрыманыя ад таемных агентаў ды прыдворныя чуткі з раскладам сіл у палітычным жыцці Рэчы Паспалітай. У гэтым выпадку яго ацэнка значнасці расійскага пытання ў планах караля, парламента і сенацкага кансіліюму была б больш рэалістычнай.

Вельмі цяжка адказаць, як ацэньвалі працу і спавешчанні Волкава ў Пасольскім прыказе, бо мы не маем характарыстыкаў яго дзейнасці. Дакладна вядома, аднак, што Міхайлаў крытычна ставіўся да свайго папярэдніка. У сваю чаргу, Нарышкіны падтрымлівалі Волкава перш за ўсё праз тое, што ён выкрыў сакрэтную місію караля да казацкага гетмана Мазэпы, пасля чаго расійцы арыштавалі агента Сабескага ва Украіне.

Бясспрэчна, што Барысу Міхайлавічу Міхайлаву, трэцяму расійскаму амбасадару, Рэч Паспалітая не падабалася, але ён не драматызаваў сітуацыю. Хаця ён не выказвае ў спавешчаннях свае меркаванні нагэтулькі ж вольна, як Вазніцын, але й не наследуе Волкаву ў простым пераданні

[62] Волкаў падазраваў, што Падольскі вядзе двайную гульню і мае на мэце дыскрэдытаваць Мазэпу. Спавешчанні Волкава, 26 снежня 1689 года, 4 студзеня 1690 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 337-38.

фактаў. Міхайлаў час ад часу дазваляў сабе каментары датычна надзейнасці пэўнай асобы ці дакладнасці атрыманай ад яе інфармацыі. Больш за тое, ён лепш за Волкава ладзіў з палякамі і любіў жартаваць, каб зняць напружанне падчас цяжкіх перамоваў. Хаця Міхайлаў не пазбягаў канфліктаў, ён амаль ніколі не дазваляў розніцы ў палітычных поглядах перарастаць у персанальную варажнечу.

Перамовы Міхайлава з Акрасам выяўляюць, як два прафесіянальныя дыпламаты, што маюць павагу і, магчыма, нават сімпатыю адзін да аднаго, здольныя тым не менш спраўна выконвюць дадзеныя ім загады. Праз некалькі сустрэч кожны ведаў наступную рэпліку іншага, але аніводны гэтага не выдаваў. Аднак часам пасля стандартнай працэдуры абмена закідамі і іх абвяргання, Акраса не вытрымліваў і смяяўся з асабліва трапных адказаў расійскага дыпламата. Адная з запісаў іх размоў у пэўны момант перарываецца. Хутчэй за ўсё, дыпламаты на пэўны час кінулі абмяркоўваць дыпламытычныя пытанні, каб проста па-сяброўску пагаманіць.[63] На вялікі жаль, у сваіх пазбаўленых гумара штотыднёвых спавешчаннях Міхайлаў не закранае персанальных аспектаў свайго перабывання ў Рэчы Паспалітай – факт удвая больш крыўдны з улікам таго, што расійскі рэзідэнт не пакінуў мемуараў.

Напрыканцы сваіх спавешчанняў Міхайлаў часта падаваў меркаванні венецыянскага амбасадара Джыралама Альберці. Альберці пражыў у Варшаве больш за трыццяць год і выдатны ведаў расклад сілаў у палітыцы Рэчы Паспалітай. Ён не быў схільны перабольшваць уплыў зменлівай грамадскай думкі на прыярытэты шляхты ці каралеўскую палітыку. Альберці не чакаў радыкальных зменаў у замежнай палітыцы Рэчы Паспалітай і меркаваў, што яна не выйдзе з анты-турэцкай кааліцыі, прынамсі пакуль кароннае войска не павярне Камянец. Вельмі падобна, што Міхайлаў часта прыводзіў думкі венецыянскага дыпламата, бо падзяляў яго гледзішча.[64]

Міхайлаў шмат і грунтоўна працаваў, каб выканаць пастаўленыя яму задачы. Яго найбольшым дыпламатычным дасягненнем ставалася выкрыццё таемных перамоваў Сабескага з татарамі. Аднак пяць год у Варшаве пашкодзілі яго становішчу на радзіме. Пакінутая ў Расіі адная, жонка Міхайлава была не здольная спыніць рабаванне яго маёнтку заможнымі суседзямі. Стомлены працяглым рэзідэнцтвам, Міхайлаў дасылаў петыцыю за петыцыяй з просьбай перавесці яго з Варшавы.[65] На яго няшчасце, звароты заставаліся без адказу. У Пасольскім прыказе баяліся, што калі Расія паспрабуе змяніць амбасадара неўзабаве пасля таго, як Варшава адклікала Доўманта з Масквы, Сабескі можа адмовіць у акрэдытацыі наступніку Міхайлава і знову скасаваць дамову пра абмен дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі. У Маскве палічылі бяспечным замяніць рэзідэнта ў Рэчы Паспалітай толькі пасля азоўскага пахода, які аднаваіў зацікаўленасць караля ў дыпламатычных кантактах з Масквой.

Пасля Міхайлава расійскім рэзідэнтам у Варшаве стаў Аляксей Васільевіч Нікіцін, дзяк Пасольскага прыказа і былы вайсковец, які меў чын стольніка. Ён цешыўся са свайго прызначэння і хацеў

[63] Рэестр дзейнасці Міхайлава, 3 ліпеня 1691, 9 студзеня 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 93, 184.
[64] Рэестр дзейнасці Міхайлава, 24 ліпеня 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 234-35; спавешчанні Міхайлава, 13 лістапада і 3 снежня 1692 года, 26 красавіка і 28 чэрвеня 1695 года, ЦГАДА, фонд 79, ст. 523, 552, 1162, 1214.
[65] Спавешчанні Міхайлава, 14 траўня 1695 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 1203.

перавезці ў Варшаву ўсю сям'ю. Цар сваім указам забараніў гэткую вольнасць – толькі сыны Нікіціна атрымалі дазвол паехаць з ім на захад. Па прыбыцці новы рэзідэнт аддаў дзяцей навучацца ў іезуіцкую школу і вельмі ганарыўся іх адукацыяй. Нікіцін асабліва цешыўся з таго, што яго сыноў навучылі аратарскаму майстэрству і добрай ведзе польскай і лаціны. Ён пісаў у Маскву, што іезуіцкія школы ставаліся месцам, дзе яго дзеці мелі магчымасць размаўляць з дзецьмі польскіх арыстакратаў і такім чынам збіраць сакрэтную інфармацыю. Неабходна заўважыць, што ў тысячах старонак спавешчанняў Нікіцін толькі двойчы падаваў звесткі, "сабраныя" яго сынамі, якія да таго ж ставаліся абсалютова банальнымі.[66]

Нікіцін пераняў лад жыцця Ежы Доўманта і іншых дыпламатаў, з якімі ён пазнаёміўся ў Маскве і Варшаве. Расійскі дыпламат вольна адчуваў сябе сярод польскай шляхты, намагаўся праводзіць больш часу ў іх асяродку, ладзіў прыёмы ў сваёй варшаўскай рэзідэнцыі і ахвотна прымаў запрашэнні на іншыя мерапрыемствы. У адрозненне ад папярэднікаў, Нікіцін намагаўся прыцягнуць да сябе як мага больш увагі. Адным з захадаў, скіраваных на публіку, было ўсталяванне гарматаў паперад яго домам, каб адзначаць залпам кожную вайсковую перамогу расійскай дзяржавы.[67]

Нікіцін, як у свой час Вазніцын, актыўна прасоўваў інтарэсы праваслаўя ў Рэчы Паспалітай. Ён загадаў пабудаваць праваслаўную капліцу ў свёй варшаўскай рэзідэнцыі, заснаваўшы такім чынам цэнтр праваслаўнай культуры ў Варшаве. Службу ў капліцы вёў адмыслова запрошаны манах з Кіева. Відавочна, што Нікіцін гэткім чынам намагаўся завабіць да сябе праваслаўных шляхцічаў, якія з'яжджаліся ў Варшаву на паседжанні парламента ці па асабістых справах. Тым не менш, найяскравейшым момантам рэзідэнцтва Нікіціна сталася яго роля ў выбарах наступніка караля і актыўная падтрымка, аказаная расійскім дыпламатам Аўгусту ў барацьбе супраць пра-французскай апазіцыі.

## Ацэнка расійскіх рэзідэнтаў

Бачанне расійскімі рэзідэнтамі Рэчы Паспалітай, адлюстраванае ў тысячах старонак спавешчанняў, было, як мы ўжо давялі, далёка няпоўным. Тое ж самае можна сцвярджаць і пра ўяўленне Доўманта пра Расію. Дыпламаты абодвух дзяржаваў складалі фрагментаваныя апісанні адна адной і не падавалі асобныя палітычныя падзеі, якія прыцягнулі іх увагу, у шырэйшым кантэксце палітычнай сістэмы. У выніку, іх спавешчанні нагадвалі агляды навінаў за некалькі год, у якіх пераважна згадваліся катастрофы і трагедыі. Любое ўражанне пра дзесяцігоддзе ў гісторыі краіны на падставе гэтых звестак будзе прыгнечаваць і стаецца скрайне аднабаковым.

Дыпламатам абедзьвюх дзяржаў загадвалі пільнаваць парушэнні Вечнага міра ці шукаць іншыя сведчанні варожасці суседзяў. Яны выконвалі гэтае заданне надзвычай дбайна і паведамлялі ў свае сталіцы пра кожную адзнаку вайсковай актыўнасці, кожны патэнцыйна пагрозлівы захад, але

[66] Спавешчанні Нікіціна, 17 снежня 1696 года, фонд 79, № 252, ст. 130. Лісты Нікіціна Украінцаву, ЦГАДА, фонд 79, стасункі з Польшчай у 1696 годзе, № 4.
[67] Спавешчанні Нікіціна, 10 верасня 1696 года, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 79-80.

не згадвалі ані іх матывацыю, ані ўнутрыпалітычнае значэнне. На падставе дыпламатычных данясенняў у недасведчанага чытача склалася б уражанне, што стасункі Рэчы Паспалітай і Расіі ў першую чаргу характарызаваліся ўзаемнай нянавісцю і паталагічнай падазронасцю. Здзіўляе той факт, што, нягледзячы на варожасць у спавешчаннях, дыпламаты абедзьвюх дзяржаў прытрымліваліся больш узважанага погляду на падзеі ў іншай краіне. Напрыклад, расійскія дыпламтаты ніколі не згадвалі нецікавасць шляхты да расійскіх падзеяў – магчыма таму, што іх пра гэта не пыталі ў Маскве. Яны мусілі толькі збіраць доказы патэнцыйнай варожасці, а не аналізаваць рэаліі краінаў, дзе яны былі акрэдытаваныя. Намагаючыся дбайна выконваць заданне, большасць дыпламатаў дасылала ў свае сталіцы як мага больш інфармацыі, здольнай выклікаць заклапочанне. Яны не толькі апісвалі атмасферу варожасці ў дачыннi да сябе, але й папярэджвалі свае ўлады пра магчымасці вайсковых дзеянняў. Так, Доўмант некалькі разоў звяртаў увагу Сабескага на перасоўванне расійскіх войскаў у бок межаў Рэчы Паспалітай, а таксама пра ўмацаванне гарнізонаў у Смаленску і Кіеве. Волкаў, са свайго боку, дакладаў пра падазроныя манеўры войскаў у бок Кіева. Калі б у Маскве і Варшаве сур'ёзна ўспрынялі папярэджанні дыпламатаў, гэта магло б выклікаць новую вайну ці, як найменш, прывяло да скасавання існага хаўруса.

Тым не менш, спавешчанні дыпламатаў не мелі палітычных наступстваў. Гэта сведчыць пра тое, што іх інфармацыя ўзважвалася і дэталёва аналізавалася адказнымі ўрадоўцамі ў абедзьвюх краінах, якія дапаўнялі яе звесткамі з іншых крыніцаў і прымалі канчатковыя рашэнні на падставе свайго досведу. Акрамя таго, спакойнае ўспрыняцце спавешчанняў дыпламатаў кажа пра тое, што чыноўнікі Пасольскага прыказа і Баярскай Думы, роўна як і Сабескі, яго дарадцы, сенатары і парламент Рэчы Паспалітай, не прымалі паспешных рашэнняў. Яны ўсведамлялі, што няздольнасць польскага і расійскага весці актыўныя дзеянні супраць туркаў тлумачыцца не "ліхімі" намерамі, а знямогай. Што б ні пісалі Доўмант, Волкаў, Міхайлаў ці Нікіцін, у Віланаве і Крамлі добра ведалі, што ані Рэч Паспалітая, ані Расія не былі здольныя весці вайну на два франты і што спачатку трэба скончыць вайну з Турцыяй і Крымам.

Дакуль Крымскае ханства мела прэтэнзіі на ўкраінскія тэрыторыі, ані Масква, ані Варшава не жадалі змяняць існы статус кво паміж сабой. Яны абмяжоўваліся дыпламатыяй, час ад часу ўжывалі пагрозы ці падкрэслівалі агульныя хрысціянскія каштоўнасці. Нягледзячы на рэдкія выпадкі гнева ці грання мускуламі, ані палякі ці ліцвіны, ані расійцы не ўцягваўся ва ўнутраную палітыку іншай дзяржавы, што, аднак, не замінала дыпламатам уплываць на грамадскую думку і намагацца прыцягнуць на свой бок крытыкаў улады.

Расійскія дыпламаты гралі ў палітычным жыцці Рэчы Паспалітай значна больш сціплую ролю, чым іх французскія ці аўстрыйскія калегі, якія актыўна падтрымлівалі і часам нават стваралі палітычныя ініцыятывы, карысныя сваім дзяржавам. Поспех французскіх і аўстрыйскіх дыпламатаў тлумачыцца тым, што яны набывалі падтрымку сенатараў ды дзяржаўных службоўцаў і выдаткоўвалі тысячы дукатаў на падтрымку сваіх кандыдатаў на польскую карону. Магчымасці расійскіх дыпламатаў у

Рэчы Паспалітай была значна больш абмежаваныя, што тлумачыць іх адносную бяздзейнасць у параўнанні з французскімі і аўстрыйскімі калегамі.[68]

Калі б планы Людовіка XIV не ўцеляснілiся, еўрапейскія межы былі б зусім іншымі. Планы Вены, Лондана і нават Стамбула ставаліся менш амбітнымі, але маглі таксама сур’ёзна змяніць расклад сілаў на Еўрапейскім кантынененце. У адрозненне ад іх, намеры Галіцына, Нарышкіных ці Пятра І (да 1705 года), не прадбачалі зменаў межаў Расіі і Рэчы Паспалітай, але давалі першай выйсце да Чорнага і Балтыйскага мораў. З іншага боку, уцелясненне планаў Сабескага пасунула б межы Кароны да Дона. Палітычныя амбіцыі шляхты былі сціплейшымі і ўлучалі толькі павяртанне Камянца. Ідэя зваявання Кіева, Смаленска ці Рыгі заставалася прыемнай, але недасяжнай марай.

Агрэсіўная палітыка Турцыі ў другой палове сямнаццатага і Швецыі напачатку васямнаццатага стагоддзя прымусілі Рэч Паспалітую і Расію трываць адна адную і нават на пэўны час стаць хаўруснікамі. Тым не менш, абодва бакі пайшлі на замірэнне неахвотна, і ў хуткім часе былыя хаўруснікі ператварыліся ў ворагаў. Чым дольш цягнуўся Вечны мір, які не прынес нікому рашучай перамогі, тым больш паглыблялася ўзаемная няпрыязнасць. Супраца, якая грунтавалася на палітычнай неабходнасці, не магла замірыць дзве дзяржавы з радыкальна адрознымі палітычнымі сістэмамі. Часовы хаўрус паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй толькі адлюстроўваў тагачасныя палітычныя рэаліі. Сапраўдныя ўзаемныя пачуцці выходзілі на паверхню ў лістах, дзённіках і данясеннях дыпламатаў абедзьвюх дзяржаў.

## Расійскія рэзідэнты вачамі палякаў

З чатырох расійскіх рэзідэнтаў у Варшаве Вазніцын заслугаваў найбольшую павагу Сабескага і сенатараў, што, магчыма, перш за ўсё тлумачыцца палітычнай сітуацыяй падчас яго амбасадараства. У той час кіраўнікі Рэчы Паспалітай спадзяваліся на актыўны ўдзел Расіі ў вайне з туркамі. Першы паход Галіцына на Перакоп ў 1687 годзе, актыўныя вайсковыя прыгатаванні на Дняпры, умацаванне ўкраінскіх гарнізонаў у 1688 годзе – усё сведчыла пра сур’ёзныя намеры расійцаў падпарадкаваць сабе Крым. Нягледзячы на тое, што ў Кароне дагэтуль не забыліся на згубы, панесеныя ў выніку заключэння Вечнага міра ў 1686 годзе, вышэйшыя кіраўнікі польска-літоўскай дзяржавы яшчэ не ўсведамлялі, што іх спробы залагодзіць Маскву былі дарэмнымі. Кароль разглядаў Вазніцына ў якасці прадстаўніка дзяржавы-хаўрусніка, без якой Рэчы Паспалітай было б цяжэй перамагчы вайну супраць крымскага хана. Спадзевы на трывалы хаўрус, аднак, былі

[68] Аўстрыйскія дыпламаты час ад часу намагаліся схіліць расійцаў больш уплываць на ўнутраную палітыку Рэчы Паспалітай. Аўстрыйцы меркавалі, што аслабленне Кароны будзе адпавядаць інтарэсам усіх яе суседзяў і таму распальвалі ўнутраныя канфлікты ў Рэчы Паспалітай. Гэтую пазіцыю з незвычайнай шчырасцю выклаў Міхайлаву аўстрыйскі амбасадар Чэрнін: “Мы б хацелі і ў далейшым бачыць, як Рэч Паспалітую раздзіраюць унутраныя канфлікты, бо гэта яе паслабляе. Калі ў іх дзяржаве захаваецца адзінства, яны будуць здольныя лёгка пасадзіць на коней сто тысячаў сваіх мужных воінаў і пагражаць таму, каму захочуць.” Рэестр дзейнасці Міхайлава, сакавік 1695 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 1156-57. Пра дыпламатычныя войны аўстрыйскага і французскага амбасадараў у Варшаве гл. Piwarski, Między Francją a Austrją, ст. 8-31, 41-42, 76-85, 111-56. Піварскі дэталёва апісвае дзейнасць аўстрыйскага, французскага, ватыканскага і брандэнбургскага дыпламатаў і агентаў. Расійскага рэзідэнта ён не згадвае наогул. Гэта сведчыць не толькі пра тое, што аўтар не працаваў з расійскімі архівамі, але й пра стратэгія неўмяшальніцтва расійцаў ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай.

нядоўгімі. Апала Галіцына на шэсць год спыніла расійскія вайсковыя аперацыі на поўдні і пазбавіла расійскіх рэзідэнтаў памыснага стаўлення, якім карыстаўся Галіцын.[69] Яго наступнікі карысталіся значна меншай павагай польскага кіраўніцтва. Сітуацыя змянілася толькі пасля паспяховых азоўскіх паходаў Пятра І.

[69] Міхайлаву некалькі разоў прапаноўвалі пакінуць краіну. Кароль вырашыў адклікаць Доўманта і даслаць у Маскву царскага прадстаўніка. Дзённік Міхайлава, размова з Ябланоўскім, 15 траўня 1694 года; размова з Акрасам, 24 жніўня 1694 года; размова з Ражніцкім, 2 сакавіка 1695 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 1077, 1100, 1159-60.

## Глава 4. Польская амбасада ў Маскве

У 1568 годзе амбасадар каралевы Елізаветы ў Расіі Сэр Томас Рэндальф апісваў сваё перабыванне ў расійскай сталіцы наступным чынам: “Да мяне былі прыстаўленыя два джэнтэльмены: першы адказваў за харчаванне і глядзеў, каб нам ставала таго, што дасылаў імператар, другі – каб не дазваляць нікому пакідаць ці наведваць наш дом”.[1] Ад таго часу да сямнаццатага стагоддзя прыём дыпламатаў у Маскве амаль не змяніўся.[2] У Расіі, як і ў Крыме і Турцыі, амбасадараў лічылі ганаровымі палоннымі і трымалі пад сталым наглядам.[3] Дыпламаты Кароны, якія вялі перамовы ў Маскве, казалі, што іх далікатна, але надзейна ўвязнівалі. Галава стральцоў, якія вартавалі дыпламатаў, меў загад не дазваляць ніякіх кантактаў паміж імі і маскавітамі без адмысловага дазвола: “Расійцаў і замежнікаў, які хочуць наведаць дыпламата ці распачаць размову з прадстаўнікамі місіі неабходна асцярожна арыштоўваць”.[4]

Гэты загад распаўсюджваўся нават на праваслаўных патрыярхаў. Нягледзячы на тое, што ў Маскве у іх гонар высокія чыноўнікі заўсёды ладзілі пампезныя прыёмы, нават яны на былі пазбаўленыя сталага нагляда.[5] Нядзіва, што перад вандраваннем у Расію грэчаскія праваслаўныя царкоўнікі папярэджвалі адзін аднаго не выяўляць у царскай імперыі занадта вялікай цікаўнасці. Паводле Паўла Алепскага, тых, хто разглядаў умацаванні ці пачынаў размаўляць з салдатамі, арыштоўвалі, дапытвалі і высылалі “у зямлю цемры - туды, адкуль немагчыма збегчы ці павярнуцца і дзе людзі назаўжды запрыгоненыя”.[6]

Нягледзячы на пэўнае перабольшанне, гэтае сцверджанне не было цалкам неабгрунтаваным. Шэраг замежнікаў, якія нават не планавлі збіраць расійскія сакрэты, апынуліся ў Сібіры ці ў манастырах паблізу Палярнага кола выклікалі, бо выклікалі незадавальненне цара ці ўплывовых ўрадоўцаў. Гісторыі пра зніклых людзей і жорсткія пакаранні за кожнае парушэнне правілаў, усталяваных Пасольскім прыказам, пужалі замежнікаў. Шмат хто з іх пагаджаўся з Паўлам

[1] Sir Thomas Randolph, "A Mission to Muscovy," у *A Rude and Barbarous Kingdom,* ed. L. E. Berry and R. O. Crummey (Madison, 1968), ст. 67-68. (Уражанні Рэндальфа былі ўпершыню апублікаваныя ў 1589 годзе).

[2] М.И. Белов “Нидерландский резидент в Москве. Барон Иоганн Келлер и его письма” (канд. дис. , Ленинград, 1947 г.), ст. 54-58.

[3] Б. Таннер, "Описание путешествия польского посольства в Москву в 1678 году," пер. і рэд. И. Ивакин, *Чтения в Императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете* 158, нум. 3 (1891): 49, 54, 72, 96-97; тамсама, ст. 191-200.

[4] Цытавана па: Z. Wójcik, *Między traktatem andruszowskim a wojną turecką. Stosunki polsko-rosyjskie 1667-1672* (Warsaw, 1968), ст. 85, спасылка 64.

[5] “Бо яны тут прыстаўляюць варту і да Галоваў Духавенства, і да манастыроў, і правяраюць усіх асобаў, што ў іх уваходзяць удзень або ўначы; і ўвесь час яны строга за ўсім назіраюць, падглядаючы ў дзвярныя шчыліны...” Paul of Aleppo, *The Travels of Macarius, Patriarch of Antioch*, том 1 (London, 1834), ст. 264 (далей – *Павел Алепскі*).

[6] *Павел Алепскі*, том 1, ст. 265. Паводле анціохскага манаха, “калі яны (расійцы) бачаць любога чалавека, які на сваё няшчасце пільна глядзіць на гармату ці ўглядаецца ў форт, яны адразу хапаюць гэтага чалавека і дасылаюць у Сібір, кажучы “Спадар, Вы бясспрэчна шпіён, дасланы ў нашую краіну туркамі.” Усё гэта сведчыць пра тое, наколькі жорстка там кантраляваныя паліцыя і ўрад... нас пільна вартавалі і за намі назіралі... Божа, выратуй нас з гэтай пасткі, у якой нас трымаюць, і павярні нам нашую ўлюбёную свабоду!” [цікава чуць гэткую просьбу ад праваслаўнага святара, які вандруе праз Расію з Атаманскай імперыі – заўвага аўтара]. *Павел Алепскі*, том 1, ст. 265, 268, 364, 388; тамсама, том 1, ст. 409 і том 2 (Лондан, 1836), ст. 45-46, 264, 277, 306-307.

Алепскім, які пісаў: "Правілы перабывання ў Маскве нагэтулькі суворыя, што шмат хто з замежнікаў не вытрымлівае – замежнік заўсёды адчувае сябе там як у турме".[7]

Суправаджэнне замежных дыпламатаў адбывалася строга паводле адпаведных правілаў. Інструкцыі расійскіх прыставаў, што сустракалі дыпламатаў на мяжы, і афіцэраў стралецкай варты, што ахоўвалі дыпламатаў у Маскве, мелі на мэце адное – выключыць любую магчымасць атрымаць якую-кольвек інфармацыю. Дыпламатам было забаронена сустракацца з арыстакратыяй і міністрамі, што фактычна адлюстроўвала недавер цара нават да найвышэйшых расійскіх урадоўцаў.[8]

Нагляд за дыпламатамі пачынаўся на расійскай мяжы, зачыненай для ўсіх, хто не намае дазволу на ўезд ці выезд. Першым пра прыбыццё амбасадараў Рэчы Паспалітай даведваўся смаленскі ваявода, які правяраў дыпламатычныя дакументы і паведамляў пра замежную місію ў Пасольскі прыказ, пакуль дыпламата на расійскім транспарце везлі ў Смаленск. У прыказе вызначалі час ад'едза амбасадара са Смаленска ў Маскву і надавалі яму суправаджэнне ды сродкі перасоўвання. Эскортам варшаўскіх дыпламатаў кіраваў прадстаўнік мясцовага дваранства ці капітан стралецкай варты. Чыноўнікі прыказа кіравалі хуткасцю перасоўвання картэжа, каб па неабходнасці запаволіць ці прыспешыць прыезд дыпламатаў у Маскву. Затрыманні мелі на мэце стварыць уражанне таго, што польскім дыпламатам не задаволеныя ў Крамлі ці каб даць расійскім дыпламатам час скончыць перамовы з прадстаўнікамі іншай дзяржавы.[9] Калі працягласць падарожжа ў Маскву змянялася, забарона на любыя кантакты з мясовым насельніцтвам трывала ў любых абставінах. Прыстаў, які кіраваў канвоем, звычайна загадваў спыняцца на ноч у ізаляваных месцах, у тым ліку ў лесе. Прыпынкі рабіліся пераважна ў малых мястэчках. У абавязкі прystава ўваходзіла складанне дэталёвага спавешчання пра амбасадара і яго світу і асабліва занатаванне любых спробаў некага з іх распачаць размову з эскортам ці мінакамі. У Пасольскім прыказе заўсёды патрабавалі дэталёвыя спавешчанні пра пытанні паслоў, іх уражанні ад Расіі, у тым ліку ў

[7] *Павел Алепскі*, том 1, ст. 268.

[8] Прыстаў "мусіць забяспечыць, каб ніхто не ўступаў у кантакт з амбасадарам ці яго атачэннем, каб паінфармаваць, перадаць ім або атрымаць ад іх якія-колечы лісты. Прыстаў мусіць асабліва пільнаваць, каб усе, хто наведвае амбасадара, затрымліваліся пасля таго, як пакінуць яго, але такім чынам, каб ані дыпламат, ані яго атачэнне пра арышт сваіх гасцёў не ведалі. Апроч таго, прыстаў мусіць дапытаць арыштаваных і даведацца, хто яны і з якой мэтай прыйшлі да амбасадара, пра што з ім размаўлялі і якія атрымалі адказы. Усё гэта трэба занатаваць і даставіць разам з арыштаванай асобай у Пасольскі прыказ. Амбасадару і яго атачэнню неабходна забараніць пакідаць рэзідэнцыю пакуль ён не атрымае аўдыенцыі ў цара. Калі амбасадар ці яго людзі маюць нейкія патрэбы, прыстаў мусіць ім набыць усё неабходнае. Амбасадар і яго атачэнне не маюць права падыходзіць да каго-колечы, калі яны маюць патрэбу выйсці ў горад. Калі чалавек з атачэння амбасадара мае патрэбу нешта набыць, яго мусіць суправаджаць вялікая група стральцоў, якія будуць наглядаць за тым, каб ён не размаўляў з людзьмі на вуліцах." Центральный государственный архив Древних Актов (Москва, далей ЦГАДА), Стасункі з Польшчай, № 6, ст. 26. 20 лютага 1693 года Украінцаў абвінаваціў Доўманта ў наведванні баяраў. Запісы размоваў Доўманта ў Пасольскім прыказе, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 706; запісы размоваў з Акрасам у Пасольскім прыказе, ЦГАДА, Стасункі з Польшчай, 1691, фонд 79, № 6, ст. 173-74.

[9] Звычайна падарожжа з Кадынаў у Маскву займала прыблізна тыдзень. Івана Акраса сустрэлі на мяжы 1 жніўня 1691 года. Ён атрымаў дазвол вырушыць у Смаленск 5 жніўня і прыбыў туды 15 жніўня. Два прыставы, стольнік Уладзімір Яганаў і соценны стралец Алешко Барысаў, былі прызначаныя для суправаджэння кароннага дыпламата 15 ліпеня, т.б. яшчэ да таго, як Акраса прыбыў у Кадыны. "Доклад о посланнике Окрасе," ЦГАДА, фонд 79, стасункі з Польшчай, № 6, 1691, ст. 146-55. Гл. таксама: Z. Wójcik, *Między traktatem andruszowskim a wojną turecką*, ст. 82-83.

параўнанні з яго краінай ды меркаванні пра міжнародную сітуацыю.[10] Крамлёўскія дыпламаты выкарыстоўвалі ўсё здабытую інфармацыя падчас падрыхтоўкі да перамоваў.

Пад Масквой дыпламатаў чакала чарговая затрымка. Чыноўнікі прыказа рыхтаваліся да афіцыйнай сустрэчы амбасадара ў Маскве, якая прадугледжвала пампезную дэманстрацыю вайсковай сілы і заможнасці расійскай дзяржавы. У сталіцы дыпламата адразу везлі ў яго рэзідэнцыю, якую атачала ўзброеная ахова. Амбасадару і дыпламатычнаму персаналу было забаронена пакідаць рэзідэнцыю ці прымаць некага да падання цару даверчых граматаў.[11] Адзінае выключэнне рабілася для двух чальцоў світы амбасадара, якім дазволялася выйсці на рынак за прадуктамі. Але строгая забарона на кантакты з мясцовымі жыхарамі трывала ў гэтым выпадку. Выкананне яе забяспечвалі стральцы, якія суправаджалі прадстаўнікоў амбасады падчас набыцця прадуктаў. Пасля аўдыенцыі амбасадара ў цара афіцыйная забарона на кантакты з мясцовым насельніцтвам здымалася, але стральцы працягвалі паўсюль суправаджаць дыпламатаў.[12]

Стральцы выконвалі свае абавязкі пешкі, што стварала ім пэўныя цяжкасці, калі дыпламат пакідаў рэзідэнцыю ў брычцы ці конна. Пры жаданні амбасадар мог адарвацца ад вартаўнікоў, і задыханыя стральцы мусілі распытваць мінакоў, куды рушыў дыпламатычны экіпаж. Яны звычайна знаходзілі сваё ахвяру на ўскрайку сталіцы, пасля чаго скрадзіліся, вінавацячы дыпламата ў безадказнасці.[13]

Калі ў Пасольскім прыказе хацелі выказаць дыпламату незадавальненне палітыкай яго краіны, яны падвышалі колькасць стральцоў, што вартуюць яго рэзідэнцыю ці нават уваход у дом. Да ўсяго, прыказ меў паўнамоцтвы аддаць загад арыштаваць любога наведвальніка амбасады яшчэ да таго, як чалавек увойдзе ў рэзідэнцыю.[14] Іншым дакладным сведчаннем царскай няміласці было выключэнне дыпламата са спіса тых, хто атрымліваў дарункі “ад манаршага стала” па ўрачыстых

[10] Інструкцыі Івану Маркавічу Конішчаву, прыставу, прызначанаму наглядаць за Іванам Акрасам, 15 жніўня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, стасункі з Польшчай, 1691 год, № 6, ст. 22-28. Словазлучэнне “гонар цара” разумеўся тут у шырокім сэнсе. Калі б прыстаў наважыўся нацякнуць на няўдалыя вайсковыя дзеянні, пажар у Маскве, бунты, голад ці нават пагаршэнне якасці жыцця, ён абразіў бы гонар цара.

[11] Дзейнічаючы ў адпаведнасці са сваімі інструкцыямі, стральцы, якія вартавалі татарскага дыпламата, арыштавалі Казіміра Марцінкевіча (чалавека з атачэння Доўманта) і Яна Ракелава (армянскага купца), якія наведалі Мехмета Ага 5 жніўня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 255-59.

[12] Гэты мела на мэце не дапусціць кантактаў амбасадараў з мясцовым насельніцтвам, а не для таго, каб, паводле словаў Каташыхіна, “абараніць іх ад маскоўцаў.” Г.К. Котошихин, О России в царствование Алексея Михайловича (Санкт-Петербург, 1906), ст. 76. Гл. таксама зноскі 5 і 8.

[13] 13 лістапада 1691 года Украінцаў зачытаў Доўманту скаргі стральцоў. Запісы размоваў з Доўмантам у Пасольскім прыказе, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 363-64.

[14] Стральцы, якіх Доўмант абвінаваціў у недапушчэнні да яго гасцёў, патлумачылі, што дзейнічалі на падставе загада Пасольскага прыказа. Украінцаў, натуральна, адмаўляў існаванне гэтага загада і паабяцаў даследваць інцыдэнт. Запіс размовы Доўманта з Украінцавым, 21 лютага 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 109, 163-64. Скаргі Доўманта на тое, што яго ў Маскве ізалююць, прымусілі Сабескага ўзмацніць нагляд за Міхайлавым. 12 студзеня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 97-98, 108-109. У траўні 1691 года нагляд за Міхайлавым насамрэч узмацніўся ў адказ на абмежаванні, накладзеныя на дзейнасць Доўманта. Расійскага рэзідэнта паінфармавалі, што гэтыя захады стаюцца адказам на дзеянні расійскага боку. ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 171-72. Пасля яго вяртання ў Варшаву, Доўмант заўважыў, што яго перабыванне ў Маскве было горшым, чым жыццё ў адзіночным увязненні. Рэестр дзейнасці Міхайлава, жнівень 1694 года, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 1098-1100.

нагодах ці святах у царскай сям'і. Радыкальнейшым і больш дзейсным захадам было скарачэнне нормаў вады і паліва і для амбасады.[15]

Рэгулярныя пераносы сустрэчаў амбасадара з галавой Пасольскага прыказа ці запозненыя адказы на дыпламатычныя запытанні на падставе самых разнастайных падставаў фактычна пазбаўлялі яго працу сэнсу. Нягледзячы на прысутнасць у расійскай сталіцы сталага прадстаўніка Рэчы Паспалітай, Сабескі быў часам вымушаны скіроўваць у Маскву асобнага кур'ера, каб прыспешыць адказ на свае мінулыя дасланні.[16]

У Пасольскім прыказе патрабавалі, каб польскія амбасадары перадавалі ў Варшаву толькі інфармацыю, атрыманую ад іх прадстаўнікоў і толькі ў інтэрпрэтацыі Крамля. Любыя звесткі, атрыманыя з асабістых размоваў і любая версія падзеяў, адрозная ад афіцыйнай, лічылася варожай інтарэсам Расіі. У прыказе меркавалі пра дасланні польскіх рэзідэнтаў паводле спавешчанняў варшаўскіх рэзідэнтаў. Калі Крамлю не падабалася дзейнасць дыпламатаў Кароны, яны не толькі абвінавачвалі іх у ілжы, але й папярджвалі, што няслушныя анты-расійскія спавешчанні маглі падарваць сяброўства і супрацоўніцтва паміж двума дзяржавамі і ў скрайнім выпадку ("Крый Божа") прывесці да вайны.[17]

Сваіх дыпламатаў у прыказе, вядома, інструктавалі збіраць інфармацыю любымі сродкамі, у тым ліку й праз прапановы хабара. У Маскве заўсёды прагнулі ведаць наколькі афіцыйныя заявы караля адпавядалі яго сапраўдным намерам і чакалі ад заходніх дыпламатаў захадаў, аналагічных сваім. Тым не менш, яны ніколі, нават у прыватных размовах, не вызнавалі, што іх цвярджанні ад імя цара могуць быць няшчырымі ці ставаліся проста дыпламатычным хітрыкам. Падобным вызнанні яны б пагадзіліся, што цар можа ілгаць ці парушаць дамовы. Аднак нягодныя паводзіны належалі толькі галовам іншых дзяржаў ці іх дыпламатам. Строгае прытрыманне гэткіх "прынцыпаў" стварала анекдатычныя сітуацыі. З улікам пункту дамовы, паводле якога кожны з

---

[15] Доўмант некалькі разоў пісаў пра недахоп дроваў і сапсаваныя печы; яго скаргі падаваліся царам і ў Баярскую Думу. Печы ў выніку адрамантавалі, але дровы амбасада атрымала толькі калі слугі дыпламата, няздольныя больш трываць холад, пачалі выдзіраць дошкі з падлогі і лаваў. Запіс размовы Доўманта з Украінцавым, 26 лютага 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 78-80.

[16] У 1688 годзе Доўмант паскардзіўся на В.В. Галіцына за тое, што той адмовіўся сустрэцца з ім. ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай, 1691, № 6, ст. 166; ліст Сабескага Доўманту, 15 ліпеня 1688, Бібліятэка-музей князёў Чартарыскіх (Biblioteka Muzeum im. Ks. Czartoryskich, Cracow; далей – біб. Чарт.), № 422, ст. 355; ліст Доўманта Сабескаму, 22 ліпеня 1688 года, Цэнтральны Архіў Гістарычных Актаў (Archiwum Główne Akt Dawnych, Warsaw; далей AGAD), Радзівілаўскі Архіў (Archiwum Radziwiłłowskie) V, № 73, нум. 3252. 18 снежня Доўмант паінфармаваў караля, што будзе лепш, калі каронны вайсковы аташэ будзе пры расійскім войску, а не ў Маскве, дзе "ніхто не можа атрымаць доступ да Кіраўнікоў", асабліва з улікам таго, што найуплывовейшыя баяры ўдзельнічалі ў вайсковых кампаніях. AGAD, Радзівілаўскі Архіў V, № 73, нум. 3252. Лістом ад 24 траўня 1691 года Сабескі паінфармаваў цароў, што Іван Акраса атрымаў асаблівую місію здабыць дакладную інфармацыю пра прыгатаванні да вайсковай кампаніі, біб. Чарт., № 183, ст. 372. Гл. таксама: ліст Доўманта Марцыяну Агінскаму, 24 сакавіка 1688 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163а, том 15, ст. 542; ліст Доўманта Сабескаму, 19 лютага і 4 траўня 1693 года, AGAD, Каронны Архіў (Archiwum koronne), № 54, нум. 108 і 113.

[17] На прапанову Украінцава ад кароннага амбасадара абмяжоўвацца ў сваіх спавешчаннях каралю афіцыйнай інфармацыяй Пасольскага прыказа і спыніць згадваць базарныя і шынкавыя плёткі, Доўмант адказаў: "Глас народа – глас Божы." Запісы сустрэчаў Доўманта з Украінцавым, 26 снежня 1690 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 35-36. У чэрвені 1688 года Васілі Галіцын паінфармаваў канцлера Агінскага, што Доўмант падае каралю ілжывыя звесткі. ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 213-14. Сабескі атрымліваў інфармацыю пра незадаволенасць Доўмантам у Крамлі з шэрагу крыніцаў. Ліст Сабескага Доўманту, 17 красавіка і травень 1688 года, біб. Чарт., № 422, ст. 336-37, 340. Гл. таксама ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1691 годзе, № 6, ст. 165.

бакоў абавязаўся весці наступальныя дзеянні супраць Атаманскай Порты і татарскага ханства, расійцы ніколі не вызнавалі, што яны толькі абаранялі ад туркаў і татараў свае тэрыторыі. Паводле словаў расійскіх дыпламатаў, вайсковых дзеянні цягам гадоў, калі расійскія войскі фактычна бяздзейнічалі, нагадвалі апісанне пераможных бітваў Аляксандра Македонскага. Магчыма, што ў іх расповядах ёсць доля праўды, і данскія і запарожскія казакі сапраўды сутыкаліся з татарамі ці адбілі іх набег. Відавочна адное – падобныя інцыдэнты не мелі анічога агульнага з маштабнай вайсковай кампаняй. Тым не менш, расійскіх дыпламатаў немагчыма было прымусіць вызнаць нават найдрабнейшы факт, які пацвярджаў невыкананне Расіяй умоваў дамовы.[18] Калі Сабескі вызнаваў сваю бяздзейнасць на паўночным фронце, амбасадару Рэчы Паспалітай закідалі невыканенне дамовы каралём. Расійскія дыпламаты, са свайго боку, апісвалі дасягненні царскіх войскаў на манер гамэраўскай "Іліяды". Магчыма, што самім дзякам Пасольскага прыказа было прыкра працягваць бязглуздую гульню ў "прынцыпы", але яны мусілі ілгаць датуль, дакуль замежныя дыпламаты не пераймалі іх стыль ці не знаходзілі магчымасць камунікаваць з расійскімі калегамі ў дазволеных ім межах. Аднак заўзятае адстойванне версіі падзеяў, якая значна адрознівалася ад існасці працягвалася да наступнай кардынальнай змены замежнапалітычнага вектара. У новых абставінах расійскія дыпламаты пачыналі гэтак жа заўзята прыдумляць доказы вечнай адданасці тагачасным хаўруснікам цара.

З улікам таго, што выхваленне цара ставалася адным з падставовых прынцыпаў расійскай дыпламатыі, які падзяляў не толькі кожны супрацоўнік Пасольскага прыказа, але й усе жыхары краіны, любое адхіленне ад яго лічылася сур'езным злачынствам. Калі ўся Еўропа ведала, што Пётр Першы асабіста прысутнічаў пры асадзе Азова ці наведваў Нідэрланды, расійскі рэзідэнт у Варшаве працягваў сцвярджаць, што цар, "як заўсёды", у Маскве.[19] Сляпое падпарадкаванне правілам рэзідэнтамі стварала праблемы, асабліва калі яны сустракаліся з чалавекам, не абазнаным ў спецфіцы расійскай дыпламатыі. Мова ўсіх дыпламатаў света падобная, розніца збольшага палягае ў ступені гнуткасці. Дасведчаныя прадстаўнікі Пасольскага прыказа не бянтэжыліся, калі чулі ад замежных калегаў добра вядомую ўсім сапраўдную версію падзеяў. Яны захоўвалі спакой нават калі выкрывалі іх відавочную хлусню. Расійскія дыпламаты лепш за іншых ведалі, што ад 1690 да 1694 года Расія не вяла вайсковых дзеянняў ці калі Пётр быў у Азове або наведваў Заходнюю Еўропу. Яны разумелі, што гэтыя факты не былі сакрэтам для дыпламатаў іншых краін, але свядома дакладалі Баярскай думе і цару пра рэакцыю замежных прадстаўнікоў на свае ілжывыя цверджанні. Тым не менш, расійскія дыпламаты не паддаваліся на спробы заходніх калегаў дабіцца вызнання наяўнасці дыпламатычных табу ці, тым больш, парушыць іх. Любы заходні дыплaverмат, які лічыў, што здолее дамагчыся даверу расійскіх калегаў лёгкай крытыкай

---

[18] Доўмант гэта добра разумеў і не зважаў на афіцыйныя заявы пра расійскія вайсковыя планы, ліст Доўманта Сабескаму, 4 траўня, AGAD, Каронны Архіў, № 54, нум. 113.

[19] Пасля аўдыенцыі расійскага рэзідэнта ў караля 7 траўня 1695 года каронныя сенатары Дамінік Радзівіл, Марэк Матчынскі, Анджэй Крыспін, Марцыян Аборскі, Марцін Кацкі і Марцін Бароўскі спыталі ў Міхайлава пра праўдзівасць звестак, што цар Пётр знаходзіўся у Азове. Расійскі дыпламат адказаў, што ў яго не было паўнамоцтваў адказваць на гэтае пытанне. Сабескі таксама прыватна пацікавіўся пра ролю Пятра ў экспедыцыі. Рэзідэнт паўтарыў, што ён мог абмяркоўваць толькі тыя пытанні, датычна якія ён меў інструкцыі Пасольскага прыказа. ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 1180-84. Размова Нікіціна з Янам Казімірам Сапегам, 26 траўня 1697 года; размова Нікіціна з Зэдлніцкім, аўстрыйскім амбасадарам у Рэчы Паспалітай, 29 чэрвеня 1697 года; размова Нікіціна з Аўгустам ІІ, 1 кастрычніка 1697 года; рэестр дзейнасці Нікіціна, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 200-202, 208-209, 320-21.

сваёй краіны, памыляўся. Падобная крытыка, наколькі б узважанай яна не была, ставалася зброяй у руках расійскіх дыпламатаў, якія ніколі шчыра не падзяляліся сваім думкамі наконт палітыцы цара.

Шчыльны нагляд за амбасадарам і супрцоўнікамі замежнай місіі, пазбаўленне магчымасці мець любыя кантакты з расійцамі (нават баярамі), залежнасць амбасадара ад Пасольскага прыказа, забарона пакідаць Маскву, нават каб суправаджаць цара, - разам усе гэтыя захады не дазвалялі замежным дыпламатам атрымліваць інфармацыю пра Расію. У сваю чаргу, расійскія дыпламаты намагаліся ачарніць замежных амбасадараў, здольных хутка разгадваць інтрыгі Крамля. На іх ціснулі персанальнымі наскокамі (абвінавачанні ў п’янстве, распусце або дуэлянстве) ці палітычнымі закідамі (распальванне варажнечы паміж манархамі, прыналежнасць да партыі вайны і г.д.). Як ні дзіва, але некаторым абвінавачанням давалі веры на радзіме дыпламатаў.

## Галава дыпламатычнага прадстаўніцтва і яго персанал

Калі Сабескі пад ціскам вялікалітоўскага канцлера Марцыяна Агінскага пагадзіўся стварыць амбасаду Рэчы Паспалітай у Маскве, ён прызначыў амбасадарам стаўленіка Агінскага – ковенскага шляхціча і суддзю троцкага ваяводства Ежы Дамініка Доўманта.

Да свайго прызначэння Доўмант некалькі разоў наведваў Маскву ў якасці сакратара вялікага амбасадарства Патоцкага 1680 года. Пасада Доўманта сведчыла пра наяўнасць ў яго сувязяў у канцэлярыі ВКЛ, вышэйшай адукацыі і пэўную папулярнасць сярод вялікалітоўскай шляхты. Доўмант паходзіў з уплывовага і заможнага шляхецкага рода, прадстаўнікі якога лічылі сябе нашчадкамі “князёў” паганскай Літвы. Доўмант быў родзічам Людвіка Пацея і валодаў некалькімі вёскамі. Доўмант атрымаў прызначэнне ў Маскву калі яму было крыху за сорак, і ён ужо меў сям’ю і дзяцей.[20]

Сабескі быў асабіста не знаёмы з Доўмантам і нават не паклікаў яго ў Варшаву, каб даць інструкцыі перад яго ад’ездам у расійскую сталіцу. Доўманту было даручана толькі паспрабавць схіліць цара да супольнай вайсковай кампаніі супраць татараў у 1688 годзе. Кароль планаваў пратрымаць Доўманта ў Маскве паўгады, пасля чаго, на падставе яго дасягненняў, вырашыць ці пакінуць за ім амбасадарства.[21] Аднак насуперак першапачатковым планам як Сабескага, гэтак і самога Доўманта, апошні прапрацаваў у Маскве шэсць год. Спачатку ён дасылаў спавешчанні Агінскаму, але ў хуткім часе кароль пажадаў атрымліваць інфармацыю непасрэдна з Масквы. Сабескі быў надзвычай задаволены працай Доўманата і ў якасці ўзнагароды аддаў яму ў арэнду некалькі прыбытковых каралеўскіх маёнткаў.[22]

[20] Ліст Сабескага Агінскаму, 28 траўня і 11 ліпеня 1687 года, біб. Чарт., № 422, ст. 107, 131-32. ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1680 годзе, № 8. Kazimierz Piwarski, “Jerzy Dominik Dowmont,” у Polski słownik biograficzny, vol. 5 (Cracow, 1939), ст. 353-54.
[21] Ліст Сабескага Агінскаму, 26 чэрвеня 1687 года, біб. Чарт., № 422, ст. 147-48.
[22] Ліст Доўманта Станіславу Шчуку, 29 красавіка 1688 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163а, том 15, ст. 1601. Ліст Сабескага Дамініку Радзівілу, 19 красавіка 1692. У лісце канцлеру кароль адзначыў, што Доўмант не прасіў сабе вёскаў, алё дадаў, што амбасадар атрымае іх “у якасці ўзнагароды за сваю адданую службу”; AGAD, Радзівілаўскі Архіў II, № 25.

## Глава 4. Польская амбасада ў Маскве

11 лістапада 1687 амбасадар Рэчы Паспалітай лістом з Кадыні апавесціў смаленскага ваяводу Барыса Васільевіча Бутурліна пра сваю прыбыццё на расійскую мяжу. У лісце згадваліся усе, хто суправаджаў Доўманта: шаснаццаць шляхцічаў (сярод іх два сыны амбасадара, Аляксандар і Казімір), святар, лекар, кравец, чатыры фурманы, два конюхі, два кухары і кладаўшчык.[23] Толькі два з іх стала пражылі ў Маскве наступныя шэсць год. Немагчыма сцвярджаць, колькі чалавек з персанала амбасады загінула ў Расіі, але вядома, што Доўмант выкарыстоўваў світу для давязення рэчаў з радзімы. Сярод іншага, ён увозіў венгерскае віно, каўнаскі мёд і, час ад часу, выконваў просьбы расійскіх сяброў, якія прасілі яго прывезці замежныя тавары.[24] Доўмант выкарыстоўваў гэткія штогадовыя вандраванні, каб замяніць пэўных супрацоўнікаў амбасады, прычым кадравая палітыка ставалася яго выключнай прэрагатывай. Персанал амбасады складаўся з адданых Доўманту людзей, гатовых пайсці на рызыку для выканання любога дыпламатычнага задання. Дакументы Пасольскага прыказа сведчаць, што расійцы не здолелі падкупіць аніводнага з іх. Да таго ж, толькі два чалавекі пасля пайшлі служыць да баяраў: кухар і слуга амбасадара.[25]

Нягледзячы на жорсткую сістэму нагляда, Доўмант хутка пачаў дасылаць у Варшаву спавешчанні, якія супярэчылі цверджанням маскоўскіх дыпламатаў, асабліва датычна кампаніі 1688 года. У адказ, занепакоеныя чыноўнікі прыказа прынялі захады, каб дыскрэдытаваць амбасадара ў вачах каралеўскіх прыдворных, прадстаўнікоў канцэлярыі і сенатараў.

У польскага рэзідэнта былі складаныя стасункі з двума прыставамі, што яго ахоўвалі, падпалкоўнікам Іванам Фёдаравічам Башавым і капітанам Міхаілам Фамічом Крыўцовым, а таксама галовамі стралецкай варты яго рэзідэнцыі капітанамі Някрасавым і Струніковым. Паводле скаргаў прыказа, Доўмант "абражаў" абодвух прыставаў, нават не вітаўся з Крыўцовым ды пагражаў капітанам гвалтам, калі тыя не прыбяруць стральцоў ад яго дома і не спыняць замінаць усім наведвальнікам.[26] Згодна з крамлёўскім загадам, расійскія дыпламаты ў Варшаве падавалі Доўманта невыхаваным і агрэсіўным чалавекам, ілжэцом і пляткаром, які намагаўся пахітнуць хаўрус Рэчы Паспалітай з Расіяй. Агінскі і Дамінік Радзівіл далі веры закідам расійцаў, аднак кароль адмаўляўся на іх рэагаваць. Ён лічыў спавешчанні Доўманта выскапрафесійнымі, але адначасова ўсведамляў, што амбасада як такая не толькі не ўплывае на вайсковае супрацоўніцтва паміж Каронай і Расіяй а, наадварот, стварае дадатковыя непаразуменні ў стасунках паміж двума дзяржавамі. Урэшце рэшт, Сабескі прыняў рашэнне зачыніць дыпламатычнае прадстаўніцтва, абгрунтаванае незадавальненнем расійскага боку дзейнасцю амбасадара. Адклікаўшы Доўманта, кароль прапанаваў цару зрабіць аналагічны крок. Учынак Сабескага выклікаў шок у Маскве. Пасольскі прыказ раптоўна змяніў сваю пазіцыю: расійскія дыпламаты больш не высоўвалі абвінавачанняў супраць Доўманта і былі вымушаныя фактычна ўпрошваць цара пакінуць расійскага рэзідэнта ў Варшаве.[27]

---

[23] ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1687 годзе, № 10; гл. таксама Стасункі з Польшчай у 1688 годзе, № 6.
[24] ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1688 годзе, № 6, ст. 6-7, і фонд 79, № 240, ст. 1193.
[25] ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 1193, 1200, 1211.
[26] Запісы сустрэчы Івана Акрасы з Украінцавым, 14 верасня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай, № 6, ст. 164-71.
[27] "Усё сведчыць пра тое, што патрэба ў Вашай Вернападданай Амбасадзе там цалкам знікла. Прыміце ўсе захады, каб у адпаведнасцю з пратаколам, павярнуцца да наступнага паседжання Парламента, якое, з Божага блаславення,

## Стасункі з арыстакратыяй і чынавенствам

У Маскве Доўмант меў не толькі асабістых ворагаў, але й шэраг сяброў. Яго нацятыя стасункі з Галіцыным, да 1689 года ўсемагутным "прэмьер-міністрам", выліліся ў непрыхаваную варажнечу. Галіцына раздражнялі бясконцыя просьбы аўдыенцыі Доўманта і яго крытыка расійскай вайсковых планаў і аперацый. Намагаючыся прымусіць Сабескага прызначыць іншага, "больш прыхільнага" да Расіі дыпламата, ён шэсць месяцаў запар адмаўляўся сустракацца з амбасадарам Рэчы Паспалітай.

Не лепшымі былі стасункі Доўманта з дзякам Пасольскага прыказа Емяльянам Украінцавым, чальцом Баярскай Думы, які ачоліў прыказ пасля адстаўкі Галіцына. Супярэчнасці паміж імі на прафесійнай глебе перараслі ў асабістую непрыязнь і скончыліся ўзаемнымі абразамі. Аднойчы раз'юшаны Доўмант проста выбег з будынка Пасольскага прыказа падчас перамоваў, чым глыбока ўразіў не толькі Украінцава, але нават пасольскіх пісцоў. Звыклыя да ляманту, пагрозаў і ўзаемных абвінавачанняў, яны, тым не менш, палічылі барбаскім тое, што Доўмант пакінуў перамовы без належнай цэрэмоніі.[28]

З усімі іншымі вышэйшымі чыноўнікамі Пасольскага прыказа, акрамя Івана Волкава, якога Доўмант абвінавачваў у таемным прысабечванні сродкаў кароннага скарба, амбасадар Рэчы Паспалітай падтрымліваў нармальныя стасункі. Нягледзячы не сведчанні супрцоўнікаў скарба, Волкаў адкідаў усе абвінавачанні. Пасольскі прыказ падтрымаў свайго рэзідэнта і адмовіўся пакрыць розніцу ў фінансаванні двух амбасадаў. Украінцаў сцвярджаў, што нават калі Волкаў атрымліваў ад караля больш, чым 12,500 злотых на год, збытак ставаўся каралеўскім падарункам, які расійскі бок не быў абавязаны павяртаць Доўманту.[29] Тым не менш, канфлікт з Волкавым не сапсаваў стасункі Доўманта з Міхайлавым, дамоў да якога каронны дыпламат наведваўся як найменш аднойчы.

Нягледзячы на афіцыйную забарону якіх-колечы кантактаў нават з найуплывовейшымі баярамі, Доўмант не толькі быў з імі знаёмы, але й меў сярод іх як сяброў, гэтак і ворагаў. У прыказе ведалі пра яго сувязі з баярамі і ўсімі сродкамі намагаліся іх перарваць. Тым не менш, расійскія дыпламаты не звярталі на гэта ўвагу Сабескага, бо кароль мог у адказ накласці аналагічныя абмежаванні на маскоўскага рэзідэнта ў Варшаве.

---

адбудзецца ў снежні"; ліст Сабескага Доўманту, 13 жніўня 1688 года, біб. Чарт., № 422, ст. 295; ліст Галіцына Агінскаму, 7 чэрвеня 1688 год, ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 213-16; ліст Доўманта Шчуку, 19 жніўня 1688 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163a, том 15, ст. 1299; спавешчанне пра размовы Вазніцына з чальцамі кароннай канцэлярыі ў Варшаве, чэрвень 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 234, ст. 230. Матчынскі прапанаваў Вазніцыну адклікаць амбасадараў, каб не абвастраць канфлікты ў стасунках паміж Масквой і Варшавай, ліст Вазніцына Галіцыну, 7 чэрвеня 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 88. Пасля вяртання з Масквы, шляхціч Дарэўскі, які пэўны час служыў маскоўскім баярам, паведаміў Сабескаму, што становішча Доўманта імгненне палепшылася, калі кароль вырашыў зачыніць амбасаду ў расійскай сталіцы. Ліст Вазніцына Галіцыну, 28 чэрвеня 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 97.

[28] ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 1083.

[29] Запісы размоваў Доўманта ў Пасольскім прыказе, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 42, 194, 246-47, 277, 329, 355, 694, 699, 702, 738, 745-46, 957. Ліст Доўманта Сабескаму, красавік 1689 года, біб. Чарт. № 182, ст. 614. Ліст кароннага падскарбія Шрайтэра Доўманту, 17 снежня 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай, 1688, № 6, ст. 377.

З улікам няспыннага змагання дыпламата са сваёй ахова, нядзіўна, што Доўмант канфліктаваў з галавой стральцоў Іванам Барысавічам Траекуравым.[30] А вось прычынай яго непрыхільнасці да даўняга сябра Пятра І Андрэя Артамонавіча Мацвеева грунтавалася на тыпова бытавым непаразуменні. Доўмант прывез у Маскву "пойнтэра дзівоснай масці", які праз некалькі дзён знік. Слугі амбасадара знайшлі сабаку ў рэзідэнцыі Мацвеева, і Доўмант даслаў да яго сваіх прадстаўнікоў з найлепшымі зычаннямі і просьбай павярнуць жывёлу. Мацвееў адказаў вяртаць пойнтэра. Паміж яго слугамі ды людзьмі амбасадара адбылося шэраг сварак, але ў выніку сабака застаўся ў Мацвеева.[31] Аналагічныя, часам нават крывапралітныя, звады здараліся паміж персаналам амбасады і слугамі двух іншых суседзяў Доўманта – прынцаў Кірылава ды Чаркасскага.[32]

З тых, хто стаў сябрамі, ці, прынамсі, добрымі знаёмымі, амбасадара Рэчы Паспалітай, асабліва выбіваліся Пётр Іванавіч Празароўскі, настаўнік цара Івана, і Барыс Пятровіч Шарамец'еў, якому Доўмант прывез польскую збрую. Акрамя іх, амбасадар сустракаўся з уплывовымі фігурамі ў атачэнні цара Пятра: Барысам Аляксеевічам Галіцыным, Львом Кірылавічам Нарышкіным ды Ціханам Нікіцічам Страшнёвым. Доўмант выкарыстоўваў кожную сустрэчу для вытлумачэння замежнай палітыцы Кароны і распаўсюда копіяў афіцыйных лістоў Сабескага.[33]

Доўмант быў знаёмы з маладым Пятром І – яны некалькі разоў сустракаліся ў доме генерала Патрыка Гордана. Яго стасункі з рэгенткай Соф'яй ставаліся абмежаванымі, бо хутка па прыездзе ў Маскву ён нанес ёй таемны начны візіт. Тым не менш, іх сустрэча ні да чаго не прывяла і Галіцын не змяніў свайго стаўлення да амбасадара. Гэта сведчыць пра тое, што Соф'я і яе прыхільнікі не збіраліся прасіць дапамогу Сабескага ў сваім змаганні з Нарышкінымі. Апошнія, у сваю чаргу, нацякнулі амбасадару, што Кіеў можа стацца ўзнагародай за падтрымку Варшавай кандыдатуры Пятра. У адказ Доўмант даў зразумець, што Рэч Паспалітая не будзе ўмешвацца ў справы царскай сям'і. Да пераварота 1689 года Доўмант меркаваў, што за ўладу ў Маскве змагаліся не дзве, а тры групоўкі: першую ачольвала Соф'я, якая прасоўвалі Івана, але насамрэч планавала сама заняць царскі трон; другую - Нарышкіны, якія падтрымлівалі кандыдатуру Пятра; і, нарэшце, трэцюю, найслабейшую групоўку самаго Івана, якая мела інтарэсы, асобныя ад Соф'іных.[34]

Нягледзячы на тое, што шчыльныя повязі з Празароўскім мусілі сведчыць пра нежаданне Доўманта бачыць на расійскім троне Пятра, ён захоўваў строгі нейтралітэт і не прыняў нічый бок падчас пераварота 1689 года.

## Крыніцы інфармацыі

Дакладныя спавешчанні Доўманта давалі Сабескаму неабходную яму значную інфармацыю пра стратэгічныя намеры Масквы. Кароль заўсёды ўчасна ведаў, ці будуць расійскія вайсковыя

---

[30] Запісы перамоваў Акрасы ў Пасольскім прыказе, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай, № 6, ст. 173-74.
[31] "Ліст падзякаў і скаргаў, пададзены Пасольскаму Прыказу Яго Вялікасці Цара мной, Амбасадарам і Рэйдэнтам Яго Вялікасці Караля і Рэчы Паспалітай," ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1688 годзе, № 7, ст. 11.
[32] Тамсама.
[33] Запісы размоваў Доўманта ў Пасольскім прыказе, люты 1693 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 706.
[34] Ліст Доўманта Сабескаму, 1688 год, AGAD, Радзівілаўскі Архіў II, том 25, ст. 143-44. Perdenia, Stanowisko Rzeczypospolitej szlacheckiej wobec sprawy Ukrainy na przełomie XVII-XVIII w. (Wrocław, 1963), ст. 31.

аперыцыі, як абяцана, наступальнымі або абарончымі, а таксама кірунак галоўнага ўдара і месцы скопішчаў войскаў. Доўмант паведамляў яму хто будзе камандаваць расійскімі войскамі і іх прыблізную колькасць. Спавешчанні дыпламата часцяком супрярэчылі афіцыйнай пазіцыі расійскага кіраўніцтва. Так, яшчэ ўвесну 1688 года Доўмант сцвярджаў каралю, што расійцы не адновяць абяцаны наступ на Перэкоп, а засяродзяцца на разбудаванні крэпасці на рацэ Самара. У гэты час Галіцын стала запэўніваў Сабескага, што ў 1688 годзе адбудзецца наступ расійскіх войскаў на Крым. Такім чынам, невыкананне расійскім бокам сваіх абяцанняў не стала для караля нечаканасцю.[35]

Паміж 1690 і 1694 годам, калі ў Пасольскім прыказе ўвесь час абяцалі наступальныя аперацыі супраць агульнага ворага, Доўмант рэгулярна пісаў, што “расійцы збіраюцца весці толькі абарончыя баі”. Іншымі словамі, яны збіраліся ваяваць толькі ў тым выпадку, калі на іх нападуць. Відавочна, што дыпламат мог атрымаць гэтыя звесткі толькі ад высокапастаўленага вайскоўца, які адначасова снабжаў яго інфармацыяй пра колькасць войскаў, сапраўдныя планы кіраўніцтва і настроі ў афіцэрскім корпусе. Надзвычай дакладнай была інфармацыя Доўманта, якая датычылася прыдворных інтрыгаў, плётак пра найбліжэйшае царскае атачэнне і сакрэтныя інцыятывы Пасольскага прыказа. Агулам, Доўмант атрымліваў інфармацыю ад знаёмых каталікоў, большасць з якіх была палякамі, а таксама ад расійскіх агентаў.

### Каталіцкая дыяспара

Напачатку сямнаццатага стагоддзя ў каталіцкую дыяспару ў Маскве ўваходзілі палякі, ліцвіны, а таксама шэраг шатланцаў, аўстрыйцаў, мараўцаў, Італьянцаў і французаў. Сярод іх былі вайсковыя афіцэры, купцы, настаўнікі, рамеснікі і музыкі. Ад пачатку стагоддзя ў Маскве пачалі спыняцца каталіцкія святары на шляху ў Персію. Больш за тое, цягам войнаў сярэдзіны стагоддзя паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй на землях апошняй аселі тысячы палонных, захопленых войскам Аляксея Міхайлавіча. Сярод іх былі й каталіцкія святары. У палоне яны праводзілі імшы, здзяйснялі таямніствы і нават спрабавалі весці прапаганду каталіцтва. Каралі Рэчы Паспалітай, паводле прыклада цара, намагаліся прадстўляць інтарэсы адзінаверцаў і абвяшчалі сябе абаронцамі расійскіх каталікоў.

У 1686 годзе, паводле ўмоваў Вечнага міра, цар атрымаў права афіцыйна прамаўляць ад імя праваслаўных Рэчы Паспалітай у абмен на большую свабоду расійскім каталікам. Да таго ж, вольны праезд па тэрыторыі Расіі гарантаваўся каталіцкім місіянерам, якія падарожнічалі ў Персію і Кітай, пры ўмове, што яны мелі пісьмовае ўхваленне іх місіі каралём.[36]

---

[35] Ліст Доўманта Сабескаму, красавік 1688 года, ЦГАДА, Архіў Патоцкіх, № 163а, том 18, ст. 814-15. Іншыя замежныя дыпламаты ў Маскве таксама ведалі, што ў 1688 годзе расійцы збіраюцца будаваць форт на рацэ Самара, а не ладзіць наступ на Крым. “Москва в 1687-1688 гг.” пер. и ред. К.А. Висковатов [спавешчанні шведскага дыпламата ў Маскве Крыстафа фон Кохэна Я.І.Хастферу, лістапад 1688 года] *Русская старина* 23 (1878): 128.

[36] Georgius David S.J., *Status Modernus Magnae Russiae seu Moscoviae*, ed. A.V. Florovskii (The Hague, 1965), ст. 69-73; P. Pierling, *La Russie et la Saint-Siège*, vol. 4 (Paris, 1907), ст. 113-14. Параграфы 9 і 28 “Дамовы Вечнага міра 1688 года” у *Prawa, Konstytucye I Przywileie*, vol. 6 (Warsaw, 1739) ст. 153-54, 162; Joseph Sebes, *The Jesuits and the Sino-Russian Treaty of Nerchinsk 1689* (Rome, 1961), ст. 97-102.

## Глава 4. Польская амбасада ў Маскве

Доўмант, натуральна, прыняў на сябе ролю прадстаўніка інтарэсаў расійскіх каталікоў, праз што хутка ўвайшоў у вышэйшыя колы маскоўскай каталіцкай дыяспары. Сярод сяброў-адзінаверцаў Доўманта былі нагэтулькі выбітныя царскія чыноўнікі, як генерал Патрык Гардон і Пол Мензіс ды крамлёўскі лекар Грэгары Карбанары.

Адразу пасля падпісання дамовы, яе пункты датычна рэлігійнай талерантнасці сталі прадметам узаемных папрокаў. Расійцы пратэставалі супраць перахросту праваслаўных ва ўніяцтва, а прадстаўнікі Кароны скардзіліся на нежаданне цара пабудаваць у Маскве каталіцкі касцёл і перашкоды каталіцкім святарам на шляху ў Кітай. На тле ўзаемных дыпламатычных закідаў шырыўся адцёк праваслаўных вернікаў Рэчы Паспалітай да ўніяцтва. Зачыняліся праваслаўныя манастыры, і нават найстаражытнейшыя і найбольш уплывовыя Пшэмысленская ды Ільвоўская праваслаўныя епархіі схіляліся да ўніяцтва. У гэткіх варунках абаронцы праваслаўя звярнуліся па дапамогу да цара. У Кароне, аднак, адкідалі любыя абвінавачанні ў рэлігійным прымусе і нагадвалі Маскве, што ў той час, як у Рэчы Паспалітай было шмат праваслаўных манастыроў, у Расіі не існавала аніводнага каталіцкага касцёла.[37] Расійскія ўрадоўцы не спяшаліся выконваць свае абяцанні датычна пабудовы касцёлаў у Маскве і Смаленску ці спрыяння каталіцкім місіянерам на шляху ў Кітай, але зачынялі вочы на прыватную рэлігійную дзейнасць каталіцкіх святароў.

Праваслаўная царква займала іншую пазіцыю. Яе галовы ганілі любыя рэлігійныя рытуалы, якія ладзілі замежнікі ці для іх, няспынна цверджачы, што яны супрацьмовяць расійскаму ладу жыцця і каштоўнасцям ды адвяртаюць расійцаў ад праваслаўя. Часам праваслаўныя іерархі заклікалі цара выслаць усіх замежнікаў, часам абмяжоўваліся патрабаваннем забараніць расійцам служыць у дамах замежных падданых. Праваслаўныя іерархі сцвярджалі, што замежныя спецыялісты мусілі прыняць праваслаўе, каб служыць у расійскім войску. Яны выступалі супраць узвядзення любых неправаслаўных рэлігійных будынкаў на расійскай зямлі. Звычайна цар не надаваў значнай увагі іх просьбам, прынамсі, датычна неправаслаўных на дзяржаўнай службе ці ў войску. Тым не менш, у перыяды напружанай унутрапалітычнай сітуацыі праваслаўная царква дамагалася абмежавання рэлігійнай свабоды замежнікаў.[38]

Галовы праваслаўнай царквы рабілі ўсё магчымае, каб сталіцы Расіі не з'явіўся каталіцкі касцёл – нягледзячы на тое, што ў Маскве тады ўжо існавалі два кальвінісцкія і адзін лютэранскі сабор. Наступ каталіцтва на праваслаўе ў Рэчы Паспалітай насцярожваў і моцна непакоіў праваслаўных іерархаў у Расіі. Пасля пераварота 1689 года праваслаўныя іерархі распачалі ксенафобскую

---

[37] Ліст са Смаленска, 31 ліпеня 1693 года, K. Sarnecki, *Pamiętniki z czasów Jana Sobieskiego. Diariusz I relacje z lat 1691-1696* (Wrocław, 1958), ст. 356-58; спавешчанне з маскоўскай мяжы, 30 сакавіка 1694 года, тамсама, ст. 360.

[38] У студзені 1686 года халмагорскі архіепіскап Афанасі падаў царам ліст, дзе прасіў расійцам мешкаць у дамах замежных грамадзянаў. Архіепіскап быў упэўнены, што расійцы, якія штодзень кантактавалі з замежнікамі, пераймалі іх ерасі. Цары загадалі скласці спіс усіх расійцаў, якія мешкалі ў дамах замежнікаў, выселіць іх адтуль і забараніць царскім падданым мешкаць у замежнікаў пад страхам смяротнага пакарання. Замежныя купцы, якія знянацку апынуліся без сталай прыслугі, звярнуліся да цара з просьбай скасаваць гэтае абмежаванне, якое не дазваляла ім гандляваць з маскоўскай дзяржавай. Цары задавольнілі іх просьбу. Тым не менш, забарона трывала датычна расійцаў, якія не наведвалі царкву і вялі распусны лад жыцця. ЦГАДА, фонд 35, Стасункі з Англіяй у 1686 годзе, № 1, ст. 2-29.

кампанію супраць высокаадукаваных манахаў кіеўскай акадэміі, якіх малявалі распаўсюднікамі нянавіснай маскоўскаму патрыярхату лацінскай ерэсі.[39]

Дапамога Сабескага іезуіцкім манахам, якія намагаліся наладзіць сухаземны шлях у Кітай, яшчэ больш распаляла падазронасць вышэйшага праваслаўнага духавенства. Іезуітаў, якія дзейнічалі пад аховай караля Рэчы Паспалітай, у Маскве разглядалі як прадвеснікаў маштабнай місіянерскай кампаніі. На самой справе, знаходжанне іезуітаў у расійскай сталіцы было абгрунтавана выключна іх цікаўнасцю да Кітая.[40] Зразумела, што падчас свайго перабывання ў Маскве іезуіты не маглі цалкам устрымлівацца ад місіянерскай дзейнасці, але рабілі гэта надзвычай стрымана. Сабескі заахвочваў французскіх, польскіх і аўстрыйскіх іезуітаў вандраваць у Расію і вітаў іх намеры даследаваць шлях у Кітай, вынайдзены і апісаны слынным перакладчыкам Пасольскага прыказа Нікалае Мілеску Спатарулам.[41]

У перыяд ад 1684 да 1689 года пры дапамозе Леапольда І і Яна Сабескага ў Маскве з'явіліся некалькі іезуіцкіх святароў. Прускі іезуіт Жан Шмідт, які прыехаў у расійскую сталіцу разам з Карла-Маўрыцыя Вотам у межах вялікай аўстрыйскай місіі 1684 года, застаўся ў Маскве да сваёй смерці ў 1687 годзе. У гэтым жа годзе ў Маскву прыбылі Георгіюс Давід і Тобіяс Ціханскі, якім Леапольд І загадаў знайсці сухаземны шлях у Кітай, а таксама Філіп Аўрыль і Луі Барнабэ, якія з аналагічнай мэтай здзейснілі падарожжа ў Маскву з Персіі праз Астрахань. Галіцын не дазволіў апошнім працягнуць шлях і скіраваў іх да Сабескага з прычыны таго, што яны мусяць мець на гэта пісьмовае ўхваленне караля Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на тое, што Аўрыль і Барнабэ здабылі ў Варшаве неабходныя паперы, расійскія чыноўнікі адмовіліся пусціць іх у краіну. Нежаданне Пасольскага прыказа прапусціць іезутіаў у Кітай, магчыма, тлумачылася тым, што французскі кароль ставаўся хаўруснікам турэцкага султана. Настойлівы Аўрыль усё ж уехаў у Расію пад выглядам польскага святара, але быў у хуткім часе яго выкрылі і выжанілі ў Рэч Паспалітую. Тым не менш, француз

[39] П. Смирнов, *Иоаким, патриарх московский* (Москва, 1881) ст. 127-53, 223-38; И. Козловский, *Сильвестр Медведев* (Киев, 1895); Е. Шмурло "Русские католики конца XVII в.," у *Записки Русского научного института в Белграде* 3 (1932); А. Брикнер, *Патрик Гордон и его дневник* (Санкт-Петербург, 1878), ст. 124-37; Pierling, *La Russie*, 4; 68-123. *Письма и донесения Иезуитов о России конца XVII и начала XVIII века* (Санкт-Петербург, 1904); Д. Толстой, *Римский католицизм в России* (Санкт-Петербург, 1876); Д. Цветаев, *Из истории иностранных вероисповеданий в России в XVI и XVII веках* (Москва, 1886). Перамога Іаакіма выявілася нетрывалай, бо запрошаных ім грэкаў "побеждает Киев". Г. Флоровский, *Пути русского богословия* (Париж, 1937), ст. 81. К.В. Харлампович, *Малороссийское влияние на великороссийскую церковную жизнь* (Казань, 1914), ст. 250-456; L.R. Lewitter, "The Russo-Polish Treaty of 1686 and its Antecedents," *The Polish Review* 9, нум. 3-4 (1964): 7-8, 23-25; В.О. Эйнгорн, *Дипломатические сношения московского правительства с правобережной Малороссией в царствование Алексея Михайловича* (Москва, 1899).

[40] Sebes, *The Jesuits*, ст. 95-100, 139; Pierling, *La Russie*, 4; 79-114. Гл. таксама *Русско-китайские отношения в XVII веке. Материалы и документы (1686-1689)*, том 2 (Москва, 1972).

[41] Д. Урсул, *Философские и общественно-политические взгляды Н.Г. Милеску Спафария* (Кишинёв, 1955), ст. 32-34. Расійцаў зусім не цешылі звесткі пра поспехі іезуітаў у Кітаі. Найвыбітнейшы перакладчык Пасольскага прыказа і расійскі амбасадар у Кітаі Нікалае Мілеску Спатарул пісаў: "Іезуіты мяркуюць, што ў хуткім часе ўсе кітайцы будуць каталікамі. Але," - дадаў ён, "мы верым ў тое, што, з Божым блаславеннем і паводле волі цара, кітайцы ... прымуць праваслаўе"; *Russia, Mongolia, China* ed. John Baddeley (London, 1919), цытавана паводле Vincent Chen, *Sino-Russian Relations in the Seventeenth Century* (The Hague, 1966), ст. 113. Мілеску атрымліваў карысную інфармацыю ад Фердынанда Фэрбіста, які дапамагаў яму ў Пекіне. Mark Mancal, *Russia and China: Their Diplomatic Relations to 1728* (Cambridge, Mass., 1971), ст. 77-78, 98-101. Пра кантакты Мілеску Спатарула з іезуітамі ў Маскве гл. Georgius David, *Status Modernus*, ст. 20.

здолеў знайсці копію дэталёвай мапы сібарскага шляха ў Кітай, складзенай Спатарулам. Акрамя гэтага, Аўрыль меў шэраг цікавых размоў з Васіліям Галіцыным і іншымі расійскімі палітыкамі.[42]

Іезуіты прабылі ў Маскве ўсяго толькі пяць год (ад 1684 да 1689 года). За гэты час яны паспелі не толькі ажывіць актыўнасць каталіцкай дыяспары Масквы, але й у значнай ступені паўплываць на грамадскую думку. Іх здольнасць хутка ладзіць з арыстакратыяй і падтрымліваць добрыя стасункі з асвечанымі чыноўнікамі непакоіла патрыярха Іяхіма, які скарыстаўся пераваротам 1689 года, каб дамагчыся забароны іезуіцтва ў Расіі. Маскоўскія іезуіты вырашылі не падпарадкоўвацца загаду пакінуць краіну. Доўмант даў ім прыбежышча ў сваёй рэзідэнцыі. У хуткім часе амбасада Рэчы Паспалітай была літаральна ўзятая ў аблогу, але Доўмант не даў стральцам сябе запужаць і агалосіў, што іезуты пакінуць Расію толькі, калі ён атрымае адпаведны загад ад караля. Сабескі, у сваю чаргу, дамогся ад Крамля абяцання, што на месца іезуітаў у Маскву будзе дазволена прыехаць каталіцкаму святару.[43]

Актыўнае заступніцтва за іезуітаў надала Доўманту пашану ўсёй маскоўскай каталіцкай дыяспары. Як і ўсім іншым, каталікам на царскай службе было забаронена падтрымліваць кантакты з замежнікамі, аднак рэлігійныя службы пад забарону не падпадалі. Так, кожную нядзелю пасля імшы, якая праводзілася ў маленькай капліцы ў прыватным доме заможнага тасканскага купца Франчэска Гуасконі, выбітныя прадстаўнікі каталіцкай дыяспары Масквы збіраліся за сталом і праводзілі разам збытак дня. Доўмант наведваў нядзельныя сустрэчы ў доме Гуасконі і часам нават заставаўся ў яго на ноч, што давала прадстаўнікам Пасольскага прыказа падставы абвінавачваць яго ў амаральнасці. Шатландскі каталік Патрык Гордан каля трыццаці разоў згадвае ў дзённіку пра свае сустрэчы і размовы з Доўмантам, падчас якіх, бессумнеўна, прысутнічалі й іншыя маскоўскія каталікі.[44] Генерал Гордан тамсама нацякаў, што чытаў копіі лістоў Сабескага цару, якія яму паказваў Доўмант. Падаецца, што польскі амбасадар намагаўся пры дапамозе Гордана забяспечыць падтрымку расійскай вайсковай элітай актыўнага супрацоўніцтва паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай.[45]

Асцярожны шатландзец пазбягаў любога ўмяшальніцтва ў палітыку, нягледзячы на тое, што цягам 1687-1688 гадоў у яго было багата падстаў скардзіцца на хіжасць і падступнасць расійскіх дыпламатаў. Цар адмовіў Грдану ў яго просьбе пакінуць расійскую службу. Натуральна, што да прыняцця расійскай прысягі генералу ўрачыста паабяцалі права пакінуць Расію пасля выканання ім усіх абавязальніцтваў. Але ў хуткім часе шатландзец зразумеў, што атрымаць дазвол на выезд з краіны будзе немагчыма. Гордан мог паспрабаваць уцякчы, але гэта прывяло б да згубы ўсёй маёмасці і пашкодзіла яго родзічам і сябрам. Кароль Англіі Джэймс II намагаўся вызваліць свайго палымянага прыхільніка і запытаў дазволу расійскага бока прызначыць Гордана амбасадарам

[42] Philippe Avril, S.J., *Voyage en divers États d'Europe et d'Asie pour decouvrir un nouveau chemin à la Chine* (Paris, 1693); Georgius David, *Status Modernus*, ст. 10-69; Pierling, *La Russie*, 4: 79-114. Ліст Агінскага Галіцыну, 2 лістапада 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай, 1688, № 3, ст. 15.
[43] Доўмант здолеў пратрымаць іезуіта Тэрпілоўскага ў Маскве да ліпеня 1690 года. Patrick Gordon, *Tagesbuch des Generals Patrick Gordon während seiner Kriegsdienste unter den Schweden und Polen 1655-1661, und seines Aufenthaltes in Russland 1661-1699*, том 2 (St. Petersburg, 1851), ст. 287.
[44] Тамсама, ст. 206-436.
[45] Тамсама ст. 212, 213, 222, 230, 234, 238, 240, 303, 307, 319, 328, 330-31, 342.

Англіі ў Расіі. У Пасольскім прыказе не хацелі адмаўляць англійскаму каралю, таму адклалі канчатковае рашэнне да сканчэння вайны з Турцыяй. Акрамя таго, была адхіленая просьба Гордана надаць яму манаполію на гандаль тытунямі. Адзінае хадайніцтва Гордана, задаволенае Соф'яй і Галіцыным датычылася яго сына Тэадора, якому было дазволена навучацца ў Замасьцкай акадэміі.[46] Шатландзец быў відавочна расчараваны і ахвотна пагаджаўся з доўмантавай крытыкай маскоўскага ладу.

Абмен візітамі, ліставанне і ўзаемныя паслугі сведчаць пра яшчэ больш шчыльныя стасункі Доўманта з доктарам Карбанары і генералам Мензіесам. Калі Доўмант вяртаўся з Расіі ў Рэч Паспалітую, ён беспаспяхова спрабаваў перавезці праз сяброў Карбанары і Мензіеса Крыстафера Колера і Яна Коха, якіх утрымлівалі на царскай службе супраць іх волі. Акрамя таго, дыпламат намагаўся таемна ўвезці ў Расію патрэбны для вядзення імшы арган, абвешчаны праваслаўнай царквой д'ябальскім вынаходніцтвам. Карбанары падзяляўся з Доўмантам не толькі апошнімі палітычнымі плёткамі, але й салатам ды іншай вырошчванай на крамлёўскай дзялянцы гароднінай.[47]

Вядома, што ані Патрык Гардон, ані Карбанары, ані Мензіес не былі агентамі Доўманта і не перадавалі яму сакрэтную інфармацыю, якая б шкодзіла расійскім інтарэсам. Усе яны, аднак, жылі ў краіне, дзе якая-колечы інфармацыя магла быць абвешчанай дзяржаўнай таямніцай, а любыя сустрэчы з замежнымі дыпламатамі ставаліся рызыкоўнымі. Ва ўмовах, калі любая інфармацыя – сакрэтная, і ўсё забаронена, мяжа паміж сапраўднай дзяржаўнай таямніцай і простым фактам стаецца размытай. Проста наведаць Доўманта самое па сабе ставалася парушэннем. Акрамя таго, у запалітызаванай атмасферы Масквы 1687-1689 гадоў усе пільна назіралі за развіццём супрацьстаяння Пятра і Соф'і, а горад поўніўся чуткамі з царскага палаца. Доўмант не мог не ведаць пэўныя расійскія вайсковыя сакрэты, бо афіцэры звычайна абмяркоўваюць у сваім коле былыя і будучыя кампаніі. Расійцы ўсведамлялі, што вайсковая тэматыка ў размовах з замежнікамі ставалася забароннай і закраналі яе толькі, калі былі п'яныя ці свядома йдучы на дзяржаўнае злачынства. Аднак замежнікі на царскай службе адстойвалі права захоўваць звыклыя ім стандарты паводзінаў і кіравацца сваёй этыкай, нават нягледзячы на афіцыйныя расійскія забароны і строгі нагляд за іх прыкладаннем. У расійскім асяродку яны прытрымліваліся правілаў (ці, прынамсі, рабілі адпаведны выгляд). Але паміж сабой: у царкве ці проста ў замежным квартале яны намагаліся як мага больш адасобіцца ад расійцаў і іх рэпрэсіўнай палітычнай сістэмы.

Жаданне сцвердзіць сваю незалежнасць у чужым асяродку і стварыць уяўленне свабоды праз вольную камунікацыю з іншымі замежнікамі выяўлялася і ў дзецях замежных грамадзян, якія часцяком прымалі праваслаўе, але захоўвалі моўныя і культурныя повязі з радзімай. Некаторыя адукаваныя расійцы інстынктыўна паводзілі сябе падобным чынам: яны намагаліся давесці

[46] Ліст Гордана міністру Графу Мідлтанскаму, 17 верасня 1686 года, 3 снежня 1686 года, 7 і 25 студзеня 1687 года, Брытанскі Музей, № 41.842, ст. 148, 150, 152, 154. Ліст Гордана Сэмюэлю Мэрэвэлу, 16 верасня 1687 года, Брытанскі Музей, № 41.842, ст. 159. Gordon, *Tagesbuch*, том 2, ст. 210, 329.

[47] Ліст Доўманта Карбанары, 25 лютага 1694 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 1213-14.

замежнікам сваю інтэлектуальную роўнасць, размаўляючы з імі на лаціне, цешыліся з выкліканага гэтым здзіўлення і ахвотна адмяжоўваліся ад сваіх “нееўрапейскіх” суайчыннікаў.[48]

## Грамадзяне Рэчы Паспалітай

Пасля вайсковай кампаніі 1654-55 гадоў, якая скончылася акупаваннем царскімі войскамі большай частцы Вялікага Княства, мясцовае насельніцтва масава перавозілася ў Расію. Прычым жаўнераў сярод дэпартаваных было надзвычай мала – большасць з іх складалі купцы, рамеснікі і простыя сяляне. У 1655 года палонным быў адведзены ў Маскве цэлы квартал – Панская (Вялікалітоўская), ці Мяшчанская Слабада. Доўмант, які адпачаткова пасяліўся ў Мяшчанскай Слабадзе, дакладаў Марцыяну Агінскаму, што яна некалі складала 3000 дамоў.[49] Павел Алепскі, які наведаў Маскву ў 1654-1655 годзе, пісаў пра 300,000 палонных і дэпартаваных з тэрыторыі Вялікага Княства, якіх перасялілі ў Расію.[50] Шмат каго з палонных скіроўвалі ў Сібір, дзе іх прымусова забіралі ў царскае войска.[51] Так, кітайскі генерал Пэнг-тун пісаў зварот да абаронцаў крэпасці Альбазін на рацэ Амур не толькі па-манчжурску і па-руску, але й па-польску.[52]

Значная колькасць палонных павярнулася ў Вялікае Княства пасля заключэння міра ў 1677 годзе, але некаторыя здолелі здабыць вышэйшы сацыяльны статус, чым той, што яны мелі на радзіме, пабраліся шлюбам і засталіся ў Расіі. Шмат хто з іх асеў у Мяшчанскай слабадзе і дапамагаў суайчыннікам, якія прыехалі ў Маскву па сваёй волі, завабленыя абяцаннямі высокіх заробкаў і магчымасцю хутка зрабіць кар’еру. Расійцы заахвочвалі іміграцыю настаўнікаў, жаўнераў, дактароў, рамеснікаў і хатняй прыслугі. Добра адукаваныя плябеі і дзеці збяднелай кароннай шляхты выпраўляліся на ўсход у пошуках лепшага жыцця. Плябеі, якія звычайна выдавалі сябе за шляхцічаў, траплялі ў расійскае войска ці на службу да баяраў. Сярод тагачаснай маскоўскай эліты было прынята наймаць на службу не толькі каронную шляхту, але й польскіх ды ліцвінскіх

[48] Замежнікі добра адчувалі сябе ў кампаніі Васілія Васільевіча Галіцына, Андрэя Барысавіча Галіцына, Барыса Пятровіча Шарамецева і Андрэя Андрэевіча Вініуса. З усіх вядомых нам крыніцаў, толькі Павел Алепскі і Томас Перэйра пісалі пра добрую адукаванасць маскоўскага чынавенства. Найлепш адгукаўся пра іх Павел Алепскі: “Бо маскоўцы вядомыя сваёй ведай і фоласофіяй, сваім розумам, вынаходлівасцю, праніклівасцю ды здольнасцю ставіць і адказваць на пытанні, якія ставяць у тупік нават найразумнейшых і найадукаванейшых. Хай дапаможа Пан Бог нашаму Айцу Патрыярху не быць горшым за іх і дазволіць нам годна трымацца з імі як з роўнымі”; *Павел Алепскі*, том 1, ст. 283-304.

[49] Ліст Доўманта Агінскаму, 14 кастрычніка 1688 года, AGAD, Радзівілаўскі Архіў II, № 25, ст. 96-97; “Panska seu Polski Sloboda hanc incolunt Circassii et Polonia per varia bella eo abducti,” Georgius David, *Status Modernus*, ст. 89.

[50] На шляху з Украіны ў Маскву Павел Алепскі бачыў “калёсы поўныя палоннымі, прывезенымі маскоўцамі з краіны палякаў: там былі толькі жанчыны і дзеці – усіх мужчын забівалі на месцы”; том 1, ст. 297. У сваім грунтоўным даследзе Мальцаў апісвае палітыку цара дытычна насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага падчас вайны 1654-76 гадоў. Паводле яго, усе, каго паланілі і вывезлі ў Расію, мусілі там застацца. Павел Алепскі і Мальцаў адзначылі значнае падзенне коштаў на рабоў пасля ўзяцця Смаленска і захопа іншых вялікакняжацкіх тэрыторыяў. Павел Алепскі, том 1, ст. 339; Мальцев, *Россия и Белоруссия в середине XVII века* (Москва, 1974), ст. 49, 147, 182-90. Л.С. Абецедарский, *Белоруссия и Россия*, XVI-XVII вв. (Минск, 1978), ст. 209-49.

[51] “... Імператар пасяліў на маскоўскіх тэрыторыях і прыняў у сваё войска за звычайную плату тысячы каронных вайскоўцаў і іншых грамадзянаў,” *Павел Алепскі*, том 2, ст. 237; A. Kamieński, “Dyaryusz więzienia moskiewskiego, miast I miejsc,” у *Księga zbiorowa ofiarowana księdzu Franciszkowi Bażyńskiemu* (Poznań, 1874), ст. 378-88; С.А. Белокуров “О лицах сосланных в Тобольск за 1654-1662 гг.,” у яго *Из духовной жизни Московского общества XVII в.* (Москва, 1902), ст. 39-75; Мальцев, *Россия и Белоруссия*, ст. 147; Абецедарский, *Белоруссия*, ст. 210; D.J. Rezun і I.P. Kamieniecki, “Polacy na Syberii v XVII wieku. Ludzie luzni w Kuznieckim Ostrogu,” *Przegląd Historyczny* 78, нум. 3 (1987): 395-410. А.И. Рогов, “Польские художники в Москве в *XVII* в., их роль и значение в развитии русско-польских культурных связей этой эпохи,” у *Przemiany w Polsce, Rosji, na Ukraine, Białorusi b Litwie, druga połowa XVII – pierwsza połowa XVIII w.*, ed. Juliusz Bardach (Wrocław, 1991), ст. 217-37.

[52] Sebes, *Jesuits*, ст. 69.

настаўнікаў сваім дзецям. Яны звычайна выкладалі лаціну, польскую мову і часам рыторыку. Напрыканцы сямнаццатага стагоддзя ў Маскве амаль не засталося баярскіх сем'яў, якая б не карысталіся паслугамі грамадзянаў Рэчы Паспалітай.[53]

Аднак далёка не ўсім новапрыбылым падабаліся расійскія завядзёнкі. Тыя, хто вырашаў павярнуцца ў Карону, з жудасцю даведваліся, што здзейсніць падарожжа на ўсход куды цяжэй, чым у зваротным кірунку. Расійскія чыноўнікі на падставе самых розных прычын адмаўляліся выдаваць замежнікам афіцыйныя дазволы пакінуць краіну. Шмат хто з грамадзянаў Кароны служылі ў прыватных асобаў на ўмовах *кабалы* - дамовы, якая фактычна замацоўвала іх прыгонны статус. Грамадзяне Рэчы Паспалітай, якіх падманам ці супраць іх волі трымалі ў Маскве, часцяком звярталіся па дапамогу да каралеўскіх дыпламатаў. Часам амбасадары былі здольныя дапамагчы суграмадзянам павярнуцца на радзіму. Так, аўтар пешага этнаграфічнага апісання ўсходняй Сібіры Адам Каменскі Длужык, які служыў у царскім войску на рацэ Амур,[54] збег у Рэч Паспалітую ў 1672 годзе ў складзе атачэння амбасадараў Яна Гмінскага і Цыпрыяна Брзастоўскага. У 1678 годзе Брзастоўскі, разам з дыпламатам Чартарыйскім, без дазволу расійскіх уладыў правезлі праз мяжу шляхціча Невейскага, які збег з кабальнай службы. Нягледзячы на тое, што падчас візіта каронных дыпламатаў гаспадар закаваў Нявінскага ў кайданы, шляхціч здолеў вырвацца з няволі і з'явіўся ў часовай рэзідэнцыі каралеўскіх дыпламатаў, цягнучы за сабой жалезныя путы. Тым не менш, расповяд Нявінскага пра свае пакуты ў Расіі не паўплываў на служкаў Чартарыйскага, каля тузіна з якіх прынялі прапановы застацца служыць расійскім баярам. Невядома, ці нехта з іх падзяліў лёс Нявінскага, але трэба прыпусціць, што ўсе яны атрымалі дастаткова заманлівыя прапановы, каб не зважаць на досвед няшчаснага Нявінскага.[55] Расповяды пра бліскучыя кар'еры і неверагодныя заробкі замежнікаў у Расіі чаргаваліся з гісторыямі пра тое, як чужынцаў там запрыгоньвалі, дасылалі ў аддаленыя сібірскія гарнізоны ці проста не плацілі за службу. Аднак тых, хто ніколі не быў у Расіі, натуральна, спакушалі прыгожыя абяцанкі расійскіх працадаўцаў. Так, расійсікі амбасадар Чадаеў падчас толькі аднаго свайго візіта ў Рэч Паспалітую ў 1687 годзе здолеў без значных высілкаў наняць некалькі тузінаў спецыялістаў.

Шмат хто з нанятых Чадаевым атрымліваў нашмат менш, чым было адпачаткова абяцана, не кажучы ўжо пра няіснаванне "гарантаванага" права павярнуцца на радзіму. Падманутымі апынуліся злотнік Балцэр дэ Энзі (які пераехаў у Расію разам з сям'ёй і памагатымі), Гржэгаж

---

[53] Белокуров, «О Посольском приказе», ст. 131-32. У сваім звароце да Соф'і Аляксееўны з просьбай заснаваць акадэмію Мядзведзеў адзначае, што яго сучаснікі наймалі выкладчыкаў лаціны, грэчаскай ды польскай мовай. «Вручение Благоверной и Кристолюбивой великой Государыне премудрой Царевне милосердной Софии Алексеевне...» у *Древняя российская вивлиофика*, том 6, под ред. Н.И.Новикова (Москва, 1788), ст. 409, 417.

[54] Выдавец дзённіка Каменскага-Длужыка памылкова меркаваў, што ён правёў у Сібіры толькі два гады. На самой справе, Каменскі-Длужык жыў там дванаццаць год. Барыс Палявы, які знайшоў архіўныя матар'ялы датычна ссылкі Камінскага ў Сібір, даводзіць яго сапраўдны тэрмін перабывання ў Сібіры. Б.Б. Полевой «Адам Каменский-Длужик в Восточной Сибири и источники его этнографических сообщений» у *Historia kontaktów polsko-rosyjskich w dziedzinie etnografii* (Wrocław, 1976), ст. 139-149. Гл. таксама: A. Kuczyński, *Syberyjskie szlaki* (Wrocław, 1972), ст. 20, 68-70, 75, 106, 116-41, 144; S. Kałużyński, "Najstarsza relacja z wędrówek po Syberii," у *Szkice z dziejów polskiej orientalistyki,* вып. 3 (Warsaw, 1969) ст. 67-82; J. Krzyżanowski, "Pierwszy nasz pamiętnik jeńca-syberaka," *Pamiętnikarstwo polskie* 1973, нум. *3-4*, ст. 215-16. Палявы адзначыў ролю палонных з Рэчы Паспалітай у асваенні, апісанні ды картаграфаванні Сібіры. Полевой, "Адам Каменский", ст. 145, 148.

[55] Таннер, «Описание путешествия», ст. 96-97.

Астроўскі, Габрыэль Пашкевіч, Базыль Бржэскі, Матэуш Чэховіч і шмат хто іншы. Усе яны звярнуліся да Доўманта, які паспрабаваў ім дапамагчы. Але выявілася, што расійцы ігнаравалі не толькі звароты амбасадара, але й самога Сабескага. Паводле маскоўцаў, грамадзяне Рэчы Паспалітай прымалі свядомае рашэнне і мусілі прымірыцца з яго наступствамі.[56] Калі афіцыйныя захады выявіліся нядзейнымі, Доўмант пачаў дзейнічаць праз хабар, выкрадannі ды найманне грамадзянаў Кароны да сябе на службу. Усё гэта зрабіла Доўманта героем у вачах польскай дыяспары Масквы, чальцы якой ахвотна падзяляліся з ім ведай пра Расію і сакрэтамі сваіх гаспадароў.

## Замежныя дыпламаты і расійскія агенты

Доўмант падтрымліваў добрыя стасункі з амбасадарамі іншых дзяржаваў у Маскве, у іх ліку з рэзідэнтам Нідэрландаў баронам Ёханам фон Келерам, шведскім упаўнаважаным Крыстафам фон Кохенам ды аўстрыйскім амбасадарам Іяганам Ігнацам Курцам, які знаходзіўся ў расійскай сталіцы ўсяго некалькі месяцаў у 1691 годзе. Шведскі амбасадар быў відавочна зацікаўлены ў працягненні расійска-турэцкай вайны. Аналагічную пазіцыю займаў фон Келер, які спачатку цягам шэрагу год прасоўваў ідэю анты-турэцкага хаўруса Кароны і Расійскай імперыі, а пасля яго заключэння дапамагаў Маскве і Варшаве падтрымліваць добрыя стасункі. Паводле спавешчанняў нідэрландскага амбасадара, ён час ад часу сустракаўся з каронными дыпламатамі і чытаў некаторыя лісты Сабескага расійскім царам. Ёсць сур’ёзныя падставы меркаваць, што менавіта фон Келер папярэдзіў Доўманта пра таемныя намеры расійцаў заключыць сепаратны мір з Турцыяй. Цяжка пераацаніць значнасць шчыльных стасункаў Доўманта з галандскім амбасадарам, бо фон Келер як ніхто іншы ведаў сакрэты Пасольскага прыказа – прыстаўлены да яго чыноўнік прыказа “перакладчык” Ляонці Грос быў нідэрландскім агентам.[57]

Аўстрыйскі амбасадар таксама падтрымліваў добрыя стасункі з Доўмантам, які цалкам падтрымліваў намаганні Курца падштурхнуць расійцаў да вялікага наступу на Крым. Менавіта з гэтае прычыны Доўмант наважыўся непрыхавана парушыць правілы Пасольскага прыказа і наведаць Курца яшчэ да таго, як аўстрыйскі амбасадар атрымаў аўдыенцыю цара. Стральцы, якія ахоўвалі аўстрыйскую амбасаду паспрабавалі яго спыніць. Доўмант не звярнуў увагу на іх папярэджанні і пусціў каня ў галоп. Збіўшы варту, ён пераскочыў праз плот на тэрыторыю амбасады.[58]

Нам вядомае імя толькі аднаго з расійскіх інфарматараў Доўманта – Афанасія Васільева, паддзячага Пасольскага прыказа. Яны пазнаёміліся ў 1689 годзе, калі Васільеў суправаджаў выгнаных з Расіі іезуітаў да мяжы Рэчы Паспалітай. Доўмант далучыўся да працэсіі на частку шляха, і з таго часу падтрымліваў з Васільевым шчыльныя стасункі. У 1691 годзе Васільеў атрымаў прызначэнне ў Варшаву, але праз год Міхайлаў даслаў яго ў Маскве пад канвоем стральцоў.

[56] Ліст са скаргамі і пратэстамі, пададзеныя Доўмантам у Пасольскі прыказ у 1688 годзе, ЦГАДА, фонд 79, стасункі з Польшчай 1688, № 7, ст. 11; ліст Доўманта Сабескаму ад 22 ліпеня 1688 года, AGAD, Радзівілаўскі Архіў V, № 73, нум. 3252.

[57] *Repertorium der diplomatischen Vertreter aller Länder,* vol. 1, ed. L. Bittner and L. Grass (Berlin, 1936), ст. 361, 498, 161. Гл. таксама М.И. Белов, «Нидерландский резидент», ст. 63-65, 118-28 ды інш.; С.А. Белокуров, «Списки дипломатических лиц русских за границей и иностранных при русском дворе», у *Сборник Московского главного архива Министерства иностранных дел*, том 5 (Москва, 1893), ст. 244-245; «Москва в 1687-1688 гг.», ст. 122-29.

[58] Запіс размовы Доўманта ў Пасольскім прыказе, 2 траўня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, том 240, ст. 187-88; Белов, «Нидерландский резидент», ст. 123.

Рэзідэнт патлумачыў гэта наступным чынам: “Афонька пачаў моцна піць, і яму сталася немагчыма даручаць заданні вялікага цара, бо ён мог зрабіць якую дурасць ці ўчыніць шкоду”.[59] Зганьбаваны Васільеў адкідаў абвінавачанні Міхайлава ў п’янстве. Ён вызнаў толькі адзіны гэткі выпадак, які, да ўсяго, меў месца на прыёме расійскага рэзідэнта ў караля. Аднак смаленскі соценны стралец Алешко Барысаў, які суправаджаў Васільева ў Маскву, пацвердзіў, што той напіваўся ў кожнай карчме, дзе яны спыняліся. Натуральна, што ў Пасольскім прыказе тлумачэнню Васільева не далі веры, і ён быў звольнены з царскай службы. Пасля звальнення былы паддзячы зарабляў не жыццё тым, што пісаў любым замоўцам афіцыйныя лісты. У лютым 1693 года ён напісаў ліст для Доўманта, у якім ішлося пра фінансавыя злоўжыванні дзяка Волкава. Праз тое, што большасць лістоў ад Доўманта была па-польску, зварот на расійскай прыцыгнуў увагу чыноўнікаў Пасольскага прыказа. Паддзячыя прыйшлі да адзінадушнай высновы, што ліст быў напісаны Васільевым, і ў сакавіку яго выклікалі ў прыказ. Украінцаў, перакананы ў тым, што былы падначалены працаваў на Доўманта ад моманту выгнання іезуітаў, зладзіў яму допыт. Васільева абвінавацілі ў тым, што ён прадаў кароннаму амбасадару шыфр расійскай дыпламатычнай карэспандэнцыі. Былы супрацоўнік прыказа адкідаў усе абвінавачанні, але яго справа была пададзеная на разгляд цару і Баярскай Думе, якая прысудзіла яго да высячэння на “казле”, што фактычна значыла смяротны прысуд. Аднак праз умяшальніцтва паддзячых Пасольскага прыказа, якія далі заруку, што Васільеў больш ніколі не сустрэнецца з каронным амбасадарам ці яго памагатымі, прысуд змякчылі да высячэння ў Пасольскім прыказе.[60] Акрамя таго, быў зменены шыфр дыпламатычнай карэспандэнцыі.

Доўмант ніколі не згадваў прозвішча Васільева ў сваіх спавешчаннях, што нядзіўна, бо ён заўсёды надзвычай асцярожна згадваў сваіх інфарматараў. Нягледзячы на выкарыстанне шыфраў, Доўмант усведамляў, што любы з іх можна ўзламаць, таму апісваў сваіх інфарматараў цьмянымі фразамі, кшталту “высокапастаўлены чыноўнік”, “набліжаная да двара асоба” ці “мой знаёмы, які ведае маскоўскія сакрэты”. У гэтым Доўмант адрозніваўся ад расійскіх калегаў, якія, калі было патрэбна, называлі імёны сваіх агентаў.

## Ацэнка польскага амбасадара

Такім чынам, нават ва ўмовах амаль герметычна зачыненай расійскай сістэмы, не маючы доступу да аніякіх, акрамя афіцыйна дазволеных, сродкаў інфармацыі, каронны амбасадар заснаваў даволі шырокае сеціва інфарматараў.[61] Адначасова, нягледзячы на перашкоды з расійскага боку, ён паспяхова прасоўваў інтарэсы Рэчы Паспалітай у Маскве і распаўсюджваў інфармацыю пра вайсковыя і дыпламатычныя ініцыятывы караля. Той факт, што Украінцаў лічыў Доўманта сур’ёзным супернікам, а Галіцын усімі сродкамі перашкаджаў яго дзейнасці, сам па сабе сведчыць пра паспяховасць місіі кароннага амбасадара. Расійскія дыпламаты, якія ставіліся да Доўманта з паважлівай перасцярогай, уважалі яго за дастойнага суперніка. Тым не менш, у афіцыйных скаргах Сабескаму расійцы выстаўлялі амбасадара Кароны ў найгоршым святле. Паводле царскіх

[59] Ліст Міхайлава ў Пасольскі прыказ, 21 лютага 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 750.
[60] Запісы допытаў Васільева, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 248-52.
[61] Ліст Доўманта Шчуку, 19 студзеня 1691 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163а, том 18, ст. 714; ліст Доўманта Сабескаму, 18 снежня 1688 года, AGAD, Радзівілаўскі Архіў V, № 73, нум. 3252; ліст Доўманта Даменіку Радзівілу, 12 жніўня 1688 года, тамсама; ліст Доўманта Сабескаму, 20 жніўня 1693 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 162, том 1, ст. 594.

дыпламатаў, Домант ставаўся безадказным дыпламатам, які дасылаў у Варшаву спавешчанні, складзеныя з шалёных фантазіяў ды помесі базарных і карчмовых плётак, а яго дзеянні пагражалі існаванню хаўруса дзьвюх дзяржаў і маглі нават (“крый Божа”) прывесці да вайсковага канфлікта паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй. Паводле словаў дзякаў, нічога іншага й нельга было чакаць ад нагэтулькі неўраўнаважанага чалавека, які бавіў час дуэляваннем, правакаваў канфлікты і падбухторваў сваіх служкаў рабіць тое ж, непаважна ставіўся да найвышэйшых урадоўцаў расійскай дзяржавы ды, замест таго, каб праводзіць ночы ў сваім доме, “наведваў месцы, дзе ён быць не мусіў.”[62]

Доўмант, са свайго боку, маляваў сябе чалавекам, які вырачаны на безвыніковае існаванне ў варожым асяродку, дзе ён, да таго ж, літаральна слепне ад няспыннай працы. Ён падкрэсліваў бессэнсоўнасць далейшага існавання амбасады, ад якой, на яго погляд, не было аніякай карысці. Доўмант прасіў адклікаць яго з Масквы, і яго мальбы былі, нарэшце, пачутыя ў 1693 годзе. Тым не менш, расійцы зладзілі кароннаму амбасадару развітальную аўдыенцыю толькі ў лютым 1694 года.[63]

Доўмант пакідаў Маскву без адчування таго, што дыпламатычная місія не выканала свайго прызначэння. Ён ведаў, што Сабескі высока цаніў яго дзейнасць у Расіі. Каронны амбасадар усведамляў, што сваёй асабістай мужнасцю і бескампрамісным адстойваннем інтарэсаў караля ён заслугаваў баязлівую павагу расійскіх дыпламатаў. Апроч таго, Доўмант стаў лепш разумець расійцаў і, нягледзячы на свае напружаныя стасункі з Украінцавым, наведаў яго перад адʼездам з Масквы, каб прабачыцца за шмат жорсткіх словаў, сказаных падчас працяглых перамоваў.

Пасля перачытання тысячаў старонак запісаў перамоваў Доўманта з Галіцыным і Украінцавым, складаецца ўражанне, што па некалькіх месяцах перабывання ў Расіі каронны амбасадар пачаў рэагаваць на падзеі ў адпаведнасці са стандартамі маскоўскай дыпламатыі. Яго больш не абуралі відавочна ілжывыя заявы расійскіх чыноўнікаў. Доўмант стаў уважаць іх за рытульнае паўтарэнне афіцыйнай пазіцыі цара, а не асабістае гледзішча саміх дыпламатаў. Ён зразумеў, што выцягваць на святло неабвержныя доказы няшчырасці расійскіх калегаў проста не мае сэнсу, а значна больш эфектыўным будзе дакладна акрэсліць сваю пазіцыю ды крытыкаваць сваіх апанентаў на падставе не духа, а літары дамоваў. Доўмант бачыў сваю місію ў Маскве не толькі ў тым, каб прадстаўляць караля, але й абараняць інтарэсы сваёй краіны ў якасці дзяржаўнага чыноўніка і грамадзяніна Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на тое, што Доўмант, як і любы шляхціч, бескампрамісна крытыкаваў сваю краіну, калі перабываў дома, за мяжой ён палымяна адстойваў яе гонар і годнасць.

Доўмант не пераацэньваў значнасць сваёй місіі ў Маскве. Ён намагаўся найлепшым чынам выконваць свае функцыі і рабіў гэты сумленна ды разумна, але без аніякай арыгінальнасці ці вынаходлівасці. Яго здольнасці аналізаваць тагачасную сітуацыю ў Расіі ці рабіць агульныя высновы на падставе свайо досведа ставаліся даволі абмежаванымі. Тым не менш, мала хто з

[62] Расійскія скаргі што да паводзінаў Доўманта былі ў сціслай форме перададзеныя Акрасу, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай, 1691, № 6, ст. 164-70. Абвінавачанні ў нагнятанні вайсковай гістэрыі асабліва яскрава выкладзеныя ў лісце Галіцына Сабескаму ад 12 жніўня 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1688 годзе, № 6, ст. 242-50.
[63] ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1691 годзе, № 6, ст. 166. Ліст Сабескага, у якім ён адклікае Доўманта ў Варшаву (11 траўня 1693 года) і звязаныя з гэтым перамовы, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 832, 836-37, 917-18, 968-69, 987, 991.

замежнікаў лепш за Доўманта ведаў расійскую бюракратыю і, у прыватнасці, функцыянаванне Пасольскага прыказа. Ніхто іншы не быў нагэтулькі дасведчаным ў складаных палацавых інтрыгах пры царскім двары. Тым не менш, веда Доўманта была абмежаваная сферай інтарэсаў караля і палітычна заангажаваных колаў Рэчы Паспалітай. Каронны амбасадар не звяртаў увагу караля, сената, сейма ці грамадства Кароны на пытанні, якія знаходзяцца па-за традыцыйнай дыпламатычнай праблематыкай. Напрыклад, Доўмант не ўсведамляў значнасць супрацьстаяння паміж "лаціністамі" і "грэкамі" у праваслаўнай царкоўнай іерархіі. Ён не зважаў на верагоднасць ідэалагічных і, магчыма, палітычных зменаў, да якіх заклікалі "лаціністы" і якія б цягнулі за сабой значны польскі культурны ўплыў. Не разумеў Доўмант і сур'ёзных супярэчнасцяў паміж маскоўскай і кіеўскай праваслаўнай царквой. У сваіх спавешчаннях ён браў бок лаціністаў толькі з прычыны таго, што яны намагаліся паслабіць пазіцыі патрыярха Іаакіма, які варожна ставіўся да ўсіх замежнікаў, у тым ліку прадстаўнікоў Рэчы Паспалітай.

Іншым аспектам стасункаў Рэчы Паспалітай з Расіяй, якому Доўмант надаваў недастатковую ўвагу, ставаўся гандаль. Ён не зразумеў эканамічных перспектываў мірнай дамовы 1686 года, якая рэгулявала ў тым ліку й пытанні мыты ды перасоўвання праз мяжу купцоў. Падчас амбасадарства Доўманта быў адбудаваны Магілёў. Цалкам разбураны ў 1657 годзе, ён ужо ў 1700 годзе налічваў 20,000 двароў і быў большым за Мінск, Смаленск ці Брэст. Заможнасць Магілёва, як і шматлікіх іншых вялікалітоўскіх гародоў, стваралася гандалям з Расіяй. Амбасадар, дасведчаны ў расійскіх справах, мог выступіць з прапановай заснаваць у Маскве каронную факторыю ці адзначыць перспектыўнасць гандлю шоўкам з расійскай дзяржавай. Калі б Доўмант, прынамсі, зважаў на эканамічныя пытанні, ён мусіў вызначыць ролю Расіі як галоўнага канкурэнта Рэчы Паспалітай у якасці экспарцёра сельскагаспадарчых прадуктаў і леса ў Заходнюю Еўропу. Найбольш значнай эканамічнай праблемай, якой займаўся Доўмант, было несправядлівае падаткаабкладанне купцоў Рэчы Паспалітай расійскімі памежнікамі – сталая крыніца рознагалоссяў паміж двума краінамі. Апроч іншага, каронны амбасадар засяроджваўся выключна на двубаковых стасунках Расіі і Рэчы Паспалітай па-за агульным кантэкстам эканамічных сувязяў Расіі з Кітаем і народамі Каспія ды Цэнтральнай Азіі.

З іншага боку, Доўмант валодаў рэдкім талентам назіральніка. Да таго ж, яму ніколі не бракавала жыццёвай мудрасці. Адсюль яго стрыманая рэакцыя на нацеку Нарышкіна датычна магчымага вяртання Кароне Кіева ў абмен на дапамогу караля ва ўзвядзенні Пятра І на цараванне. Каронны амбасадар не бачыў карысці ў гэтай прапанове, якую ён успрыняў выключна як сведчанне таго, наколькі напружанай ставалася барацьба за ўладу ў Маскве. Доўмант улічваў й стан вайны паміж Рэччу Паспалітай і Турцыяй, якая таксама прэтэндавала на ўсходні бераг Дняпра. Нарэшце, калі б супрацьстаянне ў Маскве скончылася грамадзянскай вайной, кароннае войска атрымала б добры шанец павярнуць страчаныя землі й без згоды Нарышкіных. Распачаць падазроныя перамовы на той момант значыла б запэўніць расійцаў, што кароль проста чакаў зручнага моманту, каб парушыць Вечны мір.[64]

[64] Ліст Доўманта Сабескаму, 1688 год, AGAD, Радзівілаўскі Архіў II, № 25, ст. 144. Сабескі, магчыма, меркаваў, што клан Наталлі Нарышкінай пагадзіцца павярнуць Рэчы Паспалітай Украіну ў абмен на каралеўскую дапамогу Пятру І у барацьбе за царскі трон. J. Perdenia, Stanowisko Rzeczypospolitej, ст. 31 (згаданы там Задынскі гэта на самой справе Ладынскі).

## Глава 4. Польская амбасада ў Маскве

Нягледзячы на тое, што амбасадар Рэчы Паспалітай не быў ані выбітным палітыкам, ані высокапастаўленым урадоўцам, цвярозы аналіз прапаноў Нарышкіна сведчыць пра яго высокі прафесіяналізм. Доўмант ставаўся тыповым прадстаўніком кароннай шляхты, у якой адначасова заключалася моц і слабасць польска-літоўскай дзяржавы. У шляхце спалучаліся вузіня інтарэсаў ды занадта аптымістычны падыход да прасоўвання інтарэсаў Кароны за мяжой з жаданнем дамагчыся блаславёнага стану міра і захоўваць яго любымі сродкамі.

# Глава 5. Украінскі парадокс

"Калі мы пабачылі ўдалечыні блішчастыя купалы Лаўры і ўдыхнулі першы глыток паветра на гэтай раскаленай зямле, сэрцы нашыя напоўніліся вясёласцю, а душы – акрыялі. І мы, узрушаныя, ушанавалі Пана нашага Бога. Цягам двух год у Маскве скутыя былі нашыя сэрцы і гублялі мы розум, бо ў гэтай краіне аніводны замежнік не можа быць свабодным ці шчаслівым... Чалавек там адчувае сябе гаспадаром бязмежнай тэрыторыі, але ў галаве яго пануе бязлад, а ў сэрцы – неспакой. Краіна казакоў падалася нам роднай старонкай, а яе насельнікі выявіліся гасціннымі і шчырымі людзьмі, падобнымі да нас."

Павел Алепскі

*Падарожжа патрыярха Макарыюса Анціохскага*

Па сваёй сацыяльнай і палітычнай структуры напаўаўтаномная казацкая дзяржава больш нагадвала Рэч Паспалітую, чым аўтакратычную Расію. Казацкія старшыны (вайсковая арыстакратыя) мелі прывілегіі, падобныя да вольнасцяў каронная шляхты і свядома пераймалі іх лад жыцця. Грунтаваная на заходнееўрапейскай філасофскай і мастацкай традыцыі, украінская дзяржава знаходзілася пад моцным культуры уплывам Рэчы Паспалітай. Аднак нягледзячы на шчыльныя повязі з Каронай, калі ўкраінская эліта не здолела дамагчыся нацыянальнага самавызначэння і мусіла пагадзіцца ўвайсці ў склад іншай дзяржавы, выбар быў зроблены на карысць Расіі.[1]

Адвяртанне ад Рэчы Паспалітай казацкіх старшынаў нельга вытлумачыць простым "вечнай прагай расійцаў і ўкраінцаў да аб'яднання" ці "анёльскай" наіўнасцю ўкраінцаў, якой скарысталася "д'ябальская" расійская дыпламатыя. Даволі папулярныя ў гістарыяграфіі спробы сцвердзіць, што выбар на карысць Расіі быў зроблены пра-польскімі старшынамі пад ціскам простых людзей відавочна не трываюць пры дэталёвым разглядзе ўкраінскага пытання. Адказ можна знайсці толькі доследуючы канкрэтныя дыпламатычныя захады Рэчы Паспалітай і Расіі і рэакцыю на іх украінскага грамадства.

[1] Па ўкраінскай гісторыі сямнаццатага стагоддзя існуе шмат разнастайных крыніцаў. Найбольш грунтоўныя з іх: М. Грушевський. *Історія України-Руси,* нов. выд., у 10 тамах. (Нью-Йорк, 1954-58); Н.И. Костомаров, *Руина* і *Мазэпа и Мазэпинцы,* тамы 6 і 16 у *Собрание Сочинений* (Санкт-Петербург, 1903-1905); W. Lipiński, *Z dziejów Ukrainy* (Kiev and Cracow, 1912); В.А.Мякотин, Очерки *соціальной исторіи Украины въ XVII-XVIII вв.* том 1 (Прага, 1924-26); С.М. Сольвьёв, История России с древнейших времён, кнігі 6 і 7 (Москва, 1961, 1962). Да спіса можна дадаць наступныя манаграфіі: J. Perdenia, *Stanowisko Rzeczypospolitej szlacheckiej wobec sprawy Ukrainy naprzełomie XVII-XVIII w.* (Wrocław, 1963); В.А. Дядиченко, *Нариси суспільно-політичного устрою Лівобережної* України кінця XVII – початку XVIII ст. (Київ, 1959, далей - Нарысы); Z. Wójcik, *Dzikie pola w ogniu* (Warsaw, 1957); О. Оглоблин, *Гетьман Іван Мазепа та його доба* (Нью-Йорк, 1960) [*Записки Наукового Товариства імені Шевченка* (далей - *ЗНТШ*), том 170]; Окіншевич Л. *Значне військове товариство в Україні-Гетьманщині в XVII-XVIII ст.* (Мюнхен, 1948) [*ЗНТШ,* том 157]; A. Martel, *La Langue polonaise dans le pays ruthenes: Ukraine et Russie Blanche, 1569-1667* (Lille, 1938); F. Sysyn, *Between Poland and the Ukraine: The Dilemma of Adam Kysil*, 1600-1653 (Cambridge, Mass., 1985). Дадатковую крыніцы можна знайсці ў D. Doroshenko, "A Survey of Ukrainian Historiography" і O.Ohloblyn, "Ukrainian Historiography, 1917-1953," у *The Annals of the Ukrainian Academy of Arts and Sciences in the United States*, том 5-6 (New York, 1957).

Глава 5. Украінскі парадокс

Украінскія землі, калыска некалі магутнай Кіеўскай Русі, з сярэдзіны трынаццатага стагоддзя на доўгі час згубілі палітычную незалежнасць. На месца татарскіх захопнікаў у 1363 годзе прыйшло вялікалітоўскае войска, а ў 1569 годзе ўкраінскія землі адышлі да польскага каралеўства. Пасля Люблінскай Уніі ўкраінская знаць атрымала ўсе правы ды прывілегіі  кароннай шляхты і падпала пад павольную паланілазацыю.[2] Мясцовыя алігархічныя кланы (Вышнявецкія, Астрожскія) і шэраг асадніцкіх польскіх радоў (Канецпольскія, Патоцкія), якія кантралявалі аграмадныя латыфундыі, ажыццяўлялі палітычны кантроль над украінскімі землямі. Гараджане былі вольнымі людзьмі і ў рознай ступені кантралявалі мясцовы ўрад, звычайна праз праваслаўных мэраў. Лішак урадлівых земляў і працціня іх урабленння выклікалі міграцыю з поўдня і захада, але асваенне новых земляў стрымлівалі няспынныя разбуральныя набегі татараў.[3]

На ўкраінскія землі пачало пранікаць каталіцтва, асабліва пасля іх уваходжанне ў склад польскага каралеўства. На тэрыторыі Кіеўскага біскупства хутка паўставалі новыя касцёлы, закладаліся кляштары і школы. Актыўную місіянерскую дзейнасць вялі іезуіцкія братэрствы. Пазіцыі праваслаўя яшчэ больш падрываліся шматлікімі выпадкамі пераходу ў каталіцтва, што сярода шляхты. У выніку, ў 1596 годзе праваслаўе раскалолася, і значная частка былых праваслаўных святароў заснавала ўніяцкую царкву. Вядомы як Берасцейская Унія, гэты акт перапарадкавання Ватыкану спрычыніўся да часовага (ад 1596 да 1634 года) абвяшчэння праваслаўнай іерархіі па-за законам і стварыў пагрозу канфіскацыі маёмасці праваслаўнай царквы на ўкраінскіх землях. Берасцейская Унія прымусіла шэраг супраціўнікаў новай веры ліхаманкава шукаць абарону і падтрымку. Першымі іх бок прынялі некаторыя прадстаўнікі праваслаўнай арыстакратыі (напрыклад, Астрожскія), а пасля й казакі, якія выступалі супраць панавання заможнай шляхты ад канца шаснаццатага стагоддзя.[4]

## Казакі

Цюркскае слова quzzaq упершыню згадваецца ў польскіх хроніках у чатырнаццатым стагоддзі. У той час яно яшчэ не набыло этнічнага значэння – гэтак называлі бандытаў, наёмных вартаўнікоў караванаў ці шукальнікаў прыгод, якія жылі па-за межамі грамадства. На памежжы паміж тэрыторыяй качэўнікаў і землямі расійскіх і ўкраінскіх сялянаў паўставалі цэлыя пасялянні казакоў. Няздольнасць Рэчы Паспалітай абараніць свае межы супраць татарскіх набегаў спрычынілася да паўстання асобнага падкласа, складзенага з вольных мужчын, якія насялялі памежныя крэпасці. У часы міра шляхта справядліва лічыла казакоў перашкодай на шляху далейшага асваення земляў і

[2] J. Pelenski, "The Incorporation of the Ukrainian Lands of the Old Rus' into the Crown Poland (1959): Socio-Material Interest and Ideology – A Re-examination," у American Contributions to the Seventeenth International Congress of Slavists, Warsaw, 21-27 August 1973, том 3, пад рэд. A. Cienciala (The Hague, 1973), ст. 19-52; і O. Halecki, *Przyłączenie Podlasia, Wołynia I Kijowszczyzny do Korony w roku 1569* (Cracow, 1915).

[3] M. Horn, "Chronologia i zasięg najazdów tatrskich w latach 1600-1647," у Materiały do Historii Mojskowości, том 3, нум. 1 (Warsaw, 1962), ст. 3-71; Historia chana Islam Gereja III, пер. і рэд. Z. Abrahamowicz (Warsaw, 1971); Z. Wójcik, *Rzeczpospolita wobec Turcji I Rosji 1674-1679* (Wrocław, 1976), ст. 5-92; О. М. Апанович, *Запорізька Січ у боротьбі проти турецько-татарськой агресії, 50-70 роки XVII ст.* (Київ, 1691).

[4] Пра лёс праваслаўя ў Рэчы Паспалітай гл.: A. Amman, *Abriss der ostslawischen Kirchengeschichte* (Vienna, 1950); J. Woliński, *Polska i kościół prawosławny* (Lviv, 1936); L. Bieńkowski, "Organizacja kościoła wschodniego w Polsce," у *Kościół w Polsce,* пад рэд. J. Kłoczowski, том 2 (Cracow, 1969), ст. 781-1049; E. Kaminskyi, *De potestate metropolitarum Kioviensium-Haliciensium (1569-1805)* (Rome, 1969); Е. Голубинский, *История Русской церкви*, в 2 томах (Москва, 1901-1904); O. Halecki, *From Florence to Brest, 1439-1569* (Rome, 1958); Sysyn, *Between Poland and the Ukraine,* ст. 26-36.

пагрозай для грамадскага парадка, бо казакі віталі ў сябе беглых сялянаў. Але падчас войнаў былыя крыўды забывалася, бо толькі казакі былі здольныя хутка мабалізаваць войска на абарону пэўнай тэрыторыі. Акрамя ваявання, свайго асноўнага занятка, казакі разводзілі скот, займаліся рыбацтвам і рамёствамі ды гандлявалі соллю.

Цягам шаснаццатага стагоддзя казакі заснавалі шэраг сталых пасяленняў на востравах у ніжнім цячэнні Дняпра, якія агулам атрымалі назву Запарожская Сеч. Калі казакі выпраўляліся ў вайсковы паход, яны зарганізоўваліся ў загоны, якімі камандавалі абраныя самімі ж казакамі гетманы. Іх вайсковую каштоўнасць першым вызнаў кароль Сігізмунд Аўгуст, які ў 1572 годзе зрабіў адзін з казацкіх загонаў часткай войска Рэчы Паспалітай. З таго часу казакоў у Кароне падзялялі на дзве катэгорыі: зарэгістраваных і незарэгістраваных. Першыя атрымлівалі плату з дзяржаўнага скарба і знаходзіліся пад абаронай караля, другія не былі звязаныя аніякімі абавязкамі перад дзяржавай. Апошнія, аднак, патрабавалі гэткіх жа прывілегіяў, якімі валодалі казакі на службе ў караля і скардзіліся на свой нібыта ніжэйшы статус. Яны збольшага найманіся ў прыватныя войскі магутных мясцовых землеўснікаў ці абіралі вольнае, але небяспечнае жыццё Сечы.[5]

Парламент адпаведна падвышаў ці памяншаў колькасць зарэгістраваных казакоў у вайсковы час і мірны час, што адмоўна ўплывала на стаўленне казакоў да Рэчы Паспалітай. Звольненыя казакі ставаліся верхаводамі бунтаў, знаходзячы шырокую падтрымку як сярод сялян, гэтак і гараджан. У выніку войнаў Рэчы Паспалітай супраць Швецыі (1601-1609, 1626-1629 гады), Расіі (1610-1619 гады) і Турцыі (1620-1621 гады) казацкае войска разраслося да дваццаці тысяч чалавек. Спробы скараціць яго да шасці тысячаў выліліся ў паўстанні, якія кароль здолеў прыдушыць шэрагам крывавых грамадзянскіх войнаў (1625, 1629-1630, 1637-1638 гады). Падчас паўстанняў праваслаўныя святары разглядалі казакоў у якасці абаронцаў веры, а сяляне бачылі ў іх хаўруснікаў у змаганні супраць паноў. Казакі лічылі сябе прывілеяваным вайсковым класам, прадстаўнікі якога, на ўзор шляхты, заслугоўвалі асаблівыя правы і прывілеі. Яны абгрунтоўвалі патрабаванні асаблівага статуса сваім паходжаннем - казакі ўважалі сябе наследнікамі чальцоў дружынаў сярэднявечных кіеўскіх князей. Некалькі разоў яны падавалі свае прапановы на разгляд парламента, але кожным разам атрымлівалі адмовы. Больш за тое, у 1638 годзе парламент панізіў статус 6000 зарэгістраваных казакоў да ўздапаможных войскаў і афіцыйна запрыгоніў усіх казакоў.[6]

У адказ на гэта самаагалошаны гетман Багдан Хмяльніцкі, які здолеў зарганізаваць расцярушаныя казацкія загоны, узняў у 1648 годзе першае за шэсць дзесяцігоддзяў паспяховае казацкае паўстанне. У выніку на тэрыторыі паўночна-усходніх правінцыяў Рэчы Паспалітай ўзнікла напаўаўтаномнае дзяржаўнае ўтварэнне. Хмельніцкага падтрымалі казакі, праваслаўныя іерархі, сяляне, гараджане і нават татары. Ён загадаў канфіскаваць землі, якія належалі Кароне, каталіцкай царкве, арыстакратыі і ўсім землеўладальнікам, якія не падтрымалі паўстанне, і падзяліць іх паміж казацкімі старшынамі або пакінуць пад уладай гетмана. Мясцовае кіраванне ажыццяўлялі

---

[5] Z. Wójcik, *Dzikie pola w ogniu*; В. Голубицкий, Запорожское козачество (Киев, 1957); W. Tomkiewicz, "O składzie społecznym i etnicznym kozaczyzny ukrainnej na przełomie XVI-XVII wieku," у *Przegląd Historyczny* 37 (1948): 249-60.

[6] "Ordynacja wojska Zaporowskiego Regestrowego w służbie Rzpltej będącego," у *Volumina Legum. Prawa, konstytucje y przywileie Królestwa Polskiego, Wielkiego Księstwa Litewskiego y wszystkich prowincyi należących,* том 3, пад рэд. Józafat Ohryzko (St. Petersburg, 1859), ст. 440

камандзіры загонаў. Гараджане захавалі свае правы ў абмен на абавязак сплочваць падаткі казацкаму вайсковаму ўраду. Новая ўлада не скасавала павіннасці сялян, але на справе ім стала прасцей, бо казацкі ўрад быў няздольны ўсталяваць жорсткі феадальны лад, асабліва з улікам актыўнай ролі сялян у паўстанні. Аднак адначасова з замацаваннем казацкай улады ўзмацняўся й сялянскі прыгон.

Пасля першых поспехаў паўстанцаў Хмяльніцкі зразумеў, што казакам спатрэбіцца дапамога, каб стрымаць войска Кароны, якое немінуча прыйдзе ва Ўкраіну, каб прыдушыць паўстанне. Спярша ён спадзяваўся на дапамогу Турцыі, але атрымаў ад султана адмову і быў вымушаны звярнуцца да цара. У 1654 годзе Хмяльніцкі падпісаў Пераяслаўскую раду, паводле якой казацкая дзяржава пераходзіла пад пратэктарат Расіі. Гэты крок гетмана справакаваў працяглую разбуральную вайну паміж Рэччу Паспалітай і маскоўскай дзяржавай, у выніку якой Украіна апынулася падзеленай: цар атрымаў Кіеў і землі па правым беразе Дняпра, а кароль захаваў тэрыторыю па левым беразе ракі. Гэткі падзел Украіны, прадугледжаны Андрусаўскай дамовай 1667 году, й быў вызнаны сталым паводле ўмоў Вечнага міра, заключанага ў 1686 годзе.[7]

## Польскі ўплыў

Стварэнне казацкай дзяржавы ва Украіне паскорыла працэс фармавання казацкай эліты. Галовы казацкіх загонаў хутка назапасілі багацце і набылі дастаткова ўлады, каб стварыць асобны, адносна адкрыты для "новых людзей" клас, які паводле сваіх маёмасных і палітычных правоў быў набліжаны да кароннай шляхты. Казацкія галовы, шмат хто з якіх быў спадкаемным шляхцічам ці атрымаў шляхецкае званне за вайсковыя заслугі, занялі ў сацыяльнай структуры ўкраінскага грамадства месца былой землеўладальніцкай арыстакратыі. Адпаведна, яны прагнулі замацаваць свае правы як класа землеўладальнікаў: дамагчыся афіцыйнага вызнання таго, што захопленыя імі ці набытыя надзелы ставаліся іх прыватнай уласнасцю і атрымаць вырашальны голас у кіраванні дзяржавай. Нягледзячы на шчыльныя кантакты з Турцыяй і Расіяй, казацкія старшыны прынялі лад кароннай шляхты, галоўнай рысай якой была асабістая годнасць. Казацкі дыскурс поўніўся "правамі", "праўнымі прывілегіямі", "свабодамі" і "хартыямі" – паняткамі, цэнтральнымі для палітычнай рыторыкі Рэчы Паспалітай.

Дзеці старшынаў і шляхты вывучалі аднолькавыя дысцыпліны ў школах, чыталі адныя й тыя ж кнігі і надавалі вялікую вагу генэалогіі і сямейнаму паходжанню. Больш за тое, казацкія старшыны, як і прадстаўнікі кароннай шляхты стасоўна каралёў Рэчы Паспалітай, намагаліся абмежаваць уплыў гетмана ды забяспечыць сябе кантроль над войскам запарожскіх казакоў. Такім чынам, калі казацкая эліта ва Украіне выкрышталізавалася ў асобны клас, адпаведны шляхце Рэчы Паспалітай, яе інтарэсы сталіся значна адрозніваццa ад інтарэсаў як гетмана, дык і шараговых казакоў, і старшыны мусілі шукаць шляхі да замацавання і падтрымання сваіх правоў і прывілегіяў.

[7] І. Крип'якевич, *Богдан Хмельницький* (Київ, 1954); Костомаров, *Руина*; Z. Wójcik, *Traktat andruszowski 1667 roku i jego geneza* (Warsaw, 1959); той самы аўтар, *Między traktatem andruszowskim a wojną turecką. Stosunki polsko-rosyskie 1667-1672* (Warsaw, 1968); той самы аўтар, *Rzeczpospolita wobec Turcji i Rosji 1674-1679* (Wroclaw, 1976); C. Bickford O'Brien, *Muscovy and the Ukraine* (Berkeley, 1963).

Украінскім аналагам манарха ставаўся гетман, кожны з якіх прагнуў ператварыць сваю пасаду з выбарнай у наследную. Улада гетмана трымалася на шэрагу адданых людзей, якіх ён прызначаў на ключавыя пасады ў казацкім войску. У сваю чаргу, шараговыя казакі актыўна абаранялі наўпроставы рэспубліканізм, а інтарэсам старшынаў найлепш адпавядаў канстытуцыяналізм з моцным алігархічным ухілам. Намагаючыся пашырыць свае паўнамоцтвы, гетмана праз новыя прызначэнні адначасова павялічваў колькасць і ўплыў старшынаў. Нягледзячы на здольнасць старшынаў абіраць і скідаць гетманаў, яны ўсведамлялі, што дзяржаве быў патрэбны адзіны галава праз яе вайсковую арганізацыю. Парадаксальна, але сталы канфлікт паміж галоўнымі абаронцамі ўкраінскай незалежнасці - гетманам і старшынамі, стаўся адным з чыннікаў, якія паўплывалі на рашэнне звярнуцца па замежную дапамогу.

У выніку, пакуль у Варшаве намагаліся павярнуць статус-кво, які існаваў ва Ўкраіне да паўстання Хмяльніцкага, у ход падзяў умяшалася Масква. Няздольнасць кароннай шляхты дамовіцца з украінскімі калегамі, і паспяховае выкарыстанне маскоўскімі дыпламатамі супрацьстаяння паміж гетманам і старшынамі адбівае сапраўдныя магчымасці кожнай з сістэмаў лепш, чым любы аналіз палітычных структураў двух дзяржаў ці іх ідэалагічных падмуркаў. Што б ні пісалі пра перавагі змяшанай сістэмы над задушлівым аўтакратычным рэжымам, украінцы аддалі перавагу царскай ўладзе над каралеўскай.

Параза Рэчы Паспалітай, прынамсі, часткова тлумачыцца тым, што кароль аднаасобна вызначаў палітыку што да Ўкраіны. Сабескі, як і ўсе яго папярэднікі, ставіўся да казакоў як да сродка замацавання каралеўскай улады і замест таго, каб заахвочваць іх ператварэнне ў шляхту, ён намагаўся пакінуць іх асобным класам. Тым часам ані шляхта як такая, ані парламент у прыватнасці, не цікавіліся сітуацыяй ва Ўкраіне і хітрасуплётамі казацкай палітыцы. Паводле большасці шляхцічаў, казакі былі блябеямі, што беспадстаўна патрабавалі палітычных прывілегіяў, або ўзброенымі мяцежнікамі, недастойнымі называцца шляхтай. Адным словам, яны ўяўлялі з сябе пагрозу. Анты-казацкая прапаганда, асабліва моцная падчас паўстання Хмяльніцкая, не дазваляла кароннай шляхце аб'ектыўна ўспрымаць украінскія рэаліі і зразумець сваё падабенства да старшынаў. Распальванне супраць-казацкіх настрояў адбывалася нягледзячы на тое, што шэраг тагачасных каронных пісьменнікаў і палітыкаў сцвярджалі пра нараджэнне новай украінскай нацыі ва Ўкраіне і заклікалі шляхту перагледзець усходнюю палітыку Рэчы Паспалітай.[8]

Спярша (ад 1658 да 1659 года) парламент вырашыў надаць Украіне статус трэцяга складніка Рэчы Паспалітай, роўным Каралеўству Польскаму і Вялікаму Княству Літоўскаму. Але рашэнне было прынята неахвотна і ў хуткім часе скасаванае. У выніку, парламент вырашыў захаваць падпарадкаваны статус украінскіх земляў. Аднак захаваць кантроль над Украінай без падтрымкі прынамсі часткі мясцовага насельніцтва выявілася немагчымым, асабліва з улікам адсутнасці ў Рэчы Паспалітай магутнага сталага войска. Старшыны, якія былі зацікаўленыя ва ўсталяванні на ўкраінскіх тэрыторыях палітычнай сістэмы, блізкай да Рэчы Паспалітай, выявіліся занадта слабымі,

---

[8] Samuel Twardowski, *Wojna domowa z Kozaki i Tatary* (Kalisz, 1681), ст. 265. Ліст Сабескага біскупу Малахоўскаму, 23 студзеня і 13 сакавіка 1671 года, *Pisma do wieku i spraw Jana Sobieskiego,* пад рэд. F. Kluczycki, ч. 1 (Cracow, 1880), ст. 618-19, 631 *[=Akta historyczne do objaśnienia rzeczy polskich służące,* том 2, ч. 1]. Пра ўкраінскую нацыянальную свядомасць гл. F. Sysyn, "Concepts of Nationhood in Ukrainian History Writing, 1620-1690," *Harvard Ukrainian Studies* 8, нум. 3/4 (1985): 393-423.

каб захаваць кантроль над сітуацыяй падчас абвастрэння барацьбы за ўладу паміж гетманам і казацкімі масамі.[9]

## Роля духавенства

Праваслаўныя іерархі, якія мелі значны ўплыў на настроі казацтва, у пэўнай ступені падтрымалі старшынаў. Ад 1480 года праваслаўную іерархію ў Рэчы Паспалітай ачольваў кіеўскі мітрапаліт, які вызнаваў вяршынства Канстантынопальскага патрыярха. Пасля 1596 года, калі большасць праваслаўных святароў Кароны пагадзілася на ўнію з Рымам, праваслаўная царква пачала губляць пазіцыі за кошт узмацнення ўніяцтва, якое карысталася падтрымкай караля і каталіцкай царквы. Нягледзячы на значныя супярэчнасці з уніятамі, праваслаўнае духавенства не жадала перахода Ўкраіны пад уладу маскоўскага цара. Праваслаўныя іерархі пэўны час адмаўляліся вызнаць вяршынства маскоўскага патрыярха. Палітычна, яны хацелі застацца ў сферы ўплыву Рэчы Паспалітай, а ў справах рэлігіі жадалі падпарадкоўвацца Канстанцінопалю.

Пазіцыя праваслаўнага духавенства Кароны нельга вытлумачыць бракаваннем рэлігійнага імпэту, бо з усіх тагачасных адгалінаванняў праваслаўя, украінскія іерархі найвастрэй адчувалі пагрозу з боку каталіцтва. Яны проста адчувалі сябе здольнымі перамагчы ў змаганні за сэрцы й душы праваслаўных Рэчы Паспалітай. Грандыёзнае рэфармаванне ўкраінскай царквы, распачатае Пятром Магілам у першай палове сямнаццатага стагоддзя, пачало даваць свае вынікі. Заснаваная ім Кіеўская Акадэмія ператварылася ў адзін з галоўных цэнтраў тагачаснай праваслаўнай тэалогіі. У Акадэміі вывучалі амаль тыя ж прадметы, што й у іезуіцкіх калегіюмах. Там нават карысталіся тымі ж самымі падручнікамі, за выключэннем строга тэалагічных дысцыплінаў. Студэнты Кіеўскай Акадэміі, як і іх польскія калегі, вывучалі паэтыку, рытыроку, дыялектыку, фізіку і логіку. Яны карысталіся бібліятэкай Акадэміі, дзе мелася вялікая калекцыя кнігаў на польскай мове. Так Кіеўская Акадэмія стала цэнтрам Заходняй, “лацінскай” культуры ва Ўкраіне. Нягледзячы на тое, што вывучэнне мастацтва, літаратуры, архітэктуры і права азначала пераймання культурных каштоўнасцяў Рэчы Паспалітай, акадэмія была адкрытая для інтэлектуальнага і мастацкага ўплыву Грэцыі, Малдавіі і Расіі.[10]

Шмат хто з выпускнікоў Кіеўскай Акадэміі заняў высокія пасады ў іерархіі расійскай праваслаўнай царквы ці быў прыняты на службу ў царскае войска ці чынавенства. У Маскве ўкраінскія і беларускія святары, навукоўцы, пісьменнікі і дзяржаўныя дзеячы мелі значны ўплыў у сферах адукацыі і культуры, але яны прапаноўвалі сваё бачанне найлепшай мадэлі грамадскага ладу, якое не адпавядала маскоўскай аўтакратычнай сістэме. Праз распаўсюд ідэяў заходняй навукі і яе

---

[9] За выключэннем Хмяльніцкага, у сямнаццатым стагоддзі аніводны казацкі гетман не захаваў сваю пасаду да натуральнай смерці; іх забівалі, каралі смерцю ці скідалі з гетманства. За смерцю Брухавецкага і выгнаннем Мнагагрышнага стаялі казацкі гетманы: *Літопис самовидця,* пад рэд. Я.І. Дзира (Київ, 1971), ст. 105, 106-107, 112-13, 118, 144. Гл. таксама Л. Окиншевич “Генеральна старшина на Лівобережній Україні XVII-XVIII ст.,” у *Праці комісії для виучування історії західньо-руського та українського права* том 2 (Київ, 1926); той самы аўтар, *Значне військове товариство в Україні-Гетьманщині XVII-XVIII ст.* (Мюнхен, 1948) [*ЗНТШ,* том 157]. Пра адукацыю казацкай эліты гл.: G. Gajecky, “The Kiev Mohyla Academy and the Hetmanate,” *Harvard Ukrainian Studies* 8, нум. 1/2 (1984): 81-92.

[10] A. Jabłonowski, *Akademia Kijowsko-Mohylańska* (Cracow, 1899-1900), ст. *165*; С.И. Голубев, *Киевская академия в конце XVI и начале XVII* в. (Киев, 1901); R. Łużny, *Pisarze kręgu Akademii Kijowsko-Mohylańskiej a literatura polska* (Cracow, 1966); L. R. Lewitter, "Poland, the Ukraine and Russia in the Seventeenth Century," *Slavonic and East European Review* 27 (1948): 157-71: J. Cracraft, “Theology at Kiev Academy during its Golden Age," *Harvard Ukrainian Studies* 8, no. 1/2 (1984): 71-80.

каштоўнасцяў, захоплены расійцамі Кіеў у хуткім часе стаў граць ролю траянскага каня заходняй цывілізацыі ў Расійскай імперыі.[11]

Першым часам цар і патрыярх адзінадушна віталі кіеўскіх выпускнікоў у Маскве. Нават арыстоцелеўскія погляды на тыранію настаўніка царскіх дзетак Сімяона Полацкага[12] спачатку не выклікалі занепакоення ў Аляксея Міхайлавіча і яго дарадцаў. Аднак хутка патрыярх Іаакім пачаў падазраваць былых кіеўскіх студэнтаў у прыхільнасці да "лацінізма" і забараніў чытанне кнігаў, надрукаваных ва Украіне. Але за цараваннем Фёдара (1676-1682) і Соф'і (1682-1689), нягледзячы на моцны супраціў патрыярха, "лаціністы" карысталіся павагай. Пасля паразы пераварота Соф'і адбыўся суд над галавой руха "лаціністаў" Сільвестрам Мядзведзевым, якога прысудзілі да смяротнага пакарання. Тым не менш, на той момант "украінская веда" ужо моцна ўкаранілася ў Расіі і напрыканцы сямнаццатага стагоддзя царкоўнікі з кіеўскай адукацыяй падпарадкавалі сабе расійскую царкву. Кіеўскія тэолагі дамагліся гэтага адданым служэннем новаму цару, які планаваў падпарадкаваць царкоўную іерархію свецкай уладзе пры дапамозе адміністратыўных рэформаў.[13]

Кіеўскія манахі левабярэжнай Украіне не адразу вызналі вяршынства маскоўскага патрыярха. Такія адданыя ідэі шляхецкай рэспублікі навукоўцы, як Пётр Магіла, Сільвестр Косаў і Стэфан Яворскі не бачылі карысці ў вызнанні аўтакратычнага маскоўскага цара ідэальным богаабраным кіраўніком дзяржавы. Відавочна, што яны паважалі свецкую ўладу, але, як і каталіцкія святары Рэчы Паспалітай, не прымалі вышэйшую дзяржаўную ўладу, здольную ўвязніць без суда, сасланць, зняволіць іх у манастыры ці прысудзіць да цялеснага пакарання. Яны верылі ў права абскарджваць рашэнні ўлады ў судзе адпаведнай інстанцыі, перад асамблеяй мясцовай шляхты ці парламентам падчас яго паседжанняў. Іх погляды выразна кантраставалі з маскоўскімі парадкамі. Нават прыналежнасць да паноўнай рэлігіі і свабода ад уціску з боку каталіцкага духавенства не памяншалі незадавальненне ўкраінскіх праваслаўных. Аднак праз некаторы час, калі ў 1686 годзе маскоўскі патрыярх атрымаў кантраль над кіеўскай царкоўнай іерархіяй, і перспектывы кар'ернага роста сталі вызначацца ступенню рабалепства цару, кіеўскія выпускнікі паволі ператварыліся ў паслухмяных служкаў маскоўскай аўтакратыі.[14]

Нягледзячы на паўзучую экспансію Масквы, кіеўскія "лаціністы" захоўвалі значны ўплыў на палітычнае жыццё Украіны, а іх падтрымкі прагнулі як гетманы, гэтак і старшыны. Адначасова з тым, як праваслаўнае духавенства ўсё больш трапляла ў залежнасць ад цара, казацкім гетманам ставалася цяжэй абыходзіцца без падтрымкі маскоўскага манарха ў барацьбе за ўладу ва Ўкраіне.

---

[11] L.R. Lewitter, "The Russo-Polish Treaty of 1686 and the Antecedents," *Polish Review* 9, нум. 3/4 (New York, 1964): 7. Гл. таксама К.В. Харлампович, Малороссийское влияние на великороссийскую церковную жизнь (Казань, 1914), ст. 250-488; Łużny, *Pisarze kręgu*, ст. 105-109; Ф. Б. Корчмарик, *Духові впливи Києва на Московщину в добу Гетьманської України* (Нью-Йорк, 1964), ст. 63-100; В. Эйнгорн *Сношения малороссийского духовенства с московским правительством в царствование Алексея Михайловича* (Москва, 1899).

[12] "Кто есть царь и кто есть тиран, хочеши ли знати/ Аристотеля книга почися читати .../ Царь подданым прибытков ищет и желает/ Тиран поки при жити всяко ищет себе/ О граждансте нимало печален потребе." Сімяон Полацкі, цытавана па А.С. Демин, "Русские пьесы 1670-х годов и придворная культура," *Труды Отдела древнерусской литературы* 27 (1972): 276.

[13] П. Смирнов, *Иоаким, патриарх московский* (Москва, 1881) ст. 108-145; С.П. Лапунов, *Книга в России в XVII веке* (Ленинград, 1970), ст. 15-20, 31, 53, 126; Г. Флоровский, *Пути русского богословия* (Париж, 1937), ст. 52, 55, 75-81.

[14] J. Cracraft, *The Church Reforms of Peter the Great* (Stanford, 1971), ст. 58 і інш.

## Гадяцкая Унія

Барацьба за палітычную вяршынства ставалася галоўнай, але не адзінай характарыстыкай стасункаў паміж казацкімі вайсковымі галовамі. Наступнік Хмяльніцкага Іван Выгоўскі паспрабаваў прымірыць свае інтарэсы як гетмана з інтарэсамі старшынаў. Умовы кампраміса былі закладзеныя ў Гадяцкай уніі 1658 года, заключанай паміж казакамі і Рэччу Паспалітай. Дамова прадугледжвала стварэнне асобнага Вялікага Княства Рускага ў складзе кіеўскага, брацлаўскага і чарнігаўскага ваяводстваў, якое мусіла мець свае органы кіравання, скарб, войска і судовую сістэму. Паводле дамовы, 100 казацкіх старшынаў, якія прадстаўлялі ўсе казацкія вайсковыя фармаванні, атрымлівалі шляхецкі статус і адпаведныя прывілегіі. Казацкі гетман займаў пасаду кіеўскага ваяводы, што аўтаматычна рабіла яго каронным сенатарам. Акрамя таго, ён замацаваў за сабой права ўтрымліваць персанальнае войска ў 10.000 наёмнікаў, што не было дазволена нават каралю Рэчы Паспалітай. Нарэшце, гетман і галовы казацкага войска атрымлівалі значныя зямельныя надзелы з каралеўскіх уладанняў і захоўвалі ўсе правы на тамтэйшых сялянаў. У дамове былі таксама ўлічаныя інтарэсы праваслаўнага духавенства: кіеўскі мітрапаліт і пяць праваслаўных патрыярхаў атрымлівалі сенацкія пасады, а праваслаўю гарантаваліся адмысловыя прывілегіі на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай.[15]

Гадяцкую ўнію ўхвалілі каронны парламент, гетман, казацкія старшыны і праваслаўнае духавенства. Тым не менш, яна не ўступіла ў сілу праз супраціў украінскага насельніцтва як такога і, ў прыватнасці, запарожскага казацтва, якія баяліся павяртання ўлады арыстакратыі. Абсалютовая большасць шараговых казакоў баялася, што яны, у лепшым выпадку, стануць памежным класам паміж шляхтай і прыгоннымі, і пры гэтым сацыяльнага мабільнасць ва ўкраінскім грамдастве будзе фактычна зведзеная на нуля. Яны лічылі, што ў новых абставінах уся ўлада ў казацкім войску пярэйдзе да шляхетных старшынаў і гетмана, якія падпарадкуюць сабе не толькі запарожскае казацтва, але й атрымаюць у сваё распараджэнне войска наёмнікаў.[16]

Заключаная прывілеяванымі слаямі ўкраінскага грамадства, Гадяцкая унія выявілася непрымальнай для шараговых казакоў. Цэнтрам супрацьву Гадяцкай дамове, як і любой іншай спробе гетмана паразумецца з каралём, ставалася Запарожская Сеч, якая ўяўляла прыклад “казацкага ладу жыцця”. Запарожская Сеч мела дэмакратычную ўладную іерархію, якую ачольваў выбарны гетман. Протарэспубліка паводле формы дзяржаўнага кіравання, яна працягвала існаваць як вайсковае аб’яднанне роўных. Сеч не мела тэрытарыяльных прэтэнзіяў да сваіх суседзяў. Яе галоўнай мэтай ставалася прафесіяналізацыя казацтва як вольных вайсковых наёмнікаў. Разам з тым, што запарожцы прапаноўвалі суседзям свае вайсковыя паслугі за грошы, яны катэгарычна адмаўляліся выконваць загады, якія супярэчылі іх інтарэсам. Так, падчас паўстання запарожскія казакі прынялі бок Хмяльніцкага і дапамаглі яму перамагчы каронныя войска, але адмовіліся браць удзел у дзяржаўным будаванні або падпарадкавацца кіеўскай уладзе. Досвед стасункаў з Хмяльніцкім спрычыніўся да недаверу казакаў да ўсіх гетманаў. Гэта

---

[15] Тэкст Гадяцкай дамовы змешчаны ў *Volumina Legum,* том 4, ст. 297-300. S. Kot, *Jerzy Niemirycz w 300-lecie ugody hadzieckiej* (Paris, 1960).

[16] A. Kamiński, “The Cossack Experiment in *Szlachta* Democracy in the Polish-Lithuanian Commonwealth: The Hadiach *(Hadziacz)* Union,” *Harvard Ukrainian Studies* 1, нум. 2 (1977): 185-93.

асабліва датычылася гетманаў, якія актыўна супрацоўнічалі з Рэччу Паспалітай ці Расіяй і былі праз гэты здольныя пагражаць запарожскім вольнасцям.[17]

Цягам другой паловы сямнаццатага стагоддзя гетманы, праваслаўнае духавенства і старшыны заставаліся адданымі ідэі адраджэння ўкраінскай дзяржавы пад кіраўніцтвам гетмана і казацкіх старшынаў. Іх планы шмат у чым перасякаліся з праектам Гадяцкай дамовы: яны выкарыстоўвалі панятак Вялікага Княства Рускага і надавалі значную вагу праваслаўю і Кіеўскай Акадэміі. Аднак іх планы сягалі далей за Гадяцкую дамову. Галоўнай мэтай новых прапановаў ставалася збіранне ўсіх тэрыторыяў, населеных русінамі ў новую дзяржаву. Ідэю аднаўлення казацкай дзяржавы актыўна прасоўваў Пятро Дарашэнка, найвыбітнейшы ўкраінскі палітычны дзеяч пасля Хмяльніцкага. Дарашэнка падтрымліваў намаганні мітрапаліта Іосіфа Тукальскага заснаваць кіеўскі патрыярхат, што азначала аддзяленне ўкраінскай царквы ад Канстанцінопаля і наданне ёй статуса, роўнага расійскай праваслаўнай царкве.[18]

Прагу ўкраінцаў да нацыянальнага самавызначэння ўсвядомілі ў Турцыі. Калі ў 1678 годзе паша ўступіў у вайну за ўкраінскія тэрыторыі, паўстала прапанова стварыць Сармацкае княства, дзяржаўнае ўтварэнне пад пратэктаратам Турцыі. Калі сармацкі праект не ўцелясніўся, атаманскія палітыкі вырашылі развязаць казацкае пытанне іншым чынам. Перавяртаючы адпачатковую задуму Хмяльніцкага, яны прапанавалі хаўрус паміж Кіевам і Яссамі. Так, у 1682 годзе малдаўскі гаспадар Георге Дука быў абвешчаны казацкім гетманам.[19] Яго аднагадовае кіраванне часткай Украіны сапсавала далёкасяжныя планы Дарашэнкі, які прагнуў аб'яднаць казакоў у адзіную вялікую дзяржаву. Нягледзячы на гэта, ідэя ўкраінскай дзяржаўнасці не памрэ, але яе ўцелясненню будуць замінаць экспансія замежных дзяржаваў і адсутнасць еднасці сярод саміх казакоў.

Падзел Украіны ў 1667 годзе і жорсткая грамадскае супрацьстаянне там прымусілі гісторыкаў назваць перыяд украінскай гісторыі, які ахопліваў большую частку сямнаццатага стагоддзя, "Руінай".[20] Гэты тэрмін, які дакладна характарызуе лёс украінскай дзяржавы, абсалютова непрыкладальны да эканамічнага і культурнага развіцця ўкраінскіх земляў.[21] Эканамічныя і культурныя дасягненні тых часоў нашмат пераўзыходзяць усё, што было створана ва Украіне ў папярэднія дзесяцігоддзі. Гэта абабліва датычылася "расійскай", ці левабярэжнай Украіны, дзе

---

[17] Брухавецкі быў адзіным гетманам, папулярным у Запарожскай Сечы: *Літопис самовидця,* ст. 87-100, 105-106; Дядиченко, *Нариси,* ст. 136.

[18] *Літопис самовидця,* ст. 98-112; Костомаров, *Руина*, ст. 122-23, 130-31, 144-47, 166-95, 275-83, 406-432; Wójcik, *Między traktatem*, ст. 12-19, 59-63, 173-78, 183-87, 247-49, 252-54, 280, 284-99 і 301.

[19] Ion Neculce, *Letopişetul țării Moldovei, 1662-1743,* пад рэд. Iorgu Iordon (Bucharest, 1955), ст. 153-58; A. D. Xenopol, *Istorie diu Dacia Traiana* (Bucharest, 1929), ст. 260-63; *Исторические связи народов СССР и Румынии в XV - начале XVIII в. Документы и материалы,* том 3, под ред. Я.С. Гросула (Москва, 1970), ст. 351, зноска 41.

[20] Кастамараў не сімпатызаваў ані старшынам, ані гетманам, але быў схільны ідэалізаваць Сеч. Ён лічыў, што "рэспубліканская сістэма бясспрэчна стаецца найбольш пажаданай, але яна мусіць супраўваджацца найлепшым, што ёсць у чалавечай натуры... без гэтых чалавечых якасцяў рэспубліканізм прывядзе грамадства да катастрофы." Цытавана па D. Doroshenko, "A Survey of Ukrainian Historiography," ст. 143.

[21] М.Е. Слабченко, Организация хозяйства Гетманщины от Хмельничщины да мировой войны, том 1 (Москва, 1922); Дядиченко, *Нариси,* ст. 37-101; Оглоблин, *Гетьман Іван Мазепа,* ст. 65-147; G. Gajecky, *The Cossack Administration of the Hetmanate,* у 2 тамах (Cambridge, Mass., 1978).

старшыны ставаліся дастаткова шматлікімі, адукаванымі, заможнымі і ўпловавымі, каб іх грамадскае становішча не залежала ад волі цара і перадавалася ў спадчыну.[22]

## Рэч Паспалітая і Украіна

Культурная роднасць казацкіх старшынаў з польскай шляхтай, сямейныя і эканамічныя кантакты і нават іх агульнае непрыняцце расійскай аўтакратыі – усё гэта не прывяло да паляпшэння стасункаў паміж Рэччу Паспалітай і Украінай у другой палове сямнаццатага стагоддзя. Заклікаючы казакоў выйсці з-пад улады маскоўскай тыраніі, кароль адначасова падрываў давер казакоў да сябе праз непавагу да казацкага ладу жыцця на заходнім беразе Дняпра. Як бы палкоўнікі ў левабярэжнай Украіне не ставіліся да маскоўскай дэспатыі, іх палітычнае і сацыяльнае становішча было лепшым, чым становішча старшынаў на украінскай тэрыторыі, падуладнай Кароне. Тое ж самае датычыцца й праваслаўных іерархаў, якія, нягледзячы на падпарадкаванне маскоўскаму цару й абвінавачанні ў “лацінізме”, не мусілі мірыцца з палітычным дамінаваннем каталіцкай царквы.

Незацікаўленасць каронных палітыкаў у аднаўленні Гадяцкай уніі адлюстроўвала агульнае стаўленне шляхты да казацтва, якое захоўвалася нягледзячы на тое, што ў Рэчы Паспалітай збольшага пагаджаліся з заўвагай Самуэля Пуфендорфа, зробленай у 1652 годзе: “Калі палякі не здолеюць прыцягнуць на свой бок казакоў шчырымі сродкамі, і тыя [казакі] падпарадкуюцца маскоўцам ці туркам... Рэч Паспалітая атрымае на сваім невылечную язву.”[23] Але пад “шчырымі сродкамі” кароль і казакі разумелі розныя рэчы. Больш за тое, стасункі з казакамі былі прэрагатывай манарха, а шляхту непакоіла перспектыва падпарадкавання Сабескаму казацкіх старшынаў. Шляхта з Серадзя, Ленчыцы, Познані і іншых заходнепольскіх зямель не цікавілася казацкай праблематыкай. Яны дбалі пра свае рэгіянальныя інтарэсы і мелі пазіцыю што да агульнага вектара замежнай палітыцы, але не зважалі на складаныя й спецыфічныя пытанні, якім, напрыклад, ставалася казацкае пытанне. Рэспубліканская апазіцыя нават часам пратэставала супраць кантактаў караля з казакамі. Калі паўставала патрэба аплочваць вайсковыя паслугі Сечы, Сабескі звычайна сам уздымаў казацкае пытанне падчас пасяджэнняў парламента.[24]

Каронная палітыка на заходнім беразе Дняпра не грунтавалася на ідэалах Гадяцкай уніі. Актыўнае абмеркаванне казацкага пытання, выкліканае паўстаннем Хмяльніцкага, Пераяслаўскай дамовай 1654 года і пра-турэцкай арыентацыяй Дарашэнкі, не прывяло да фармулявання дакладна акрэсленай кароннай палітыцы што да Украіны. Нягледзячы на тое, што шмат хто сярод каронай

[22] Ліст Епіскапа Мяфодзія гетману Брухавецкаму, 1688 год, у Дмитрий Николаевич Бантыш-Каменский, *Источники Малороссийской истории, ч. 1 (1649-1687)* (Москва, 1858), ст. 196-208; ліст Аляксея Міхайлавіча запарожцам, 17 ліпеня 1667 года (з вытлумачэннем неабходнасці Андрусаўскага перамір’я з Польшчай), тамсама, ст. 180-83; ліст Брухавецкага да казацкага палка і насельніцтва Ноўгарада, 20 лютага 1688 года, тамсама, ст. 184; ліст Цара запарожцам, 30 верасня 1668 года, тамсама, ст. 187-90; Wójcik, *Traktat andruszowski*, ст. 15-63, 217-19, 224-26. Gajecky, "Kiev Mohyla Academy," ст. 81-92.

[23] “An Introduction to the History of the Principal Kingdoms and the Statesof Europe (1697),” цыт. па L. Lewitter, “Russo-Polish Treaty,” ст. 3.

[24] Мясцовая Рада Лечыцкага ваяводства абмяркоўвала ўкраінскую праблему ўсяго чатыры разы, ды й тое павярхова. Гл. Włodarczyk, Sejmik łęczycki (Łódź, 1968). Шляхцічы з усходніх і цэнтральных рэгіёнаў Рэчы Паспалітай звычайна не цікаваліся падзеямі ва Украіне, нават нягледзячы на тое, што ўкраінская тэматыка шырока асвятлялася ў газетах. Гл. ліст Ябланоўскага Кацкаму, 1687 год, Бібліятэка-Музей імя Чартарыскіх (Biblioteka Muzeum im. Ks. Czartoryskich, Cracow, далей біб. Чарт.), № 181, ст. 871.

шляхты пагаджаўся з паэтам Самуэлем Твардоўскім, які казаў: “казакі ўвысокароднілі сябе вайсковымі подвігамі. Гэтак жа й нашыя продкі заслугавалі шляхецтва пралітай імі крывёй.”[25] Паводле ўплывовага сенатара і выбітнога палітычнага мысляра таго часу Лукаша Акалінскага, вайна супраць казакоў вялася не інтарэсах Рэчы Паспалітай, а на карысць шэрагу ўкраінскіх магнатаў. Відавочна, што Акалінскі добра ведаў сітуацыю ва Украіне, але яго аргументы не спрычыніліся да змены каронннай палітыцы што да казацтва.[26]

Адказнасць за няўдачы Рэчы Пасплітай ва Украіне можна ў значнай ступені ўскласці на Сабескага. Як паперад, гэтак і пасля сваёй каранацыі, ён пільна назіраў за сітуацыяй ва Украіне, але не рабіў аніякіх спробаў рэфармаваць існую каронную палітыку стасоўна казацтва. Падчас свайго працяглага каралявання (1674-1696), Сабескі не распрацаваў агульную стратэгію стасункаў з казакамі, нават нягледзячы на тое, што быў знаёмы з украінскай праблематыкай лепш, чым які-кольвек з яго папярэднікаў, добра ведаў краіну і мусіў разумець неабходнасць рэформаў. Аднак яго стаўленне да казацтва з часам змянілася. У 1648 годзе малады Сабескі даведаўся пра перамогу Багдана Хмяльніцкага над каронным войскам. Паводле словаў яго настаўніка, Сабескі ўспрыняў яе цяжэй, чым смерць караля Уладзіслава IV, які памёр за тыдзень да таго. Той факт, што Рэчы Паспалітая пацярпела вайсковую паразу ад сваіх плябейскіх васалаў, падаваўся Сабскаму неверагодным.[27]

Але ў 1671 годзе кароль ужо выказваў іншае меркаванне. Ён пісаў, што казакі “не простыя сяляне, а асобная нацыя. Яны перараслі прымітыўнасць і тыранію ды адмовіліся ад п’янства й барбарства.”[28] Сабескі ўсведамляў, што, нягледзячы на падзел Украіны, казакі захоўвалі моцнае адчуванне еднасці. Ён заўважаў, што што запарожцы “пераймаліся найдрабнейшай скаргай мясцовых [кіеўскіх і брацлаўскіх] казакоў. Ім не падабаюцца нашыя замкі. Казакі кажуць [пра часовую дамову, падпісаную ў Астрозе], што яе трэба перагледзець, бо іх не задавальняюць умовы. Усе казакі роднасныя па крыві і поглядах.”[29]

Праз год, напярэдадні нападу Турцыі на Рэч Паспалітую, Сабескі выступіў за наданне Украіне яшчэ большых правоў, чым прадугледжвала Гадяцкая унія. Так кароль намагаўся прыцягнуць на свой бок моцнага хаўрусніка на выпадак вайны з Турцыяй ці Расіяй. Але гэта было ўсяго толькі тактычным захадам. Сабескі не меў шырэйшага плана дзеяння што да Украіны. “Мы мусім на пэўны час іх залагодзіць,” – пісаў ён. “Паабяцайце казакам новыя прывілегіі ў будучым і не даводзьце іх да адчаю, ба яны кантралююць Украіну і нашую ўласнасць там.”[30]

Як адзін ў найбуйнешых украінскіх землеўласнікаў, Сабескі хацеў “залагодзіць” казакоў “на пэўны час”, а як кароль планаваў выкарыстаць іх для абароны Рэчы Паспалітай і, магчыма, у сваіх

---

[25] Twardowski, *Wojna domowa*, ст. 264-65.
[26] Ł. Opaliński, “Coś nowego,” у *Pisma zebrane*, пад рэд. Stanisław Grzeszczuk (Warsaw, 1959), ст. 277.
[27] “Dziennik Sebastiana Gawareckiego” у *Pisma do wieku I spraw Jana Sobieskiego* (далей - *Pisma do wieku*), частка 1, пад рэд. F. Kluczyycki (Cracow, 1880), ст. 129.
[28] Ліст Сабескага кракаўскаму біскупу Яну Малахоўскаму, 16 сакавіка 1671 года, у *Pisma do wieku*, частка 1, ст. 631.
[29] Ліст Сабескага Анджэю Альшоўскаму, 12 кастрычніка 1671 года, у *Pisma do wieku*, частка 1, ст. 700.
[30] Ліст Сабескага Яну Малахоўскаму, 23 студзеня 1671 года, у *Pisma do wieku*, частка 1, ст. 618.

асабістых інтарэсах. Палітыка “залагоджвання” зводзілася да прыняцця часовых захадаў, пакліканых не даць казакам больш, чым яны былі здольныя дамагчыся ў кожны асобны момант.

Нават рэдкія саступкі казакам, нягледзячы на падвышэнне папулярнасці караля ва Украіне, выклікалі незадавальненне шляхты паўднёва-усходніх рэгіёнаў Рэчы Паспалітай. Сабескі, аднак, ўстрымліваўся ад палітычных ініцыятываў, якія маглі выклікаць незадавальненне мясцовых элітаў. Штуршком да актыўнейшых дыпламатычных захадаў караля ва Украіне стала адваяванне часткі заходнебярэжных тэрыторыяў у Турцыі ў 1675 годзе. Паводле загада Сабескага, казацкія загоны раскватароўваліся ў крэпасцях і гарадах на заходнім беразе Дняпра, што не падабалася гарадзкой шляхце і іх аканомам. Казакі звярталіся па дапамогу як да караля, гэтак і да простых грамадзян, якія заўсёды намагаліся граць на супярэчнасцях паміж казакамі і шляхтай. Кароль не быў адзіным, хто патрабаваў казакоў для дасягнення сваіх асабістых мэтах. Буйныя ўкраінскія землеўладальнікі карысталіся іх паслугамі для прымусовага збірання падаткавых запазычанасцяў і вядзення мясцовых канфліктаў. Такім чынам, кароль паўтараў дзеянні цара, для якога казакі былі інструментах замежнай палітыцы. Аднак Сабескі не мог ані прапанаваць украінцам больш, чым гаспадар Крамля, ані манапалізаваць дыпламатычныя стасункі з імі.[31]

Каб абараніць краіну ад татарскіх набегаў, Сабескі загадаў раскватараваць казацкія гарнізоны ў фартах уздоўж рэкаў Днестр і Буг. Аднак з-за сталых канфліктаў паміж казакамі і шляхтай арэндаваных тэрыторыяў, гэта можна было рабіць толькі на не здадзеных у арэнду каралеўскіх землях. У выніку, невырашальныя супярэчнасці з мясцовымі магнатамі і арэндатарамі каралеўскіх земляў, прымусілі Сабескага ўвогуле адмовіцца ад планаў размясціць казацкія загоны на Днястры. Землеўладальнікі бачылі ў казаках, якія карысталіся падтрымкай праваслаўнага духавенства і простых украінцаў, патэнцыйную пагрозу сваім маёмасным інтарэсам. Некаторыя казацкія палкоўнікі (напрыклад, Сямён Палы і Васіль Іскрыцкі), натхнёныя сваёй папулярнасцю сярод мясцовага насельніцтва, кантактамі з Запарожскай Сеччу і галовамі ўсходняй Украіны, спрабавалі захапіць кантроль на памежных тэрыторыях без згоды каронных уладаў. Іх дзеянні не проста засталіся непакараныя, але кароль нагэтульки высока цаніў унёсак казакоў у вайне з Турцыяй, што скіраваў усе падаткі, сабраныя ў паўднёва-усходняй частцы кіеўскага ваяводства, на ўтрыманне казацкага войска.[32]

У 1685 годзе Сабескі планаваў вайсковую кампанію супраць Малдавіі. Ён дамогся ўхвалення сваіх планаў парламентам і разлічваў прыцягнуць на свой бок казакоў пацверджаннем нададзеных ім раней вольнасцяў і прывілегіяў, а таксама дазволам казацкім загонам расквато ўвацца ў каралеўскіх уладаннях.[33] Апошняе датычылася ў першую чаргу паўднёвых і паўднёва-усходніх

[31] Sobieski Votum, 19 лютага 1672 года, у *Pisma do wieku,* частка 1, ст. 854-63. Пра казацкую палітыку Сабескага гл. таксама Perdenia, *Stanowisko Rzeczypospolitej*, ст. 13-106; Wójcik, *Między traktatem*, ст. 249-54; ліст Сабескага Ябланоўскаму, 2 жніўня 1687 года, ліст Сабескага Паламу, 4 жніўня 1687 года, у біб. Чарт., № 422, ст. 174, 181, 183.
[32] Ліст Франчэска Банезана кардыналу Цыбо, 7 ліпеня 1688 года, у Сакрэтным Архіве Ватыкана, польская нунцыатура, № 107, ст. 249; ліст Сабескага Матчынскаму, 14 красавіка 1687 года, біб. Чарт. № 422, ст. 64-65; ліст гетмана Грышко Іванавіча Сабескаму, сакавік 1689 года, Цэнтральны Архіў Гістарычных Актаў (Archiwum Główne Akt Dawnych, Warsaw; далей AGAD), Радзівілаўскі Архіў V, № 122, нум. 5660; ліст Матчынскага Шчуку, 14 лютага 1691 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 18, ст. 640-46.
[33] Законы, ухваленыя парламентам у 1685 годзе, у *Prawa, Konstytucje i Przywileie*, том 5 (Warsaw, 1738), ст. 718.

зямель кіеўскага і брацлаўскага ваяводстваў і мела на мэце прывабіць усходнебярэжных казакоў, на што былі добрыя падставы. З 1681 года Расія знаходзілася ў стане міра з Турцыяй. Жорсткая іерархічнасць войска на ўсходнеўкраінскіх землях стрымлівала сацыяльную мабільнасць казакоў. Шмат хто з дасведчаных казакоў на кантраляванай Масквой тэрыторыі не здолеў за гады сваёй службы заслугаваць падвышэнне ці здабыць зямельны надзел. Шанец добра зарабіць служэннем каралю і гетману Заходняй Украіны, разам з перспектывай атрымаць зямлю з каралеўскіх уладанняў, маглі падштурхнуць казакоў перасяліцца на тэрыторыю, кантраляваную Рэччу Паспалітай. У пошуках лепшай долі, за імі на заходні бераг Дняпра маглі пацягнуцца й сяляне. Магчымасць далучыцца да кароннага войска прываблівала данскіх казакоў, запарожцаў і нават волжскіх калмыкаў. Некаторыя з тых, хто прапанаваў свае паслугі войску Рэчы Паспалітай паперад малдаўскай кампаніяй, не планавалі заставацца на заходнім беразе, іншыя хацелі пасяліцца там, дзе яшчэ заставалася вольная зямля.[34]

Разам з падвышэннем колькасці казакоў на заходнім беразе Дняпра, пагоршаліся іх стасункі з мясцовай шляхтай. У 1687 годзе смаленскі ваявода Стэфан Пясечынскі паспрабаваў разрабіць свае зямельныя ўладанні ў кіеўскім ваяводстве, “але тамтэйшыя казакі, якія паводзяцца, нібыта яны зваявалі нашую краіну, пачалі чыніць нам нагэтулькі моцны супраціў, што зараз ніхто з нас не можа вольна туды павярнуцца. Чым больш мы будзем наймаць гэтых людзей, тым горшымі будуць наступствы.”[35] Сітуацыя ўскладнялася, калі казакоў раскватоўвалі ў гарадах, якія яны лічылі сваімі. Адначасова з казакамі, на гэтыя тэрыторыі павярталіся іх былыя землеўладальнікі, прываблены захадамі караля па забеспячэнню бяспекі ад татарскіх набегаў.

Канфлікт выспяваў. Спачатку перавагу ў ім мелі казакі. Кароль лічыў іх незаменнымі для абароны ўкраінскіх зямель ад татараў, спагадліва ставіўся да іх рассялення на тэрыторыі Кароны і нават прызначаў казацкімі камандзірамі людзей, здольных абараніць свае войскі ад ціску уплывовых магнатаў. Сабескі прыхільна ставіўся да казацкага гетмана Грышко Іванавіча, які паспяхова стрымліваў пасягальніцтвы арэндатараў каралеўскіх зямель, пагражаючы ім гневам украінцаў. Сабескі таксама прасоўваў ініцыятывы казацкага палкоўніка Сямёна Палага, які спачатку здолеў засяліць тэрыторыю вакол Фастава, а пасля перамог Грышка ў змаганні за пасаду гетмана.[36]

Паламу патрабавалася дапамога, каб ўтрымаць кантроль над заможнымі тэрыторыямі ў кіеўскім і брацлаўскім ваяводствах, на якія прэтэндавалі шэраг каронных магнатаў. У гэтым выпадку ён не мог пакладацца на караля, і быў вымушаны некалькі разоў зварачацца да цара. Ён быў згодны падпарадкавацца гетману левабярэжнай Украіны Івану Мазэпу (1689-1709) і прыняць ранг палкоўніка ў казацкім войску, падпарадкаваным Маскве, што надала б яму шырокія прывілегіі палкоўнікаў,што валодалі зямлёй ва Усходняй Украіне. Некалькі разоў цар выкарыстоўваў паслугі

[34] *Літопис самовидця*, ст. 138-40. Гл. таксама зноску 31.

[35] Ліст Стэфана Пясэчынскага ў каралеўскую канцэлярыю, *Архив Юго-Западной России, издаваемый Временной комиссией для разбора древних актов, высочайше учреждённой при Киевском военном, подольском и волынском губернаторе* (Киев, 1859), том 3, нум. 2, ст. 365-66.

[36] Ліст Марэка Матчынскага Станіславу Шчуку, 12 лютага 1691 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163а, том 18, ст. 733-43; ліст гетмана Ябланоўскага Яну Сабескаму, 21 снежня 1689 года, Радзівілаўскі Архіў II, том 25, ст. 315-16; ліст Грышка Іванавіча, Кашавому атаману Запарожскай Сечы, Яну Сабескаму, 29 снежня 1688 года і 21 сакавіка 1689 года, Радзівілаўскі Архіў V, том 122, нум. 5660; Perdenia, *Stanowisko Rzeczypospolitej*, ст. 73-77, 81-82, 85.

Палага, але не абвяшчаў кантраляваныя ім тэрыторыі часткай маскоўскай дзяржавы. Палы, у сваю чаргу, лічыў сябе не простым наёмнікам, а гаспадаром вялікай тэрыторыі, якую ён хацеў далучыць да Расіі і падпарадкаваць гетману Мазэпу, адданаму (як і ўсе яго папярэднікі) ідэі аб'яднання Украіны.[37]

Мазэпа падтрымліваў ініцыятыву Палага, але цар адмаўляўся прыняць яго прапанову і тым самым парушыць дамову з Рэччу Паспалітай. Тым не менш, маскоўскія эмісары абачліва падтрымлівалі кантакты з Палым, плацілі яму за змаганне супраць татараў і гатоўнасць служыць цару. Няздольны дамагчыся ад цара зацверджання свайго статуса галавы Фастаўскага павета, Палы па чарзе звярачаўся да караля і рэспубіканскай апазіцыі ды прымаў ўдзел у разборках каронанай шляхты. Ён падтрымліваў шчыльныя кантакты з запарожскімі казакамі і не выключаў магчымасці прыняць бок татараў ці шукаць прытулку ў левабярэжнай Украіне. Нягледзячы на тое, што Палы ставаўся тыповым казаком дапаўстанецкага пакалення, ён адкідаў каронныя прапановы, грунтаваныя на статусе кво да 1648 года і Гадяцкай уніі. Яго незалежная пазіцыя ў значнай ступені паўплывала на фармаванне паважлівага стаўлення да Украіны ў Рэчы Паспалітай і прымусіла шмат каго сярод шляхты згадаць ідэі, разгляданыя да паўстання, як, напрыклад, знішчыць казацтва як палітычную сілу.[38]

Пакуль Рэчы Паспалітая вяла вайну з Турцыяй, казацкія войскі гралі незаменную ролю ў абароне ўкраінскіх тэрыторыяў Кароны. У 1685 годзе парламент ахвотна зацвердзіў каралеўскі план што да ўзнагароджання казакоў. Дэпутаты вырашылі, што "ў якасці вызнання адданай службы запарожскіх казакоў, пад іх пасяленні будуць адведзеныя пэўныя тэрыторыі на ўкраінскіх землях."[39] Але ў 1699 годзе, пасля заканчэння вайны, патрэба "залагоджваць казакоў" знікла, і парламент без ваганняў распусціў казацкае войска.[40]

Паводле некаторых гісторыкаў, каронная шляхта займала непразорлівую пазіцыю, якая не адпавядала патрэбам міжнароднага палажэння Рэчы Паспалітай. Аднак пры бліжэйшым разглядзе, украінская палітыка Сабескага і сенатраў, якія яго падтымлівалі, выяўляецца яшчэ больш заганнай. Урэшце рэшт, нават у сучасных дэмакратычных краінах шмат якія замежнапалітычныя рашэнні прымаюцца з улікам унутрыпалітычных чыннікаў. Дзяржаўныя дзеячы, чыя палітыка адпавядае стратэгічным нацыянальным інтарэсам, не заўсёды знаходзяць падтрымку сваім намерам распачаць вайну, падвысіць падаткі ці ўзмацніць выканаўчую ўладу. Толькі захады, якія маюць відавочную карысць для выбарцаў, маюць шанец быць ухваленымі большасцю грамадзянаў. У 1648 годзе распачалося вялікае казацкае паўстанне, якое пагражала

[37] Г.Я. Сергієнко, *"Семен Палій," Український історичний журнал*, том 1 (1960); W. Majewski, "Semen Palii," *Polski słownik biograficzny*, том 25 (Wrocław, 1980), ст. 72-82. Ліст Франчэска Банезана ў Ватыкан (1688), Сакрэтны Архіў Ватыкана (Ватыкан), польская нунцыатура, № 109, ст. 143; ліст Сабескага Ябланоўскаму, 23 чэрвеня 1687 года, біб. Чарт., № 422, ст. 146.

[38] J. Jańczak, "Powstanie Paleja," Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Warszawskiego. *Historia 3* (Warsaw and Wrocław, 1960); для апісання кантактаў Палага з расійскімі чыноўнікамі, гл. спавешчанні Кіеўскага ваяводы Лукі Даўгарукага, Центральный государственный архив Древних Актов (Москва, далей ЦГАДА), Малороссийские дела, фонд 123, Стасункі ў 1692 годзе, № 25.

[39] Цытавана па Wójcik, *Rzeczpospolita wobec Turcji*, ст. 37.

[40] "Zminienie Kozaków w Kijowskim y Bracławskim Województwach. Konstytucye Seymu Warszawskiego, 1699" *Volumina Legum*, том 6, ст. 34.

Рэчы Паспалітай стратай украінскіх тэрыторыяў і сялянскімі хваляваннямі ў самой Кароне. У гэтых умовах шляхта ўхваліла вайсковыя дзеянні і падвышэнне падаткаў. Яна была нават згодная ўтварыць асобнае Вялікае Княства Рускае, пайсці на саступкі казакам і надаць старшынам статус і прывілегіі шляхты. Тым не менш, у шырэйшай перспектыве шляхта адмаўлялася вызнаць значнасць казакоў як палітычнай сілы і працягвала разглядаць іх у якасці сацыяльна варожага класа, які падпарадкоўваецца непасрэдна каралю.

Чарнігаўскі ваявода і выдатны знаўца казацкай праблематыкі Станіслаў Бянеўскі лічыў, што ўкраінская палітыка Рэчы Паспалітай магла вызначыць яе будучае. У 1675 годзе ён пісаў: “Галоўная мэта цара – сабраць у сваёй дзяржаве ўсе рускія землі.”[41] Бенеўскі не быў схільным недаацэньваць “падступных паўночнікаў” і хацеў, каб казакі выконвалі ролю буфера паміж імі і Каронай. Тым не менш, Бенеўскі, які ачольваў групу каронных дыпламатаў, што распрацоўвала Гадяцкую дамову, спрабаваў у 1675 годзе здабыць падтрымку казакоў фактычна не пранаваўшы ім нічога ўзамен: аўтаномію на вузкай пасцы тэрыторыі па Днястры без пераразмеркавання зямлі на карысць казакоў за кошт магнатэрыі.[42] Прапановы каронных дыпламатаў не йшлі ў параўнанне з тымі прывілегіямі, якімі карысталіся казакі на ўсход ад Дняпра.

## Масковія і Украіна

Дасягненні Фёдара, Соф’і і Пятра I ва Украіне падаваліся яшчэ больш значнымі ў параўнанні з правальнай казацкай палітыкай Сабескага. Пашырэнне пра-расійскіх настрояў сярод падняпроўскіх казакоў не было вынікам ані надзвычай прадбачлівай палітыцы Крамля, ані, як сцвярджаюць некаторыя гісторыкі, д’ябальскай маскоўскай змовы. Аналіз умоваў першых двух Пераяслаўскіх (1653 і 1699), Батурынскай (1663), Маскоўскай (1665), Глухоўскай (1669), Канатопскай (1672), трэцяй Пераяслаўскай (1674) і Каламацкай (1687) дамоваў сведчыць пра тое, што цар паслядоўна пазбаўляў казакоў іх вольнасцяў. Аднак неабходна заўважыць, што расійскія палітыкі заўсёды бралі пад увагу моц казацкага войска ў кожны канкрэтны момант, уплывовасць і папулярнасць гетмана, ступень згуртаванасці казацкіх старшынаў, стасункі гетмана і яго атачэння з праваслаўнай царкоўнай іерархіяй ды настроі шараговых казакоў, гараджанаў і духавенства.

Паперад тым, як заключыць якую-кольвек дамову з казакамі, у Маскве пільна вывучалі прапановы, зробленыя гетману Рэччу Паспалітай і Турцыяй. У выніку, маскоўскія ўмовы заўсёды былі разлічаныя на тое, каб дасягнуць як мага шырэйшай падтрымкі сярод простых казакоў. Больш за тое, паводле гэтых дамоваў, цар атрымліваў усё больш важаляў уплыву на казацкае войска і кіеўскую царкву, але гетман, старшыны ды простыя казакі захоўвалі сваю грамадскую і палітычную значнасць. У Крамлі добра ўсведамлялі адрозненні паміж Кіевам і Масквой і пазбягалі захадаў, якія маглі выклікаць моцны супраціў гетмана ці падштурхнуць да паўстання шараговых казакоў.

---

[41] Wójcik, *Rzeczpospolita wobec Turcji*, ст. 37.

[42] Пададзены Сабескаму план дзеянняў Рэчы Паспалітай што да Украіны, распарацаваны Бянеўскім, дэталёва аналізуецца Збігневам Войцікам у *Rzeczpospolita wobec Turcji I Rosji*, ст. 37-42. Неабходнасць вырашэння казацкай праблемы была відавочная Кшыштафу Гжымультоўскаму, дыпламату, які заключаў дамову Вечнага міра і быў у апазіцыі да караля. Гл. яго прамову на сенацкім кансіліюме, 19 траўня 1687 года, біб. Чарт., № 181, ст. 669-74.

Глава 5. Украінскі парадокс

Маскоўскі цар пагадзіўся прыняць Хмяльніцкага пад сваю абарону толькі праз пяць год пасля пачатку паўстання. Некаторыя дарадцы Аляксея Міхайлавіча лічылі неабходным павярнуць Рэчы Паспалітай Кіеў у абмен на заключэнне вайсковага хаўруса двух дзяржаваў супраць Швецыі. На рашэнне Крамля захаваць Кіеў у значнай ступені паўплывала пазіцыя ўкраінскіх палітыкаў, якія мешкалі ў Маскве цягам другой паловы сямнаццатага стагоддзя. Яны баяліся павяртання ўкраінскіх зямель у Карону і ўсталявання парадку, які існаваў там да 1648 года і таму распальвалі анты-польскія настроі ў царскім атачэнні. Адначасова ўкраінскія палітыкі хацелі пазбегнуць залішняга царскага ўмяшальніцтва ў справы ўкраінскіх тэрыторыяў, і, у прыватнасці, казацкага войска.

Царскія дыпламаты спрытна выкарыстоўвалі страхі пра-маскоўскі арыентаваных украінскіх палітыкаў. Паперад заключэннем Андрусаўскага перамір'я, яго працягненнем і падпісаннем Вечнага міра, расійцы кожным разам перамаўляліся з гетманам і яго атачэннем ды ўлічвалі, прынамсі, некаторыя іх пажаданні. Гетман Самайловіч, які выступаў супраць ідэі Вечнага міра паміж Рэччу Паспалітай і расійскай дзяржавай, здолеў пераканаць Пасольскі прыказ прыняць запарожскіх казакоў у маскоўскае падданства.[43]

Размяшчэнне расійскіх гарнізонаў у Кіеве, Нежыне, Пераяслаўлі і Чарнігаве яшчэ больш замацавала царскіў уплыў ва Украіне. У 1666 годзе мелі месца спробы абмежаваць паўнамоцтвы казацкай улады і перадаручыць спагнанне падаткаў расійскім чыноўнікам. Паўстанне сапсавала гэтыя планы, але расійскія вайсковыя гарнізоны ў вялікіх гарадах засталіся. Ваяводамі ўкраінскіх тэрыторыяў прызначаліся толькі самыя надзейныя баяры, а гетман і найуплывовейшыя казацкія старшыны знаходзіліся пад наглядам шматлікіх царскіх шпіёнаў.[44]

Ва Украіне добра ведалі, што любыя спробы перашкодзіць уцелясненню царскай палітыцы могуць скончыцца арыштам, ссылкай ці нават каштаваць жыцця. Казакі ўсведамлялі, што ў Крамлі не зважалі на іх гістарычныя вольнасці ды прывілегіі і ў выпадку патрэбы гатовыя былі ахвяраваць нават найбольш адданымі Крамлю людзьмі, каб захаваць тэрыторыі па Дняпры. Ніхто не ўспрымаў усур'ёз царскія абяцанні. Так, нягледзячы на тое, што прыняўшы бок Расіі Дарашэнка атрымаў пасаду вяцкага ваяводы, у Маскве вырашылі ізаляваць яго ад любых казацкіх справаў. Не забывалі ва Украіне і лёс гетмана Самайловіча, які самаахвярна адстойваў расійскія інтарэсы падчас падзеяў 1682 года. Як толькі ён стаў замінаць уцелясненню царскіх планаў што да Украіны, цар без ваганняў загадаў саслаць Самайловіча ў Сібір.

---

[43] Пра стасункі Расіі з казакамі і Дарашэнкам у 1675 годзе гл. ЦГАДА, фонд 79, № 177. Для перамоваў паміж расійскім урадам і Самайловічам да заключэння Вечнага міра гл. ЦГАДА, фонд 79, № 220, 221. Гл. таксама А. Яковлів "*Договір гетьмана Богдана Хмельницького з московським царем Олексієм Михайловичем 1654 року*" (Нью-Йорк, 1954); той самы аўтар, Українсько-Московські договори в XVII-XVIII віках (Варшава, 1934). Гл. таксама C. Bickford O'Brien "The Views of A.L. Ordin-Nashchokin," у Jahrbücher für Geschichte Osteuropas 17 (1969): 357-79; Костомаров, *Руина*, ст. 128; Wójcik, *Między traktatem*, ст. 164-67, 171.

[44] Спавешчанні кіеўскага ваяводы Лукі Даўгарукага што да сустрэчаў з Палым, ЦГАДА, Малороссийские дела, фонд 123, Стасункі 1692 года, № 52. *Літописа самовидця*, ст. 99-100; Бантыш-Каменский, *Источники*, ст. 154-56. Працы Салаўёва і Кастамарава застаюцца найбольш каштоўнымі крыніцамі па ўкраінска-расійскіх стасунках другой паловы сямнаццатага стагоддзя.

Глава 5. Украінскі парадокс

Нягледзячы на незадаволенасць стратай гетманам кантроля над Запарожскай Сеччу і абыякавасцю расійцаў да прапановаў Палага, казакі аддавалі перавагу служэнню праваслаўнаму цару, а не каралю каталіцкай Рэчы Паспалітай. Гетман, старшыны, праваслаўнае духавенства Украіны – усе яны лічылі расійскіх палітыкаў падступнымі, нязгоднымі на кампраміс партнёрамі, якія навязвалі казакам маскоўскую мадэль аўтакратыі. Але нават нягледзячы на дробны, хіжы і жорсткі характар царскай палітыцы, расійцы (у адрозненне ад караля і шляхта) ставіліся да ўкраінскіх палітыкаў як да сур'ёзных партнёраў, а не марыянетак, патрэбных падчас войнаў і пагарджаных, калі мінае непасрэдная пагроза. У Маскве разумелі моцныя бакі казацтва і ставіліся да іх на падставе патэнцыйнай карысці казацкага войска для ўцеляснення расійскіх інтарэсаў.

Нядзіва, што ў такіх умовах намеры каронных палітыкаў павярнуць левабярэжную Украіну выклікалі ў расійскіх дыпламатаў іранічныя ўсмешкі. Расійцы, ніколі не схільныя пераацэньваць моц Рэчы Паспалітай, сцвярджалі, што ва ўсім каронным войску менш жаўнераў, чым цар трымае толькі ў сваіх украінскіх фартах, але ўсё роўна мае праблемы з казакамі. Нягледзячы на пэўнае перабольшанне, гэтае цверджанне сведчыла, што ў другой палове сямнаццатага стагоддзя ў Маскве разумелі: расійскае панаванне на ўсходнім беразе Дняпра грунтавалася на вайсковай сіле. Акрамя таго, расійцы былі ўпэўненыя, што калі левабярэжная Украіна павярнецца пад уладу караля, ён здолее пакладацца на казакоў толькі калі тыя будуць адчуваць значную перавагу кароннага войска. Цар не верыў у дзейснасць аніякай дамоўленасцяў, кшталту Гадяцкай уніі.[45]

Маскоўская палітыка што да Украіны фармавалася пад уплывам досведу стасункаў расійцаў з паволжскімі ханствамі і данскімі казакамі. У Маскве ўважалі падпарадкаванне ўкраінскіх зямель сваім першачарговым прыярытэтам. Для вядзення ўкраінскіх справаў быў створаны асобны Маларасійскі прыказ, а расійцы прыкладалі значныя высілкі, каб гетман і ўкраінскія эліты адчувалі паважнае стаўленне да сябе з боку маскоўскіх палітыкаў. У адрозненне ад каронных дыпламатаў, расійцы ніколі не забываліся, што казакі ставаліся асобнай нацыяй і, адпаведна, не разглядалі існы стан рэчаў як натуральны і нязменны.

Цягам жыцця трох пакаленняў расійцы рознымі сродкамі здолелі прыцягнуць на свой бок усе сацыяльныя групы казацкага грамадства, у тым ліку прадстаўнікоў праваcалаўнай іерахіі, гетмана і нават старшынаў. Так, праваслаўнаму духавенству было забяспечанае панаванне ў рэлігійнай сферы, цар актыўна падтрымліваў гетмана, а для старшынаў стваралася ілюзія шляхецай дэмакратыі ў межах агульнай аўтакратычнай сістэмы. Расійскае панаванне грунтавалася на сеціве вайсковых гарнізонаў, але, нягледзячы на гэта, цар заўсёды шукаў падтрымку гетмана і быў гатовы падтрымаць яго ў барацьбе супраць старшынаў. Царскія чыноўнікі не рабілі спробаў распадзяляць землі на левым беразе Дняпра паміж буйнымі расійскімі землеўладальнікамі, але пільна адсочвалі любыя кантакты паміж прадстаўнікамі Рэчы Паспалітай і казакамі.

***

Сабескі, Сенат і каронны парламент відавочна не разумелі сапраўднага стану рэчаў ва Украіне і фармулявалі казацкую палітыку без агляду на наступствы, якая яна будзе мець у левабярэжнай

[45] Н.Г. Устрялов, *История царствования Петра Великого*, том 2 (Санкт-Петербург, 1854), ст. 190-218.

Украіне. У Рэчы Паспалітай не надалі належнай увагі шэрагу дамоваў паміж казакамі і царом. Выношваючы планы па далучэнні ўсёй Украіны да Кароны, кароль не палічыў неабходным прапанаваць запарожскім казакам умовы, прывабнейшыя за царскія. Ані Сабескі, ані сенатары, ані шляхта проста не ўяўлялі, як нехта можа аддаць перавагу “маскоўскай тыраніі”, а не “блаславёным свабодам” Рэчы Паспалітай. Каралеўская стратэгія датычна левабярэжнай Украіны за Сабескім абяжоўвалася заклікамі да гетмана Мазэпы “скінуць ярмо рабства”.[46] Аднак аднымі высакароднымі заклікамі немагчыма было пераканаць нават Мазэпу, ворагі якога называлі яго “палякам”. Марнымі ставаліся й спадзевы на прыхільнасць старшынаў да Кароны; прынамсі, датуль, дакуль левабярэжныя казакі мелі больш правоў і прывілегіяў за царскай тыраніяй, чым іх браты ў Рэчы Паспалітай, дзе нагэтулькі ганарыліся сваімі свабодамі.

[46] Ліст Шумлянскага Мазэпе, студзень 1690 года, у Устрялов, *История царствования*, том 2, ст. 478. Сенатар і дыпламат Кшыштаф Гжымультоўскі лічыў, што Рэч Паспалітая ці Расія былі здольныя кантраляваць Украіну толькі вайсковай сілай, а не праз дамовы, нават тыя, якія не даюць Украіне ані шанца на незалежнасць. Гл. ліст Гжымультоўскага Галіцыну, 3 студзеня 1687 года, біб. Чарт., № 181, ст. 630. Гл. таксама: Wójcik, *Rzeczpospolita wobec Turcji I Rosji*, ст. 211-29.

# Глава 6. Справа Саламона

Розніцу паміж кароннай і расійскай палітыкай датычна Украіны, а таксама адрозныя ўяўленні пра казацкае грамадства ў Расіі і Рэчы Паспалітай яскрава адлюстроўвае гэтак званая справа Саламона (1689-1690). Манах Саламон выдаваў сябе за даверaную асобу новага казацкага гетмана Івана Мазэпы, які, паводле манаха, прагнуў з дапамогай Сабескага пазбыцца залежнасці ад Масквы. Кароль зацікавіўся прапановай Саламона, аднак яго намаганні ўсталяваць таемныя кантакты з Мазэпам выявіліся няўдалымі. Эмісар Сабескага быў арыштаваны і перададзены Маскве. Раз’юшаны цар патрабаваў ад караля тлумачэнняў. Вынікам гісторыі з манахам Саламонам стала прыспыненне вайсковага хаўруса Рэчы Паспалітай і расійскай дзяржавы і ўзаемная дэманстрацыя вайсковай сілы на Дняпры. Адданасць Мазэпы Маскве, і свядомае замоўчванне гэтай непрыемнай гісторыі Сабескім дапамаглі зняць напружанасць у стасунках Кароны з Расіяй. Тым не менш, прэстыж Рэчы Паспалітай і давер да яе караля ў вачох кіеўскіх і маскоўскіх палітыкаў былі падарваныя. Акрамя таго, супярэчнасці паміж хаўруснікамі зрабілі менш гнуткімі перамоўныя пазіцыі туркаў і татараў.

Справа Саламона дагэтуль мае шэраг узаемавыключальных інтэрпрэтацыяў. Галоўнай прычынай рознагалоссяў паміж гісторыкамі стаецца вызначэнне тых, хто стаяў за Саламонам. Паводле некаторых крыніцаў, Саламон насамрэч працаваў на Мазэпу. Паводле іншых, манах быў агентам яго ўкраінскіх ворагаў– прыхільнікаў былога гетмана Івана Самайловіча. Аніводная з вышэйпрыведзеных інтэрпрэтацыяў не падаецца нам слушнай.

Шмат аспектаў справы Саламона застаюцца цьмянымі: мы часцяком не ведаем пра іх анічога, акрамя сведчанняў самога Саламона, толькі часткова пацверджаных інфармацыяй з іншых крыніцаў. Недастаткова вядомая і храналогія перабывання манаха ў Рэчы Паспалітай. Ён перасек мяжу недзе пад Смаленску, магчыма ў ліпені, але не пазней за жнівень 1689 года. Перасоўваўся манах павольна, падоўгу карыстаючыся гасціннасцю праваслаўных манастыроў. Саламон не пэўны час спыніўся ў Магілёўскім манастыры, але яго паводзіны (дакладней, схільнасць да алкаголю) прымусілі настаяцеля манастыра Хамянтоўскага перагледзець рэкамендацыйны ліст, нібыта выдадзены Саламону ў чарнігаўскім манастыры. Калі высветлілася, што ліст быў падробленым , а сам манах быў шарлатанам, які любіў прыдумляць за кілішкам шалёныя небылі, Хамянтоўскі загадаў увязніць госця.[1] Застаецца невядомым, колькі часу Саламону правёў пад арыштам. Трэба адзначыць, што пазней Саламон адгукаўся пра настаяцеля з павагай – магчыма, таму, што той выявіўся адзіным чалавекам у Рэчы Паспалітай, які выкрыў яго падман. Саламон выйшаў на свабоду, калі даў клятву, што вёз сакрэтныя лісты каралю і львоўскаму епіскапу Іосіфу Шумлянскаму ад гетмана Мазэпы. Пабачыўшы лісты, настаяцель дазволіў Саламону працягнуць яго шлях, нягледзячы на свае сумневы ў шчырасці манаха.

[1] Adam Darowski, "Intryga Salomonka," у яго *Szkice historyczne.* Serja pierwsza (St. Petersburg, 1894) ст. 214.

Глава 6. Справа Саламона

Замест таго, каб адразу накіравацца ўва Львоў, Саламон (магчыма, баючыся дагоні) паехаў праз Воршу ў Мінск, адкуль павольна вырушыў у кірунку Львова. Па прыездзе туды, Саламон даведаўся ў Саборы Святога Георгія, што епіскап Шумлянскі знаходзіўся ў Перэгінскім манастыры, які знаходзіўся ў 100 кіламетрах на поўдзень ад Львова. Калі Саламон сказаў манахам, што ён прывез важныя лісты да епіскапа, яны далі яму свежых коняў і праваднікa ў Перэгінск. Там Саламон адразу атрымаў аўдыенцыю ў Шумлянскага.[2] Незадоўга да справы Саламона львоўскі епіскап звярнуўся да цара з прапановай вызнаць вяршынства маскоўскага патрыярха ў абмен на падтрымку Расіі яго кандыдатуры на пасаду кіеўскага мітрапаліта.[3] Магчыма, мяркуючы, што Саламон прывез сакрэтныя інструкцыі што да ўцеляснення яго прапановы, Шумлянскі хутка прачытаў лісты. Нягледзячы на тое, што яны мелі непасрэднага дачынення да яго кантактаў з Масквой, лісты Саламона ўказалі Шумлянскаму альтэрнатыўны шлях да кіеўскага мітрапаліцтва – праз актыўную анты-расійскую пазіцыю. Лісты, адрэсаваныя яму, Сабескаму і каронначу гетману Ябланоўскаму былі падпісаныя Мазэпам і мелі пячатку Запарожскай Сечы. Іх змест агаломшваў – казацкі гетман прапаноўваў далучыць левабярэжную Украіну да Рэчы Паспалітай і падпарадкаваць запарожскае войска каралю. Шумлянскі, які ўжо бачыў сябе на пасадзе кіеўскага мітрапаліта Гедэона Чацвяртынскага, свайго асабістага ворага і маскоўскай марыянеткі, пакінуў Саламона ў Перэгінску і паспяшаўся ў яго лістамі да Сабескага ў Жоўкву. Кароль загадаў Шумлянскаму спачатку паказаць Саламона гетману Ябланоўскаму, які ў той час знаходзіўся ў Львове па вайсковых справах, а пасля прывезці манаха ў Жоўкву.[4]

Гэтым часам Саламон захварэў, і Сабескі даслаў яму ў Перэгінск свайго персанальнага лекара. Бліжэй да канца кастрычніка манах дастаткова ачуняў, каб сустрэцца з Ябланоўскім ува Львове. Пасля сустрэчы Шумлянскі накіраваў Саламона ў Крэхіўскі манастыр. Тамтэйшыя манахі часцяком выконвалі ролю дасланцаў ці агентаў Сабескага ва Украіне. У Крэхіве Саламону загадалі пераапрануцца ў цывільнае адзенне, каб не прыцягваць увагу тагачаснага расійскага рэзідэнта Волкава. Манаху прызначылі аўдыенцыю з каралём і каралевай на 4 лістапада, той самы дзень, калі ў Варшаве атрымалі доўгачаканае спавешчанне Доўманта пра паразу партыі Соф'і і Галіцына.[5] Пераварот скончыўся хутка і амаль бяскроўна, і спадзевы Сабескага на грамадзянскую вайну ў Расіі не спраўдзіліся. Кароль больш не меў магчымасці павярнуць Украіну, ці, прынамсі, Кіеў, у абмен на дапамогу Нарышкіным у барацьбе за царскі трон.[6]

У новых умовах кароль і Ябланоўскі асабліва зацікавіліся лістамі Мазэпы. На першы погляд падалося, што з'явілася рэальная магчымасць павярнуць Кіеў і левабярэжную Украіну. Аднак пры бліжэйшым разглядзе зместу лістоў, у Сабескага і Ябланоўскага ўзніклі сумневы што да іх сапраўднасці. Кароль і гетман добра ведалі хітрасплёты ўкраінскай палітыцы і былі асабіста знаёмыя з Мазэпам. Яны пагадзіліся, што стыль лістоў непадобны да гетманава. Больш за тое, іх

[2] Тамсама.

[3] Візіт у Маскву дасланца Шумлянскага, ЦГАДА, Стасункі з Польшчай у 1689 годзе, фонд 79, № 2; гл. таксама M. Andrusiak, *Józef Szumlański, pierwszy biskup unicki lwowski (1667-1708)* (L'viv, 1934), ст. 97; К.В. Харлампович, *Малороссийское влияние на великорусскую церковную жизнь* (Казань, 1914), ст. 239-41.

[4] Сведчанні Саламона ў Варшаве, 13 траўня 1690 года, паводле Darowski, "Intryga," ст. 214-15.

[5] Спавешчанні Волкава, лістапад і снежань 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 265-66, 337-38.

[6] J. Perdenia, *Stanowisko Rzeczypospolitej szlacheckiej wobec sprawy Ukrainy na przełomie XVII-XVIII w.* (Wrocław, 1963), ст. 31.

пісалі "ў спешцы і без агляду на сакрэтнасць справы."Адзінае, што падавалася ў лістах сапраўдным, дык гэта пячатка Запарожскай Сечы.[7]

Над Саламонам навісла пагроза паўторнага ўвязнення, але яму пашанцавала. Напярэдадні прыезда манаха Сабескі атрымаў сардэчныя вітанні ад кіеўскага палкоўніка Канстанціна Саланіны, аднага з найбліжэйшых паплечнікаў Мазэпы, і прыняў дэпутацыю запарожскіх казакоў, якія звярталіся па каралеўскую пратэкцыю.[8] Сапраўднасць місіі ста казакоў, якую ачольвалі вядомыя палкоўнікі Пракоп Лазука і Васіль Забіла, не выклікала сумневаў. Адзнакі зацікаўленасці казакоў у Рэчы Паспалітай супалі з хуткай паразай перавароту ў Маскве. Гэтыя дзве акалічнасці спакушалі караля сур'ёзна разглядаць прапанову, змешчаную ў лістах Саламона, нават нягледзячы на тое, што лісты не былі пісаныя рукой Мазэпы. Кароль і яго дарадцы верылі манаху, які сцвярджаў, што ён дасланец гетмана, але вырашылі дзейнічаць абачліва і не давяраць Саламону кампраметуючыя Сабескага лісты. Манах атрымаў падарункі ад караля і ліст, выдадзены каралеўскай канцэлярый, дзе сцвярджалася, што ён наведаў Рэч Паспалітую па міласціну і вяртаўся дамоў. Саламона даслалі ў Кіеў 1 студзеня 1690 года. Каралеўскія прыдворныя суправадзілі яго да Бродаў, адкуль манах мусіў працягваць свай шлях самастойна.[9]

Аднак Саламон не паехаў на ўсход. Спачатку ён накіраваўся на поўнач, у Брэст, дзе каля шасці тыдняў гасцяваў у мясцовых праваслаўных манастырах. Пасля гэтага ён павярнуўся ў Крэхіў з новымі "лістамі ад Мазэпы", у якіх гетман нібыта выказваў сваё расчараванне нежаданнем караля заклікаць казакоў перайсці на бок Рэчы Паспалітай.[10] Аднак у Крэхіве Саламон даведаўся, што Сабескі загадаў епіскапу Шумлянскаму даслаць Мазэпу ліст, у якім кароль ухваляў яго намеры. Прывезці ліст у Кіеў даручылі крэхіўскаму манаху Кліменту Дамарацкаму. У Крэхіве былі вельмі здзіўленыя, калі пабачылі, што Саламон павярнуўся без Дамарцкага.

Манахі скіравалі чарговыя "лісты ад Мазэпы" каралю ў Варшаву, дзе праходзіла чарговая сесія кароннага парламента. Сабескі загадаў затрымаць манаха ў Крэхіве, але Саламон, відавочна адчуваючы, што час працаваў супраць яго, збег і прыехаў у Варшаву. Падазрэнні Сабескага што да манаха зрасталі, і ля яго дома была выстаўленая варта. Тым не менш, Саламона не арыштавалі, і ён вольна перасоўваўся па Варшаве ды бавіў час у шынках. Падчас аўдыенцыі ў караля, Саламон патлумачыў затрымку Дамарацкага неабходнасцю захоўваць выгляд адданасці Мазэпы Маскве дакуль кароль адкрыта не абвесціць пра сваю падтрымку яго намераў. Саламон заклікаў Сабескага даслаць яго ва Украіне з каралеўскай адозвай да казакоў. Аднак кароль адмовіўся прымаць якія-

[7] Спавешчанне Волкава, 26 снежня 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 337-38. Сабескі запозна выказаў сумневы што да сапраўднасці папераў, прывезеных Саламонам, у сваім лісце Іскрыцкаму ад 6 траўня 1690 года. Н. Устрялов, *История царствования Петра Великого*, том 2 (Санкт-Петербург, 1854), ст. 482-85.
[8] Спавешчанне Волкава, 26 снежня 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 238. У Маскве мусілі ведаць пра тое, што Сабескі падтрымлівае кантакты з Запарожскай Сеччу. Прынамсі, Вазніцын папярэджваў Галіцына пра добрыя стасункі паміж запарожцамі і каралём яшчэ ў 1688 годзе. Спавешчанне Вазніцына, 23 снежня 1688 года, фонд 79, № 235, ст. 211. Кароль паінфармаваў Ватыкан пра паразуменне з казакамі ў надзеі атрымаць ад Папы сродкі на ўтрыманне казацкага войска. Сакрэтны Архіў Ватыкана (Archivio Segreto Vaticano), Польская Нунцыатура, № 107, ст. 249. Сабескі быў асабліва зацікаўлены ў падтрыманні добрых стасункаў з галовой Запарожскай Сечы Іванам Сірком. Ліст Сабескага Радзівілу, 21 лістапада 1679 года; E. Hurmuzaki, *Documente privitoare la istoria romanilor,* Suplementul II, том 1 (Bucharest 1883), ст. 123.
[9] Спавешчанне Волкава ў Пасольскі прыказ, студзень 1690 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 355.
[10] Darowski, "Intryga," ст. 216.

колечы рашэнні, пакуль не стане вядомым лёс Дамарацкага. Спрабуючы падштурхнуць караля да актыўнейшых захадаў, у сакавіку 1690 года Саламон склаў яшчэ адныя “лісты ад Мазэпы”. Манах сцвярджаў, што іх даставіў служка чарнігаўскага палкоўніка Лызагуба, добрага сябра гетмана і галоўнага сцяганошы Запарожскай Сечы. У лістах сцвярджалася, што Мазэпа затрымаў Дамарацкага са страху перад расійцамі і паўтаралася гатоўнасць казакоў служыць каралю Рэчы Паспалітай. Аўтар заклікаў караля як мага хутчэй даць яму адказ. “Гетман” пісаў, што калі Саламон прывязе ва Украіну каралеўскую адозву, казакі, у альянсе з татарамі, атакуюць расійскія гарнізоны. Нарэшце, Мазэпа нібыта прасіў Сабескага даслаць у Кіеў вайсковае падмацаванне.[11]

Усе “лісты ад Мазэпы” Сабескаму і Шумлянскаму Саламон пісаў сам. Але іншы, нібыта адрэсаваны яму самому ліст Лызагуба, манах надыктаваў былому студэнту Львоўскай семінарыі Марэцкаму, настаўніку дзяцей у дому, дзе спыніўся Саламон. Нягледзячы на шчодрую плату, Марэцкі адразу ж распавёў пра пісанне ліста свайму праваслаўнаму наймальніку, які, у сваю чаргу, паінфармаваў караля. Саламона заключылі ў кайданы і пачалі дапытваць, а яго лісты і пячаткі канфіскавалі. Спачатку манаха трымалі ў турме ў Казіміравым Палацы ў Варшаве, але пасля перавезлі ў Жоўкву, маёнтак каралеўскай сям’і, дзе падчас новых допытаў Саламона паказалі прадстаўнікам Мазэпы.[12]

Тым часам, становішчы Дамарацкага было яшчэ больш небяспечным. Ён перасек мяжу без якіх-кольвек інцыдэнтаў і прыбыў у Батурын, рэзідэнцыю гетмана, напрыканцы студзеня 1690 года. Там Дамарацкі перадаў Мазэпу ліст Шумлянскага, у якім епіскап дзякаваў гетману за дасланне і прапаноўсваў яму скіраваць сваіх прадстаўнікоў у каронны парламент. У адным са сказаў Шумлянскі заклікаў Мазэпу “распачаць добрую справу і скінуць ярмо рабства з шыі вольнага народа.”[13] Акрамя таго, дыпламат уручыў гетману каралеўскі ліст. У ім Сабескі заклікаў Маээпу давяраць Дамарацкаму і палкоўніку Васілю Іскрыцкаму, якога кароль даслаў у Батурын яшчэ ў кастрычніку ці лістападзе 1689 года, каб павіншаваць Мазэпу з цёплым прыёмам у Маскве. Прапанова Сабескага, які заклікаў казакоў да паўстання супраць Масквы, зробленая неўзабаве пасля ўхвалення Мазэпы клікай Нарышкіных і падчас таго, як гетман прыкладаў усе магчымыя высілкі, каб запэўніць цароў Пятра і Івана ў сваёй адданасці, мусіла падацца галаве левабярэжнага казацтва надзвычай падазронай. Ён загадаў арыштаваць Дамарацкага і пазней канваяваў яго ў Маскву разам з копіяй ліста Шумлянскага.

Прыблізна ў той самы час у Маскве атрымалі спавешчанне Волкава, які згадваў з’яўленне Саламона пры каралеўскім двары і прыбыццё місіі Запарожскай Сечы. Дамарацкага дапытвалі пад катаваннямі пра ролю караля і Яблаexistоўскага ў “змове Саламона”. Мазэпа, у сваю чаргу, атрымаў загад рабіць усё магчымае, каб не дапускаць аніякіх кантактаў паміж запарожцамі і Сабескім і арыштаваць чальцоў дэлегацыі Сечы, калі яны павярнуцца ад караля. На выпадак, калі Саламон зноў з’явіцца ва Украіне, быў выданы ордэр на яго арышт. Да ордэра дадавалася апісанне: “манах

[11] Паводле загада Сабескага, Іван Акраса перадаў расійскім дыпламатам копіі лістоў Саламона. ЦГАДА, фонд 79, стасункі з Польшчай у 1690 годзе, № 6, ст. 96-104. Арыгіналы лістоў страчаныя. М.Г. Устралаў падаў іх у *Истории царствования*, том 2, ст. 479-82.
[12] Н.И. Костомаров, *Мазепа и мазепинцы*, у *Собрание сочинений*, том 16 (Санкт-Петербург, 1905), ст. 419-20. Darowski, "Intryga," ст. 217-18.
[13] Цыт. па Устрялов, *История царствования,* том 2, ст. 478-79.

сярэдняга роста, мае вузкі, белы твар. Носіць чырвоную бараду клінам і доўгія вусы, на выгляд каля 40 год."[14]

У чэрвені 1690 года расійцы запатрабавалі ад Сабескага тлумачэнняў, які адказаў, што махляр Саламон, які спрабаваў пахіснуць сяброўства караля і цара, ужо знаходзіўся ў турме. Цары прапанавалі даслаць Саламона ў Маскву, каб зладзіць яму вочную стаўку з Дамарацкім, але Сабескі напалягаў на абмене арыштаванымі і іх пісьмовымі сведчаннямі. Расійцы адмовіліся і запатрабавалі выдаць ім манаха. Каб развеяць падазрэнні, што ён парушыў умовы Вечнага міра, паводле якога бакі бралі на сябе абавязальніцтва не падтрымліваць кантактаў з казакамі, падпарадкаванымі іншай дзяржаве, Сабескі вымушаны быў пайсці на саступкі.[15]

У жніўні 1691 года Іван Акраса выправіўся з Варшавы ў Маскву. Ён даставіў Саламона ў Магілёў, дзе мусіў быў адбыцца абмен манаха на Дамарацкага.[16] Па прыбыцці ў Маскву Акраса абмеркаваў планы будучых сумесных вайсковых аперацыяў Рэчы Паспалітай і Расіі супраць татараў і прапанаваў не зважаць на інцыдэнт з удзелам манаха.[17] Магчыма, Сабескі баяўся, што расійцы звярнуць увагу кароннага парламента на справу Саламона. Цар пагадзіўся забыцца на гэтую непрыемную гісторыю, але самая прапанова, разам з лістом Шумлянскага і інфармацыяй, атрыманай ад Дамарацкага, ставалася яшчэ адным ускосным сведчаннем не на карысць караля.[18]

Расійцы меркавалі, што мелі тры неабвержныя "доказы" парушэння каралём Вечнага міра: кантакты Сабескага з Мазэпам, яго намер, пры пасярэдніцтве Шумлянскага, падштурхнуць гетмана "скінуць ярмо рабства" і нежаданне караля арыштаваць Саламона адразу, калі той прывез першы "ліст ад Мазэпы". Цверджанні, што "ярмо рабства" датычылася татараў і што караль ніколь не

[14] Спавешчанне Волкава, зашыфраванае, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 355. Костомаров, *Мазепа и мазепинцы,* ст. 419-23.

[15] Запіс перамоваў Доўманта з Украінцавым, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 72-75, 103-108, 185, 191.

[16] "У тым самым годзе (1690) у Каралеўстве Польскім з'явіліся фальшывыя лісты з падробленымі царскімі пячаткамі, якія выклікалі канфлікт паміж каралём і царом. Іх аўтарам, як выявілася ў Польшчы, быў нехта манах Саламон, у якога знайшлі пячаткі. Клятага злачынца прывезлі ў Магілёў, дзе доўгі час трымалі ў замку, а пасля перадалі яго цару. У Маскве ён вызнаў сваю віну, пасля чаго быў пакараны смерцю. Праз гэтую афёру зазнаў пакуты нявінны Дамарацкі. Але пасля вяртання Дамарацкага з Масквы кароль належным чынам узнагародзіў яго." "Хроника белорусского города Могилёва," у *Чтения в Императорском обществе истории и древностей российских при Московском Университете* (далей - *Чтения*), пад рэд. А. Трубницкого (1877), ст. 31. Сабескі хацеў абмяняць Саламона на Дамарацкага на мяжы, аднак расійцы запатрабавалі, каб Саламон прыбыў у Маскву для вочнай стаўкі з Дамарацкім. Запісы перамоваў Доўманта з Украінцавым, кастрычнік 1691 года, люты 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 320, 330, 369, 407, 422-23, 430, 447-48, 456.

[17] Перамовы Івана Акрасы з Іванам Чадаевым і Емяльянам Украінцавым, 13 верасня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1691 годзе, нум. 6, ст. 91, 118-24. Іосіф Ладніцкі паінфармаваў Міхайлава, што Сабескі даслаў Акрасу, каб пакласці канец "справе Саламона", бо кароль цалкам яму давяраў. Рээстр дзейнасці Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 26. Паводле дадзеных яму пісьмовых інструкцыяў, Акраса мусіў схіліць расійскі бок да актыўнейшых захадаў датычна татараў. Яго найбольш сакрэтная місія нават не згадваецца ў афіцыйных дакументах. Бібліятэка-Музей імя Чартарыскіх (Biblioteka Muzeum im. Ks. Czartoryskich, Cracow; далей біб. Чарт.), № 183, ст. 372. Цэнтральны Архіў Гістарычных Актаў (Archiwum Główne Akt Dawnych, Warsaw; далей AGAD), Радзівілаўскі Архіў II, № 1781.

[18] Крэмль працягваў ціснуць на Сабескага што да Шумлянскага, якога цар патрабаваў даслаць Маскву для допыта ў межах "справы Саламона". Запісы перамоваў Доўманта з Украінцавым, ЦГАДА, фонд 70, чэрвень 1692 года, № 240, ст. 533-34. Акрамя таго, Нарышкіны трымалі Дамарацкага ў Маскве да траўня 1693 года, нягледзячы на просьбы Сабескага і свае папярэднія абяцанні. Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 667, 800-801.

ўспрымаў прапановы Саламона ўсур’ёз ставаліся непераканаўчымі з улікам наяўных у Пасольскім прыказе доказаў.[19]

Далейшы лёс Саламона і Дамарацкага адлюстроўвае стаўленне да інцыдэнта ў Маскве і Варшаве. У 1692 годзе Дамарацкага вызвалілі з маскоўскай турмы і даслалі ў Варшаву. За свае пакуты ён атрымаў пасаду Оўручскага архімандрыта. Паводле разумення караля, Дамарацкі (які, нягледзячы на сваё шляхецтва, быў катаваны ў Маскве) годна вытрымаў пакуты, не сказаўшы расійцам анічога апроч таго, што яны даведаліся з ліста Шумлянскага.[20]

Лёс Саламона, абвешчанага расійцамі шарлатанам і перахрошчаным габрэям, склаўся зусім па-іншаму. Калі манаха даставілі ў Маскву ў 1692 годзе, яго чакалі допыты пад катаваннем і вочнага стаўка з Дамарацкім.

Да нашага часу не дайшлі сведчанні Саламона, дадзеныя пад катаваннем у Маскве. Прынамсі, іх не існуе ў архівах каронная канцэлярыі ці расійскага Пасольскага прыказа. Вядома, аднак, што ўвесну 1692 года Прыказ паінфармаваў Мазэпу пра развязанне справы Саламона. Яму таксама паведамілі, што пад катаваннем манах назваў імя толькі аднаго свайго суўдзельніка – Міхайлы Самайловіча, пляменніка Івана Самайловіча, былога гетмана і гадяцкага палкоўніка. Тым не менш, паводле запісу ў дзённіку аднаго з вышэйшых расійскіх урадоўцаў таго часу, “Самайловіч падчас допыта нічога не вызнаў. Ён выкупіў сваю віну крывёй і быў саслалі [у Сібір]. Манаха, які назваў яго імя, абезгаловілі ў казацкім горадзе Батурыне.”[21] Саламона сапраўды пакаралі смерцю ў Батурыне. Мазэпа паказаў яго казакам і прадставіў доказы віны манаха, здабытыя ў Маскве. Пасля праверкі лістоў і пячатак, а таксама інфармацыі, здабытай прадстаўнікамі Мазэпы ў Жоўкве, казакі адзінагалосна прыйшлі да высновы, што ў Саламона мусіла быць больш суўдзельнікаў. Манах пакляўся, што сказаў усё, што ведаў, падчас катавання вагнём у Маскве. Мазэпа звярнуўся да расійцаў з просьбай канваяваць у Батурын Міхайла Самайловіча і паспрабаваў прыцягнуць да змовы ўсіх сваіх ворагаў – Лявонція Палуботка, Данілу Апостала, Юрыя Чацвяртынскага і Дмітра Райча. Аднак Масква адмовілася выдаць Самайловіча і запатрабавала як мага хутчэй пакараць Саламона смерцю.[22]

Такім чынам, расійскі бок усклаў віну за інцыдэнт на манаха Саламона. Падазрэнні ў суудзеле ў афёры існавала таксама датычна былога казацкага палкоўніка. Паводле расійскай версіі, у змову двух дробных авантурыстаў апынуліся ўцягнутыя кароль Рэчы Паспалітай, каронны гетман і праваслаўны епіскап Львова.

Аднак не ўсе даследчыкі “справы Саламона” пагаджаюцца з маскоўскай інтэрпрэтацыяй інцыдэнта. Аргументы тых, хто з ёй не згодны грунтуюцца на несувымернасці грандыёзных мэтаў

[19] Перамовы з Акрасам, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай, нум. 6, ст. 118-24.
[20] K. Sarnecki, *Pamiętniki z czasów Jana Sobieskiego. Diariusz I relacje z lat 1691-1696* (Wrocław, 1958), ст. 71. Міхайлаў папярэдзіў Маскву, што Дамарацкі прызначылі галавой манастыра ля Кіева, каб весці адтуль анты-расійскую дзейнасць. Спавешчанні Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 1070. Сапегі, якія варагавалі з Сабескім, былі расчараваныя тым, што “справа Саламона” не атрымала належнага працяга. Яны хацелі, каб Дамарацкі выступіў перад парламентам, каб знайсці віннага ў дзеяннях, якія маглі парушыць Вечны мір. Спавешчанні Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 779-80.
[21] И.А. Желабушский, *Записки Желабушского с 1682 па 2 июля 1709 года* (Санкт-Петербург, 1840), ст. 26.
[22] О. Оглоблин, *Гетьман Іван Мазепа та його доба* (Нью-Йорк, 1960), ст. 169-70.

змовы з нізкім статусам яе выканаўцаў. Было зроблена некалькі спробаў выкрыць сапраўдных верхаводаў змовы, але, на наш погляд, аніводная з іх не стаецца дастаткова пераканаўчай.

Пачнем з агляду крыніцаў доследу. Сярод іх: лісты “Мазэпы” Сабескаму, Шумлянскаму і Саламону, бясспрэчна падробленыя апошнім у сакавіку 1690 года; два спавешчанні Івана Волкава, расійскага рэзідэнта ў Варшаве, датаваныя снежням 1689 года і студзеням 1690 года; ліст Шумлянскага Мазэпу; два лісты Сабескага Васілю Іскрыцкаму; сведчанні Саламона, дадзеныя пасля яго арышта ў Рэчы Паспалітай; дзённік манаха і ліст Пасольскага прыказа Мазэпу датычна справы Саламона. Дадатковую інфармацыю можна атрымаць з размоваў Акрасы з Доўмантам датычна Дамарацкага і Саламона; лістоў цара Яну Сабескаму; запіса размовы паміж расійскім дыпламатам Барысам Міхайлавым і епіскапам Шумлянскім, Сабескім, Акрасам, Шчукам і Ябланоўскім, дзе згадваецца справа Саламона; і шэраг лаканічных запісаў, зробленых на манер дзённіка, якія ахопліваюць перыяд ад 1690 да 1693 года.

Лісты ад “Мазэпы”, прывезеныя Саламонам з Расіі, і тыя, што ён напісаў у Брэсце, адсутнічаюць. Расійцы запатрабавалі іх ад караля, але Сабескі і каронныя дыпламаты сцвярджалі, што яны былі згубленыя. Паперад тым, як следам за прадстаўнікамі Пасольскага прыказа абвінаваціць Сабескага ў няшчырасці, трэба ўлічыць, што ў кароннай канцэлярыі знікалі й больш значныя дакументы. Пра іх змест можна меркаваць паводле спасылак у лісце Сабескага Іскрыцкаму, сведчанняў Саламона, існых лістоў “Мазэпы” Сабескаму і спавешчанняў Шумлянскага ды Волкава.

З усіх вышэйзгаданых дакументаў, найкарыснейшай крыніцай інфармацыі пра сапраўдных змоўшчыкаў стаюцца сведчанні, дадзеныя Саламонам падчас допытаў у Варшаве. Нягледзячы на тое, што манаха не катавалі, яго трымалі ў падземнай турме ў цяжкіх кайданах і пагражалі значна горшым пакараннем, калі ён не распаведзе праўду. Манах распавёў, што ў Рэч Паспалітую яго даслалі Васілі Галіцын (магчыма, з ведама Соф'і) і былы гетман Іван Самайловіч, які жыў у ссылцы ў Ніжнім Ноўгарадзе.

Спавешчанні Волкава таксама граюць значную ролю, бо яны часткова пацвярджаюць сведчанні Саламона. Волкаў даведаўся пра місію манаха і шэраг сустрэчаў караля з Шумлянскім, Ябланоўскім, Станіславам Шчукам і Францішкам Галецкім напрыканцы снежня 1689 года. Яго інфарматарам быў прыдворны па прозвішчы Падольскі. Ён распавёў расійскаму рэзідэнту не толькі пра Саламона, але й пра прыбыццё місіі запарожскіх казакоў. Акрамя таго, Волкаў даведаўся ад Падольскага й пра тое, што кароль і Ябланоўскі сумняваліся ў аўтарстве лістоў, але пячаткі на іх былі бясспрэчна сапраўдныя.[23]

Волкаў загадаў паддзячаму Паюсаву і свайму сакратару Івану Тарнаўскаму даведацца, дзе знаходзіўся манах. Праз тое, што Саламон вёў далёка не манашскі лад жыцця, людзі Волкава хутка знайшлі Саламона ў Жоўкве, але той збег, пабачыўшы Паюсава і Тарнаўскага. Відавочна, што манах , прынамсі, на выгляд, ведаў Паюсава, бо паддзячы запэўніў Волкава, што Саламон належаў да Данскога, а не Сіманаўскага манастыра, як ён сцвярджаў пры каралеўскім двары. Волкаў не распытваў палякаў пра Саламона, чакаючы інструкцыяў з Масквы, каб пачаць дзейнічаць. Расійскі

[23] Спавешчанні Волкава, студзень 1690 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 355.

рэзідэнт падазраваў, што афёру ладзіла адная з палітычных груповак Рэчы Паспалітай, каб пасварыць Мазэпу з царамі.[24] Спавешчанні Волкава і яго папярэдніка Міхайлава змяшчаюць праліваюць святло на рэакцыю каралеўскага двара, і, у прыватнасці, самога Сабескага, на развіццё падзеяў. Акрамя таго, у спавешчаннях рэзідэнтаў ёсць нацекі на тое, што ворагі караля плануюць выкарыстаць інцыдэнт з манахам супраць яго.

У сярэдзіне 19 стагоддзя Мікалай Устралаў стаў першым гісторыкам, які выкарыстаў большасць даступных крыніцаў пры апісанні "справы Саламона". На падставе лістоў "Мазэпы", напісаных Саламонам у Варшаве, ліставання Сабескага з Іскрыцкім і лістоў Шумлянскага Мазэпу, ён прыйшоў да высновы, што Саламон сапраўды быў тым, за каго сябе выдаваў, а менавіта эмісарам казацкага гетмана. Устралаў сцвердзаў, што Мазэпа планаваў вызваліцца з-пад улады Масквы і падпарадкаваць Украіну Кароне яшчэ ў 1689 годзе. Аднак яго тэорыю не падмацоўвае ані водная з прыведзеных ім крыніцаў. Устралаўская інтэрпрэтацыя тлумачыцца перш за ўсё яго пагардай да Мазэпы, якога ён лічыў рэнегатам, заўсёды гатовым здрадзіць сваім хаўруснікам і запрадаць сяброў. Віна Мазэпы ў выпадку з Саламонам ставалася гісторыку відавочнай праз тое, што гетман перайшоў на бок Карла XII у 1708 годзе. Міф пра тое, што Мазэпа быў "у душы палякам" дазволіў Устралаву сцвярджаць, што аўтарства лістоў, напісаных Саламонам ад імя гетмана, насамрэч належала Мазэпу. Некаторыя выразы, уведзеныя ім у гістарыяграфію, актыўна выкарыстоўваюцца і ў нашыя дні. Сярод іх, напрыклад, фраза, нібыта сказаная Мазэпам, пра тое, што ён распачаў нагэтулькі таемную справу, што "не хоча каб пра яе ведала нават яго кашуля".[25] Устралаў лічыў нягоды Дамарацкага і лісты Сабескага Іскрыцкаму хітрыкамі палякаў, каб адвесці падазрэнні ад свайго хаўрусніка Мазэпы. Паводле версіі Устралава, "справа Саламона" скончылася перамогай палякаў. Яны перахітрылі маскоўскіх баяраў і выратавалі "нікчэмнага" Мазэпу, сапраўдныя намеры якога выявіла толькі Палтава.[26]

У 1889 годзе Сяргей Міхайлавіч Салаўёў прапанаваў больш узважаную версію падзеяў. Ён з характэрнай для сябе грунтоўнасцю даследваў наяўныя крыніцы і прыйшоў да высноваў, якія ў агульных рысах адпавядалі інтэрпрэтацыі Пасольскага прыказа. Тым не менш, дослед Салаўёва карыснейшы ўстралаўскага, бо Салаўёў выкарыстоўвае ўсе даступныя дакументы з архіва Пасольскага прыказа па "справе Саламона". Акрамя таго, Салаўёў звяртае ўвагу на спробы Мазэпы абвінаваціць сваіх ворагаў і адзначае, што падчас расследвання расійскія дыпламаты засярэдзіліся выключна на асобе Саламона.[27]

На мяжы стагоддзяў Мікалай Іванавіч Кастамараў, выдатны знаўца гісторыі Украіны, дэталёва даследваў існыя крыніцы па "справе Саламона". Спаслаўшыся на шэраг цьмяных і супярэчлівых

---

[24] Спавешчанні Волкава, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 337.
[25] Устрялов, *История царствования*, том 2, ст. 200.
[26] Тамсама, ст. 196-218. Нягледзячы на відавочныя метадалагічныя памылкі, тэорыя Устралава дагэтуль мае прыхільнікаў, асабліва сярод гісторыкаў, якія вераць у тое, што пазнейшы пераход Мазэпы да ворагаў Масквы стаецца найлепшым пацверджаннем яго ўдзелу ў змове Саламона. Гл. В.Е. Шутой, *Борьба народных масс против нашествия армии Карла XII* (Ленинград, 1958), ст. 63-65; Perdenia, *Stanowisko*, ст. 110.
[27] С.М. Соловьёв, *История России с древнейших времён*, книга 7, том 14 (Москва, 1962), ст. 487-91, 501-505.

сведчанняў, ён не падаў дакладнай ацэнкі гэтага гістарычнага эпізода. Тым не менш, Кастамараў схіляўся да версіі, што змоўшчыкаў трэба шукаць сярод ворагаў Мазэпы.[28]

У 1905 годзе меркаванне Кастамарава развіў Адам Дароўскі. Ён знайшоў лісты Станіслава Шчукі, у якія, сярод іншага, былі запісы допытаў Саламона і дзённік, які манах вёў падчас свайго перабывання ў Рэчы Паспалітай. На падставе гэтых сведчанняў Дароўскі абвергнуў тэорыю Устралава і сцвердзіў, што за Саламонам стаялі ворагі Мазэпы.[29]

Стагоддзе прайшло з часу апошняга грунтоўнага доследу "справы Саламона", але з таго часу ніхто не прапанаваў новых версіяў падзей. Даследчыкі проста прымалі тэорыю Устралава ці Дароўскага, не зважаючы на значную заяву, зробленую самім Саламонам. 16 траўня 1690 года, падчас допыта ў варшаўскім Казіміраўскім Палацы, манах у дэталях выклаў сваю біяграфію. Ён распавёў пра сваё нараджэнне ў Бродах, маленькім горадзе ў Рэчы Паспалітай, службу Дарашэнку, пра доўгі турэцкі палон, пабег з няволі і манахаванне, спачатку ў левабярэжнай Украіне, а пасля ў Маскве. Саламон згадаў таксама пра свае сувязі з Галіцыным. Ён патлумачыў прычыны свайго падарожжа ў Рэч Паспалітую з падробленымі лістамі наступным чынам:

"Калі старэйшы Галіцын выправіўся на вайну, ён напісаў свайму сыну Аляксею Васільевічу з Каланчака і папрасіў яго даручыць мне нейкія лісты Самайловічу. Так малодшы Галіцын даслаў мяне са сталіцы ў Ніжні Ноўгарад да Самайловіча ў траўні мінулага года. Ён перадаў са мной нейкія лісты, сэнс якіх я не зразумеў, бо яны былі напісаныя на маскоўскі лад. Малады Галіцын загадаў мне: "Калі вернешся адтуль, паедзеш у Польшчу да людзей, якіх ты там ведаеш, а пасля да караля. Ты мусіш перадаць некаторыя лісты і паглядзець, як на іх адрэагуюць палякі і як яны паставяцца да хаўруса з Мазэпам. Ці ўсцешаць іх лісты? Што яны адкажуць? Самайловіч скажа табе, як паводзіцца." У Ніжнім Ноўгарадзе Самайловіч, паводле загада Галіцына, сказаў мне напісаць лісты нібыта ад Мазэпы да Яго Вялікасці і Айца Шумлянскага, што я й зрабіў у яго прысутнасці. Пасля ён даў мне падробленую пячатку і я прыклаў я да лістоў. Самайловіч загадаў мне ўзяць пячатку з сабой, на выпадак, калі спатрэбіцца пісаць новыя лісты."[30]

Падчас наступнага допыта Саламона, які ўжо быў у цяжкіх кайданах, спыталі ці мела да яго місіі нейкае дачыненне Соф'я. Ён адказаў, што не ведае, ці яе паінфармавалі. Саламон сцвердзіў, што Васіль Галіцын прылюдна сказаў, што збіраўся хутка даслаць яго ў Польшчу. Наступным пытаннем было чаму манах ужо ў Рэчы Паспалітай двойчы сам падрабіў лісты. Ён адказаў каротка і без звычайнай шматслоўнасці, але адказ тлумычыць шэраг загадак усёй справы. Саламон сказаў, што напісаў лісты таму, што: "Я хацеў, каб Яго Вялікасць далі мне ліст."[31] У святле інструкцыяў, дадзеных Саламону малодшым Галіцыным, гэта можа значыць толькі тое, што манах хацеў атрымаць ад караля ліст Мазэпу і прывезці яго ў Маскву.

---

[28] Костомаров, *Мазепа и мазепинцы*, ст. 418-22.
[29] Darowski, "Intryga," ст. 195-235. (Гэта найгрунтоўнейшае апісанне "справы Саламона").
[30] Тэкст варшаўскага прызнання Саламона, травень 1696 года, у Darowski, "Intryga," ст. 217-19.
[31] Тамсама, ст. 223-24.

Глава 6. Справа Саламона

Сведчанні Саламона надзвычай супярэчлівыя. Яны не адпавядаюць запісам у яго дзённіку. Акрамя таго, ён падхарошваў пэўныя падзеі, каб падвысіць сваю ролю ў іх і не грэбаваў відавочнай хлуснёй.

Гісторыкі, якія даследавалі "справу Саламона", звычайна ігнаравалі цытаванае вышэй цверджанне манаха і не надавалі належнай увагі іншаму надзвычай значнаму сведчанню – паводзінам самога Саламона. Паводле яго словаў, задачай Саламона было дамагчыся ад караля пісьмовага доказа парушэння Рэччу Паспалітай Вечнага міра. Дзеянні манаха выключаюць магчымасць таго, што ён працаваў на Мазэпу ці яго ворагаў.

Ліст Сабескага ці яго адозва да казацтва не былі патрэбныя ані ворагам Мазэпы, якія хацелі скампраметаваць яго, а не караля Рэчы Паспалітай, ані, тым больш, самому гетману. Калі б Мазэпа планаваў перайсці на бок Рэчы Паспалітай ці стварыць анты-маскоўскую кааліцыю казакоў, татараў і Кароны, ён не стаў бы дасылаць Сабескаму лісты са сваёй пячаткай, дзе б адкрыта абмяркоўваліся гэтыя планы. Акрамя таго, цяжка паверыць, каб гетман даручыў лісты чалавеку, незнаёмаму колу дарадцаў Сабескага па ўсходняй палітыцы. У Мазэпы было шмат сяброў і родзічаў у Рэчы Паспалітай. Акрамя таго, ён падтрымліваў шчыльныя кантакты з шэрагам тамтэйшых манахаў, якіх часцякоў выкарыстоўваў для выканання сакрэтных місіяў. Калі б Мазэпа хацеў выведаць настроі ў каралеўскім атачэнні, ён безумоўна даслаў бы свайго прадстаўніка на прыватныя перамовы з Ябланоўскім, Іскрыцкім ці Віслоцкім. Той факт, што прапановы былі перададзеныя амаль непрыхавана ў выглядзе надзвычай небяспечных лістоў з афіцыйнымі пячаткамі, робіць малаверагодным аўтарства гетмана. Насамрэч, Волкаў сцвярджае ў сваім спавешчанні, што Сабескі і яго дарадцы ставілі пад сумнеў сапраўднасць лістоў і шчырасць манаха.[32]

Калі б Саламон сапраўды быў дасланцам Мазэпы, ён бы вярнуўся ва Украіне ў студзені 1690 года, атрымаўшы абачлівы адказ караля, і гетман працягваў бы сакрэтныя перамовы праз Іскрыцкага і Дамарацкага. Сапраўдны эмісар Мазэпы ніколі б не стаў падрабляць лісты замест таго, каб вярнуцца ў Батурын па новыя інструкцыі. Саламон разумеў гэта і зрабіў выгляд, што накіроўваецца ў Батурын. Паводзіны манаха - у прыватнасці, тое, што ён павярнуўся ў Крэхіў з падробленымі лістамі, абвяргае тэорыю Устралава.

Аналагічным чынам, паводзіны манаха выключаюць магчымасць таго, што Саламон працаваў на ўкраінскіх ворагаў Мазэпы. Яго дзеянні адпавядаюць гэтай гіпотэзе толькі да таго моманту, калі ён даведаўся пра місію Дамарацкага. Сапраўдны агент ворагаў Мазэпы адразу б паінфармаваў іх пра прыезд Дамарацкага і ўцёк з Рэчы Паспалітай. Пасля гэтага ініцыятары афёры мусілі выкрыць сувязі Мазэпы з Дамарацкім. Застацца і працягваць ціснуць на караля значыла для Саламона ставіць пад пагрозу сваіх казацкіх наймальнікаў, бо калі б падман быў выкрыты, манах мог выдаць іх імёны пад катаваннямі.

[32] Спавешчанні Волкава, снежань 1689 года, студзень 1690 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 337, 355.

## Глава 6. Справа Саламона

Калі б Саламон працаваў на Мазэпу ці яго ворагаў, Саламон мусіў сысці са сцэны не пазней за сярэдзіну лютага 1690 года. Застацца, каб здабыць дакументальныя сведчанні супраць Сабескага манах мог толькі па настаянні Галіцына.

Паводле нашай версіі, падзеі разгарталіся наступным чынам: Галіцын паабяцаў Саламону пасаду архімандрыта (ці нават епіскапа), калі той здолее дамагчыся ад Сабескага кампраметуючую яго адозву да казацтва. У якасці мэты афёры Галіцын мог падаць манаху сваё жаданне адпомсціць Мазэпу за інтрыгаванне апошняга разам з Барысам Пятровічас Шарамецевым супраць самога Галіцына. Саламон, аднак, бачыць сапраўдныя намеры Галіцына і разумее, што змова скіраваная супраць кароль, а не казацкага гетмана.

Саламон яшчэ спадзяецца здабыць неабходны яму дакумент нават пасля арышта Дамарацкага. Ён увайшоў у давер да караля і яго світы, якія вераць яму і прыслухоўваюцца да яго мяркаванняў што да па галоўных пытанняў казацкай палітыцы. Нягледзячы на растучую занепакоенасць адсутнасцю Дамарацкага, кароль, як падавалася манаху, яшчэ даваў веры яго словам. Саламон ведае, што моцна рызыкуе. Аднак праз сваю свабоду перасоўвання ён мяркуе, што яшчэ не знаходзіцца пад падазрэннем, і поспех, ці, як найменш, беспакараннасць, падаюцца манаху магчымымі.

Напачатку лістапада, калі не раней, Саламон даведваецца пра няўдачу маскоўскага пераварота і апалу яго заступніка. Ён працягвае сваю гульню, бо разумее – новыя гаспадары Крамля шчодра ўзнагародзяць яго за здабыты дакумент. У новых умовах рызыка нашмат узрастае, але ў манаха яшчэ ёсць час кінуць афёру і павярнуцца да манастырскага жыцця.

Але амбіцыі пераважаюць над асцярожнасцю. Нягледзячы на сваю багатую біяграфію, Саламон няшмат дамогся ў жыцці. Разумеючы, што другога падобнага шанца здабыць грошы і славу ў яго не будзе, Саламон працягвае гульню, у якой ён стаецца пешкай. Манах прайграе, і яго чакаюць толькі катаванні і смерць.

Паводле версіі Пасольскага прыказа, Саламон стаецца дробным махляром, які дзейнічаў разам з былым казацкім палкоўнікам. Саламону забараняюць, магчыма, пад страхам новых катаванняў, паўтараць сваё прызнанне ў Батурыне. Адсячэннем галавы Саламону і ссыланнем Міхайлы Самайловіча ў Сібір Пасольскі прыказ фактычна ўмыў рукі і адначасова выявіў адданасць існуючым дамовам, асабліва на тле таго, што Сабескі адмовіўся пакараць Дамарацкага. Цікава, што калі Сабескі прызначыў Дамарацкага на пасаду архімандрыта, місія Саламона выявілася пасмяротна выкананай. Складалася ўражанне, нібыта ў Маскве пакаралі аднаго з тых, хто ставіў пад пагрозу добрасуседскія стасункі паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, а Сабескі, наадварот, шчодра ўзнагародзіў іншага. Як адпачатку й планаваў Галіцын, выканаўца місіі мусіў быць ахвяраваны. Крамлёўскія інспіратары вельмі небяспечнай афёры, якая ўвайшла ў гісторыю пад назвай "змовы манаха Саламона", нагэтулькі добра прыхавалі ўсе факты, што нават тыя, супраць каго аперацыя была скіраваная, не зразумелі яе сапраўдных замоўцаў.

"Справа Саламона" яскрава прадэманстравала падступнасць Сабескага што да стасункаў з Расіяй і яго гатоўнасць у любы момант парушыць умовы Вечнага міра. Каб зразумець, навошта Галіцыну спатрэбілася гэта давесці, трэба згадаць шэраг асаблівасцяў тагачаснай міжнароднай сітуацыі.

Глава 6. Справа Саламона

Вайсковыя кампаніі Галіцына супраць Крыма паміж 1687 і 1689 гадамі ўмацавалі пазіцыі Расіі на тэрыторыях па Дняпры. Непрыступная Новабагародзіцкая крэпасць, пабудаваная на рацэ Самара ў 1688 годзе, стала сімвалам расійскай прысутнасці ў рэгіёне. Яна адначасова служыла фарпостам для будучых аперацыяў супраць татараў і цэнтрам, з якога расійцы адсочвалі актыўнасць казакоў. Замацаванне расійскага ўплыва ва Украіне дазволіла царскай аўтакратыі яшчэ больш эфектыўна супрацьстаяць спробам караля павярнуць Кіеў і левабярэжную Украіну.[33]

Крымскія экспедыцыі выявілі, аднак, што зваяванне паўвострава магчымае толькі ў выніку шматгадовага вайсковага і эканамічнага высілкаў маскоўскай дзяржавы і можа быць дасягнутае толькі калі ўсе чальцы Святога Альянса адначасова ўзмацняць ціск на Атаманскую імперыю. Галіцын баяўся, што калі Аўстрыя глыбей уцягнецца вайну з Францыяй, якая пачалася ў 1688 годзе, у Вене вырашаць замірыцца з турэцкім султанам. Акрамя таго, ён ведаў, што зацікаўленасць Турцыі ў тым, каб як мага хутчэй скончыць вайну, знаходзіць водгук у Варшаве. Таму, нягледзячы на ўтрыманне расійцамі Кіева, умацаванне іх пазіцыяў на рацэ Самара і няспынных спробаў захапіць Перакоп, Галіцын, тым не менш, пакідаў адкрытай магчымасць перамоваў з Турцыяй і Крымам.

Праз тое, што падобная рэзкая змена расійскіх замежнапалітычных прыярытэтаў справакуе абвінавачанні ў парушэнні імі Вечнага міра, Галіцыну патрабавалася магчымасць першаму закінуць каралю недатрыманне ўмоваў нядаўна падпісанай дамовы. Натуральна, Галіцын ведаў пра спробы Сабескага заключыць мір з Турцыяй на ўмовах павяртанне Камянца-Падольскага і далучэння да Кароны Малдавіі.[34] У 1688 годзе кароль сур'ёзна разглядаў магчымасць выхада з альянса і заключэння сепаратнага міра з Атаманскай імперыяй. Але Галіцыну было недастаткова гэтых сведчанняў. Ён, паводле нашай версіі, здзейсніў правакацыю з лістамі "Мазэпы", каб неабвержна давесці падступнасць Яна Сабескага.

Спачатку можа падацца дзіўным, што творца замежнай палітыцы расійскай дзяржавы надаваў нагэтулькі вялікую ролю здабыццю доказаў, таго што кароль парушыў Вечны мір. Можа падацца, што Галіцын дастаткова шмат ведаў пра кантакты Сабескага з татарамі і казакамі, каб не баяцца самому распачаць перамовы з Турцыяй. Расійскі ўрадоўца не мусіў ані даводзіць "падступнасць" караля, бо ў Крамлі гэта ўважалі за відавочную ісціну, ані адпавядаць за свае дзеянні перад якім-кольвек прадстаўнічым органам. Намаганні здабыць пісьмовы доказ польскай "здрады" пададуцца асабліва незразумелымі тым, хто лічыць, што палітыкі выключна адстойваюць інтарэсы сваіх дзяржаваў. Дзяржаўныя інтарэсы (Raison d'état) ставаліся выпраўданнем дзеянняў палітыкаў з незапамятных часоў, і Расія за Галіцыным не была выключэннем. У Рэчы Паспалітай, напрыклад, кароль, сенатары, дэпутаты парламента і шараговыя шляхцічы падчас мясцовых радаў звычайна ацэньвалі дзейснасць пэўнага палітычнага захада на падставе таго, наколькі ён адпавядае розным

[33] "Москва в 1687-1688 годах," пер. и ред. К.А.Висковатов [Спавешчанні Крыстафа фон Кохэна, шведскага дыпламата ў Маскве, Я.І. Хастферу, лістапад 1688 года] *Русская старина* 23 (1878), 123; М. И. Белов, "Нидерландский резидент в Москве. Барон Иоганн Келлер и его письма" (канд. дис., Ленинград, 1947), ст. 382-84, 397-400.

[34] Калі Галіцын павярнуўся з вайсковай кампаніі 1689 года супраць Крыма, па Маскве папаўзлі чуткі, што ён распачаў мірныя перамовы з татарамі. Доўмант пісаў Сабескаму, што Галіцын ладзіў перамовы з Мурзой ібн Шулешам. 12 ліпеня 1689 года, біб. Чарт., № 189, ст. 664. K. Piwarski, *Między Francją a Austrją. Z dziejów polityki Jana III Sobieskiego w latach 1687-1690* (Cracow, 1933), ст. 76-85, 114-28.

аспектам нацыянальных інтарэсаў, такіх як, напрыклад, захаванню ідэалаў "Свабоды, Айчыны і Кароны".

У Расіі, аднак, не абмяжоўваліся простым абгрунтаваннем прагматычных палітычных захадаў абаронай нацыянальных інтарэсаў. Там, як і паўсюль, палітыка грунтавалася на дэталёвай ацэнцы існай сітуацыі і наступстваў яе змены, але нельга было адкрыта згадваць нацыянальныя інтарэсы ў якасці матыва сваіх дзеянняў, бо гэта маглі кінуць цень на цара. "Нацыянальныя інтарэсы" у Расіі сямнаццатага стагоддзя супадалі з інтарэсамі самога манарха, але ён не мог выпраўдоўваць свае дзеянні, асабліва ў сферы знешняй палітыцы, выключна сваімі інтарэсамі. Аўтакрат мусіў быць увасабленням справядлівасці, праўды і дабра. Усё, што ён рабіў, было выклікана высакароднымі памкненнямі. Менавіта таму, калі мэтазгоднасць прымушала цара парушыць сваю клятву, падобны маралёва заганны крок патрабаваў доказаў таго, што здрада іншага бока проста вымусіла яго гэта зрабіць.

Адпаведна, калі Пасольскаму прыказу было патрэбна выйсці з дамовы, расійскія дыпламаты мусілі грунтаваць гэта не нацыянальнымі інтарэсамі, а даводзіць, што менавіта іншы бок парушыў статус кво. Такія паводзіны не сведчылі пра нейкую дзіўную спецыфіку маскоўскай дыпламатыі, а былі прадыктаваныя неабходнасцю захоўваць добрае імя цара. Для гэтага ў прыказе запісвалі драбнейшыя непаразуменні і крыўды – сапраўдныя і прыдуманыя – у стасунках паміж дзьвюма дзяржавамі. У некаторых выпадаках складалася асобная кніга скаргаў. Так, у 1693 годзе цар загадаў складаць спіс усіх парушэнняў Вечнага міра Рэччу Паспалітай.[35] Калі ў прыказе склалі дэталёвае абгрунтаванне таго, што маскоўскаму цару здрадзілі яго хаўруснікі, ён, нягледзячы на сваю хрысціянскую цярплівасць, не меў іншага выбара, як дзейнічаць у інтарэсах самаабароны.

Кожная змена палітычнага курса мусіла мець падобнае маралёвае абгрунтаванне пазіцыі цара. Пасля апрылюднення доказаў віны былога хаўрусніка, любая крытыка афіцыйнай пазіцыі Крамля або сумневы ў яе дзейснасці, любыя спробы пайсці на кампраміс ці проста зважаць на аргументы іншага бока лічыліся варожымі, амаральнымі і абразлівымі для расійскага манарха. Як мы ўжо давялі, расійскім дыпламатам было забаронена вызнаваць аніякія іншыя аргументы, акрамя тых, што афіцыйна выпраўдоўвалі дзеянні цара. Апошнія ставаліся падмуркам маскоўскай палітыцы, прынамсі, да наступнай змены палітычных прыярытэтаў.

Развіццё "справы Саламона" і рэакцыя на яе ў Варшаве і Маскве сведчаць пра тагачасны палітычны клімат і метады, выкарыстаныя дыпламатамі і іх агентамі. Акрамя таго, яны характарызуюць дыпламатычныя здольнасці Сабескага і яго дарадцаў і эфектыўнасць расійскага шпіёнскага сеціва ў Рэчы Паспалітай. Інцыдэнт з манахам Саламонам пралівае святло на амаль неабмежаваныя палітычныя магчымасці караля, які быў здольны ўцягнуць краіну ў вайну без згоды Сената, не кажучы ўжо пра парламент. Ён таксама ўказуе на тое, што падобнае перавышэнне Сабескім сваіх паўнамоцтваў рабіла яго ўязвімым для шантажа не толькі з боку палітычных апанентаў, але й галоваў замежных дзяржаваў. Нарэшце разгартанне "справы Саламона" адбівае розніцу ў падыходах да казацкай праблематыцы з боку каралеўскага двара і

[35] ЦГАДА, фонд 79, № 222 (польскія парушэнні ў паўночным памежным рэгіёне ад 1667 да 1685 года), № 248 (тое самае, 1678-91), № 255 (перaслед праваслаўя ў Польшчы).

Баярскай Думы. Адным словам, афёра манаха Саламона дае выключную магчымасць глыбей зразумець мысленне тагачасных палітыкаў і нормы, прынятыя ў стасунках паміж дзяржавамі.

Але шэраг пытанняў дагэтуль застаецца без адказу. Якую ролю граў у "справе Саламона" Мазэпа? Ці пакараў бы гетмана Галіцын, калі б Сабескі адразу выкраў "яго" дасланні? Чаму Сабескі ўсё ж вырашыў даслаць да гетмана Дамарацкага, нягледзячы на сур'ёзныя сумневы ў сапраўднасці лістоў, прывезеных манахам? Чаму ў справу быў замяшаны Шумлянскі? І чаму галоўнай дзеючай асобай стаў нікому не вядомы манах Саламон?

З гледзішча расійска-каронных стасункаў, дзеянні Сабескага былі неабачлівымі, бо яны маглі прывесці да скасавання Вечнага міра і новай вайны паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй за ўкраінскія тэрыторыі. Пайсці на гэткую вялікую рызыку паперад заключэннем мірнай дамовы з Турцыяй і без згоды Сената і парламента значыла ставіць пад пагрозу лёс краіны і сваю рэпутацыю. Тым не менш, Сабескі меў шэраг перавагаў у дыпламатычнай гульні з Масквой, якія ён выкарыстаў супраць яе на тле змовы Саламона. Мы не маем тых лістоў, якія, паводле манаха, яму надыктаваў Міхайла Самайловіч, але можам прадкінуць, што яны былі больш пераканаўчыя за дайшоўшыя да нас лісты, складаныя Саламонам у Рэчы Паспалітай. Тым не менш, на падставе інфармацыі, перададзенай Волкаву Падольскім, нам вядома, што нават першыя лісты не пераканалі караля і Ябланоўскага ў шчырасці манаха ці гетмана. Каб выкрыць "мазэпаў" блеф, караль прапанаваў яму абвесціць пра свае намеры падчас пасяджэння кароннага парламента. Аднак Сабескі ўсё ж загадаў перасунуць бліжэй да Кіева шэраг вайсковых фармаванняў, а Ябланоўскі зрабіў шэраг заўвагаў што да "помсты Маскве" за варожыя захады ў дачыненні Кароны. Пасля арышта Дамарацкага і паўторнага з'яўлення Саламона ўва Львове ды Варшаве, ніхто ў каралеўскім атачэнні ўжо не ўспрымаў манаха ўсур'ёз. Аднак Сабескі ажно да лютага рабіў выгляд, што ўважае Саламона за сапраўднага эмісара Мазэпы. Бясспрэчна, што кароль дзейнічаў наўмысна. Ён намагаўся выкарыстаць Саламона і яго падробленыя лісты, каб не даць Маскве заключыць сепаратны мір з татарамі. Менавіта для гэтага Сабескі даслаў копіі лістоў "Мазэпы" татарам.[36]

Час быў абраны надзвычай трапна. Аўстрыя паінфармавала хаўруснікаў пра свае перамовы з Турцыяй. Сабескі даведаўся пра спробы Галіцына заключыць мір з татарамі і планаваў сапсаваць расійскія намеры, даслаўшы копіі лістоў Саламона ў Крым, дзе добра ведалі пра анты-расійскія настроі ў Сечы і на левым беразе Дняпра. Калі б казацкі гетман насамрэч перайшоў на бок Рэчы Паспалітай, аднавілася б стату кво 1657-1660 гадоў, і татары атрымлівалі магчымасць пахіснуць расійскія пазіцыі ва Украіне. Аднак павяртання да альянса трыццацігадовай даўніны не адбылося, збольшага таму, што туркі не прынялі мірных прапановаў Сабескага, а каронны парламент, паседжанне якога праходзіла падчас арышта Саламона, прагаласаваў за працягненне вайны з Турцыяй. Тым не менш, у выніку "справы Саламона" расійска-татарскія перамовы ў 1690 годзе прыспыніліся, а кантакты Кароны з Крымам, наадварот, атрымалі дадатковы стымул. Сабескі

[36] Распачаўшы мірныя перамовы з татарамі праз малдаўскага пасярэдніка, Украінцаў прасіў, каб хан не верыў хлусні з Рэчы Паспалітай, прыводзячы ў якасці прыклада інцыдэнт у 1690 годзе, калі Сабескі паказаў ханскаму эмісару лісты Саламона. ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 6, 65-66.

здолеў прадухіліць пагадненне паміж Расіяй і татарамі, хаця й коштам абвінавачанняў Масквы ў парушэнні Вечнага міра.[37]

Нягледзячы на тое, што нашая тэорыя вытлумачае агульныя матывы Галіцына, яго намеры што да Мазэпы стаюцца менш зразумелымі. Казацкі гетман не ведаў пра змову, у якую яго ўцягнулі. Першыя лісты, напісаныя ад яго імя, складаў Самайловіч - вораг гетмана, які прагнуў помсты. Калі былы гетман ставаўся актыўным удзельнікам нагэтулькі сакрэтнай змовы, можна прадкінуць яго шчыльныя повязі з Галіцыным. Аднак вядома, што гэта не так. Хутчэй, Галіцын планаваў выставіць Самайловіча ахвярным казлом у выпадку, калі Сабескі абачліва загадае арыштаваць Саламона. З іншага бока, у выпадку агрэсіўных захадаў караля ці падазроных дзеянняў Мазэпы, Самайловіча, вядомага сваёй варожасцю да Рэчы Паспалітай і адданасцю Маскве, можна было павярнуць на палітычную сцэну.[38] Акрамя таго, былы гетман мог выявіцца карысным у выпадку сур'ёзных перамоваў з Крымам, бо ён быў заўсёды вядомы як актыўны прыхільнік расійска-татарскага хаўруса супраць Рэчы Паспалітай.

З прыходам кожнага новага украінскага гетмана, прычым, нават тых, хто абіраўся без непасрэднага ўхвалення цара (як у выпадку Мнагагрышнага ў 1672 годзе), маскоўскі ўплыў ва Украіне зрастаў. Кожны наступны гетман быў вымушаны рабіць больш саступак расійцам, чым яго папярэднік. Калі б Мазэпа згубіў сваю пасаду ў выніку "справы Саламона", на яго месца прыйшоў бы яшчэ больш пра-маскоўскі палітык. Магчыма, што Галіцын прадумаў і гэтую акалічнасць. У той самы час, ён разумеў, што Мазэпа мае шанец узмацніць свае пазіцыі, калі адразу арыштуе эмісара Сабескага і перанакіруе яго лісты ў Маскву – што гетман у выніку і зрабіў.

Параза партыі Соф'і і Галіцына пакінула па сабе шэраг няскончаных палітычных пачынанняў, якія развівалі па інэрцыі, нават нягледзячы на больш асцярожную замежную палітыку новых гаспадароў Крамля. Мы можам толькі здагадвацца, як бы Галіцын адрэагаваў на спавешчанне Волкава. У любым выпадку, "справа Саламона" несла значную рызыку для Мазэпы. Гетман мусіў даведацца ад сваіх сяброў у Рэчы Паспалітай, што манах даў сведчанні супраць Галіцына падчас допытаў у Жоўкве. Ён мусіў быць яшчэ больш усцешаны тым, што датуль усемагутны князь трапіў у апалу і быў сасланы. Калі б у 1689 годзе не адбыўся пераварот, на месцы Галіцына мог апынуцца Мазэпа.

Ролю Шумлянскага ў змове зразумець лягчэй. Галіцын ведаў пра амбіцыі епіскапа. Акрамя таго, для Галіцына не былі сакрэтам і кантакты Шумлянскага з Сабескім ды казакамі ды той факт, што манахі яго манастыра заклікалі насельніцтва левабярэжный Украіны павярнуцца ў Карону. У 1684 годзе, пасля падпарадкавання ўкраінскай праваслаўнай царквы маскоўскаму, а не канстанцінопальскаму патрыярху (што ў хуткім часе было замацавана ў дамове Вечнага міра), Гедэон Чацвяртынскі атрымаў пасаду кіеўскага мітрапаліта. Аднак каб не дапусціць умяшальніцтва

[37] Ліст Гласкоўскага Сабескаму, 17 ліпеня 1689 года, AGAD, Радзівілаўскі Архіў II, № 25, ст. 223-24. Гл. таксама зноску 33.

[38] Роля старшынаў у паразе Самайловіча апісаная аўтарам *Літописа самовидця*, пад рэд. О. Левицкага (Київ, 1878), ст. 168-71. Гл. таксама Белов, "Нидерландский резидент," ст. 364-65 і Оглоблин, *Гетьман Іван Мазепа*, ст. 24-31. Паводле Бялова, галандскі дыпламат ван Келлер меркаваў, што Галіцын намагаўся выратаваць Самайловіча: "Нидерландский резидент," ст. 364. Андрусяк лічыў, што Галіцын даслаў Саламона ў Рэч Паспалітую, каб скампраметаваць Мазэпу і павярнуць гетманства свайму сябру Самайловічу: Andrusiak, *Józef Szumlański*, ст. 157-58.

маскоўскага патрыярха ў справы праваслаўнай царквы не тэрыторыі Рэчы Паспалітай, Сабескі прызначыў Шумлянскага адміністратарам Кіеўскай мітраполіі. Няздольна дамагчыся падтрымкі Сабескім сваёй кандыдатуры на пасаду кіеўскага мітрапаліта, Шумлянскі паспрабаваў увайсці ў давер да караля праз таемнае прынясце царкоўнай уніі. Адначасова львоўскі епіскап прасіў падтрымку ў маскоўскага цара. У 1689 годзе Шумлянскі ад сябе і ад епіскапаў Прэмышльскага і Луцкага звярнуўся да патрыярха Іаакіма з просьбай аднавіць Галіцкую мітраполію, падчыненую непасрэдна Маскве. За год да таго Шумлянскі запэўніў расійскага рэзідэнта Пракофія Галіцына ў сваёй аддансці цару. Аднак яго першыя кантакты з расійскімі дыпламатамі адбыліся ў 1675 годзе, калі Шумлянскі звярнуўся да цара з просьбай прызначыць яго кіеўскім мітрапалітам пасля смерці Іосіфа Тукальскага. З таго часу ён няспынна намагаўся ачоліць кіеўскую праваслаўную царкву. Расійцы ведалі пра пазіцыю, якую Шумлянскі заняў у 1682 годзе і пра яго таемнае прынясце Уніі, але працягвалі падтрымліваць з ім кантакты.[39] Нам здаецца, што Галіцын вырашыў скарыстацца яго палітычнымі амбіцыямі і трывалымі сувязямі з Крамлём, каб уцягнуць Шумлянскага ў афёру Саламона, і, як высветлілася, не памыліўся.

Калі ў Маскве атрымалі лісты "Мазэпы" і сведчанні Дамарацкага, расійскіх дыпламаты заклікалі Сабескага жорства пакараць вінных і, у прыватнасці, пакараць смерцю Шумлянскага. Каронныя дыпламаты адмовілі праз тое, што кароль не маў права караць нават найбяднейшага шляхціча, не кажучы ўжо пра праваслаўнага епіскапа. Шумлянскі не ўспрыняў патрабавання расійцаў усур'ёз: ён ведаў, што яго жыццю нічога не пагражае. Шумлянскі, аднак, баяўся, каб кароль не зрабіў яго ахвярным казлом у выпадку, калі б каронны парламент узяўся за разгляд "справы Саламона".[40] Незалежна ад стаўлення большасці шляхцічаў да Расію, яны бессумнеўна падтрымалі б апазіцыю, калі б Масква давяла, што львоўскі епіскап, паводле каралеўскага загада, браў удзел у афёры, якая магла прывесці да вайны з Расіяй яшчэ да замірэння з Турцыяй. Насельніцтва ўсходніх ваяводстваў Рэчы Паспалітай было напалоханае плёткамі пра расійскія вайсковыя прыгатаванні, у тым ліку накіравання шэрагу стралецкіх палкоў у Смаленск і скопішча войскаў на Дняпры.[41] Гэтыя

[39] Вазніцын пісаў, што Шумлянскі добра ставіцца да цароў і заўсёды згадвае іх імёны ў сваіх малітвах. Ліст Вазніцына В.В. Галіцыну, 16 верасня 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 137. Адразу па прыездзе ў Рэч Паспалітую Волкаў паінфармаваў цароў, што, паводле словаў Шумлянскага, Сабескі намагаўся заключыць мір з Турцыяй пры пасярэдніцтве французаў. Ліст Волкава В.В. Галіцыну, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 128. Гл. таксама Andrusiak, *Józef Szumlański*, ст. 73-105; W. Bieńkowski, "Organizacja kościóła wschodniego w Polsce," у *Kościół w Polsce,* пад рэд. J. Kłoczowski, том 2 (Cracow, 1969), ст. 853-58.

[40] Украінцаў патрабаваў, каб Шумлянскага "прыбралі з гэтага света". Размовы з Доўмантам, 22 лютага 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 103-104. У іншым кантэксце ён называў Шумлянскага "здраднікам і хлусам ... ворагам Бога і братам д'ябла," тамсама, ст. 331. У жніўні 1693 года Міхайлаў патрабаваў "крыві Шумлянскага" да каронных сенатараў: спавешчанні Міхайлава, ЦГАДА, фонд 79, № 243, ст. 776.

[41] 26 снежня 1690 года ў размове з Украінцавым адзначыў, "па Маскве паўзуць чуткі ... што цар распачаў вайну супраць Рэчы Паспалітай і збірае пад Смаленскам і Кіевам войскі. Часам здараецца, што глас народа стаецца гласам Божым, таму ён хоча паінфармаваць караля, бо пра гэта кажа ўся Масква. Пра вайну гутараць на ўсіх рынках і плошчах, толькі ён [каронны рэзідэнт] не хоча даваць гэтам веры, бо ён не атрымаў адпаведных звестак з Пасольскага прыказа," ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 35. Падчас іх наступнай сустрэчы 25 студзеня 1691 года Украінцаў вызнаў, што межы персоўванне праз межы было насамрэч часова прыпыненае, але патлумачыў гэта неабходнасцю знізіць выдаткі на ўтрыманне войска і пазбегнуць уздыма коштаў. Расійскі дыпламат сцвярджаў, што купцы прытрымлівалі збожжа, каб пазней прадаць яго па завышаных коштах. ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 75-76. Міхайлаў паінфармаваў Маскву пра страхі у Вялікім Княстве Літоўскім што да напада царскага войска. Верасень 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 16. Існавалі апасенні датычна таго, што Масква можа заключыць хаўрус з Крымам. Варшаўскі біскуп Станіслаў Малахоўскі, давераная асоба Сабескага,

агрэсіўныя захады, разам з перапыненнем актыўных вайсковых дзеянняў супраць туркаў, сталіся адказам Масквы на інтрыгаванне Сабескага і Шумлянскага што да Украіны.[42]

Епіскап, аднак, пачаў сур'ёзна хвалявацца, калі даведаўся, што кароль ім не задаволены. Да таго часу кароль з дасланняў Доўманта даведаўся пра кантакты Шумлянскага з царамі. Доўмант сцвярджаў, што эмісары львоўскага епіскапа наведалі Маскву ўлетку 1691 года. Акрамя таго, амбасадар пісаў каралю, што ў Пасольскім прыказе не толькі змест сакрэтных дэбатаў у Сенаце, але й прыватных размоваў караля з яго дарадцамі. У святле гэтых навінаў паводзіны Шумлянскага падчас "справы Саламона" падаліся каралю надзвычай падазронымі. Вымушаны тлумачыць свае паводзіны, Шумлянскі пакляўся, што ён не выдаваў дзяржаўныя таямніцы і не ведаў пра аніякія сакрэтныя палітычныя планы караля. Акрамя таго, Шумлянскі адкідаў усе абвінавачанні ў тым, што ён "здрадзіў сваёй любімай вольнай Радзіме, дзе нарадзіўся сам і мае продкі, дзе маё карэнне, на карысць рабства."[43] Львоўскі епіскап дадаў, што кароль мог ускласці ўсю віну за інцыдэнт на яго, і што ён, Шумлянскі, быў гатовы абараняць сябе ў парламенце. Паводле яго словаў, Шумлянскі збіраўся пацвердзіць у парламенце, што "ярмо рабства" датычылася татараў, а не расійцаў. Аднак у выніку "справа Саламона" не дайшла да разгляда кароннага парламента, і Шумлянскаму не спатрэбілася выкарыстоўваць гэтае слабае алібі.[44]

Тым не менш, епіскап зразумеў, што яго ўдзел у афёры выявіўся сур'ёзнай памылкай, выклікаўшы каралеўскія падазрэнні і царскі гнеў. У Маскве ён паспрабаваў выпраўдацца тлумачэннем паводзінаў караля і яго намераў. Хутчэй за ўсё, Шумлянскі насамрэч не планаваў здраджваць сваёй "любімай вольнай Радзіме" на карысць "маскоўскай тыраніі", але ён дакладна не хацеў быць царскім ворагам. Праз сваё жаданне стаць кіеўскім мітрапалітам ці перасцярогу, каб казакі не атрымалі абсалютовую ўладу ва Украіне, хітры епіскап намагаўся дапамагаць абодвум бакам у гэтай палітычнай гульні. Як прадстаўнік арыстакратычнага рода, ён быў "сваім" на паседжаннях мясцовай шляхты, з Дарашэнкам Шумлянскі быў шчырым казаком, з каталікамі – каталіком, а сярод праваслаўных ён ставаўся адданым чальцом грэчаскай царквы. У любой сітуацыі нязменнымі заставаліся толькі прага львоўскага епіскапа да ўзбагачэння сваёй сям'і і сябе асабіста.

Шумлянскі разумеў палітычную значнасць кіеўскага мітрапаліцтва і заклікаў караля павярнуць Кіеў ці заснаваць асобную мітраполію ў Галічы. Каб замацаваць свае пазіцыі ён таемна прыняў унію, але праваслаўе, рэлігія ўплывовай меншасці ў Рэчы Паспалітай і большасці ва Украіне, заставалася

---

пісаў, што "нашыя fideifragi суседзі плануюць атакаваць нас не толькі праз Вялікае Княства, але й з Кіева." Ліст Малахоўскага Станіславу Шчуку, 18 лютага 1691 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163а, том 18, ст. 1227.

[42] "Людзі пішуць мне з Варшавы, што ў Маскве гневаюцца на мяне... там патрабуюць, каб мяне пабілі кнутом." Ліст І. Шумлянскага Францішку Галецкаму, 12 красавіка 1691 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163а, том 18, ст. 1167. Гл. таксама Andrusiak, Józef Szumlański, ст. 164-68.

[43] Ліст Шумлянскага Галецкаму, гл. зноску 42.

[44] Яму не давалі веры ў Варшаве. Паводле загада Сабескага, Доўмант паінфармаваў Украінцава, што "ліхі і двудушны чалавек, які даслаў Клімка да гетмана, Іосіф Шумлянскі, вядзе двайную гульню. Часам ён аказвае паслугі Яго Вялікасці Цару, а часам дае парады Яго Каралеўскай Вялікасці, але ніколі не робіць гэта шчыра і на самой справе варожа ставіцца да ўсіх." ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 330-31.

яго галоўным казыром. Прынамсі, Шумлянскі змагаўся за кіеўскае мітрапаліцтва ад 1675 года, ведаючы пра намер Тукальскага заснаваць у Кіеве асобны патрыярхат.[45]

Шумлянскі выношваў планы аб'яднаць усю былую вялікую кіеўскую мітраполію пад сваім кіраўніцтвам, якая б была палітычна падпарадкаваная каралю. Аднак, у адрозненне ад Тукальскага, львоўскі епіскап не быў згодны ахвяраваць для ўцеляснення гэтай ідэі сваімі паўнамоцтвамі і ўплывам. Ён пагаджаўся на мноства супярэчлівых кампрамісаў. У хуткім часе пасля пакарання смерцю Саламона ў Батурыне, Шумлянскі пачаў шукаць магчымасць, каб сустрэцца з расійскім рэзідэнтам Барысам Міхайлавым. Царскі дыпламат, які добра ведаў пра ролю Шумлянскага ў "справе Саламона", часова ігнараваў намеры Шумлянскага і звярнуўся ў Пасольскі прыказ па інструкцыі што да епіскапа. Адказ з Масквы йшоў доўга, а Шумлянскі нагэтулькі настойліва прасіў рэзідэнта пра сустрэчу, што той у выніку пагадзіўся таемна пабачыцца з Шумлянскім.[46]

Падчас сустрэчы з Міхайлавым, Шумлянскі ўжо быў не вольным сынам сваёй любімай Айчыны, а бездапаможнай пешкай у каралеўскай гульні. Ён стаў сцвярджаць, што мусіў узяць удзел у сумнавядомай інтрызе Саламона і накіраваць Дамарацкага да гетмана толькі на падставе безапеляцыйнага загада Сабескага. Шумлянскі спасылаўся на добра вядомую хітрасць караля, здольнага абвесці вакол пальца самых дасведчаных палітыкаў, не кажучы ўжо пра простага манаха, далёкага ад мірскіх праблемаў. Кароль ставаўся адзіным віноўнікам афёры, а Шумлянскі, нават калі й саграшыў, дык зрабіў гэта паводле загада манарха.[47]

Міхайлаў зрабіў выгляд, што чуе пра гісторыю з Саламонам упершыню. Аднак відавочна, што ў якасці чыноўніка, які адказваў у Пасольскім прыказе за ліставанне з Волкавым, ён добра ведаў усе дэталі "справы Саламона". У працягненне сваёй гульні, Міхайлаў нават пачаў аспрэчваць цверджанні епіскапа і абараняць добрае імя Сабескага. Ён прыдаўся, што не можа паверыць, каб кароль наважыўся парушыць умовы Вечнага міра. Рэзідэнт нават нацякнуў, што Шумлянскі наўмысна выдумаў усю гісторыю, каб спарадзіць недавер паміж хаўруснікамі. Гэты хітрык прымусіў Шумлянскага ва ўсіх дробязях апісаць ролю караля ў справе, якая ўжо здавалася мінулай. Так у Пасольскім прыказе атрымалі новыя сведчанні "падступнасці" караля.

Пасля таго, як Шумлянскі ўсклаў усю віну на Сабескага і Ябланоўскага, Міхайлаў – усё яшчэ робячы выгляд, што не да канца давярае епіскапу – мімаходзь спытаў у Шумлянскага, як той намераваецца выкупіць свой грэх перад царамі. Усцешаны новым паваротам размовы, Шумлянскі ахвотна пагадзіўся стаць расійскім інфарматарам і дарадцам у пытаннях стасункаў з Рэччу Паспалітай. Ён заўважыў, што дамова Вечнага міра не была ўхваленая парламентам, падкрэсліўшы, што абяцанні Сабескага не вызначаюць каронную палітыку. Такім чынам, Расія не можа быць пэўнай што да захавання Кіева і левабярэжнай Украіны датуль, дакуль парламент не ўхваліць дамову і не зменіць у адпаведнасці з ёй канстытуцыю. Шумлянскі параіў расійскаму

[45] Andrusiak, Józef Szumlański, ст.73-110, 149-56.
[46] Рэестр дзейнасці Міхайлава, травень 1692 года, ЦГАДА, фонд 79, № 242, ст. 376-90.
[47] Тамсама, ст. 378-80.

рэзідэнту дамагацца як мага хутчэйшай ратыфікацыі Вечнага міра, выкарыстоўваючы для гэтага “справу Саламону”, якая прадэманстравала няшчырасць караля.[48]

Больш за тое, праз свой пераход ва ўніяцтва, Шумлянскі скардзіўся на ціск з боку караля, епіскапаў і шматлікіх сенатараў, якія патрабавалі ад пераводзіць праваслаўных ва ўніяцтва. Паводле львоўскага епіскапа, гэткім чынам у Варшаве намагаліся паслабіць царскі ўплыў у Рэчы Паспалітай, таму у Маскве мусілі цвёрда адстойваць правы праваслаўных падданых Кароны, якія бачылі цара сваім адзіным абаронцам. Шумлянскі зайшоў нагэтулькі далёка, што амаль сцвердзіў натуральнае вяршынства цара на землях Кароны, населеных праваслаўнымі, і дадаў, што цар здолее ўмешвацца ў справы Рэчы Паспалітай датуль, дакуль там застанецца праваслаўная меншыня.[49]

Міхайлаў дэталёва запісаў сваю размову з Шумлянскім і даслаў яе Маскву, але не атрымаў інструкцыяў што да епіскапа. У Крамлі больш не лічылі яго вінным у “справе Саламона”, але расійскі рэзідэнт у Варшаве не карыстаўся яго паслугамі, а ў Маскве сталі радзей прымаць эмісараў львоўскага епіскапа. Тым часам, зменлівы епіскап стаў надаваць больш увагі каталіцкім справам, намагаючыся перацягнуць на свой бок уплывовае львоўскае стаўрапігіяльнае братэрства. Аднак чальцы братэрства пачалі дасылаць царам лісты, у якіх абвінавачвалі Шумлянскага ў абароне інтарэсаў уніяцкай царквы. У выніку, перспектывы Шумлянскага заняць пасаду кіеўскага мітрапаліта яшчэ больш пацмянелі, і ён згубіў давер Сабескага. Да ўсяго, пагоршыліся нават яго стасункі з львоўскай дыяцэзіяй.[50]

Але чаму для выканання місіі быў абараны менавіта манах Саламон? Мы ўжо высветлілі прычыны, паводле якіх сам гетман ніколі б не выкарыстаў яго ў якасці свайго эмісара, але з Галіцыным усё было йначай. Ямы патрабаваўся чалавек з украінскім паходжаннем, але без сувязяў сярод казацкіх галоваў або мясцовай праваслаўнай іерархіі. Акрамя таго, кандыдат мусіў быць чалавекам, ад якога Галіцын мог лёгка адмовіцца ў выпадку яго арышта. Саламон адпавядаў усім гэтым патрабаванням. Яго можна было лічыць падданым Кароны праз тое, што ён паходзіў з Бродаў і ад маленства ведаў правабярэжную Украіну ды ўкраінскую мову. Яго багатае мінулае і той факт, што манах не займаў аніякай афіцыйнай пасады ў Расіі дазваляла Галіцыну адмаўляць любыя кантакты з ім.[51] Калі б Сабескі арыштаваў Саламона і запатрабаваў ад Галіцына тлумачэнні, апошні мог лёгка адкінуць любыя абвінавачанні ў свой бок як паклёпніцкія і ўскласці віну за інцыдэнт на ворагаў хаўруса Расіі і Рэчы Паспалітай, асабліва тых, хто (як Саламон) паходзіў з правабярэжнай Украіны.

Больш за тое, Галіцын мусіў быць дастаткова добра знаёмым з Саламонам, каб ведаць пра яго высокі розум, адвагу і здольнасць уваходзіць у давер да людзей. Акрамя таго, ён мусіў цаніць красамоўства Саламона і яго акторскі талент. У выніку, Галіцын не памыліўся ў Саламоне. Нягледзячы на падазрэнні Сабескі і Ябланоўскага, манах здолеў пераканаць іх даслаць Дамарацкага з кампраметуючым караля лістом у Батурын.

---

[48] Тамсама, ст. 384-88. Шумлянскі сказаў, што кароль хоча напасці на Расію і толькі чакае зручнага моманту.
[49] Тамсама. Гл. таксама Andrusiak, Józef Szumlański, ст. 166-67.
[50] Спавешчанні Волкава, снежань 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 337-38, 343-48. Гл. таксама зноску 44.
[51] Украінцаў нагадаў Доўманту, што Саламон, як чалавек, народжаны ў Бродах, быў падданым караля. ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 184-85.

## Глава 6. Справа Саламона

Застаецца незразумелым, ці дзякі ў Пасольскім прыказе сапраўды не ведалі пра змову да таго моманту, як яна выйшла на паверхню. Прынамсі нехта мусіў ведаць пра наведванне Саламонам Самайловіча. Акрамя таго, падаюцца дзіўнымі паводзіны Волкава ў гэтай сітуацыі. Пасля атрымання ад Падольскага інфармацыі пра прыбыццё Саламона з "мазэпавымі" лістамі, Волкаў папярэдзіў Пасольскі прыказ пра тое, што манах-авантурыст спрабуе пасеяць варажнечу паміж каралём і царамі. Ён нацякаў на тое, што афёра была задумай караля з мэтай дыскрэдытаваць Мазэпу. Аднак расійскі рэзідэнт ані не стаў высвятляць, ці ведаюць пра місію Саламона каронныя сенатары, ані падаваць з гэтай нагоды афіцыйны пратэст. Зусім па-іншаму ён адрэагаваў на прыняцце каралём дэлегацыі Запарожскіх казакоў – ён пратэставаў супраць аўдыенцыі на падставе палажэнняў дамовы Вечнага міра.[52] Ці тлумачыцца стрыманасць Волкава датычна "справы Саламона" тым, што ён нешта ведаў пра яе сапраўдныя мэты? Магчыма, што менавіта з гэтай прычыны ён вырашыў не ўцягвацца ў афёру, пакуль не атрымае адназначных інструкцыяў з Масквы.

Адным з загадкавых аспектаў справы застаецца згадка Падольскага ў лісце, нібыта напісаным Мазэпам Саламону, а насамрэч надыктаваным самім манахам хатняму настаўніку. У ім "Мазэпа" піша, што загадаў служку Лызагуба, калі той не знойдзе манаха, перадаць усе лісты, адрэсаваныя Саламону, Падольскаму. Згадка пра Падольскага ў лісце, які Саламон планаваў перадаць каралю, ставалася патэнцыйна небяспечнай. Магчыма, манах даведаўся, што Падольскі ўказаў на яго Волкаву, і вырашыў адпомсціць прыдворнаму, назваўшы яго царскім агентам, кім Падольскі насамарэч і быў. Далейшы лёс Падольскага невядомы, але, хутчэй за ўсё, ён працягваў служыць расійскім рэзідэнтам за сціплае ўзнагароджанне.[53]

Чаму кароль не ўсклаў віну за афёру Саламона на Галіцына? Асабліва пасля яго апалы, князя было проста абвінаваціць у планаванні змовы, але Сабескі гэтага не зрабіў. Ён, відавочна, палічыў карыснейшым прыняць віну на сябе, чым справакаваць новае разбіральніцтва, якое б выкрыла не толькі двайную гульню Крамля, але й яго асабістыя непрадуманыя і незаконныя захады што да Украіны, здольныя выклікаць новую вайну з Расіяй.

"Справа Саламона" выявіла намеры Сабескага што да Украіны. Тое, з якой лёгкасцю ён даў уцягнуць сябе ў гэтую афёру сведчыць пра варожае стаўленне караля да Расіі. Акрамя таго, гэта кажа пра значнасць казацкага войска для Рэчы Паспалітай. Вельмі добрых стасункаў з Запарожскай Сеччу не хапала, каб пахіснуць пазіцыі Расіі на Дняпры. Але абранне Мазэпы адрадзіла надзею караля павярнуць Кіеў. Трэба адзначыць, што Сабескі нават не стаў абмяркоўваць умовы, на якіх левабярэжная Украіна і Запарожская Сеч нібыта збіраліся ўваходзіць у склад Рэчы Паспалітай. Для Сабескага дзенні гетмана тлумачыліся жаданнем казакоў скінуць ярмо рабства, што ўспрымалася як самая сабой зразумелая прычына, якая не патрабуе дадатковых тлумачэнняў. Гатоўнасць караля пайсці на рызыкоўныя кантакты з гетманам сведчыць

[52] Спавешчанні Волкава, снежань 1690 года, студзень 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 337-38, 355-56.

[53] У сваім лісце Шумлянскаму (надыктаваным Марэцкім) "Мазэпа" пісаў, што загадаў свайму слугу пакінуць лісты ў Падольскага, калі той не здолее знайсці Саламона. Акрамя таго, гетман нібыта загадаў Саламону распытаць Падольскага пра ўсё, што той ведае: Копіі лістоў, напісаных Саламонам і прывезеных у Маскву Акрасам. ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1691 годзе, № 6, ст. 105-106.

пра яго ўпэўненасць, што Расія не ставалася непераадольнай перашкодай для ўцеляснення яго планаў што да Украіны. Кароль ахвотна вітаў бы любое казацкае паўстанне, незалежна ад яго прычынаў. Ён, безумоўна, марыў, што Мазэпа стане другім Хмяльніцкім, які аб’яднае казакоў супраць Расіі, на манер “Украінскага Майсея” – іх вызваліцеля з-пад улады Рэчы Паспалітай.

# Глава 7. Спакуса Сепаратнага Міра

У той час, калі расійскія дыпламаты абвінавачвалі караля ў парушэнні Вечнага міра, трывалі іх таемныя перамовы з туркамі і татарамі што да сепаратнага міра. Нягледзячы на прыспешванне перамоўнага працэса, распачатага Галіцыным, у Маскве не забываліся збіраць сведчанні няшчырасці Сабескага. Праз малдаўскага дыпламата, які выступаў у ролі пасярэдніка, расійцы прасілі туркаў даслаць ім арыгіналы любых лістоў, напісаных паводле загада караля і дастаўленых яго прадстаўніком, якія б пацвярджалі парушэнне Сабескім дамовы Вечнага міра. Расійскія дыпламаты тлумачылі, што гэтыя лісты дазволяць Яго Вялікасці Цару выявіць усяму свету здраду караля і выпраўдаюць неабходнасць міра паміж Расіяй і Крымам. Просьбы кампраметуючых Сабескага лістоў займалі значны час падчас перамоваў. Атрыманне расійцамі гэтых лістоў ставаліся адной з умоваў міра з ханам, прычым расійцы пагаджаліся нават захаваць тэрытарыяльны статус кво з татарамі, калі тыя перададуць ім карэспандэнцыю Сабескага.[1]

Змест дасланняў Сабескага не цікавіў расійцаў, бо яны ведалі, што ён падтрымліваў шчыльныя кантакты з татарамі. Крамлёўскім дыпламатам ставала доказаў на выпадак, калі б ім спатрэбілася ў корані змяніць сваю замежную палітыку – у іх нават былі копіі некаторых лістоў Сабескага татарам. Сутнаснае адрозненне палягала ў тым, што арыгіналы ставаліся неабвержным доказам маралёвай беззаганнасці рашэнняў цара.

Нягледзячы на подзвігі аўстрыйскага, венецыянскага, кароннага, казацкага і расійскага войскаў, Атаманская Порта і татары не здавалі сваіх пазіцыяў. Вялікая экспедыцыя супраць крымскага ханства не прынесла чаканых вынікаў. Заключэнне Святога Альянса і бліскучая перамога пад Венай не змянілі палітычную сітуацыю на Балканах. Сабескі, герой Вены і “выратавальнік хрысціянства”, не мог нават адваяваць у туркаў Камянец-Падольскі. Пасля няўдалай асады Камянца і абвастрэння палітычнага крызіса ў Рэчы Паспалітай шанцаў на зваяванне каронным войскам дунайскіх княстваў амаль не засталося. Парламент, незадаволены французскімі сімпатыямі каралеўскай сям’і, адмаўляўся выдаткоўваць грошы на вядзенне актыўнейшых вайсковых дзеянняў.[2]

Атаманская Порта, спачатку згодная пайсці на значныя тэрытарыяльныя саступкі, была гатовая працягваць змаганне ва ўмовах, калі Людовік XIV развязаў вайну супраць імператара Леапольда I, на баку якога выступілі Англія і Нідэрланды. Апошнія патрабавалі ад Габсбургаў замірыцца з туркамі, каб скіраваць усе свае войскі супраць Францыі. Ва ўмовах вайны на два франты, Леапольд прапанавала Турцыі мір з ўмовай таго, што Аўстрыя захавае свай уплыў у Трансільваніі і занятую ёй

[1] Запісы місіі Бялевіча, Центральный государственный архив Древних Актов (Москва, далей ЦГАДА), фонд 68, стасункі з Малдавіяй, № 4, ст. 34-36.

[2] Англійскі амбасадар у Турцыі лорд Чандас у 1687 годзе інфармаваў свай урад, што турэцкія міністры не цікавіліся вайсковымі захадамі Рэчы Паспалітай і Расіі. Ліст Чандаса ў міністэрства замежных справаў, красавік 1687 года, Дыпламатычныя дакументы (Public Record Office, London, State papers; далей - PRO, SP) Турцыя, № 97, том 20, ст. 64. Найлепшы аналіз замежнай палітыцы Сабескага пададзены ў K. Piwarski, *Między Francją a Austrją. Z dziejów polityki Jana III Sobieskiego w latach 1687-1690* (Cracow, 1933), ст. 74-121. Гл. таксама C. Chowaniec, “Z dziejów powiedeńskiej polityki Jana III,” у *Przegląd Współczesny* 89 (1929): 330-40.

частку Венгрыі. Падчас перамоваў Габсбургі не зважалі на інтарэсы Венецыі, Рэчы Паспалітай і Расіі. У выніку, яе хаўруснікі сталі таксама намагацца заключыць двухбаковыя мірныя пагадненні з Турцыяй на зыскоўных для сябе ўмовах.[3]

Іх намаганням, у прыватнасці, высілкам Сабескага, спрыялі французскія дыпламаты. Спробы заключыць мір у Стамбуле не прынеслі плёна: эфект ад перамогі Сабескага пад Венай прайшоў пасля яго няўдалых малдаўскіх паходаў і беспаспяховай аблогі Камянца. Туркі вырашылі, што татарскі хан стрымае каронныя і расійскія войскі і без іх дапамогі. У такіх умовах патрабаванне Сабескага ўключыць у склад Кароны Малдавію было бесперспектыўным, і французскія дыпламаты здолелі дамагчыся ад туркаў толькі павяртання Падоліі і зруйнаванага Камянца.[4]

Сабескі не пагадзіўся на гэтыя ўмовы і звярнуўся да Аўстрыі. У Вене падзялялі занепакоенасць Расіі што да планаў караля заключыць сепаратны мір з туркамі, асабліва з улікам актыўнасці французскіх і татарскіх пасярэднікаў. Галіцын добра адчуваў небяспеку таго, што Расія можа застацца сам насам з Крымскім ханствам і Атаманскай Портай. Занепакоены новай вайной у Еўропе, ён заняў выразную анты-французскую пазіцыю, спадзяючыся на тое, што Аўстрыя працягне вайну з Турцыяй, якая з 1688 года давала Расіі шанец выйсці на Балканы. Буйной вайсковай аперацыяй 1689 года Галіцын планаваў схіліць Аўстрыю да працягнення вайны.[5]

Васілі Галіцын прыпісваў жаданне падмануць Расію і заключыць сепаратны мір з Турцыяй не толькі Сабескаму, але й Леапольду. Заклікаючы венскі двор працягваць вайсковыя дзеянні, ён прасіў галандцаў паўплываць на імператара, каб у выпадку выхада Аўстрыі са Святога Альянса былі ўлічаныя й расійскія інтарэсы. Акрамя таго, Галіцын некалькі разоў звяртаўся да французскіх дыпламатаў праз галандскіх прадстаўнікоў у Маскве.[6] Пакуль ён вагаўся паміж працягненнем вайны і аднабаковым замірэннем з татарамі, Галіцын заняў чакальную пазіцыю і пільнаваў момант, каб здзейсніць другую альтэрнатыву.

## Туркі і малдаўскі “трэці турак”

Нарышкіны, наступнікі Галіцына, засярэдзіліся на ўмацаванні сваіх пазіцый унутры краіны і спынілі актыўныя вайсковыя дзеянні. Яны былі ўстрывожаныя рэваншысцкімі настроямі Варшавы, якія выявіла “справа Саламона”. Гетману Мазэпу, які давёў сваю адданасць Крамлю падчас гісторыі з

[3] Атрымаўшы навіны пра французска-аўстрыйскую вайну, Сабескі даў даручэнне Доўманту паінфармаваць Галіцына, што Аўстрыя можа ў хуткім часе замірыцца з туркамі. Ён дадаў, што “у нас ёсць падставы баяцца, што інтарэсы Нашыя і іх Вялікасць цароў будуць забытыя падчас гэтых перамоваў.” Ліст Сабескага Доўманту, 18 кастрычніка 1688 года, Бібліятэка-Музей імя Чартарыскіх (Biblioteka Muzeum im. Ks. Czartoryskich, Кракаў, далей біб. Чарт.), № 422, ст. 311-12. У Крамлі сур’езна разглядалі магчымасць замірэння аўстрыйскага імператара з туркамі. Ліст Доўманта Сабескаму, 7 красавіка і 14 красавіка 1689 года, біб. Чарт., № 182, ст. 613, 623-24.

[4] Ліст лорда Пэйджэта лорду Ноцінгэму, 20 ліпеня 1690 года, PRO, SP Germany, 80. W. Konopczyński, *Polska a Turcja 1683-1792* (Warsaw, 1936) ст. 13, 15, 23; Piwarski, *Między Francją a Austrją,* ст. 123-24,129. Miron Costin, "Letopişetul ţării Moldovei,," у *Opere,* пад рэд. P. Panaitescu (Bucharest, 1965), ст. 66; I. Moga, "Rivalitatae Polono-Austriaca şi Orientarea politica a ţărilor Romane la sfîrşitul secolului XVII," у *Anuarul Institutului de Istorie Naponale,* том 6 (Cluj, 1936), ст. 317-400.

[5] М. И. Белов, “К истории дипломатических отношений России во время крымских походов (1686-1689),” Учёные записки Ленинградского государственного университета 14 (1949): 178-79.

[6] М. И. Белов, “Нидерландский резидент в Москве. Барон Иоганн Келлер и его письма” (канд. дис., Ленинград, 1947), ст. 385. Калі Галіцын павярнуўся з крымскай кампаніі 1689 года, па Маскве папаўзлі плёткі, што ён распачаў мірныя перамовы з татарамі. Доўмант дакладаў Сабескаму, што Галіцын спрабаваў дамовіцца з Мурзой ібн Салешам, 12 ліпеня 1689 года, біб. Чарт., № 189, ст. 664.

манахам, было даручана абачліва распачаць перамовы што да замірэння з татарамі.[7] Адначасова Пасольскі прыказ даслаў эмісара да малдаўскага гаспадара Канстанціна Кантэміра з просьбай выступіць у ролі пасярэдніка паміж царом з аднага боку і турэцкім султанам ды татарскім ханам з іншага. Гэтую далікатную місію даручылі манаху – дзякану Фаме.[8] Ён выехаў з Масквы ў лютым 1690 года і прыбыў у Ясы ў сакавіку, дзе яго цёпла сустрэў Кантэмір.

Лёс Малдавіі заставаўся нявызначаным ад часу бітвы пад Венай. Папярэднік Кантэміра Георге Дука непрацяглы час (ад 1681 да 1683 года) займаў пасаду казацкага гетмана, што рабіла яго ўладаром часткі украінскіх тэрыторыяў паміж Днястром, Бугам і Дняпром. Калі ў 1683 годзе войска Сабескага паланіла Дуку, казакі аднаго з яго падначаленых Сцяпана Куніцкага перайшлі на бок Рэчы Паспалітай, бо не атаясамлялі сябе з малдаўскай дзяржавай. Праз год Куніцкі пры дапамозе караля паспрабаваў захапіць усю Малдавію і землі Буджацкай Арды. Аднак мясцовае насельніцтва не падтрымала Куніцкага, а кароннае войска мусіла адступіць пад націскам татараў.

Пазіцыі Рэчы Паспалітай, аднак, значна палепшыліся ў 1686 годзе, калі Сабескі сам павёў польска-літоўскае войска ўглыб Малдавіі. У выніку пахода была занятая ўся яе паўночная частка. У Варшаве не планавалі далучаць яе да Рэчы Паспалітай і, як падаецца, нават не мелі дакладнага ўяўлення, што рабіць з гэтымі тэрыторыямі. Такім чынам, вайсковая прысутнасць Кароны ў Малдаваіі ставалася нічым іншым, як простай акупацыяй.

Нягледзячы на тое, што колішні малдаўскі гаспадар Стэфан Петрыцэйцу, пазбаўлены сваёй пасады туркамі за хаўрусаванне з Сабескім, з 1672 года жыў у Рэчы Паспалітай, кароль не адвёў яму аніякай ролі ў зваяванні Малдавіі. Гэты прэтэндэнт на малдаўскі трон і яго атачэнне абралі васальную залежнасць ад Рэчы Паспалітай, калі гаспадара, які атрымлівае пасаду ў Сенаце, прызначае кароль. Паводле іх плана, Малдавія абавязалася плаціць значныя падаткі ў каронны скарб і ў вайсковы час пастаўляць Рэчы Паспалітай свае войскі. Гэтыя ўмовы азначалі фактычнае перадання Варшаве паўнамоцтваў, якія раней належалі Стамбулу.

Тая частка малдаўскай арыстакратыі, якая атрымала адукацыю ў Рэчы Паспалітай, выказвалася за заключэнне дамовы з Каронай па мадэлі Люблінскай Уніі. Паводле іх задумы, Малдавія, як раней Вялікае Княства, мусіла захаваць свой палітычны лад, судовую сістэму, войска і скарб, а малдаўская арыстакратыя атрымлівала статус кароннай шляхты. Гэты план прадугледжваў пераход улады ў Малдавіі да арыстакратыі, у той час, як драбнейшая шляхта захоўвала свой уплыў на мясцовым узроўні.[9]

Нягледзячы на тое, што каб здабыць падтрымку, прынамсі, часткі насельніцтва, трэба было прыняць рашэнне пра аб'яднанне з Малдавіяй ці інкарпарацыі яе ў склад Рэчы Паспалітай, каронны парламент не разглядаў аніводную з гэтых магчымасцяў. Яго нежаданне вырашыць

[7] Мазэпа даслаў да татарскага хана адмысловага эмісара Батыр-Чаркеса. ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 65.
[8] Тамсама.
[9] "Desideria in punkta hospodara Petryczeyka, bojarów i obywatelów ziemie woloskiej (1689)." Цэнтральны Архіў Гістарычных Актаў (Archiwum Główne Akt Dawnych, Warsaw; далей AGAD), Архіў Патоцкіх (Archiwum Publiczne Potockich), № 47, том 2, ст. 91-92, 93-98. Costin, *Opere,* ст. 10-14; I. Moga, "Rivalitatea Polono-Austriaca," ст. 317-18.

статус Малдавіі падкрэслівала выключна зваявальны характар паходаў Сабескага і пазбаўляла караля падтрымкі тамтэйшага насельніцтва. У самой Рэчы Паспалітай шляхта лічыла, што дзеянні Сабескага тлумачацца жаданнем здабыць малдаўскі трон для свайго сына Якуба. Аднак якімі б не былі планы караля датычна будучага Малдавіі, ён прызначыў галавой захопленай тэрыторыі малдаўскага арыстакрата Туркула, які меў чын капітана ў каронным войску.[10]

Кантэмір цешыўся з таго, што Сабескі не задзейнічаў Петрычэску, бо былы гаспадар мог аб'яднаць вакол сябе малдаўскую арыстакратычную апазіцыю. Тым не менш, малдаўскі гаспадар лічыў прысутнасць кароннага войска ў паўночнай Малдавіі сталай пагрозай сваёй уладзе. Ён не мог аднаасобна чыніць супраціў кароннным войскам і пакладаўся на дапамогу татараў і туркаў.[11] З улікам таго, што турэцкае войска ў той час стрымлівала аўстыйцаў на Дунае, Кантэміру заставалася разлічваць толькі на татараў, што, у сваю чаргу, не выпадала праз актыўныя спробы Расіі захапіць Крым. Каб стрымаць кароннае войска, малдаўскаму гаспадару была патрэбная дапамога хана, таму ён актыўна выступаў за захаванне ўмоваў Бахчысарайскай дамовы 1681 года паміж Расіяй і Турцыяй. У яго інтарэсах было распальваць варожасць паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, а таксама паміж Рэччу Паспалітай і татарамі. Эмісары Кантэміра час ад часу папярэджвалі цара пра планы караля захапіць Кіеў і сцвярджалі, што каронныя дыпламаты выдавалі татарам сакрэтныя стратэгічныя планы Масквы. У святле гэтых абвінавачанняў, адказнасць за няўдачу паходаў Галіцына ўскладалася на Сабескага.

Кампанію па дэзынфармацыі ладзіў малдаўскі рэзідэнт у Рэчы Паспалітай Дыаманці Слюзары, які знаходзіўся ў Варшаве ад 1674 года і добра ведаў палітычную сітуацыю ў Рэчы Паспалітай. У Варшаве малдаўскі дыпламат збіраў інфармацыю і распаўсюджваў дадзеныя, атрыманыя з Ясаў пры пасярэдніцтве праваслаўнага братэрства пры львоўскай Царкве Успення Багародзіцы, пабудаванай пры дапамозе малдаўскага гаспадара. У сямнаццатым стагоддзі царкву называлі "Валашскай", бо ў тыя часы Малдавія была вядомая ў Рэчы Паспалітай як Валахія. Трывалыя сувязі з Малдавіяй падтрымлівала і львоўскае стаўрапігіальнае братэрства. Апроч эканамічных стасункаў, чальцоў братэрстваў ядналі з дунайскімі княствамі моцныя культурныя повязі. Разам з братэрствам малдаўскія гаспадары друкавалі ўва Львове кнігі, якія распаўсюджваліся як у Рэчы Паспалітай, гэтак і за яе межамі. Праваслаўныя ў Малдавіі, Львове і Кіеве падзялялі агульныя культурныя каштоўнасці, што спрычынілася да шчыльных кантактаў паміж Сучавай, Ясамі, Кіевам і Львовам.[12]

Кантэмір выкарыстоўваў гэтыя сувязі для дасягнення сваіх палітычных мэтаў. Апроч спрыяння перамовам паміж Масквой і Турцыяй што да сепаратнага міра, ён прасіў Аўстрыю абараніць яго

---

[10] Адозва Сабескага да грамадзянаў паўночнай Малдавіі, 21 ліпеня 1687 года, у Eudoxiu de Hurmuzaki, *Documente privitore la istoria romanilor,* Suplementul II, том 3 (Bucharest, 1895) ст. 166. Пра кантакты Сабескага з малдаўскімі палітыкамі і яго вайсковыя планы гл. Сакрэтны Архіў Ватыкана (Ватыкан), польская нунцыятура, РУК 107, ст. 187-88. Гл. таксама Z. Wójcik, *Jan Sobieski 1629-1696* (Warsaw, 1983), ст. 355, 380-84. Ion Neculce, *Letopişetul țării Moldovei, 1662-1743* ed. Iorgu Iordan (Bucharest, 1959), ст. 96-99. I. Moga, "Rivalitatea Polono-Austriaca," ст. 318-19.

[11] Дзеянні Кантэміра сведчаць пра яго планы, асабліва што да ролі пасярэдніка паміж Турцыяй і Расіяй. Запісы місіі Бялевіча, ЦГАДА, фонд 68, № 4. Гл. таксама Інфармацыя з Малдавіі, 9 красавіка 1689 года, Архіў Патоцкіх, № 163а, том 16, ст. 79-80.

[12] Спавешчанні Волкава, ліпень 1689 года, ЦГАДА, фонд 79, № 238, ст. 111-13. Гл. таксама: Hurmuzaki, Suplementul II, том 1, ст. 205, 207-211, 213-14, 220-21, 254-56, 317, 457, 537 і том 2, ст. 173.

княства ад пасягальніцтваў Сабескага. Нежаданні Вены адмовіцца ад сваіх прэтэнзіяў на Малдавію раззлавала караля і Сенат. З улікам таго, што Габсбургі замацоўвалі сваю прысутнасць у Трансільваніі і планавалі зрабіць Бухарэст часткай Аўстрыйскай імперыі, Кантэмір не хацеў быць пакінутым у сферы ўплыва Рэчы Паспалітай і падтрымліваў блізкія стасункі з Венай. Ён нават прапанаваў аўстрыйскаму двару зрабіць Малдавію часткай імперыі Габсбургаў у абмен на гарантаванні яго роду спадкаемнага права на малдаўскі трон. Падобныя прапановы абмяжоўвалі свабоду дзеянняў Аўстрыі датычна Малдавіі і стваралі супярэчнасці паміж чальцамі Святога Альянса, чаго й дамагаўся Кантэмір.[13]

У 1689 годзе, у сувязі з пагрозай аўстрыйскай акупацыі, валашскі гаспадар Сербан Кантакусіна звярнуўся да маскоўскага цара з просьбай абараніць яго ад нязваных каталіцкіх "вызваліцеляў". Кантэмір не падтрымаў Кантакусіна, бо не бачыў у гэтым карысці для сябе. Ён баяўся, што калі расійскія войскі з'явяцца на Дунаі, цар можа саступіць каралю і пагадзіцца на акупацыю Малдавіі каронным войскамі. Як добры хаўруснік Атаманскай Порты, Кантэмір інфармаваў Стамбул пра вайсковыя ініцыятывы Кароны, Украіны і Расіі і намеры Кантакусіна ды яго наступніка Канстанціна Бранцавіяну, папярэджваючы туркаў пра перамовы апошніх з Венай. Малдаўскі гаспадар быў найадданейшым васалам Порты на Балканах. Кантэмір некалькі разоў сцвярджаў, што нават калі усе туркі будуць знішчаныя і іх застанецца толькі два, ён усё роўна будзе на іх баку.[14] Аднак некаторыя планы "трэцяга турка" не адпавядалі інтарэсам яго стамбульскіх заступнікаў. Так, Кантэміру, як і яго папярэдніку, не падабалася тое, што туркі захапілі Камянец.

Паводле ўмоў Бухацкага міра 1672 года, які пакінуў за Атаманскай Портай Падолле і правабярэжную Украіну, васальныя турэцкія княствы знаходзіліся не толькі на паўночным усходзе, але й на поўначы ад Малдавіі. Днестр стаў турэцкай ракой, што прымусіла Кантэміра задумацца над захаваннем напаўаўтаномнага статуса Малдавіі. Асабліва непакоіў яго янычарскі гарнізон у Камянцы. Ад 1684 года Камянец атачалі каронныя крэпасці і паселішчы, што фактычна азначала яго няспынную аблогу. Непадалёк ад горада Сабескі загадаў пабудаваць умацаванні Святой Троіцы, дзе ўвесь год знаходзіўся моцны каронны гарнізон.

Камянец быў добра ўмацаваным, але гарнізону патрабаваліся запасы харчавання, фуража і баепрыпасаў. Намер туркаў утрымаць Камянец ператварыў вакольныя тэрыторыі ў зону баявых дзеянняў. Татары, якім было даручана дастаўляць у горад прыпасы, ладзілі ў горад канвоі з Малдавіі. Звычайна яны складаліся з некалькіх тысячаў калёсаў, коняў і вознікаў, якіх ахоўвала войска ад дзесяці да дваццаці тысяч чалавек. Снабжэнне янычарскага гарнізона ў Камянцы правакавала ўварванні ў Малдавію кароннага войска, што выклікала яшчэ горшае спусташэнне краіны.

Калі Кантэмір хаця б адзіны раз у жыцці жадаў Сабескаму поспеха, дык гэта было падчас аблогі Камянца. Гаспадар не хацеў снабжаць крэпасць усім неабходным і не вітаў татарскае войска, якое

[13] O. Brüner, "Österreich und die Walachei während des Türkenkrieges von 1683-1699," у Mitteilung der Österreiches Institut für Geschichtsforschung 44 (1931): 290-318; Piwarski, *Między Francją a Austrją*, ст. 76-79; Л.Е. Семёнова, Русско-валашские отношения в конце XVII-XVIII в. (Москва, 1969), ст. 78-79.
[14] Neculce, Letopişetul ţării, ст. 98-99. Мянушка Кантэміра "трэці Турак" сустракаецца і ў польскіх крыніцах, гл. AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163а, том 22, ст. 515-18.

штогод праходзіла праз тэрыторыю Малдавіі. Натуральна, гаспадар быў зацікаўлены ў тым, каб туркі згубілі свой фарпост у Падоллі, але й не жадаў павяртання Камянца пад кантроль караля. Менавіта таму Кантэмір выступіў з прапановай аддаць крэпасць "нейтральнай" дзяржаве – Малдавіі. Відавочна, што "трэці турак" не мог апрылюдніць сваю прапанову ў Стамбуле. Кантэмір спадзяваўся, што гэта зробяць расійцы, удзячныя яму за плённае пасярэдніцтва ў мірных перамовах. Больш за тое, ён спадзяваўся, што сепаратны мір справакуе вайну паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, якая нагэтулькі знясіліць Карону, што яе войскі больш не будуць у стане пагражаць Малдавіі. Акрамя таго, Кантэмір планаваў далучыць да свайго княства тэрыторыі ад Днястра і Буга да ніжняга цячэння Дняпра.

Алё гэта былі занадта амбітныя планы, ці, дакладней, мары, недасяжныя для галавы частцы спустошанай дзяржавы. У 1689 годзе Кантэмір вітаў наладжванне ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў Турцыі і мабілізацыю яе вялікага войска. Калі Расія выправіла да туркаў манаха Фаму з прапановай міру, малдаўскі гаспадар з радасцю прыняў на сябе ролю пасярэдніка паміж Крамлём і Стамбулам. Ён цёпла прыняў Фаму і з эскортам даставіў яго ў адрыанопальскі стан вялікага візіра.

Фама заставаўся ў Адрыянопалі да кастрычніка 1690 года, чакаючы турэцкага адказа. Паводле яго словаў, у турэцкім стане панавалі агрэсіўныя настроі.[15] Новы візір Аглу Кёпрюлю, малодшы брат знакамітага Ахмеда, быў вядомы сваім розумам і ваяўнічасцю. Англійскі дыпламат пісаў, што візір карыстаўся шырокай папулярнасцю і лічыўся справядлівым, але папярэджваў свой урад, што Аглу Кёпрюлю, нягледзячы на сваю рэлігійнасць, "верыў французам больш, чым словам Карана."[16] Бліжэй да канца 1689 года туркі здабылі першыя перамогі, у прыватнасці, калі татары ўварваліся ў Трансільванію, выбілі адтуль аўстрыйскія войскі і разрабавалі яе. Татарскае войска, якое вёў на Дунай сам хан, дапамагло туркам паспяхова супрацьстаяць спробам аўстрыйцаў захапіць Боснію.[17]

1690 год выявіўся для туркаў яшчэ больш паспяховым. Улетку англійскі амбасадар лорд Уільям Трумбул прыйшоў да высновы, што яго пасярэдніцтва не будзе плённым, а спробы прымірыць туркаў з аўстрыйцамі толькі нададуць ім упэўненасці ў сваіх сілах.[18] Далейшыя падзеі пацвердзілі яго выснову. Туркі атрымалі значную дапамогу ад татараў, бо Масква, якая прытрымлівалася абяцанняў, дадзеных Фамой, не вяла значных вайсковых дзеянняў супраць Крымскага ханства. Імрэ Тэкей, прызначаны султанам каралём Трансільваніі, увайшоў у яе межы на чале войска татараў і малдаўскіх ды валашскіх наёмнікаў, выбіў адтуль аўстрыйцаў і захапіў у палон іх

[15] Фаму павярнуўся ў Маскву разам з Бялевічам: ЦГАДА, фонд 68 (Стасункі з Малдавіяй) № 4, ст. 1. Неабходна заўважыць, што ў той час, калі Фама чакаў адказа ў Адрыянопалі, татары зрабілі сур'ёзную спробу заключыць сепаратный мір з Рэччу Паспалітай. Іх дасланнік прапанаваў аднавіць папераднаенныя межы і разбурыць умацаванні ў Камянцы-Падольскім. Сенатары і кароль адхілілі прапанову на падставе рашэння парламента. Ліст Банезана ў Ватыкан, 27 красавіка і 31 траўня 1690 года, Сакрэтны Архіў Ватыкана, польская нунцыатура, № 109, ст. 138, 186.

[16] Дзённік Уільма часоў яго рэзідэнцтва ў Стамбуле (1688-1689), кастрычнік 1689 года, Беркшырскі Архіў, паперы Трумбула, № 99 (арыгінал, старонкі не нумараваныя); ліст Трумбула ў міністэрства замежных спраў, 6 лістапада 1689 года, PRO, SP Турцыя, № 97, том 20, ст. 151.

[17] Ліст Трумбула ў міністэрства замежных спраў, 16 траўня і 11 ліпеня 1689 года; ліст Томаса Коўка сваёй стрыечнай сястры, 1 чэрвеня 1689 года; Ліст Трумбула ў міністэрства замежных спраў, 19 жніўня, 12 верасня, 31 кастрычніка, 6 and 21 лістапада, 9 снежня 1689 года, PRO, SP Турцыя, № 97, том 20, ст. 133-34, 136-37, 141-42, 143-44, 149-50, 155-56, 159; Дзённік Уільяма Трумбула, кастрычнік-лістапад 1689 года, Беркшырскі Архіў, паперы Трумбула, № 99.

[18] Ліст Трумбула ў міністэрства замежных спраў, 1 чэрвеня 1690 года, PRO, SP Турцыя, № 97, том 20, ст. 167; ліст Трумбула графу Ноцінгемскаму, 31 кастрычніка 1690 года, ст. 170-71.

галоўнакамандуючага генерала Геслера. Тым часам, войска вялікага візіра заняло Ніш і Відзін, а пасля й Белград.[19] Перад візірам ляжала безабаронная Венгрыя. Разбураючы ўсё на сваім шляху, татарскія войскі дайшлі ажно да Буды. У Вене пачалася паніка, і шмат хто з гараджанаў пакінуў горад.

Туркі і замежныя назіральнікі прыпісвалі галоўную ролю ў перамогах туркаў дапамозе татарскага войска. Паводле словаў англійскга дыпламата, які ад імя свайго ўрада выступаў у ролі пасярэдніка паміж Турцыяй і Аўстрыяй, мір быў магчымы толькі калі расійцы прымусяць татарскае войска абараняць Крым, ці баявы дух турэцкага войска падарвуць мецяжы або значныя перамогі заходніх дзяржаў.[20]

З улікам таго, што туркі не планавалі распачынаць мірныя перамовы да таго, як яны павярнуць тэрыторыі, страчаныя ў мінулыя гады, аўстрыйцы мусілі як ніколі пакладацца на сваіх хаўруснікаў. Дапамога прыйшла ад Сабескага, які ўвесну атакаваў татарскі канвой на шляху да Камянца і здзейсняў дыверсіі ў Малдавіі ўвосень, што дапамагло прынцу Бадэнскаму стрымліваць турэцкі наступ у Трансільваніі.[21] Дапамога Сабескага выявілася значнай. Але каб вырашыць вынік вайны, кароннае войска мусіла затрымаць татараў на Дняпры. Адначасова ў Маскву адно за адным прыходзілі дасланні з Варшавы і Вены з просьбамі распачаць актыўныя вайсковыя дзеянні. Вялікі візір вырашыў прадухіліць расійскі наступ і абачліва прыняў прапановы Фамы, але ўстрымаўся ад якіх-колечы абяцанняў да таго часу, пакуль ён не абмяркуе іх з ханам. З улікам таго, што расійскае войска не заняла аніякіх тэрыторыяў, туркі маглі спадзявацца заключыць мір на ўмовах статуса кво, які існаваў да вайны. На гэтым тле патрабаванні Сабескага, які хацеў не толькі павярнуць Рэчы Паспалітай Падолле, але й атрымаць кантроль над Малдавіяй, відавочна ставаліся неабгрунтаванымі.

Вялікі візір надзяліў хана паўнамоцтвамі распачаць перамовы з расійцамі і даручыў Кантэміру дапамагчы хану правесці папярэднія кансультацыі з Масквой. Хан скіраваў царам сціслы ліст, дзе адзначаў, што менавіта расійскі бок парушыў мір, але, паводле волі Бога, царскаму войску не ўдалося перамагчы. Ён згадаў, што Галіцын выказаў жаданне аднавіць мір, і хан вырашыў задаволіць яго просьбу і заключыць мірную дамову на ўмовах пагаднення 1681 года. Ён заклікаў цара скіраваць да яго амбасадараў, якім хан гарантаваў бяспеку.[22]

---

[19] Ліст лорда Пагета ў міністэрства замежных спраў, 3 верасня 1690 года, 19 красавіка 1690 года, PRO SP Турцыя, № 80, том 17, ст. 91, 105. Ліст Франчэска Банезана ў Ватыкан, 4 траўня 1690 года, Сакрэтны Архіў Ватыкана, польская нунцыатура, № 109, ст. 140; J. Sękowski, Collectanea z dziejopisów Tureckich rzeczy do Historyi Polskiej służących, том 2 (Warsaw, 1825), ст. 189.
[20] Ліст Уільяма Гасі лорду Ноцінгему, 30 красавіка 1691 года, PRO SP Турцыя, № 80, том 17, ст. 199.
[21] Каронны палявы гетман Патоцкі Шчуку, 25 жніўня 1690 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163, том 2, ст. 157; ліст Ябланоўскага Шчуку, 11 верасня 1690 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163, том 1, ст. 245-46; Ліст кракаўскага біскупа Малахоўскага Шчуку, 29 снежня 1690 года, AGAD, Архіў Патоцкіх, № 163, том 2, ст. 197-98; ліст Трумбула графу Ноцінгемскаму, 31 кастрычніка 1690 года, PRO SP Турцыя, № 97, том 20, ст. 169-71.
[22] Запісы місіі Бялевіча, ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 11-21.

## Місія Бялевіча

Кантэмір перадаў ліст хана ў Маскву разам са сваім заўвагамі, дадаными, каб змякчыць яго тон. Гаспадар адзначаў, што туркі і татары прагнуць міра, і Расія можа дамагчыся некаторых саступак. Кантэмір даручыў даставіць ліст хана ў Маскву і весці далейшыя перамовы ў Пасольскім прыказе дасведчанаму дыпламату Івану Бялевічу, які ўжо выкановаў падобную місію ў 1679-1680 гадах. Бялевіч выехаў з Ясаў 10 лістапада 1690 года, пасля турэцкіх перамогаў на Дунаі і ў Трансільваніі.[23] Псіхалагічна момант быў абраны слушна, і Кантэмір чакаў, што расійцы прымуць мірную ініцытыву хана.

Гаспадар загадаў свайму дыпламату пераканаць маскоўскіх палітыкаў у рэальнасці сепаратнага міра паміж Рэччу Паспалітай і татарамі і запэўніць іх у тым, што Сабескі мае намер павярнуць Кіеў. Перад Бялевічам стаяла задача давесці расійскім дыпламатам, што туркі і татары прагнулі сепаратнага міра – з Рэччу Паспалітай або з Расіяй. Кантэмір падкрэсліваў сваю ролю ў мірным працэсе і выстаўляў прапанову хана сваім дасягненнем. Ён разлічваў на тое, што навіны пра турэцкія перамогі і пагроза сепаратнага міра паміж Каронай і Турцыяй прымусяць Маскву прыняць ліст хана ў якасці падставы для мірных перамоў, падчас якіх будзе абмяркоўвацца статус тэрыторый паміж Днястром і Дняпром, а таксама Камянца.[24]

Бялевіч абраў небяспечны шлях у Батурын. Нягледзячы на тое, што гетман Станіслаў Ябланоўскі меў агентаў пры двары Кантэміра, ведаў пра місіі Фамы і Бялевіча і загадаў каменданту Нямірава схапіць малдаўскіх эмісараў, малдаўскі дыпламат рушыў праз правябярэжную Украіну. Бялевіч і пяцёра яго суправоднікаў здолелі сысці ад дагоні і сустрэліся з Мазэпам 25 лістапада. Пасля непрацяглага адпачынка Бялевіч працягнуў свой шлях у Маскву, куды ён прыбыў 23 снежня 1690 года. Яму зладзілі добры прыём. Адразу па прыбыцці малдаўскіх дыпламатаў у сваю прыгарадную рэзідэнцыю, ім адразу даставілі некалькі калёсаў з дровамі, рыбай, перцам, спецыямі і цыбуляй, а таксама піва, гарэлку і мёд. Акрамя таго, Бялевіч атрымаў грошы з фонда для замежных дыпламатаў. Аўдыенцыя ў цара была прызначаная на 18 студзеня 1691 года, а кансультацыі ў Пасольскім прыказе распачаліся праз два дні пасля прыбыцця дыпламатаў у Маскву.[25]

Аднак гэтыя праявы дыпламатачнага этыкета не прытупілі звычайнай дбайнасці расійскіх уладаў. Бялевіча і яго атачэнне ізалявалі ад любых знешніх кантактаў. Дом, дзе жылі дыпламаты, атачылі стральцы, а іх галава капітан Дзмітры Абразімаў атрымаў загад не дапускаць да Бялевіча наведвальнікаў. Ад капітана патрабавалі, каб яго падначаленыя строга ўстрымліваліся ад алкаголя, бо расійскія дыпламаты баяліся, што п’яныя стральцы захочуць пагаманіць з людзьмі Бялевіча. Падобныя чынам у Маскве абыходзіліся з усімі замежнымі дыпламатамі, але загад Абразімаву пільна наглядаць за размовамі Бялевіча і перакладчыкаў прыказа ставаўся асаблівым захадам, скіраваным на тое, каб малдаўскі дыпламат нічога не даведаўся пра ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Расіі. Поўная ізаляцыя замежных дыпламатаў ад мясцовага насельніцтва патрабавала значных высілкаў, пра што й сведчылі дэталёвыя інструкцыі Пасольскага прыказа Абразімаву. Бялевічу і яго суправоднікам было забаронена пакідаць рэзідэнцыю і падтрымліваць кантакты з кім-колечы,

[23] Тамсама, ст. 27-29. Пра мінулыя місіі Бялевіча ў Маскву гл. ЦГАДА, фонд 68, № 3, ст. 10-12.
[24] Запісы місіі Бялевіча, ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 22-24, 62.
[25] Тамсама, ст. 1-8, 50.

акрамя прадстаўнікоў Пасольскага прыказа.[26] Акрамя таго, трывала забарона на размовы з вартай.[27]

Мы не маем падставаў сумнявацца, што Абразімаў дбайна выконваў свае абавязкі, але слугі Бялевіча, якія палічылі яго скваапным, здолелі пакінуць малдаўскага дыпламата і перайсці на службу да баярына Міхаіла Георгіевіча Рамаданоўскага. Пра тое, што ізаляцыя замежнікаў не была нагэтулькі дзейснай, як таго хацелася расійцам, сведчыць лёгкасць, з якой малдаване знайшлі новага наймальніка. Як тое не дзіўна, але калі ў Пасольскім прыказе даведаліся пра сыход слугаў ад Бялевіча, гэта не выклікала заклапочанасці датычна парушэння ўсталяваных захадаў бяспекі. Чыноўнікі прыказа чамусьці ў першую чаргу пачалі вырашаць, дазволіць былым слугам Бялевіча застацца ў прыватнага расійскага наймальніка ці выслаць іх у Малдавію. Абразімаў і яго стральцы не панеслі аніякага пакарання. Падаецца, што расійская бюракратыя надавала большую ўвагу складанню правілаў і забаронаў, чым іх выкананню.[28]

Аднак якія б захады не прымалі ў Пасольскім прыказе, відавочна, што захаваць сакрэтнасць місіі Бялевіча было немагчыма. Апроч іншых захадаў перасцярогі, прынятых чыноўнікамі прыказа, яны папрасілі малдаўскага дыпламата выдаваць сябе за слугу Кантэміра, які прыехаў у Маскву па міласціну. Інструкцыя ставалася парадаксальнай, бо Кантэміру было афіцыйна забаронена падтрымліваць якія-колечы кантакты з Масквой. Тым не менш, у прыказе разумелі, што Доўмант рана ці позна даведаецца пра прыбыццё Бялевіча, і маскоўскім дыпламатам прыйдзецца неяк тлумачыць яго прысутнасць, каб паспрабаваць развеяць падазрэнні кароннага амбасадара.[29]

Першая сустрэча Емяльяна Украінцава з Бялевічам ў Пасольскім прыказе адбылася 3 студзеня 1691 года.[30] Пасля вітанняў і адпаведнага рытуала ветлівасці, Бялевіч пачаў выконваць дадзенае яму заданне. Ён завёў размову пра небяспеку сепаратнага міра паміж Рэччу Паспалітай і татарамі ды выказаў задавальненне місіяй манаха Фамы. “Калі б не Фама,” – сказаў ён, “туркі б ужо замірыліся з Каронай, але яго візіт прыемна ўразіў туркаў і татараў. Яны аддаюць перавагу міру з Масквой і вырашылі адкласці разгляд прапаноў караля, пакуль не атрымаюць адказ ад цара.”[31] Але, паводле словаў Бялевіча, дамову трэба было заключаць хутка, бо ў іншым выпадку тую ж прапанову атрымае Сабескі, якому ў якасці прывабы туркі прапануюць Камянец і частку Малдавіі. Малдаўскі дасланнік заўважыў, што пасля таго, як кароннае войска аправіцца ад паразаў 1672 года, палякі разам з татарамі паспарбуюць павярнуць свае тэрыторыі навокал Кіева.[32] Выкарыстанне Бялевічам займенніка “свае” у дачыненні да Украіны і Кіева, калі малдаўскі дыпламат маляваў намеры

[26] Тамсама, ст. 6-11.
[27] Тамсама, ст. 9.
[28] Гл. спавешчанне слугі Бялевіча Рамашка Ляонцьева ў Пасольскі прыказ што да некаторых служкаў, якія сышлі ад дыпламата (сярод іх Калінка, Аляшко, Якушко), 30 студзеня 1690 года, у Спавешчанні місіі Бялевіча, ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 87-92.
[29] Доўмант ведаў пра місію Бялевіча, і 17 студзеня 1691 года запатрабаваў тлумачэнняў ад Украінцава. Расійскі дыпламат схлусіў пра мэту малдаўскага дасланніка. Украінцаў сказаў Доўманту, што Бялевіч быў усяго толькі набожным праваслаўным, які прыехаў у Маскву па міластыню. Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 50-51.
[30] Запісы місіі Бялевіча, ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 19-37.
[31] Тамсама, ст. 20.
[32] Тамсама, ст. 24.

Сабескага, не магло падабацца прысутным дзякам. Тым не менш, яны не выпраўлялі Бялевіча, бо ён заклікаў іх заключыць мірную дамову, якая дазволіць туркам адкінуць прапановы караля.

Як і загадваў Кантэмір, яго дасланнік распавёў маскоўцам пра зрастанне турэцкай моцы і пра тое, што вялікі візір захапіў Ніш, Белград ды шмат якія іншыя гарады і рэгіёны. Паводле версіі малдаўскага дасланніка, татары на чале з Тэкеем скарысталіся нянавісцю жыхароў Трансільваніі да аўстрыйцаў і вызвалілі яе, разбіўшы войска прынца Бадэнскага. Бялевіч напалягаў на тым, што для Расіі надышоў трапны момант, каб пакінуць стан варагаў Атаманскай Порты - асабліва з улікам таго, што гэта пакіне караля сам-насам з туркамі на паўночным фронце. Пасля выкладання сваіх рацыянальных аргументаў, Бялевіч звярнуўся да рыторыкі праваслаўнай еднасці. Ён намаляваў жахлівую карціну праследа праваслаўнай царквы – з руйнаваннем манастыроў ды прымусовым перахростам праваслаўных ва ўніяцтва – у частцы Малдавіі, акупаванай войскамі Сабескага.[33]

У сваім адказе Украінцаў праігнараваў пытанні праваслаўя. Ён спытаў, чаму Масква мусіла амаль год чакаць адказа на мірныя прапановы, перададзеныя ў Стамбул манахам Фамой. Украінцаў цікавіўся таксама, чаму, калі туркі нагэтулькі моцна прагнулі замірэння з Масквой, яны спачатку прапанавалі мір Сабескаму, а толькі пасля Маскве?[34] Бялевіч не здолеў адказаць на гэтае пытанне, і мусіў паўтарыць, што туркі хочуць раскалоць хаўрус Масквы і Варшавы і аддаюць перавагу міру з царамі, а не з Сабескім. Малдаўскі дыпламат паспрабаваў давесці падступнасць караля і яго варожасць да Расіі. Бялевіч сцвярджаў, што капітан Дубраўскі, каронны прадстаўнік пры ханскім двары, запэўніў татараў, што тыя могуць выкарыстаць супраць царскага войска ўсе свае сілы, бо Сабескі не планаваў актыўных вайсковых дзеянняў супраць хана. Кантэмір даведаўся пра гэтую гісторыю ад самога хана, які паінфармаваў гаспадара, што кароннае войска не будзе ладзіць наступ на Малдавію, пакуль расійцы ваюють у Крыме. Бялевіч запэўніваў Украінцава, што дамова з нагэтулькі ненадзейным хаўруснікам, як кароль Рэчы Паспалітай, нічога не вартая, і дадаў, што гаспадар паспрабуе пераканаць хана скасаваць рытуал штогадовага дасылання яму падарункаў (іншымі словамі, даніны) з Масквы.

Украінцаў не звярнуў увагу на згадку пра даніну, але спытаў, навошта туркам – якія, паводле словаў Бялевіча, дамагліся нагэтулькі слаўных перамог – быў патрэбны мір з Масквой. Больш за тое, расійскі дыпламат спытаў пра ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Турцыі, няспыннае чаргаванне візіраў, вайсковыя мецяжы ды кантакты Імрэ Тэкея з каралеўскім дваром. Бялевіч патлумачыў, што Атаманская Порта не распачне мірных перамоваў з імператарам Леапольдам І і яго хаўруснікамі без папярэдніх кансультацыяў з французамі. Што да мецяжоў у турэцкім войску, дык яны былі прыдушаныя, а новы султан карыстаўся шырокай народнай падтрымкай. Акрамя таго, менавіта любімы і паважаны ўсімі візір спыніў агрэсію Сабескага супраць Малдавіі, зрабіўшы выгляд зацікаўленасці ў сепаратным міры з Рэччу Паспалітай. Тэкей, з іншага боку, сапраўды падтрымліваў шчыльныя кантакты з каралеўскім дваром.[35]

---

[33] Тамсама, ст. 27-33.
[34] Тамсама, ст. 33-34.
[35] Тамсама, ст. 35-36.

Расійскі дыпламат згадаў Тэкея ў сувязі з тым, што Кантэмір, акрамя свайго ліста, перадаў царам дасланне трансільванскага палітыка, у якім апошні апісвае ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Турцыі і запэўнівае Маскву ў сваёй адданасці. Бялевіч дадаў, што зяць Кантэміра загадваў малдаўскімі палкамі ў войску Тэкея. Адсюль малдаўскі дыпламат зрабіў выснову, што цару будуць служыць не толькі яго гаспадар, але й знакаміты трансільванскі князь.[36] Украінцаў ніяк не адрэагваў і на гэтую аптымістычную заяву Бялевіча. На гэтым скончылася іх першая сустрэча. Наступная была запланаваная на 8 студзеня 1691 года.

Другая сустрэча дыпламатаў адбылася ў Крамлі, у палаце Пасольскага прыказа. Як і раней, Бялевіча, у санях царскага двара і пад канвоем стральцоў, на сустрэчу прывёз Дзмітры Абразімаў. Падчас перамоў Украінцаў спытаў яго пра перадумовы мірных перамоў з татарамі, у тым ліку пра іх месца і час. Аднак Бялевіч не здолеў адказаць на гэтыя пытанні і заклікаў расійскага дыпламата як мага хутчэй даслаць яго да гаспадара з фармальнай згодай на іх правядзенне. Малдаўскі эмісар не змарнаваў шанец яшчэ раз падкрэсліць пагрозу, якая сыходзіць з боку Кароны. Ён нагадаў Украінцаву пра пасярэдніцтва французаў, якія дамагаліся заключэння міра паміж Рэччу Паспалітай і татарамі, што дазволіла б Сабескаму далучыцца да анты-габсбургскай кааліцыі.

Бялевіч зайшоў нагэтулькі далёка ў прыпісванні Рэчы Паспалітай анты-расійскіх ды анты-габсбургскіх настрояў, што зрабіў выснову пра намер помслівага Сабескага захапіць Кіеў. Рэч Паспалітая, якую Бялевіч яшчэ нядаўна маляваў бездапаможнай у параўнанні з татарамі і туркамі, зараз паўставала надзвычай моцнай дзяржавай, здольнай адначасова павярнуць Украіну і напасці на Аўстрыйскую імперыю. У адказ Украінцаў, які адразу заўважыў гэтую супярэчнасць, загадаў паддзячаму зачытаць уголас сведчанні татарскіх палонных, якія ўдзельнічалі ў набегах на Рэч Паспалітую да таго, як патрапілі ў расійскі палон. Іх словы супярэчылі ўражанню замірэння татараў з каронным войскам, якое спрабаваў стварыць Бялевіч.

Акрамя таго, Украінцаў спытаў пра сапраўднасць звестак што да спустошанасці турэцкага скарба. Бялевіч вызнаў, што Турцыя перажывала некаторыя эканамічныя цяжкасці і прывёў у якасці прыклада неабходнасць перахода Стамбулам на медныя грошы. Ён дадаў таксама, што татарскія набегі на Рэч Паспалітую рабіліся з мэтай паланіць простае насельніцтва, каб прадаваць іх на ўсходніх рынках рабоў. Паводле словаў Бялевіча, гэтая акалічнасць раз'юшыла шляхту, якая патрабавала ад Сабескага тлумачэнняў, чаму ён стаецца няздольным гарантаваць бяспеку сваіх грамадзян, калі падтрымлівае кантакты з ханам.[37] Апошняя заўвага была разлічанае на тое, каб падкрэсліць зацікаўленасць Сабескага ў замірэнні з татарамі.

Напрыканцы сустрэчы Украінцаў спытаў пра наступствы расійскай экспедыцыі ў Крым. Адказ малдаўскага амбасадара быў красамоўным: калі царскае войска ўваходзіла ў Крым, "сэрцы хрысціянаў пачыналі біцца хутчэй", а "татары дрыжэлі ад страха."[38] Калі расійскае войска

---

[36] Ліст Тэкея царам, 10 лістапада 1690 года, ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 25-257. Цары вырашылі не дасылаць Тэкею ліст, а папрасіць Кантэміра падзякаваць яму ад іх імя за спрыянне мірнаму працэсу Масквы і Стамбула. ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 64. Французы падтрымлівалі намеры Тэкея заняць трансільванскі трон. Дзённік Уільяма Трумбула, Беркшырскі Архіў, паперы Трумбула, № 99.

[37] Запісы місіі Бялевіча, ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 47-49.

[38] Тамсама, ст. 50.

вярталася дамоў, туркі цешыліся, а “вочы праваслаўных напаўняліся слязьмі.”[39] Каб не сканчаць сустрэчы на мінорнай ноце, Бялевіч паўтарыў сваё звычайнае цверджанне, што татары “ні ўва што не ставілі палякаў.”[40]

Пасля сустрэчы Украінцаў падрыхтаваў доўгае спавешчанне, пададзенае на наступны дзень царам і Баярскай думе. Незвычайная хуткасць, з якой дзейнічаў расійскі дыпламат, сведчыла пра высокую зацікаўленасць Масквы ў мірных перамовах. Аніякіх сведчанняў пра дэбаты ў Думе не засталося, але баяры відавочна вырашылі шукаць міра і абмяркоўвалі контараргументы на абвінавачанні караля ў распачынанні перамоў з Турцыяй у парушэнне Вечнага міра. На наступны дзень пасля дэбатаў у Баярскай Думе цары выдалі два ўказы. Пасольскі прыказ атрымаў інструкцыі рыхтаваць мірную дамову і трохсотстаронкавую кнігу парушэнняў Рэччу Паспалітай Вечнага міра. Умовы міра былі гатовыя і ўхваленыя 22 студзеня 1691 года.[41]

На наступны дзень Бялевіча паклікалі на надзвычайную аўдыенцыю ў цароў. Там ён атрымаў загад як мага хутчэй павярнуцца да гаспадара і шчыра выканаць інструкцыі Украінцава, намагаючыся правесці мірныя перамовы нагэтульκі ж паспяхова, як і ў 1679 годзе. Акрамя таго, ён атрымаў ліст ад цароў Кантэміру. Пасля заканчэння аўдыенцыі Украінцаў перадаў Бялевічу ўмовы Пасольскага прыказа ў трынаццаці пунктах, якімі Кантэмір мусіў кіравацца падчас перамоваў. Акрамя таго, цары прасілі Кантэміра даслаць хану “дарагога іх сэрцу” Бялевіча.[42]

Паводле задумы Крамля, мірная дамова мусіла грунтавацца на ўмовах, існых ад 1686 года. У дадатак да патрабаванняў казацкіх зямель паміж Днястром і Дняпром, расійцы хацелі спыніць штогадовае дасыланне “дароў” крымскаму хану. Калі іх прапановы не будуць прынятыя, расійцы пагражалі зладзіць вялікі наступ і яшчэ адную экспедыцыю ў Крым. Папярэджанне, аднак, было выказанае ў гнуткай форме і амаль гублялася на тле пафасных выразаў пра палымянае жаданне расійцаў міра, ці, прынамсі, афіцыйнага прапынення вагня. Трэба заўважыць, што спыненне вайсковых дзеянняў залежала не ад прыняцця расійскіх умоваў міра, але ад працягнення перамоваў.

Расійцам відавочна не падабалася тое, што татары спярша звярнуліся з мірнымі прапановамі да караля, але яны прагнулі сталых кантактаў з Крымам. Акрамя таго, у Маскве надавалі вялікае значэнне атрыманню ад татараў доказаў парушэння Сабескім умоў Вечнага міра. Яны запэўнілі Кантэміра, што даслаць агента Мазэпы Батыр-Чаркеса ў Крым і манаха Фаму ў Малдавію іх прымусіў не страх, а “шматлікія ліхадзействы караля Рэчы Паспалітай, які спрабаваў падбухторыць украінцаў да паўстання ды інтрыгаваў супраць цароў разам з ханам.”[43] Кантэміру было загадана падкрэсліць, што Расія парушыла мір з султанам і ханам пад уплывам Кароны і Аўстрыі, але пасля таго, як высветлілася падступнасць караля, расійцы “мелі намер спыніць з ім усе стасункі.”[44]

---

[39] Тамсама.
[40] Тамсама.
[41] Тамсама, ст. 37-44.
[42] Тамсама, ст. 55-72.
[43] Тамсама, ст. 67.
[44] Тамсама, ст. 66-67.

Глава 7. Спакуса Сепаратнага міра

Кантэміру нагадалі, што кароль паспрабуе сарваць мірныя перамовы. Цары адзначалі, што распачынанне перамоў было адкладзенае менавіта праз падробленыя лісты Саламона. Сабескі даслаў іх копіі хану, што прымусіла апошняга сумнявацца ў адданасці Мазэпы Расіі і адкласці адказ на прапановы, прывезеныя Фамой. Цары заклікалі татарскіх дыпламатаў прыехаць у Маскву і гарантавалі іх бяспечнае павяртанне ў Крым, нават калі перамовы выявяцца беспаспяховымі. Яны абяцалі, што расійскія войскі застануцца на мяжы, калі ў Крамлі атрымаюць навіну пра тое, што татарская дэлегацыя накіроўваецца ў Маскву, ці возмуць у аблогу Ачакаў, рушаць на дняпроўскія фарты татараў або ў Крым, калі хан праігнаруе царскае пасланне.[45]

Атрымаўшы царскія інструкцыі Бялевіч нізка ўкланіўся, але не ўтрымаўся і зрабіў шэраг заўвагаў. Ён прапанаваў пакуль не ўздымаць пытанне расійскіх "дароў", бо патрабаванне адмовы ад іх можа падацца хану проста "няшчырым", і адкласці абмеркаванне гэтай праблемы да візіта хана ў Маскву. Бялевіч вырашыў не згадваць пра землі паміж Дняпром і Днястром, на якія разлічваў Кантэмір, але папрасіў цароў падчас перамоваў прапанаваць хану аддаць Камянец малдаўскаму гаспадару ці, калі яны палічаць гэта прымальным, цалкам зруйнаваць гарадскія ўмацаванні. Акрамя таго, Бялевіч паабяцаў ад імя Кантэміра здабыць патрэбныя царам лісты караля і скіраваць ім шэраг кампраметуючых Сабескага дакументаў, якімі ўжо валодаў малдаўскі гаспадар.[46]

Украінцаў мусіць узяць пад увагу заўвагі Бялевіча і падрыхтаваць канчатковы варыянт інструкцыяў. Праз некалькіх дзён расійскі дыпламат паклікаў малдаўскага калегу ў прыказ і паўтарыў яму першапачатковыя інструкцыі, без аніякіх зменаў. Акрамя таго, ён падкрэсліў неабходнасць выканасць царскую місію хутка. Паводле загадаў цароў і Баярскай думы, Бялевічу выдалі 120 рублёў наяўнымі грашымі і сабалёў агульнай вартасцю ў 100 рублёў. Падарунак ставаўся шчодрым, што адлюстроўвала значнасць, якую расійцы надавалі пасярэдніцтву Кантэміра. Праз два дні дасланнік Кантэміра пакінуў Маскву, але прыбыў у Батурын толькі праз тыдзень, дзе быў неадкладна прыняты Мазэпам. У выкананне інструкцый Украінцава, Бялевіч распавёў гетману пра місію, ускладзеную царамі на Кантэміра, і пра свае маскоўскія перамовы.[47] Тым, што Украінцаў даверыў гэтую сакрэтную інфармацыю Мазэпу, ён канчаткова развеяў апошнія сумневы ў адданасці гетмана Маскве. Бялевіч мог пераканацца, што маскоўскія палітыкі давяралі Мазэпу і падзяляліся з ім найзначнейшымі сакрэтамі замежнай палітыцы Крамля не зважаючы на "справу Саламона".

Мазэпа спланаваў для Бялевіча найбяспечнейшы шлях у Ясы. Ён вырашыў скіраваць малдаўскага прадстаўніка праз Бэндэры пад аховай вялікага канвоя на чале з Васілём Палянкам. Бялевіч выехаў з Батурына 30 студзеня, а 22 лютага Мазэпа паінфармаваў цароў, што малдаўскі дыпламат паспяхова перасёк Буг.[48]

Атрымаўшы царскі ліст і спавешчанне Бялевіча, Кантэмір накіраваў апошняга да вялікага візіра, які выказаў задавальненне мірнымі намерамі Масквы і надаў хану паўнамоцтвы працягнуць

---

[45] Тамсама, ст. 56-67.
[46] Тамсама, ст. 67-68.
[47] Тамсама, ст. 70-71, 85, 85а.
[48] Тамсама, ст. 103-106, 119-20.

перамовы. Так Кантэмір дасягнуў сваёй галоўнай мэты і прадухіліў замірэнне паміж Рэччу Паспалітай і Турцыяй.[49]

Пасля візіта Бялевіча расійцы вырашылі даслаць аднаго з людзей Мазэпы у Крым ў якасці свайго прадстаўніка. Гетман даручыў гэтую місію Цімафею Радычу, чальцу сваёй канцэлярыі. Хан добра прыняў Радыча, але татары не пагадзіліся на расійскія ўмовы. З улікам абяцання расійцаў не распачынаць вайсковыя дзенні супраць татараў падчас мірных перамоў, напачатку сакавіка 1691 года ў Маскву выправіўся Мехмет Ага. Ён вёз царам адказ на іх прапановы, дастаўленыя Радычам. Адначасова хан на чале вялікага войска рушыў у раён Буджака, накіраваўшы Радыча ў стан вялікага візіра.[50]

Расійскую мірную ініцыятыву віталі як у Крыме, гэтак і ў Адрыанопалі. Каб забяспечыць спрыяльныя ўмовы для будучых перамоваў, 2 чэрвеня 1691 года цары загадалі галовам расійскага вайска і казацкаму гетману спыніць любыя вайсковыя дзеянні супраць татараў. У Крамлі выконвалі свае абяцанні. Нават нягледзячы на тое, што ім не спадабаўся ліст хана і ўмовы Мехмета Ага, яны вырашылі ўстрымацца ад якіх-колечы варожых актаў. Гэта сталася значным дасягненнем татарскай дыпламатыі, бо да канца 1691 года кароль Рэчы Паспалітай і аўстрыйскі імператар зладзілі шэраг значных вайсковых аперацыяў. Аўстрыйцы здолелі выбіць Тэкея з Трансільваніі, а Сабескі дайшоў да Ясаў і прымусіў Кантэміра адступіць. Аднак каронnae войска не здолела ўтрымаць усё Малдавію і была вымушанае павярнуцца ў Рэч Паспалітую пад ціскам татараў. Тым не менш, ў Сучаве і Нямцы засталіся каронныя гарнізоны. Відавочна, што перамогі кароннага і аўстрыйскага войскаў былі б значнейшымі, калі б расійцы прымусілі татараў абараняцца ў Крыме.

## Доўмант і Украінцаў: напружаная сустрэча ў Маскве

Бліжэй да канца 1690 года, каронны амбасадар у Маскве дакладаў пра спыненне Расіяй вайсковых дзеянняў супраць татарамі. Акрамя таго, ён паінфармаваў Варшаву пра місію Бялевіча, пра якую Доўмант даведаўся амаль адразу па прыбыцці малдаўскага дыпламата ў расійскую сталіцу. Калі каронны дыпламат спытаў пра мэту візіта Бялевіча, Украінцаў халоднакроўна схлусіў яму, што ў Маскве знаходзіліся не малдаўскія дыпламаты, а царкоўныя і мірскія паломнікі, якія прыехалі па міласціну.[51] Атмасфера падчас сустрэчы Доўманта з Украінцавым 26 студзеня 1691 года была напружанай. Доўмант, на падставе ліста ад караля, яскрава апісаў вайсковыя перамогі туркаў падчас мінулай кампаніі і заклікаў расійцаў атакаваць турэцкія форты ўздоўж Дняпра і ў Крыме. Ён зачытаў заклік караля пакінуць у мінулым узаемныя падазрэнні і, як браты, аб'яднацца супраць агульнага ворага. Кароль папярэджваў цара, што калі Рэч Паспалітая і Расія не спыняць туркаў, абедзьве дзяржавы могуць пасці ахвярамі Атаманскай імперыі. Акрамя таго, Доўмант настойваў на недачыненне караля да "справы Саламона". Тым не менш, яго просьбы вайсковай дапамогі і

[49] Інфармацыю перадаў Марк Канстанцінаў, 8 траўня 1690 года, ЦГАДА, фонд 52, Стасункі з Грэцыяй, 1690 год, № 1, ст. 183-84.

[50] Запісы місіі Бялевіча, ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 108. У лютым 1691 года Радых накіраваўся з Батурына ў Крым праз Запарожжа. Запісы місіі Бялевіча, ЦГАДА, фонд 68, № 4, ст. 117-18. Гл. таксама ліст цароў хану Садат Гірэю, 9 сакавіка 1691 года, Рэестр дыпламатычных місіяў паддзячага Васілія Айтамірава ў Крым, ЦГАДА, фонд 123, Стасункі з Крымам, № 1, ст. 26-29, 31-32; "Два доклада о примирении Польши, России и Цесаря з Турецким Султаном и с Крымским Ханом," ЦГАДА, фонд 79, № 250, ст. 26. Белов, "Нидерландский резидент," ст. 386-88.

[51] Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, 27 студзеня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 50-51.

неперакнаўчыя тлумачэнні што да інтрыгі манаха не ўразілі Украінцава. У адказ расійскі дыпламат абвінавацію каронных палітыкаў у выношванні планаў захопа Украіны, праігнараваў заклік да актыўнешых вайсковых дзеянняў супраць татараў і туркаў і нават выразіў пратэст датычна ўціску праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай.[52]

Тырада Украінцава вымусіла Доўманта спытаць ці не плануе цар вайну супраць Кароны. Ужо цягам папярэдняй сустрэчы 26 снежня 1690 года амбасадар Рэчы Паспалітай выказваў сваю занепакоенасць маскоўскімі плёткамі пра непазбежную вайну з Рэччу Паспалітай, якія ўскосна пацвярджаліся забаронамі на перасячэнне мяжы для купцоў і экспарт пшаніцы ў Карону. Размова скончылася запэўненнямі Украінцава, што цар не хоча вайны з каралём.

Падчас наступнай сустрэчы з Украінцавым Доўмант зноў папрасіў цара адказаць на ліст караля што да сумеснай вайсковай аперацыі. Калі Украінцаў сказаў перадаць каралю, што царскія войскі знаходзяцца ў поўнай баегатоўнасці, Доўмант адказаў, што гэта яму вядома, але кароль хоча ведаць, хто будзе на чале войска й калі і ў якім напрамку яно выступіць. У адказ, як і падчас мінулай сустрэчы, Доўмант пачуў дыятрыбу што да пераследа праваслаўнага насельніцтва ў Рэчы Паспалітай, якая, аднак, гэтам разам несла ў сябе прыхаваную пагрозу вайны. "Рэлігія стаецца надзвычай значным пытаннем для кожнага народа," – сказаў Украінцаў, "і яна была прычынай парушэння дамоваў, канфліктаў і кравапраліцця паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй."[53] Каб пазбегнуць падобных наступстваў, ён прапанаваў спыніць уціск праваслаўных і "прыбраць з гэтага света" падпальшчыка вайны епіскапа Шумлянскага, "каб ён больш не рабіў ліха."[54] Такім чынам, замест абмеркавання агульнай вайсковай кампаніі супраць татараў і туркаў, расійскі дыпламат зноў згадаў "справу Саламона".

Доўманту больш не выпадала казаць пра вайсковыя планы, калі яго апанент на падставе ліста Шумлянскага і сведчанняў Дамарацкага давёў, што кароль намагаўся павярнуць левабярэжную Украіну і Кіеў. Пасля працяглага маўчання, якое відавочна сведчыла пра негатоўнасць кароннага дыпламата адказаць на расійскія закіды, ён паабяцаў напісаць каралю што да Шумлянскага. Пасля гэтага Доўмант заклікаў расійцаў прытрымлівацца ўмоваў Вечнага міра і гатавацца да сумеснай з Рэччу Паспалітай вайсковай аперацыі. Украінцаў, аднак, прытрымліваўся сваёй лініі і скончыў сустрэчу цвярджаннем, што "справа Саламона" ставалася надзвычай значнай і пагражала добрым стасункам паміж дзьвюма дзяржавамі. Але, паводле яго словаў, цары маглі б забыць яе, калі Саламон будзе дастаўлены ў Маскву, а Шумлянскі - належным чынам пакараны.[55]

Баярская Дума, паінфармаваная пра запытанне караля напрыканцы студзеня, вырашыла адказаць "у адпаведнасці з умовамі Вечнага міра."[56] Паддзячыя Пасольскага прыказа былі занятыя падрыхтоўкай вытрымак з дамовы, якія датычыліся вайсковага супрацоўніцтва. Акрамя таго, яны атрымалі загад скласці асобную кнігу, дзе пералічваліся вайсковыя аперацыі Расіі і Рэчы Паспалітай ад 1686 да 1690 года. На падставе гэтай інфармацыі Украінцаў склаў два розныя адказы

[52] Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, 3 сакавіка 1691 года, фонд 79, № 240, ст. 67-74.
[53] Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 103.
[54] Тамсама.
[55] Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, 3 лютага 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 104-109.
[56] Паводле царскага загада і баярскай парады. 31 студзеня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 78.

на лісты Сабескага. Першы ўтрымліваў абяцанне скіраваць войскі супраць ворага “калі гэта будзе мэтазгодна,”[57] а ў другім йшлося пра тое, што ладзіць экспедыцыю ў Крым ужо позна, і цары мусяць абмежавацца “пажаданымі Богам” захадамі.[58] У адказе згадвалася, што кароль мусіць быць задаволеным падобным адказам, бо калі царскія войскі распачыналі вялікія кампаніі супраць Крыма (у 1687 і 1689 гадах) кароннае войска бяздзейнічала.

Пасля вывучэння мінулых вайсковых аперацыяў абодвух бакоў, Баярская Дума вырашыла даслаць Сабескаму другую версію адказа. Гэта значыла, што расійцы абмяжуюцца выключна абарончымі дзеяннямі. Доўмант атрымаў адказ расійскага боку 21 лютага 1691 года. Украінцаў дадаў шэраг вусных каментараў, якія зажэрсцілі яго тон. Ён сказаў, што цар не можа падзяліцца з каралём дэталямі стратэгічнага плана сваіх вайсковых аперацыяў, бо, як ужо здаралася раней, гетман Ябла給оўскі ці які-колечы іншы ліхадзей перадасць іх татарам.[59]

Тым часам, у Варшаве збіралі доказы таго, што Расія вяла мірныя перамовы з татарамі. Спавешчанні Доўманта і інфармацыя агентаў Ябланоўскага прымушалі сумнявацца, што расійцы працягнуць вайну. Абурэнне расійскіх дыпламатаў “справай Саламона” спрычынілася не толькі да распачынання мірных перамоў з Крымам, але й перакрыцця мяжы Расіі і Рэчы Паспалітай, умацавання смаленскага гарнізона і аднаўлення ціска на Карону што да правоў праваслаўнага насельніцтва. Газеты ў Рэчы Паспалітай і Заходняй Еўропе друкавалі спавешчанні пра кантакты Масквы з ханам, а таксама плёткі пра хуткую вайну паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй.

Моцна занепакоены, Сабескі звярнуўся да імператара Леапольда з прапановай разам ціснуць на Маскву. Напачатку года Доўмант паінфармаваў Пасольскі прыказ пра будучае вяселле каралеўскага сына Якуба Сабескага з сястрой жонкі імператара Леапольда. Акрамя таго, дыпламат згадаў абяцанне імператара даслаць войска ў Малдавію для сумеснай аперацыі, якую ачоліць Сабескі. Волкаў заўважыў змены ў стасунках Аўстрыі і Рэчы Паспалітай, выкліканыя шлюбам старэйшага сына Сабескага са сваячкай імператара. Рэч Паспалітая і Аўстрыя выступілі адным фронтам у 1690 годзе, калі ў Маскву накіраваліся дзве місіі – Ігнацыя Курца і Івана Акрасы, якія ад імя імператара і караля заклікалі расійцаў да актыўнейшых дзеянняў супраць татараў і туркаў.[60]

Паперад прыбыццём місіяў хаўруснікаў у Маскву Сабескі некалькі разоў выказваў заклапочанасць вялікай колькасцю стралецкіх палкоў у Смаленску, зачыненнем мяжы і плёткамі пра непазбежную вайну. Цягам сустрэчаў з Украінцавым у лютым, сакавіку, красавіку, траўні і чэрвені Доўмант, паводле просьбы караля, запытваў дадатковую інфармацыю пра перасоўванне расійскіх войскаў, але кожным разам атрымліваў адказ, што цары ўжо раскрылі каралю свае планы, і гэтае пытанне больш не абмяркоўвалася. Тым не менш, Сабескі, спасылаючыся на ўмовы Вечнага міра, працягваў патрабаваць ад Масквы актыўнешых вайсковых дзеянняў, а не прастой абароны сваіх

[57] Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст .116.
[58] Тамсама.
[59] Баяры раілі расійскаму войску абмежавацца абарончымі захадамі: ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 118; Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 128.
[60] Ліст Сабескага царам, 14 снежня 1690 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 136-39. Доўмант выхваляўся вяселлем Якуба Сабескага і шчыльным вайсковым супрацоўніцтвам Рэчы Паспалітай і Аўстрыя. 26 студзеня і 21 лютага 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 77, 102.

межаў. Ён скрадзіўся, што крымскае войска, пакінутае расійцамі ў спакоі, ладзіла набегі і рабавала ўсходнія раёны Рэчы Паспалітай.[61] Кароль адзначаў, што "расійскае войска застаецца ў Белгарадскіх фартах і Самары і не адцягвае на сябе ўвагу татараў."[62] Яго просьбы заставаліся без адказа, бо ў сакавіку Мехмед Ага быў ужо на шляху ў Маскву, а ў чэрвені, верныя свайму абяцанню, цары загадалі спыніць усе вайсковые аперацыі супраць татараў.

Доўмант амаль адразу даведаўся пра прыбыццё ханскага дасланніка і запатрабаваў тлумачэнняў. Падчас сустрэчы з Украінцавым, якая адбылася 20 чэрвеня, ён сказаў, што Масква поўніцца плёткамі пра таемны візіт ханскага эмісара, які мусіць весці мірныя перамовы. Украінцаў сцвярджаў, што аніякага татарскага дыпламата ў Маскве не чакаюць і дадаў, што, нават калі б плёткі і ставаліся слушнымі, у расійцаў не было падставаў хаваць яго візіт, бо Сабескі адкрыта прымаў татарскіх дыпламатаў. "Глас народа – глас Божы. Маскоўскія чуткі часцяком выяўляюцца слушнымі," – адказаў Доўмант і сышоў ад расійскага калегі.[63]

Доўмант зноў згадаў пра Мехмета Ага падчас наступнага візіта да Украінцава 6 ліпеня. Ён запытаў пра мэту прыезда татарына ў Маскву, а таксама паскардзіўся, што яго пошта і карэспандэнцыя аўстрыйскага рэзідэнта Курца былі дастаўленыя без дыпламатычных валізаў, у якія звычайна пакаваліся дасланні ад каралеўскага і імператарскага двароў. Гэтым разам Украінцаў зноў адмовіўся вызнаць прысутнасць Мехмета Ага ў Маскве. Аднак праз тыдзень ён паінфармаваў Доўманта, што крымскі дасланнік сапраўды выехаў з Крыма ў Маскву, каб дамовіцца пра абмен палоннымі і распачаць мірныя перамовы. Украінцаў сцвярджаў, што цары затрымалі яго на пэўны час ва Украіне, але нават калі яны прымуць ханскага эмісара, гэта не станецца парушэннем Вечнага міра. Доўмант абяцаў перадаць інфармацыю каралю, але меў да расійскага дыпламата запытанне: дзе дакладна ва Украіне знаходзіўся Мехмет Ага, калі ён нагэтулькі лёгка наведваўся да цара Пятра ў Прэабражэнскае?[64]

У ліпені Доўмант некалькі разоў пытаў пра татарскую місію і атрымліваў адказ, што той прыбыў, каб дамовіцца пра абмен палоннымі і што цары не заключаць мір без ведама караля. Пасля гэтага Доўмант даслаў супрацоўнікаў каронnай амбасады, каб усталяваць кантакты з атачэннем Мехмета Ага. Стральцы арыштавалі людзей кароннага дыпламата, якіх выпусцілі праз некалькі дзён з афіцыйным пратэстам расійскіх уладаў. Аднак у хуткім часе Украінцаў даслаў Доўманту сціслы змест ханскага ліста. У ім сцвярджалася, што, нягледзячы на агрэсію цароў супраць татараў, хан пагаджаўся разгледзець просьбу Галіцына што да аднаўлення міра. Украінцаў зноў запэўніў кароннага амбасадара ў тым, што цары ніколі аднаасобна не выйдуць з вайны без ведама і ўдзела ў мірным працэсе караля Рэчы Паспалітай.[65]

[61] Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, 26 снежня 1690 года, 26 студзеня, 21 лютага, 3 і 26 сакавіка, 5 красавіка, 12 траўня, 25 траўня, 20 чэрвеня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 35-36, 99-102, 129-30, 151-55, 165-66, 186, 196, 204-206.
[62] Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, 20 чэрвеня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 206.
[63] Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, 20 чэрвеня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 209.
[64] Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, 6 ліпеня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 210-18.
[65] Запісы размоваў Доўманта з Украінцавым, 6 і 13 ліпеня, 7 і 16 жніўня, 11 верасня 1691 года, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 218-19, 226, 253-54, 274, 283. Сведчанні супрацоўнікаў каронnай амбасады ў Маскве, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 256-59.

Аднак расійцы працягвалі вайну супраць татараў не праз сваю адданасць хаўрусу з Каронай, а праз занадта высокія патрабаванні хана. Апошні адмовіўся разглядаць расійскую прапанову што да скасавання штогадовых "дароў", бо яны сур'ёзна ўзбагачалі крымскі двар і вышэйшае чынавенства. Хан нават адмовіўся абмяняцца палоннымі і прапанаваў цару заплаціць выкуп за паланёных расійцаў. Пазіцыя хана што да палонных ставалася зразумелай, бо ў Расіі было нашмат менш татарскіх палонных, чым у Крыме – расійскіх. Татарскія прапановы паўтаралі ўмовы Бахчысарайскай дамовы, таму ў Пасольскім прыказе прынялі рашэнне цягнуць час і чакаць навінаў з дунайскага і малдаўскага франтоў. Расійскія дыпламаты спадзяваліся, што перамогі Рэчы Паспалітай і Аўстрыі зробяць татараў больш згодлівымі.[66]

Восень 1691 года прынесла анты-турэцкай кааліцыі значныя поспехі. Аўстрыйскае войска павярнула Трансільванію і пакінула там моцныя гарнізоны. Аднак нягледзячы на свае перамогі на Дунаі аўстрыйцы панеслі цяжкія страты. Імператар даручыў прынцу Людвігу Бадэнскаму, галоўнакамандуючаму дунайскім войскам, распачаць мірныя перамовы, у якіх мусілі ўдзельнічаць каронны і венецыянскі амбасадары. Сабескі заклікаў расійцаў далучыцца да перамоўнага працэса. З Пасольскага прыказа, аднак, адказалі, што цары не плануюць дасылаць свайго дыпламата ў лагер аўстрыйскага імператара і даручылі каралю прадстаўляць падчас перамоваў інтарэсы Расіі. Аднак патрабаванні цароў, перададзеныя расійцамі каронным дыпламатам, былі больш жорсткімі, чым тыя, што яны даслалі непасрэдна хану. Было відавочна, што ў выпадку заключэння агульнай мірнай дамовы Расія можа закінуць каралю недастаткова дбайнае адстойванне яе інтарэсаў ці, праз актыўны дыпламатычны ціск хаўруснікаў, дамагчыся для сябе больш карысных умоваў, чым у выпадку аднабаковага замірэння з татарамі.[67]

Нягледзячы на няспынныя абвінавачанні караля ва ўціску супраць праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай, у стасунках Варшавы і Масквы адбылася часовая адліга. Заключэнне сепаратнага міра, якое падавалася вельмі верагодным падчас візіта Бялевіча, ставалася зараз толькі адным з некалькіх варыянатаў.

Той факт, што татары прынялі да разгляду патрабаванні хаўруснікаў нават нягледзячы на горшыя ўмовы расійскага боку, усцешыў Нарышкіна, бо гэта азначала, што туркі і татары не дамовяцца з імператарам і каралём у абыход Расіі. У выніку кантактаў Галіцына з татарамі (у прыватнасці, місіяў Фамы і Бялевіча), Пасольскі прыказ атрымаў пэўную свабоду дзеянняў што да міра і вайны, якую расійскія дыпламаты выкарыстоўвалі для ціска на сваіх хаўруснікаў. Але ў выніку найбольшую карысць ад гэтага атрымаў хан, які меў магчымасць граць на супярэчнасцях паміж Варшавай і Масквой. Татарскія дасланнікі абяцалі Сабескаму скіраваць супраць Расіі стотысячнае войска, але яны прапаноўвалі царам выставіць тыя ж сто тысячаў супраць Кароны. У кожным з выпадкаў за сваю дапамогу хан, як звычайна, патрабаваў сплочваць яму даніну. Расійцы спадзяваліся, што

---

Змест ханскага ліста царам, ЦГАДА, фонд 79, № 240, ст. 284-85. Гл. таксама: дзённік Айтамірава, ЦГАДА, фонд 123, стасункі з Крымам, № 1, ст. 16, 23-32.

[66] "Два доклада," ЦГАДА, фонд 79, № 250, ст. 26-28. Ліст Мазэпы татарскаму міністру замежных спраў, ліпень 1691 года, ЦГАДА, фонд 123, стасункі з Крымам, 1691-1694, № 1, ст. 145-50.

[67] Галоўнымі ўмовамі міра, якія высоўвалі расійцы, ставаліся: скасаванне штогадовых "дароў" хану, абмен палоннымі і забеспячэннем казакам бесперашкоднага доступа ў Чорнае мора. У той самы час яны хацелі, каб Сабескі запатрабаваў выгнання татараў з Крыма і Азова. "Два доклада," ЦГАДА, фонд 79, № 250, ст. 6, 12.

татарскія апетыты паменеюць пасля шэрагу параз на іншых франтах і, адпаведна, вырашылі абмежавацца абарончымі аперацыямі і адначасова працягваць мірныя перамовы.

Цягам 1692-1694 гадоў Рэч Паспалітая і Расія працягвалі адсочваць кантакты адна адной з татарамі і намагацца заключыць з імі сепаратны мір. Але ў той самы час яны не маглі дазволіць сабе выйсці з хаўруса, які іх звязваў, бо нават падчас мірных перамоваў татарскія атрады рэгулярна рабавалі каронныя і расійскія тэрыторыі, каб захапіць палонных для прадання ў рабства ці атрымання выкупа.

## Глава 8. Цар Пётр I і абранне Аўгуста II

Услед за Сяргеем Міхайлавічам Салаўёвым, расійскія гісторыкі лічаць абранне Аўгуста II сведчаннем зрастання расійскага ўплыву на ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Рэчы Паспалітай.[1] Прыпісваючы Пятру I талент прадбачання, дыпламатычную смеласць і спрыт, яны мяркуюць, што за абраннем саксонца Фрыдрыха Аўгуста на польска-літоўскі трон стаяў малады расійскі цар, які меў намер закласці грунт для шчыльнейшага супрацоўніцтва паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй. Для большасці польскіх навукоўцаў выбары таксама стаюцца паваротным пунктам у гісторыі Рэчы Паспалітай, бо яны не толькі далі магчымасць Расіі ўмешвацца ў яе ўнутраную палітыку польска-літоўскай дзяржавы, але й прывялі да страты яе пазіцыяў на міжнароднай арэне.[2]

Тым не менш, гістарычныя дакументы не пацвярджаюць гэтае меркаванне. Архіўныя матэр'ялы сведчасць, што падчас выбараў расійскія дыпламаты і сам Пётр I выявіліся надзвычай пасіўнымі і фактычна не ўплывалі на іх вынік. Цар змяніў сваё стаўленне да падзеяў у Рэчы Паспалітай пазней, ужо *пасля* каранавання Аўгуста, і пачаў актыўна падтрымліваць новага караля ў яго барацьбе з унутранай апазіцыяй. Больш за тое, пасля дэталёвага вывучэння тагачысных польска-літоўскіх дыпламатычных і культурных сувязяў, можна сцвярджаць, што абранне Фрыдрыха Аўгуста хутчэй умацавала міжнародную бяспеку Рэчы Паспалітай, чым паслабіла яе. Мы паспрабуем давесці гэта пры дапамозе аналіза падзеяў, звязаных з выбарамі 1696-97 гадоў і, у прыватнасці, ролі Пятра I у абаранні Аўгуста II каралём Рэчы Паспалітай.

Паводле закона, пасада караля Рэчы Паспалітай ставалася выбарнай з чатырнаццатага стагоддзя, але на справе правам голаса спачатку валодала толькі абмежаваная група вышэйшых урадоўцаў і духавенства. У 1385 годзе, калі вялікалітоўскі князь Ягайла і польская каралева Ядзвіга ўзялі шлюб, была заключаная дынастычная ўнія паміж Польшчай і Вялікім Княствам. Каб умацаваць хаўрус дзьвюх дзяржаў, было прынятае рашэнне вызнаць дынастыю вялікалітоўскіх князёў польскай каралеўскай дынастыяй. Першыя адкрытыя выбары караля новай дзяражвы адбыліся ў 1573 годзе, пасля смерці апошняга прадстаўніка вялікакняжацкай дынастыі Жыгімонта Аўгуста. На той час выбарным правам валодала ўся шляхта Рэчы Паспалітай, незалежна ад веравызнання, нацыянальнасці, узроўня адукацыі і заможнасці. Галасаваць магла нават беззямельная шляхта.

Выбары адбываліся шляхам прамога галасавання, а ўдзел у іх лічыўся не толькі правам, але й грамадзянскім абавязкам. Яўка на выбарчых сходах была вельмі высокай і звычайна пераўзыходзіла дзесяткі тысяч чалавек. Узброеная і вышыхаваная ў баявым парадку шляхта збіралася пад харугвамі сваіх паветаў на полі каля Варшавы. У цэнтры поля месціліся вялікія

[1] С.М. Соловьёв, История России с древнейших времён, том 14 (Москва, 1964). Левітэр адзначыў, што Салаўёў - у адрозненне ад гісторыкаў Голікава і Каралюка – быў асцярожным у сваёй ацэнцы расійскага ўплыву на выніку выбараў. L. R. Lewitter, "Peter the Great and the Polish Election of 1697," *Cambridge Historical Journal* 12 (1956): 127-28

[2] W. Konopczyński, Dzieje Polski nowożytnej (Warsaw, 1936), ст. 327-29; В.Д. Королюк " Избрание Августа II на польский престол и русская дипломатия," ва Учёные записки Института славяноведения 3 (Москва, 1951); K. Piwarski, "Das Interregnum 1696-1697 in Polen und die politische Lage in Europa," у *Um die Polnische Krone*, пад рэд. J. Kalisch і J. Gierowski (Berlin, 1962); і Lewitter, "Peter the Great."

намёты для сенатараў і павятовых дэлегатаў. Там жа з прапановамі сваіх кандыдатаў да галоваў Рэчы Паспалітай звярталіся амбасадары замежных дзяржаў. Звесткі пра ходу дэбатаў неадкладна перадаваліся агульнаму сходу выбарцаў.[3]

Вынік польска-літоўскіх каралеўскіх выбараў ніколі не ставаўся перадвырашаным, а самі яны заўсёды выклікалі вялікую цікавасць і палкую рэакцыю як у самой Рэчы Паспалітай, гэтак і за мяжой. Цягам сямнаццатага стагоддзя за польска-літоўскі трон спаборнічалі ў першую чаргу Францыя і Аўстрыя. Уплываць на вынік выбараў намагаліся таксама Ватыкан, Турцыя, Расія і Прусія. Сваіх кандыдатаў на трон высоўвалі кіруючыя дамы Францыі, Аўстрыі, Швецыі, нямецкіх княстваў, Трансільваніі і Расіі.

На першы погляд падаецца неверагодным, што сармацкая шляхта, якая нагэтулькі палка адстойвала свае вольнасці, магла пагадзіцца на абранне сваім каралём маскоўскага аўтакрата. Тым не менш, у шаснаццатым і сямнаццатым стагоддзях маскоўскія кандыдаты мелі добрыя шанцы на трон Рэчы Паспалітай. Гэты факт сведчыць пра самаўпэненасць шляхты што да стасункаў са сваім манархам. На карысць расійскага кандыдата сведчыў натхняльны прыклад Ягайлы, вялікалітоўскага князя і паганца, які, тым не менш, не разбурыў палітычныя інстытуты Каралеўства Польскага. Ладная частка шляхты меркавала, што маскоўскі цар паўторыць шлях вялікалітоўскага "барбара": стане больш асвечаным і вызнае вяршынства закону. Яны былі ўпэўненыя, што пасля свайго абрання на польска-літоўскі трон цар не толькі пашырыць дзеянне законаў і канстытуцыі Рэчы Паспалітай на Масковію, але й ператворыць сваіх былых падданых-рабоў у вольных грамадзян. Больш за тое, прыхільнікі маскоўскіх кандыдатаў адзначалі, што разам Польшча, Літва і Масковія здолеюць паспяхова супрацьстаяць турэцкай экспансіі на поўдні і агрэсіі шведаў на поўначы.[4] Кандыдатура маскоўца не ставалася непрымальнай і для каталіцкага духавенства, якое ўсведамляла грандыёзныя магчымасці для місіянерскай працы на ўсходзе і разлічвала атрымаць там вялікія зямельныя ўладанні.

Царскія кандыдатуры не мелі значнай падтрымкі ў сямнаццатым стагоддзі, але маскоўцы былі дастаткова сур'ёзным апанентамі, каб ставацца аб'ектамі крытыкі з боку іншых кандыдатаў. Філосаф Готфрыд Лейбніц, які напісаў трактат, каб пераканаць шляхту выбраць прадстаўніка Нойбургскага княства Філіпа Вільгельма, вельмі рэзка адгукаўся пра маскоўскага цара і сцвярджаў, што апошні можа скасаваць шляхецкія вольнасці. Лейбніц папярэджваў, што ў выніку уніі з Масквой утворыцца нагэтулькі вялікая дзяржава, што ўсе суседзі ўспрымуць яе як непасрэдную пагрозу еўрапейскай бяспецы:

---

[3] J. Bardach, *Historia panstwa i prawa polskiego*, том 2 (Warsaw, 1966), ст. 220-22. Цікавае апісанне хады выбараў падазенае ў Michel de Bizardière, *Histoire de la scission ou division arrivée en Pologne* (Paris, 1699) і *Dzieje Jana III Sobieskiego*, пад рэд. L. Rogólski (Warsaw, 1847).

[4] Найлепшы доследрасійскай замежнай палітыцы часоў безкаралеўя 1562-63, 1574-76 і 1587 гадоў у Рэчы Паспалітай і сацыяльна-палітычных поглядаў пра-расійскай групоўкі ў Вялікім Княстве Літоўскім: Борис Флория, *Русско-польские отношения и политическое развитие восточной Европы во второй половине XVI – начале XVII в.* (Москва, 1978), ст. 46-118, 141-216, 286-90. Гл. таксама K. Tyszkowski, "Plany unii polsko-moskiewskiej na przełomie XVI i XVII w.," Przegląd Współczesny 24 (1928).

*Нават туркі будуць усхвяляваныя. Кожная нацыя зробіць ўсё магчымае, каб перашкодзіць утварэнню гэткай імперыі, і нас зацягне ў дрыгву супрацьстаяння з барбарскімі плямёнамі. Еўропа стане полем бою, дзе сыдуцца былыя ворагі: туркі з маскоўцамі, грэкі з каталікамі і ўся Еўропа як такая з барбарамі.*[5]

Лейбніц неаднаразова крытыкаваў маскоўскі палітычны лад:

*Маскоўскія ўладары заўсёды жахалі галоваў хрысціянскіх краін і ўсіх разумных людзей тым, што трымалі сваіх падданых у рабстве і патрабавалі ад іх поўнай пакоры. Маскоўская дзяржава - гэта другая Турцыя, амаль роўная першай па моцы, але яшчэ больш дзікунская, магутнейшая і поўная яшчэ большай нянавісці да сваіх супернікаў.*[6]

Варта дадаць, што крытыка нямецкага філосафа Масквы і яе кандыдата ўспрымалася ў той час як памяркоўная.

За часам Яна Сабескага царская кандыдатура шляхтай не разглядалася, але маскоўскія палітыкі пільна сачылі за выбарамі і спадзяваліся паўплываць на іх вынік ці, прынамсі, не даць перамагчы сваім ворагам. Калі пасля апошняй малдаўскай кампаніі 1690 года пагоршылася здароўе Яна Сабескага, шляхцічы пачалі абмяркоўваць магчымых прэтэндэнтаў на трон. Гатовая разглядаць царскую кандыдатуру, шляхта, нечакана для сябе, не атрымала з Масквы аніякіх прапаноў. Каб зразумець, чаму гэта здарылася, трэба прааналізаваць падзеі перыяду безкаралеўʼя 1696-97 гадоў.

Здароўе Яна Сабескага пачало хутка пагаршацца ў 1695 годзе. У яго былі хворыя ныркі і кароль вымушана заставаўся ў віланаўскім палацы, дзе ўвесь час лекаваўся. Увесну 1696 года лекары параілі Сабескаму адмовіцца ад наведвання яго ўлюбёных украінскіх маёнткаў. На той час ён ужо быў прыкутым да ложку і не мог рухацца без старонняй дапамогі.[7] Кароль Рэчы Паспалітай паволі адыходзіў ад дзяржаўных спраў.

Аўстрыйскія і французскія дыпламаты пачалі прасоўваць сваіх кандыдатаў на трон Рэчы Паспалітай яшчэ да смерці Яна Сабескага. У першую чаргу, яны намагаліся перацягнуць на свай бок сенатараў, прыдворных і прадстаўнікоў найуплывовейшых шляхецкіх радоў. З іх дапамогай замежныя дыпламаты спадзяваліся ўмацаваць свае пазіцыі на павятовым узроўні і забеспечыць падтрымку сваіх кандыдатаў шараговай шляхтаў. Так, французскі амбасадар Мельхіор Паліньяк разлічваў перамагчы ва ўсіх правінцыях і паветах, чые сенатары паабяцалі аддаць свае галасы за французскага кандыдата.[8] Аднак нагэтулькі аптымістычныя ацэнкі былі відавочна завышанымі, бо дыпламаты не маглі займацца непрыхаванай агітацыяй за кандыдатаў сваіх краінаў пакуль заставаўся жывым кароль. Акрамя таго, планы дыпламатаў ставаліся часцяком далёкамі ад рэальнасці праз тое, што яны пакладаліся на словы сенатараў і не ведалі пра варожае стаўленне да сенатараў з боку шляхты, якая звінавачвала першых у таемных сувязях з агентамі замежных дзяржаў. Дыпламаты часцяком забываліся, што павятовыя

---

[5] Gottfried Wilhelm Leibniz, Wzorzec dowodów politycznych (Wrocław, 1969), ст. 114. Лейбніц напісаў гэты трактат пад псеўданімам Georgius Ulicovius Lithuanus.
[6] Тамсама, ст. 13.
[7] Kazimierz Sarnecki, *Pamiętniki z czasów Jana Sobieskogo. Diariusz i relacje z lat 1691-1696* (Wrocław, 1958), ст. 313-15, 341, 343-45; Z. Wójcik, *Jan Sobieski 1629-1696* (Warsaw, 1983), ст. 507-508. W. Ziębicki, Zdrowie i niezdrowie Jana Sobieskiego (Poznań, 1931).
[8] de Bizardière, *Histoire de la scission*, ст. 9-20.

сеймы мелі права высоўваць сваіх прэтэндэнтаў на пасаду караля, кандыдатуры якіх у выніку нават сур'ёзна не разглядаліся. У якасці прыклада можна прывесці Міхала Карыбута Вішнявецкага. Раззлаваныя зайграваннямі прадстаўнікоў магнацікіх радоў і сенатараў з замежнымі дыпламатамі, шляхцічы вырашылі адмовіцца ад замежных кандыдатаў і абраць маладога і недасведчанага ў палітыцы сына героя казацкай вайны Ярэмы Вішнявецкага.[9] Нязгодная мірыцца са сваёй паразай, пра-французская групоўка прадумвала магчымыя варыянты скідання новага караля,[10] але мусіла адмовіцца ад сваіх планаў, бо Вішнявецкі карыстаўся надзвычай вялікай папулярнасцю сярод павятовых палітыкаў. Узмацненне анты-сенатарскіх настрояў напужала магнатаў і прымусіла іх больш старанна рыхтавацца да наступных выбараў, якія адбыліся ў 1673 годзе падчас вайны з Турцыяй. На тых выбарах карону зноў здабыў паляк. Ян Сабескі, новы манарх Рэчы Паспалітай, цягам 23 год свайго каралявання адмаўляўся быць чыёй-колечы палітычнай марыянеткай.

Гэтым разам, калі навіна пра хваробу Сабескага дайшла да Парыжа, французы вырашылі выставіць сваім кандыдатам прынца Франсуа-Людовіка Бурбона дэ Конці, сваяка Людовіка XIV. Пра-французская партыя ў Рэчы Паспалітай на той час ставалася вельмі ўплывовай: французскую кандыдатуру падтрымлівалі кардынал Міхал Радзяёўскі, магутныя рады Сапегаў і Любамірскіх і шматлікія іншыя сенатары ды вышэйшыя чыноўнікі.[11]

Аўстрыйскія дыпламаты, занепакоеныя актыўнасцю і поспехамі французаў, прапанавалі кандыдатуру Якуба Сабескага, старэйшага сына хворага караля і сваяка імператара Леапольда I. На першы погляд Якуб меў добрыя шанцы на перамогу, бо грамадзяне Рэчы Паспалітай традыцыйна аддавалі перавагу сынам сваіх манархаў. Аднак яго лічылі марыянеткай венскага двара. Больш за тое, Якуб меў няўстойлівы характар, яму бракавала харызмы і сур'ёзнасці. Сам кароль скептычна ставіўся да кандыдатуры свайго старэйшага сына. Жонка Сабескага Марысенька хацела бачыць на троне аднаго са сваіх малодшых сыноў - Аляксандра ці Канстанціна.[12]

Ян Сабескі памёр 26 ліпеня 1696 года. Адначасова передвыбарчая барацьба перайшла ў новую фазу. Абавязкі караля былі часова ўскладзеныя на кардынала Радзяёўскага, што падвысіла шанцы французскага кандыдата. У адказ, аўстрыйскі двор пачаў актыўна перацягваць на свой бок Ватыкан, Венецыю і Расію. Аўстрыйцы нагадвалі цару, што памёрлы кароль быў хаўруснікам Расіі толькі на словах і насамрэч падтрымліваў Францыю. Яны сцвярджалі, што абранне Конці можа спрычыніцца да нападу Рэчы Паспалітай на Расію з мэтай адваяваць Смаленск і Кіеў. Аўстрыйцы пераконвалі цара ў тым, што Конці збіраўся рэфармаваць сістэму ўлады ў Рэчы Паспалітай і пачаць вайсковую экспансію супраць суседзяў. Каб не дапусціць падобнага развіцця падзеяў, аўстрыйцы прапанавалі расійцам разам падтрымаць Якуба Сабескага. З гэтай нагоды ў Вене адбылася сустрэча канцлера

---

[9] A. Kamiński, "The Szlachta of the Polish-Lithuanian Commonwealth and their Government," у *The Nobility in Russia and Eastern Europe*, пад рэд. Ivo Banac і Paul Bushkovitch (New Haven, 1983), ст. 33-35.
[10] Wójcik, Jan Sobieski, ст. 314-75.
[11] de Bizardière, *Histoire de la scission*, ст. 15-27
[12] K. Piwarski, *Królewicz Jakub Sobieski w Oławie* (Cracow, 1939), ст. 18-19. Спавешчанні Нікіціна, кастрычнік-лістапад 1696 года, Центральный государственный архив Древних Актов (Москва, далей ЦГАДА), фонд 79, № 252, ст. 33, 34, 113-23, 135, 144, 161-62.

Кінскага з Кузьмой Нікіцічам Няфімавым, а ў Варшаве пытанне наступнага выбараў караля абмеркавалі аўстрыйскі рэзыдэнт Зяроўскі і Аляксей Нікіцін.[13]

Абодва расійскія дыпламаты адразу звярнуліся ў Пасольскі прыказ па інструкцыі, але вымушаныя былі вельмі доўгі час іх чакаць. Урэшце рэшт, напачатку 1697 году, Пётр І загадаў паведаміць аўстрыйцам пра сваю падтрымку Якуба Сабескага, але не даў расійскім амбасадарам аніякіх канкрэтных інструкцыяў што да далейшых дзеянняў.[14] У выніку, увесь перыяд міжкаралеўя Нікіцін мусіў дзейнічаць на сваю развагу. Ён ведаў пра непажаданасць для Расіі перамогі Конці ці шведскі кронпрынца.[15] (пра-шведскай групоўкі ў Рэчы Паспалітай не існавала, таму ўдзел Швецыі ў змаганні за карону Рэчы Паспалітай ставаўся сімвалічным). Нікіціну было вядома пра таемныя дамоўленасці сенатараў з замежнымі дыпламатамі з мэтай атрымаць моцную падтрымку на павятовым узроўні, але расійскі дыпламам не мог гэтаму нічога супрацьпаставіць. Яго статус не дазваляў яму ані ўплываць на сенатараў, ані гуртаваць вакол сябе прыхільнікаў расійскай кандыдатуры. Акрамя таго, ён не мог прыняць бок аўстрыйскага амбасадара ў барацьбе супраць французскага кандыдата. Калі замежныя калегі Нікіціна пыталі яго, як да выбараў караля Рэчы Паспалітай ставіўся цар, Нікікцін не мог ім нічога адказаць. Яго роля ў выбарах абмяжоўвалася пасіўным назіраннем.

Аднак расійскія дыпламаты ставаліся сузіральнікамі не па сваёй волі. Украінцаў, выконваючы абавязкі галавы Пасольскага прыказа, прысвячаў стасункам з Рэччу Паспалітай шмат часу і падчас азоўскай кампаніі паведамляў цару пра ўсе навіны выбарчай кампаніі. Украінцаў літаральна закідваў цара запытамі што да інструкцыяў. У выніку, Пётр прыйшоў да высновы, што замест таго, каб засярэдзіцца на Аўстрыі, стасункам з якой цар аддаваў перавагу, Украінцаў беспадстаўна перабольшваў значнасць падзеяў у Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на тое, што Пётр ведаў пра смерць Сабескага, 26 ліпеня 1696 году расійскі цар напісаў наступнае свайму сябру Андрэю Андрэевічу Вініусу:

*Я вельмі раззлаваны на твайго сваяка [Украінцава], які распавядае мне пра дробныя польскія справы і забывае пра Імперыю і нашыя спадзяванні на хаўрус з ёй … Перадай яму – тое, што ён не піша мне на паперы, я намалюю на яго скуры.*[16]

Натуральна, што пасля гэтай пагрозы Украінцаў, разам з ўсім Пасольскім прыказам, пераключыўся на Вену і больш не зважаў на выбары. Падаецца, што Украінцаў, спрабуючы пазбегнуць дакораў і

[13] Спавешчанні Нікіціна, 1696 год, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 56-179. Спавешчанні Няфімава з Вены (1696) у Памятники дипломатических сношений древней России с державами иностранными (Санкт-Петербург, 1867), ст. 67-79, 90-97, 163-65, 187-89, 192, 371-74, 380, 383-87, 431-38, 448. Няфімаў быў добра дасведчаны ў венскай палітыцы праз свае кантакты з перакладчыкам імперскай канцэлярыі па прозвішчу Шцілле (Швяйкоўскім), які прадаваў інфармацыю расійскім дыпламатам. ЦГАДА, фонд 32 (Стасункі з Аўстрыяй, 1690 год), № 5.

[14] Інструкцыі Няфімаву, лістапад 1696 года, у *Памятники дипломатических сношений*, ст. 372-73. Нікіцін паінфармаваў аўстрыйскіх дыпламатаў пра падтрымку царом кандыдатуры Якуба Сабескага толькі ў красавіку 1697 года. ЦГАДА ,фонд 79, № 252, ст. 176.

[15] Спавешчанні Нікіціна, чэрвень-кастрычнік 1696 года, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 27-117.

[16] Ліст Пятра І Андрэю Вініусу, 25 ліпеня 1696 года, у Письма и бумаги Петра Великого, том 1 (Санкт-Петербург, 1887), ст. 89-90. Вініус абараняў Украінцава і беспаспяхова намагаўся пераканаць Пятра, што ён мусіць загадаць расійскім дыпламатам актыўна падтрымаць Якуба Сабескага. Ліст Вініуса Пятру І, Письма и бумаги, том 1, ст. 590-92.

пакарання (якое, у выніку, яго не мінула), намагаўся больш не раздражняць цара згадкамі пра Рэч Паспалітую і навінамі з Варшавы.

Ігнараванне Пятром польска-літоўскіх выбараў цяжка паддаецца рацыянальнаму вытлумачэнню. Магчыма, прычына гэта, а таксама пятровага непрыняцця лацінізма, крыецца ў даўнім страху і варожасці цара да ўсяго сармацкага, што з самага дзяцінства асацыявалася ў яго з небяспекай. Па-польску размаўлялі найгоршыя ворагі Пятра падчас праўлення Міласлаўскіх і крывавых палацавых інтрыг царэўны Соф'і. У адрозненне ад старэйшых дзяцей Аляксея Міхайлавіча, для якіх Еўропа асацыявалася ў першую чаргу з украінскімі настаўнікамі польскай і лаціны, светапогляд Пятра фармаваўся пад уплывам яго сяброў-пратэстантаў. Малады цар адкінуў любыя перспектывы супрацоўніцтва з лаціністамі і палякамі нават да таго, як пачаў пераймаць пратэстанцкія метады мадэрнізацыі краіны. Верагодна, што непрыняцце Пятра "польскасці" падмацоўвалася гісторыямі пра Час Смуты і поглядамі яго "нямецкай" кампаніі. Варожасць да ўсяго польскага нагэтулькі трывала засела ў свядомасці Пятра, што прымусіла яго перагледзець самы падмурак мадэрнізацыі, распачатай яго бацькам Аляксеем Міхайлавічам.

Цягам царавання Аляксея Міхайлавіча вышэйшыя слаі маскоўскага чынавенства аддавалі перавагу польска-літоўскай мадэлі рэформаў і лічылі яе цалкам прымальнай і натуральнай для Расіі. У той час Рэч Паспалітая ўжо губляла сваю магутнасць, але яе культура і палітычная думка ніколі не былі больш прываблівымі для суседзяў.[17] Гэта культурная і палітычная прыцягальнасць прыўносіла ў стасункі паміж дзьвюма дзяржавамі моцны ідэалагічны падтэкст, які Аляксей, Фёдар і Соф'я не бачылі ці не лічылі вартым сваёй увагі. Калі Пётр вырашыў змяніць мадэль рэформаў і выкараніць "варожы" польскі ўплыў у Расіі, ад яго адвярнулася прыдворная эліта і нават некаторыя чальцы царскай сям'і.

Пётр працягнуў курс на абнаўленне краіны, але значна паскорыў яго ходу і адмовіўся ад польска-лацінскай каталіцкай на карысць нямецка-галандска-шведскай пратэстанцкай мадэлі. Гісторыкі звычайна намагаюцца давесці большую паспяховасць пратэстанцкай мадэлі рэформаў,[18] не зважаючы на апантанасць цара-рэфарматара яе знешняй формай. Яны лічаць разумным тое, што Пётр пайшоў насуперак традыцыі, якой прытрымліваліся яго бацька, старэйшы брат і сястра. Аднак нам падецца нерацыянальным тое, што цар змарнаваў намаганні мадэрнізатараў-лаціністаў і адштурхнуў ад сябе кансерватараў. Ці было насамрэч "гістарычна неабходна" абраць менавіта пратэстанцкую мадэль як адзіна магчымую, каб рэфармаваць краіну і закласці падмурак сучаснай дзяржавы?

Агульнавядома, што Аляксей Міхайлавіч і Пётр Аляксеевіч наймалі спецыялістаў і запазычвалі тэхналогіі як з каталіцкіх, гэтак і пратэстанцкіх краінаў. Гэтаксама вядома, што Пётр захапляўся Захадам і, у прыватнасці, пратэстанцкімі краінамі, калі быў там як госць ці як заваёўнік. Большасць

---

[17] A. Brückner, "Wpływy polskie na Litwie i Słowiańszczyźnie wschodniej," у *Polska w kulturze powszechnej*, том 1, пад рэд. F. Koneczny (Cracow, 1918), ст. 165-67. L. R. Lewitter, "Peter the Great, Poland and the Westernization of Russia," *Journal of the History of Ideas* 19 (October, 1958); J. Tazbir, Rzeczpospolita i świat. Studia z dziejów kultury XVII wieku (Wrocław, 1971), ст. 63-78; Л.С. Абецедарский, Белоруссия и Росиия XVI-XVII вв. (Минск, 1978), ст. 209-246; А.И. Рогов, Русско-польские культурные связи в эпоху возрождения (Москва, 1966), ст. 259-306.

[18] Левітэр перараканаўча даводзіць гэта ў "Peter the Great, Poland, and the Westernization of Russia" (спасылка 17).

даследчыкаў сцвярджае, што палітычная тэорыя і практыка Францыі часоў Людовіка XIV і Святая Рымская Імперыя Леапольда I маглі прапанаваць Расіі менш, чым добраўпарадкаваны рэспубліканскі лад Нідэрландаў, канстытуцыйныя манархіі Брытаніі і Швецыі ці прававыя дзяржавы Брандэнбург, Саксонія ды іншыя пратэстанцкія каралеўствы. Калі пагаджацца з гэтымі аргументамі, трэба таксама вызнаць, што апошняе, чаго жадаў Пётр I – гэта абмежавання сваёй улады. Цар захапляўся прадпрымальнасцю англічан, але іх парламентарызм заўсёды заставаўся для яго непрымальным. Пётр распачаў беспаспяховую *"ратушавую"* рэформу, пакліканую стварыць у Расіі квітнеючыя гарады, накшталт галандскіх, для чаго была нават уведзеная пасада *бургамістра*. Яго калегіяльныя рэформы выявілі значны ўплыў шведскага камералізма, аднак ім бракавала духа кампраміса.[19]

Навукоўцы справядліва адзначаюць, што да прыняцця мадэлі рэформаў пратэстанцкіх краін Пятра прывяло яго жаданне ператварыць Расію ў Імперыю і ўпэўненасць, што працаваць на карысць дзяржавы павінныя і кароль, і просты грамадзянін. Пры гэтым, аднак, нельга забывацца, што ідэямі аднаго з найуплывовейшых тэарэтыкаў сучаснай дзяржавы Юста Ліпсія ў роўнай ступені карысталіся галовы каталіцкіх і пратэстанцкіх дзяржаў.[20] Погляды Ліпсія былі надзвычай папулярным й сярод польска-літоўскіх канстытуцыяналістаў. Так, напрыклад, імі захапляліся Лукаш Апалінскі і Андрэй Максіміліян Фрэдро. Развіццё тэорыі Ліпсія Андрэем Фрэдро было дастаткова папулярным, каб прыцягнуць увагу асвечаных манархаў Фрыдрыха Вялікага і рэфарматара Леапольда II. Абодва спрыялі выданню працаў Фрэдро ў сваіх краінах.[21] Ідэалогія, якую Пётр пераняў ад пратэстанцкіх краінаў Заходняй і Паўночнай Еўропы, была добра вядомая ў Рэчы Паспалітай, нават нягледзячы на тое, што яна не карысталася там значнай папулярнасцю.

Пётр мог з лёгкасцю загадаць рэфарматарам-лацiністам, незалежна ад іх поглядаў, чытаць і перачытваць працы Макіавэлі, Бадена, Гроцыя, Мадржэўскага, Ліпсія, Апалінскага, Гобса і Фрэдро, каб сфармуляваць "праваслаўны" варыянт тэорыі імперскай дзяржавы. Але ён абраў іншы шлях. Пётр напалягаў на непасрэдным запазычанні інстытутаў, як у выпадку з "ратушавай", калегіяльнай ці сенацкай рэформамі, і мовы пратэстанцкай сістэмы дзяржаўнага кіравання, нават нягледзячы на тое, што замежная форма магла сур'ёзна запаволіць мадэрнізацыю краіны, якой гэтак прагнуў малады цар.

Падаецца, што Пётр, дзякуючы сваім сябрам-пратэстантам, разглядаў сармацка-лацінскі ўплыў у Маскве нечым кшталту траянскага каня Рэчы Паспалітай. Нават калі лацiністы паслухмяна і аддана служылі свайму цару, яны ўсё роўна заставаліся прадуктам дзяржавы, у якой закон і правы асобы не ставіліся пад сумнеў і ўсхваляліся нават тэарэтыкамі манархізму (напрыклад, Мадржэўскім). Польскія палітычныя эсэ, паэзія, пераклады працаў Гроцкага пра гарадское самакіраванне і польская дыяспара ў Маскве – усё гэта нагадвала пра асабістыя і грамадзянскія правы і падавалася

---

[19] M. Raeff, *Understanding Imperial Russia* (New York, 1984), ст. 35-111.
[20] G. Ostreich, *Geist und Gestalt des frühmodernen Staates* (Berlin, 1969); M. Pryshlak, "The Well-Ordered State in the Political Philosophy of the Polish Aristocracy" (Ph.D. diss., Columbia University, 1984), ст. 223-26.
[21] M. Pryshlak, "*Forma mixta* as a Political Ideal of a Polish Magnate," *Polish Review* 26, нум. 3 (1981); Pryshlak, "Well-Ordered State," ст. 144-48. H. Barycz, *Andrzej Maksymilian Fredro wobec zagadnień wychowawczych* (Cracow, 1948), ст. 28, 31-32, 37, 79, 83, 95, 99.

цару небяспечным. У сярэдзіне стагоддзя тонкі аналітык і дасведчаны палітычны тэарэтык Юрай Крыжаніч быў агаломшаны хуткім распаўсюджаннем у маскоўскай дзяржаве занесенай з Украіны “смяротнай хваробы”, чым, у яго разуменні, ставаліся польска-літоўскія вольнасці.[22] Напрыканцы стагоддзя малады цар і яго дарадцы адчулі ўсё “небяспеку” гэтай хваробы. Палымяная антыпольская рыторыка і перайманне пратэстанцкага ладу паклалі канец “залатой эры” польскага ўплыву ў Маскве. Тым не менш, выклікана гэта было не заганнасцю кароннай мадэлі рэформаў, а простым непрыняццем яе Пятром. Падобны вострый страх перад Рэччу Паспалітай быў даволі распаўсюджаным сярод крамлёўскіх прыдворных і вышэйшага чынавенства.

Магчыма, што сваім ігнараваннем Рэчы Паспалітай падчас безкаралеўя і адмаўленнем значнасці тамтэйшых падзеяў Пётр I спадзяваўся на самой справе падарваць палітычны ўплыў Кароны. Праз гэта ён здолеў заставацца абыякавым, калі аўстрыйцы прасілі падтрымаць свайго кандыдата і калі Нікіцін папярэджваў пра адмоўныя наступствы перамогі ў барацьбе за трон Рэчы Паспалітай француза ці шведа. Пасля паспяховай азоўскай кампаніі 1696 года Пётр пачаў рыхтавацца да свайго вандравання за мяжу і па-ранейшаму не зважаў на падзеі ў Варшаве.

Незразумелыя паводзіны Пятра радыкальным чынам змяняюцца ў хуткім часе па перасячэнні ім расійскай мяжы на шляху да Рыгі. Падчас абеда ў прыдарожнай карчме шведскі шляхціч выказаў меркаванне, што найлепшыя шанцы заняць трон Рэчы Паспалітай маюць кароль Швецыі ці яго сын. Гэтая выпадковая заўвага моцна паўплывала на Пятра. Ён зразумеў, што выбарамі караля цікавіўся не адзіны Украінцаў, і неадкладна даслаў лісты Вініусу, у якіх патрабаваў зрабіць усё магчымае, каб не дазволіць шведскаму прэтэндэнту заняць трон Рэчы Паспалітай.[23] Акрамя таго, ён выправіў у Варшаву Нікіфара Іванова, чальца вялікай амбасады ў Заходнюю Еўропу, у якой таемна ўдзельнічаў і сам цар. Іваноў атрымаў загад збіраць любыя звесткі пра выбары караля. Адказы на большасць пытанняў, якія Іваноў мусіў атрымаць у Рэчы Паспалітай, ужо змяшчаліся ў падрабязных спавешчаннях Нікіціна,[24] але Пётр не чытаў гэтыя спавешчанні і нават не ведаў пра іх існаванне, бо ў Пасольскім прыказе баялася дасылаць яму копіі ці іх кароткі змест.

Нечаканая цікавасць цара да выбараў стала для Нікіціна прыемным нечаканасцю,[25] але на той момант паўплываць на вынік выбараў ужо было немагчыма. Больш за тое, сітуацыю абвастрыў ліст цара ў Варшаву, атрыманы 25 чэрвеня, за два дні да афіцыйных выбараў караля. У сваім лісце цар патрабаваў, каб Радзяёўскі, сенат і шляхта адхілілі кандыдатуру прынца Конці.[26] Ліст меў ультыматыўны характар і не адпавядаў дыпламатычным нормам, паводле якіх падобныя дасланні маюць быць ў падтрымку кандыдатаў, але не супраць іх.

[22] Юрай Крижанич, *Собрание сочинений*, том 1 (Москва, 1891), ст. 7-11.
[23] Ліст Пятра Вініусу, красавік 1697 года, Писма и бумаги, том 1, ст. 146.
[24] Інструкцыі Нікіфару Іванову, травень 1697 года, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай, 1697 год, № 5, ст. 6.
[25] Пётр загадаў Нікіціну даслаць яму інфармацыю пра выбары караля толькі 30 траўня 1697 года. Ліст Пятра Нікіціну, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай, 1697 год, № 5, ст. 5.
[26] Ліст Пятра Радзяёўскаму, сенату і грамадзянам Рэчы Паспалітай, 30 чэрвеня 1697 года, у Письма и бумаги, том 1, ст. 163-65. Нікіцін атрымаў царскі ліст, калі большасць сенатараў ужо выправілася на Вольскае поле, традыцыйнае месца выбараў каралёў. Спавешчанні Нікіціна, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 235-37.

Глава 8. Цар Пётр I і абранне Аўгуста II

Ліст дайшоў у Варшаву напярэдадні выбараў і наўрад ці мог паўплываць на іх вынік патрэбным цару чынам. Хутчэй, эфект ад ліста выявіўся супрацьлеглым намерам цара - палякі і вялікалітоўцы ўспрынялі яго як абаразу свайго нацыянальнага гонару і вырашылі дзейнічаць насуперак волі Пятра. Праз тое, што ў Варшаве занадта позна атрымалі царскае дасланне, Нікіцін не паспеў ані выкласці афіцыйную расійскую пазіцыю шырокай публіцы, ані нават зачытаць ліст дэпутатам кароннага парламента. Запозненая рэакцыі Пятра і яго нечаканае рашэнне актыўна падтрымаць Якуба Сабескага больш дапамаглі, чым пашкодзілі Конці. Сведчанняў таго, што пад уплывам ліста нехта з прыхільнікаў французскага кандыдата змяніў сваю пазіцыю, няма. Аднак можна з высокай доляй верагоднасці сцвярджаць, што царскі ліст паслабіў пазіцыі менавіта Радзяёўскага і Сапегаў.

У сакавіку 1697 года Радзяёўскі запытаў Нікіціна пра планы Пятра што да выбараў і пацікавіўся, ці плануе цар выстаўляць свайго кандыдата. Сапегі, якія прапанавалі Маскве свае паслугі, даслалі цару кур'ера з запрашэннем наведаць Вільню падчас яго паездкі ў Рыгу ці сустрэцца на тэрыторыі Кароны з групай палякаў, каб абмеркаваць існую сітуацыю. Пётр праігнараваў як запыт Радзяёўскага, гэтак і прапановы Сапегаў. Нядзіва, што яны варожа адрэагавалі на царскае патрабаванне.[27]

Ацэньваючы расійскую палітыку ў перыяд безкаралеўя, неабходна памятаць, што аніводны сенатар ці галава выбарчай фракцыі, за выключэннем Сапегі, не намагаўся ўсталяваць кантакты з Масквой. Сустрэцца з Нікіціным не пажадалі прадстаўнікі аніводнага кандыдата. Расійскі амбасадар не ўдзельнічаў у сустрэчы, падчас якой дыпламаты Дрэздэна, Вены і Берліна пагадзіліся падтрымаць кандыдатуру саксонскага прынца Фрыдрыха Аўгуста. Такім чынам, агульнапрынятае меркаванне пра тое, што Пётр I перадвырашыў вынік выбараў 1687 году стаецца неабгрунтаваным.

Калі надыйшоў дзень выбараў (27 чэрвеня 1697), стала зразумела, што кандыдатура Конці не карыстаецца падтрымкі абсалютнай большасці выбарцаў. Яго супернік Фрыдрых Аўгуст здолеў перацягнуць на свой бок былых прыхільнікаў Якуба Сабескага. Нягледзячы на тое, што Конці не атрымаў большасць галасоў, яго групоўка абвесціла пра сваю перамогу. На наступны дзень з аналагічнай заявай выступіла партыя Фрыдрыха Аўгуста. Выбары 1697 году сталі найбольш працяглымі за ўсю гісторыю польска-літоўскай дзяржавы. Гэтым разам, як і ў 1576 і 1586 гадах, пераможцу мусіла вырашыць зброя. Прыхільнікі абодвух кандадатаў сабралі свае войскі і заклікалі саміх прэтэндэнтаў на карону як мага хутчэй прыехаць у Рэч Паспалітую, каб ачоліць іх. Абодва бакі шукалі падтрымкі ўнутры краіны і вызнання за мяжой.[28]

Фрыдрых Аўгуст прыбыў у Рэч Паспалітую на чале войска ў некалькі тысяч жаўнераў і ўвайшоў у Кракаў 31 ліпеня 1697 года. Да таго моманту яго прыхільнікі ўжо ўзялі пад свой кантроль кафедральны сабор у Вавэлскім замку, афіцыйным месцы каранавання манархаў Рэчы Паспалітай. 13 верасня Фрыдрых Аўгуст стаў каралём Аўгустам II.

[27] Спавешчанні Нікіціна, травень-чэрвень 1697 года, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 199-202,242, 260. Гл. таксама: ліст Вазніцына Галіцыну, 17 траўня 1688 года, ЦГАДА, фонд 79, № 235, ст. 61.

[28] "Dyaryusz prawdziwy bo bez imienia autora wszystkich rzeczy i dziejów, które w Polsce się działy od śmierci Jana III aż do obrania Augusta II," пад рэд. Leon Rogalski, у *Dzieje Jana III Sobieskiego* (Warsaw, 1847), ст. 402-499; таксама Kazimierz Piwarski, "Das Intrerregnum 1696-97 in Polen," ст. 9-44; W. D. Koroluk, *Polska i Rosja a wojna północna* (Warsaw, 1954), ст. 24-28.

Глава 8. Цар Пётр І і абранне Аўгуста ІІ

Прынц Конці дабраўся да берагоў Польшчы толькі 25 верасня, але Гданьск на той мамант ужо вызнаў каралём Аўгуста і адмовіўся дазволіць французам увайсці ў сваю гавань. Французская эскадра стала на якар ў Аліве, што каля Гданьску, і пачала чакаць падыходу сваіх асноўных войскаў. Калі падцягнуліся галоўныя сілы Конці, высветлілася, што іх занадта мала для вядзення сур'ёзнага вайсковага супрацьстаяння, і Конці вырашыў рэкрутаваць больш наёмнікаў. За гэты час Аўгуст здабыў новых хаўруснікаў у барацьбе за трон і падрыхтаваўся да вайсковага канфлікта з французам. 9 лістапада аб'яднаная саксонска-польскае войска, якое налічвала некалькі тысяч жаўнераў, разбіла невялікі атрад прыхільнікаў Конці каля Алівы і ўзяло шмат палонных. Француз збег на свой карабель і неўзабаве павярнуўся ў Францыю. Чальцы пра-французскай групоўкі стварылі канфедэрацыю і доўгі час вялі перамовы з Аўгустам, патрабуючы агульнай амністыі і захавання ўсіх пасадаў, якія яны займалі. Праз некалькі месяцаў Аўгуст прыняў усе ўмовы канфедэратаў і яго перамогу больш ніхто не аспрэчваў.[29]

Масква аказала Аўгусту дапамогу ў яго змаганні супраць Конці. Пётр забяспечыў каралю моцную дыпламатычную падтрымку пры шэрагу еўрапейскіх двароў і пагражаў апанентам новаабранага караля вайсковай інтэрвенцыяй у абарону інтарэсаў саксонскага прынца. Паводле загада цара, Нікіцін паведаміў Аўгусту, што яму на падтрымку гатовае выступіць войска на чале з баярынам Міхаілам Георгіевічам Рамаданоўскім.[30] 13 кастрычніка 1697 саксонскі дыпламат у Гаазе Крыстаф Дзітрых Бозэ атрымаў уведамленне ад Пятра, паводле якога войска Рамаданаўскага пераходзіла пад камандванне Аўгуста.[31]

Войска Рамаданаўскага, якая налічвала 2659 стральцоў і некалькі тысяч коннікаў, знаходзілася каля Смаленска. Маральны дух жаўнераў быў нізкім, а сам генерал не прагнуў ладзіць наступальную аперацыю.[32] Аднак і становішча яго суперніка вялікалітоўскага гетмана Казіміра Януша Сапегі было не лепшым. Ён сабраў мацнейшае і лепш падрыхтаванае войска, але літоўскія прыхільнікі Конці сутыкнуліся з сур'ёзнай унутранай апазыцыяй. Улада Сапегаў, якія кантралявалі войска і скарб Вялікага Княства і займалі ключавыя дзяржаўныя і судовыя пасады, ставалася фактычна неабмежаванай. Разам з

---

[29] Апошні і вельмі грунтоўны дослед перамогі Аўгуста над Конці: J. Wojtasik, "Walka Augusta II z obozem prymasowsko-kontystowskim w pierwszym roku panowania (1697-1698)," in *Przegląd Historyczny* 60 (1969): 24-42. Гл. таксама: "Diariusz negocjacji posłów od Rzeczypospolitej do króla Augusta," Бібліятэка-Музей імя Чартарыскіх (Biblioteka Muzeum im. Ks. Czartoryskich, Кракаў, далей біб. Чарт.), № 2518, ст. 219, і № 2265, нум. 8876; "Dyaryusz zjazdu łęczyckiego," біб. Чарт., № 192, ст. 41-52; "Dyaryusz Jana Stanisława Jabłonowskiego," у *Kronika Rodzinna* (1888-1889), ст. 490-92, 523; Kazimierz Jarochowski, Dzieje panowania Augusta II od śmierci Jana III do chwili wstąpienia Karola XII na ziemie Polskie (Poznań, 1856), ст. 119-61.

[30] Ліст Пятра дацкаму каралю Хрысціяну, 26 ліпеня 1697 года, у Письма и бумаги, том І, ст. 183-84; Ліст Пятра гарадской радзе Гданьска, 13 верасня 1697 года, у Письма и бумаги, том 1, ст. 191-93; Спавешчанне Нікіціна, кастрычнік 1697 года, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 341-44. Напачатку свайго каралявання Аўгуст чакаў нападу казацкіх загонаў Палага, які падтрымліваў блізкія стасункі з Сапегамі. Гл. ліст Нікіціна царам, 29 жніўня 1697 года, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай, 1697 год, № 6, ст. 212.

[31] J. Staszewski, "Rokowanie Krzysztofa D. Bose z wielkim poselstwem jesienią 1697 r.," у *Zeszyty Naukowe Uniwersytetu im. Mikołaja Kopernika* 24, Historia III (Toruń, 1967): 80-92. Гл. таксама М.М. Богословский, Пётр І. Материалы для библиографии, том 2 (Ленинград, 1941), ст. 166-69, 186-89, 214-22.

[32] Н. Устрялов, История царствования Петра Великого, том 3 (Санкт-Петербург, 1858), ст. 153-65.

прадстаўнікамі яшчэ дзьвюх магнацкіх радоў Агінскіх і Радзівілаў, пазбаўленых свайго былога ўплыву, яны былі вымушаныя супрацьстаяць павятовай шляхце.[33]

Ворагі Сапегаў пачалі рыхтавацца да ўзброенага супрацьстаяння яшчэ да выбараў караля.[34] Іх “рэспубліканская” праграма, якая заклікала да “ураўнення” шляхецкіх правоў і мела не мэце пакласці канец засіллю магнатаў, знайшла падтрымку не толькі сярод вялікалітоўскай шляхты, але і ў парламенце.[35] З улікам таго, што Сапегі не збіраліся аддаваць уладу без барацьбы, супрацьстаянне магло прывесці да грамадзянскай вайны. Выбары яшчэ больш абвастрылі сітуацыю. “Рэспубліканская партыя” не толькі падтрымала Аўгуста, але і перакрыла войску Януша Сапегі шлях да Гданьска, дзе высадзіўся Конці. Адначасова з гэтым рэспубліканцы рыхтавалі падмацаванне - у паветах польны гетман Багуслаў Слушка, з дазволу мясцовых радаў, фармаваў атрады ўзброенай шляхты пад выглядам набора ў рэгулярнае войска.[36]

Як толькі Аўгуст прыняў кантроль над войскам Рамаданоўскага, Багуслаў Слушка папрасіў новага манарха задзейнічаць яго. Кароль атрымаў просьбу палявога гетмана да вырашальнай бітвы з Конці і таму пагадзіўся на яе. Каралеўская канцэлярыя даслала гетману Слушку царскі загад і ліст ад караля, у якім Аўгуст загадваў Рамаданоўскаму павесці сваё войска ў Вялікае Княства, дзе яно пярэйдзе ў распараджэнне каралеўскіх упаўнаважаных: брэсцкага скарбніка Людвіка Пацея і палкоўнікаў Марціна Валовіча, мсціслаўскага харунжага, ды Сцяпана Галінскага, мсціслаўскага скарбніка.[37]

Царскі ліст і загад прывёз у Смаленск троцкі суддзя і актыўны чалец анты-сапегаўскай групоўкі Януш Станіслаў Бокі. Яго дыпламатычная місія мела на мэце забяспечыць неадкладную расійскую інтэрвенцыю і афіцыйна паведаміць Пятру пра абранне Аўгуста II.

У Смаленску каралеўскі дасланнік атрымаў дазвол мясцовага ваяводы Пятра Самойлавіча Салтыкова выправіцца ў Вялікія Лукі, дзе месцілася штаб-кватэра войска Рамаданоўскага. У Вялікіх Луках ён звярнуўся да расійскага генерала з просьбай неадкладна рушыць у Вялікае Княства. 18 снежня Бокі выехаў у Маскву.[38]

Рамаданоўскі пачаў без затрымак выконваць загад Пятра. 24 снежня 1697 года ён вырушыў са сваім войскам да Дзвіны і адтуль скіраваў 10 эскадронаў кавалерыі пад камандаваннем вялікалітоўскага

---

[33] Kazimierz Piwarski, "Opozycja litewska pod koniec XVII w.," in *Pamiętniki z V Zjazdu Historyków Polskich w Warszawie 1930*, том 1 (Lviv, 1931), ст. 259-77; J. Narbutt, *Dzieje wewnętrzne narodu litewskiego od czasów panowania Jana Sobieskiego i Augusta* 11 (Vilnius, 1843), ст. 105-113.
[34] Piwarski, "Opozycja litewska," ст. 259-77.
[35] “Approbatio coæquationis jurium W. X Litew. z Koroną Polską" (законы, ухваленыя парламентам у 1697 годзе), у Volumina Legum. *Prawa, konstytucje y przywileie Królestwa Polskiego, Wielkiego Księstwa Litewskiego y wszystkich prowincji należących,* пад рэд. Józafat Ohryzko, том 6 (Petersburg, 1860), ст. 12; M. Handelsman, "Zamach stanu Augusta II," у яго працы *Studia historyczne* (Warsaw, 1911), ст. 220-28.
[36] Jabłonowski, "Dyaryusz," ст. 492; M. Komaszewski, *Księcia Contiego niefortunna wyprawa po koronę Sobieskiego* (Warsaw, 1971), ст. 122-27.
[37] Рэестр дзейнасці Бокія, ЦГАДА, фонд 79, № 253, ст. 6; Спавешчанне Нікіціна цару, кастрычнік 1697 года, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1697 годзе, № 6, ст. 208.
[38] Рэестр дзейнасці Бокія, ЦГАДА, фонд 79, № 253, ст. 2-24.

эмісара Людвіка Пацея ў Літву.[39] З падыходам расійскага войска, вялікалітоўскія “рэспубліканцы” пачалі спадзявацца на поўную перамогу над ненавіснымі ім Сапегамі. Аднак у хуткім часе іх чакала расчараванне – даведаўшыся пра замірэнне паміж Сапегам і Аўгустам, Рамаданоўскі спыніў сваё войска. Кароль Рэчы Паспалітай сцісла паведаміў расійскаму генералу, што больш не мае патрэбы ў яго паслугах.[40]

Нават пасля гэтых падзеяў Бокі, рэзідэнт Рэчы Паспалітай у Маскве, спрабаваў пераканаць расійцаў напасці на Сапегаў праз тое, што яны ставаліся таемнымі хаўруснікамі Конці. Аднак цар праігнараваў просьбы Бокія, і той вымушаны быў павярнуцца ў Вялікае Княства.[41] Пётр не жадаў займацца тым, што з задавальненнем зрабіў бы яго бацька Аляксей Міхайлавіч, а менавіта ўмешвацца ва ўнутраную барацьбу ў Рэчы Паспалітай на баку вялікалітоўскай шляхты. Замест гэтага Пётр разлічваў усталяваць з Аўгустам добрыя стасункі, каб не даць магчымасць французскаму кандыдату заняць трон Рэчы Паспалітай.

Пасля сустрэчы з Аўгустам у Раве-Рускай у жніўні 1689 года Аўгуст стаў асабістым сябрам Пятра. Яшчэ не ўсе ў Кароне вызналі ўладу саксонскага прэтэндэнта на трон, а расійскі цар незадоўга перад гэтым ледзве прыдушыў паўстанне стральцоў, якія ўжо стаялі каля маскоўскай брамы. Абодва маладыя энэргічныя манархі ведалі нетрываласць свайго становішча ўнутры краінаў і таму змагаліся з унутранымі ворагамі нагэтулькі ж палымяна, як і са знешнімі. Нягледзячы на свае складаныя становішчы, абодва манархі глядзелі ў будучыню з аптымізмам і марылі змяніць мапу Еўропы. Аўгуст прайшоў доўгі шлях ад шараговага нямецкага князя да караля Рэчы Паспалітай і меў багаты досвед змагання з туркамі. Пётр, пасля здабыцця ўлады, здзейсніў пераможную азоўскую кампанію. Малады цар жадаў уцелясніць мару Івана Жахлівага і свайго бацькі Аляксея Міхайлавіча – здабыць для Расіі выхад да Балтыйскага мора праз эстонскую Усць-Нарву. Аўгуст, у сваю чаргу, спадзяваўся адваяваць Лівонію разам з Рыгай, што дазволіла б яму кантраляваць увесь падняпроўскі гандаль. Фармальна ён рабіў гэта ў інтарэсах Рэчы Паспалітай, але яго сапраўдным намерам было перадаць гэтыя тэрыторыі Вецінскаму дому, да якога належаў Аўгуст. Разумеючы эканамічны патэнцыял звязання Балтыйскага і Чорнага мораў, новы кароль планаваў стварыць кантраляваную ім кампанію, якая б дазволіла Рэчы Паспалітай пазбавіць міжземнаморскія краіны эксклюзіўнага права весці шаўковы гандаль з Турцыяй і Персіяй.

На вялікі жаль абодвух манархаў, вайна з Турцыяй блізілася да канца. Пётр спадзяваўся здабыць Крым, а Аўгуст меў апошні шанец далучыць да Кароны Малдавію. За год да сустрэчы ў Раве расійскі цар наведаў Вену, каб прасіць імператара працягваць вайну, але Аўстрыі быў патрэбны мір з Турцыяй, каб засярэдзіцца на вайне з Францыяй. Акрамя таго, замірыцца з туркамі планавалі і венецыянскія дыпламаты.

[39] Ліст Пацея Рамаданоўскаму, 24 снежня 1697 года; ліст Рамаданоўскага Пацею, (не датаваны), і ліст Рамаданоўскага ў Пасольскі прыказ, 23 студзеня 1697 года, ЦГАДА, фонд 79, № 253, ст. 53-54. 56-58, 59-60.
[40] Спавешчанні Нікіціна, травень-чэрвень 1698 года, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 398-99, 402-403.
[41] Рэестр дзейнсці Бокія, ЦГАДА, фонд 79, № 253, ст. 31-60. Пётр не любіў Бокія і некалькі разоў прылюдна выказаў сваё незадаволенне дыпламатам. Ioahan G. Korb, *Diarium itineris in Moscoviam* (Vienna, 1701), ст. 83-91, 99, 101.

## Глава 8. Цар Пётр I і абранне Аўгуста II

Не маючы магчымасці вынесці значную карысць з вайны, якая мусіла скончыцца ў наступным годзе, манархі Рэчы Паспалітай і Расіі падчас сустрэчы ў Раве запланавалі сумесную кампанію супраць Швецыі. Яны былі ўпэўненыя, што да іх далучыцца Данія, гістарычны вораг шведскага караля.[42]

Сустрэча Аўгуста і Пятра стала першай сустрэчай кіраўнікоў Расіі і Рэчы Паспалітай за ўсю гісторыю стасункаў дзьвюх краін. Акрамя таго, упершыню манархі заключылі таемныя дамоўленасці, не толькі скіраваныя супраць трэціх краінаў, але й супраць сваіх падданых. У выніку, Пётр ігнараваў просьбы рэспубліканцаў дапамагчы ім у барацьбе супраць Сапегаў, што ставалася выдатным шанцам умяшацца ва ўнутраныя справы Кароны. Акрамя таго, пазней цар адмовіўся падтрымаць паўстанне казацкага лідара Сямёна Палага, які ў 1699 годзе прапанаваў яму далучыць да Расіі значную частку правабярэжнай Украіны. Пётр не перашкаджаў вайсковым аперацыям Палага, але катэгарычна адмовіўся пасягаць на тэрытарыяльнае адзінства Рэчы Паспалітай. Аўгуст, са свайго боку, адмовіўся ад спробаў наладзіць усходнеўкраінскіх казакоў супраць Расіі.

Пасля Равы расійская рыторыка што да Рэчы Паспалітай сталася надзіва супярэчлівай. Роль рэзідэнта Нікіціна зводзілася да падтрымання афіцыйных кантактаў з каралём і сенатарамі і збора скаргаў ад праваслаўнага насельніцтва. У абыход Пасольскага прыказа, найзначнейшыя пытанні абмяркоўвалі непасрэдна манархі пры пасярэдніцтве саксонскіх дыпламатаў і асабістых сяброў цара. Пасля павяртання ў Варшаву Доўманта і кароткага рэзідэнцтва Бокага Рэч Паспалітая адмовілася ад амбасады ў Маскве, што адкрыла шлях для дзейнасці недасведчаных ў расійскіх справах саксонскіх дыпламатаў Аўгуста II.

Падчас выбараў караля Пётр паводзіў сябе, нібыта справы Рэчы Паспалітай яго не цікавілі. Пасля ўсталявання асабістых кантактаў з Аўгустам ён ставіўся да Кароны як да непатрэбнага баласта свайго перспектыўнага саксонскага сябра. Лаючыся на сваіх баяраў, Пётр казаў, што яны ўсе разам не годныя яго любві да караля. Тым не менш, цар зрабіў Бокага ахвярным казлом для ўсіх маскоўцаў, наладжаных супраць Рэчы Паспалітай.[43] Можна прыпусціць, што, праз сваю падтрымку караля, які абяцаў дапамагчы Пятру ў барацьбе супраць яго ж падданых і планаваў замяніць польска-літоўскую “анархію” на цэнтралізаванае кіраванне, Пётр суцішваў свой страх перад парламентарызмам і вольным грамадствам. Адкінуўшы традыцыйныя каналы ўплыву на ўнутраныя справы Кароны, расійскі цар выбраў стратэгію, якая, у выпадку поспеху, прыводзіла да рэфармавання палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай. Да падзелаў Рэчы Паспалітай заставалася яшчэ шмат дзесяцігоддзяў. Яны адбудуцца толькі калі расійскія палітыкі ўсвядомяць неабходнасць выкарыстання палітычных інстытутаў Кароны, каб не дапусціць яе ўзмацнення. Напачатку свайго царавання Пётр яшчэ не ўсведамляў дзейснасць гэткай палітыкі.

Нежаданне цара разумець палітычную значнасць Кароны абярнуліся для яго катастрофай падчас Паўночнай вайны 1700-1721 гадоў. Насуперак чаканням маладых манархаў, шведскае войска не толькі нанесла паразу расійскім і саксонскім войскам, але й пранікла далёка ўглыб Саксоніі. У 1706

---

[42] L. R. Lewitter, "Russia, Poland and the Baltic, 1697-1721," у *The Historical Journal* 11 (1968): 3-13; Jacek Staszewski, O miejsce w Europie. Stosunki Polski i Saksonii z Francją na przełomie XVII i XVIII wieku (Warsaw, 1973), ст. 167-71. Аўгуст падртымліваў кантакты з царом праз саксонскага генерала Карлавіца, ЦГАДА, фонд 79, Стасункі з Польшчай у 1698 годзе, № 8, ст. 1-10.

[43] Спавешчанні Нікіціна, лістапад 1697 года, чэрвень 1698 года, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 358, 408-409, 476-81.

годзе Аўгуст быў вымушаны адрачыся ад трону Рэчы Паспалітай. Адзіным хаўруснікам, да якога ў той час мог звярнуцца Пётр I, былі жыхары Кароны, што змагаліся супраць шведскай навалы. Не здольны навязаць Кароне марыянеткавага караля, расійскі цар прыкладаў усе намаганні, каб уцягнуць яе ў вайну супраць Швецыі. Такім чынам, Пётр I быў вымушаны ладзіць з рэспублікай. Пасля Палтаўскай бітвы 1709 года і паспяховага пасярэдніцтва паміж Аўгустам і паўстанцамі (Тарнабржэгскай канфедэрацыяй; 1714-1717 гады), у Пятра паменела страха перад Рэччу Паспалітай, аднак цар гэтак ніколі й не здолеў цалкам пазбыцца сваёй варожасці да заходняга суседа.[44] Нават пазней Карона і яе дэмакратычны дзяржаўны лад будуць спараджаць у Крамлі той самы страх, які мучыў Пятра. Але ўрэшце рэшт, расійскія палітыкі зменяць свой падыход і пачнуць ставіцца да караля як толькі аднаго з чыннікаў каронная палітыцы.

Падобна да таго, як пятроў недавер да ўсяго польскага не дазволіў яму скарыстацца відавочнымі палітычнымі перавагамі, яго вера ў асабістае сяброўства з Аўгустам ледзь не скончылася для Расіі катастрофай напрыканцы дзевяностых гадоў. Нягледзячы на тое, што кароль актыўна падтрымліваў кантакты з маладым царом, ён не ўзгаджаў з ім свае палітычныя планы. Аўгуст шукаў падтрымкі Расіі ў 1698 годзе, падчас вайны з Турцыяй, але адначасова вёў перамовы што да заключэння хаўруса з Францыяй.[45] Калі б намеры караля ўцелясніліся, Пётр пашкадаваў бы пра сваю заўзятую падтрымку кандыдатуры тагачаснага саксонскага прынца. Планы Аўгуста датычна хаўруса з Францыяй ставаліся яшчэ больш небяспечнымі для Масквы з улікам таго, што галоўныя прыхільнікі караля ў Рэчы Паспалітай – Ян Ежы Пржэбендоўскі, Галецкі, Ябланоўскі і Шчука – прагнулі павярнуць Украіну. Пржэбендоўскі, найбліжэйшы дарадца караля, не хаваў свайго расчаравання наладжваннем стасункаў з Расіяй.[46] У святле няўдалай малдаўскай кампаніі 1698 года, напада Прусіі на польскі горад Эльбінг у тым жа годзе і крывапралітнай грамадзянскай вайны ў Вялікім Княстве паміж Сапегамі і іх ворагамі, якая працягвалася ад 1698 да 1700 года і паралізавала Княства, кароль проста не мог дазволіць сабе заняць анты-расійскую пазіцыю. Нягледзячы на нягоды Рэчы Паспалітай і зрастанне расійскай магутнасці падчас Паўночнай вайны, ані Пётр, ані яго наступцы не здолелі атрымаць поўны кантроль над унутранай палітыкай Кароны да таго часу, пакуль яе звязвала дынастычная Унія з Саксоніяй (1697-1706 і 1710-1763 гады)

Нягледзячы на тое, што палітыка Пятра ў дачыненні да Рэчы Паспалітай ад 1697 да 1700 года падаецца хаатычнай і беспаспяховай, малады цар ўсё ж надаў расійскай знешняй палітыцы актыўны і нават агрэсіўны характар, чаго ёй бракавала з часоў Івана Жахлівага, і радыкальна рэфармаваў сутнасць і форму расійскай дыпламатычнай службы. У Рэчы Паспалітай хутка зразумелі амбітнасць, настойлівасць і рашучасць маладога расійскага цара. Яго азоўская кампанія прымусіла іх хвалявацца і дала дадатковыя падставы задумацца над будучыняй Кароны без Смаленска і Кіева. Нягледзячы

[44] J. Perdenia, *Stanowisko Rzeczypospolitej szlacheckiej wobec sprawy Ukrainy na przełomie XVII-XVIII wieku*, (Cracow, 1963) ст. 248, 252-54; A. Kamiński, *Konfederacja sandomierska wobec Rosji w okresie poaltransztadskim, 1706-1709* (Wrocław, 1969), ст. 40, 106-109, 120, 128-30, 134-35, 144; L. R. Lewitter, "Poland, Russia and the Treaty of Vienna of 5 January, 1719," у *The Historical Journal* 13 (1970): 3-30; J. Gierowski, *W cieniu Ligi północnej* (Cracow, 1978), ст. 26-34, 50-93, 137. Займальны аналіз мараў Пятра I гл. у: J. Cracraft, "Some Dreams of Peter the Great, A Biographical Note," у *Canadian-American Slavic Studies* 8, нум. 2 (1974): 187.

[45] Staszewski, *O miejsce w Europie*, ст. 118-80.

[46] Спавешчанні Нікіціна, лістапад 1697 года, ЦГАДА, фонд 79, № 252, ст. 358-60.

на неспакой што да актыўнасці ўсходняга суседа, шляхта не мела намераў адмовіцца ад ідэала “блаславёнага” міра нават у адказ на зрастанне пагрозы з боку пятроўскай Расіі.

## Заключэнне

У сямнаццатым стагоддзі як Расія, гэтак і Рэч Паспалітая ставаліся аграрнымі краінамі, якія імпартавалі прамысловыя тавары і экспартавалі сельскагаспадарчую прадукцыю. Большасць насельніцтва ў абедзьвюх дзяржавах складалі сяляне, што працавалі на магнатаў ці дзяржаву ў атмасферы трывалага ўзмацнення прыгону. Працэс урбанізацыі йшоў вельмі павольна, прычым значная частка гарадоў знаходзілася пад кантролям шляхты і Кароны (у Рэчы Паспалітай) ці дзяржавы (у Расіі).

Абедзьве краіны межавалі з чарнаморскімі стэпамі, найбольш пладароднымі еўрапейскімі землямі, якія на той час займалі качавымя народы – татары, нагайцы і калмыкі. Абедзьве прыкладалі значныя намаганні, каб падпарадкаваць сабе гэтую тэрыторыю, і выкарыстоўвалі паслугі новапаўсталых, моцных і незалежных вайсковых аб’яднанняў казакоў. Незаменныя як для Расіі, гэтак і для Рэчы Паспалітай падчас войнаў з Турцыяй, гаспадарыняй стэпаў і ворагам усіх сваіх суседзяў, казакі выявіліся небяспечнай крыніцай сацыяльных хваляванняў у мірны час. У Рэчы Паспалітай моц падняпроўскага казацтва зразумелі пасля паўстання Хмяльніцкага, якое пахіснула самы падмурак дзяржавы і прывяло да страты ёй украінскіх тэрыторыяў. Ад моманту свайго заснавання ў 1648 годзе казацкая Украіна стала цэнтрам усходнееўрапейскай палітыцы і заставалася аб’ектам змагання яе суседзяў да канца васямнаццатага стагоддзя. Для Расіі небяспека сыходзіла ад данскіх казакоў падчас Смуты і паўстанняў Разіна і Пугачова.

Расія, падобна да Рэчы Паспалітай, не мела флота і бесперашкоднага доступа да мора. Гданьск, галоўны порт Кароны, дамогся значнай аўтаноміі, у той час як расійскі порт Архангельск можна было ўжываць толькі ўлетку. Больш за тое, абедзьве дзяржавы адчувалі пагрозу з боку Швецыі і, у прыватнасці, яе намаганняў узяць пад свой кантроль балтыйскія гандлёвыя шляхі.

Цягам сямнаццатага стагоддзя яны перажылі вялікія крызісы: Расія – Час Смуты (1604-1613 гады), Рэч Паспалітая – Патоп (1654-1660 гады). Іх выжыванне ў значнай ступені залежала ад здольнасці розных слаёў насельніцтва аб’яднацца, каб супрацьстаяць знешняй пагрозе і абараніць сваю дзяржаву ад знішчэння.

У сямнаццатым стагоддзі ў абедзьвюх дзяржавах востра стаялі праблемы мадэрнізацыі войска, рэформы падатковай сістэмы, падвышэння прадукцыйнасці працы для адраджэння эканомікі ды прафесіяналізацыі бюракратычнага апарата. Каб дасягнуць пастаўленых мэтаў Рэчы Паспалітай і Расіі патрабаваліся тысячы спецыялістаў. На гэтым, аднак, падабенства Расіі і Рэчы Паспалітай сканчаецца.

Адрозненні паміж імі, асабліва ў сферах дзяржаўнага кіравання, наяўнасці і функцыянавання грамадскіх інстытутаў і палітычнай культуры, стаюцца awgрамаднымі. У Расіі аўтакратычны цар сімвалізаваў парадак, справядлівасць, выратаванне душаў сваіх падданых і атаясамляўся з дзяржавай як такой. Падмуркам грамадска-палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай былі шляхецкія

вольнасці ў спалучэнні з вяршынствам закона. Калі ў Расіі за кошт паўнамоцтваў Земскага Сабора і ўплыву праваслаўнай царквы, падвышалася ўлада абсалютнага манарха, у Кароне парламент і мясцовыя сеймікі мелі значныя заканадаўчыя паўнамоцтвы і паспяхова супрацьстаялі спробам узмацніць уладу караля. У адрозненне ад буйных расійскіх землеўладальнікаў і дзяржаўных чыноўнікаў, якія ўсе ставаліся царскімі слугамі, каронная шляхта і палітыкі адчуваліся сябе свабоднымі грамадзянамі, спадкаемцамі рэспубліканскага наследдзя Рыма.

Такім чынам, напрыканцы сямнаццатага стагоддзя ў абедзьвюх краінах назіраецца поўная адсутнасць паразумення паміж палітычным кіраўніцтвам і грамадствам, неабходная для належнага функцыянавання дзяржавы. У Расіі палітычнаму кіраўніцтву бракавала грамадскіх інстытутаў, якія б дапамагалі яму ўцелясняць неабходныя рэформы. У Рэчы Паспалітай сацыяльныя інстытуты былі нагэтулькі моцнымі, што ўрад проста не ставала паўнамоцтваў, каб прасоўваць свае палітычныя ініцыятывы.

Аб’ектам даследу дадзенай кнігі стаецца вымушанае супрацоўніцтва паміж расійскай аўтакратыяй і польска-літоўскай шляхецкай рэспублікай у перыяд, калі ўплыў першай ва Усходняй Еўропе пачаў стала зрастаць. Далучэнне да маскоўскай дзяржавы Украіны выявілася першым крокам на шляху да адбудавання Расійскай імперыі. Расклад сілаў паміж Варшавай і Масквой пачаў змяняцца, калі эканамічны і чалавечы патэнцыял Рэчы Паспалітай яшчэ пераўзыходзіў расійскі. Масква, аднак скарысталася сваёй выключнай здольнасцю мабілізаваць людскія рэсурсы. Галовы Рэчы Паспалітай выявіліся няздольнымі эфектыўна выкарыстаць чалавечы патэнцыял сваёй дзяржавы. У адрозненне ад іх, цару трэба было толькі выдаць загад – і, нягледзячы не адсутнасць імпэту ў выканаўцаў ды неахайнае ўрадаванне, у Расіі фармаваліся войскі, ствараліся мануфактуры ды закладаліся гарады.

У той час, калі Крэмль стала замацоўваў сваё лідарства ў рэгіёне, павятовыя каронныя палітыкі прыкладалі ўсе высілкі, каб абмежаваць дзейнасць караля. Дзеля захавання “блаславёнага міра” яны адкідалі актыўныя замежнапалітычныя захады Сабескага і дбалі толькі пра свае асабістыя інтарэсы ва Украіне. Несумяшчальнасць агрэсіўнай палітыцы караля і паціфізма мясцовай шляхты ставалася неспасцігальнай для тагачасанага кіраўніцтва расійскай дзяржавы.

Гісторыкі, якія даследуюць гэты перыяд гісторыі Рэчы Паспалітай, звычайна адзначаюць прорву паміж усведамленнем палітычных прыярытэтаў дзяржавы і дзеяннямі тагачаснымі палітыкаў. Нягледзячы на тое, што ў Кароне выдатна разумелі значнасць украінскіх зямель, дзяржаўная палітыка што да Украіны характарызавался авантурызмам караля і ўпартай пасіўнасцю шляхты. Адным словам, утапічнае стаўленне да палітычных праблемаў не дазволіла грамадзянам Рэчы Пасплітай учасна пабачыць замежную пагрозу і сказіла іх уяўленне пра намеры суседзяў. Ну а гэта, у сваю чаргу, спрычынілася да супраціву падвышэнню падаткаў, павелічэнню памера войска і большай цэнтралізацыі ўлады.

Пры аналізе прычынаў знешнепалічных няўдачаў Кароны неабходна браць пад увагу выключную палітычную недабачлівасць і самападман яе вольнага насельніцтва. Безумоўна, памылковыя рашэнні прымаліся і ў Расіі. Маскоўскія дыпламаты бачылі ворагаў ва ўсіх сваіх суседзях і

падазрона ставіліся да любых сяброўскіх прапановаў. У той час, як грамадзяне Рэчы Паспалітай хаваліся ад рэчаіснасці за беспадстаўным аптымізмам, маскоўская палітыка грунтавалася на песімістычным бачанні стасункаў паміж дзяржавамі. Крамлёўскім дэвізам магло стаць *status statui lupus est*. Нядзіва, што расійскае кіраўніцтва выяўлялася здольным патрабаваць ад краіны сталага напружання вайсковых і фінансавых рэсурсаў для барацьбы з сапраўднымі і прымроенымі ворагамі. А вось каронныя палітыкі, якія ганарыліся сваімі правамі і свабодамі, не былі гатовыя да гэткіх ахвяраў – прынамсі, пакуль яны не бачылі, як вораг перасякае межы іх дзяржавы.

Найлепшым пацверджаннем таго, што расійцы ставаліся здольнымі на кампрамісы і абачлівае абыходжанне са зваяванымі народамі, стаецца іх украінская палітыка. У той самы час грамадзяне Рэчы Паспалітай забыліся, што прываба іх дзяржавы для замежных элітаў заключаная менавіта ў гарантаванні прывілегіяваным слаям роўных правоў і прывілегіяў. Менавіта праз гэта яны згубілі апошні шанец умацаваць свае стасункі з казакамі. Пасля змены баланса сілаў у рэгіёне, аднавіць статус кво выявілася ўжо немагчымым. Цень Расіі насоўвалася над Усходняй Еўропай.